Г. Ф. ЮРЧАНКА

# СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА
## З ГАВОРКІ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

## Н — П

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1996

ББК 81.2 Беи-4
Ю83
УДК 801.3-826

Рэдактар
канд. філал. навук А. А. Крывіцкі

Рэцэнзенты:
акадэмік АН РБ А. І. Падлужны,
канд. філал. навук І. Я. Яшкін

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю 83 Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўн. Н — П.— Мн.: Беларуская навука, 1996.— 304 с.

ISBN 985-08-0001-1.

Гэтая кніга — другая частка збору дыялектнай лексікі з усходу Беларусі. Першая частка (А — Н) выйшла ў 1993 г. пад гэтай жа назвай. У кожным слоўнікавым артыкуле падаюцца тлумачэнні, неабходныя граматычныя і стылістычныя паметы. Шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма гаворкі, яе эмацыянальна-вобразная афарбоўка. Кожнае слова забяспечана ілюстрацыйным матэрыялам, які адлюстроўвае асаблівасці мовы рэгіёна.

У слоўніку знойдуць карысны для сябе матэрыял мовазнаўцы, выкладчыкі і студэнты філалагічных факультэтаў ВНУ. Прыдасца матэрыял слоўніка пісьменнікам, журналістам, работнікам друку і ўсім, не абыякавым да жыцця роднага беларускага слова.

**Ю $\frac{8010300000—004}{M316(03)—96}$ Дадат.— 96**

**ББК 81.2 Беи-4**

ISBN 985-08-0001-1

© Г. Ф. Юрчанка, 1996

# Н

НЯСКЛЁПІСТАСЦЬ *ж.* Няўменне, няскладнасць. *Я сам віджу ету нясклёпістысьць, дык чылавека ж ні пірядзелыіш.*

НЯСКЛЁПКА *звыч. ж.* Няўмелая, няўдалая асоба. *Зразу відна, што нясклёпка зы работу ўзіла́ся.*

НЯСКОБЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1 *перан.* Неакораны. *Няскобліныя бярьвеньня скора порціцца, яго пыт карою доўга дзіржаць нілізя.* 2 *метаф.* Нябрыты. *Зарос няскобліный, бырыда сівымі пятнымі блішчыць.*

НЯСПОРНЫЙ *прым.* Такі, які пракладае вузкую баразну (пра плуг). *Няспорный плужок, ім бульбу ня стоіць сеіць, быразёнкі будуць вузінькія.*

НЯСПРАЎКА *ж.* Няспраўнасць. *У іх у рабоці доўга была ніспра́ўка, пакуля брігадзіра пымінялі.*

НЯСТРАМНІК *м.* Бессаромнік. *Так толька ністра́мнікі дзелыюць, ныт табою усе будуць сьміяцца.* НЯСТРАМНІЦА *ж.* *Воч чаго ты еткыя ністра́мніца зыдылася, як табе другіх ня стыдна.*

НЯСЦЕРП *м.* Нецярпенне. *У твае косьці пряма якей-то нясьцерп уеўся, мінутычкі ні пысядзіш, як другея.*

НЯЎДАЧА *м.* і *ж. перан.* Няўдалая асоба. *Мужык у яе ніўда́ча. Во йдзець мыя ніўда́ча, ногі нешта ў яе ня слухыюцца.*

НЯЎДАШНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Няўдалы. *Ніўда́шнінькій хлеб, цеста разьбіла, дык яго чуць ну лупату уськінула.*

НЯЎДОБІЕ *н.* 1. Няўдобіца. *Ішлі мы па Віцібшчыні, зімля плыхая, балоты, няўдобія.* 2 *перан.* Непрыгоднасць. *Яблыкі няўдобія, усё дно як дзічкі, у рот нільзя ўзяць.*

НЯЎЖЛІ *часц.* Хіба. *Я стаю і гляджу: няўжлі́ ён ні замеціць нас кылы калёс.*

НЯЎКЛЕПІСТА *прысл.* Няўклюдна. *Галя дайжа ідзець няўклёпіста, што Шурік найшоў у ёй харошыга.*

НЯЎКЛЕПІСТЫЙ *прым.* Няўклюдны. *Ён як шымачок і йна няўклёпістыя, якея тама сваты, зь імі пы-чылавечыску ні пыгаворіш.*

НЯЎКЛЮДДЗЕ 1 *н.* Нязграбнасць. *У іх ува ўсіх такоя няўклю́дзьдзя, адзь дзядоў-пра́дзідыў етык цягніцца.* 2 *м.* і *ж.* Нязграба. *Другей раз вылакецца няўклю́дзьдзя Сьціпанёнкыва у Мышкіна.*

НЯЎМЕКАЎ, НЯЎМЕЦКІЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да няўмекі. *Няўмекыву работу зразу пызнаіш, і пріглідацца ні нада. Няўмецкыя кладжэньня, паетыму і снапы выіжджаюць с капёшкі.*

НЯЎПРОСЛІВЫЙ *прым.* Згаворлівы. *Не, ня буду гыварідь, яе зяць няўпросьлівый, зразу паслухыў паможч Кірею.*

НЯЎПРОЦЯ *прысл.* Не супроць. *Мы тожа былі няўпроця, хочыш брацъ Тымаркіну дачку — бярі.*

НЯЎРОДЗІЦА *ж.* Неўраджай. *Лета тэй год було халодныя, мокрыя, няўродзіца і ны зярно, і на бульбу, усяго було нідыхва́т.*

НЯЎРОМІСТА, НЯЎРОМНА *прысл.* Неакуратна, неахайна. *Ай, ні гываріця вы, іна ўсігда няўрёміста дзелыла. Луччы ты пылажы і ня трогый нічога, я дужа ні люблю, калі няўрёмна мыць.*

НЯЎРОМІСТАСЦЬ, НЯЎРОМНАСЦЬ *ж.* Неакуратнасць, неахайнасць. *Твыя няўрёмістысьць усім ізьвесна, нічога ў цябе пы-чылавечыску ні пулучаіцца. А каму б няўрёмнысьць пыныравілыся.*

НЯЎРОМНІК *м.* Неахайнік. *Куды ты няўрёмніка пускаіш г гыршкам, пырызмалоціць усё. Памянш.* НЯЎРОМНІЧАК. *Няўрёмнічык ты, куды табе пасуду мыць.* НЯЎРОМНІЦА, НЯЎРОМІНКА *ж. Хочыця вы, каб няўрёмніца зьдзелыла што-небудзь акуратна. Што ж ты скажыш, калі іна тыкая няўрёмінка урадзілыся.*

НЯЎСТОЙЧЫВАТА *прысл.* Няўстойліва. *Няўстойчывыта лесьвіца стаіць, глядзі, можыць хітнуцца ўбок і піленьнік пыляціць як мячык.*

НЯЎСТОЙЧЫВАТАСЦЬ *ж.* Няўстойлівасць. *Пра нейкыю няўстойчывытысьць вёрз, я ні пыняў, што йта к чаму.*

НЯЎСТОЙЧЫВАТЫЙ *прым.* Няўстойлівы. *Увесь месіц етый няўстойчывытый, адзін дзень сонца пасьвеціць, а тады дождж і дождж.*

НЯХАЕННЕ *н.* Ганьбенне. *Ат іх і ніха́іньня уволю наслухыісься і ўсяго ўсякыга.*

НЯХАІЦЬ *незак.* Ганьбіць. *Усюдых ніха́іць Губарёнка, ну калі ён дренный, чаго ты зы яго ішла, ты знала, якей ён.*

НЯХОДЖАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Недагледжаны. *Зы аборкымі лён няходжыный, яго абізацільна палоць нада, трыва зысіда́іць усьцяж.*

НЯХРЫШЧАНЫЙ *дзеепрым.* Такі, над якім не праведзены абрад хрышчэння. *Прі немцых пусьцілі чутку, што няхрі́шчыных дзяцей пыстріляюць, дык усе пывязьлі у цэрькву ужо бальшых.*

НЯЦЬ *зак.* 1. Выканаць. *Ня́лі работы тама — трі часы пыпаролісяя зь вілкымі.* 2. Суняць. *Я ўмею такіх ба́лыўнікыў няць — рімушок атпіряжу. Пуга ні ніла́, дык палкыю атвазі́ў.* НЯЦЦА *зак.* Суняцца, перастаць. *Як ба ета курей нупужаць, каб яны ня́ліся кыпаць гарод.*

НЯШЫБКА *прысл.* Павольна. *Ай, ты няшы́бка бегыіш, ты мяне ні дагоніш, а я глядзі у якіх валінкых.*

НЯШЫБКІЙ *прым.* Павольны. *Ета парода тыкая, ета няшы́бкія коні, ну здаровыя, якей воз ні ныкладзеш, пыцягніць.*

# П

ПААБАБРАНЫЙ, ПААБАБРАТЫЙ *дзеепрым.* Абабраны, абтрэсены поўнасцю. *Ігрушыны стыяць пыабыбра́ныя, ні днае ігрушкі німа. Была ў лесі дзічка-кісьля́ўка, і тая пыабыбра́тыя, ні яблычка ні аста́лыся.*

ПААБАГНУЦЬ *зак.* Абагнуць усё, многае. *Ён сам і санкі пыабагну́ў, ніхто яму ні пымыга́ў.* ПААБАГНУЦЦА *зак.* Абагнуцца (пра ўсё, многае). *Нашто аткладывыць ны калі пыабагнецца, нада скарей кынчаць.* ПААБАГНУТЫЙ, ПААБГІНАНЫЙ *дзеепрым.* *У Якыва красіва пыабагну́та, ён як зря дзелыць ня будзіць. Што пыабгіна́на, ладна, ну яшчэ многа тут работы.*

ПААБАЖВАЦЬ *зак.* Абжаваць усё, многае. *Цялёнык што ні пупадзець, усё пыабажвець.* ПААБАЖВАНЫЙ, ПААБАЖВАТЫЙ *дзеепрым.* *Кідай у шайку пыабыжва́ныя тряпкі, мыць усё нада. Пыглядзі, якея пыабыжва́тыя рукаўкі ў кохтычкі.*

ПААБАЗНАЦЦА *зак.* Абазнацца (пра ўсіх, многіх). *Не, па-мойму, яны пыабызна́ліся, падумылі, што ета га́лкыўскія хлопцы.*

ПААБАЛДЗЕЦЬ, ПАБАЛДЗЕЦЬ *зак.* Ачмурэць (пра ўсіх, многіх). *Усё дно як пыабалдзелі, вярзўць, самі ні прідумыюць што, ажно слухыць ніпріятна. Пыбалдзелі мальцы, большы пра іх нічога ні скажыш.* ПААБАЛДЗЕЛЫЙ, ПАБАЛДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. Ня думый, ні такея яны пыабалдзелыя, большы прітвыряюцца. Якей толк с такімі пыбалдзелымі пра што дыгыварівыцца.*

ПААБАМЛЕЛЫЙ *дзеепрым.* Абамлелы (пра ўсіх, многіх). *Як скызалі пры Аніса, так яны абея і селі пыабамлелыя.*

ПААБАРАЧЫВАЦЬ, ПААБЯРНУЦЬ *зак.* Абярнуць усё, многае. *Пыабыра́чывый цугункі зы заслонку, ніхай сохнуць. Ён ня думыў, што яны копы пыабернуць.* ПААБАРАЧЫВАЦЦА, ПААБЯРНУЦЦА *зак.* Абярнуцца (пра ўсё, многае). *Кыча́ны цяжолыя, а зімля нымякла, дык яны пыабыра́чывыліся. Акуратна едзьця, дарога няроўныя, можыця пыабярнўцца ж жытым.* ПААБАРАЧЫВАНЫЙ, ПААБЯРНУТЫЙ, ПААБЕРНУТЫЙ *дзеепрым. Бальшэя чугуны пыабыра́чывыны пыць сьцяною ны дваре. Тарелкі пыабярнўты на ўслоні, ніхай апсыхаюць. ´А я гляджу, длі чаго бочкі ліжаць пыабернутыя.*

ПААБАТКНУЦЬ *зак.* Абаткнуць усё, многае. *Нада сьвінна́рнічык пыабаткнўць, пат крышыю дзірічкі ёсьць.* ПААБАТКНУЦЦА *зак.* Абаткнуцца (пра ўсё, многае). *Калі ж у цябе пацстрешша пыабаткнецца, усё атклыда́іш і атклыда́іш.* ПААБАТКНУТЫЙ *дзеепрым. Пунькі пыабаткнўты крепка, хырашо зьдзелына.*

ПААББІВАЦЬ *зак.* 1. Папрацаваць, аббіваючы пэўны час. *Нямнога ён, часы два пыаббіва́ў, ну трошку памог.* 2. Абабіць усё. *Снапкі нада пыаббіва́ць ды пріпыря́ччыць, каб куры па іх ні мясіліся.* 3. Абабіць усё, прыбіваючы. *Сьценкі ў пуніх пыаббіва́ў достычкымі.* ПААББІЦЬ *зак.* 1. Абабіць усё. *Жыта пыаббілі, нада кулі тресьць.* 2. Абабіць усё, прыбіваючы. *Пыаббіў дзьвері войлыкым, ня будуць холыд прупускаць.* ПААББІВАЦЦА, ПААББІЦЦА *зак.* 1. Абабіцца (пра ўсё, многае). *Ну ні гаріць жа, і проса пыббіва́іцца. Пыбаб'юцца снапкі, сяньня нада лашчынку збрынкыць.* 2. Абабіцца прыбіваннем (пра ўсё, многае). *Як дзьвері пыаббіва́юцца, ні так будзіць дуць. Ці скора ў цябе вароццы пыабаб'юцца, ждаць ныдаела.* 3. Пабіцца, ударающыся (пра ўсё, многае). *Будуць кычаны во так зва́лівыцца, пыббіва́юцца. Німа цэлых яблык, усе пыаббіліся.* ПААББІВАНЫЙ, ПААББІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абабіты (пра ўсё, многае). *Пыаббіва́ныя снапы кылы пры-*

*копычка ліжаць. Ужо можна трошку натресьць кулёў с пыаббітыга жыта.* 2. Абабіты прыбіваннем (пра ўсё, многае). *Ты б відзіў, як у яго сьцены пыаббівáны нá зіму. Нейкімі суконкымі ці лямцым дзьвері пыаббіты.*

ПААББРАХЫВАЦЬ, ПААББРАХАЦЬ *зак. перан. асудж.* Абгаварыць усіх, многіх. *Пыаббрáхывылі ўжо дык пыаббрáхывылі, на ўсю акругу аслáвілі. Што зы нячыстыя сіла ў ёй сядзіць, усіх у дзяреўні пыббріхáла.* ПААББРАХЫВАЦЦА, ПААББРАХАЦЦА *зак.* Пасварыцца (пра ўсіх, многіх). *За дзьве нядзелі пыаббрáхывыліся с суседзімі. Зь людзямі пыббріхáлыся, цяпер на вуліцу пыкызацца стыдна.* ПААББРАХЫВАНЫЙ, ПААББРАХАНЫЙ *дзеепрым. У такіх усе будуць пыаббрáхывыныя, нікога ні прапусьцюць. Пыаббріхáныя, пыппаскýджыныя, а яны ж ні ў чом, ні ў чом ні вінуваты.*

ПААБВАРЗЁКЫВАЦЬ, ПААБВАРЗЁПЫВАЦЬ, ПААБВАРЗЁПКЫВАЦЬ, ПААБВАРЗЁКАЦЬ, ПААБВАРЗЁПАЦЬ, ПААБВАРЗЁПКАЦЬ *зак.* Замазаць, заквэцаць усё, многае. *Ну нада ж етык пыабварзёкывыць кохтычкі. Яны як возьмуцца пыряччыць, усё чысьцінька пыабварзёпывыюць. Нашто ж вы так скамеічкі пыабварзёпкывылі? Рукі пыабварзёкыў, бягі к Паўліку, ніхай пальлець с кружкі. Што, ты і запечкі хочыш пыабварзёпыць, як услон? Ні памыла, а толька пыабварзёпкыла гаршкі.* ПААБВАРЗЁКЫВАЦЦА, ПААБВАРЗЁПЫВАЦЦА, ПААБВАРЗЁПКЫВАЦЦА, ПААБВАРЗЁКАЦЦА, ПААБВАРЗЁПАЦЦА, ПААБВАРЗЁПКАЦЦА *зак.* Замазацца, заквэцацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ну ў што йта вы пыабварзёкывыліся, ны важ жа глядзець страшна. Ня лезьця к шайкым, толька пыабварзёпывыіціся. Ты і січас пыабварзёпкывыўся ня меншы, чым учора. Мáлым пыабварзёкыцца нядоўга. Ну нада ж так лезьць, рукавы кругом пыабварзёпыліся. Ты сыма большы пыабварзёпкылыся, як яны.* ПААБВАРЗЁКЫВАНЫЙ, ПААБВАРЗЁПЫВАНЫЙ, ПААБВАРЗЁПКЫВАНЫЙ, ПААБВАРЗЁКАНЫЙ, ПААБВАРЗЁПАНЫЙ, ПААБВАРЗЁПКАНЫЙ *дзеепрым. Узяліся клеіць сьцяну, дык і стол, і лаўка, і пыдвалкі — усё пыабварзёкывыныя. Аткуля яны вылізьлі такея пыабварзёпывыныя? Рукі грязныя, морды пыабварзёпкывыныя,— любуйціся на іх. Кідай пыабварзёкыныя тряп'ё у ночвы. Сыстаўця у шайку пыабварзёпыный посыд, я гырячыю ваду выцягывыю. Хут ты абмувай етыя пыабварзёпкыныя сьцены.*

ПААБВЕРЧЫВАЦЬ *зак.* Паабгортваць. *Яйцы ў бу-*

*магу хырашо пыабверчывый, каб ні пабіліся.* ПААБВЕРЧЫВАЦЦА *зак.* Паабгортвацца. *Пыабверчывыліся як старухі, ні скажыш, што ета дзеўкі ідуць.* ПААБВЕРЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Нешта пыабверчывына тряпкымі, можа, ку́кылык дзелылі сабе.*

ПААБВОДЖЫВАЦЬ *зак.* 1. Павадзіць усюды. *Як пашлі хадзіць, ён нас усюдых пыабводжывыў, айдзе мы толька ні пыбылі.* 2. Абвесці алоўкам, пяром усё, многае. *Ма́лыя ба́лывыліся, карцінкі пыабводжывылі кырындашом.* ПААБВОДЖЫВАЦЦА, ПААБВАДЖЫВАЦЦА *зак.* 1. Павадзіцца ўсюды. *Як пывялі вадзіць, мы ўвесь лес пыабводжывыліся, пакуля табун найшлі. Пыабва́джывыўся я сяньня с каровыю па ўсіх рывах.* 2. Абвесціся алоўкам, пяром (пра ўсё, многае). *Ну-у, саўсім нікуратна тут пыабводжывылыся. Я гляджу, як у цябе красівінька етыя кружочыкі пыабва́джывыліся.* ПААБВОДЖЫВАНЫЙ, ПААБВАДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Абведзены алоўкам, пяром (пра ўсё, многае). *Карцінкі пыабводжывыны, зымазына кніжка, што глядзець нікрасіва. Відна, було нырісовына проста, а тады цьвятнымі кырындышамі пыабва́джывына.*

ПААБВЯЗЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Абвязаны (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Яблынкі ў яго ны зіму́ крепка пыабвя́зывыны. Нешта і Пуўлючыха, і Хроліха пыабвя́зывыныя ішлі, ці яны хворыя, ці што зь імі.*

ПААБГАДЗІЦЬ *зак.* Абгадзіць усё, многае. *Гані курей сь сянец, узьліцяць ны мяшкі, пупруклююць і пыабга́дзюць.* ПААБГАДЗІЦЦА *зак.* Абгадзіцца (пра ўсё, многае). *У ма́лых што хочыш пыабга́дзіцца, яны бярежч ня ўмеюць.* ПААБГАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Нада піріпылыска́ць пыабга́джыныя тряпкі ды ны прясла уськінуць.*

ПААБГАРАДЖЫВАЦЬ, ПААБГАРАДЗІЦЬ *зак.* Абгарадзіць усё, многае. *Стагі нада пыабгыра́джывыць, а тады скот ны атаву пускаць. Яны хырашо свае усадзьбы пыабгырадзілі, красіва падзелылі.* ПААБГАРАДЖЫВАЦЦА, ПААБГАРАДЗІЦЦА *зак.* Абгарадзіцца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Пыдаждже, гады зы два яны ішчэ ні так пыабгыра́джывыюцца, зьдзелыюць пы-панску. Ай, троху пыабгырадзіліся, тута самый збой, выгын, ні абгырадзёмшы, скот усё зьмесіць.* ПААБГАРАДЖЫВАНЫЙ, ПААБГАРОДЖЫВАНЫЙ, ПААБГАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Не, мае капёшкі пыабгыра́джывыны, ня ўлезуць коні. У іх усадзьбы красіва пыабгароджывыны, зьдзелына пыд адну сьвязь. Пыабгароджыныя участкі*

*цалей будуць.* ПААБГАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пыабгырадзёмшы, зацэліць, а так скот усё паб'ець.*

ПААБДУРАЦЬ, ПААБДУРЫЦЬ *зак.* Падмануць усіх, многіх. *Яны нічога ні пынімаюць, такіх лёхка пыабдуря́ць. Як жа ета вас пірядністкія мальчыкі пыабдурі́лі?* ПААБДУРАНЫЙ *дзеепрым. Ну што, прішлі пыабдуря́ныя, стыдна цяперя. Ішчэ пыглядзі́м, хто будзіць пыабду́рін.* ПААБДУРОМШЫ *дзеепрысл. Дужа рады, пыабдурёмшы дзяцей, вам ба стыдзіцца нада так дзелыць.*

ПААБ'ЕХАЦЬ *зак.* 1. Аб'ехаць усё, многае. *Яны ўжо сьвет пыаб'ехылі, і Сібірі, і Уралы, і айдзе іх толька ні пубуло.* 2. З'ехаць уніз (пра ўсё, многае). *Ідуць, як атря́хі, чулкі пыаб'ехылі.* ПААБ'ЕЗДЗІЦЬ *зак.* Аб'ехаць усё, многае. *Пыаб'езьдзілі яны і Крічывы, і Рослывы, і ў якіх вірах толька ні варочыліся.* ПААБ'ЕХАНЫЙ, ПААБ'ЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* З прыкметамі аб'язджання. *Мы пыглядзелі: кругом стагоў пыаб'ехына, сьлед к капёшкым, там і кла́джына. Вун яно заметна: пыаб'іжджа́на кылы аборычкыў і к саломі пыкірувалі.*

ПААБЖЫВАЦЦА *зак.* Абжыцца (пра ўсіх, многіх). *Ну хутурах цяжола було первыя гады два-трі, посьлі пыбжыва́ліся, сталі былі нядренна жыць, а тута калхозы.*

ПААБІДЖАЦЬ, ПААБІДЖЫВАЦЬ *зак.* 1. Пакрыўдзіць пэўны час. *Што пыабіджа́ў Максім Просю, ета толька іна ні прыгывары́лыся нікому. Тоя ўремя яны пыабі́джывылі Стэшку.* 2. Пакрыўдзіць усіх, многіх. *Так ён вас пыабіджа́ў, што вы пірянесьць ня можыця. Ня столька іх пыабі́джывылі, сколька яны гаворюць.* ПААБІДЖАЦЦА, ПААБІДЖЫВАЦЦА *зак.* 1. Пакрыўдзіцца пэўны час. *Пыабіджа́лыся Вусьцінка ны сваіх суседзіў, дужа гадкія людзі. Троху пыабі́джывыліся ды пірісталі.* 2. Пакрыўдзіцца (пра ўсіх, многіх). *Ныпра́сна пыабіджа́ліся, ніхто пра іх нічога ні гывaріў. Сваты вашы пыабі́джывыліся і ня едуць сюда большы.* ПААБІДЖАНЫЙ, ПААБІДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Пакрыўджаны (пра ўсіх, многіх). *Ні такея яны пыабіджа́ныя, як табе здаецца, тута многа прібаўліна. Прішлі пыабі́джывыныя: як ета так можна дзелыць, гаворюць.*

ПААБКАРЭЦЬ *зак.* Закарэць, абсохнуць. *Шайкі пыпкарелі, хут ты іх тыпаром апцясывый ці ў атмочку нясі ў аборык.*

ПААБКАЦІЦЬ *зак. перан.* Абкласці кругом або коцячы. *Двары сеным пыапкаці́лі, складывыць некуды. Пуню*

*пыапкацілі палкымі, возюць і ні спруўляюцца упыря́ччывыць.* ПААБКАЦІЦЦА *зак.* Абкласціся кругом або з дапамогай качэння. *Пыапкоцюцца сеным, а тады зіму прыдывваць будуць.* ПААБКАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Двары лесым пыапкацёмшы, быгата строіцца думыюць.*

ПААБКАЧАЦЬ, ПААБКАЧЫВАЦЬ, ПААБКОЧЫВАЦЬ *зак.* 1. Абкачаць усё, многае. *Яны балыюцца, кычаюцца пы траве, відзіш, як рубашычкі пыапкыча́лі. Узноў пінжачкі пыапка́чывыюць ба́лыўнікі етыя. Вун як касьцюмчыкі пыапкочывылі.* 2 *перан.* Абкласці кругом або коцячы. *Пыглядзіш, як усё пыапкыча́іць дрывамі зы зіму. Увесь двор пыапка́чывыў бярьвеньнім, ны піцісьценку хваціць. Пыапкочывыў пуні сакою. Пыапкочывылі баню дрывамі, ні прідумыюць, куды дзівыць.* ПААБКАЧАЦЦА, ПААБКАЧЫВАЦЦА, ПААБКОЧЫВАЦЦА *зак.* 1. Абкачацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Айдзе вы етык у грязь пыапкыча́ліся? У нейкыю зелінь пыапка́чывыліся. Ма́лыя ў што хочыш пыапкочывыюцца.* 2. Абкласціся кругом або з дапамогай качэння. *Вун якім бярьвеньнім пыапкыча́ліся. Як пыапка́чывыюцца лесым, пылаты можна строіць. Кругом пыапкочывыліся здаровымі палкымі.* ПААБКАЧАНЫЙ, ПААБКОЧАНЫЙ, ПААБКАЧЫВАНЫЙ, ПААБКОЧЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абкачаны (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Абоя пыапкыча́ныя, і пыль, і грязь, і чаго толька на іх німа. Пыглядзі, узноў ідуць пыапкочыныя. Яны і сяньня зыявюцца пыапка́чывыныя. Ні прідумыіш, у што яны пыапкочывыны.* 2. Абкладзены кругом або з дапамогай качэння. *Здаровымі калодымі пыапкыча́н двор. Пыглядзеў ба ты, як банька яго пыапкочына. Садок пыапкочын саломыю, нашто яму столька ў горла. Стажок палкымі пыапка́чывын, скот ня дужа дасту́піцца. Гумно пыапкочывына калодымі, скора пілiць пычану́ць.*

ПААБКРУЧЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Абгорнуты поўнасцю, моцна. *Нічога мяне ня грэіць, во відзіш, якея ногі пыапкру́чывыныя, ды яшчэ ў валінкых.*

ПААБЛАЖЫЦЬ *зак.* 1. Абкласці ўсё, многае. *Пыаблажы́ў сьцены саломыю, веціp ні прадмець, скату цёпла будзіць зімуваць.* 2 *перан.* Абсыпаць моцна болькамі. *Губы ў яго пыблажы́ла, дужа прустудзіўся нейдзі.* ПААБЛАЖЫЦЦА *зак.* Абкласціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Пабложыцца падушкымі і сядзіць ны пасьцелі. Пыаблажы́ліся дрывамі, на трі зімы нывылачылі.* ПААБЛОЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абкладзены (пра ўсё, мно-

гае). *Пыабложыны двары сеным, са ўсіх бакоў стажкі стыяць.* 2. Абсыпаны моцна болькамі. *Ці відзіш, як губы пыабложыны і голыс хріпіць.* ПААБЛАЖОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Абклаўшы ўсё, многае. *Пыаблажомшы сьцены, будзіць цяплей.* 2. Абсыпаўшы моцна болькамі. *У іх шыі пыаблажомшы, прастуда высыпыла.*

ПААБЛАЗІЦЬ *зак. перан.* 1. Абшукаць усюды. *Я і ны хаці, і на клеці пыаблáзіў усё, нійдзе німа вязёнык, а кажыцца, некуды наверьх кідаў.* 2. Аблезці, аблупіцца ў многіх месцах або поўнасцю. *Нада ж так зыгарець, што кожа пыблáзіла шмáцьцім.* ПААБЛАЖАНЫЙ *дзеепрым.* Абшуканы ўсюды. *Пат тымі кустамі зраньня пыаблáжына, айдзе тэй гріб зацэліiць.*

ПААБЛЕЗЦЬ *зак. перан.* Аблезці, аблупіцца ў многіх месцах або поўнасцю. *Первыя дні на сонцы доўга ні сядзіця, кожа згаріць і пыаблезіць.*

ПААБЛЁТАЦЬ, ПААБЛЁТЫВАЦЬ *зак. эмац.* 1. Апасці. *Цёпла, а восінь ныстыяшчыя, усе дзерівы пыаблётылі. Лісьця зь дзеріў пыаблётывыла, толька ну дубу дзяржыцца.* 2. Абабегаць. *Як выпрывюцца, яны ўсе лясы пыаблётыюць, а грібоў ныбяруць. За ету ноч вы, наверна, пыўсільсавета пыаблётывылі.* ПААБЛЁТАНЫЙ, ПААБЛЁТЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Абабеганы. *Ні прідумыць, сколька за ноч дзірявень пыаблётына. Усе кусты даўно пыаблётывыны, ды нійдзе ні найшлі арехыў.*

ПААБЛІЗАЦЬ *зак.* Аблізаць усё, многае. *Кінула скоўрыды ніпрібраныя, кошка іх пыблізáла.* ПААБЛІЗАЦЦА *зак.* Аблізацца (пра ўсіх, многіх). *Вун твае каты, мяса паелі і пыблізáліся, давольны.* ПААБЛІЗАНЫЙ *дзеепрым.* *Карыццы нечыга мыць, яны пыблізáныя, сыбакі памылі.*

ПААБЛОЖЫЦЬ, ПААБЛОЖЫЦЦА *зак.* Зрабіцца аблогай усюды. *Пырáдышныга зямлі пыаблoжыла, асталыся ніпáхыныя. Былі рысьцірябілі ладный кусок, гады два сеілі, а тады зупусьцілі, усё пыабложылыся.*

ПААБМАЗАЦЬ *зак.* Абмазаць усё, усіх, многае, многіх. *Стрычанкі апшчыкатурілі хаты і пыабмáзылі.* ПААБМАЗАЦЦА *зак.* Абмазацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ну й відна, што вареньня елі, пыабмáзыліся, і насы ў вареньні, і шчокі, і дайжа грудзёнкі.* ПААБМАЗАНЫЙ *дзеепрым.* *І бацінкі, і штаны вышы кален пыабмáзыны грязьзю.*

ПААБМАХЫВАЦЬ, ПААБМАХНУЦЬ *зак. перан.* Ачысціць усё, усюды, абмахваючы. *Пувучына ужо зыві-*

*лася па сьценых, нада пыабма́хывыць. Пыбмахні мух с каровы, стыяць ня хочыць, даіцца ні даецца.* ПААБМАХЫВАНЫЙ, ПААБМАХНУТЫЙ *дзеепрым. Пыбма́хывыныя сьцены пычысьцелі, і глядзець пріятній. Пыбмахну́тыя мяшкі на плечы брáць луччы, на іх пылі було дужа многа.*

ПААБМІНАЦЬ, ПААБМІНУЦЬ *зак.* Абмінуць, апярэдзіць адно за адным усё. *Вазы сь сеным мы быйстра пыабміна́лі, збоку аб'ехылі. Машыны пыабмінуць ні так лёхка, дый дарогі рядым німа.*

ПААБМІРАЦЬ, ПААБМЕРЦЬ *зак.* Абмерці (пра ўсіх, многіх). *Як яны зайшлі зь вінтоўкымі, мы пыабміра́лі, думылі: січас пірістріляюць. І вы б пыабмёрлі, каб увідзілі такоя.*

ПААБМЫЦЬ *зак.* Абмыць усё, усіх, многае, многіх. *Паспробый-ка пыабмы́й такея сям'ішчы, духу дасіся.* ПААБМЫЦЦА *зак.* Абмыцца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Вы ж пыабмы́йціся, ці можна такімі грязнымі за стол лезьць.* ПААБМЫТЫЙ *дзеепрым. Вобуў увесь пыабмы́т, зы вамі ж глядзі ды глядзі, як зря кідаіця.*

ПААБМЯКНУЦЬ *зак.* Абмякнуць (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ныпрятык ніякіх ні ўзялі, а дождж вот-вот хлыніць, пыбмя́кнуць.* ПААБМЯКЛЫЙ *дзеепрым. Прікоцюцца пыабмя́клыя, тады будуць знаць, ці нада нызіваццa.*

ПААБНАШЫВАЦЦА *зак.* Абнасіцца (пра ўсіх, многіх). *А во відзіш, пыабна́шывыліся, нада думыць што цяплейшыя прігыда́ць* **г** *зіме.*

ПААБПАСКУДЖЫВАЦЬ, ПААБПАСКУДЗІЦЬ *зак.* 1. Абквэцаць, забрудзіць усё, многае. *Зыбярі чугуны, пырысяты пыаппаску́джывыюць, што ні дамыісься. Такея касьцюмы пыаппаску́дзілі, што зь імі дзелыць, хуць выкінь.* 2 *перан.* Моцна зняславіць. *Пыаппаску́джывылі дзяўчонык, кырявей кыря́ўкі зьдзелылі. Аткуля ў яе ныбралыся злосьці, скалькіх іна пыаппаску́дзіла.* ПААБПАСКУДЖЫВАЦЦА, ПААБПАСКУДЗІЦЦА *зак.* 1. Абквэцацца, забрудзіцца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Місычкі зыбяріця, яны толька пыаппаску́джывыюцца у гнаі. У вас тута і посыд пыаппаску́дзіцца, і ўсё.* 2. Моцна зняславіць сябе. *Із-зу дурных галоў пыаппаску́джывыліся. Цяперя самі ні рады, што так пыаппаску́дзіліся.* ПААБПАСКУДЖЫВАНЫЙ, ПААБПАСКУДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Абквэцаны, забруджаны пра ўсё, многае). *Вун у шайкі усе пыаппаску́джывыныя ложкі, дыстану вады*

*і буду мыць. Пыаппаскýджыныя рушнікі пыц скамеічку пылажыла.*

ПААБПАЎЗАЦЬ, ПААБПОЎЗЦЬ *зак.* 1. Абпаўзці (вакол усяго). *Ета вы ні дыгыдаліся, нада було з другога боку пыаппуўзáць. Копы ат кустоў пыаппаўзьлí і прыгнулі ны яго.* 2. Абсунуцца (пра ўсё, многае). *Сьценкі ў погрібі рызьмяклі і пыаппуўзáлі. Пыаппаўзьлí ямкі, чысьціць нада, і скарей нада.*

ПААБПАЎЗЫВАЦЬ, ПААБПОЎЗЫВАЦЬ, ПААБПОЎЗАЦЬ *зак. перан.* Абшукаць усё, усюды. *У ёй двынаццыць сядзіць, кажный кусьцік пыаппáўзывыіць, ні прымінець гріба. Дужа прыспалітныя: усе лясы пыаппоўзывылі. Ну прідумый-ка такоя: дайжа кругом двыра пыаппоўзылі.* ПААБПАЎЗЫВАНЫЙ, ПААБПОЎЗЫВАНЫЙ, ПААБПОЎЗАНЫЙ *дзеепрым. Айдзе тута што астаніцца, кылі кажныя дзеріва пыаппáўзывына і ўсё пірявернута. Тута тожа пыаппоўзывына, і ня думый найціць што. На пунькых усё пыаппоўзына, салома паўзьвернута.*

ПААБПАХЫВАЦЬ *зак.* Абараць усё, усюды. *І нашто яны быльшакі пыаппáхывылі, раншы бічывікі былі шурокія, а січас пріпыхаліся к насыпу.* ПААБПАХЫВАЦЦА *зак.* Абарацца ўсюды. *У яго, бувала, клачок зямлі ні прыпадзець, кажныя лашчынка, кажныя кынаўка пыаппáхывыюцца.* ПААБПАХЫВАНЫЙ *дзеепрым. Аборычкі як пупала пыаппáхывыны, краі папорчыны.*

ПААБПІРАЦЬ, ПААБПЕРЦЬ *зак.* Абаперці ўсё, многае. *І астатнія стыўбячкі пыаппірáй к верьбі, луччы будуць сохнуць. Во табе, ні найдзіш на што пыапперць жардзіны.* ПААБПІРАЦЦА, ПААБПЕРЦЦА *зак.* Абаперціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ці крепка лесьвіцы пыаппірáліся, каб ні паехылі. Ны прясла пыаппёрліся і доўга дудукылі пра нешта.* ПААБПІРАНЫЙ, ПААБПЕРТЫЙ *дзеепрым. Нашто ета кольля тута пыаппірáна, я ні знаю, яго б лучча скласьць пат крышу. Стыялі пыаппёртыя на вілкі, шушукыліся.*

ПААБПІСЫВАЦЬ, ПААБПІСАЦЬ *зак.* Абпісаць усё, нарабіць усюды надпісаў. *Нашто вы етык пыаппíсывылі кніжкі, нікрасіва так дзелыць. І стол пыппісáлі, і пыдвалык, ну я ныдаю калі пу руках.* ПААБПІСЫВАЦЦА, ПААБПІСАЦЦА *зак.* Абпісацца (пра ўсё), нарабіцца ўсюды (пра надпісы). *Нехта з вас пыработыў, ні само яно пыаппíсывылыся. Пыдажджы, і твае кніжычкі пыаппíшуцца.* ПААБПІСЫВАНЫЙ, ПААБПІСАНЫЙ *дзее-*

*прым. Такую пыаппісывыную цітрадзь стыдна пыказывыць ныстаўніцы. Во толька што ілбы у вас ні пыаппісыны. Уся газеціна пыаппісáна.*

ПААБПЛЮГАВІЦЬ *зак.* Зняславіць усіх, многіх. *Ні разу ухадору сабе ні знаюць, каго хочыш могуць пыапплюгáвіць.* ПААБПЛЮГАВІЦЦА *зак.* Зняславіцца (пра ўсіх, многіх). *Самі пыапплюгáвіліся, ні прідумыць, што твыряць.* ПААБПЛЮГАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Калі ім ныравіцца быць пыапплюгáўлінымі, ніхай брешуцца.*

ПААБПЯКАЦЬ, ПААБПЕЧ *зак.* Абпячы ў многіх месцах. *Вазьмі тряпку, рукі пыаппікáіш, чугун толька што кіпеў. Нада ж прідумыць так ногі пыаппеч!* ПААБПЯКАЦЦА, ПААБПЕЧЦА *зак.* Абпячыся ў многіх месцах. *Пупала ў крапіву, уся пыппікалыся, ногі як агнём гыряць. Зуянкі ны пыжарі сільна пыаппяклíся.* ПААБПЯКАНЫЙ, ПААБПЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Нічога Тонька вам ні паможыць, у яе рукі пыппікáны, пыабверчывыны тряпкымі. Тады ён пывыляўся, як ногі былі пыаппечыны.*

ПААБРАЗАНЫЙ, ПААБРЭЗАНЫЙ *дзеепрым.* Абрэзаны (пра ўсё, многае). *Пыбрізáныя бярёзкі дайжа крысівей глідзяцца. Пыабрезыныя суччa сьцягніця г двару, пысякецца ў печ.*

ПААБСЕЧ *зак.* Паабсякаць поўнасцю. *Ускачы-ка ты на вербу ды пыпсякí ніжнія суччa, яно нічому росьць ні даець унізу.* ПААБСЕЧЦА *зак.* Паабсякацца поўнасцю. *А паспеюць твае клянкі, і пазьней пыапсякýцца.* ПААБСЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Во як ліпы пыапсечыны, і ў хаці пысьвятлела.*

ПААБСМЕІВАЦЬ, ПААБСМЯЯЦЬ *зак.* Абсмяяць усіх, многіх. *Будзіця так дзелыць, дык вас пыапсьмеівыюць як дуракоў якіх. Пыапсьміялі іх і ўсё, во што було.* ПААБСМЕІВАНЫЙ, ПААБСМЯЯНЫЙ, ПААБСМЕЯНЫЙ *дзеепрым. Якея ета людзі, пыапсьмеівыныя, пыабгáджывыныя. Яны кругом пыапсьміяныя, ат іх атрякліся бог і людзі. Ходзюць пыапсьмеіныя, на іх глядзець гідка.*

ПААБСТРЫЖЧ *зак.* Абстрыгчы ўсё, усіх, многае, многіх. *Штоб пыапстры́глі сваe патлы, ны вас глядзець нілізя.* ПААБСТРЫЖЦА *зак.* Абстрыгчыся (пра ўсіх, многіх). *Я ім дайно гывaріла паапстры́жца, дык ці яны каго слухыюць.* ПААБСТРЫЖАНЫЙ *дзеепрым. Ходзюць нашы сылдацікі пыапстры́жыныя, лысіны, як месікі, бліщчаць.*

ПААБСЦЯБЫВАЦЬ, ПААБСЦЁБЫВАЦЬ *зак.* Пазбі-

ваць сцябаючы. *Пыапсьця́бывыіш венік, што падмесьць нечым будзіць. Ныпрасна ты мятлу пыапсьцёбывыў, іна будзіць хужы месьць.* ПААБСЦЯБАЦЬ, ПААБСЦЁБАЦЬ *зак.* 1. Пазбіваць сцябаючы. *Лісьця ны бярёзкі пыпсьцібáў пугыю. С пацсоніцы лісткі пыапсьцёбылі.* 2. Пакараць, сцябаючы ўсіх, многіх. *Каб пыапсьцібáў етых балыўнікыў, тады б яны уняліся. Ні ўспакоюцца, пакуля ні пыапсьцёбыіш.* ПААБСЦЯБЫВАЦЦА, ПААБСЦЁБЫВАЦЦА, ПААБСЦЯБАЦЦА, ПААБСЦЁБАЦЦА *зак.* Пазбівацца сцябаннем. *Пыапсьця́бывыліся мётлы саўсім. Будзіш так сьцібаць, дык нягож ні пыапсьцёбывыюцца. У цябе скора етыя пруцікі пыпсьцібáюцца. Пыапсьцёбыліся венікі, позна візалі.* ПААБСЦЯБЫВАНЫЙ, ПААБСЦЁБЫВАНЫЙ, ПААБСЦЯБАНЫЙ, ПААБСЦЁБАНЫЙ *дзеепрым. Хто йта етык бáлывыўся, што ліпкі пыапсьця́бывыны. Лісьця пыапсьцёбывына, к чаму такоя балыўства. Вун твае пруткі пыпсьцібáныя ліжаць. Пірі-єякі ў печ пыапсьцёбыныя хвырасьціны.*

ПААБСЫПАЦЦА *зак.* Абсыпацца (пра ўсё, многае). *Ціріж жару яблыкі пыапсы́пыліся, дыжджа доўга ні було, улагі ні хваціла.*

ПААБТАРКЫВАЦЬ, ПААБТОРКЫВАЦЬ, ПААБТОРКАЦЬ *зак.* Паабтыкаць. *Нада г зіме пуні крепка пыаптáркывыць, ато сьнегу пынапрець — ні аччысьцісься. Папторкывыў сьцяну пруцьцім, думыіць, красіва. Трошку папторкыў дзірькі, усё ні так будзіць дуць.* ПААБТАРКЫВАЦЦА, ПААБТОРКЫВАЦЦА, ПААБТОРКАЦЦА *зак.* Паабтыкацца. *Ты ні глядзі, каб красіва, як пыптáркыіцца, так і ладна, каб толька сьнегу ня сыпыла. Папторкывыліся, як пірвабытныя людзі, ета ў іх гульня тыкая. Ня дужа хармýзна папторкылыся, алі ладна будзіць, некылі дывадзіць.* ПААБТАРКЫВАНЫЙ, ПААБТОРКЫВАНЫЙ, ПААБТОРКАНЫЙ *дзеепрым. Не, вуглы ў мяне крепка пыаптáркывыны, ні прадмець. Усякімі травымі у яе хата папторкывына, усё лікарствы сушыць. Ішчэ ад гряд пацстрешша ні папторкына.*

ПААБТРУШЫВАЦЬ, ПААБТРУСІЦЬ *зак.* 1. Абтрэсці ўсё, многае. *Мідунічкі нада пыаптрýшывыць, каб ета мыльгва тама меншы лазіла. Ігрушкі ўсе пыаптрусілі, німа ні адной.* 2. Абсыпаць усё, многае. *Пыаптрýшывый у карыці мукою, скарей пыядуць. Ты нечым плечы свае пыаптрусíў, стріхані.* ПААБТРУШЫВАЦЦА, ПААБТРУСІЦЦА *зак.* 1. Абтрэсціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Табе пыспыкайнеіць, як дуліны пыаптрý-*

*шывыюцца. Пыаптрўшывыйціся, мякіна кучымі ны плічах. Яблынкі дайно пыаптрусіліся, нечыга глядзець.* 2. Абсыпацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Са столі пыаптрўшывылыся ны мяшкі. Нейкім сьмяцьцём пуптрусіліся, ны плічах пыл слоім ляжыць.* ПААБТРУШЫВАНЫЙ, ПААБТРУШАНЫЙ *дзеепрым.* Абтрэсены (пра ўсё, многае). *Ніякіх тама сьлівык ні аста́лыся, усё пыаптрўшывына. Яблыкі зялёныя пыаптрўшыны.* ПААБТРУСЕМШЫ *дзеепрысл.* Абтросшы ўсё, многае. *Пуптрусёмшы, ішчэ ладна, хочыш іс суччым зьнясуць.*

ПААБТРЭСЦЬ *зак.* Абтрэсці ўсё, многае. *Во пыглядзіш: ні сашчы́піш сам, дык будзіць вічарінка і пыптрясу́ць тваё яблыкі ды я́блычка.* ПААБТРЭСЦА, ПААБТРАСЫВАЦЦА *зак.* 1. Абтрэсціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Вам нада пыаптресца, сьнег ны адзёжы кымкамі ляжыць. Тыкая пылішча была, пыаптря́сывыйціся.* 2 *перан.* Абжыцца. *А ну хутурах, думыіця, ляхчэй було пыаптресца, сколька сілы ўлажылі. Гады за трі пріпуціліся, пыаптря́сывыліся.* ПААБТРЭСЕНЫЙ *дзеепрым. У том садку усё пыаптресіна, яблычка нійдзе ня ўвідзіш.*

ПААБТЫКАЦЦА *зак.* Абаткнуцца з усіх бакоў. *Сучкамі зь вербы пыптыка́ліся, ідуць як кусты якея.* ПААБТЫКАНЫЙ *дзеепрым. Ета ж нейкыю кніжку чыталі, што ні нашы людзі хадзілі пыптыка́ныя нечым, дык і яны папторкыліся.*

ПААБТЫКНУЦЬ *зак. экспр.* Аддзякаваць. *Усёй сваёй радне пыапты́кнула, а ў яе радні — хуць пісыря ныймай шчытаць.*

ПААБТЫНІВАЦЦА *зак.* Абставіцца плахамі з усіх бакоў. *У яго на хутырі сажылкі крепка пыапты́нівыліся.* ПААБТЫНІВАНЫЙ *дзеепрым. Былі ў некытырых пыапты́нівыныя пыгрябы, доўга стыялі.*

ПААБХАДЗІЦЬ, ПААБАЙЦІЦЬ *зак.* Абысці шмат. *Ты як пойдзіш, усіх сваіх падруг пыапходзіш. Пыабыйшоў усе аборычкі у зыдах, ні знаю, ці нагледзіў што збрынкыць, ці не.* ПААБХАДЗІЦЦА, ПААБАЙЦІЦЦА *зак.* Прывыкнуць (пра жывёлу, пра ўсіх асобін). *Пакуль каровы пыапходзюцца, за імі нада сьлядзіць, каб ні сталі босца, ато пыпрыпа́рывыюць адна другую. Каторыя каровы пыабойдуцца і ходзюць, а ета вірядуіць тубуном, носіцца.* ПААБХАДЗЕМШЫ, ПААБАЙШОДЧЫ *дзеепрысл.* 1. Абышоўшы шмат. *Пыапхадзёмшы лясы, найдзіш грібоў. Чаму ні заморісься, столька пыабый-*

*шоччы лесу.* 2. Прывыкшы (пра жывёлу, пра ўсіх асобін). *Скот пыапхадзёмшы, большы каровы босца ня будуць. Каровы пыабыйшоччы, ні бадуцца, ціха ходзюць.*

ПААБЦАРАПЫВАЦЬ, ПААБЦАРАПАЦЬ, ПААБЦАРАПКАЦЬ *зак.* Абдрапаць усё, усіх, многае, многіх. *Дыдра́жніш кошку, што іна цябе ўсяго пыапцыра́пывыіць. Хто табе так рукі пыпцырапыў? Тронуў кошку, іна і пыпцыра́пкыла.* ПААБЦАРАПЫВАЦЦА, ПААБЦАРАПАЦЦА, ПААБЦАРАПКАЦЦА *зак.* Абдрапацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ляцеў са йгрушыны, ударіўся някрепка, а ўвесь пыапцыра́пывыўся. Што ім дзелыць, дурачуцца, пыпцыра́пыліся. Можа балывыўся, пыпцырапкыўся увесь, а можа пу кустах лазіў.* ПААБЦАРАПЫВАНЫЙ, ПААБЦАРАПАНЫЙ, ПААБЦАРАПКАНЫЙ *дзеепрым. Ці ты ў кошкі цыцкі шчупыў, што рукі пыпцыра́пывыны. Рукі пызьбіваны, ногі пыпцыра́пыны. Якей жа ты пыапцыра́пкыный сяньня, усё дно як с кытамі біўся.*

ПААБЦЕРЦЬ *зак.* Абцерці ўсё, многае. *Троху вокны пыапцёрла і столь, у хаці пычысьцела.* ПААБЦЕРЦЦА *зак.* 1. Абцерціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Вы пыабатріціcь, нілізя мокрымі ны пасьцель лажыцца.* 2 *перан.* Набрацца вопыту. *Пыабатру́цца між людзей, дык пурузумнеюць.* ПААБЦЁРТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абцёрты, выцерты (пра ўсё, многае). *Ці пыапцёрты ж у іх хуць рукі? Каноплі папцёрты, вазьмі трясцы.* 2. З набытым вопытам. *Вярнуліся пыапцёртыя, ні такея рызівоны, як тута былі.*

ПААБЦІСКЫВАЦЬ, ПААБЦІСНУЦЬ *зак.* Абціснуць з усіх бакоў. *Дзінісёнык усігда акуратна клаў, ён, бувала, капу з бакоў пыапці́скывыіць, абгрябець, іна стаіць як лялька. Крайкі пыапці́сьні, стажок крысівей будзіць глядзецца.* ПААБЦІСКЫВАЦЦА, ПААБЦІСКАЦЦА, ПААБЦІСНУЦЦА *зак. Бірягі троху пыапці́скывыліся, вецір ні далжон узырваць. Палкі прістаў цяжолыя, хворыст пыпціска́іцца. Сыка нямнога пыляжыць і пыапці́сьніцца, ні нада большы прікладывыць.* ПААБЦІСКЫВАНЫЙ, ПААБЦІСКАНЫЙ, ПААБЦІСНУТЫЙ *дзеепрым. Ой, якея булкі пыапці́скывыныя, хто йта так дзелыў. Бакі ў стагу пыпціска́ныя, ці ні куўзаліся вы зь яго. У пуні сена папці́снута, ма́лыя езьдзілі, пыстыряліся.*

ПААБЧАПЛІВАЦЬ, ПААБЧЭПЛІВАЦЬ, ПААБЧАПІЦЬ *зак.* Абчапіць усё, усіх, многае, многіх. *Пыапча́плівыла свайго ма́лыга нейкімі цацкымі і вядзець г дзіцям. Прясла пыапчэплівыла нырядымі, пірясушывыюцца.*

*Нашто ты яго етык пыпчапіла усякімі вузілкамі.* ПААБЧАПЛІВАЦЦА, ПААБЧЭПЛІВАЦЦА, ПААБЧАПІЦЦА *зак.* Абчапіцца (пра ўсіх, многіх). *Скырыдзьбіты́ вярёўкымі пыапча́плівыюцца, ідуць, як пукі. Красівымі ж ты лентычкымі пыапчэплівылыся. Пыпчапіліся якімі-то струкамі, гарох — ні гарох, ні прідумыць, што ета.* ПААБЧАПЛІВАНЫЙ, ПААБЧЭПЛІВАНЫЙ, ПААБЧЭПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пашлі пустухі пыапча́плівыныя і сьперіду, і ззаду. Вот мой гірой іўляіцца, увесь дзідамі пыапчэплівын. Пыапчэпліна кругом украшэніімі, у вушах нешта ажно зьвініць.* ПААБЧАПЁМШЫ *дзеепрысл. Ідуць, пыапчапёмшы абручамі, нагнулі ў лугу.*

ПААБЧЫСЦІЦЬ *зак.* 1. Абчысціць усё, многае. *Каб етыя пінжакі пыапчы́сьціў, дык ба калі і надзець можна.* 2 *перан.* Абкарыць усё, многае. *Абізацільна пыапчы́сьці крючча, ніхай сохніць пагодыю.* 3 *перан.* Абкрасці. *Ета ты нічога ні знаіш, а мы знаім, сколька яны клеціў пыапчы́сьцілі.* ПААБЧЫСЦІЦЦА *зак.* 1. Абчысціцца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ня йдзіця такея пыльныя ў хату, пыапчы́сьцііціся ны дваре, с плячэй венікымі пызьмітайця пыл.* 2. Абкарыцца (пра ўсё, многае). *Скора ўвесь паплёт пыапчы́сьціцца.* ПААБЧЫШЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абчышчаны (пра ўсё, многае). *Вун твае достычкі стыяць пыапчы́шчыныя.* 2. Абкораны (пра ўсё, многае). *Ніхай сохніць жэрдзя пыапчы́шчыныя.* 3. Абкрадзены. *Калі-небудзь кініця так, прібігіцё — і будуць хаты пыапчы́шчыныя.*

ПААБШЧАПЕНІВАЦЬ, ПААБШЧАПЕНІЦЬ *зак. жарт.* Абняць усіх, многіх. *Пыапшчапенівылі сваіх мужукоў як ухажорыў. Ты січас увідзіш, як пыапшчапенюць зічычань, во чуда будзіць.* ПААБШЧАПЕНІВАЦЦА, ПААБШЧАПЕНІЦЦА *зак.* Абняцца (пра ўсіх, многіх). *Сыйшліся, пыапшчапенівыліся, усё рыўна як яны з заморскіх краёў пыпріїжджалі. Пыдажджыця трошку, пыцярьпіця, скора пыпшчапеніціся.* ПААБШЧАПЕНІВАНЫЙ, ПААБШЧАПЕНЕНЫЙ *дзеепрым. Дужа давольны пыапшчапенівыныя, усьміхаюцца. У бульварі, бувала, ходзюць пыпшчапеніныя, а мы толька здаліку пыглядзім і пыбягім ныэад.*

ПААБШЧАПУЛІВАНЫЙ, ПААБШЧАПУЛЕНЫЙ *дзеепрым. жарт.* Абняты (пра ўсіх, многіх). *Мы відзілі, як яны пыапшчапу́лівыныя стыялі пад вербыю. Кажныю нядзелю вічарінка, а тады сідзяць пыапшчапу́ліныя ды раньня.*

ПААБШЧЫПЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Абшчыпаны (пра ўсё, многае). *Мідунічкі пыапшчыпывыны, а белыга наліву трошку вісіць.*

ПААБШЫЦЬ *зак.* 1. Абшыць усё, многае. *А чым ты рукавы пыапшыіш, у цябе німа нічога.* 2 *перан.* Дагледзець. *Пыапшыць такую сям'ішчу нялёхка.* ПААБШЫЦЦА *зак.* Абшыцца (пра ўсё, многае). *Вазьмі-ка ты сыма зьдзелый, ато ў яе няскора пыапшыіцца.* ПААБШЫТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абшыты (пра ўсё, многае). *Чаго ж ня прімуць, пасылкі акуратна пыапшыты.* 2. Дагледжаны. *У Пёклы усе і пыабмыты, і пыапшыты, іна акуратныя баба.*

ПААБ'ЯДАНЫЙ, ПААБ'ЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым.* Аб'-едзены (пра ўсё, многае). *Уся капуста стаіць пыаб'ідáныя, чырьвякі нываліліся і што зь імі дзелыць. Скот прайшоў, і ў аборкых уся лыза пыаб'едзіна.*

ПААДБІЦЬ *зак.* 1. Адбіць, адкалоць усё, многае. *Як пыдзіржаць хырашэнька у руках, пытаб'юць пячэньня, тады пызнаіш.* 2. Адмерыць усё, усім, многае, многім. *Участкі лёну пыадбілі бабым.* ПААДБІЦЦА *зак.* Адбіцца, адкалоцца (пра ўсё, многае). *Вот каб цэмінт сь кірьпічын пыадбіўся, іх ба куды хочыш пыклаў.* ПААДБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Адбіты, адколаты (пра ўсё, многае). *Ходзіць с пыадбітымі пальцымі, ні за што ня можыць узяцца.* 2. Адмераны (пра ўсё, многае). *Вам участкі пыадбіты зы Шыряёўскыю кынавыю.*

ПААДГАДЫВАЦЬ, ПААДГАДАЦЬ *зак.* Адгадаць усё, многае. *Бувала, сколька яму ні зыгáдывыім зыгадык, ён усе пыадгáдывыіць. Вы цяжолых зыгадык ні знаіця, а етыя нечыга пыадгыдáць.* ПААДГАДЫВАНЫЙ, ПААДГАДАНЫЙ *дзеепрым. Вот відзіш, усе вашы зыгадкі пыадгáдывыны. Пайдзём двору, ужо ўсё пыадгáдына. Тває зыгадкі пыадгыдáныя.*

ПААДГАРАДЖЫВАЦЬ, ПААДГАРАДЗІЦЬ *зак.* Адгарадзіць усё, многае, для ўсіх, многіх. *То-то хызяін: пырядык навёў ны дваре, пунькі скату пыадгырáджывыў. Нада було б пыадгырадзіць адзьдзельна кормнікым і надворным.* ПААДГАРАДЖЫВАЦЦА, ПААДГАРАДЗІЦЦА *зак.* Адгарадзіцца (пра ўсё, многае, усіх, многіх). *Яны ац сваіх суседзіў пыадгырáджывыліся. Пунькі пыадгародзюцца, тады ляхчэй станіць. Што вы адзь дзевык пыадгырадзіліся, нікрасіва так.* ПААДГАРАДЖЫВАНЫЙ, ПААДГАРОДЖЫВАНЫЙ, ПААДГАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. У яго ў саду пыадгырáджы-*

*выны кусочыкі длі цьвятоў. У харошыга хызяіна усё будзіць пыадгароджывына як сьледыіць. Калі пыадгароджына, ета луччы, пацьсьвінкі ні так будуць лезьць сюда.* ПААДГАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Чаго ж яны етык селі, пыадгырадзёмшы ат астатніх.*

ПААДГНЯТАЦЬ, ПААДГНЕСЦЬ *зак.* Аддавіць, адбіць усё, многае. *Лазь, лазь, Віктыр як зловіць, пячэньня пыадгнітáіць. Ляснуўся з дуліны, усё ў сярёдку пыадгнёў.* ПААДГНЯТАЦЦА, ПААДГНЕСЦА *зак.* Аддавіцца, адбіцца (пра ўсё, многае). *Раз зы разым лясь і лясь, як у іх толька шлýньня ні пыадгнітáіцца. Ні ныкладывый столька наверьх, усё ўнізу пыадгняцецца.* ПААДГНЯТАНЫЙ, ПААДГНЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. У іх, верна, усё пыадгнітáна ны сярёдку. Пыадгнеціныя ньзад ні прішыіш і ні пріклеіш.*

ПААДДАЦЦА *зак.* Аддацца (пра ўсё, многае). *Можа на той нядзелі етыя вузялкі пыаддадýцца, нашто ім тута ліжаць.* ПААДДАНЫЙ, ПААДДАДЖАНЫЙ, ПААДДАДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Што ты цяперя жалеіш пыаддáныя, сам рыздывай. Троху було грошы, дык пыаддáджыны пу людзях, жджы, калі вернуць. У яе і сёліта квасоля пыаддáдзіна, самой нечым пасеіць.*

ПААДДЗЕЛЫВАЦЬ *зак.* 1. Вырабіць выключна, па-майстэрску ўсё, многае. *Вот пыадзьдзелывылі дзьвері, усё вырізына акуратна, красіва.* 2. Адчараваць. *Ні ат усякыга чурувáньня можна пыадзьдзелывыць.* ПААДДЗЕЛЫВАЦЦА *зак.* 1. Вырабіцца выключна, па-майстэрску (пра ўсё, многае). *Я гляджу, як у цябе прігожынька пыадзьдзелывыліся палічкі.* 2. Адчапіцца ад усіх, многіх. *Ад такіх ныдыядлых ня дужа лёхка пыадзьдзелывыцца.* ПААДДЗЕЛЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Выраблены выключна, па-майстэрску (пра ўсё, многае). *Ты б відзіў, як у яго акуратна вокны пыадзьдзелывыны.*

ПААДДЗЯЛІЦЬ *зак.* Аддзяліць усіх, многіх. *Сыноў пыадзьдзялíў, асталіся удваіх з Гаўрілыўнью.* ПААДДЗЯЛІЦЦА *зак.* Аддзяліцца (пра ўсіх, многіх). *Няўжэлі яны так скора пасьпелі пыадзьдзяліцца?* ПААДДЗЕЛЕНЫЙ *дзеепрым. У яго дзеці пыадзьдзеліныя, зь імі толька яе матка.* ПААДДЗЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Пыадзьдзялёмшы сыноў, што ты будзіш дзелыць?*

ПААДДУВАЦЬ *зак.* Аддзьмухнуць усё, многае. *Пыаддувáй етый пух сы стыла, ато ў міску ўляціць.* ПААДДУВАЦЦА *зак.* 1. Аддзьмухнуцца (пра ўсё, многае). *Ветрым мякіна пыаддувáіцца к саломі.* 2 *метаф.* Павы-

конваць працяглы час. *Яны крепка зы Трахіма пыаддуваліся.* ПААДДУВАНЫЙ *дзеепрым. Веіць нада ўсё пыдряд, ета толька зьверьху мякіна пыаддувáна.*

ПААДДУДЫРЫВАЦЬ, ПААДДУДЫРЫЦЬ *зак.* Адставіць, адтапырыць усё, многае. *Пыныпіхáлі нечыга, кырманы пыаддуды́рівылі ніізьвесна як. Што вы рукі пыаддуды́рілі, так нікрасіва.* ПААДДУДЫРЫВАЦЦА, ПААДДУДЫРЫЦЦА *зак.* Адставіцца, адтапырыцца (пра ўсё, многае). *Ат ветру пінжакі пыаддуды́рівыліся. Полы пыаддуды́ріліся, ражном стыяць.* ПААДДУДЫРЫВАНЫЙ, ПААДДУДЫРАНЫЙ *дзеепрым. У бальніцы, я відзіла, ходзюць, рукі пыаддуды́рівыны — пулуматыя. Қырманы пыаддуды́ріны у мáлых, абы-чаго пыныпіхата.*

ПААДҚАЗЫВАЦЦА, ПААДҚАЗАЦЦА *зак.* Адмовіцца (пра ўсіх, многіх). *Ікая ета совісьць у людзей, тады гыварілі адно, а цяперя пыаткáзывыліся. Ныўряд, яны ні пыаткáжуцца, што скызалі, на том і будуць стыяць.*

ПААДҚАЛОЦЬ *зак.* Адкалоць усё, многае. *Нада було б пыаткалоць етыя кускі збоку.* ПААДҚАЛОЦЦА *зак.* Адкалоцца (пра ўсё, многае). *Нічога тута ні пыатколіцца, ці відзіш, як яно зрошшыся.* ПААДҚОЛАНЫЙ *дзеепрым. Вун яны, пыаткольныя кускі, лі калодкі ліжаць.*

ПААДҚАРАСҚЫВАЦЦА, ПААДҚАРАСҚАЦЦА *зак.* Адчапіцца ад усіх, многіх. *Ат такіх ныдыядлых нялёхка пыаткырáскывыцца, яны смалою вязнуць. Мы чуць ат іх пыаткырáскыліся: усё звалі у піўную.*

ПААДҚАРМЛІВАЦЬ, ПААДҚАРМІЦЬ *зак.* Адкарміць усіх, многіх. *Пыаткáрмлівыла сваіх мушчын, як сьлімяньнё сталі. Қароў пыаткармілі пы кынаўках ды пы біріжках, яны ў тубуне гылавы сагнуць ня хочуць.* ПААДҚАРМЛІВАЦЦА, ПААДҚАРМІЦЦА *зак.* Адкарміцца (пра ўсіх, многіх). *Як пріедуць к цёткі, худэя, а тута за лета пыаткáрмлівыюцца. А чаго ж ні пыаткормюцца, травы хвытаіць і на полі, і ў кустах.* ПААДҚАРМЛІВАНЫЙ, ПААДҚОРМЛІВАНЫЙ, ПААДҚОРМЛЕНЫЙ *дзеепрым. У яго пыаткáрмлівыныя кыбаны, скора заб'ець, сала будзіць чэцьвірцю ні схваціць, а двух зьбіраіцца здаць. Қ восіні бычкі пыаткормлівыныя сталі, скора пывязуць ны здачу. Ня дужа будуць пыаткормліныя пацьсьвінкі, мукі у абрез.* ПААДҚАРМЁМШЫ *дзеепрысл. Пыаткармёмшы сьвіньней, і сабе будзіць ладный кусок, і ны здачу грошы грібанўць.*

ПААДҚАСЫВАЦЦА, ПААДҚАСАЦЦА *зак. перан.* Адчапіцца, адвязацца (пра ўсіх, многіх). *Як вам*

*удалося так скора пыаткáсывыцца! Прічэпюцца, дык нялёхка ат іх пыаткысáцца.*

ПААДКАТЫВАЦЬ, ПААДКАЧЫВАЦЬ, ПААДКАЦІЦЬ *зак.* Адкаціць усё, многае. *Нада пыаткатывыць каменьня, яно будзіць мішаць калёсым. Бірнушкі пыаткáчывыйця к пряслу, тама яны ня будуць мішаць. Удваіх бёрны пыаткоціця, толька вазьміця калы.* ПААДКАТЫВАЦЦА, ПААДКАЧЫВАЦЦА, ПААДКАЦІЦЦА *зак.* Адкаціцца (пра ўсё, многае). *Праезд будзіць, як етыя цільпухі пыаткáтывыюцца. Ну пыдажджы, ні гаріць жа, і камні пыаткáчывыюцца. С таго боку бярьвеньня пыаткацілыся, нада пыправіць.* ПААДКАТЫВАНЫЙ, ПААДКАЧЫВАНЫЙ, ПААДКОЧАНЫЙ *дзеепрым. Нашто палкі туды пыаткáтывыны, ні прідумыць. Калёсы пыаткáчывыны к павеці, скот пройдзіць. Зыгыняй воз, бірнушкі пыаткочыны, праезд шурокій.* ПААДКАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пыаткацёмшы дрябіны, праедзіш.*

ПААДКІНУЦЬ *зак.* Адкінуць шмат. *Пыаткінь хворысьця ўбок, каб можна було праехыць.* ПААДКІНУЦЦА *зак.* 1. Адкінуцца (пра ўсё, шмат). *Во тута старыя салома пыаткініцца і снапы складуцца.* 2 *перан.* Пакінуць назусім гнёзды (пра птушак). *Нілізя ѓ гнёздым пытхадзіць і трогыць іх, птушкі могуць пыаткінуцца.* ПААДКІНУТЫЙ *дзеепрым. Сьнег пыаткінут, харошый праход к пунім зьдзелын.*

ПААДКЛАДЫВАЦЬ, ПААДКЛАСЦЬ *зак.* 1. Адкласці ўсё, многае. *Усё, што с сабою зыбяреш, пыаткладывый ны скамеічку, каб ні забыць чаго. Што пріґатовіў ѓ дарогі, пыаткладзі і ў бумагу зывярні, каб тады ні сьпяшыць.* 2. Адвярнуць (пра ўсіх, многіх). *Пыаткладывылі вырытнікі кріва неік. Пыаткладзіця кыўнярі, яны ў вас якея-то скымканыя.* ПААДКЛАДЫВАЦЦА, ПААДКЛАСЦА *зак.* Адкласціся (пра ўсё, многае). *Я ні сьпяшу, і пазьней пыаткладывыіцца, тута дужа нечыга зьбіраць. Мы пірібіраць ня будзім, што пыаткладзецца, тоя і зыбярём.* ПААДКЛАДЫВАНЫЙ, ПААДКЛАДЖАНЫЙ, ПААДКЛАДЗЕНЫЙ, ПААДКЛАТЫЙ *дзеепрым.* Адкладзены (пра ўсё, многае). *Пыаткладывыныя кусочыкі зывырачывый зразу ў бумагу, каб тады ні сьпяшыць. Мы гатовы ехыць, у нас усё пыаткладжына. Ны рыскаты лажыця пыаткладзіныя паплеціны. Бяріця ў кашолку пыаткла́тыя кусочыкі, я лаўчэйшыя выбірала.*

ПААДКРУЦІЦЬ *зак.* 1. Адкруціць, адвінціць усё, многае. *Мальцы балывыліся і пыаткруцілі гайкі ў калёсых.*

2. Сарваць круцячы. *Пыглядзіш, што сяньня за́ ныч пыаткру́цюць тваe пацсоніцы.* ПААДКРУЦІЦЦА *зак.* 1. Адкруціцца, адвінціцца (пра ўсё, многае). *Рызвадным ключом скарей гайкі пыаткру́цюцца, вазьмі.* 2 *перан.* Вывернуцца (пра ўсіх, многіх). *Ну бальшэй бог будзіць, калі яны на етый раз пыаткру́цюцца.* ПААДКРУЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адкручаны (пра ўсё, многае). *Уся провылка ны прясьлі пыаткру́чына, каму ета дзелыць було нечыга.* 2. Сарваны скручваннем (пра ўсё, многае). *Вярёўкі пыаткру́чыны, зыкладывылі палкі і круцілі.* ПААДКРУЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Адкруціўшы ўсё, многае. *Пыаткруцёмшы балты, тута ўсё рызваліцца.*

ПААДКРЫЦЬ *зак.* Адкрыць, адчыніць усё, многае. *Пунькі нада було пыаткры́ць, ніхай праветрівыюцца.* ПААДКРЫЦЦА *зак.* Адкрыцца, адчыніцца (пра ўсё, многае). *Нехта ж поўзыў тама, ні маглі самі вокны пыаткры́цца.* ПААДКРЫТЫЙ *дзеепрым.* *Гумны стыяць пыаткры́тыя, сена будуць склыдаць.*

ПААДПАРЫВАЦЬ I, ПААДПАРОЦЬ *зак.* Адпароць усё, многае. *Усё во ета нада пыатпа́рівыць. Крючкі пытпарі, іх ішчэ можна будзіць куды пыўшываць.* ПААДПАРЫВАЦЦА I, ПААДПАРОЦЦА *зак.* Адпароцца (пра ўсё, многае). *Як пыатпа́рівыюцца клінкі, тады бяріся зышыцьцё. Етыя лускуткі лёхка пыатпорюцца.* ПААДПАРЫВАНЫЙ I, ПААДПОРАНЫЙ, ПААДПОРАТЫЙ, ПААДПАРОТЫЙ *дзеепрым.* *Нашыўкі пыатпа́рівыны, а ґузікі нада патрезыць. Вун яны ліжаць, пыатпоріныя кусочыкі. Айдзе-то пылажыў пыатпорытыя вярёвычкі і ня ўспомню, айдзе. Нясі-ка сюда пыатпаротыя рімушкі.*

ПААДПАРЫВАЦЬ II, ПААДПАРЫЦЬ *зак.* Адпарыць усё, многае. *Цеста пыпрісыхала, ні атмуваіцца, нада кіпятку ўліць, пыатпа́рівыць. Чуць пыатпа́ріў сваe бінты.* ПААДПАРЫВАЦЦА II, ПААДПАРЫЦЦА *зак.* Адпарыцца (пра ўсё, многае). *Гуртуй тряп'ё ў шчолык, ніхай пыатпа́рівыіцца. Усё засохлыя пыатпа́рілыся.* ПААДПАРЫВАНЫЙ II, ПААДПАРАНЫЙ *дзеепрым.* *Шаічкі пыатпа́рівыны кіпятком, абея чысьцінькія. Гырячыя вады лінула, дык усё пыатпа́ріна.*

ПААДПАСВІЦЬ, ПААДПАСЦІВІЦЬ, ПААДПАСВІЦЦА, ПААДПАСЦІВІЦЦА *зак.* Адпасвіць чаргу. *Па вочырідзі пыатпа́сьвілі, на дзьве нядзелі спакойны. Мы скот пыатпа́сьцівілі, цяперя наша вочырідзь няскора. Каб біз дажджу пыатпа́сьвіцца, дужа було б хырашо. Як ета вы пасьпелі пыатпа́сьцівіцца, нешта дужа скора*

*вочырідзь пыдыйшла.* ПААДПАСВЕНЫЙ, ПААДПАСЦІВЕНЫЙ *дзеепрым. Скот пыатпа́сьвін, большы ў цябе забот ніякіх німа. Маліц пріїжджаў, мы пасьвілі, трі вочырідзі пыдряд цяперя пыатпа́сьцівіны.*

ПААДПАСЦЬ *зак.* 1. Адпасці, адваліцца (пра ўсё, многае). *Гліна аць сьцяны пыатпала, нешта ні дзяржыцца зымазка.* 2 *перан.* Адысці, аддзяліцца (пра ўсіх, многіх). *Маріні́ны хлопцы пыатпа́лі ат іхныя кымпаніі.*

ПААДПЛЯСЫВАЦЬ *зак.* Патанцаваць доўга з выкрутасамі. *Кума твыя ўчора ладна пыатпля́сывыла ны хрісьці́ных у Кындрацёнычка.*

ПААДПРЭЖЧ *зак.* Адпрэгчы (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Коні пытпряглі́ і спутылі ны лажку, а самі пашлі абедыць. Мы пытпрягём вазы лі іструба.* ПААДПРЭЖЦА *зак.* Адпрэгчыся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Як пріедзім, коні пытпрягу́цца і троху скубануць, пакуля тама пысядзім.* ПААДПРЭЖАНЫЙ *дзеепрым. Вазы пыатпрежыны кылы стагоў, тады падгонім і будзім уськідаць.*

ПААДПУСЦІЦЬ *зак.* Адпусціць усіх, многіх. *Можа іх сяньня з бульбы раншы пыатпу́сьцюць, баню прукурілі б.* ПААДПУСЦІЦЦА *зак.* Адпусціцца (пра ўсіх, многіх). *Ныўряд ці пыатпу́сьцюцца, там тожа работы вун сколька.* ПААДПУШЧАНЫЙ *дзеепрым. Тады яны пыатпу́шчыныя с Сапрынывіч прібігалі двору.* ПААДПУСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пыатпусьцёмшы вас, хто будзіць пасьвіць.*

ПААДСЕЧ *зак.* Адсячы ўсё, многае. *Кончыкі пыацьсякі́, толька чыпляцца імі будзіш.* ПААДСЕЧЦА *зак.* Адсячыся (пра ўсё, многае). *Хряпкі пыацьсяку́цца, а кареньня выкініцца.* ПААДСЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Зьнізу суччa пыацьсечына, большы чыпляцца ня будзіць.*

ПААДСОХНУЦЬ *зак.* Адсохнуць (пра ўсё, многае). *Ніжнія сукі на йгрушы пыацсохлі. Ніхай ім рукі пыацсохнуць, хто тута браў* (праклён).

ПААДСТАВІЦЬ *зак.* Адставіць усё, многае. *Снапы с-пат крышы пыацста́віў,— луччы сушыць, а яны ўсе нымяклі.* ПААДСТАВІЦЦА *зак.* Адставіцца (пра ўсё, многае). *А пыацста́вюцца твае чугункі пазьней, нічога зь імі ня зьдзелыіцца.* ПААДСТАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Едзь сьмела, ні за што ні зачэпісься, усе палкі ац стога пыацста́ўліны.*

ПААДСТАЦЬ *зак.* Адстаць (пра ўсіх, многіх). *Мы пашлі скарей, а тэя дзяўчонкі пыацста́лі далёка адззаду.*

ПААДСТРАІВАЦЬ, ПААДСТРОІЦЬ *зак.* Адбудаваць

усё, многае. *Айдзе яны маглі харошыя двары пыацстрáівыць, глядзелі, худзь ба якую халупінку пріпяць, каб ні сядзець пад голым небым. Ніплахея хаты пыацстроілі Аўгінкіны хлопцы.* ПААДСТРАІВАЦЦА, ПААДСТРОІЦЦА *зак.* Адбудавацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Некытырыя дзярэўні пыацстрáівыліся посьлі вайны, а ёсьць такея, што сьцёрлісь. Глядзі-ка, як яны ладна пыацстроіліся, стала вуліца луччы, чым была.* ПААДСТРАІВАНЫЙ, ПААДСТРОЕНЫЙ *дзеепрым. Пыацстрáівыны двары дай божа якея, ну і сілы пылажылі многа. Ня дужа важна, ну у нас кругом дзярэўні былі скора пыацстроіны.*

ПААДСУҚЫВАЦЬ, ПААДСУҚАЦЬ *зак.* Адкасаць усё, многае. *Пыацсýкывый рукавы, цяплей будзіць. А памойму, крысівей рукаўкі пыацсукáць.* ПААДСУҚЫВАЦЦА, ПААДСУҚАЦЦА *зак.* 1. Адкасацца (пра ўсё, многае). *Глядзі, кылашы́ны пыацсýкывыюцца і намочуцца. Пыацсуҡаліся рукавы, зусукайця узноў.* 2 *перан.* Адчапіцца (пра ўсіх, многіх). *Такея ныхалюгі, чуць пыацсýкывыліся. Як пыдыйшлі нашы хлопцы, тады пыацсукáліся.* ПААДСУҚЫВАНЫЙ, ПААДСУҚАНЫЙ *дзеепрым. Не, рукавы ў іх, кажыцца, былі пыацсýкывыны. Ҡылашы́нкі пыацсýкыныя, грязныя. Глянула б ты ны пыацсукáныя рукаўкі.*

ПААДТАПТЫВАЦЬ, ПААДТАПТАЦЬ *зак.* Паадтоптваць. *Вадзі кыня, ды астарожна, ато жарка, ён кідыіцца, можыць ногі пыаттáптывыць. Зыпяткі пыаттыптáла у тапычкых, яны нікчомныя сталі.* ПААДТАПТЫВАЦЦА, ПААДТАПТАЦЦА *зак.* Паадтоптвацца. *Хвасты якея-то цігаюцца ўсьлед, пыаттáптывыюцца, ты худзь ба пачшыла троху. Пантохлі твае і пыттыптáліся, і пырыстыпталіся, іх толька дальшы з вачэй закінуць.* ПААДТАПТЫВАНЫЙ, ПААДТАПТАНЫЙ, ПААДТОПТАНЫЙ *дзеепрым. Пыттáптывыныя махры атреж ззаду, ато толька будуць хлюпыцца пы грязі. Заднікі пыттыптаны, нада ў харошый рімонт аддываць, так насіць нілізя. Цігаюцца пыаттоптыныя канцы, во нізграйный чылавек.*

ПААДУРМАЧЫВАЦЬ, ПААДУРМАЧЫЦЬ *зак.* Адурманіць усіх, многіх. *Пыадурмáчывыюць етых вырынят і зыбяруць ягыды зы нішто. Такея прайдохі каго хочыш пыадурмáчуць.* ПААДУРМАЧЫВАЦЦА, ПААДУРМАЧЫЦЦА *зак.* Адурманіцца (пра ўсіх, многіх). *Хваціць з вас, вы і так пыадурмáчывыліся. Ці вы, людзі, пыадурмáчыліся, ці што йта з вамі тваріцца.* ПААДУР-

МАЧЫВАНЫЙ, ПААДУРМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Стыяць пыадурма́чывыныя нейкія, а, а — нічога ні сыабрыжаюць. Ну ладна, што вы ніскотька ні пыадурма́чыны.*

ПААДУРЭЦЬ *зак. перан.* Паачмурэць, паатлумліваццa. *Ці вы ета пыадурелі, што ўсякыю чуш ны чылавека прідумывыіця, ня чуўшы нічогінька.*

ПААДХАДЗІЦЬ *зак. перан.* Адтаць (пра ўсё, многае). *Як грубычку вы́тыпіш, і вокны пыатходзюць, а тады часы ціріз два узноў зымірзаюць.* ПААТАЙЦІЦЬ зак. 1. Паадыходзіць. *Пыатайдзі́ця дальшы, пыцяга можыць пыляцець уніз, дык пызыбіваіць.* 2. Аддзяліцца (пра ўсё, многае). *Планкі етыя нымяклі, а тады высыхлі і пыатыйшлі́, будуць кырбаціцца.* 3. Супакоіцца (пра ўсіх, многіх). *Яны ўсігда такея: зывядуцца, а тады пыатойдуць.* 4. Адтаць (пра ўсё, многае). *Зімля пыатойдзіць, і пычанём ямкі падзь дзеріўцы кыпаць.* ПААТАЙШОДЧЫ *дзеепрысл.* 1. Паадышоўшы. *Пыатыйшоччы, мы толька ўспомнілі, што ні рыскызалі ёй пры Мірінка.* 2. Аддзяліўшыся (пра ўсё, многае). *Тута доскі неік пыатыйшоччы, відна, гвозьдзя кароткыя, ні дзяржыць.* 3. Супакоіўшыся. *Як Толік пад'ехыў, яны ўжо былі пыатыйшоччы.* 4. Адтаўшы (пра ўсё, многае). *Такея марозы стыялі, зімля нійдзе ні пыатыйшоччы.*

ПААДЦІРАЦЬ *зак.* Памыць усё, многае. *Усе яго транты пыацьцірáла, вун сохнуць ны вярёўкі.* ПААДЦЕРЦЬ *зак.* 1. Адцерці ўсё, многае. *Ета чарнільныя плямы, іх ня дужа пыататреш.* 2. Памыць усё, многае. *Пыацьцёрла мальцывы рубашкі, сохнуць на печы, за ноч высыхнуць.* ПААДЦІРАЦЦА, ПААДЦЕРЦЦА *зак.* 1. Адцерціся, сцерціся (пра ўсё, многае). *Засохлыя гліна пыацьцірáіцца, ніхай саўсім дасохніць. Айдзе ж табе дзёгыць пыататрецца.* 2. Памыцца (пра ўсё, многае). *Ні знаю, можа заўтря трошку пыацьцірáіцца. Калі ж яно ў цябе пыататрецца, рызвадзі шчолык ды мый цяперя, ні атклыдаючы.* ПААДЦІРАНЫЙ, ПААДЦЁРТЫЙ *дзеепрым.* 1. Адцёрты, сцёрты (пра ўсё, многае). *Зімля пыацьцірáна, іна ні прісохла. Мел пыацьцёрт, а другея плямы усё дно як сальныя.* 2. Памыты (пра ўсё, многае). *Пыацьцірáныя разьвешыла ны вярёўкых. Вун усё пыацьцёртыя шырабу́рья сушыцца на жордычках.*

ПААДЦІСКЫВАЦЬ, ПААДЦІСНУЦЬ *зак.* Адціснуць усё, многае. *Астыражней кылы бярьвеньня, можна пальцы пыацьцíскывыць. Нада ўвесь творг пыацьцíскывыць, ні нада кідаць у сыўрыдкі. Рукі так пыацьцíсьніця, што*

*вы дзелыіця.* ПААДЦІСКЫВАЦЦА, ПААДЦІСКАЦЦА, ПААДЦІСНУЦЦА *зак.* Адцісна (пра ўсё, многае). *Што, вы хочыця, каб ногі пыацьціскывыліся, што пыцстыўляіця? Хырашо творг пыцьціскáўся, крімяныя сыркі, ніхай сохнуць. Як пацьцíснуцца пальцы, тады пысьмііцёся.* ПААДЦІСКЫВАНЫЙ, ПААДЦІСКАНЫЙ, ПААДЦІСНУТЫЙ *дзеепрым. Дзьмі цяперя сколька хочыш ны пыацьціскывыныя пальцы. Ета пыацьціскáныя тряпкі, у адну кучу ня прі. Не, большы творгу ні асталыся, увесь пыацьцíснут ны сыркі.*

ПААДЧАПЛІВАЦЬ, ПААДЧАПІЦЬ *зак.* Адчапіць усё, многае. *Папутыйця коні, пывады пыаччáплівыйця, ніхай троху скубануць. Усе вярёўкі я пыаччапіў, во яны вісяць пызьвязыныя.* ПААДЧАПЛІВАЦЦА, ПААДЧАПІЦЦА *зак.* 1. Адчапіцца (пра ўсё, многае). *Січас вярёвычкі пыаччáплівыюцца, тады піріпіліця і етыя жардзіны. Там ні зыцягнута, далжно лёхка пыччапіцца.* 2 *перан.* Адчапіцца (пра ўсіх, многіх). *Пыаччáплівыйціся вы ат етых дзяўчонык, нашто яны вам. Ня дужа яны пыаччэпюцца, назолы еткія.* ПААДЧАПЛІВАНЫЙ, ПААДЧЭПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пыаччáплівыныя ніты зынясі на клець і падвесь акуратнінька, каб ні выляліся як пупала. Борыны пыаччэпліны, іх нада пыт павець сыставіць.* ПААДЧАПЁМШЫ *дзеепрысл. Пыччапёмшы, скруці вярёвычкі ды павесь ну крючок.*

ПААДЧЫНЯНЫЙ, ПААДЧЫНЯТЫЙ *дзеепрым.* Парасчынены. *Ён усе пыаччыняныя вароты зычыніў і на чэп зыклаў. Мы зайшлі с Пракопіхыю, у іх кругом дзьверi пыаччыняты і ў хаці нікога німа.*

ПААДЧЫШЧЫВАЦЬ *зак.* Адчысціць усё, многае. *Так усё прікарела, што ня дужа лёхка пыаччы́шчывыць.* ПААДЧЫШЧЫВАЦЦА *зак.* Адчысціцца (пра ўсё, многае). *Калі ў цябе грязь пыаччы́шчывыіцца ад ґанык, ступіць нілізя.* ПААДЧЫШЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Пыаччы́шчывына, дык хуць прайціць можна, як у людзей.*

ПААКАЛЯВАЦЬ *зак.* 1. Памерзнуць пэўны час. *Адзін раз пыакылівáіць, тады будзіць знаць, што нада ныдзівацца.* 2. Памерзнуць (пра ўсіх, многіх). *Хыладзіна пытхвацілыся неік зразу, мы пыакылівáлі на полі, дайжа агню нечым було рыскласьць.*

ПААКАНОМНІЧАЦЬ, ПААКАНОМНІЧАЦЦА, ПААКАНОМІЦЦА *зак.* Паэканоміць пэўны час. *Што ты пыаканомнічыіш, калі нічога дужа німа пріблюдаць. Як іна пыаканомнічылыся, прібірігла пару кусочыкыў*

*сала. Ні хыця пыаканомісься, калі ўсяго ў абрез і купіць дужа німа за што.*

ПААКУПІРЫЦЬ *зак.* Уладкаваць усіх, многіх. *Гываріла, каб дзяцей скарей пыакўпіріць, а тады ўжо ніхай будзіць як будзіць.* ПААКУПІРЫЦЦА *зак.* Уладкавацца (пра ўсіх, многіх). *Ніхто ім ні пымыгаў, ніхто ні ўстраівыў, самі пыакўпіріліся.* ПААКУПІРАНЫЙ *дзеепрым. Чаго табе тушнуваць, у цябе ма́лыя ні пішчаць, твае пыакўпіріны.*

ПААМАЦЬ, ПААМКАЦЬ *зак. дзіц.* З'есці, паесці. *Січас мы с Тонію пыа́мыім, а тады пойдзім гуляць на вулічку. Я нальлю крупенькі, і мы с табою пыа́мкыім.* ПААМАНЫЙ, ПААМКАНЫЙ *дзеепрым. Німа нічога, усё пыа́мына. У місычкі быў куляшок, дык пыа́мкын ужо.*

ПААПУСЦІЦЬ *зак.* 1. Апусціць, спусціць усё, многае. *Карзінкі зь яблыкымі астарожна пыапусьці́ця.* 2 *перан.* Спыніць догляд. *Ня хочыць ні за чым глядзець, дзяцей пыапусьці́ла,— во матка дык матка.* ПААПУСЦІЦЦА *зак.* 1. Апусціцца, спусціцца (пра ўсё, многае). *Ношкымі трыва пыапўсьціцца с хаты і зынясецца ў сяніцу.* 2. Спыніць догляд за сабой. *Як ім ня стыдна так пыапусьці́цца.* ПААПУШЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Апушчаны, спушчаны (пра ўсё, многае). *Ета хырашо, што бруква пыапўшчына, мне ня прідзіцца цяжыль цігаць.* 2. Неахайны (пра ўсіх, многіх). *Валочуцца пыапўшчыныя, усё дно як пасьледнія дні дыжываюць.* ПААПУСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Апусціўшы, спусціўшы ўсё, многае. *Бочкі пыапусьцёмшы ў погріб, цяперіцька я спакойна.* 2. Апусціўшыся (пра ўсіх, многіх). *Вот як ета ні прігледзіць сябе, так пыапусьцёмшы вылачыцца.*

ПААПУХНУЦЬ *зак.* Апухнуць (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Застўджыны ногі змалку, паетыму і пыапўхлі, іна чуць хату піряходзіць.* ПААПУХЛЫЙ *дзеепрым. Нагледзіліся мы ўсяго, пыапўхлых людзей сколька відзілі, ад голыду пухлі.*

ПААСВАБАЖДАЦЬ *зак.* Вызваліць усё, усіх, многае, многіх. *Тады мы многа людзей пыасвыбыжда́лі, што немцы сыгналі ў Гірманію.* ПААСВАБАЖДАЦЦА *зак.* Вызваліцца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Каторыя пыасвыбыжда́ліся, прішлі, а дужа многа тама пагінула.* ПААСВАБАЖДАНЫЙ *дзеепрым. Пуні пыасвыбыжда́ны, можна скот зыгыняць, каровым будзіць нядренна.*

ПААСЛАБЕЦЬ, ПААСЛАБНУЦЬ *зак.* Аслабець (пра ўсіх, многіх). *Якога ты помычу хочыш ац старых, яны*

*пыаслабелі, с трудом ходзюць. Рукі пыасла́блі, палку дроў унесьць і то цяжола.* ПААСЛАБЕЛЫЙ, ПААСЛАБЛЫЙ, ПААСЛАБШЫЙ *дзеепрым. Коні пыаслабелыя выйшлі зь зімы, пакуля яны ны траве ат'ядуцца. Ат пыасла́блых помышчы бальшэя ня жджы. Пыасла́бшыя настолька былі, што чуць ногі пірістыўлялі.*

ПААСТАЎЛЯЦЬ *зак.* Пакінуць усё, усіх, многае, многіх. *Пыастыўля́лі вілкі, лупаткі ны гародзі кылы прясла, пытхадзі, бярі хто хочыш.* ПААСТАЎЛЯНЫЙ *дзеепрым. Што ж у вас хаты пыастыўля́ны біс прігляду, ніхай ба прімкнулі троху.*

ПААСТАЦЦА *зак.* Застацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Летыся травы многа пыаста́лыся ніпакошыныя, ладныя атава зызімувала, а кыравёнкым скасіць ні далі. Што там яшчэ пыасталося?*

ПААСТЫЦЬ *зак.* 1. Астыць (пра ўсё, многае). *Садзіціся заўтрікыць, усё наліта і пыстаўліна, ато пыасты́ніць.* 2 *перан.* Супакоіцца (пра ўсіх, многіх). *Сьпірва ого як зывяліся, рысхадзіліся, пряма кіпелі, а тады пыасты́лі.*

ПААТАБРАЦЦА *зак.* 1. Адабрацца (пра ўсё, многае). *Лаўчэйшыя кылячкі пыадбяру́цца ны прясла.* 2 *перан.* Здаволіцца. *Прільнулі к вёдрым, ат вады пыатыбра́цца ня могуць.*

ПААТАРВЫВАЦЬ, ПААТАРВАЦЬ *зак.* Адарваць усё, многае. *Луччыя достычкі пыата́рвывый ды ў пуню складзі, могуць прігадзіцца. Тады, як пыгарелі, усю апшыўку с цэрьквы пыатырва́лі.* ПААТАРВЫВАЦЦА, ПААТАРВАЦЦА *зак.* Адарвацца (пра ўсё, многае). *Многа ныдзіржаліся яго пугывіцы, усе пыата́рвывыліся. Доўга етым крючкам пыатырва́цца.* ПААТАРВЫВАНЫЙ, ПААТАРВАНЫЙ *дзеепрым. Усё пыта́рвывына, пыраськідына, ніхто ні за чым ні глядзіць. Пытырва́ныя шалёўкі кылы сьцяны с таго боку.*

ПААТВАДЗІЦЬ, ПААТВЕСЦЬ *зак.* 1. Адвесці ўсіх, многіх. *Мы чуць пасьпелі коні пыатвадзі́ць, як крыша рухнула. Іх ат магіл чуць пыатвялі́, млелі ўсё.* 2. Выдзеліць. *Пыатвадзілі ім ладныя участкі жыта, лашчынкі с травою, скосюць. Заўтря і вам пыатвяду́ць полысы, ні гарюйця.* 3. Адвесціся (пра пароду). *Хочыць пыатвадзі́ць сабе такіх сьвіньней. Ні знаю, як пыатвесьць еткіх авечык.* ПААТВАДЗІЦЦА, ПААТВЕСЦА *зак.* Адвесціся (пра пароду). *Такея ладныя пырысяткі пыатвадзі́ліся ат каўшоўскыга хляка. Во каб мне пыатвесаца с такімі ціплят-кымі.* ПААТВЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адведзены (пра

ўсіх, многіх). *Ета ладна, што каровы аттуля былі пыатведзіны.* 2. Выдзелены. *Луччыя ўчасткі сваім пыатведзіны.*

ПААТВАЛІЦЬ *зак.* Адваліць, адкінуць усё, многае. *Каб такея калоды пыатваліць, нада ні абы-ікая сіла.* ПААТВАЛІЦЦА *зак.* 1. Адваліцца, упасці (пра ўсё, многае). *Ня хочыць зымазка дзіржацца, пасьці ўся пыатвалілыся. 2 перан.* Адысці. *Наеліся і пыатваліліся ац стыла.* ПААТВАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Усе твае патпоркі пыатвáліны і вароццы рашчы́ніны напіта.* ПААТВАЛЁМШЫ *дзеепрысл. Гліна кускамі пыатвалёмшы.*

ПААТВАРАЧЫВАЦЬ, ПААТВАРОЧЫВАЦЬ, ПААТВЯРНУЦЬ *зак.* 1. Адвярнуць усё, многае. *Каб етыя камні пыатвырáчывыў ды пыаткаціў куды ґ боку, тут ба места-места свабодныга. Чуць пыатварочывылі бярьвеньня, яно пряма урасло ў зямлю. Ня дужа такея калоды пыатверніш.* 2. Адагнаць, завярнуць усіх, многіх. *Скорінька пыатвырáчывый кароў ат выку, ато яны січас край саб'юць. Чаго ты коні ні пыатварочывыіш, цірізь мінуту у клеўрі будуць. Нада пыатвярнýць кароў, яны вот-вот у авёс зойдуць.* ПААТВАРАЧЫВАЦЦА, ПААТВАРОЧЫВАЦЦА, ПААТВЯРНУЦЦЦА *зак.* 1. Адвярнуцца (пра ўсё, многае). *Ня думый, што лёхка такея гняты пыатвырáчывыюцца, іх каб ломым падзьдзёўб. С трудом каменьня пыатварочывылыся. Якоя глыжжа пыатвярнýлыся трактырым!* 2. Адвярнуцца (пра ўсіх, многіх). *Тэя хочуць пыдыйціць, пыгываріць, а дзеўкі пыатвырáчывыліся, усё дно як ні зымічаюць. Ты сам увідзіш, як яны пыатварочывыюцца. Нешта ні пыныравіліся ім хлышчоўскія хлопцы, пыатвярнýліся.* 3. Адагнацца, завярнуцца (пра ўсіх, многіх). *Ні пыатвырáчывыюцца, а січас бягі і адгонь. Сьвіньні пыатварочывыліся, ну яны узноў у бульбу палезуць. А пыатвернуцца авечкі, нікуды яны ні пыбігаць.* ПААТВАРАЧЫВАНЫЙ, ПААТВАРОЧЫВАНЫЙ, ПААТВЕРНУТЫЙ, ПААТВЯРНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Адвернуты (пра усё, многае). *Пыатвырáчывыныя аглоблі складжыны нывярьху, ны бальхых. Во трактыр вуювайся: цэлыя кусты пыатварочывыны. Калодзьдзя пыатвернута, ніхай прысыхаіць. Гняты пыатвярнýты, яны пряма ўрасьлі кылы сажылык.* 2. Адагнаны, завернуты (пра ўсіх, многіх). *Ціляты пыатвырáчывыны, а ў кусты ніхай лезуць, тама шкоды німа. Што, кылі пыатварочывыны, пацьцёлкі зь естыга боку у тэй шмыгнуць. Скот пыатвернут, можна пысядзець. Стыяць каровы пыатвярнýтыя, большы яны нікуды ні палезуць.*

ПААТВЕЦІЦЬ *зак.* Панесці адказнасць (пра ўсіх, многіх). *Ну так вам ні абойдзіцца кража, вы за ўсё пыатвеціця.* ПААТВЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Ага, будзіць пыатвечына, дужа такея махырі каго спужаюцца.*

ПААТВЕШЫВАЦЬ, ПААТВЕСІЦЬ *зак.* Адвесіць усё, многае. *Пыатвешывый вокны, цімнувата ў хаці, цяремуха зыгыраджывыіць сьвет. Ці табе трудна пыатвесіць пасьцілкі, чаго ім буўтацца.* ПААТВЕШЫВАЦЦА, ПААТВЕСІЦЦА *зак.* Адвесіцца (пра ўсё, многае). *Калі ў цябе ета тряп'ё пыатвешывыіцца, ны яго глядзець нікрасіва. Каб набожнікі пыатвесіліся, лаўчэй ба було: іконы красівыя.* ПААТВЕШЫВАНЫЙ, ПААТВЕШАНЫЙ *дзеепрым. Сяньня ў яе усё пыатвешывына, можна пыглядзець. Вокны пыатвешыны, аж вісялей у хаці стала.*

ПААТВЯЗАЦЬ *зак.* Адвязаць, развязаць усё, усіх, многае, многіх. *Пыатвяжы́ця хусткі, у хаці цёпла, вы зыпаріціся. Коні пыатвіза́лі і вядуць.* ПААТВЯЗАЦЦА *зак.* 1. Адвязацца, развязацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Чуць пыатвіза́ліся вярёўкі, дужа крепка былі зыцягнуты.* 2 *перан.* Адчапіцца (пра ўсіх, многіх). *Каб вы пыатвіза́ліся ат нас, якея б вы былі харошыя.* ПААТВЯЗАНЫЙ *дзеепрым. Коні пыатвя́зыны, едзьця. Пыатвіза́ныя сувайкі ні выкідай, яны ішчэ спына́дыбюцца.*

ПААТ'ЕХАЦЬ *зак.* 1. Паад'язджаць. *Молыдзіж пыат'ехыла, некыму ў дзіріўня́х работыць.* 2 *перан.* Адстаць, адсунуцца (пра ўсё, многае). *У марозы печы дзьве спалю бярёзывых дроў, і ня грела, пыат'ехыў мох.*

ПААТЛУПІЦЬ *зак.* 1. Адлупіць усё, многае. *Шкурку пыатлупіў і зьеў, а сала асталыся, пуд рушніком ляжыць.* 2 *перан.* Рэзка адарваць. *Кускі ат рубашкі пыатлупіў, во што ён зьдзелыў, ну іна ўжо старінькыя была.* ПААТЛУПІЦЦА *зак.* 1. Адлупіцца (пра ўсё, многае). *Шпалеры пыатлупіліся, відна, клей якей-то слабый.* 2. Рэзка адарвацца. *Такея кускі ўцэла пыатлупіліся!* ПААТЛУПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Рэзка адарваны. *Ці відзіш, якея шматы ат прысьціны пыатлу́пліны, спорчына прысьціна.* ПААТЛУПЁМШЫ *дзеепрысл.* Рэзка адарваўшы, адарваўшыся. *Бумага пыатлупёмшы аць сьцяны, ня хочыць дзіржацца.*

ПААТЛЯЦЕЦЬ *зак. перан.* 1. Адарвацца (пра ўсё, многае). *Як смыргануў яго за́грудкі, усе пугыўкі пыатляцелі.* 2. Адскочыць (пра ўсіх, многіх). *Стыхван крутнецца, дык яны ат яго пытліця́ць як мухі.*

ПААТМАСТАЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць выключна, па-майстэрску ўсё, многае. *Такея дзьвері пыатмыста́чылі, толька любувацца,— прігожа зьдзелына.*

ПААТМАТЫВАЦЬ, ПААТМАТАЦЬ *зак.* Адматаць усё, многае. *Ты сабе ўсякіх нітык пыатма́тывый і ні забудзь іголку. Нітык як пыатмыта́іш, складзі у свой чумуданчык.* ПААТМАТЫВАЦЦА, ПААТМАТАЦЦА *зак.* 1. Адматацца (пра ўсё, многае). *Тута столька накручына, ні прідумыіш, як яно пыатма́тывыіцца. Ну ладна, вярёўкі пыатмыта́ліся, цягні жэрдзь.* 2 *перан.* Выбавіцца. *Неік ім удалося пыатма́тывыцца тэй раз. Такея прайдохі жыва пыатмыта́юцца.* ПААТМАТЫВАНЫЙ, ПААТМАТАНЫЙ *дзеепрым. Провылка с кольля пыатма́тывына, вун, кыла жэрдзя ляжыць. Во і пасьледнія сувайкі пыатма́тыны. Тряпкі з рукі пыатмыта́ны, ды яны прікареўшы былі.*

ПААТМЫЦЬ *зак.* Адмыць усё, многае. *Такоя зыкарелыя пыатмы́ць зразу трудна.* ПААТМЫЦЦА *зак.* Адмыцца (пра ўсё, многае). *Дужа пызысыхала ўсё, ні знаю, калі яно пыатмы́іцца.* ПААТМЫТЫЙ *дзеепрым. Грязі, грязі було ўсюдых, а цяперь глянь-ка, як чысьцінька пыатмы́та.*

ПААТМЯКАЦЬ *зак.* 1. Пабыць у адмочванні пэўны час. *Кладзі усё тряп'ё у шаічку, ніхай пыатміка́іць, тады ны аборку вы́пылышчу.* 2. Адмякнуць (пра ўсё, многае). *Пылажыла ў шчолык, дык усё пытміка́ла.* ПААТМЯКНУЦЬ *зак.* Адмякнуць (пра ўсё, многае). *Усё, што ты клеіла, пытмя́кла, пацёкі па сьценых пашлі.* ПААТМЯКЛЫЙ *дзеепрым. Выкінь пыатмя́клыя кыржакі, каб ні плавылі ў шайкі.*

ПААТНЯЦЬ *зак.* Пааднімаць. *Пыатнімі́ адж жару чугункі, яны ажно хляхочуць.* ПААТНЯЦЦА *зак.* Пааднімацца. *Здароўя пыатнялося, чуць хату піріпуўзаюць, во горя ныва́лілыся.* ПААТНЯТЫЙ *дзеепрым. Ціляткі пыатня́ты ат кароў.*

ПААТРАЗАЦЬ, ПААТРЭЗАЦЬ *зак.* Адрэзаць усё, многае. *Паплецiны былі дужа доўгія, мы пыатрiза́лі канцы. Касілкыю касілі, ногі птушунятым пыатрезылі, яны пырьхыюць, кідыюцца, мучыюцца.* ПААТРЭЗАЦЦА, ПААТРЭЗЫВАЦЦА *зак.* Адрэзацца (пра ўсё, многае). *Во етыя канцы пыатрежуцца і ня будуць мішаць. Усё ўжо пыатрезывылыся, нечыга большы резыць.*

ПААТРЭЧЦА *зак.* Адрачыся (пра ўсіх, многіх). *Як ета можна ат родных матык пыатрецца. Пытряклі́ся, што яны етыга ня дзелылі.*

ПААТ'ЯДАНЫЙ, ПААТ'ЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым.* Ад'едзены, адгрызены (пра ўсё, многае). *Гляджу, жайцеюць капу́сьцінкі, пыцягнула — дык яны ў зямле пыат'іда́-*

*ныя, ці ні мядзьвёдка ходзіць. Калі кыряанькі пыат'едзіныя, нічога росьць ня будзіць.*

ПААХМУРЫВАЦЬ, ПААХМУРАЦЬ *зак.* 1. Пападманваць пэўны час. *Цяперя ён хочыць пыахмýрівыць Сьціпанідзіну пляменьніцу. Пыахмурялі троху Проську, ды відзюць: ні на тую нырваліся.* 2. Падмануць усіх, многіх. *Таго пыахмýрівылі, што ні сваёю гылавою жывуць. Пыглідзіцё, што іх тамыцька пыахмуряюць, як вырынят якіх.* ПААХМУРЫЦЬ *зак.* Падмануць усіх, многіх. *Не, Ірмычынят пыахмуріць ім ні ўдасца, яны сымыстыяцільныя хлопцы.* ПААХМУРЫВАНЫЙ, ПААХМУРАНЫЙ, ПААХМУРОНЫЙ *дзеепрым. Вот і Высілёвы хлопцы пыахмýрівыны. Відзіш, пыахмýріным троху стыдна стала. Яй-богу, і етыя будуць такея самыя пыахмуряныя. Мы пынялі, што яны пыахмурёны.* ПААХМУРОМШЫ *дзеепрысл. Пыахмурёмшы, Пуўлючкі пыд яго дудку пяюць.*

ПААХОЦІЦЦА *зак.* Захацецца. *Буваіць, пыахоціцца гурка, ачшчыпну, зьем іс солькыю, а тады як хваціць пуд грудзямі, цэлый дзень зырізаіць.*

ПААЧУМАЧЫВАЦЬ, ПААЧУМАЧЫЦЬ *зак.* Задурыць, атлуміць усіх, многіх. *Дужа неслухі бальшэя, яны ўсіх тута пыачумáчывыюць. Ніхай троху пабудуць, стáрых яны зы пару дней пыачумáчуць.* ПААЧУМАЧЫВАЦЦА, ПААЧУМАЧЫЦЦА *зак.* Задурыцца, атлуміцца (пра ўсіх, многіх). *Калі хочыця пыачумáчывыцца, вазьміця мáлых, толька посьлі ні кайціся. Ці вы тута ні пыачумáчыліся ат віску ды ґвалту?* ПААЧУМАЧЫВАНЫЙ, ПААЧУМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Мы выйшлі аттуля пыачумáчывыныя. Ня толька вы адны пыачумáчыныя.*

ПААЧУМЛЯЦЬ, ПААЧУМЛІВАЦЬ, ПААЧУМІЦЬ *зак.* Атлуміць усіх, многіх. *Пайдзíця, пайдзíця, яны вас тама пыачумляюць. У іх такоя галдзеньня, могуць зы два дні пыачýмлівыць. Вы сваім сквілым пыачумíлі,— штоб хто з вамі хуць ны адзін дзень астаўся!* ПААЧУМЛЯЦЦА, ПААЧУМЛІВАЦЦА, ПААЧУМІЦЦА *зак.* Атлуміцца (пра ўсіх, многіх). *Большы мы ня пойдзім туды нагою, учора пыачумлялі́ся, што сяньня ні ачýхыимся. Пыачýмлівыцца нада — у такой тлумíшчы сьседзіць дзень. Пысідзіцё нядзелю — вы зь імі пыачýміціся.* ПААЧУМЛЯНЫЙ, ПААЧУМЛІВАНЫЙ, ПААЧУМЛЕНЫЙ *дзеепрым. Выйшлі пыачумляныя, хуць дарогу двору спрашывый. Што йта вы нейкія пыачýмлівыныя, ай вас так хырашо устрічалі? Ні знаю, чаго яны пыачýмліныя.* ПААЧУМЁМШЫ *дзеепрысл. І Храсіньніны госьці былі пыачумёмшы.*

ПАБАБУХАЦЬ *зак.* Пастраляць, пагрукаць пэўны час. *Троху пыбабу́хылі у том баку, ну скора пірісталі. Як мост строілі, ладна пыбабу́хылі, аж тута чутна було.*

ПАБАБЧЫЦЬ *зак.* Апрацаваць, падрыхтаваць абыяк. *Айт, спряла — пыба́бчыла воўну, с такіх нітык нічога ня зьдзелыіш.* ПАБАБЧЫЦЦА *зак.* 1. Паскручвацца. *Што крута спряла, паетыму ніткі пыба́бчыліся.* 2. Пакешкацца. *Дужа яны многа зьдзелылі, пыба́бчыліся лі тряпык.* ПАБАБЧАНЫЙ *дзеепрым.* Скручаны ў вузялкі. *Не, с пыба́бчыных сувайкоў харошыя вярёўкі ні палучыцца.*

ПАБАГАВАЦЬ *зак.* Пажыць багата, раскошна. *Адно ўремя яны, праўда, пубугува́лі, а так у іх дужа ні пранцыў ні було.*

ПАБА́КАЦЬ *зак.* Пабляяць пэўны час. *Зь вечыра ста́рыя аўца нечыга пыба́кыла, я яе па голысу пызнаю.*

ПАБАЛАМУЦІЦЬ, ПАБАЛАМУЦІЦЦА *зак.* Павычвараць. *Старшый Ганьнін летыся пріїжджаў, нічога ёй ні памог, пабыламу́ціў тута ды паехыў. А ня трогый чарцей, пыбыламу́цюцца ды ўнімуцца, зывалюцца спаць.* ПАБАЛАМУЧАНЫЙ *дзеепрым. Тама було раншы пыбыламу́чына, нідырма Аксюта усё дапытывылыся: а што ім нада?*

ПАБАЛДЗІЦЬ *зак. неадабр.* Пабалбатаць. *Цігаіцца пы дзяреўні, шукаіць, каб сь кім пыбалдзі́ць, другога зыняція ні находзіць.* ПАБАЛДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пыбалдзёмшы кылы Ільлі, пыцягнуўся у другей канец.*

ПАБАЛЕЦЬ *зак.* Захварэць (пра ўсіх, многіх). *У школі як жылі, ціх ываліўся, чуць ня ўсе зразу пыбалелі, у бальніцы ліжалі.*

ПАБАНІЦЦА *зак.* Памыцца ў лазні. *Посьлі скырадзьбы хырашо пыба́ніцца, увесь пыл змыіцца, а за борынымі пылішча-пылішча.* ПАБАНЕНЫЙ *дзеепрым. Во якей ты ідзеш красівінькій пыба́ніный, увесь розывінькій.*

ПАБАРАБАНІЦЬ *зак. метаф.* Паслужыць. *Наш у хлоці ладна пыбырыба́ніў, як пашоў, дык ціpясь сем гадоў вярнуўся.*

ПАБАРАНЦІЦЬ, ПАБАРАНЦЕЦЬ, ПАБАРАНЦІЦЦА, ПАБАРАНЦЕЦЦА *зак. неадабр.* Пагаварыць попусту, паплявузгаць. *Разьві ні знаіш, чаго яны сыбіраюцца?— каб пыбыраньці́ць. Дужа ім хочыцца пыбыраньцець, пыцягнуліся к Самсоніхі. Сьпірва пыбыраньціліся кылы бані, тады пашлі пыд Бырысёнчыху. Сьціпаніха пыбыраньцелыся у Цімошыхі, ідзець нызад.*

ПАБАРАХОЛІЦЬ, ПАБАРАХОЛЬНІЧАЦЬ, ПАБАРАХОЛІЦЦА, ПАБАРАХОЛЬНІЧАЦЦА, ПАБАРАХЛІЦЦА, ПАБАРАХЛЕЦЦА *зак. неадабр.* Пабалбатаць. *Яны і сыбіраюцца, каб пыбырахоліць, чаго ж яшчэ. Пысідзяць, пыбырахольнічыюць і рысьцягнуцца. Я знаю, што ў Мікіціхі пыбырахоліліся, большы ніўдзе. Троху пыбырахольнічыюцца і рыспаўзуцца, пыдажджы трошку. Нямнога кылы Гыўрілёнка пыбырахліліся, тады с Хадосычкіныю дачкою доўга стыялі. Сыйшліся, каб пыбырахлецца, чаго ж яны столька сядзець будуць.*

ПАБАРАХЦІЦЬ, ПАБАРАХЦЕЦЬ, ПАБАРАХЦІЦЦА, ПАБАРАХЦЕЦЦА *зак. неадабр.* Пабалбатаць, пабубнець. *Прідзіць, пыбырахціць, во чаго ён зыявіцца. Доўга сяньня ні стыялі, троху пыбырахцелі і рызыйшліся. Абея любюць пыбырахціцца, ета ў іх самыя луччыя зынящія. Ну ізьвесна, чаго яе туды цягніць: пыбырахцецца зыхацелыся.*

ПАБАРСТВАВАЦЬ, ПАБАРСТВАВАЦЦА *зак.* Пажыць па-панску. *Хацеў ба пыба́рствывыць, ды ніхто зы яго зырыбляць ні зьбіраіцца. Паўгода пыба́рствывыўся, а цяперя прідзіцца сымаму рукі кы ўсяму пріклыдаць.*

ПАБАСЯЧЫЦЬ, ПАБАСЯТНІЧАЦЬ, ПАБАСЯЧЫЦЦА, ПАБАСЯТНІЧАЦЦА *зак.* Пажыць па-басяцку. *Яны б і большы пыбыся́чылі, ды іх скора рызыгналі. Нейдзі пыбыся́тнічыў гады два, а посьлі сюда пріцягнуўся. Ныўрад, каб ён айдзе работыў, пыбыся́чыцца і нызад зыявіцца. Бацька ні дасьць яму пыбыся́тнічыцца, паедзіць, дык палкыю пртурыць.*

ПАБАЎДЗЮЛІЦЬ, ПАБАЎДЗЮЛІЦЦА *зак. іран.* Пагаварыць пустое. *Мікіпырёнык тожа пысядзеў з намі, басьні свае пыбаўдзю́ліў. Сходзюцца туды пыбаўдзю́ліцца, а што ім яшчэ дзелыць біз работы.*

ПАБАЎТАЦЦА *зак. метаф.* Пашвэндацца. *Антон тожа троху пубуўтаўся пы бызару, ды некуды пашоў.*

ПАБЕЖЧ *зак. перан.* Пацячы. *Прыкапывый аць сьцяны ручаёк, ато выда можыць пабежч у погріб.*

ПАБІБАЦЬ, ПАБІБКАЦЬ, ПАБІБАЦЦА, ПАБІБКАЦЦА *зак. эмац.* Патупаць. *Што іна дужа дзелыіць? — пабібыіць кыла печы, есьць зваріць, пырасёнку спаріць чугунок дый сядзіць у хаці. Як жа залежывыцца, нада пабібкыць трошку, рысхадзіцца. Пабібыюся ны дваре ды во сяджу, греюся. Ну як ні пабібкыцца, нада хуць патрошку вурушыцца.*

ПАБІВАЦЬ 1 *зак.* Пабіць шмат разоў. *Жонку дугою*

*пыбіва́ў пы гылаве і забіў, сіроты асталіся.* 2 *зак.* Пааббіваць пэўны час (лён). *Два вечыры Васіль пыбіва́ў лён, троху памог, біць яго нялёхка.* 3 *зак.* Прычыніцца надоўга (пра кашаль). *Мой ладна у лесі пацстыў, кашыль яго етыя дні крепка пыбіва́ў.* 4 *зак.* Пакалоць пэўны час. *Пірімяні-ка ты бацьку, пыбіва́й троху дровы, ато ён саўсім зымаріўся.* 5 *незак. перан.* Пераўзыходзіць.*Я ўсіх пыбіва́ла сьцішкамі, а Васіль луччы быў ны ріхмеціку.* ПАБІВАЦЦА *незак.* Прасіць, пабірацца. *Не, думыю, як буду жыць — ня жыць, ну пыбіва́цца ні пайду.*

ПАБІЛЯБЕНІЦЦА *зак. экспр.* Пабалбатаць. *Во пыдыбраліся нявестка і сьвякрова, абея любюць пыбілябеніцца.*

ПАБІРАЦЬ *зак.* Папарваць (лён), пазбіраць (ягады) пэўны час. *Мы да позных абедыў пыбіра́лі лён, а тады прабеглі пу кустах, трошку грібоў найшлі.* ПАБІРАЦЦА *зак.* Папарвацца пэўны час (пра лён). *Калі да беда прітна пыбіра́іцца, то тута пасьці нічога ні аста́ніцца.* ПАБРАЦЬ *зак.* 1. Павырываць (лён, каноплі). *Каноплі як пыбяру́ць, абізацільна ставюць сушыцца.* 2. Узяць замуж усіх, многіх. *Тады нашы з Лабковіч пыбра́лі етых крысавіц, прівязьлі сюда.* ПАБРАЦЦА *зак.* Павырывацца (пра лён, каноплі). *Лён як пыбярецца, калі трыва ёсьць, дык косюць ільнішча.* ПАБРАНЫЙ, ПАБРАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Павырываны (пра лён, каноплі). *У нашый брігадзі увесь лён пыбра́н. Пыбра́тыя каноплі пат крышу становюць сушыцца.* 2. Узяты замуж (пра ўсіх, многіх). *У іхных хлопцыў красівыя жонкі пыбра́ны. У нас усе дзеўкі пыбра́ты, не сь кыга выбіраць.* ПАБРАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Узядзены (пра ўсё, многае). *Думыю, січас смылічкамі рыстаплю печ, гляджу, айдзе мае смылячкі — німа, пыбра́джыны.*

ПАБІЦЬ *зак. перан.* 1. Растрэсці. *Нашлежнікі заснулі, а коні уваліліся ны жатыя, пабілі капёшкі ячменю.* 2. Пакапаць, выкапаць. *Толькі пабілі ямкі пач шульля, а тута ўзыйграліся: на луг, на луг,— некылі прікыпаць.* ПАБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Растрэсены. *А што ты зьдзелыіш, нада схадзіць пірікласьць пабітыя копы.* 2. Пакапаны, выкапаны. *Ямкі пабіты, стаўця штындары ды нывадзіця хундамінт.*

ПАБЛАЖЭНСТВА *н.* Паблажка. *Яму усюдых було пыблажэнства, ну ат мяне ніхай ня жджэць.*

ПАБЛУТУНЯЦЬ, ПАБЛУТУНЯЦЦА *зак. неадабр.* Пашвэндацца. *Нейдзі публутуняў с пайгода, а цяперь*

*узноў тута аціраіцца. Сьпірва публутуняўся па горыду, тады зьехыў, другей год ня чутна.*

ПАБЛЫНДАЦЦА *зак. неадабр.* Паблукаць, пахадзіць бязмэтна. *Во пыглядзіш, паблындыіцца месіцы два і нызад явіцца, папомніш маё слова.*

ПАБЛЫТАЦЬ, ПАБЛЫТАЦЦА *зак. перан.* Паблукаць. *Гываріла Маўріна дычка, што ён троху у Воршы паблытыў, а тады ў Віцібск пыдаўся. Андрюшчыхін сын паблытыўся нейдзі с паўгода, а заўчора прікаціў двору.*

ПАБЛЫТЫКАЦЬ, ПАБЛЫТЫКАЦЦА *зак. рэдкаўж.* Паблукаць. *Глядзіць, каб пыблытыкаць айдзе нядзелю, айдзе дзьве. Во сам увідзіш, яны пыблытыкаюцца месіцы два-трі і ўзноў тута ачынуцца.*

ПАБЛЮСЦЬ *зак.* Паберагчы пэўны час. *Гываріла, што кілбаскі публюдзець троху, а сколька іна нублюдзець, хто яе знаіць.*

ПАБОЙ *м.* Нанясенне ўдараў. *Зы цяжкій пабой яму б далі, ета толька яны ні зыхацелі ў дальнейшыя зыхадзіць.*

ПАБОЛЕЦЬ, ПАБОЛЕЦЦА *зак.* Падрасці, зрабіцца большым. *Лянь-ка, як твае мальцы паболілі, Іванька с табою ровін. Растуць твае яблынкі, заметна паболіліся.*

ПАБРАЗКАЦЬ, ПАБРАЗКАТАЦЬ *зак.* 1. Пабразгаць. *Мальцы нейкім жалезьзім пыбрязкылі кылы ґанык. Ня трогый малых, пыбрязкочуць і ўнімуцца, ета зыняція найшлі.* 2 *перан. неадабр.* Паплявузгаць. *І пра Косьцікывых пыбрязкыюць, так ні прымінуць. Разумныга нічога ні скажуць, ім абы пыбрізкытаць.* ПАБРАЗКАЦЦА, ПАБРАЗКАТАЦЦА *зак.* 1. Пабразгацца. *Калі ні прівяжыш крепка, дык пыбрязкыюцца жалезныя пруты. Абы-як складыіш, узноў пыбрязкочуцца вёдры.* 2. Паплявузгаць. *Сыбяруцца умесьці, пыбрязкыюцца ды разойдуцца. Чаго ж яшчэ, пыбрізкытацца сходзюцца.* ПАБРАЗКАНЫЙ, ПАБРАЗКАТАНЫЙ *дзеепрым.* Паплявузганы. *Ужо і пру Кузьмянковых пыбрязкына,— нікога ні прапусьцюць. Сколька ні пыбрізкытана, але ж ні прымінулі.*

ПАБРАХАЦЦА *зак. асудж.* Пасварыцца. *Ахоту маіця — пыбряшыціся, а мне усё ройна, ці вы бріхніцё, ці прымыўчыцё.*

ПАБРУДЗЯНЕЦЬ, ПАБРУДЗЯНЕЦЦА *зак.* Зрабіцца больш брудным. *Твыя куртычка і раншы была грязныя, а цяперя яшчэ большы пубрудзянела. Хылацікі пубрудзянеліся, нілізя ныдзівацъ, мыць нада.* ПАБРУДЗЯНЕЛЫЙ *дзеепрым. Пубрудзянелыя тряпкі укінь у шайку, буду пылыскаць і піріпыласнуцца.*

ПАБРЫГАДЗІРЫЦЬ, ПАБРЫГАДЗІРСТВАВАЦЬ, ПАБРЫГАДЗІРНІЧАЦЬ *зак.* Папрацаваць брыгадзірам. *Ніхай Сямён пыбрігадзіріць, ён грамытный, мы разым у школу хадзілі. Дужа яму хочыцца пыбрігадзірствывыць, ды стыршына ны яго коса глядзіць. Як твой маліц пыбрігадзірнічыў, ці ўмеіць ён троху зь людзямі апхадзіцца?*

ПАБРЫДЗЕЦЬ, ПАБРЫДЗЕЦЦА *зак.* Патурбаваць, панепакоіць. *Ні такей ён чылавек, што яму нешта пыбрыдзіць. Каб трошку і пыбрыдзелыся, ні ў чужоя б места, дужа ён рузмудрей.*

ПАБРЫНДАЦЦА *зак.* Пашвэндацца. *Відзіш, яму узноў зыхацелыся пабры́ндыцца, аж ногі чэшуцца.*

ПАБРЫНКАЦЬ *зак. перан. неадабр.* Пахадзіць бязмэтна. *Нічога яны ні ныбралі, пабры́нкылі пу кустах і вярнуліся с пустымі карзінкымі.* ПАБРЫНКАЦЦА *зак.* 1. Пахадзіць бязмэтна. *І тута нічога ён дзелыць ня будзіць, пабры́нкыіцца і паедзіць.* 2. Скасіцца абы-як, няўмела. *Тама, як пабры́нкыіцца, можна будзіць хвырасток скласьць.*

ПАБРЫТАЦЬ *зак.* 1. Забрытаць усіх, многіх. *Ты ім толька скажы зьезьдзіць у луг, січас коні пыбрыта́юць і пакоцюць.* 2 *перан. жарт.* Узяць пад свой уплыў. *Вас піряднінскія дзеўкі пыбрыта́лі, што ня вырьвіціся.* ПАБРЫТАЦЦА *зак.* 1. Забрытацца (пра ўсіх, многіх). *У іх любэя коні пыбрыта́юцца, пугі як ушпілюць-ушпілюць, яны аж прісідаюць.* 2. Трапіць пад уплыў (пра ўсіх, многіх). *Як жа ета вы так пыбрыта́ліся, ай-я-яй.* ПАБРЫТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Забрытаны (пра ўсіх, многіх). *Мы відзілі, што кулу гумна стыялі пыбрыта́ныя коні.* 2. Узяты пад уплыў (пра ўсіх, многіх). *Яны с прошлыга месіца пыбрыта́ны.*

ПАБРЭЗКАЦЬ *зак.* Пагрэбаваць. *Ні пабрезкыйця, дырагея госьцікі, папробыйця, што ны стале ёсьць!*

ПАБУБНЕЦЬ *зак.* 1. Пабарабаніць. *Ён доўга ні сядзеў, трошку пубубнеў, а тады пылажыў бубін і пашоў.* 2 *перан.* Пабурчаць. *Удваіх пубубнелі, а Мархва ні адззывалыся, дык скора сьціхлі.*

ПАБУЗАВАЦЦА *зак.* 1. Памяцца, пакамячыцца. *Троху було тряхольля, дык ні глядзеў, гамзіў, усё пубузувалыся, хуць выкінь.* 2 *перан.* Папрацаваць цяжка. *Пубузува́ўся ён ныт хатыю, усё адзін і адзін, ніякія помышчы ні було.* ПАБУЗАВАНЫЙ *дзеепрым.* Памяты, пакамячаны. *Нашто каму такоя пубузува́ныя тряп'ё, яго і тряпышнік пыглядзіць ці браць.*

ПАБУЗІЦЬ, ПАБУЗІЦЦА *зак.* Павычвараць, пабуяніць. *Рысказывылі, што яны ў Сквіряце ладна пубузілі, як выпілі на ксьціных. Такім атлётым пубузіцца нядоўга, ім абы ў чарку глянуць.* ПАБУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пубузёмшы тута, пашлі ў горыд.*

ПАБУЙНІЦЬ *зак.* Зрабіць буйнейшым. *Не ўжо, яблык ты ні пубуйніш, якея ўрадзіліся, такея і пыясі.*

ПАБУЙТАВАЦЦА *зак.* Папрацаваць да знясілення. *Зыстряла балька ў ямкі, як погріб рыскапывылі, пубуйтуваліся-пубуйтуваліся і засыпылі погріб разым зь ёю.*

ПАБУКАЦЦА *зак.* Пабіцца ілбамі. *Ці відзіў, як быраны пабўкыліся адзін с адным.*

ПАБУЛДЫХКАЦЬ *зак.* Пабіць па вадзе нагамі пры купанні. *Троху пубулдыхкылі і хваціць, вылазьця, выда ня дужа цёплыя.* ПАБУЛДЫХКАЦЦА *зак.* Пакупацца з шумам, плёскатам. *Пубулдыхкыліся, ны пяску пыліжалі і ўзноў касілі.*

ПАБУРБУЛЕЦЬ, ПАБУРБУЛЕЦЦА *зак.* Моцна пакіпець. *Дыстывай чугун, ён пубурбулеў — дос, вылівай пряма ў шайку. Пубурбулеўся твой кіпяток, цягні, нашто, каб у пылавіну выкіпіў.*

ПАБУТАВАЦЬ, ПАБУТАВАЦЦА *зак.* Цяжка папрацаваць. *Ох, мы пубутувалі, як с хутыра пірістраівыліся, хваціла нам дык хваціла. Купчанок тэя гады крепка пубутуваўся, усё адзін і адзін, як вол работыў.*

ПА-БЫСТРАМУ, ПА-БЫЙСТРАМУ *прысл.* Хутка, спрытна. *Тута думыць нечыга, нада дзействывыць пабыстрыму. Па-быйстрыму у іх ні палучыцца, у такіх мямліў.*

ПАБЫСТРЭЦЬ, ПАБЫЙСТРЭЦЬ *зак.* Зрабіцца больш рухавым, жвавым. *Ого, як ты за месіц пыбыстреў, я цябе нізашто ні дыганю. Пыбыйстрела твыя ўнучка, ты ўжо зь ёю ныпірягонкі ні пыбягіш.*

ПАБЯГУН *м.* Непаседлівы хлапчук. *Куды етый пыбягўн вупруўляіцца галодный, ніхай хуць пызаўтрікыіць. Памянш.* ПАБЯГУНЧЫК. *Ні сядзіцца вам у дваре, пыбягўнчыкі, усё каб насіцца.* ПАБЯГУННЯ *ж.* Непаседлівая дзяўчынка. *Ты тожа такою ня меншыя пыбягўньня была.*

ПАБЯНТЭЖЫЦЬ, ПАБЯНЦЕЖЫЦЬ *зак.* 1. Папесціць пэўны час. *Пыбянтэжыла мальца, ды хваціць, ідзі пымыгай дзеду лі тубуна. Што, баба мала цябе пыбяньцежыла, яшчэ на рукі лезіш?* 2. Спесціць усіх, многіх. *Малых пыбянтэжылі, цяперя іх з рук спусьціць нілізя. Пыбяньцежыць нядоўга, а атвучываць тады дренна.*

ПАБЯНТЭЖЫЦЦА, ПАБЯНЦЕЖЫЦЦА *зак.* 1. Папесціцца пэўны час. *Ну, пыбянтэжыліся і хваціць, дыкапывыць кончыкі нада. Дай ты ім ужо яшчэ трошку пыбяньцежыцца.* 2. Спесціцца (пра ўсіх, многіх). *Вы саўсім пыбянтэжыліся, вас ужо стыдна нянчыць. У цябе дзеці пыбяньцежуцца, ні прівучай к рукам.* ПАБЯНТЭЖАНЫЙ, ПАБЯНЦЕЖАНЫЙ *дзеепрым.* Спешчаны (пра ўсіх, многіх). *Таго, што пыбянтэжыныя, дык і капрызьнічыюць. Зы пыбяньцежынымі глядзець ня дужа лёхка, ты сыма ета знаіш.*

ПАБЯСІЦЦА *зак. перан. неадабр.* Падурэць, павычвараць. *Гады трі посьлі жанідзьбы пыбясіўся, а тады асеўся.*

ПАБЯСХЛЕБІЦЬ *зак.* Застацца без хлеба. *А во каторый дзень ні прıходзіць машына, дык мы ўсе пыбясхлебілі.*

ПАВАБРАЖАЦЬ, ПАВАБРАЖАЦЦА *зак.* Пазадавацца. *Сьціпыняты былі гынарістыя хлопцы, любілі пывыбрыжáць: як жа, мы первыя быгачы ў дзярэўні. Етый любіць пывыбрыжáцца, як старейшый, па той пріродзі пашоў.*

ПАВАДЗІЦЬ *зак.* Памуляць, панепакоіць. *Я знаю, што Навумчыку ладна пывáдзілі тэя капёшкі, ён к ім доўга пріглідаўся.*

ПАВАДЗІЦЬ *незак.* Наводзіць (звыч. парадак). *Дужа бальшэй любіціль пырядкі пывадзíць, толька яму ня дужа дывіряюць.* ПАВАДЗІЦЦА *зак.* Шмат павадзіць. *Сяньня я ладна пывадзíўся с каровыю, вúвыдзіў усе Равы, а тады ў Рошчы найшоў табун.*

ПАВАДКА *ж.* Паводка. *У марці ны дарогу ні надзейся, сонца прігрела і пышла пáвыдка. Ух, летыся былі бальшэя пáвыдкі!*

ПАВАЛ *м.* Завал, шмат працы. *Летым нікуды дужа ні атлучысься, нада і ў дваре хвытаць, і на полі работы пывáл.*

ПАВАЛАКІЦІЦЬ *зак.* Затрымаць праз валакіту. *Зьдзелыць яны нічога ня зьдзелыюць, а пывылакíціць могуць пырядышныга.* ПАВАЛАКІЦІЦЦА *зак.* Затрымацца праз валакіту. *Троху пывылакíціліся, увідзілі, што толку ні пулучаіцца, і паехылі.* ПАВАЛАКІЧАНЫЙ *дзеепрым. З-зы таго пывылакíчыный, што ні сваёю гылавою жывець.*

ПАВАЛАЦУЖЫЦЬ, ПАВАЛАЦУЖНІЧАЦЬ, ПАВАЛАЦУЖЫЦЦА, ПАВАЛАЦУЖНІЧАЦЦА *зак.* Пабадзяжнічаць. *Любілі вашы хлопцы пывылацýжыць, айдзе*

*толька яны ні бувалі. Работыць ні хацеў, тута пывылацўжнічыў троху, тады ў Гоміль паехыў. Нейдзі з год пывылацўжыўся, а посьлі пріехыў к Мітрыхваныввым, сядзеў месіцы трі. Хочыцца яму пывылацўжнічыцца, як Сярёжку, ды тут ніхто яго карміць ні станіць.*

ПАВАЛАЧЫЦЬ *зак.* Пачасаць (воўну). *К хылыдам воўну нада пывылачы́ць, спрядзецца, дык хуць чулочыкі дзіцям зьдзелыю.* ПАВАЛАЧЫЦЦА *зак.* Пачасацца (пра воўну). *Усё атклыдаіш і атклыдаіш, калі ж воўна пывалочыцца.* ПАВАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Пывалочыный воўні як-небудзь дасі ряд.* ПАВАЛАЧОМШЫ *дзеепрысл.* *Пывылачомшы, спрядзецца, а так будзіць выляцца, пакуля саўсім пірілямчыцца.*

ПАВАЛТУЖАНЫЙ *дзеепрым.* Патузаны. *Ета й ладна, што троху пывалтўжыный, ато ж места ні знаў.*

ПАВАЛЫНІЦЬ *зак.* Памарудзіць. *Троху пывалы́ніў, усё думыў, куды луччы кінуцца, а тады пыпрыдываў пастройкі і паехыў.* ПАВАЛЫНІЦЦА *зак.* Памарудзіцца. *Ета ўсё із-зы таго пріпадка, із-зы стыршыны столька у нас дзела пывалы́нілыся.*

ПАВАЛЬ *ж. метаф.* Нямоглыя асобы. *Як рузуріліся дзярэўні, жывога чылавека ні астаецца, адна пáвыль,— во што разныя Шакуры надзелылі.*

ПАВАРОЧАЦЬ *зак. перан. іран.* Пакіраваць. *Работыць мутырна, яму дай пыварочыць худзь дзярэўнію.* ПАВАРОЧАЦЦА *зак.* Падвярнуцца (пра сена). *Як увесь клевір пыварочыіцца, аддыхнём, ніхай скарей сохніць.*

ПА-ВАЎЧЫНАМУ *прысл.* Як воўк. *Нешта ў кустах як завыіць, усё дно як пы-ваўчы́ныму, мне кропна, кропна стала.*

ПАВАШАПРУДСТВАВАЦЬ, ПАВАШАПРУДСТВАВАЦЦА *зак.* Пазадавацца, павычвараць. *Чаго ня любюць, а пывышапрўдствывыць толька дай, ета ў іх ні адбяреш. Ніяк ні прідумыюць, айдзе б яшчэ пывышапрўдствывыцца, як у Колтыві.*

ПАВАЯВАЦЦА *зак.* Актыўна падзейнічаць, шмат папрацаваць. *Пувуювáўся зь імі, ну сваё дыкызаў. Крепка Цітанкі пувуювáліся, пакуля апстроіліся.*

ПАВЕДЗІЦЬ *зак.* Расказаць. *Ну хто б мог паведзіць пры такей случый, у нашым баку пра ета ні було чутна.*

ПАВЕЗЦЬ *зак. метаф.* Прыняць адказнасць. *Луччы атыйдзі ат тэя кынпаніі, яны ўкрадуць, а ты пывязеш.* ПАВЕЗЦА *зак.* Накіравацца. *Узноў пывязьлíся з мáлым у бальніцу, нешта яму німа лўччынньня.*

ПАВЕСІЦЬ *зак.* 1. Узважыць. *Павесіла цубулю: ройна дзьвінаццыць хунтыў.* 2. Заважыць. *Харошыга кыбына аткармілі, ён ня меншы пітнаццыць пудоў павесіць.*

ПАВЕТАЧКА *ж. памянш.* Павець. *Каб хуць крошышныю паветычку пріпяў, склаў ба тоя-сёя, палку б дроў кінуў, ні так ба мякла.*

ПАВЕТРЫЕ *н.* Звычай, мода. *Ета паветрія такоя було, каб абізацільна пустуху пятроўшчыну вынасіць.*

ПАВІВАННЕ *н.* Навіванне на вяроўку трэцяга сувоя. *Пывіва́ньня дужа укріпляіць, задоўку як паўеш, ёю што хочыш увязывый — ні парьвецца.*

ПАВІВАННІК *м.* Той, хто навівае на вяроўку трэці сувой. *Усюрьёз пывіва́ньнік узяўся зы работу, большы ў яго задоўка ні парьвецца.* ПАВІВАННІЦА *ж. Сь цябе б і пывіва́ньніца нядренныя выйшла.*

ПАВІВАЦЬ *незак.* Навіваць на вяроўку трэці сувой. *Раншы многія вярёўкі пывіва́лі, ета цяперя ня ўюць і ні пывіва́юць, і кынапель ня сеюць.* ПАВІВАЦЦА *незак.* Навівацца на вяроўку (пра трэці сувой). *Калі ўмеіш віць, то будзіць і пывіва́цца.* ПАВІЦЬ *зак.* Навіць на вяроўку трэці сувой. *Бацька мой быў масьцір у етым дзелі, як паўець, яго вярёўка луччы зы хвабрішныю.* ПАВІЦЦА *зак.* Навіцца на вяроўку (пра трэці сувой). *Калі хырашо паўецца, будзіць многа кряпчэй.* ПАВІВАНЫЙ, ПАВІТЫЙ *дзеепрым. Не, вожычык пывіва́ных ні було, пывіва́лі задоўку, пірядоўку. Відзіш, ета вярёўка павіта, на ёй трі суваі.*

ПАВІДЗЕЦЬ *зак.* 1. Убачыць. *Каб я зь яе глупысьць якую паві́дзіў ці яшчэ што,— не, разумныя баба.* 2. Шмат пабачыць. *Ужо сколька Кіряёнык паві́дзіў белыга сьвету, ніхто столька ні паві́дзіў, два акіяны піріплуваў.* ПАВІДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Убачаны (пра вялікую колькасць). *У яго жызьні ўсяго було паві́джына: і як сыр у масьлі кытаўся, і бяс крошкі хлеба нысядзеўся.*

ПАВІЛІЧКА *ж. памянш.* Павітуха (травяністая расліна). *Пывілі́чку вырывай і выкідывый, яе ніякыя скаціна ня есьць, нейкыя ніядомыя.*

ПАВІСЕЦЬ *зак. перан.* Пасядзець (над чым). *Яны бегыўшы нызьбіраліся, цяперя пывіселі нут крупенію і вылізьлі з-зы стыла.*

ПАВІХЛЕЦЬ *зак.* Папрагнуць. *Пывіхлела, пакуля я дыла ёй пыпряньнікый,— смашныя, у горыдзі старэй купіў.*

ПАВІШЧЭЦЬ *зак.* 1. Павішчаць. *Як зашчэміцца каторый пырасёнык, дык пывішчыць.* 2 *перан.* Паплакаць, пакрычаць прарэзліва. *Пывішчэлі, што я дыла пы адной канхвеціні, а астатнія схувала.*

ПАВУГНЯВІЦЬ, ПАВУГНЯВІЦЦА *зак.* Пагаварыць гугнява. *Нешта пувугнявіла кылы кычырежніка, яе ніхто ня слухыў. Ну йдзі, паслухый, вун патходзіць Кісялёнык, пувугнявіцца пры сваіх гасьцей.*

ПАВУХАЦЬ, ПАВУХКАЦЬ *зак.* Трывожна парохкаць. *У нізнакомый пунькі кыбанчык павухыў, а тады сьціх, асвоіўся. Нешта пачулі пырысяты ў кустах: павухкылі, павухкылі і пабеглі.*

ПАВУЧЫННЕ *н.* Павуціна. *Вазьмі якую палку, нымытай тряпку ды пызьнімай пувучыньня пу вуглах.*

ПАВЫБІЦЬ *зак.* 1. Павыбіваць. *Так балывыцца — нядоўга і вокны павыбіць, будзіць тады вам.* 2 *перан.* Моцна вытаптаць. *Етыя лажкі зы адну нядзелю павыб'юць і будуць каровы галодныя.* 3 *перан.* Шчыльна выкасіць. *Пыкасіў абложкі, між кустоў павыбіў, пару вазкоў нызьбірай.* ПАВЫБІЦЦА *зак.* 1. Павыбівацца. *З вашымі дурамі быйстра балонкі павыб'юцца.* 2. Моцна вытаптацца. *Тубуны бальшэя, дажджоў даўно ні було, усё ўсюдых павыбілыся, пройдзіць скот — ажно пыль усьлед.* 3. Шчыльна выкасіцца. *Між пней павыб'іцца, ны мяжэ трыва нічога, будзіць возік.* ПАВЫБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Павыбіваны. *Стыяць пы дзіріўнях хаты пустыя, у многіх вокны павыбіты.* 2. Моцна вытаптаны. *Лугі настолька павыбіты, што скату разу глыдануць нечыга.*

ПАВЫБРАЦЬ *зак.* Пабраць усё, многае. *Цёмнінька було, у лес пабеглі, січас ні аднаго гріба ні найдзіш — усё павыбрылі.*

ПАВЫВАЛАКЫВАЦЬ, ПАВЫВАЛАЧ *зак.* Выцягнуць усё, многае. *Пакуля хворысьця пывывылакывылі, нубуйтуваліся. Нада мяшкі с пыгребкі павывылыч к пряслу.* ПАВЫВАЛАКЫВАЦЦА, ПАВЫВАЛАЧЦА *зак.* 1. Выцягнуцца (пра ўсё, многае). *Як палкі пывывылакывыюцца, тута пысвыбаднеіць. А ці тады мала павывылыклыся лесу, як клуб строілі ў Каўшові.* 2 *перан.* Выйсці з цяжкасцю (пра ўсіх, многіх). *Ну гумне цэлый дзень спалі, пад вечыр пывывылакывыліся. Вун яны сідзяць, павывылыкліся с пуні.* ПАВЫВАЛАКЫВАНЫЙ *дзеепрым. Пывывылакывыныю саку ны біряжку рызыслалі.*

ПАВЫВАЛІЦЬ *зак.* 1. Даць магчымасць выпасці (пра ўсё, многае). *Ні пірікідай пінжак ціріз руку, с кырма-*

*ный усё павы́вываліш.* 2. Выставіць (пра ўсіх, многіх). *Брюхі павы́вылюць і стыяць, руссуждаюць.* ПАВЫВАЛІЦЦА *зак.* Выпасці (пра ўсё, многае). *Тама ці німа дзірічкі ў тваім кырманчыку, могуць капейкі павы́выліцца.* ПАВЫВАЛІВАНЫЙ, ПАВЫВАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Хвацілыся я зу вузельчык — німа нічога, усё пывывáлівына. Павы́выліныя жалезкі сыбярі і ны палічку пылажы.*

ПАВЫВАРЗЁКЫВАЦЬ, ПАВЫВАРЗЯКАЦЬ, ПАВЫВАРЗЁПЫВАЦЬ *зак.* Запэцкаць, заквэцаць усё, многае. *Пывыварзёкывылі нашы ідуны́ стульчыкі, што за іх ні ўзяцца. Ны сталe грязна, глядзі, рукавы павы́вырзікыіш. За імі сьлядзі ды сьлядзі, яны ўсё могуць пывыварзёпывыць.* ПАВЫВАРЗЁКЫВАЦЦА, ПАВЫВАРЗЯКАЦЦА, ПАВЫВАРЗЁПЫВАЦЦА *зак.* Запэцкацца, заквэцацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Пымыгалі мне мыць посыд, дык пывыварзёкывыліся — толька вочы бліщчаць. Ці відзіш, як твае акуратнікі павы́вырзікыліся. Во, ці мáлым доўга пывыварзёпывыцца, яны ўсюдых найдуць сабе зыбаву.* ПАВЫВАРЗЁКЫВАНЫЙ, ПАВЫВАРЗЯКАНЫЙ, ПАВЫВАРЗЁПЫВАНЫЙ *дзеепрым. Нада аcьцерць пывыварзёкывыныя тряп'ё, зы яго брацца нілізя, а ня то ны пасьцель класьць. Полы сьперіду павы́вырзікыны, што глядзець страшна. Пыглядзі, як пыдвалкі пывыварзёпывыны, бярі тряпку ды выцірай.*

ПАВЫВЕРНУЦЬ *зак.* Вывернуць усё, многае. *Як яны ні павы́вірнулі ногі, пы таком курчыжжы лазіўшы.* ПАВЫВЕРНУЦЦА *зак.* 1. Вывернуцца (пра ўсё, многае). *Нешта ў вашых дыражэнькіх губкі павы́вірнуліся.* 2 *перан.* Выбавіцца (пра ўсіх, многіх). *Ну ета бог мілывыў, што ім удалося павы́вірнуцца, пряма ў цюрьму дарога была.*

ПАВЫВЕТРЫВАЦЬ, ПАВЫВЕТРЫЦЬ *зак.* Праветрыць усё, многае. *Пывыветрівый пунькі, ніхай пыстыяць аччынінымі. Павы́вітріла хата, воздух сьвежый і зайціць пріятна.* ПАВЫВЕТРЫЦЦА *зак.* Праветрыцца (пра ўсё, многае). *Тады ўсюдых ажно запых стыяў ніхарошый, а цяперя павы́вітрілыся.* ПАВЫВЕТРЫВАНЫЙ, ПАВЫВЕТРАНЫЙ *дзеепрым. Ты б зыйшла у тэя комныты: вымыта, паччышчына, пывыветрівына, тама ступіць страшна. У цябе яшчэ луччы павы́вітріна, чым у Полічкі.*

ПАВЫГАВАРЫВАЦЬ, ПАВЫГАВАРЫЦЬ *зак.* Палячыць замовамі, шэптамі. *Ета лекырь ніплахей, любыя балезьні можыць пывыгывáрівыць. Доўга ёй павы́гывы-*

*ріць умеючы і рожы, і шможы.* ПАВЫГАВАРЫВАНЫЙ, ПАВЫГАВАРАНЫЙ *дзеепрым. У цябе, я віджу, усе болькі пывыгывáрівыны. Як ні павы́гывыріна, а ўродзі боль меншы.*

ПАВЫГЛАДЖЫВАЦЬ, ПАВЫГЛАДЗІЦЬ *зак. метаф.* Выскубці ўсё (пра жывёлу). *Пывыгля́джывыў скот ны пáриніні, разу скубнуць нечыга. Такея тубуны як пыстыяць, зы нядзелю усё павы́глыдзюць.* ПАВЫГЛАДЖЫВАНЫЙ, ПАВЫГЛАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Усё ўсюдых пывыгля́джывына, скот пасьці галодный. Коні пускалі і пускалі, дык аборкі павы́глыджыны, што ня выкысіш так.*

ПАВЫГРАСЦЬ *зак.* Выграбці, забраць усё, многае. *Сьмяцьцё сь сяніцы нада павы́грісьць, аборышныя сена г боку складзём. Яны пашлі, усё ў яе павы́гріблі, кінулі голінькыю.*

ПАВЫГРУЖЫВАЦЬ *зак.* Выгрузіць усё, многае. *Іс клеці нада ўсё пывыгрýжывыць, а тады ўжо за столь брацца.* ПАВЫГРУЖЫВАЦЦА *зак.* 1. Выгрузіцца (пра ўсё, многае). *Як пывыгрýжывыіцца хлам, тады прібірай сколька хочыш.* 2. Падрыхтавацца ў дарогу. *Пывыгрýжывыліся Тыцяніны госьці, на вуліцы машыну ждуць.* ПАВЫГРУЖЫВАНЫЙ *дзеепрым. Вы б самі пыглядзелі, сколька тама чаго пывыгрýжывына.*

ПАВЫДАРГАЦЬ *зак.* Вырваць усё, многае. *Харошыя дзеріўцы былі пасоджыны, дык Высілёвы распусьнікі павы́дыргылі.*

ПАВЫДАХНУЦЬ *зак.* Перадохнуць. *Тхарі ці пысыйшлі, ці павы́дыхлі, большы німа, а раншы курей резылі.*

ПАВЫДЗЕЛЫВАЦЬ *зак.* 1. Павырабляць. *Ня дужа сьпецна сёліта аўчыны пывыдзелывылі, троху ні дыкрасілі.* 2. Заквэцаць, завэдзгаць усё, многае. *Ня лезьця ў грязішчу, пывыдзелывыіця і пінжакі, і штаны, што хуць выкінь станують.* 3 *перан.* Павычвараць. *У чарку нюхнуць, дык пывыдзелывыюць.* ПАВЫДЗЕЛАЦЬ *зак.* 1. Павырабляць. *Зы Сажом быў майсьцір, бувала, як павы́дзілыіць аўчынкі — толька любувацца.* 2. Заквэцаць, завэдзгаць. *Павы́дзілылі адзёжу ў грязь, ні дамыісься.* ПАВЫДЗЕЛЫВАЦЦА, ПАВЫДЗЕЛАЦЦА *зак.* 1. Павырабляцца. *Ніхай аўчынкі пыліжаць, калі пывыдзелывыюцца, тады й ладна, сёліта шыць нічога ня будзіш. Пыдаждзы, січас некылі, пазьней етыя кожкі павы́дзілыюцца.* 2. Заквэцацца, завэдзгацца (пра ўсё, многае). *Я ж гывáріла, што вы тама пывыдзелывыіціся чышчы некуды.*

*Лезіця вы ў етыя ямкі павы́дзільіцца, чаго ж яшчэ.* ПАВЫДЗЕЛЫВАНЫЙ, ПАВЫДЗЕЛАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выраблены (пра ўсё, многае). *У яго ёсьць пывыдзелывыныя аўчынкі, чаго ён ні аддаець шыць. Аўчыны павы́дзільіны, нада к партному йціць.* 2. Заквэцаны, завэдзганы (пра ўсё, многае). *Зыявіліся пывыдзелывыныя у глей, павесіла пінжачкі, высыхнуць — буду аччыщчаць. Айдзе яны павы́дзільіныя ня будуць, кылі ў грязі кычаюцца адзін на дном.*

ПАВЫДЗЯЎБЫВАЦЬ *зак. перан.* Прабіць шмат. *Дзірькі я пывыдзя́ўбывыў, можна кылячкі ўбіваць.* ПАВЫДЗЯЎБЫВАЦЦА *зак.* Прабіцца шмат. *Во тута яшчэ дзірічкі пывыдзя́ўбывыюцца і хваціць.* ПАВЫДЗЯЎБЫВАНЫЙ *дзеепрым. Бальшэя ямкі пывыдзя́ўбывыны.*

ПАВЫДУВАЦЬ, ПАВЫДУЦЬ *зак.* Выдзьмуць. *Сколька ні таплю, вецір падніміцца, пувудува́іць усё, халодна ў хаці. Як зь естыга боку вятры, на́чыста павы́дуюць, хуць зыкалей.* ПАВЫДУВАНЫЙ, ПАВЫДУТЫЙ *дзеепрым. Пувудува́ныя клачкі сыбярі ды патторні нызад. Усё тваё мысьцяреньня павы́дута.*

ПАВЫЕХАЦЬ *зак.* 1. Выехаць (пра ўсіх, многіх). *У нас ізразу многа людзей павы́іхыла, як толька пычалі дзелыцца калхозы.* 2. Высунуцца (пра ўсё, многае). *Кылячкі павы́іхылі, нада пыправіць, ато ікая скаціна можыць узьбіцца.* ПАВЫЕХАНЫЙ, ПАВЫЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Такі, які выехаў (пра ўсіх, многіх). *Што тулкуваць пры павы́іхыных, яны нызад ня вернуцца. Гыварілі пывыіжджа́ныя людзі, што хочыцца пабыць на родзіні.* 2. Высунуты (пра ўсё, многае). *Пыўстыўляй нызад павы́іхыныя лясычкі, а пы крыях прібіць нада. Тама тырчаць пывыіжджа́ныя кылячкі, паўзьбіцца можна.*

ПАВЫКАВЫРЫВАЦЬ *зак.* 1. Выкалупаць усё, многае. *Старыю гліну нада пывыкавы́рівыць, а новыя ныляпіць.* 2 *перан.* Павыганяць. *Тады іх пывыкавы́рівылі зь лесу.* ПАВЫКАВЫРЫВАЦЦА *зак.* Выкалупацца (пра ўсё, многае). *Гыльніком шуряні, усё шыльля пывыкавы́рівыіцца.* ПАВЫКАВЫРЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Выкалупаны (пра ўсё, многае). *Ты пыглядзела б, сколька квасолі пывыкавы́рівына ны грідах.*

ПАВЫКАЛАЧЫВАЦЬ, ПАВЫКАЛАЦІЦЬ *зак.* 1. Вытрасці ўсё, многае. *Старьё пывыкыла́чывыла ны дваре і павесіла праветріцца. Нада сіньнікі вынісьць ды павы́кылыціць, у іх пылі пойна.* 2 *перан.* Спагнаць усё, многае. *Упыйнывыжыныя кучыю як прікаціли, усе нало-*

*гі пывыкылачывылі. С адныме можна дыгываріцца пыдыждаць, а другея усё павыкылыцюць.* ПАВЫКАЛАЧЫВАЦЦА, ПАВЫКАЛАЦІЦЦА *зак.* Вытрасціся (пра ўсё, многае). *Як пывыкылачывыюцца тряпкі, толька тады нясі іх у хату. Пастой мінутку, січас павыкылыціцца усё астатнія.* ПАВЫКАЛАЧЫВАНЫЙ, ПАВЫКАЛАЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Вытрасены (пра ўсё, многае). *Пывыкылачывыныя пасьцілкі ускачы ды павесь нывярьху ны вярёўкі. Мяшкі павыкылычыны, можна зыбірацъ.* 2. Спагнаны (пра ўсё, многае). *Як пройдзіць Ісачынка, усё будзіць пывыкылачывына, дужа нісызнацільный чылавек. Пывязьлі ў горыд здывацъ павыкылычыныя налогі.*

ПАВЫКАПЫВАЦЬ, ПАВЫКАПАЦЬ *зак.* Выкапаць усё, многае. *Стыхвана сыгналі, сям'ю рузурілі, хаты зыбралі, сад пывыкапывылі, хто хацеў. Каб павыкыпылі етыя сьліўкі ды пірісадзілі, ніхай ба расьлі лі двыра.* ПАВЫКАПЫВАЦЦА, ПАВЫКАПАЦЦА *зак.* Выкапацца (пра ўсё, многае). *Твае ліпкі хырашо пывыкапывыліся, прімуцца. Клянкі павыкыпыюцца і праезд будзіць.* ПАВЫКАПЫВАНЫЙ, ПАВЫКАПАНЫЙ *дзеепрым. Вішынькі лі аборка тарчэлі, дык німа, пывыкапывыны. Тэя ігрушкі павыкыпыны, ні пасьпеў ты.*

ПАВЫКАЦІЦЬ *зак. метаф.* Ачысціць, знесці (пра смерць). *Ета дужа старэя людзі рысказывылі, што халера тады цэлыя дзярэўні павыкыціла.*

ПАВЫКАЯЦЦА *зак.* Выжыць (пра ўсіх, многіх). *Тады дужа ціхым балелі, мы ня думылі, што яны могуць павыкыіцца.*

ПАВЫКІПЫВАЦЬ *зак.* Выкіпець (пра ўсё, многае). *Кінула ўсё і пабегла, чугункі пывыкіпывылі, чуць ні пыгарелі.*

ПАВЫКРАШЫВАЦЬ, ПАВЫКРАСІЦЬ *зак.* Афарбаваць усё, многае. *Красіва шулюваньня пывыкрашывыў, як ляльку хату зьдзелыў. Ат пасьцілык павыкрысілі сваe майкі.* ПАВЫКРАШЫВАЦЦА, ПАВЫКРАСІЦЦА *зак.* Афарбавацца (пра ўсё, многае). *Калі краска дренна дзяржыцца, адзежыны адна ад другея могуць пывыкрашывыцца. Пыглядзіці-ка, якея вашы плечы, нейдзі у мел павыкрысіліся.* ПАВЫКРАШЫВАНЫЙ, ПАВЫКРАШАНЫЙ *дзеепрым. Ты б відзіла, як у іх крыльцо пывыкрашывына. Узноў дзьвері павыкрышыны, баню нада даць балыўнікым.*

ПАВЫКРУЦІЦЬ *зак.* 1. Выкруціць усё, многае.

*Крепка було зьвінчына, дык усё павыкруцілі, чуць дзяржыцца сьценка.* 2. Выціснуць выкручваннем усё, многае. *Січас павыкручу бяльлё і пыразьвешывыю.* ПАВЫКРУЦІЦЦА *зак.* 1. Выкруціцца (пра ўсё, многае). *Ныўряд, каб етыя вінты павыкруціліся.* 2. Выціснуцца выкручваннем (пра ўсё, многае). *Павыкруцюцца мяхі ды вешый над духым, каб сохлі.* 3 *перан.* Выбавіцца (пра ўсіх, многіх). *Такея прайдохі аткуль хочыш павыкруцюцца.* ПАВЫКРУЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выкручаны (пра ўсё, многае). *Я толька січас увідзіў, што ат'етуля віньцікі павыкручыны.* 2. Выціснуты выкручваннем. *Слаба твае тряпкі павыкручыны, зь іх цякець.*

ПАВЫКРЫШЫЦЬ *зак.* Выкрышыць усё, многае. *Дзеці балыюцца, павыкрышылі на печы кірьпічыніны чуць ні ды пылавіны. Ніхай вас павыкрышыць з вашымі жыніхамі* (праклён). ПАВЫКРЫШЫЦЦА *зак.* Выкрышыцца (пра ўсё, многае). *Абмазка мыя павыкрышылыся, нада брацць гліну ды ўзноў мазыць.* ПАВЫКРЫШАНЫЙ *дзеепрым. Я ўзілася за хлеб, ён павыкрышын: ма́лый кулупаў мякуш і насіў пісклятым.*

ПАВЫЛЕЦЕЦЬ *зак.* 1. Вылецець, выпасці (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Лыстывіняты павыліцілі, яны ўжо бальшэя. Так могуць шыбкі павыліціць.* 2 *перан.* Выбегчы, выскачыць імгненна (пра ўсіх, многіх). *Як турну мятлою зы такея рызгаворы, павыліціця як пробкі.*

ПАВЫЛІЗАЦЬ *зак.* Вылізаць усё, многае. *Пірівярні карыццы, ато сыбакі бегыюць, усё павыліжуць.* ПАВЫЛІЗЫВАНЫЙ *дзеепрым. Чугункі пывылі́зывыны, і мыць ні нада.*

ПАВЫЛІНЯЦЬ *зак.* 1. Выліняць (пра ўсіх, многіх). *Вясною скот павылініiць увесь.* 2 *перан.* Схуднець (пра ўсіх, многіх). *Як брысі хадзілі, разьеўшыя, цяперя павылінілі.*

ПАВЫЛІЦЬ *зак.* Выліць усё, многае. *Павыль зь вёдзір ваду, ніскока ні кідай, іна ні нада.* ПАВЫЛІЦЦА *зак.* Выліцца (пра ўсё, многае). *Карзінка абярнулася, і ўсё мылако з бутылык павылілыся.* ПАВЫЛІВАНЫЙ, ПАВЫЛІВАТЫЙ, ПАВЫЛІТЫЙ *дзеепрым. Глядзіця ж, каб вёдры былі пывылівáны, каб ня кінулі, як летыся. Ці пывылівáта выда з гырлачоў? Каб ш чугуноў було павыліта, ато замёрзнуць і палопыюць.*

ПАВЫЛЯЖАЦЦА *зак.* Вылежацца (пра ўсіх, многіх). *А што ім, павыліжуцца, а тады пашлі на цэлыю ноч цігацца.*

ПАВЫЛЯЗАЦЬ, ПАВЫЛЕЗЦЬ *зак.* 1. Вылезці (пра ўсіх, многіх). *Сколька раз ету пуньку чынілі, а пырысяты кажный дзень пывылізáюць. Павы́лізьлі тваe куры, павёў пятух гряды загрібаць кіпцімі.* 2 *перан.* Высунуцца (пра ўсё, многае). *Пруцьця с тваe карзіны пывылізáла са ўсіх бакоў. Штырі нейкія павы́лізьлі, глядзі, праб'есься.*

ПАВЫМАЗАЦЬ *зак.* 1. Моцна запэцкаць усё, усіх, многае, многіх. *Вы свае пінжачкі павы́мызылі ніізьвесна у што.* 2. Зрасходаваць мазаўшы ўсё, многае. *Павы́мызылі дзёгыць с абеіх дзіхцярык, нічога ні астáлыся.* ПАВЫМАЗАЦЦА *зак.* Моцна запэцкацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Павы́мызыліся, што адны вочы чуць блішчаць.* ПАВЫМАЗЫВАНЫЙ, ПАВЫМАЗАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Моцна запэцканы (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Ты каб відзіла, якея пывымáзывыныя яны ўчора пріішлі. Куды вы такея павы́мызыныя у хату ідзіцё, рызьдзівайціся ў сенцых.* 2. Зрасходаваны пры мазанні (пра ўсё, многае). *Ні капількі ні асталыся гліны, уся пывымáзывына. Павы́мызына зь дзіхцярык усё, німа нічога.*

ПАВЫМАНДЗЫРЫЦЬ *зак.* Выпрасіць, выкленчыць, забраць ашуканствам усё, многае. *Стыдна, такея бульшуны павы́мындзырілі у дзяцей пыпряньнікі.* ПАВЫМАНДЗЫРАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ў іх німа, ужо ўсё павы́мындзыріна.*

ПАВЫМАРЫЦЬ *зак.* Давесці да смерці ўсіх, многіх. *Ета ні пpi нас, стырікі рысказывылі: халера увалілыся, многа людзей павы́мыріла.*

ПАВЫМАТЫЧЫВАЦЬ *зак.* Абматычыць усё, многае. *Як пывыматы́чывыіш лён хырашэнька, ён тады вун як расьцець.* ПАВЫМАТЫЧЫВАЦЦА *зак.* Абматычыцца (пра ўсё, многае). *Бульба ў цябе скора пывыматы́чывылыся, чысьцінькыя.* ПАВЫМАТЫЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Я люблю, каб гряды былі пывыматы́чывыны, ато што йта зарослыя.*

ПАВЫМЫЦЬ *зак.* Вымыць усё, усіх, усюды. *Большы я ня буду грязі цярьпець, к Вялікыдню усюдых павы́мыю.* ПАВЫМЫЦЦА *зак.* Вымыцца (пра ўсё, усіх, усюды). *Вун яны, відзіш, як павы́мыліся. Заўтря і ў клеці павы́мыіцца, можна будзіць што хочыш ставіць.* ПАВЫМЫТЫЙ *дзеепрым. Павы́мытый посыд сыстынаўлівый у шкапчык.*

ПАВЫНАШЫВАЦЬ, ПАВЫНАСІЦЬ, ПАВЫНЕСЦЬ *зак.* Вынесці ўсё, многае. *Пывынáшывый сваё тряхольля,*

*пыразьвесь ны прясьлі, ніхай прасушыцца. Пывынасілі сваe уборы праветрівыцца. Сталы ў сад павынісьлі, закускі ныставілі, бутылкі і тама пілі.* ПАВЫНАШЫВАЦЦА, ПАВЫНАСІЦЦА, ПАВЫНЕСЦА *зак.* Вынесціся (пра ўсё, многае). *Ніхай пыліжаць паплеціны, пазьней пывынашывыюцца. Пыдажджы, і сталы пывыносюцца. А во каб павыніслыся ета шырабурья прусушыцца, няплоха було б.* ПАВЫНАШЫВАНЫЙ, ПАВЫНЕСЕНЫЙ *дзеепрым. Мокрыя салома уся пывынашывына. Павынісіныя палкі піріпілілі.*

ПАВЫПАРЫВАЦЬ, ПАВЫПАРЫЦЬ *зак.* Напарыць моцна ўсіх, многае. *Ён усігда сам пывыпарівыіць малых, пувумуваіць. Дзяцей павыпырім, а тады самі мыімся.* ПАВЫПАРЫВАЦЦА, ПАВЫПАРЫЦЦА *зак.* Напарыцца моцна (пра ўсіх, многіх). *Мае мушчыны гаворюць, як пывыпарівыюцца у бані, тады дыхыць ляхчэй. Посьлі праступы нада крепка павыпыріцца.* ПАВЫПАРЫВАНЫЙ, ПАВЫПАРАНЫЙ *дзеепрым. Красьнінькія ідуць з бані, пывыпарівыныя. Як хырашо павыпыріны, і праступа пройдзіць.*

ПАВЫПАХЫВАЦЬ, ПАВЫПАХАЦЬ *зак.* Выараць усё, многае. *Трактыр здаровый, пывыпахывыў усё кареньня. Ніважна была бульба сыбраджына, піріпахывылі, дык многа павыпыхылі.* ПАВЫПАХЫВАЦЦА, ПАВЫПАХАЦЦА *зак.* Выарацца (пра ўсё, многае). *Нейкія чыряпкі пывыпахывыліся, тута калі-то кырчма стыяла. Сыбірай усё, што павыпышыцца.* ПАВЫПАХЫВАНЫЙ, ПАВЫПАХАНЫЙ *дзеепрым. Пыглядзі, ікая морква пывыпахывына, толька многа парезыныя. Сёліта тожа многа бульбы павыпыхына.*

ПАВЫПЕТРЫВАЦЬ, ПАВЫПЕТРЫЦЬ *зак.* 1. Празмерна высахнуць (пра ўсё, многае). *Шчэпкі пывыпетрівылі пыць сьцяною, што ат вугулька зыгыряцца. Тряп'ё тваё павыпітріла на сонцы, прібірай.* 2 *перан.* Моцна схуднець (пра ўсіх, многіх). *Тады, посьлі вайны, дзеці яе пывыпетрівылі, як былінычкі былі. Таго павыпітрілі, што пад'есьць некылі зу гульнёю, зы тыварішымі.* ПАВЫПЕТРЫВАЦЦА, ПАВЫПЕТРЫЦЦА *зак.* Празмерна высахнуць (пра ўсё, многае). *Быльнік пывыпетрівыўся, во ў грубычкі паліць хырашо. Хворысьця павыпітрііцца, ладныя растопа будзіць.* ПАВЫПЕТРЫВАНЫЙ, ПАВЫПЕТРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Празмерна высахлы (пра ўсё, многае). *Вазьміся: якея пывыпетрівыныя достычкі. Зьнімай павыпітріныя тряпкі.* 2. Моцна схуд-

нелы (пра ўсіх, многіх). *Чаго яе дзеці такея пывыпетрівыныя? Павыпітрiныя часьцей за ўсё ад балезьні.*

ПАВЫПІХНУЦЬ *зак.* 1. Выпхнуць усіх, многіх. *За шкырку б узялі і павыпіхнулі с хаты зыдывакыў такіх.* 2 *перан.* Аддзяліць, пасадзіць на свой хлеб усіх, многіх. *Красёў сваіх мальцыў павыпіхнуў, адзьдзельна жывуць.* ПАВЫПІХЫВАЦЦА, ПАВЫПІХНУЦЦА *зак.* Аддзяліцца, сесці на свой хлеб (пра ўсіх, многіх). *Вот відзіш, і Аўгінкіны хлопцы апчысьціліся, пывыпіхывыліся, ладна жывуць. Ныўрад, каб ім удалося павыпіхнуцца, стыряньня ў іх мала.* ПАВЫПІХЫВАНЫЙ, ПАВЫПІХНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выпхнуты (пра ўсіх, многіх). *Яны й пывыпіхывыныя троху шумелі пыд вакном. Дужа ім стыдна, што павыпіхнуты.* 2. Аддзелены, пасаджаны на свой хлеб (пра ўсіх, многіх). *Хлопцы пывыпіхывыны, цяперя думый толька пры сябе. Яе сыны павыпіхнуты, адзьдзельна жывуць.*

ПАВЫПЛУТУХАЦЬ *зак.* 1. Выблытаць усё, усіх, многае, многіх. *Глянь, як кыціняты зуплутухаліся ў ніткых, павыплутухый.* 2 *перан.* Выбавіць усіх, многіх. *Улезьлі усё дно што біз гылавы, як іх цяперя павыплутухыць.* ПАВЫПЛУТУХАЦЦА *зак.* 1. Выблытацца (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Чуць павыплутухыліся зь вярёвык.* 2. Выбавіцца (пра ўсіх, многіх). *Трудна ім будзіць павыплутухыцца, усе сьвідзецілі проця скажуць.* ПАВЫПЛУТУХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выблытаны (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Во твае цапочыкі, павыплутухыны зь нітык.* 2. Выбаўлены (пра ўсіх, многіх). *На етый раз павыплутухыны, ну яны етым ні абойдуцца, другую пятлю найдуць.*

ПАВЫПЫЛІВАЦЦА *зак.* Вытрасціся ад пылу (пра ўсё, многае). *Січас мяшкоў ня трогый, пывыпылівыюцца — тады зыбяреш.* ПАВЫПЫЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* *Пасьцілкі пывыпылівыны, можна несьць, пылі-пылі на іх сыбралыся.*

ПАВЫРАСЦЬ *зак.* Вырасці (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Кажыцца, ці дайно свадзьбу гулялі, а й Мыланкіны дзеці павырысьлі.*

ПАВЫРВАЦЬ *зак.* Вырваць усё, многае. *Лібяду нада павырвыць і выкінуць, ніхай ні рысплыджаіцца.* ПАВЫРВАЦЦА *зак.* Вырвацца (пра ўсё, многае). *Палын лёхка ні павырьвіцца, у яго корні глубока ідуць.* ПАВЫРВАНЫЙ *дзеепрым.* *Павырвыныя морквіны нызад ня торкый, яны ня прімуцца.*

ПАВЫРЫВАЦЦА *зак.* Выкапацца (пра ўсё, многае). *Як сьліўкі пывырываюцца, сюда будзіць проста пад'ехыць.* ПАВЫРЫВАНЫЙ *дзеепрым. На іхным хутырі усё пывырывана, ні аднаго дзеріўца ні астáлыся.*

ПАВЫСАДЗІЦЬ *зак. перан.* Выбіць усё, многае. *Такоя распуства стала па сьвету, ні найдуцца гэрчыкі вокны павысыдзіць?* ПАВЫСАДЖЫВАЦЦА *зак.* Выбіцца (пра ўсё, многае). *С такою гульнёю вокны пывысáджывыюцца, ну тады Кірей вам укоціць.* ПАВЫСАДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым. Хаты пустэя стыяць, вокны пывысáджывыны, дзьвері пысырвáны с крюкоў.*

ПАВЫСКАКЫВАЦЬ, ПАВЫСКАЧЫЦЬ *зак. перан.* Высыпаць раптоўна (пра болькі). *Быля́чкі могуць ач чаго хочыш пывыскáкывыць — і ат яды, і ат холыду. Буваіць, ні ш чога ні зь якыга павы́скычуць болькі, аж нікрасіва.*

ПАВЫСКАЛІЦЦА *зак.* Пачаць здзекліва смяяцца (пра ўсіх, многіх). *Таму ныпраўду стала дренна, а яны павы́скыліліся, зубы лупюць.* ПАВЫСКАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Стыялі павы́скыліныя, піріглядывыліся, мы ім ні словічка ні скызалі.*

ПАВЫСКРАСЦЬ *зак.* 1. Выскрабці ўсё, многае. *Нада між кустоў павы́скрісьць сена і пылажыць на сонца.* 2 *перан.* Выбавіць з цяжкасцю ўсіх, многіх. *Харошый дзядзька, павы́скріб дуракоў сь пятлі, а то б зыгрімелі ні за што ні пра што.* ПАВЫСКРАБАЦЦА, ПАВЫСКРАСЦА *зак.* 1. Выскрабціся (пра ўсё, многае). *Ні знаю, ці пывыскрібáіцца ў цябе калі-небудзь мусыр ат'етуля. Ці ўсё ж аттуліцька павы́скріблыся?* 2. Вылезці з цяжкасцю (пра ўсіх, многіх). *Мáлым аттуля пывыскрібáцца — мінутныя дзела. Мы ўжо думылі, ці павы́скрібімся калі с пыгрябоў.* 3. Выбавіцца з цяжкасцю (пра ўсіх, многіх). *Ныўряд, каб яны лёхка пывыскрібáліся іс такея пролыбкі. Былі ў ладныю пельку ускачылі, чуць павы́скрібліся.* ПАВЫСКРАБАНЫЙ, ПАВЫСКРАБЕНЫЙ *дзеепрым.* Выскрабены (пра ўсё, многае). *У сяніцы чыста пывыскрібáна, што хочыш можна класьць. Увесь двор павы́скрібін, хуць скач у ём.*

ПАВЫСМАЖЫВАЦЬ, ПАВЫСМАЖЫЦЬ *зак.* Добра прасмажыць усё, многае. *Сала пывысмáжывыла, ажно хрусьціць. Іна ўмеіць павы́смыжыць.* ПАВЫСМАЖЫВАЦЦА, ПАВЫСМАЖЫЦЦА *зак.* Добра прасмажыцца (пра ўсё, многае). *Мяса пывысмáжывылыся, ажно корычкыю ўзялося,— заесца. Я тожа віджу, што*

*ў цябе хырашо павысмыжылыся.* ПАВЫСМАЖЫВАНЫЙ, ПАВЫСМАЖАНЫЙ *дзеепрым. Як дыстала пывысмáжывыныя кілбасы, еж, хуць пуза рысьпіряжы. Тоніькыя сала павы́смыжына, дужа смашныя.*

ПАВЫСМАЛІВАЦЬ, ПАВЫСМАЛІЦЬ *зак.* 1. Асмаліць усё, многае. *Зь яго каб тольна пывысмáлівыў етыя лахмы. Ён усігда акуратна дзелыіць, павы́смыліць — шкурка чысьцінькыя ны салі.* 2. У зламысных пажаданнях гібелі. *Каб вас пывысмáлівыла с такімі рызгаворымі! Ніхай іх павы́смыліць, харошых такіх!* ПАВЫСМАЛІВАЦЦА, ПАВЫСМАЛІЦЦА *зак.* Асмаліцца (пра ўсё, многае). *У яго ўсігда як нада пывысмáлівыіцца. Ножкі ніважна павы́смыліліся.* ПАВЫСМАЛІВАНЫЙ, ПАВЫСМАЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Асмалены (пра ўсё, многае). *Як старэй дзелыў, усё было хырашо пывысмáлівына. Ногі павы́смыліны чысьцінька, а гылыва ня дужа.*

ПАВЫСПАЦЦА *зак.* Выспацца (пра ўсіх, многіх). *Вам зу гульнёю і павы́спыцца некылі, усё гулі і гулі, кажныю ноч гулі.*

ПАВЫСТРАІВАЦЬ *зак.* Пабудаваць шмат. *Гырыччані быгатыя хаты сабе пывыстрáівылі.* ПАВЫСТРАІВАЦЦА *зак.* Пабудавацца шмат. *У іхный дзярэўні крепка пывыстрáівыліся, двары бальшэя пырызьвялі.* ПАВЫСТРАІВАНЫЙ *дзеепрым. Тольна пыглядзець, што тама ныц Сажом пывыстрáівына.*

ПАВЫСЫПАЦЬ, ПАВЫСЫПАЦЦА *зак. перан.* З'явіцца ў значнай колькасці (пра болькі). *Часьцей усяго ат прастуды болькі як павы́сыпюць па целу! Пу губах пывысыпáлі прышчычкі і пы ліцу. Буваіць, што нарыўчыкі павы́сыплюцца часьцінька, а тады праходзюць. Красьнінькія прышчычкі ў мáлыга былі пывысыпáліся.*

ПАВЫСЯРБЫВАЦЬ, ПАВЫСЯРБАЦЬ *зак.* Высярбаць усё, многае. *Ну й балыўнік: с абеіх місык пывысярбывыў мылако. Ён, хочыш, бяз ложкі павы́сірбыіць.* ПАВЫСЯРБЫВАЦЦА, ПАВЫСЕРБЫВАЦЦА, ПАВЫСЯРБАЦЦА *зак.* Высярбацца (пра ўсё, многае). *Нічога тута ні пывысярбывыіцца. Етыя ня будуць доўга сядзець, у іх мігым пывысёрбывыіцца. Скора ж у вас павы́сірбылыся.* ПАВЫСЯРБЫВАНЫЙ, ПАВЫСЕРБЫВАНЫЙ, ПАВЫСЯРБАНЫЙ *дзеепрым. Усё пывысярбывына, тарелкі чысты. Думыла, што-небудзь асталыся,— не, нічога німа, нáчыста пывысёрбывына. Глядзі-ка, як чысьцінька павы́сірбына, што вылізына!*

ПАВЫТВАРАЦЬ *зак.* Павычвараць. *Етыя могуць што*

*хочыш пывытвыря́ць, ім нядоўга.* ПАВЫТВАРАЦЦА *зак.* Папрыкідвацца. *Пывытвыря́ліся і хваціць, нечыга дурату сыпысаць.*

ПАВЫТРАСЫВАЦЬ *зак.* Вытрасці ўсё, многае. *Скора я пайду пывытря́сывыю зь мяшкоў аторю, а мяшкі сюда прінясу.* ПАВЫТРАСЫВАЦЦА *зак.* Вытрасціся (пра ўсё, многае). *Як усё пывытря́сывыіцца, тады засьцеліш пасьцель чыстыю пасьцілкыю.*

ПАВЫТРАШЧАЦЦА, ПАВЫТРЭШЧЫВАЦЦА, ПАВЫТРАШЧЫЦЦА *зак. метаф.* Высыпацца, заззяць (пра зоркі). *У поўныч рашчы́сьціла, чыста-чыста стала, зорічкі пывытрішча́ліся. Ціха було, зорькі пывытрешчывыліся, я пыстыяла-пыстыяла, дзярейня як вымірла. Як цёмныя ноч, зорькі паўы́трішчуцца, многа-многа, як насеіна.*

ПАВЫТРУШЫВАЦЬ *зак.* 1. Высыпаць дробныя рэшткі. *Сьмяцьцё с карзінык пывытру́шывый у гной.* 2. Вытрасці ўсё, многае. *Я пасьцелі пывытру́шывыю, пывытру́шывыю, яны чысьцінькія.* ПАВЫТРУШЫВАЦЦА *зак.* 1. Высыпацца (пра дробныя рэшткі). *Усё ета у гной к сьвіньням пывытру́шывыіцца.* 2. Вытрасціся (пра ўсё, многае). *Мяшкі пывытру́шывыюцца, тады сыпця бульбу.* ПАВЫТРУШЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Высыпаны (пра дробныя рэшткі). *У карзінкых нічога ні асталыся, усё пывытру́шывына.* 2. Вытрасены (пра ўсё, многае). *Глядзіця, каб етыя тряпкі былі пывытру́шывыны.*

ПАВЫТУРАЦЬ, ПАВЫТУРЫЦЬ *зак.* Павыганяць. *Ня будуць п'яніц дзіржаць, атаўсюля пывытуря́юць. Паўы́турь скот с атавы, стыршына будзіць ехыць — увідзіць, можа нічога ні скажыць, ну ні залюбіць.* ПАВЫТУРАЦЦА, ПАВЫТУРЫЦЦА *зак.* Павыганяцца. *Ніхай каровы стыяць у вадзе, дужа жарка, пывытуря́юцца у абеды. Ціляты забіліся адж жары ў кусты, чуць паўы́туріліся.* ПАВЫТУРАНЫЙ *дзеепрым. Рысказывылі, што яны пывытуря́ны і с пасьледнія работы,— ну каму гультаі нада. Паўы́туріных нікуды ня возьмуць, будуць слыняцца як сьвет біз ума.*

ПАВЫХАРТАЦЬ, ПАВЫХАРТАВАЦЬ *зак.* Прагаладацца (пра ўсіх, многіх). *Ніхай пыцірьпяць, іх паўы́хыртыіць, дык смашней зьядуць. Набегыліся, паўы́хыртывыла ма́лых, хуць пыд'ядуць с апіцітым.*

ПАВЫЦЕРЦЬ *зак.* 1. Выцерці ўсё, многае. *Чаму ты ні паўы́тріш скамейкі, такея грязныя стыяць.* 2 *перан.* Абабраць (агарод). *Во толька сыбяруцца гаўрікі кучыю,*

*павытруць гароды.* ПАВЫЦІРАЦЦА, ПАВЫЦЕРЦА *зак.* Выцерціся (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Пывыціра́ліся і сідзяць у прымыльніку, рузмунды́кыюць. Скамеічкі павы́труцца ды ніхай сохнуць.* ПАВЫЦІРАНЫЙ, ПАВЫЦЕРТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выцерты (пра ўсё, усіх, многае, многіх). *Вокны пывыціра́ныя, дык і ў хаці пычысьцела. Усё павы́цірта, садзіцісь, ня бойціся.* 2. Абабраны (пра агарод). *Як пызыіжджаіцца тая шынтрыпа, гароды будуць пывыціра́ны. Гуркі павы́цірты, нійдзе за́візі ні асталыся.*

ПАВЫЦМЫГАЦЬ *зак.* Выпіць усё. *У дзьвюх бутылычкых трошку астывалыся, дык ужо німа, дыбраліся і павы́цмыгылі.* ПАВЫЦМЫГАНЫЙ *дзеепрым. Павы́цмыгына ўсё, нічога ні каплі німа.*

ПАВЫЦЯРЭБЛІВАЦЦА *зак.* Выцерабіцца (пра ўсё, многае). *Як кусьця пывыцяреблівылыся, дык і луг стаў на луг паходж.* ПАВЫЦЯРЭБЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Пывыцяреблівыныю лазу двору зывязьлі, пысякецца у печ.*

ПАВЫЧЫШЧЫВАЦЬ, ПАВЫЧЫСЦІЦЬ *зак.* Вычысціць усё, многае. *Пуні пывычы́шчывылі, пыд гряды вывізьлі дробнінькій гной. Каб хто найшоўся, кымяны павы́чысьціў. Раны глубокія, нада павы́чысьціць ад гною.*

ПАВЫШАПТАЦЦА *зак. эмац.* Моцна высахнуць (пра ўсё, многае). *Твае стручкі ня то што пасохлі, яны павы́шыптыліся.*

ПАВЫШЧЫЧЫВАЦЦА, ПАВЫШЧЫЦІЦЦА *зак.* Заштукавацца (пра ўсё, многае). *Пакуліцька сваты прііедуць, тама ўсё пывышчы́чывыіцца. Усюдых павы́шчыцілыся луччы некуды.* ПАВЫШЧЫЧЫВАНЫЙ, ПАВЫШЧЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Малінькія пунькі пывышчы́чывыны, нада зы каровіну брацца. Верьх са ўсіх бакоў павы́шчычын.*

ПАВЯРНУЦЦА *зак. перан.* Пабыць кароткі час. *У яго грошы толька пывярну́ліся, цірізь нядзелю нескылька рублей асталыся.*

ПАВЯРХУ *прысл.* Зверху. *Знаіш, якея кыпаньнікі, пывярьху́ бульбу троху сыбяруць, а ў зямле уся астаецца.*

ПАВЯХАЦЬ, ПАВЯХКАЦЬ *зак.* 1. Пабрахаць. *У том баку сыбакі пывя́хылі ды сьціхлі. Твой Бобік многа ні пывя́хкыіць, ён з будкі ляніцца вылазіць.* 2 *перан.* Пакрычаць. *Нейкія дзеці лі Вяхры трошку пывя́хылі. А ну іх, ці я ўспыкаівыць буду, пывя́хкыюць ды сьціхнуць.*

ПАГАГАТАЦЬ *зак. груб.* Пасмяяцца. *Яны толька і сыбіраюцца, каб пыгыгытáць нат кім-небудзь, праціўныя людзі.*

ПАГАГОКАЦЬ *зак.* Пагалёкаць. *Троху пыхадзіў пу кустах, пыгагокыў, ніхто яму ні адгукаўся.*

ПАГАДЗІЦЬ *зак.* Папсаваць. *Многа було адзёжы, і ладныя была, дык ці яны біряглі, за год усё пыгáдзілі.* ПАГАДЗІЦЦА *зак.* Папсавацца. *Нада було пірібраць яблыкі, плашэйшыя расходывыць, ато ўсе разым пыгáдзюцца.* ПАГАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Што ж ты с пыгáджыныга пылытна зьдзелыіш, толька ны анучы парежыш.*

ПАГАДЗІЦЬ *зак.* Дагадзіць. *Пыгадзíла дык пыгадзіла сваім залоўкым, і ўсё рыўна нічога ні ў лад.* ПАГАДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Дагадзіўшы. *І пыгадзёмшы, нічога ёй ні ўладзіш.* 2. Пачакаўшы. *Трошку пыгадзёмшы, Кузьма с Трахімым пыдыйшлі.*

ПАГАДЫВАЦЬ *незак.* Клапаціцца. *Ня дужа твыя сьвякрова па кім пыгáдывыіць, іна ні тыкая сызнацільныя.*

ПАГАКАЦЬ *зак.* Пагрукаць. *Нешта кулу гумна пыгáкылі с пуўчыса, а тады пірісталі, ці саўсім пашлі, ці станкі дзелыюць.*

ПАГАЛАГАЛЕЦЬ *зак. неадабр.* Пашумець, пакрычаць. *Ну я ж віджу, што вам узноў хочыцца пыгылыгалець, як учора.*

ПАГАЛАДЗІЦЬ *зак.* Патрымаць у голадзе. *А ты іх пыгыладзí да позных абедыў, яны піністануць пірібіраць, усё зы маліну зьядуць.* ПАГАЛАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пыгыладзёмшы, меншы будуць рыць носым.*

ПАГАЛАДНЕЦЬ *зак.* Узмацніцца (пра голад, нястачы). *Січас вы дужа храбры, а як пыгыладнеіць, будзіця рады сухой скарінкі.*

ПАГАЛДЗЕЦЬ *зак. асудж.* Паразмаўляць бязладна і шумна, пакрычаць. *Пріцімкым троху пыгалдзелі кылы Сьвірідывых, скора ўняліся.*

ПАГАМАЦЬ, ПАГАМКАЦЬ *зак. дзіц.* З'есці. *Во якей ты малойчык, ўсё пыгáмыў, чысьцінькыя місычка. Нада сьпірва пыгáмкыць, а тады гуляць пойдзім.* ПАГАМАНЫЙ, ПАГАМКАНЫЙ *дзеепрым. Нешта ў цябе дренна есца, пыглядзі-ка, у Вовы усё пыгáмына. Ага, крупенька пыгáмкына, нісколька ні асталыся.*

ПАГАНДЛЯЧЫЦЬ *зак. эмац.* Пагандляваць. *Не, доўга ён ні пыгындля́чыць, ні зь яго натурыю зь людзямі апхадзіцца.*

ПАГАНЯЛЬНІҚ *м.* 1. Той, хто падганяе. *Дренный ты пыгыня́льнік, конь ня хочыць ніськолька слухыць.* 2. Тое, чым падганяюць. *Вазьмі ладный пыгыня́льнік, ён скарей пыбягіць. Памянш.* ПАГАНЯЛЬНІЧАҚ. 1. Той, хто падганяе. *Во якей ты шустрый пыгыня́льнічык, я так ня ўмею.* 2. Тое, чым падганяюць. *Злумаўся мой пыгыня́льнічык, конь цягніцца ныга ціріз нагу.* ПАГАНЯЛЬНІЦА *ж.* Тая, што падганяе. *Ніхай пыгыня́льніца ладнюю хлыбазіну возьміць, а ні дурачыцца з вожкымі.*

ПАГАНЯЦЦА *зак.* Акучыцца. *Сяньня ў абед тэй кусочык пыгыня́іцца, Мішка раншы прігоніць кыня з рыспашнікым.* ПАГАНЯТЫЙ *дзеепрым. Як бульба пыгыня́та, цэлыя забота с плеч звалілыся, ато ўсё думылыся: піріра́сьцець нігыня́тыя.*

ПА-ГАРАДСҚОМУ *прысл.* Так, як у горадзе. *Ну як жа, ён усё дзелыіць пы-гырадзкому, наўчыўся: пірінучуваў ны Слыбадзе.*

ПАГАРЖАМЫЗДЗІЦЬ *зак. эмац.* Павучыць. *Қанешня, як Гулубчоныk пыгыржамы́зьдзіць, ён зразу пурузумнеіць, за розум возьміцца.*

ПАГАРЦАЦЬ, ПАГАРЦАЦЦА *зак.* Пагоцаць, патаптацца. *Пы стагу пыгырца́лі, а тады зьехылі і пабеглі у ягыды на тэй бок. Хочыцца ім пыгырца́цца па сену, ну пірятруць ны сьмяцьцё і ўсё.* ПАГАРЦАНЫЙ *дзеепрым. Пыгырца́на кыпа, што пірікладывыць нада.*

ПАГАРЫВАЦЬ *незак.* Згараць. *Хвырасток пых, кажыцца, жарка і яго німа, скора пыга́рівыіць, на хворысьці хлеба ні сьпякеш.*

ПАГАСАЦЬ *зак.* Патаптаць. *Такоя сянцо було, пагодныя, ядомыя, дык етыя вырвусы пыга́сылі.* ПАГАСАЦЦА *зак.* Патаптацца. *Што яны дзелылі, пы капе пыга́сыліся, прішлося пірікладывыць.* ПАГАСАНЫЙ *дзеепрым. Пыга́сынью салому ня прі ў чыстыю, адзьдзельна пыкладзі.*

ПАГВАЗДЗІЦЬ, ПАГВАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Паламаць, пакрышыць. *Ладныя былі скамеічкі, аддыхнуць можна було, дык усё пыгвазьдзі́лі. Хто ж яшчэ быў, гырадзкея балыўнікі пыгвызьдзя́чылі ўсё.* 2. Моцна пабіць. *Қалі й пыгвазьдзілі троху, ён даўно етыга зуслужыў. Ладна іх пыгвызьдзя́чылі, укацілі дык укацілі.* ПАГВАЗДЗІЦЦА, ПАГВАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Моцна пабіцца. *Доўга ім пыгвазьдзіцца, зы нішто зывядуцца. Сірьгіінятым пыгвызьдзя́чыцца — як раз хлеба ўкусіць.* ПАГВАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым.* Паламаны, пакры-

шаны. *Як нарошня прясла пыгвызьдзя́чына.* ПАГВАЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* Пабіўшы, пабіўшыся. *Яны ці ні другей раз пыгвазьдзёмшы.*

ПАГІНУЦЬ *зак.* Загінуць. *Як узялі ў сорык трецьцім, ён адно пісьмо прíслаў, а ўсьлед прішло зьвяшчэнія і тываріщч апісаў, як ён пагíн*уў. ПАГІНУЎШЫЙ *дзеепрым. Ты чылавек пагíнуўшый, с п'яніцы ні ў чом толку ні палучыцца.*

ПАҐІШЭХТАВАЦЬ, ПАҐІШЭХТАВАЦЦА *зак.* Пасябраваць нядоўга. *Мала яны пыґішэхтывылі, скора ў бакі рызыйшліся. Зуянок пріехыў, ні даў ім пыґішэхтывыцца.*

ПАГЛАМАЗДАЦЦА *зак.* 1. Няўмела зрабіцца. *Відзіш, як у яго пыглымызда́лыся: ні прясла, а ражэнь.* 2. Пагнуцца, паламацца. *Ні наторкылі пруцьця у сваё ўремя, веціp усхадзіўся, гарох пыглымызда́ўся, пычанець сохнуць.* ПАГЛАМАЗДАНЫЙ *дзеепрым.* Няўмела зроблены. *Вот пыглымызда́на троху, ні пляцень, а роіла, іcьвесна, хто дзелыў.*

ПАГЛАМАЗДАЧЫЦЬ *зак. экспр.* Папсаваць. *Скольꞏка було паплецін ладных, ён усе пыглымызда́чыў.* ПАГЛАМАЗДАЧЫЦЦА *зак.* Папсавацца. *У тваіх руках і новый інструмент пыглымызда́чыцца.* ПАГЛАМАЗДАЧАНЫЙ *дзеепрым. Усё тут пыглымызда́чына, нічога путныга ня выбіріш.*

ПАГЛУМЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Сапсаваны, змарнатраўлены. *Многа паглу́мліныга арешніку, айдзе сьсечын, айдзе пацьсечын і кінут, як хто зьдзікаўся.* ПАГЛУМЁМШЫ *дзеепрысл. Такей лён быў, каб ны хызяіна, а так пуглумёмшы прыпаў, дайжа у гной ні пашоў.*

ПАГЛЫҠАЦЬ *зак.* Паглытаць. *Ён і с костычкымі паглы́кыіць. Пыглыка́ў ягыды ні жваўшы, глык, глык і гатоў.* ПАГЛЫҠАЦЦА *зак.* Паглытацца. *Січас і маліна паглы́кыіцца. Відзіш, як скора ў яго пыглыка́лыся.* ПАГЛЫҠАНЫЙ *дзеепрым. Ні шукай ягыд, яны паглы́кыны.*

ПАГЛЫТАЦЬ *зак. метаф.* Пра невытлумачальнае знікненне. *Ці іх пыглыта́ла айдзе, што яны ні варочыюцца, — цепірься пашлі.*

ПАГНЕСЦЬ *зак.* Падавіць. *Зьверьху булку пыклаў, ты ўсё пыгняцеш у кашолычкі, зьнімі яе.* ПАГНЕСЦА *зак.* 1. Падавіцца. *Пыц саломыю ліжалі яблыкі, тута хадзілі, і ўсе пыгняліся.* 2 *неран.* Пасквапнічаць. *Троху пагнёўся, ну посьлі пашоў у тую хату і прінёс грошы.* ПАГНЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. Як пріехылі, тады толька хваціліся, што ўсё у яшчычку пагнеціна.*

ПАГНУСЯВІЦЬ, ПАГНУСЯВІЦЦА *зак.* Пагаварыць гнусава. *Пра што ета Волькіна сьвякруха пугнуся́віла, верна, жалілыся ны брігадзіра зы кыня. Січас і Матруніна нявестка падойдзіць пугнуся́віцца,— пачуіця.*

ПАГОДЗІЦЦА *незак.* Трымацца (пра добрае надвор'е). *Етый месіц пагодзіцца луччы ні нада, сколька сена сушылі, дажджынкі ні капнула.*

ПАГОДНЫЙ *прым.* Убраны пры добрым надвор'і. *Пагодныя сена дырагоя, а як пыд дажджом пабудзіць, тады яно хужы.*

ПАГРАБНЯК *м.* Прыгрэбнік. *Пыгрібня́к зьдзелыцъ няплоха, погріб ня будзіць зудувацъ, ні нада кажный раз аткапывыцъ. Памянш.* ПАГРАБНЯЧОК. *Хуць якей пыгрібнячок пріпні, усё луччы, як на чыстым полі.*

ПАГРАМАТНЕЦЬ *зак.* Зрабіцца больш пісьменным. *Ня дужа пыгрыматнеў твой Вася, летыся пісаў с памылкымі і сёліта цітрадкі аж красны.*

ПАГРОБІЦЬ *зак.* Пазнішчаць. *Каб ім далі ўласьць, яны б пагробілі людзей, сьвет пірівярнулі, уніяты етыя.*

ПАГРЫБІЦЬ *зак.* Пагнуць. *Што вас пагрібіла, вам ішчэ рана сыгінацца у дугу.* ПАГРЫБІЦЦА *зак.* 1. Пагнуцца. *Пацсоніцы пагрі́біліся чуць ні ды зямлі.* 2 *перан.* Надзьмуцца. *Я замеціў, як яны пагрі́біліся посьлі яго слоў.* 3 *перан.* Падзьмуцца. *А доўга Варка ні пагрі́біцца, у яе атхоччывыя серца.* ПАГРЫБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пройдзіш пы дзярэўні, каго ня ўвідзіш — усе пагрі́бліныя.*

ПАГРЫЗЦА *зак. перан.* Пасварыцца. *Ім каб було сь кім пагры́зца — большы нічога ні нада, нікыянства сядзіць у іхных кысьцях.* ПАГРЫЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пагрызены. *Пагры́жыныя бруквіны реж пряма ў чугуны, спарюцца.*

ПАГРЫМЛІВАННЕ *н.* Рэдкія грымоты. *Ета пагрімлівыньня ня дужа харошыя, с такіх туч град буваіць.*

ПАГРЫМЛІВАЦЬ *незак. перан.* Бурчаць. *Звык і звык пагрі́млівыць, кажыцца, біс сваіх грімот абыйціцца ня можыць.*

ПАГРЭБАЧКА *ж. памянш.* Прыгрэбнік. *Нада хуць нібальшэнькыю пыгребычку пыставіць, усё ні так сьнегым зынясець.*

ПАГРЭСЦА *зак.* Згрэбціся. *Калі ж травічка с абложкі пыгрябецца, іна сухенькыя, каб ні пупала пад дождж.*

ПАГУЛЬТАІЦЬ, ПАГУЛЬТАЙНІЧАЦЬ, ПАГУЛЬТАІЦЦА, ПАГУЛЬТАЙНІЧАЦЦА *зак.* Пагультаяваць. *Як вы, хлопцы, пугульта́ілі, ета нада, штоб у погріб ні*

*злазіць, відра вады ні прінесьць. Работы дужа німа, дык бабы саўсім пугульта́йнічылі, скора печы пірістануць таліць. Ну й пугульта́іліся вы, ідзіця хуць пірипіліця дроў г заўтріму. Таго пугульта́йнічыліся, што пачшты́рівыць некыму.*

ПАГУЛЯЦЬ *зак.* Пакрыцца (пра жывёлу). *Як карова пугуля́іць, старэй усігда ну брусу пац стольлю запісывыў, каб знаць, калі цяліцца.*

ПАГУРЧЭЦЬ *зак. метаф.* 1. Абваліцца, разваліцца. *Палез пы палкых, а яны як пугурча́ць уніз, чуць пасьпеў збоку спрыгнуць.* 2. Паехаць на аўтамашыне. *Селі ны ліхкавушку утраіх і некуды пугурчэлі.*

ПАГУСЦІЦЬ *зак.* Зрабіць больш густым. *Пацсып мукі, пугусьці́ цеста, іначы ні замесіш.* ПАГУСЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца больш густым. *Бульбы тоўчыныя паткінула, дык цеста пугусьці́лыся, ато лішня вады нылілі.* ПАГУСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пугусьцёмшы, замесіш, а так дужа вадка.*

ПАГУТАШЫЦЬ *зак.* Пагушкаць. *Ну суку вожкі зачэпліны, яны пугута́шылі адзін другога, а тады, знаць, у явір пабеглі.* ПАГУТАШЫЦЦА *зак.* Пагушкацца. *Вы ж пугута́шыліся ну гутареліх, ні мішайця дзеду, ён зымаріўся, ніхай аддыхнець.* ПАГУТАШАНЫЙ *дзеепрым. Даволін пугута́шыный, лезіць і лезіць г бабі.*

ПАГУШЧЭЦЬ *зак.* Зрабіцца больш густым. *Думыў, што рідкувата ячмень пасеін, а цяперя разросься, пугушчэў.*

ПАГЫКАЦЬ *зак. неадабр.* Злосна пабурчаць. *Прішоў, пагы́кыў: нешта яму ні пыныравілыся на сходзі.*

ПАГЫНДЗІЦЬ *зак. эмац.* Папсаваць. *Сколька ты цітрадык пагы́ньдзіў, табе ніякій чорт купляць ні ныста́чыцца.* ПАГЫНДЗІЦЦА *зак.* Папсавацца. *Складывый большы, скарей ліжаўшы пагы́ньдзіцца.*

ПАГЫРКАТАЦЬ *зак. перан.* 1. Злосна пабурчаць. *Кажыцца, ежылі ні пыгыркочыць, дык ёй ну душэ мутырна.* 2. Пагаварыць на незразумелай мове. *Нешта міс сабою пыгыркыта́лі, а тады пашлі пы вызах глядзець.*

ПАГЫРКАЦЬ *зак. перан.* Злосна пабурчаць. *За нешта пагы́ркыла Праскоўя ны свайго старога, у чым-то ні дыгадзіў, прывініўся.*

ПАГЫРЧЭЦЬ *зак.* 1. Пагыркаць. *Сыбака пыгырчэў, пыгырчэў ды ўспакоіўся, кідыцца ні стаў.* 2 *перан.* Злосна пабурчаць. *Яму пыгырчэць — самыя луччыя зыняція, лучча ні знаіць.*

ПАГЫЦАЦЬ, ПАГЫЦАЦЦА *зак.* Пагойсаць. *Ні глідзяць, каб у дваре хут трошку паможч, адно на ўме — пагы́цыць. Пагы́цыліся і хваціць, нада кылы кароў бацьку пірімяніць, ніхай бульбу атпашыць.*

ПАДАБЕДЫВАННЕ *н.* Падабед. *Віджу, што ў вас пыдабедывыньня ды самыга абеда можыць рысьцягнуцца.*

ПАДАВАДЗІЦЬ *зак.* Прывесці ў пэўны стан усіх, многіх. *Брігадзір пыдывадзі́ў баб, што яны лаілі яго: ня пішыць трудадні, хуць здохні.*

ПАДАВАЛЬНІК *м.* Падавальшчык. *Зымаріліся пыдыва́льнікі, яны многа сена пірікідалі за посьлібедзьдзя. Памянш.* ПАДАВАЛЬНІЧАК, ПАДАВАННІЧАК. *Што ж ты, пыдыва́льнічык, плоха пымыгаіш дзеду? Стыряюцца пыдыва́ньнічкі, ажно ўпацелі, вісока пыдывацьсы сталюг.* ПАДАВАЛЬНІЦА, ПАДАВАЛКА *ж. Січас табе на зьмену прідзіць другая пыдыва́льніца, адной тута усё ўремя стыяць цяжола. Пыдыва́лка ты нічога, толька у цябе ўсё зь вілык валіцца. Памянш.* ПАДАВАЛАЧКА. *Ты ў мяне харошыя пыдыва́лычка, пымыгаіш луччы ўсіх.*

ПАДАВАЦЦА *незак.* Здавацца, уяўляцца. *Другей раз мне неік роіцца ў гылаве, пыдаецца, усё рыўна як хто заходзіць у хату.*

ПАДАГНАТЫЙ *дзеепрым. перан.* 1. Падведзены да канца (пра працу). *У нас са стройкыю дзела пыдыгна́та, нада сена пірявезьць.* 2. Амаль гатовы. *Борызны пыдыгна́ты, нібальшэнькія канцы асталіся.*

ПАДАГРАВАЦЬ *незак. перан.* Падводзіць. *Сколька разоў яны пыдыгріва́лі Максіма, а ён усё дно зь імі дружыць.* ПАДАГРЭЦЬ *зак.* 1. Падвесці. *Ты знаіш, яны цябе могуць пыдагрець, што ні агледзісься.* 2. Падпаліць. *Бутылку пыставюць таму злудзюгану, ён і пыдагреіць, што ты і рукамі ні ўсплясьнеш.*

ПАДАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пададзены. *Надзейся, надзейся, і пыднясуць, і пыдадуць, будзіць і паднесіна, і пыдаджына.*

ПАДАДУМАЦЦА *зак.* Дадумацца (пра ўсіх, многіх). *Чаго людзкога ні прідумыюць зьдзелыць, а ды якея-небудзь дураты пыдаду́мыюцца.*

ПАДАЗРЫЦЬ *зак.* Западозрыць. *У том сені былі пыдазрілі Мікілыінят, алі іх у дваре ні було, як копы прыпалі, і нікога ні найшлі.*

ПАДАІЦЬ *зак.* Надаіць (малака). *Увечырі мала мылыка пыдаіла, відна, ні пад'елі сяньня.* ПАДОЕНЫЙ

*дзеепрым. Мылако толька што падоіна, я прыцадзіла, нылівай у кружычку.*

ПАДАКАРМЛІВАЦЦА, ПАДАКОРМЛІВАЦЦА, ПАДАКАРМІЦЦА *зак.* Выдаткаваць корм поўнасцю. *Глядзіця, ні пыдыка́рмлівыйціся, як летыся. К вясьне як пыдакормлівыюцца, разу нечыга даць каровым. Вісна позныя, хылады і хылады, усе пыдыкарміліся — клычка сена ні асталыся.*

ПАДАКАЦЬ *зак.* Паддакнуць. *Пілінёнык сядзеў, трілюду вёрз, а етый збоку яму троху пыда́кый.*

ПАДАЛДОНІЦЬ, ПАДАЛДОНІЦЦА *зак.* Пагаварыць пустое. *Мы сядзелі кучыю, пра жысьць тулкувалі, а тады пыдыйшоў Клімчанок, троху пыдалдоніў. Пысядзі мінутку, січас падойдзіць Аўсей, пыдалдоніцца.*

ПАДАЛІКАТНІЧАЦЬ, ПАДАЛІКАТНІЧАЦЦА *зак.* Павесці сябе далікатна. *Навум умеў пыдылікáтнічыць, бувала, як рызальлецца сылаўём пііріт кумою. Ты так ня ўмеіш пыдылікáтнічыцца, як Дынілёнык умеў.*

ПАДАЛІШЧА *н. метаф.* 1. Слабыя, нямоглыя асобы. *Пустых хат ужо сколька, а калі і ні пустэя, у тых пáдылішча асталыся.* 2. Жывёльны могільнік. *Каб цябе зымяло у пáдылішча с такімі дурнымі рызгаворымі.*

ПАДАЛЛЕ *н. метаф.* Слабыя, нямоглыя асобы. *Каму тама работыць, сьмяесься ты ці што, адно пáдыльля сядзіць у вуглах.*

ПАДАЛЬНІЦА *ж.* 1. Апад. *Пáдыльніцы, гаворюць, смашныя, дай-ка папробывыць.* 2. Труп жывёлы, падла. *Рысказывылі, што нейкыя кабыла здохла, дык Антон ету пáдыльніцу сек, варіў і еў.* 3. Жывёльны могільнік. *У нас кылы балота была пáдыльніца, там усігда скот зыкапывылі.*

ПАДАМЛЕЦЬ, ПАДАМЛЕЦЦА *зак. эмац.* Аслабець. *Пыдажджы, ногі пыдамлелі, іціць ні магу, пысядзець нада. Другей раз як пыдамлеіцца ўсё, пірісгупіць ні магу.*

ПАДАНАЧКІ *мн. памянш.* Апад. *Бягі-ка пызьбірай пáдынычкі, парежым карові, іна дужа яблыкі любіць.*

ПАДАПХНУЦЬ *зак. метаф.* Падвесці, падставіць. *Люлік нічога ні знаў, яго нарошня пыдапхнулі і ўсё зьвёз,— во як буваіць.*

ПАДАРАЖЫЦЦА *зак.* Запрасіць дорага. *Зразу ныхадзіліся купцы, а ён пыдыражыўся, а тады ахотнікыў ні стала.*

ПАДАРВЫВАЦЬ 1 *зак.* Парваць дашчэнту. *Ны дзірівах пыдáрвывыць штанёнкі, ну я лапіць большы ня*

*буду.* 2 *незак. перан. эмац.* Хапаць, ухопліваць. *Умеіць пыда́рвывыць, айдзе толька можна, прайдошлівый чылавек.* ПАДАРВАЦЬ *зак.* 1. Парваць дашчэнту. *Пыдырва́лі за лета адзёжу — пы рывах, пу кустах, пы ўсякыму ражэньню.* 2. Хапануць, ухапіць. *Устроіўся на лёнзавод, алі што там пыдарьвеш — уволіўся, цяперя нейдзі шляіцца.* ПАДАРВЫВАНЫЙ, ПАДАРВАНЫЙ *дзеепрым.* Парваны дашчэнту. *У маіх тожа усё пыда́рвывына, лапіць ні спруўляюся. Ну куды такоя пыдырва́ныя чыніць, іголкыю укулупну́ць нейдзі.*

ПАДАРОЖНІК *м.* Дарожны рабочы. *Пыдарожнікі кажный год косюць лі быльшыка, пырядышна сена сыбіраюць.*

ПАДАСТАВАЦЦА *зак.* Дастацца (пра ўсё, многае). *Як чысьцілі калодзіж, многа вёдрыў пыдыстыва́лыся іржаўліных.* ПАДАСТАВАНЫЙ *дзеепрым. Пыдыстыва́ныя гырлачы сыстаў у шкапчыку, што ны сьцяне прідзелын.*

ПАДАТНУЦЬ *зак. метаф.* Выдаць, данесці. *Дужа ніхарошыя баба: во будзіць с табою гываріць і зразу можыць пыдатнуць.* ПАДАТНУТЫЙ *дзеепрым. Ну Кузьму було пыдатну́та, тады яго і зыбралі.*

ПАДАЦЬ *незак. перан.* Турбавацца, бегаць. *Піріц свадзьбыю, канешня, будзіш па́дыць: і людзей нада сыбраць, і прігатовіцца.*

ПАДБАГАЧЫВАННЕ *н.* Аказванне матэрыяльнай дапамогі. *Нешта ні пымыгаіць Косьціку цесьціва пыдбыга́чывыньня, ня ўмеіць хызяйнічыць.*

ПАДБАГАЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць багацейшым. *Сколька ты гультуя ні пыдбыга́чывый, толку зь яго ніякыга ня будзіць.* ПАДБАГАЧЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца багацейшым. *Позна ты ўздумыў пыдбыга́чывыцца, чаго раншы сваёю гылавою ня жыў.* ПАДБАГАЦІЦЬ *зак.* Зрабіць багацейшым. *Ну рыскажы, рыскажы, як цябе дзядзька пыдбыгаці́ў.* ПАДБАГАЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца багацейшым. *Ён ба хацеў пыдбыгаці́цца, ды ні знаіць як.* ПАДБАГАЧАНЫЙ *дзеепрым. Цяперіцька ён пыдбыга́чыный, і знацца з вамі ні захочыць.* ПАДБАГАЦЁМШЫ *дзеепрысл. І ты б нічога ні пыціряў, пыдбыгацёмшы родныю сястру.*

ПАДБАДЗЮРЫВАННЕ *н.* Падбіванне, падсаджванне з сілай. *Нада войстрый кол узяць, а с такога пыдбадзю́рівыньня нічога ні палучыцца.*

ПАДБАДЗЮРЫВАЦЬ *незак.* Падбіваць, падса-

джваць з сілай. *Пыдбадзю́рівый зьнізу вілкымі і пріпыднімай паціхіньку.* ПАДБАДЗЮРЫВАЦЦА *незак.* Падбівацца, падсаджвацца з сілай. *Вун там у Высіля луччы пыдбадзю́рівыіцца.* ПАДБАДЗЮРЫЦЬ *зак.* Падбіць, падсадзіць з сілай. *Каб дубовый кол пыдбадзю́ріў, ён ба ні злумайся.* ПАДБАДЗЮРЫЦЦА *зак.* Падбіцца, падсадзіцца з сілай. *Пробый з другога боку, можа ляхчэй пыдбадзю́ріцца.* ПАДБАДЗЮРАНЫЙ *дзеепрым. Во бяріся зы пыдбадзю́ріныю палку, і хворыст піряверніцца.*

ПАДБАНОСІК *м.* Няўклюда. *Трецьціга пыдбаносіка сабе пупала, яны ў яе ні задзержывыюцца. Памянш.* ПАДБАНОСІЧАК. *Хуць пыдбаносічык пупаўся, і то хваліцца.*

ПАДБАРАХЛІЦЬ *зак. перан.* Дапамагчы набыць рэчы, звыч. адзенне. *Сьціпаніда сваіх дачок нядренна пыдбырахлі́ла, і польты харошыя справіла, і плацьціў хуць зываліся.* ПАДБАРАХЛІЦЦА *зак.* Набыць рэчы, звыч. адзенне. *Зьезьдзіў у зыработкі, дык троху пыдбырахліўся, пырядышныга адзежы прівёз.* ПАДБАРАХЛЁНЫЙ *дзеепрым. Яе сыны пыдбырахлёныя.* ПАДБАРАХЛЁМШЫ *дзеепрысл. Як пыдбырахлёмшы, то і ну людзей сталі пахожы.*

ПАДБАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Крыху дабаўлены. *У шайку вады нямнога пыдба́ўліна, ну мулувата, нада б яшчэ вядзерца ўліць.*

ПАДБАЎЛЯННЕ *н.* Невялікае дабаўленне. *Ліні пряма зь відра, што йта зу пудбуўля́ньня па ложкі.*

ПАДБАЎЛЯННІК *м.* Той, хто дабаўляе. *Лі, пудбуўля́ньнік, сьмялей, сюда сьмела пыўвідра увойдзіць.* ПАДБАЎЛЯННІЦА *ж. Баіцца пудбуўля́ньніца, каб лішніга ні пылажыць.*

ПАДБАЯРЫВАННЕ *н.* Падбухторванне. *Яму сымаму бокым вылізіць ета пыдбыя́рівыньня,— нада нупускаць чуш ну людзей.*

ПАДБАЯРЫВАННІК *м.* Падбухторшчык. *Ну і ныстрамлю я твайго пыдбыя́рівыньніка, чаго яму нада лезьць ні ў сваё дзела.* ПАДБАЯРЫВАННІЦА *ж. Успакоіліся Антонывы пыдбыя́рівыньніцы, сідзяць і ня пікнуць, як ім зумурува́ла.*

ПАДБАЯРЫВАЦЬ *незак.* Падбухторваць. *Пілініняты ніяк успакоіцца ня могуць, пыдбыя́рівыюць Шуріка, а тэй тады чуць валосься ны сабе ня рьвець.* ПАДБАЯРЫЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Рылыўскыга тожа так нехта пыдбыя́ріў, і спакою ні було.* ПАДБАЯРАНЫЙ *дзеепрым. Я пы шыгах чую, што ляціць пыдбыя́ріный.*

ПАДБЕЛ *м.* Травяністая расліна з вузкім лісцем і белым суквеццем. *Старухі зьбіралі падбел і сушылі, знаць адж жывыта аттаплівылі і пілі, дзіцям дывалі. Памянш.* ПАДБЕЛЬЧЫК. *Усё сыбіраюся ныврваць падбельчыку.*

ПАДБЕРАГАННЕ *н.* Аберaганне. *Пыдбірігáньня із мыладых гадоў нада, пры здароўя ўсігда думыць нада.*

ПАДБЕРАГАЦЦА *незак.* Крыху берагчыся. *Як здароўя пудупала, пыдбірігáісься: і ні зьясі чаго зря, і работыць ні хваціш.*

ПАДБІВАЦЦА *незак. перан.* Выскубацца (пра траву). *Луг пыдбівáіцца, вот-вот скату нейдзі будзіць разу скубануць.* ПАДБІЦЦА *зак.* Выскубціся (пра траву). *На выгыні трыва падбілыся, каровы галодныя пріходзюць.* ПАДБІТЫЙ *дзеепрым. Нада ў лес гыняць скот, тута трыва кругом падбіта.*

ПАДБІРАЦЬ *незак. перан.* Правіць сякерай. *Кылі масьцір, ён тыпаром пыдбірáіць пасьці як рубанкым, акуратнінька дзелыіць.* ПАДАБРАЦЬ *зак.* Паправіць сякерай. *Шпары нада лёгінька тыпаром пыдыбрáць, каб чысьцей былі.*

ПАДБЛЮСЦЬ *зак.* Прыберагчы. *Ці пудблюлі ж вы г гысьцям троху затыўкі?* ПАДБЛЮСЦА *зак.* Прыберагчыся. *Калі к лету лішнія кілбаска пудблюдзецца, іна ні пымішаіць у луг с сабою узяць ці яшчэ куды.*

ПАДБОРКА *ж. метаф.* Арышт (злодзеяў). *Мы помнім, як зьдзелылі падборку: зы адну ноч пыхвыталі рыштаньцюг,— ну й нада було, жызьні ні дывалі.*

ПАДБОШНІК *м.* Той, хто любіць падлабуньвацца. *Ой, Лупудзёнык быў падбошнік, к любому умеў пыткаціцца.* ПАДБОШНІЦА *ж. Тыкая падбошніца, як рызласкочыцца, хут ты яе ды раны прілажы.*

ПАДБОШНЫЙ *прым.* Такі, які ўмее падлабуньвацца. *Такей падбошный к каму хочыш падлезіць, угаворіць ну любоя дзела.*

ПАДБРАХЫВАННЕ *н. асудж.* Нагаворванне. *Вот пыдбрáхывыньня я дужа ні люблю і зы чылавека ні вяду, хто пыдбрáхыіць.*

ПАДБРАХЫВАННІК *м. асудж.* Той, хто нагаворвае. *Я пыдбрáхывыньнікым ні разу ня верiў і ня верю, ніхай яны брешуць, хуць рызарвуцца.* ПАДБРАХЫВАННІЦА *ж. Я як голыс тае пыдбряхывыньніцы пачую, дык мяне верніць.*

ПАДБРАХЫВАЦЬ *незак. асудж.* Нагаворваць. *Гадкій*

*быў чылавек, любіў ну другіх пыдбряхывыць.* ПАДБРАХЫВАЦЦА *незак.* Нагаворвацца. *Мы і самі знаім, што ім кажный дзень пыдбряхывыіцца.* ПАДБРАХАЦЬ, ПАДБРАХНУЦЬ *зак.* Нагаварыць. *А думыіш, Сахрон ні знаіць, хто ны яго мальцыў пыдбріхаў. На што разумныя іх ні хвытаіць, а пыдбряхнуць умеюць, учыць ні нада.* ПАДБРАХАЦЦА, ПАДБРАХНУЦЦА *зак.* Нагаварыцца. *Яму як падбрешыцца, са шкуры гатоў выпрыгнуць. Ці ета пасьледнія, во ўвідзіш, што заўтря узноў пыдбряхнецца.* ПАДБРАХАНЫЙ, ПАДБРАХНУТЫЙ *дзеепрым. Каб ні было пыдбріхана, ён ба так ні крівіўся, а то і ўстрічацца ня хочыць. Мы і самі знаім, што пыдбряхнута, бязь етыга ні абыйшлося.*

ПАДБУВАЛА *м.* Падманшчык. *Зь віду спакойный, а самый первый пудбувала, любога можыць падвесьць.*

ПАДБУШМАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Нагавораны, падбухтораны. *Каб ні было пудбушмачына, ён бы так ні выхадзіў сь сябе.*

ПАДВАЖКА *ж. памянш.* Падвага. *Каб харошыю пыдважку зыклаў, етый ба пень жыва вывірнуўся.*

ПАДВАДЗІЦЬ *незак. перан.* Даводзіць. *Не, к суду яны пыдвадзіць дзела ні зьбіраюцца.* ПАДВЕСЦЬ *зак.* Давесці. *Цяперя яны пыдвялі дзела к канцу.* ПАДВЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым. У іх ужо ўсё падведзіна пыд развод.*

ПАДВАДНЭЙ, ПАДВОДНЫЙ *прым.* Упрыгожаны кветкамі. *Такея красівыя хусткі прівёз дзеўкым, пыдваднэя, усі ў цьвітах. Ого, якея у вас падводныя платочыкі! Памянш.* ПАДВОДНЕНЬКІЙ. *Падводнінькія кохтычкі надзенуць і йдуць як цьвяточыкі.*

ПАДВАКНО *н.* Падаконнік. *Пысядзела лі свайго пыдвыкна, путушнувала: што цяперя дзелыць і як жыць адной.*

ПАДВАКОННЫЙ *прым.* Такі, які пад акном. *У цябе красівыя пыдваконныя цьвяты, ні ў каго такіх німа.*

ПАДВАЛАК *м. метаф.* Розум, галава. *Кылі пыдвалык троху ёсьць, будзіць мадзець. У яго даўно пыдвалык ні работыіць.*

ПАДВЕЗЦЬ *зак. метаф.* Нечакана пашанцаваць. *Яму крепка пыдвязло ў жызьні, што тыкая баба пупалыся, з другою б зугурюваўся.*

ПАДВІНЧЫВАННЕ *н. перан.* Узбуджанне, падбухторванне. *Ны яго ніякыя падвінчывыньня ня дзействыіць, сілы ні пранца німа.*

ПАДВІНЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Узбуджаць, падбух-

торваць. *У Мікілаівых яго кажын раз падві́нчывыюць.* ПАДВІНЧЫВАЦЦА *незак.* Узбуджацца. *Ён і сам умеіць падві́нчывыцца: дураты ўсякія ныбярець у гылаву, тады кіпіць.* ПАДВІНЦІЦЬ *зак.* Узбудзіць, падбухторыць. *Пастылыя людзі, нарошня Міцю падві́ньцюць, а тады сьмяюцца.* ПАДВІНЦІЦЦА *зак.* Узбудзіцца. *Пабыўшы ў дзівярёў, пыдвіньціўся.* ПАДВІНЧАНЫЙ, ПАДВІНЧОНЫЙ *дзеепрым. Пыглядзіш, як прібягіць падві́нчыный. Ірмылаіў тожа быў пыдвінчоный.* ПАДВІНЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ну й ныхыхыталіся, пыдвіньцёмшы Лявона.*

ПАДВОДНІК, ПАДВОДЧЫК *м. экспр.* Наводчык. *Падводнік усігда найдзіцца, і тута бізь яго ні абыйшлося. А разьві Мікілай хужшый падвоччык быў?* ПАДВОДНІЦА, ПАДВОДЧЫЦА *ж. Можа і была падводніца, аткуля я знаць буду. Ета тожа ладныя падвоччыца, ніхай яе падніміць і ўдарыць.*

ПАДВУМЛЯННЕ, ПАДВУМЛІВАННЕ *н.* Навучанне. *Кылі рытызяў, дык якоя яму пудвумля́ньня, нічога такому ні паможыць. Дураку ніякыя падву́млівыньня нічога ні дасьць, сколька ні стыряйся.*

ПАДВУМЛЯННІК, ПАДВУМЛІВАННІК *м.* Той, хто навучае. *Як возьміцца Сілязьнёў пудвумля́ньнік, тэй усяму наўчыць. Таго падву́млівыньніка сымаго нада вуміць ды вуміць.* ПАДВУМЛЯННІЦА, ПАДВУМЛІВАННІЦА *ж. Пудвумля́ньніцы удзьвюх зразу яго да розуму дывядуць. Ай, зь яе тыкая падву́млівыньніца, ну ніхай пыгаворіць.*

ПАДВУМЛЯЦЬ, ПАДВУМЛІВАЦЬ *незак.* Вучыць, рабіць разумнейшым. *Дурнога сколька ні пудвумля́й, ён усігда дураком астаніцца. Падву́млівыць хырашо тады, калі ў сымаго што-небудзь у гылаве ёсьць.* ПАДВУМЛЯЦЦА, ПАДВУМЛІВАЦЦА *незак.* Разумнець. *Трілюдзь ты пустоя, што ён пудвумля́іцца. Пыдрыстаюць, дык падву́млівыюцца, меншы рытазейнічыюць.* ПАДВУМІЦЬ *зак.* Навучыць, зрабіць разумнейшым. *Ты сам паспробый пудвумі, многа ён цябе паслухыіць.* ПАДВУМІЦЦА *зак.* Паразумнець. *Я віджу, як ён пудвуміўся: яшчэ большы шылапутным стаў.* ПАДВУМЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ну канешня, ён падву́мліный: раншы хадзіў у дзьвері, а цяперя лазіць у вакно.* ПАДВУМЁМШЫ *дзеепрысл. Хто ж ба яго знаіць, як ба було пудвумёмшы, а во глупысьць сытваріў.*

ПАДВЫПІЎШЫЙ *дзеепрым.* П'янаваты. *Учора з горыда прікацілі нашы хлюсты падвы́піўшыя, ні знаю, хто іх угышчаў.*

ПАДВЫШАННЕ, ПАДВЫШЫВАННЕ *н. перан.* Наданне значнасці. *Кылі халерія, ніякыя пыдвыша́ньня яму ні паможыць. Ты пачула б, якоя падвы́шывыньня було Хліманёнку.*

ПАДВЫШАЦЬ, ПАДВЫШЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Надаваць значнасць. *Сваіх яны ўсюдых стыряюцца пыдвыша́ць. Ганна Ліпяцёнка падвы́шывыла, падвы́шывыла, а тады як зрезыліся сваріцца.* 2. Падымаць (гаспадарку). *Узяўся пыдвыша́ць хызяйства. Каб падвы́шывыць, нада харошый хызяін і пынімаюшчый.* ПАДВЫШЫЦЬ *зак.* 1. Надаць значнасць. *Як жа ні падвы́шуць, калі раднёю сталі.* 2. Падняць (гаспадарку). *Хваліцца: я, мол, калхоз падвы́шыў, а ні гаворіць, як дзяреўні пырызгыняў пыдвышэніц етый.*

ПАДВЫШЭНЕЦ *м.* Той, хто пыднімае (гаспадарку). *Посьлі тога пыдвышэнца ат калхоза асталіся рожкі ды ножкі, усё дабіў ды абуха.* ПАДВЫШЭНКА *ж. Ці ты ні знаіш, ікая пыдвышэнка будзіць з гультаёвыя хаты.*

ПАДВЯДЗЁРАШНЫЙ *прым. Такі, які мае ёмістасць* амаль вядро. *Раншы сем'і былі па дзесіць-пітнаццыць чылавек, ну й куплялі пыдвядзёрышныя гаршкі і чугункі абед і вячэрю варіць.*

ПАДВЯРСТЫВАННЕ *н. эмац.* Падлабуньванне. *А што ты думыіш, і сь Ціханёнкывыга пыдвя́рстывыньня можыць нешта пулучыцца.*

ПАДВЯРСТЫВАЦЬ *незак. эмац.* Далучаць, зводзіць. *Мішчынка пробывылі пыдвя́рстывыць к Праскоўіный дачке, ды нічога ні пулучылыся.* ПАДВЯРСТЫВАЦЦА *незак.* Падлабуньвацца. *Ні чырта у яго ня выйдзіць, нада пы свайму носу выбірацьъ, куды пыдвя́рстывыцца.*

ПАДГАНЯЛЬНІК *м.* Той, хто падганяе. *Дай-ка пыдгыня́льніку даўжэйшыю пруціну. Памянш.* ПАДГАНЯЛЬНІЧАК. *Сьмялей, пыдгыня́льнічык, сьцібай, етый конь ня дужа разгоніцца бежч.* ПАДГАНЯЛЬНІЦА *ж. Сь цябе пыдгыня́льніца ікраз, як з Лызарёнка.*

ПАДГАНЯННЕ *н.* Паганянне (каня). *Сьцібані хырашэнька, каб бег, а с такім пыдгыня́ньнім у полі зыначуіш.*

ПАДГАНЯЦЬ *незак. перан.* Падводзіць к канцу. *Дождж находзіць, пыдгыня́йця скарей борызны.* ПАДАГНАЦЬ *зак.* Падвесці к канцу. *Зы ўчырашній дзень крепка пыдыгна́лі жыта, зу Глубокыю кынаву зыжаліся.*

ПАДГАРАДЖЫВАННЕ *н.* 1. Ненадзейнае падстаўлянне. *Вун твае друзья зыня́ліся пыдгыра́джывыньнім, бацька будзіць крышу крыць, яны пымыгаюць.* 2. Нена-

дзейнае прыстасаванне. *Ці крепка ета пыдгыра́джывыньня стаіць, каб ні пыляцець зь яго.*

ПАДГАРНЫВАННЕ, ПАДГАРТЫВАННЕ, ПАДГОРТЫВАННЕ *н.* Падсоўванне, ссоўванне. *Скарей, скарей с пыдга́рнывыньнім, нада ныcыпаць мяшкі. Атнасіця салому, пыдга́ртывыньня пыдажджэць, ня к сьпеху. Якоя падгортывыньня, што пасьці ўвесь ячмень астаецца ны зямле.*

ПАДГАРНЫВАЦЬ, ПАДГАРТЫВАЦЬ *незак.* Падсоўваць, ссоўваць. *Мікілай астаўся ны таку, пыдга́рнывыіць пышаніцу. Скарей пыдга́ртывыйця, хуць пасьпець ба накрыць зірняты, січас дождж хляніць.* ПАДГАРНЫВАЦЦА, ПАДГАРТЫВАЦЦА *незак.* Падсоўвацца, ссоўвацца. *Чаго ў цябе так нячыста пыдга́рнывыіцца? Яно б пыдга́ртывылыся, каб ахота была хут троху, а так, канешня, ня будзіць.*

ПАДГАРЭЦЬ *незак. перан.* Учадзець. *Рунувата мы пашлі мыцца, пу вугальлю сініцькія аганькі скыкалі, мы пыдгарелі.* ПАДГАРЭЛЫЙ *дзеепрым. Старуха ні глянула ў печ, рана комін зычыніла, угар пашоў, дык мы пыдгарелыя пуўдня кычаліся.*

ПАДГАШЧЫВАННЕ *н.* 1. Гасцяванне. *Пыдга́шчывыньня яму ныра́віцца, толька прінімаць яго ня дужа хто хочыць.* 2 *перан.* Частаванне. *Відна, ладныя було пыдга́шчывыньня, давольныя ішлі.*

ПАДГАШЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Гасціць час ад часу. *Етый хлопіц — нейкыя далёкыя ім рыдня, а во пыдга́шчывыіць кажный год.* 2 *перан.* Частаваць. *Усё пыдга́шчывылі Ныҙарёнкывыга хлыпца, думылі, зяцім будзіць.* ПАДГАСЦІЦЬ *зак.* 1. Пагасціць. *Трошку пыдгасьціў у Максімывых ды паехыў, гыварiў, ны работу нада.* 2. Пачаставаць. *Ці пыдгасьціла ж іх троху Тымара, ай можа галодных выпрывіла?* ПАДГАШЧОНЫЙ *дзеепрым.* Пачаставаны. *Яно й відна, што ты йдзеш пыдгашчоный.* ПАДГАСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Пачаставаўшыся. *А чаму ж не, пыдгасьцёмшы, можна пець песьні.*

ПАДГЕРЫК *м.* Падгерац. *Во спрасі, што такоя падгерік, дык з молыдзіжы ніхто ні знаіць, цяперь і калёсы редка увідзіш.*

ПАДГЛЯДАННЕ *н.* Падгляд. *А зы пыдглiда́ньня я цябе ні пыхвалю, ета нікрасіва пыдглідаць у шчэлычку.*

ПАДГОЦАЦЬ, ПАДГОЦАЦЦА *зак.* Пагойсаць. *Я віджу, што табе дужа хочыцца падгоцыць. Хваціць, падгоцыліся і ўспакойціся, ато вы ніяк ня ўніміціся з дура́мі.*

ПАДГРОБКІ *мн.* Падгрэбеныя рэшткі. *Кінуў падгрёбкі пысярёд двыра, а куры ўсё рызгряблі. Памянш.* ПАДГРОБАЧКІ. *Зынясі падгрёбычкі ў пырысяччыю пуньку.*

ПАДГУЗА *ж.* Цяж, папруга. *Падгу́за як парьвецца, дык сядзёлка дзіржацца ня будзіць.*

ПАДГУШЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць гусцейшым. *Падгу́шчывыў, падгу́шчывыў кулеш, пакуля ён стаў ложкыю ні пывярнуць.* ПАДГУСЦІЦЬ *зак.* Зрабіць гусцейшым. *Пудгусьці́ цеста, сыпні трошку мукі с кыцілка.* ПАДГУШЧАНЫЙ *дзеепрым. Мел нырмальна падгу́шчын, бялі, должын хырашо класца.* ПАДГУСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Кулага ікраз у меру пудгусьцёмшы.*

ПАДДАБРАННЕ, ПАДДОБРЫВАННЕ *н.* 1. Паляпшэнне якасцей. *Посьлі такога пыддыбря́ньня у рот нічога ні захочыцца ўзяць. Мы й самі знаім, што с паддобрівыньнім смашней зьесьць.* 2. Заправа (для стравы). *У Жэнькі пыддыбря́ньня ёсьць, біж жыроў яны ні разу ні сядзелі. Як укініш кусочык паддобрівыньня, любоя варіва смашней.* 3. Падкормка (для раслін). *Шохвір цэлыя вядро пыддыбря́ньня пыставіў: ідзі, сей. Паддобрівыньня у мяне троху ёсьць: знакомыя мальцы ацсыпылі.*

ПАДДАБРАЦЬ *незак. перан.* Падкормліваць (расліны). *Троху асталыся паткормкі с прошлыга года, буду пыддыбря́ць цімахвеійку.*

ПАДДАВАЛЬШЧЫК *м.* 1. Той, хто ўзлівае на печку ў лазні. *Пыддыва́льшчык як шухнуў ны каменьня, дык усе выскычылі ў прымыльнік.* 2. Той, хто падкідвае мяч напарніку для ўдару пры гульні ў мяч. *Ты хуць ні пупадзі пыддыва́льшчыку пу руке.* ПАДДАВАЛЬШЧЫЦА *ж.* 1. Тая, што ўзлівае на печку ў лазні. *Тама пыддыва́льшчыцы ба́лывыліся, а тады нешта пішчэлі.* 2. Тая, што падкідвае мяч напарніку для ўдару пры гульні ў мяч. *Пыддыва́льшчыца пыдмахывыіць мячык вісока-вісока.*

ПАДДАВАННЕ *н.* 1. Падкідванне мяча напарніку для ўдару пры гульні ў мяч. 2 *перан.* Чараўніцтва. *Зы пыддыва́ньня яе бог пыкыраў, рукі-ногі пукруціў, што ўсякыю дурь нупускала ну людзей.*

ПАДДАВАННІК *м.* Той, хто падкідвае мяч напарніку для ўдару пры гульні ў мяч. *Як умелый пыддыва́ньнік, дык усігда будзіш пупыдаць пы мячыку. Памянш.* ПАДДАВАННІЧАК. *Сь цябе ішчэ дренный пыддыва́ньнічык, нада гады два падросьць.* ПАДДАВАННІЦА, ПАДДАВАЛКА *ж. Мне пыддыва́ньніц ні нада, я сам умею пыдда́ць сабе. Як пыставіця Тоньку пыддыва́лкыю, вы*

*зразу прыіграіця. Памянш.* ПАДДАВАЛАЧКА. *Ну як, пыддывáлычка, ці спруўляісься бегыць зы мячыкым?*

ПАДДЗВІГЫВАННЕ *н.* 1. Падсоўванне. *А ні балыйціся вы с падзьдзьвíгывыньнім, ніхай яно ўсё стаіць, як стаіць.* 2 *перан.* Высоўванне. *Тама ні абыйшлося біс Kaціныга падзьдзьвíгывыньня, іна ўсё хацела Пашку сікрітарём зьдзелыць.*

ПАДДЗВІГЫВАЦЬ *незак.* 1. Падсоўваць. *Усё стыряліся свайго Мікіпырьку ныкарміць ны свадзьбі, тарелку сьцюдню падзьдзьвíгывылі.* 2 *перан.* Высоўваць. *Нейкій арьхірей пріiжджаў па школых, ныстаўніца усё мяне падзьдзьвíгывыла, прікызывыла: вершы нада с удареніім.* ПАДДЗВІГЫВАЦЦА *незак.* Падсоўвацца. *Лянь-ка, як Ціма г дзеўкым усё бліжы падзьдзьвíгывыiцца.* ПАДДЗВІНУЦЬ *зак.* Высунуць. *Зыхарёнка у старшы́ны падзьдзьвíнулі яго друзья.*

ПАДДЗЕБЯЛЯННЕ, ПАДДЗЯБЕЛІВАННЕ *н.* 1. Падмацоўванне. *Пывісялеў посьлі твайго смашнінькыга пыдзьдзібіля́ньня. Нешта ваша пыдзьдзябелівыньня яму ні пымагло.* 2. Рэчыва для падмацавання. *Ты ня ўчы, ён і сам пыдзьдзібіля́ньня умеіць шукаць, усё ўсюдых піряпоріць. У яго ў шкапчыку харошыя пыдзьдзябелівыньня стаіць.*

ПАДДЗЕБЯЛЯЦЬ, ПАДДЗЯБЕЛІВАЦЬ *незак.* Падмацоўваць. *Пыдзьдзібіля́й свайго мыладога, ато ён як закінутый нейкій. Слабінькій у цябе Мішка, нада яго пыдзьдзябелівыць.* ПАДДЗЕБЯЛЯЦЦА, ПАДДЗЯБЕЛІВАЦЦА *незак.* Падмацоўвацца. *Ён і сам нядренна умеіць пыдзьдзібіля́цца, асобінна, як кынпанію пупадзець. Зыстыўляць іх дужа ні нада, і самі ладна пыдзьдзябелівыюцца.* ПАДДЗЕБЯЛІЦЬ *зак.* Падмацаваць. *Ну нада пыдзьдзібялíць хлопца, як жа ні паможч.* ПАДДЗЕБЯЛІЦЦА *зак.* Падмацавацца. *Зы пасьледнія ўремя Іванька пыдзьдзібяліўся.* ПАДДЗЯБЕЛЕНЫЙ *дзеепрым. Яно й відна, што пыдзьдзябеліный ходзіць.* ПАДДЗЕБЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Хлопцы пыдзьдзібялёмшы прікацілі.*

ПАДДЗЕЛ *м. перан.* Чараванне. *Зы падзьдзелы б ёй узяць ды гылаву аткруціць і сыбакым выкінуць.*

ПАДДЗЕТЫЙ *дзеепрым.* 1. Падпрануты. *Ня должын замерзьць, на ём цёплыя куртычка падзьдзета пад ніз.* 2 *перан.* Закрануты. *Машка зыгываріла пра Тоньку, дык яму стала стыдна падзьдзетыму.*

ПАДДЗЕЎКА *ж.* Адзежына, якая паддзяваецца. *Вун твыя падзьдзеўка ну крючку вісіць. Памянш.* ПАД-

ДЗЕВАЧКА. *Вазьмі якую падзьдзевычку пытпряні, сяньня ня дужа цёпла.*

ПАДДЗЁВЫВАЦЬ *незак.* Падапранаць. *Усю зіму етый ватовік падзьдзёвывыў, усігда цёпла було.* ПАДДЗЁВЫВАЦЦА *незак.* Падапранацца. *Ён прастуды баіцца, крепка падзьдзёвывыіцца.* ПАДДЗЁВЫВАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ў яго ні падзьдзёвывына, так паехыў.*

ПАДДЗЯЎБЫВАННЕ, ПАДДЗЕЎБЫВАННЕ, ПАДДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Падбіванне знізу вострым прадметам. *С такім пыдзьдзя́ўбывыньнім нічога ня зьдзелыіш, тут нада ударіць ды ўдаріць. Падзьдзёўбывыньня тваё — курям на сьмех, так ты за судкі нічога ні ўзарьвеш. Усё пыўмірзала, дык і пыдзьдзяўбу́лівыньня ні пымыгаіць.*

ПАДДЗЯЎБЫВАННІК, ПАДДЗЕЎБЫВАННІК *м.* Той, хто падбівае знізу вострым прадметам. *Якей сь цябе пыдзьдзя́ўбывыньнік, што ты б'еш ломым абы-куды. Січас другей падзьдзёўбывыньнік возьміцца, зугудзіць дзела. Памянш.* ПАДДЗЯЎБЫВАННІЧАК, ПАДДЗЕЎБЫВАННІЧАК. *Ах ты пыдзьдзя́ўбывыньнічык, нічога ў цябе ні палучыцца. Ты кряпчэй, кряпчэй бі, падзьдзёўбывыньнічык.* ПАДДЗЯЎБЫВАННІЦА, ПАДДЗЕЎБЫВАННІЦА *ж. Ікая зь мяне пыдзьдзя́ўбывыньніца, я таго лыма зроду ў руках ні дзіржала. Як лясьніць ета падзьдзёўбывыньніца пы наге, будзіць тады пішчэць.*

ПАДДУДУКЫВАННЕ *н. эмац.* Падтакванне. *Мне ня дужа аньціресна яго пуддуду́кывыньня, ён каму хочыш пуддуду́кніць.*

ПАДДУДУКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Падтакваць. *Натура тыкая ў чылавека, усякый лухце будзіць пуддуду́кывыць, хуць і ні знаіць нічога.* ПАДДУДУКНУЦЬ *зак.* Падтакнуць. *Калі нычальства гаворіць, ён усігда любіць пуддуду́кнуць.*

ПАДДУДЫРЫВАННЕ *н.* Падніманне. *Вун якоя у кыцінка пуддуды́рівыньня, думыіць, што ён дужа страшный.*

ПАДДУДЫРЫВАЦЬ *незак.* Паднімаць. *Макушку кверьху пуддуды́рівыйця, а тады як-небудзь камель ускоцім.*

ПАДДУМАЛА *н.* Адтуліна для паддзімання. *Якое там пуддума́ла, дзірька малінькыя, у яе воздух саўсім ні праходзіць.*

ПАДДУМАНІЕ *н.* Паддзіманне. *Як маліц вярнуўся с плену з бальнымі лёхкімі, езьдзіў ну пуддума́нія.*

ПАДДУРАННІК, ПАДДУРЫВАННІК *м.* Падман-

шчык. *Етыга ні паддýріш, ён пуддурáньнік сам луччы некуды. Во Саша быў паддýрівыньнік, каго хочыш мог абыйціць.* ПАДДУРАННІЦА, ПАДДУРЫВАННІЦА, *ж. Ай, ікая сь цябе пуддурáньніца, ты пыдмыняць ня ўмеіш. Паддýрівыньніцы ладныя абея, адна луччы зу другую.*

ПАД'ЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым.* Сыты. *Яны ат Хрузкі пашлі пад'едзіныя, тая так ня выпусьціць с хаты.*

ПАД'ЕЗДЗІЦЬ *зак. метаф.* Падвесці. *Етыя гáўрікі так пад'езьдзюць Сьцёпычку, што ён будзіць сам сабе локці кусаць.*

ПАД'ЕХАНЫЙ, ПАД'ЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* З прыкметнымі слядамі пад'язджання. *Ці ты ні пынімаіш, што ны машыні пад'ехына, во, дайжа сьлед замецін. Канешня, ны кані пыд'іжджáна, тута калёсы стаўліны і конь стыяў.*

ПАД'ЁМІСТЫЙ *прым.* Фізічна моцны. *У Пёклы пад'ёмістыя хлопцы, яны скора хату пыставюць, халодныю пастройчыну субугорюць.*

ПАД'ЁМКА *ж.* Падніманне. *Ат пад'ёмкі ўсякыя буваіць, падыміш цяжола — і можыш жывот сырваць.*

ПАДЖАДНІЧАЦЬ *зак.* Праявіць сквапнасць. *Ты нямнога пыджжáднічыла, мыгла б унесьць і другую бутылычку, ні атнекывыйся.*

ПАДЖАРА *прысл.* Сухарлява. *Ён так, пыджжáра выглідаіць, яго зразу можна замеціць.*

ПАДЖЫВАЦЬ *незак.* Дасягаць жывучы. *Яму німала гадоў, пыджжывáіць пыдзь дзівятый дзісятык.* ПАДЖЫЦЬ *зак.* Дасягнуць жывучы. *Хведзька Ціряшоныk паджжыў гадоў семдзісят, а яго браты мыладэя пыўміралі.* ПАДЖЫТЫЙ *дзеепрым. Гады паджжыты, пыра і ны пакой.*

ПАДЖЫВІЦЦА *зак.* Крыху пажывіцца. *Думыў, што паджывіцца кыла цёткі, а ў тае ў сымае нічога німа.*

ПАДЖЫГАЦЬ *незак. перан.* Падбухторваць. *Каб яго меншы пыджжыгáлі Сіўчыняты, ён ба чылавек як чылавек быў.*

ПАДЗАБОРНІК *м. асудж.* П'яніца, валацуга. *Вырыс пыдзаборнік, чылавека зь яго ні палучыцца ні ў жысьць.* ПАДЗАБОРНІЦА *ж. Якога яны толку даждуцца с пыдззаборніцы, цігаіцца айдзе дзень, айдзе ноч.*

ПАДЗАБЫВАЦЦА *незак.* Крыху забывацца. *Раншы я многа сьцішкоў знала, а цяперя сталі пудззубувáцца.* ПАДЗАБЫЦЦА *зак.* Крыху забыцца. *Што мы ўчылі, усё неік пыдззабылыся, а я ны навуку хырашо ішла.* ПАДЗАБЫТЫЙ *дзеепрым. Многа чаго пыдззабыта,*

*як успомніш молыдысьць, чаго толька з нас ні вытвырялыся.*

ПАДЗАВАДЖЫВАЦЬ, ПАДЗАВАДЗІЦЬ *незак. перан.* Падбухторваць, узбуджаць. *Мальцы любілі пыдззываджывыць Сярьгея Қыбанёнка, ён тады гыняўся за імі. Нашто вам пыдззывадзіць чорта, ці вы кріку мала чулі.* ПАДЗАВАДЖЫВАЦЦА, ПАДЗАВАДЗІЦЦА *незак.* Узбуджацца. *Яго зразу пызнаіш, як пыдззываджывыіцца. Як пычынаіць пыдззывадзіцца, тады я маўчу, ну яе.* ПАДЗАВЕСЦЬ *зак.* Падбухторыць, узбудзіць. *Мыкара пыдззавесьць адна мінута, слова ні па ём скызаў — і кіпіць.* ПАДЗАВЕСЦА *зак.* Узбудзіцца. *Ён пыдззавёўся, як Сямён рыскызаў пры Мысяёнка, што зь яго вытвырялыся.* ПАДЗАВЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Сашка пыдыйшоў пыдззаведзіный, а тута яшчэ Қаця тріпанула пру кумоў.*

ПАДЗАДАБРЫВАННЕ *н.* 1. Запраўлянне. *Қалі ладныя пыдззыдабрівыньня, тады, канешня, смашней зьесьць.* 2 *перан.* Задобрыванне. *Ныўряд, каб пымагло яму пыдззыдабрівыньня, Қузьмінка ні задобріць.*

ПАДЗАДАБРЫВАЦЬ, ПАДЗАДАБРАЦЬ *незак.* 1. Запраўляць. *Қылі пычыла пыдззыдабрівыць, дык ні гняціся. Ні жалей, пыдззыдыбряй ладна яду, укінь большый кусок мяса.* 2 *перан.* Задобрываць. *Узяліся пыдззыдабрівыць Антончыка, ныўряд, каб зь етыга што пулучылыся. Сколька ніхай ні пыдззыдыбряюць Напрея, ны мыхінацыі ён ня пойдзіць.* ПАДЗАДАБРЫВАЦЦА, ПАДЗАДАБРАЦЦА *незак.* Запраўляцца. *Чым у цябе крупеня пыдззыдабрівыіцца? Қулеш як ладна пыдззыдыбряіцца, тады смашын.* ПАДЗАДАБРЫЦЬ *зак.* Заправіць. *Нешта ты ня дужа глядзіш, каб пыдззыдабріць свае крупені.* ПАДЗАДАБРЫЦЦА *зак.* Заправіцца. *Што ні пыдззыдабріцца, дык смашней зьясі.* ПАДЗАДАБРЫВАНЫЙ, ПАДЗАДАБРАНЫЙ, ПАДЗАДАБРОНЫЙ, ПАДЗАДОБРАНЫЙ *дзеепрым. Нешта ня чуствыіцца, каб ета бульба была пыдззыдабрівына. Падззыдыбряныя клёцкі пріятна ґ душэ зьесьць. Трошку пыдззыдабрёна капуста. У яе хырча ўсігда пыдззадобріна як нада.* ПАДЗАДАБРОМШЫ *дзеепрысл. Пыдззыдабрёмшы што ні зваріш, усё смашней.*

ПАДЗАДАВАННЕ *н.* Задаванне (злёгку). *Ні трілюдзьця вы зь іхным пыдззыдываньнім, найшлі зыдываньнікый.*

ПАДЗАДАВАЦЦА *незак.* Задавацца злёгку. *Любюць*

*лешчынцы пыдззыдыва́цца, там тыкі ёсьць ладныя хлопцы.* ПАДЗАДАЦЦА *зак.* Пазадавацца злёгку. *Чым ён пыдззыда́сца, твой Гріша, у яго путнэя рубашкі пірядзець німа.*

ПАДЗАДАЦЬ *зак.* Крыху дадаць. *Тады с сыным нывазіліся, а цяперя пляменьнік пыдззыда́ў клопыту.*

ПАДЗАМАЗЫВАННЕ *н.* 1. Невялікае замазванне. *Усё тваё пыдззыма́зывыньня атвалілыся, ня хочыць дзіржацца.* 2 *перан.* Падкупліванне. *Ныўряд ці палучыцца што зь іхным пыдззыма́зывыньнім.* 3 *перан.* Ублытванне ў непрыемнасць. *Глядзіця с пыдззыма́зывыньнім, можыця так уццургыцца, што будзіця кусаць самі сябе.*

ПАДЗАМАЗЫВАЦЬ *незак.* 1. Крыху замазваць. *Як узяліся пыдззыма́зывыць, дык пы хаці ні прайціць.* 2 *перан.* Падкупліваць. *Яго швагрі усе дзялы пыдззыма́зывылі тоя ўремя.* ПАДЗАМАЗЫВАЦЦА *незак.* 1. Крыху замазвацца. *Глянь-ка, як ладна у яе печ пыдззыма́зывыіцца.* 2 *перан.* Ублытвацца ў непрыемнасць. *Вот пыдззыма́зывыцца ім саўсім ні к чому було.* ПАДЗАМАЗАЦЬ *зак.* 1. Крыху замазаць. *Па сьценых шчэрбіны пыдззыма́жу, а тады паверьх шпалеры паклеім.* 2. Падкупіць. *А во ўвідзіш, і на етый раз пыдззыма́жуць.* ПАДЗАМАЗАЦЦА *зак.* 1. Крыху замазацца. *Як ні пыдззыма́зылыся, дык раўней стала.* 2. Ублытацца ў непрыемнасць. *Пыдззыма́зыўся сь сеным, што сам ні рад.* ПАДЗАМАЗАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Крыху замазаны. *Пыдззыма́зыный под узноў кускамі выкрышывыіцца.* 2. Падкуплены. *Сьпірва було пыдззыма́зына, а тады ён сходзіў к прукурору, дык усё пывярнулыся пу-другому.* 3. Ублытаны ў непрыемнасць. *Цяперя ён пыдззыма́зыный на ўсю жысьць.*

ПАДЗАПАДАЦЬ *незак.* Слабець. *Нашы стырікі пыдззыпыда́юць, сілы пасьці ні астаецца.* ПАДЗАПАСЦЬ *зак.* Паслабець. *Аўсяёнык пыдззыпа́ў, гывaріў, серца ні к чорту годна, саўсім становіцца.*

ПАДЗАПАШЫВАЦЬ *незак.* Запасаць пакрысе. *А хто яе знаіць, як будзіць, нада пыдззыпа́шывыць прадуктыў.* ПАДЗАПАШЫВАЦЦА *незак.* Запасацца пакрысе. *Ільля узноў пыдззыпа́шывыіцца, ён дужа акынамістый.* ПАДЗАПАСІЦЬ *зак.* Запасці крыху. *Сёліта яны ладныга се́на пыдззыпа́сілі, хваціць і астаніцца.* ПАДЗАПАСІЦЦА *зак.* 1. Запасці крыху. *Ты з дрывамі, я віджу, пыдззыпа́сіўся нядренна.* 2. Запасціся крыху. *Калі лішнія палка пыдззыпа́сіцца, ні пымішаіць.* ПАДЗАПАШАНЫЙ *дзеепрым. Можа і пыдззыпа́шына што-небудзь, хто іх знаіць.*

ПАДЗАПРАЎЛЯЦЦА *незак. перан.* Сілкавацца. *Ну што, дывайці-ка будзім пудззупруўляцца, а тады дыгрябём ды паедзім.* ПАДЗАПРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Канешня, пыдззыпраўліныя пашлі, ні галодныя.*

ПАДЗАРОБІЦЬ *зак.* Крыху зарабіць. *Паехыў пыдззаробіць, а што ў яго палучыцца, глядзі, каб біс капейкі ні прікацію.*

ПАДЗАЎТРЫКАВАЦЬ *незак.* Перакусваць да снедання. *Толька мы селі пыдззаўтрікывыць, бягіць Каця: хадзіця ка мнé, іс старым плоха.*

ПАДЗАХВАЦІЦЬ *зак. перан.* Прыхапіць (холадам). *Марозым гуркі трошку пыдззыхваціла.* ПАДЗАХВАЧАНЫЙ *дзеепрым. Ат нізу ячмень крепка пыдззыхвáчын.* ПАДЗАХВАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ічмяні туманым пыдззыхвацёмшы, жаўцеюць.*

ПАДЗВІНУЦЦА *зак. перан.* Пайсці гуртам. *Многа народу сыбралыся, мароз быў крепкій, ну ўсе падзьвінуліся ны Вяхру.*

ПАДЗЕБЯЛЕЦЦА *зак.* Памацнець, зрабіцца дужэйшым. *Я гляджу, як ты ладна пыдзібялеўся, с табою боріцца страшна брацца.*

ПАДЗЕНЬКАЦЬ, ПАДЗЯНЬКАЦЬ, ПАДЗЕНЬКАЦЦА, ПАДЗЯНЬКАЦЦА *зак. неадабр.* Паплявузгаць. *Вот і твыя падруга цягніцца падзенькыць. Пакуля ні пыдзянькыюць часы чатырі, пряма ня жывы, цярьпець ня могуць. Што, і табе дужа зыхацелыся падзенькыцца? Ну во, пыдзянькыліся, і вам ну душэ пыляхчэла, аж хадзіць вісялей пашлі.*

ПА-ДЗЕРАВЕНСКУ, ПА-ДЗЕРАВЕНСКАМУ *прысл.* Так, як у вёсцы. *Ты ні глядзі, як там, у горыдзі, було, ты пы-дзірявенску дзелый. Яны пы-дзірявенскыму і скызаць ня хочуць, сьцісьняюцца.*

ПАДЗЕРВЯНЕЦЬ, ПАДЗЕРВЯНЕЦЦА *зак.* Застыць, замерзнуць. *Пальцы пыдзірьвянелі ат халодныя вады. Усё дно як яны пыдзірьвянелі на том бярьвеньні, ні дызавесься. Пыдзірьвянеліся твае бліны, ніхто іх есьць ня будзіць. Нада занесьць пустухам ныпряткі, яны пыдзірьвянеюцца.* ПАДЗЕРВЯНЕЛЫЙ *дзеепрым. Выляюцца пыдзірьвянелыя скарінкі, укінь у чугунок.*

ПА-ДЗЕШАВОМУ, ПА-ДЗЯШОВАМУ *прысл.* Танна. *Нейдзі пы-дзішавому зы Сажом прыдалі яму асіньніку. Вясною пацьцёлка пы-дзяшовыму ня купіш, ета нада увосінь глядзець, нá зіму.*

ПАДЗЁЎБЦЬ *зак.* 1. Падзяўбці. *Во-о, дойга курям*

*падзёўбць горсьць ячменю.* 2 *перан.* Пашкодзіць дзяўбаннем. *Ета ж ма́лыя так пыдзяўблі услончык, во каму нада лупка дык нада.* ПАДЗЁЎБЦЦА, ПАДЗЯЎБАЦЦА *зак.* 1. Падзяўбціся. *Сыпні курям на двор бузя́ныю пышаніцу, пыдзяўбецца. Крошычкі там высыпа́ла, пудзюўба́ліся.* 2. Пашкодзіцца дзяўбаннем. *Скамейка пудзюўбла́ся, усё дно як на ёй секлі што ці што дзелылі. Глянь-ка, як пріступкі пудзюўбаліся.*

ПАДЗІРАВІЦЦА *зак.* Стаць у дзірках. *Некуды ету рубашку ныдзівацць, іна ўся пыдзіря́вілыся.* ПАДЗІРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Падзіря́ўліныя мяшкі зашыць нада, айдзе ты новыя возьміш.*

ПАДЗУДЖАННЕ, ПАДЗУДЖЫВАННЕ *н.* Падбухторванне, правакаванне. *Калі-небудзь так палучыць зу пудззуджа́ньня, аж дзівіцца будзіць. Сам вінуват, што пупаўся ны Мархвуткіна падззу́джывыньня.*

ПАДЗУДЖАННІК, ПАДЗУДЖЫВАННІК *м.* Падбухторшчык, правакатар. *Пітрачок — ня меншый пудззуджа́ньнік, ета толька вытаркывыцца ня любіць. Стыльмашоныk быў падззу́джывыньнік первый маркі.* ПАДЗУДЖАННІЦА, ПАДЗУДЖЫВАННІЦА *ж. Нылаіць Мыкар пудззуджа́ньніцу, другей раз нылаіць. Каб ні тая падззу́джывыньніца, усё б ціха було.*

ПАДЗУДЖАЦЬ, ПАДЗУДЖЫВАЦЬ *незак.* Падбухторваць, правакаваць. *Нарошня пудззуджаюць, ён кіпяціцца, а яны тады кучыю сьмяюцца. Вот нашто було падззу́джывыць чылавека ну дурноя дзела.* ПАДЗУДЖАЦЦА, ПАДЗУДЖЫВАЦЦА *незак.* Падбухторваць, раззадорваць сябе. *Ён сам будзіць пудззуджацца із усякіх бакоў. Падззу́джывыіцца пысваріцца сь Цітым.*

ПАДЗЫГАЦЬ, ПАДЗЫГАЦЦА *зак.* Груба пасваволіць бегаючы. *Ня дужа глідзяць паможч што-небудзь у дваре, толька каб падзы́гыць. Падзы́гыліся і хваціць, ідзіця палку дроў пірярежцця, ны заўтря німа.*

ПАДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Узбіць, падзяўбці. *Каб лёд пыдзяўбу́ліў троху, хужы б ня зьдзелыў, лі ґаньік пряма ня ўстоіць.* ПАДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* 1. Узбіцца, падзяўбціся. *Ны парогі то тоя сіканеш, то другоя, палку пірясьkепіш, так і пыдзяўбу́ліўся.* 2 *перан.* Патаўчыся. *Якея танцы, набу́рхылыся, што ні пывярнуцца, пыдзяўбу́ліліся і рызыйшліся.* ПАДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пыдзяўбу́ліныя тыпарішчыка нада міняць.*

ПАДЗЯЦІНІЦЬ *зак.* Здзяцінець (пра ўсіх, многіх). *Вы, знаць, і ныпраўду пыдзяці́нілі, што такую трілюду пру людзей пычалі верзьць.*

ПАДЗЯЧЫЦЬ, ПАДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Пабалбатаць. *Калі-нікалі прівылакецца Матруна, пысядзіць, трілюды пыдзя́чыць. Пыдзя́чыліся ш час кылы Хрітонывых ды рызыйшліся.*

ПАДКАВЫРКА *ж.* Падколванне, шпілька. *Ніхай трепліцца сколька хочыць, я ны яго пыткавы́ркі ні абрышчаю ўніманія.*

ПАДКАВЯРЗАЦЬ *зак.* Няўмела, абы-як падплесці. *Я ўмела нядренна лапці пыткывірза́ць, ыпраўлю трошку і абую.* ПАДКАВЯРЗАЦЦА *зак.* Няўмела, абы-як падплесціся. *Каб дно трошку пыткывірза́лыся ў карзінкі, іна б ішчэ пуслужыла.* ПАДКАВЯРЗАНЫЙ *дзеепрым. Як ні було чаго набуць, пыткывірза́ныя атопкі прікруціш дый ходзіш.*

ПАДКАДРЫЛІЦЬ *зак. жарт.* Залучыць. *Ны сымаго глядзець ненывышта, а такую дзеўку пыткадрі́ліў — пісыныя крысавіца.* ПАДКАДРЫЛІЦЦА *зак.* Прымазацца. *Хацеў к Аўсяёўніный дачке пыткадрі́ліцца, ды пулучыў ат варот пыварот.*

ПАДКАЛЕЧЫВАННЕ *н.* Нязначная траўма. *Ета яму пыткалечывыньня атрыгнулыся, тады ў лесі крепка нагу пыўрядзіў.*

ПАДКАЛЕЧЫВАЦЬ *незак.* Наносіць нязначную траўму. *Глядзі, глядзі, воѓірь, я табе дам дзяцей пыткалечывыць.* ПАДКАЛЕЧЫВАЦЦА *незак.* Атрымліваць нязначную траўму. *Ён ужо ці ня трецьцій раз пыткалечывыіцца.* ПАДКАЛЕЧЫЦЦА *зак.* Атрымаць нязначную траўму. *Сы йгру́шыны зьляцеў і троху пыткалечыўся.* ПАДКАЛЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Нешта ён бокым ходзіць, усё дно як якей пыткалечыный.*

ПАДКАЛОДНІК *м. асудж.* Нягоднік, які дзейнічае скрытна. *У вочы ён дробным бесым рыссыпаіцца, а з-зу вугла глядзіць, як путкусіць, пыткалоднік проклітый.* ПАДКАЛОДНІЦА *ж. Ой, кусучыя пыткалодніца твыя залоўка, так і глядзіць, каго куснуць.*

ПАДКАЛУПНУЦЦА *зак.* Падкалупіцца. *Каб зыклалыся выга пат корінь, тады б усё ўмесьці путкулупну́лыся.*

ПАДКАЛЫМЛІВАЦЬ *незак. жарг.* Зарабляць не зусім сумленна. *Патроху пыткалы́млівылі, толька многа ў іх ні пулучалыся.* ПАДКАЛЫМІЦЬ *зак.* Зарабіць не зусім сумленна. *Зыработыць — ета нялёхка, яму ныравіцца пыткалы́міць айдзе.* ПАДКАЛЫМЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні біспакойся, у яго пыткалы́мліна — будзь здароў.*

ПАДКАРМАНІВАЦЦА *незак. эмац.* Падлабуньвацца

са спрытам. *Тэя гэрчыкі доўга к Сямёну пыткырманівыліся.* ПАДКАРМАНІЦЦА *зак.* Падлабуніцца са спрытам. *А пыглядзіш, і к Навуму пыткырманіцца, ён на ета масьцір луччы некуды.*

ПАДКАРМЛЁТА *ж. метаф.* Прадукты харчавання. *Ныпішы, ніхай пріїжджаюць, пыткармлёта ў мяне ёсьць, мылако сваё.*

ПАДКАРТОВЫВАННЕ *н.* Даванне напарнікам лепшых карт. *Пірістань с пыткартовывыньнім, будзіш нанывa рыздываць.*

ПАДКАРТОВЫВАЦЬ *незак.* Даваць напарнікам лепшыя карты. *Ня думый пыткартовывыць, у цябе нічога ні палучыцца.* ПАДКАРТАВАЦЬ *зак.* Даць напарнікам лепшыя карты. *Сваім путкуртуваў, а нам ныдываў адных малодык.* ПАДКАРТАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Було путкуртувана, нягож ні було.*

ПАДКАСЫВАЦЦА *незак. перан.* Прыставаць. *Пычалі пыткасывыцца, аднаму б уськінулі, ды нашы хлопцы пыдыйшлі, дык ацступіліся.* ПАДКАСАЦЦА *зак.* Прыстаць. *Ні прідумыюць, як пыткысацца, дык сталі: чаго ты з нашымі дзеўкымі ходзіш.*

ПАДКАЧЫВАЦЬ *незак.* Пад'язджаць з форсам. *Мы помнім, як гылыўчанскія сюда пыткачывылі, конім зьдзержу ні було.*

ПАДКВАКТЫВАННЕ *н. перан. гумар.* Невялікі стогн. *Ня столька тэя болі, сколька пытквактывыньня, вун бярі касу і боль пройдзіць.*

ПАДКВАКТЫВАЦЬ *незак.* 1. Пачынаць квахтаць. *Адна, знаць, пытквактыіць трошку, можна будзіць пысадзіць ны яйцы, ніхай ціплёнык бегыіць лі двыра.* 2 *перан. гумар.* Крыху стагнаць. *Мы даўно замецілі, што ён пытквактывыў, зь лёхкімі ні ў пырядку було.*

ПАДКІДАННЕ, ПАДКІДЫВАННЕ *н. перан.* Чараўніцтва. *Пыткіданьня ета ўліяіць ну людзей, ну толька і пыткіданьніку яно бокым вылазіць. Ні баюся я ніякыга паткідывыньня, ета лухта ўсё.*

ПАДКІДАННІК, ПАДКІДЫВАННІК *м. перан.* Той, хто падносіць, падкідвае чары. *Пыткіданьнікі, пыткіданьнікі,— усё ета лухта ніпыцьсіваныя, ні разу я етыму ня верію. Я ні скызаць што баюся ўсякіх паткідывыньнікыў, а неік ніпріятна, што так дзелыюць.* ПАДКІДАННІЦА, ПАДКІДЫВАННІЦА *ж.* *Аксютка была пыткіданьніца, пакуль яе хырашэнька блыгыславілі. Ніякыя іна ні паткідывыньніца, выдумывыюць нізнама што.*

ПАДКІДАЦЬ *незак. перан.* Падкладаць дадаткова (дровы ў агонь). *Пыткідáй у печ, ужо ўсё дыгáрііць, чугуны ні спарюцца.* ПАДКІНУЦЬ *зак.* Прайсці яшчэ (пра дождж). *Хочыш, сяньня дождж узноў паткініць, пычынаіць хмаріць.* ПАДКІНУТЫЙ *дзеепрым.* Падкладзены дадаткова (пра дровы ў агонь). *Тута паткíнута, ды мулувата.*

ПАДКЛАДЫВАЦЬ *незак.* Падшываць. *А як па-мойму, тваю спадніцу ні нада пытклáдывыць, пы длінье іна ікраз ны цябе.* ПАДКЛАДЫВАЦЦА *незак.* Падшывацца. *Шый, шый, зыхватывый іголкыю, у цябе роўна пытклáдывыіцца.* ПАДКЛАДЖАНЫЙ, ПАДКЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Падкладзены. *Пытклáджыный хлеб увесь астаўся. Глядзі, каб мушчыным було пытклáта.* 2. Падшыты. *Андрак пытклáджын, ато ён быў длінnуват. Рукаўкі пытклáтыя, ня будуць аптрёпывыцца.*

ПАДКЛЕЙМАВАЦЬ, ПАДКЛЯЙМАЦЬ *зак.* Паставіць кляймо. *Я вам пыткляймýю ета мяса і вязіця прыдываць. Ён такей: можыць зразу пытклііймáць, а можыць уздуріцца.*

ПАДКЛЕЦЦЕ *н.* Прастора пад клеццю. *Прівыклі дзьве куріцы несца ў патклецьці, доску пыдымаю ды маліц лазіць зы яйцымі. Памянш.* ПАДКЛЕЦЦІКА. *Патклецьціка нізінькыя, туды дужа ні пралезіш.*

ПАДКРАВАЦЦЕ *н.* Месца пад ложкам. *Дыстань яблык с пыткрывáцьця, там харошыя антоныўкі ёсьць, яны доўга ліжаць, ня порцюцца.*

ПАДКРУЧЫВАННЕ *н. перан.* Падбухторванне, узбуджэнне. *Нічога ні пулучылыся с паткрýчывыньня: Сыўчанок ім ні паверіў.*

ПАДКРУЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Падбухторваць, узбуджаць. *Кажын раз суседзі яго паткрýчывыюць і с аднаго боку, і з другога.* ПАДКРУЦІЦЬ *зак.* Падбухторыць, узбудзіць. *У іх была адна цэль: пысваріць Лістрацёнка сы стыршыною, паетыму і путкруцілі.* ПАДКРУЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Калі бягіць паткрýчыный, яго зразу пызнаць можна.* ПАДКРУЦЁМШЫ *дзеепрысл.* *Толька пысьміхаюцца, путкруцёмшы Аўсяёнычка.*

ПАДКУДЛАЧЫВАННЕ *н.* Невялікае кудлачанне. *Ныравіцца ім такоя путкудлáчывыньня, ніхай кудлацюцца.*

ПАДКУДЛАЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць больш кудлатым. *Усё свае кудрі путкудлáчывыіць, хочыць Андрею пыныравіцца.* ПАДКУДЛАЧЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца

больш кудлатым. *Як возьміцца путкудла́чывыцца, сьмех глядзець ны яе.* ПАДКУДЛАЦІЦЬ, ПАДКУДЛАЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць больш кудлатым. *Во цябе Тонічка січас путкудла́ціць. І так ні мыгла рышчысацца, а тута яшчэ Міця путкудла́чыў.* ПАДКУДЛАЦІЦЦА, ПАДКУДЛАЧЫЦЦА *зак.* Зрабіцца больш кудлатым. *Пыдажджы, дзеўкі ішчэ ні пасьпелі путкудла́ціцца. Дай ёй урэмя путкудла́чыцца, хочыць жа красівыю быць.* ПАДКУДЛАЧЫВАНЫЙ, ПАДКУДЛАЧАНЫЙ *дзеепрым. Нешта сяньня ты мала путкудла́чывына, учора валосься большы ражном стыяла. А ніхай ужо ідзець путкудла́чыныя, ня трогый, ато рёву надзелыіш.*

ПАДКУПЛІВАЦЬ *незак.* Купляць у дадатак. *Ні хвытаіць сваё бульбы, пріходзіцца вясною патку́плівыць пудоў дваццыць.*

ПАДКУПЛЯННЕ, ПАДКУПЛІВАННЕ *н.* Купляннe ў дадатак. *У іх кажныя скрысеньня путкупля́ньня, ніяк ні нызыпасюцца. Ну, як табе ныравіцца Пецькіна патку́плівыньня?*

ПАДКУРЫВАННЕ *н.* Лячэнне дымам ад зёлак шляхам акурвання. *Ці пымыгала патку́рівыньня, ці не, я ні знаю, ну бабкі дзяцей патку́рівылі.*

ПАДКУЧЫВАННЕ *н.* Акучванне. *Патку́чывыньня нада акуратна дзелыць, каб кырянькоў ні зычапіць і ні злумаць нічога.*

ПАДКУЧЫВАННІК *м.* Той, хто акучвае. *Мутырна патку́чывыньнікым з матычкымі стыяць, ім ба выліжыцца посьлі вічарінкі.* ПАДКУЧЫВАННІЦА *ж. Вун за вербыю патку́чывыньніцы пріюціліся, жарка на сонцы.*

ПАДКУЧЫВАЦЬ *незак.* Акучваць. *Гуркі ўсігда патку́чывыюць, с абоіх бакоў пыдга́рныюць зямлю.* ПАДКУЧЫВАЦЦА *незак.* Акучвацца. *Нешта ў цябе дужа медлінна патку́чывыіцца.* ПАДКУЧЫЦЬ *зак.* Акучыць. *Сяньня ўсю квасолю патку́чыла, ніхай расьцець.* ПАДКУЧЫЦЦА *зак.* Акучыцца. *Боб калі й пазьней паткучыцца, цэл будзіць.* ПАДКУЧЫВАНЫЙ, ПАДКУЧАНЫЙ *дзеепрым. Скырасьпелка ўся патку́чывына. У мяне гарод патку́чын, цяперя я свабодна.*

ПАДЛАВІЦЬ *зак. перан.* Атрымаць (удар). *Дапрыгыіцца, што падло́віць пы карку, думыіць, не́хта яго увішчаць будзіць.*

ПАДЛАГА *ж.* Падкладка-апірышча. *Нада пыкласьць пыдла́гі пат козлы, тады яны ня будуць прыіжджаць у зямлю.*

ПАДЛАДЖЫВАННЕ *н.* Выбіранне зручнага моманту. *Яго пыдла́джывыньня як рысьцягніцца, дык будзіць пыдла́джывыцца цэлый дзень.*

ПАДЛАДЖЫВАЦЦА *незак.* Выбіраць зручны момант. *Пыдла́джывыюся схадзіць у Хлышчова і ўсё ня выбіруся.* ПАДЛАДЗІЦЦА *зак.* Выбраць зручны момант. *Каб ты пыдла́дзіўся посьлі беда ды злавіў пітуха, я б варіла дзіцям па крошкі.*

ПАДЛАЖЫВАННЕ I, ПАДЛОЖЫВАННЕ *н.* 1. Падкладанне. *Доўга вазіліся с пыдла́жывыньнім, пакуля падбілі бірнушко. Такоя падложывыньня ня будзіць дзіржаць, тут нада тоўстыя калодка.* 2. Падшыванне. *Ета спадніčка ня доўга, ніякыга ёй пыдла́жывыньня ні нада. Нікрасівыя ў цябе пулучылыся падложывыньня, кріва, збоку ўверьх заехыла.*

ПАДЛАЖЫВАННЕ II *н.* 1. Узлязанне. *Ны такоя пыдла́жывыньня ажно глядзець страшна.* 2. Падлязанне. *Як пріцісьніць палкымі, будзіць табе пыдла́жывыньня.*

ПАДЛАЖЫВАЦЬ I, ПАДЛОЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Падкладаць. *Пыдла́жывый людзям бульбы, сьвежыя іна смашныя. Не, большы на воз нічога ні падложывый, конь ні пыцягніць.* 2. Падшываць. *Прідзіцца рукавы пыдла́жывыць, дужа доўгі. Прыхадзіла дзьве зімы у етым старёнку і ні падложывыла.*

ПАДЛАЖЫВАЦЬ II *незак.* 1. Узлязаць. *Ён вісокавісока пыдла́жывыў мыладый етый на вербу.* 2. Падлязаць. *Нада ж у такея шчэлкі пыдла́жывыць, і нійдзе ні зашчэміцца.* ПАДЛАЗІЦЬ *незак. перан.* Падступацца лісліва. *Ён знаіць, калі пыдла́зіць к стыршыне, нюхым чуіць.*

ПАДЛАЗНІК *м.* Падыходлівы чалавек. *Дайжа ні падумыў ба, што зь яго такей пыдла́зьнік можыць пулучыцца. Памянш.* ПАДЛАЗНІЧАК. *Во хаці ты пуця з бальшога, калі ськідыш ужо еткій пыдла́зьнічык.* ПАДЛАЗНІЦА *ж. Схадзіця, ну другую пыдла́зьніцу пулюбуйціся.*

ПАДЛАМЫВАННЕ *н. метаф.* Падлабуньванне. *Толька пыдзівіцца було, пыглядзеўшы ны Пітрачонкыва пыдла́мывыньня.*

ПАДЛАПАЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Дадаваць пры веянні ўручную. *У ету кучу можна яшчэ пудлупа́чывыць.* 2 *перан.* Вастрыць (касу). *Хведзька быў масьцір косы пудлупа́чывыць, яны ў яго резылі, што брытва.* ПАДЛАПАЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Дадавацца пры веянні ўручную. *Саўсім*

*медлінна пудлупáчывыцца.* 2. Вастрыцца (пра касу). *Калі рукі ўмелыя, дык і кыса пудлупáчывыцца.* ПАДЛАПАЦІЦЬ *зак.* 1. Дадаць пры веянні ўручную. *Трошку пудлупáць ды нысыпаць будзім.* 2. Падвастрыць (касу). *Нада пудлупáціць яму касёнку, ён ці ні зывярнуў жала.* ПАДЛАПАЦІЦЦА *зак.* 1. Дадацца пры веянні ўручную. *Во пірякусім, і яшчэ нямнога пудлупáціцца.* 2. Падвастрыцца (пра касу). *Ладна кыса пудлупáцілыся, лёхка режыць.* ПАДЛАПАЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Даданы пры веянні ўручную. *Трошку пудлупáчына, можна було і большы пысядзець.* 2. Падвостраны (пра касу). *Канешня, пудлупáчыныя кыса будзіць луччы брацъ.*

ПАДЛАСІЦА *ж.* Ласка. *Бярёзы пы быльшаку пывалілі, пні пыгнілі, дык пыдлáсіцы жылі ў дзірькых, што асталіся ат кареньня.*

ПАДЛАЎЛІВАННЕ, ПАДЛОЎЛІВАННЕ *н. перан.* Падпільноўванне. *Яны хітрыя мальцы, нічога с твайго пыдлáўлівыньня ні палучыцца. А ўніміся ты с падлоўлівыньнім, нашто яны табе.*

ПАДЛАЎЛІВАЦЬ *незак. перан.* Набываць несумленна, выбіраючы зручны момант. *С такіх гадоў як прівучыцца пыдлáўлівыць, дык зь яго і вырысьціць злодзій атпетый.*

ПАДЛАЎЧЫВАННЕ *н.* Прыстасоўванне. *Ніякыя пыдлáўчывыньня ні паможыць, калі рукі ня ў тэй бок служуць.*

ПАДЛАЦНАЦЬ, ПАДЛАЦНАЦЦА *зак.* Выбраць зручны момант. *Каб пыдлыцнáў ды зьезьдзіў у горыд разым с Пуўлюком Зыхарёнкым. Вот ён ладна пыдлыцнáўся скасіць клівярок, высых як порых.*

ПАДЛЁТЫШ *м.* Птушаня, якое пачынае лятаць. *У шпакоўніцы ужо ладныя падлётышы сідзяць, скора выліцюць. Памянш.* ПАДЛЁТЫШАК. *Найшлі гнязьдзечка лі аборка, у ім жыўрынятк-падлётышкі.*

ПАДЛІНА *м.* і *ж. перан. узмацн.* Гультай, абібок. *Ну й пáдліна яго большый сын, каплі ня хочыць у дваре паможч. Тыкая пáдліна многа скыта ныгадуіць. Павеліч.* ПАДЛІШЧА. *Якога толку хацець с пáдлішчы, нічога ён табе ні паможыць.*

ПАДЛІННІЦЬ *зак.* Зрабіць даўжэйшым. *Як жа ты брус пыдліньнíш, ета ні палка ны сьцяну, што ныттачыць можна.* ПАДЛІННІЦЦА *зак.* Зрабіцца даўжэйшым. *Прівяжы кончык, вярёўка пыдліньнíцца і хваціць абвізаць воз кругом.* ПАДЛІННЁМШЫ *дзеепрысл. Пыдлінь-*

*нёмшы пыцягі, можна будзіць дальшы крючча вешыць і ряшэціць.*

ПАДЛУЗКЫВАННЕ *н.* Дадаванне пры лузганні. *Ну якоя ж у цябе падлузкывыньня, што ты дзесіць стручкоў рузлузнўў і кінуў.*

ПАДЛУЗКЫВАЦЬ *незак.* Дадаваць пры лузганні. *Мулувата квасолі зваріць, сяджу, падлузкывыю.* ПАДЛУЗКЫВАЦЦА *незак.* Дадавацца пры лузганні. *Я віджу, што ў цябе дужа ніахотна квасоля падлузкывыицца.* ПАДЛУЗКАЦЬ, ПАДЛУЗНУЦЬ *зак.* Дадаць пры лузганні. *Пудлузкáй, кылі хочыш, гароху сабе ў кырман. Мулувата будзіць у гаршчок, нада б яшчэ стручкоў скольска пудлузнўць.* ПАДЛУЗКАЦЦА, ПАДЛУЗНУЦЦА *зак.* Дадацца пры лузганні. *Яшчэ з горсьць пудлузкáіцца і хваціць, многа ні нада. Каб яшчэ горсткі дзьве пудлузнўлыся і ўсё.* ПАДЛУЗКАНЫЙ, ПАДЛУЗНУТЫЙ *дзеепрым. Пудлузкáныга бобу ў кыцялку ні асталыся. Пудлузнўтый гарох стаіць у кыцялку ны сяредній палічкі.*

ПАДЛЭЎДЖЫВАЦЬ *незак. метаф.* Красці. *Ён ня дужа сьцісьняўся, то тоя, то другоя падлэўджывыў.* ПАДЛЭЎДЖАНЫЙ *дзеепрым. Нешта падлэўджына, іначы б яны воґірімі ні хадзілі, а то аж сьвецюцца.*

ПАДЛЮБЛІВАННЕ *н.* Невялікая павага, любоў. *У іх такоя падлюблівыньня: жывуць умесьці, што нейдзі дзецца.*

ПАДЛЮБЛІВАЦЬ *незак.* Крыху паважаць, любіць. *Ня дужа ён падлюблівыіць сваю цёшчу, усігда кріва глядзіць.*

ПАДЛЯГАЦЬ *незак.* Прыкладаць намаганні, упіраючыся нагамі. *Мы відзілі, як яны пыдлігáлі пад воз: Ісай падлезіць, пхнецца, пыхціць, а етыя зы вярёўку чуць цягнуць.* ПАДЛЕЖЧ *зак.* Прыкласці намаганні, упіраючыся нагамі. *Ён адзін пыдляжыць і падніміць воз.*

ПАДЛЯЗАННЕ *н. перан.* Паддобрыванне з лісливасцю. *Як толька новыя нычальства пыіўляіцца, січас увідзіш яго пыдлізáньня.*

ПАДЛЯЗАЦЬ *незак. перан.* Паддобрывацца з лісливасцю. *Доўга пыдлізáў к новыму стыршыне, а тэй ны яго і ўніманія ні абрышчаў.*

ПАДЛЯНІВАЦЦА *незак.* Крыху ленавацца. *Ны навуку яны спасобныя, толька пыдлянівыюцца, ныстаўніца кызала: усё зразу зыпымінаюць.*

ПАДЛЯПЕШНІК *м.* Пляскач. *Січас пыдляпешніка палучыш і ўнімісься, я доўга угыварівыць ня буду.*

ПАДЛЯПЛІВАННЕ, ПАДЛЕПЛІВАННЕ *н. перан.* Залішняя плата без развагі. *Яны дакідыюцца с такім пыдляплівыньнім, што біс капейкі астануцца. Перш чым столька плаціць, нада думыць, падлеплівыньня ґ дабру ні прівядзець.*

ПАДЛЯПЛІВАЦЬ, ПАДЛЕПЛІВАЦЬ *незак. перан.* Залішне плаціць без развагі. *Грошы бальшэя, а пыдляплівыіця чуць ні зыдырма. Нілізя було столька за ету хаччыну падлеплівыць, іна пасьці гнілушка.* ПАДЛЯПІЦЬ *зак.* Залішне заплаціць без развагі. *Грошы падлепіця, а ў цябе німа бярьвеньня, і будзіць іструб гнісьць.* ПАДЛЕПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Тысічы падлепліны зы ірунду, толька што ў горыдзі пастройка.*

ПАДМАГАННЕ *н.* Дапамога. *Яго пыдмыга́ньня мы знаім: пыстаіць, ізыком пылапочыць, пыўказывыіць.*

ПАДМАГНУЦЬ, ПАДМОЖЧ *зак.* Крыху дапамагчы. *Пыдмагні-ка нам пыцягу ны сьцяну ўськівуць, удваіх ні справімся. Мой сыбіраіцца падможч Антончыкывым, яны сяньня за погріб узяліся.*

ПАДМАЗКА *ж. перан.* Хабар. *Ты цяперя сам пынімаіш, што тамыцька біс пыдма́зкі ні абыйшлося.*

ПАДМАЗЫВАННЕ *н.* Даванне ў масць (пры гульні ў карты). *Большы ны пыдма́зывыньня ні надзейся, сядзі іс сваімі хрісьцямі і ня ріпыйся.*

ПАДМАЗЫВАЦЬ *незак.* Даваць у масць. *Сколька ні гуляім, ты мне ўсігда пыдма́зывыіш, дайжа пыд малодкі.* ПАДМАЗЫВАЦЦА *незак.* Давацца ў масць. *Я дайжа ні прідумыю, чаго ў цябе так пыдма́зывыіцца.* ПАДМАЗАЦЬ *зак.* Даць у масць. *Во пыглядзіш, ты мне і на етый раз пыдма́жыш.* ПАДМАЗАЦЦА *зак.* Дацца ў масць. *Не, ня думый, большы ні пыдма́жыцца.* ПАДМАЗАНЫЙ *дзеепрым. Ай-я-яй, етык пыдма́зына пыд віноўку!*

ПАДМАНІВАННЕ *н.* Падкліканне (жывёлы, птушкі). *Ня хочуць куры слухыць твайго пыдма́нівыньня, ты толька пырькыіш, а нічога ня сыпіш.*

ПАДМАНІВАННІК *м.* Падманшчык. *Ня слухый яго, ета первый пыдма́нівыньнік. Памянш.* ПАДМАНІВАННІЧАК, ПАДМАНЯННІЧАК. *І ты ўжо пыдма́нівыньнічкым стаў, а я думыў, ты ня ўмеіш пыдмыняць. Ах, якей ты пыдмыня́ньнічык, ці ня стыдна гываріць бабі ніпраўду.* ПАДМАНІВАННІЦА *ж. Мы знаім, што вы пыдма́нівыньніцы, вам ні ў чом нілізя веріць.*

ПАДМАНЯЦЬ *незак.* Падманваць. *Ты быльшая дзевычка, а так нікрасіва дзелыіш, нілізя бабу пыдмы-*

*няць.* ПАДМАНІВАЦЬ *незак.* 1. Падманваць. *Ах ты, жыртаўніца, любіш дзеда пыдма́нівыць, я ж віджу, што каровы нікуды ні пабеглі.* 2. Падклікаць (жывёлу, птушку). *Ціплят доўга пыдма́нівыць ні нада, толька пыкажысь, яны к табе лётым ліцяць.* ПАДМАНІЦЬ *зак.* Падклікаць (птушку, жывёлу). *Пыдмані́ курей к сенцым, ніхай пыдбяруць ячмень, пакуля ні ўтыптаўся ў грязь.*

ПАДМАСЦЁРАК *м.* Памочнік у прафесійнай працы. *Нікога ён ні шукаў, свае пыдмасьцёркі дзелылі, Восіп ладна хлыпцам плаціў.*

ПАДМАТЫВАННЕ *н. перан.* Набыццё не зусім сумленна. *Не, брацiц мой, пыдматывыньня редка дабром кынчаіцца, лучче ты чэсна зароб.*

ПАДМАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Набываць не зусім сумленна. *Ой, прайдошлівый чылавек, дужа любіць пыдма́тывыць, каб лішнія зулучы́ць.*

ПАДМАХМЕЛІВАННЕ *н. эмац.* Бяздумнае падліванне. *Хваціць яму пыдмахмелівыньня, ато ж ты ні пыцягніш яго двору.*

ПАДМАХМЕЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Падліваць бяздумна. *Кірей нарошня пыдмахмелівыіць, а етый чарку зы чаркыю варочыіць.* ПАДМАХМЕЛІЦЬ *зак.* Падліць бяздумна. *Цеста ўжо було разьведжына як нада, а ты вады пыдмахмеліў.* ПАДМАХМЕЛЕНЫЙ *дзеепрым. Яму б ужо дос піць, а гляджу — у стыкане узноў пыдмахмеліна.*

ПАДМАХНУЦЬ *зак. перан.* Злёгку замесці. *Як пыдмахнеш мост, дык чысьцей будзіць у хаці, зайціць пріятній.*

ПАДМАШЧЫВАЦЬ, ПАДМОШЧЫВАЦЬ *незак.* Даваць у масць. *Любіў ба ты, каб табе кажын раз пыдма́шчывылі,— не, пад віні я табе ні пыдмашчу. Ты мне ўсігда падмошчывыіш, во і січас дай у масьць.* ПАДМАСЦІЦЬ *зак.* Даць у масць. *Во пыдмасьціў дык пыдмасьціў, Мішка з васьмёркыю адбіўся.* ПАДМОШЧАНЫЙ *дзеепрым. Узноў яму падмошчына!* ПАДМАСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Чаму ж ні адбіцца, так пыдмасьцёмшы.*

ПАДМЕСЦЬ *зак. метаф.* З'есці ўсё. *Многа було ныгатоўліна — і ныварiна, і ныжарiна,— усё пыдмялі́ пыччыстую.* ПАДМЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. Чыста падмеціна, ні корычкі ні асталыся.*

ПАДМЕШЫВАЦЬ *незак.* Араць другі раз. *Ны грідах нада, каб зімля была мяккыя, там усігда падмешывыюць і яшчэ раз скародзюць.* ПАДМЕШЫВАЦЦА *незак.* Арацца другі раз. *Як падмешывыіцца, зімля мякчэіць,*

*гряды такую зямлю любюць.* ПАДМЯШАЦЬ *зак.* Узараць другі раз. *Я атвечыра пыдмішáю і рызганю барозны, тады можна будзіць зыгрібаць гряды.* ПАДМЯШАЦЦА *зак.* Узарацца другі раз. *Не, борызны гыняць рана, як пыдмішáіцца, тады.* ПАДМЯШАНЫЙ, ПАДМЕШАНЫЙ *дзеепрым. Во як пыдмішáна, і чуствыіцца, што зімля пымякчэла. Ны грідах падмешына, нада скарей сеіць гарод.*

ПАДМОСЦІКА *н. памянш.* Падпамосце. *Нізінькыя пулучылыся падмосьціка, можна було вышы дзелыць хундамінт.*

ПАДМОТКА *ж. перан.* Ануча. *Падмотку ш чаго атрезыў і ладна, абы ныгам цяплей було. Памянш.* ПАДМОТАЧКА. *Пыдажджы, я табе січас пушукаю цяплейшыя падмотычкі.*

ПАДМУЧАНІВАННЕ *н.* Запраўлянне мукой. *Посьлі пудмучáнівыньня пырысяты ўсё паелі, чыстыя карыцца.*

ПАДМУЧАНІВАЦЬ *незак.* Запраўляць мукой. *Ня хочыць пацьсьвінык есьць цеста, нада пудмучáнівыць.* ПАДМУЧАНІВАЦЦА *незак.* Запраўляцца мукой. *Як пудмучáнівыіцца, тады і куры смашней дзяўбуць.* ПАДМУЧАНІЦЬ *зак.* Заправіць мукой. *Пудмучáнь поіла, луччы цялёнык выпіць.* ПАДМУЧАНІЦЦА *зак.* Заправіцца мукой. *Во січас пудмучáніцца, і пырысяты дыядуць, тады ў пуню пагоніш.* ПАДМУЧАНЕНЫЙ *дзеепрым. Ніхай дзяўбуць і ні прітвыряюцца, у місычкі ладна пудмучáніна.*

ПАДМУЧАЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Падзадорваць. *Няўжэлі ты ні пынімаіш, Сьвірідзёнык іх нарошня пудмучáчывыў.* ПАДМУЧАЦІЦЬ *зак.* Падзадорыць. *Яго нядоўга пудмучáціць, ён нейкій ніпынімаюшчый, усім веріць.*

ПАДМЯКЛЫЙ *дзеепрым.* Падмоклы. *У стáрый дзежкі пыдмяклыя соль, туды трошку каплі пупалі с крышы.*

ПАДНАВАДЗІЦЬ *незак. метаф.* Прыбіраць, упрыгожваць. *Гасьцей жджэць, пыднаводзіць хату. Дзеўкі пыднаводзюць сябе пірід вічарінкыю.* ПАДНАВАДЗІЦЦА *незак.* Прыбірацца, упрыгожвацца. *Вы як возьміціся пыднывадзіцца, уремя вам нада часы чатырі, ня меншы.* ПАДНАВЕСЦЬ *зак.* Прыбраць, упрыгожыць. *Красіва ж вы Таньку пыднывялі, адбою кывалерыў ня будзіць.* ПАДНАВЕСЦА *зак.* Прыбрацца, упрыгожыцца. *У горыд іціць — пыднавесца нада, там людзі, можна знакомых устреціць.* ПАДНАВЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Сяньня ўсе дзеўкі пыднаведзіныя, вот вам выбыр будзіць.*

ПАДНАВЕС *м.*, ПАДНАВЕССЕ *н.* Павець. *У калхозі зьдзелылі пыднавес, ды мулуватый. Слабыя наша пыд-*

*навесься, пацсошкі чуць стыяць. Памянш.* ПАДНАВЕСІК, ПАДНАВЕССІКА. *Ладный пыднавесік пулучыйся, што хочыш можна скласьць. Нада пірякрыць пыднавесьсіка, яно стала цеч як у решыта.*

ПАДНАПІЦЦА *зак.* Падпіць, быць досыць п'яным. *Ладна пыдныпіліся на ксьціных, зываліліся і храпуць, аж сьцены рызьлігаюцца.*

ПАДНАШЫВАЦЦА *незак.* Нетактоўна, не ў час прапаноўваць. *С квасольлю Удодзіха пыдна́шывылыся, ні нада мне яе квасоля.* ПАДНАСІЦЦА *зак. метаф.* Пастарэць, паслабець. *Што ж ты хочыш, яму пырядышна за шэзьдзісят, пыднасіўся чылавек.*

ПАДНІЗЗІКА *н. памянш.* Ніжняя частка пабудовы. *Падні́зьзіка ў етый хаці сла́быя, нада крепкій подруб дываць.*

ПАДНІМАННЕ *н. метаф.* Гадаванне, вырошчванне (дзяцей). *Дзяцей пыднімаць — ні ў карты гуляць, пыднімá́ньня — цяжолыя дзела.*

ПАДНІМАЦЬ *незак. перан.* 1. Знаходзіць магчымасць будаваць, узводзіць. *Ну што там гывáріць, піцісьценку пыднімáць нялёхка.* 2. Спраўляць. *Такея гулянкі пыднімáць трудна, расходы дужа бальшэя.* ПАДНЯЦЬ *зак.* 1. Знайсці магчымасць збудаваць, узвесці. *Такей двор мы на хутырі пыднялі — дзьве хаты, сенцы, клецъ, адзьдзельна кароўнік, канюшня, сьвіннарнік, пунька айцам, сяніца, павець.* 2. Справіць. *Крепкыю свадзьбу пыднялі, у даўгі ўлезьлі па вушы.*

ПАДНОС *м.*, ПАДНОСКІ *мн. перан.* Чараўніцтва. *Ні дуріця вы гылавы с падносым, самі паўміця, як нейкыя тряпка можыць уліяць. Можа, каму пыткідалі падноскі, ці мала ўсякія дураты тваріцца на сьвеці.*

ПАДНОСАЧАК *м. памянш.* Падносак. *Знасіліся падносычкі, міняць нада, ды ўсё некылі ў горыд атвярнуцца.*

ПАДНУТРЫВАННЕ *н.* Непрыкметнае падбухторванне. *Нылаю бакі зы паднýтрівыньня, нашто йта людзям хахлы зьвязывыць.*

ПАДНУТРЫВАННІК *м.* Падбухторшчык. *У любом дзелі Хліманок — первый паднýтрівыньнік, на што хочыш можыць падбіць.* ПАДНУТРЫВАННІЦА *ж. Каб хто хырашэнька прыздравіў ету паднýтрівыньніцу, ато ёй дужа ўходу німа.*

ПАДНУТРЫВАЦЬ *незак.* Непрыкметна падбухторваць. *Зь нейкыю цэльлю Сьціпыняты яго паднýтрівыюць, хочуць нешта сыйграць на етым.* ПАДНУТРЫЦЬ *зак.* Непрыкметна падбухторыць. *Лупудзенку знаіш хто паднý-*

*трій — Бурдзянкі, яй-богу, яны, большы ніхто.* ПАДНУТРАНЫЙ *дзеепрым. Каб ня быў паднўтрін, ён ба ні пабег сваріцца, божа бырані, ні пабег ба.*

ПАДНУЦКЫВАННІК *м.* Падбухторшчык. *Ні пасьледній паднўцкывыньнік быў Крышталь, на што хочыш мог завесьць.* ПАДНУЦКЫВАННІЦА *ж. Ты сам знаіш, ікая паднўцкывыньніца была Гырасіха.*

ПАДНЯХВЕРЫВАННІК *м.* Той, хто абяцае і не выконвае. *Ну й пыдняхверівыньнік, ізыком што хочыш ныбішчаіць, а зьдзелыць нічога ня зьдзелыіць.* ПАДНЯХВЕРЫВАННІЦА *ж. Ні тряпліся, пыдняхверівыньніца, луччы скажы Сашку ніхай прідзіць паможыць.*

ПАДОЙНІЦА *ж.* Дайніца. *Я падойніцу бірягу толька пры мылако, большы нічога ня льлю, памыю і вешыю сушыць.*

ПАДОК, ПОДЗІК *м. памянш.* Под. *Рысьсьцялі тряпкі ны падок, яны у мамент прасохнуць. Ты сьпіною ляж на подзік, будзіць цёплінька.*

ПА-ДОКТАРСКУ *прысл.* Як у медыцыне. *Як ета падоктырску завецца, я ні знаю, а ў нас чахотышный.*

ПАДОЛ *м. перан.* Мыццё бялізны. *Сяньня я нікуды ні пайду, у мяне падол.*

ПАДОННІКА *н. памянш.* Падонкі. *Згрябі падоньніка ў кучку, яно пацсохніць і пойдзіць ны пацьсьцілку.*

ПАДОРГАЦЬ *зак.* 1. Паторгаць. *Падоргыў за чэп — дзьвері с таго боку зашчэпліны. 2 перан.* Пабалець пры нарыванні. *Ладныга падоргылі пальцы, пакуля нырывалі. 3 перан.* Павырываць. *Нехта падоргыў пасоджыныя клянкі.* ПАДОРГАЦЦА *зак.* Павырывацца. *Ну, а калі падоргыюцца цьвяты, якей толк зь естыга палучыцца.* ПАДОРГАНЫЙ *дзеепрым.* Павырываны. *Усе каноплі падоргыны, нечыга табе біспакоіцца.*

ПАДОСАЧКА *ж. памянш.* Падосак. *Ніхай падосычкі пыліжаць, як нада пад рукі, дык ні ўсігда найдзіш.*

ПАДПАІВАННІК, ПАДПОІВАННІК *м.* Той, хто падпойвае. *Во найшоўся пытпа́івыньнік, Мыкар цябе ныпытпа́івыіць, што ня будзіш знаць, як ляцець. Узяліся патпоівыньнікі Сьпірідзёнка абрыбатывыць.* ПАДПАІВАННІЦА, ПАДПОІВАННІЦА *ж. А ўніміся ты, пытпа́івыньніца, с пустымі рызгаворымі. Вун пышла Мікілаіва патпоівыньніца.*

ПАДПАЛЬНУЦЬ *зак. экспр.* Падпаліць. *Зло зыгналі, пычалі мсьціць і пытпальнўлі хату.* ПАДПАЛЬНУЦЦА *зак.* Падпаліцца. *Салома сухая як порых, зразу пытпальнецца.* ПАДПАЛЬНУТЫЙ *дзеепрым. Скора ныскачылі і пытпальнўтый стажок пасьпелі аттушыць.*

ПАДПАРАДЗІЦЬ *зак. эмац.* Падбухторыць. *Нехта пытпырядзіў Прудніčонка зыбраць насечыный арешнік, ён даўно ліжаў.* ПАДПАРАДЗІЦЦА *зак.* Падахвоціцца. *Пытпырядзіўся пуню пастроіць, паўшула выдзіўбыў і кінуў работу.*

ПАДПАРЫВАННЕ *н. перан.* Падганянне. *Ня дужа конь твайго пытпáрівыньня слухыіць, яго нада хырашэнька пільнуць.*

ПАДПАСАВІЧ *м.* Падпасак. *Бацька памёр, а нас пяціра, матка аддывала мяне і Аніса у пытпасывічы г Дзёмку.*

ПАДПАСЛЕДАК *прысл.* Напаследак, у канцы. *Ён сьпірва атмоўчывыўся, а пытпасьледык усё выкызыў. Памянш.* ПАДПАСЛЕДАЧАК. *Ну, а што ты пытпасьледычык скажыш, можа ты там ня быў?*

ПАДПАХЫВАННЕ *н.* Акучванне. *Пыдажджы, я пыляжу мінутычку посьлі пытпáхывыньня, дужа зымаріўся.*

ПАДПАХЫВАННІК *м.* Той, хто акучвае. *Пытпáхывыньнікым даецца: работа цяжолыя ды ўсё жарою.* ПАДПАХЫВАННІЦА *ж. Ні хыця будзіш пытпáхывыньніца, як некыму зьдзелыць.*

ПАДПАХЫВАЦЬ *незак.* 1. Акучваць. *Мальцы паехылі бульбу пытпáхывыць, іна пірірыстаіць.* 2. Выворваць. *Бульбу пытпáхывыць ён іщчэ ня дужа ловык.* ПАДПАХАЦЬ *зак.* 1. Акучыць. *Ныстыяшчый хызяін усігда цыляіць пытпыхáць бульбу у абед, тады іна меншы лумаіцца.* 2. Выараць. *Я сваім на ўвесь дзень пытпыхáў бульбы.* ПАДПАХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Акучаны. *Пытпыхáныю бульбу нада абізацільна піряйціць, кусьцікі пыправіць, траву вырвыць.* 2. Выараны. *Пытпáхыныя грядкі нада выбрыць, нілізя у зямле кідаць нá ныч.*

ПАДПАШКІ *прысл.* 1. Крыж-накрыж (пры барукан-ні). *Вы пытпáшкі як возьміціся і адзін другога збоpіця.* 2. Пад руку. *Усё хадзілі пы дзяреўні пытпáшкі, а тады і рызыйшліся.*

ПАДПАШКУ *прысл.* Пад руку. *Раншы каб хто ішоў пы дзяреўні пытпáшку, дык ба дзівіліся, раншы моды такея ні було.*

ПАДПАШШЫКА *н. памянш.* Месца пад пахай. *Тваё пытпáшшыка у рубашкі рызырвалыся пу рубцу.*

ПАДПЕЧНІК *м. асудж.* Празмерна цікаўны чалавек. *Ну ўжо баба як баба, ну калі мушчына патпечнікым стаў, ета пасьледнія дзела.* ПАДПЕЧНІЦА *ж. Дужа аньцірісовыныя патпечніца, у кажныю дзірьку лезіць.*

ПАДПЕЧЧА *н.* Падпечак. *Я помню, як лазілі пы патпеччых, сыбіралі удабренія пад лён. Памянш.*

ПАДПЕЧЧЫКА. *Патпеччыка малінькыя, ну цёплінькыя, курей у бальшэя марозы там дзяржым.*

ПАДПІЛАЧАК *м. памянш.* Напільнік. *Нейдзі пыціряў я свой патпілычык, ён так хырашо вайстріў, і во нійдзе ні найду.*

ПАДПІХЫВАННЕ *н.* 1 *перан.* Уладкоўванне. *Думыю, што Хвядоныва патпіхывыньня пымагло Хіміным хлопцым.* 2 *метаф.* Уцягванне ў сумніцельную справу. *Пашлі ны патпіхывыньня і пупаліся, будуць атвічаць пасьці ні за што.*

ПАДПІХЫВАЦЬ *незак.* 1 *перан.* Уладкоўваць. *Патпіхывылі дзяўчонку ў кантору, ды, знаць, нічога ні пулучылыся.* 2 *метаф.* Уцягваць у сумніцельную справу. *Хаўрусьнікі былі ладныя, патпіхывылі, ён і пычаў цігаць чужбіну.* ПАДПІХНУЦЬ *зак.* 1. Уладкаваць. *Дзядзька пытпіхнýў, так ён і прічаліўся, работыіць.* 2. Уцягнуць у сумніцельную справу. *Канешня, яны пытпіхнýлі Ніканёнка ў такую грязныю кашу.* ПАДПІХНУТЫЙ *дзееприм.* Уладкаваны. *Пытпіхнýтыя былі, самі б ні ўшчаміліся.*

ПАДПЛАЎЛЯЦЬ *незак. эмац.* Моцна намочваць знізу. *Ты кажный раз мяшочыкі у сенцых путплуўля́іш, усігда мокрыя стыяць.*

ПАДПОЛЛЕ *н.* Месца пад нарамі. *Раншы у патпольля бульбу сыпылі ны расход, і мелкыю паріць сьвіньням.* *Памянш.* ПАДПОЛЛІКА. *Нада було б і патпольліка зымасьціць, туды ўжо сыпыць нечыга цяперіцька.*

ПАДПОЛЬНІК *м.* Падпольшчык. *Мы тады ма́лыя былі, к нам у дзярейню патпольнікі пріхадзілі.* ПАДПОЛЬНІЦА *ж.* *Анталеніна сістра у Кыцірянбургу патпольніцыю была, тады сюда пріізджала.*

ПАДПОЛЬНАСЦЬ *ж.* Падпольная дзейнасць. *Бацька ўсіх знаў, хто зыймаўся патпольнысьцю, яны зьбіраліся у Каробчынскім раву; раз скызаў пра ета земскыму, тэй аж пыбялеў.*

ПАДПОРЧЫВАННЕ *н.* Нязначнае псаванне. *Як замеціш патпорчывыньня, нічога ні блюдзі, як няможна скарей расходый.*

ПАДПОРЧЫВАЦЬ *незак.* Нязначна псаваць. *Ты сыма патпорчывыіш капусту, склаўшы ў хаці, яе нада ў халодным дзіржаць.* ПАДПОРЧЫВАЦЦА *незак.* Нязначна псавацца. *Віджу, што патпорчывыюцца быракі, я іх скорінька пірібрала і дывай паріць.* ПАДПОРЦІЦЬ *зак.* Нязначна сапсаваць. *Суруватый ячмень ссыпыў у засік і патпорціў, худзь ба пamешывыў.* ПАДПОРЦІЦЦА *зак.* Нязначна сапсавацца. *Сьвежыя мяса нада глядзець*

*ды глядзець, ато ўраз можыць патпорціцца.* ПАДПОРЧАНЫЙ *дзеепрым. Я ўзіла ны язык і зразу чуствыю, што мука патпорчыныя.*

ПАДПРАДАННЕ *н.* 1. Прадзенне дадаткова. *Ні пытпріда́ньня, ні пытыка́ньня цяперіцька ніхто ня відзіць і ня чуіць.* 2. Спрадзенае дадаткова. *Усё пытпріда́ньня ну клубочыку, дзеці змыталі.*

ПАДПРАДАЦЬ *незак.* Прасці дадаткова. *Бувала, што ні хвытаіць пыткаць, тады садзісься, пытпріда́іш.* ПАДПРАДАЦЦА *незак.* Прасціся дадаткова. *Дужа медлінна ў цябе пытпріда́іцца.*

ПАДПРАТЫВАННЕ *н.* Адзяванне пад верхнюю вопратку. *Ны сянішній холыд пытпря́тывыньня ні паможыць, зразу пулушубык ныдзівай.*

ПАДПРАЎЛЯЦЬ *незак.* Прыпраўляць (корм). *Ваперь трошку зьесьць, а тады пычынаіць варочыць рылым, я путпруўля́ю ў карыці.* ПАДПРАВІЦЬ *зак.* Прыправіць (корм). *Калі ні пытпра́віш, ня хочыць дыідаць, а мукою пасыпліш — даесьць.* ПАДПРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пырысятым пытпра́ўліна, і ніхай ядуць, а то іх угывaрівыць нада.*

ПАДПРУЖКА *ж. памянш.* Папруга. *Хто ўмеў, тэя самі плялі патпру́жкі, а другея ны бызарі куплялі, тады ўсё можна було купіць.*

ПАДПРЫГЫВАННЕ *н. перан.* Раптоўнае ўмешванне. *Яго ніхто ня любіць зы такоя патпры́гывыньня: чаго мішацца у чужоя дзела.*

ПАДПРЫГЫВАЦЬ *незак. перан.* Раптоўна ўмешвацца. *Нечыга було яму патпры́гывыць, свае дзялы і самі рызьбяруцца.* ПАДПРЫГНУЦЬ *зак.* Раптоўна ўмяшацца. *Ніізьвесна чаго патпры́гнуў, толька пымішаў ім дыгыварівыцца.*

ПАДПУЖЫВАЦЬ *незак.* Крыху палохаць. *Што ты патпу́жывыіш, яны сьвет прайшлі.* ПАДПУЖАЦЬ *зак.* Крыху запалохаць. *Путпужа́ў ма́лых, што Хвядонінка у саду сядзіць зу кустом, пірісталі лазіць.*

ПАДПУШЫЦЬ *зак. метаф.* 1. Дробна разрыхліць. *Гряды як патпу́шыш, лішнім ня будзіць, гародніна любіць, каб мяккыя зімля была.* 2. Аблаяць. *Яго і другей раз патпу́шуць, сваё палучыць.* ПАДПУШАНЫЙ, ПАДПУШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Дробна разрыхлены. *Так гарод патпу́шын, што ныга тоніць. У цябе зімля як нада путпушона.* 2. Аблаяны. *Патпу́шыныму трошку стыдна людзям на вочы пыказывыцца. Путпушоный ён, кажыцца, пывісялеў.* ПАДПУШОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Дробна разрыхліўшы. *Путпушомшы гряды, садзі цыбулю.* 2. Аб-

лаяўшы. *Ні путпушомшы, сь цябе толку ні даждэш.*

ПАДПЫРНУЦЬ *зак. перан.* Падагнаць. *Кылі ў сымаго німа ахоты што зьдзелыць, то ня дужа пытпырнеш.*

ПАДПЫРХЫВАННЕ *н.* 1. Падскокванне. *Ну-ка, ну, чыё патпы́рьхывыньня вышы? 2 перан.* Кіданне з пагрозамі. *Пыдажджы, пыдажджы, цябе скора атвучуць ат патпы́рьхывыньня с кулукамі.*

ПАДПЫРХЫВАННІК *м.* 1. Той, хто падскоквае. *Адзін патпы́рьхывыньнік нагу выкруціў, ныпатпы́рьхывыўся.* 2 *перан.* Той, хто накідваецца з пагрозамі. *Ня дужа каму страшын етый патпы́рьхывыньнік.* ПАДПЫРХЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што падскоквае. *Ах вы, патпы́рьхывыньніцы, тута вісока, ні дыстаніця.* 2. Тая, што накідваецца з пагрозамі. *С такея патпы́рьхывынбніцы толька людзі нысьмяюцца.*

ПАДПЫРХЫВАЦЬ *незак.* 1. Падскокваць. *Патпы́рьхывыіць, каб яблыка сырваць, а яно вісока.* 2 *перан.* Накідвацца з пагрозамі. *Налу́пюць бакі, дык атучыцца патпы́рьхывыць.* ПАДПЫРХНУЦЬ *зак.* 1. Падскочыць. *Патпы́рьхні ды сарьві етый клок, што буўтаіцца.* 2. Накінуцца з пагрозамі. *Глядзі, другей раз патпы́рьхніш, што нызад ні ацскочыш.*

ПАДПЯВАННЕ *н. перан.* Нагаворванне. *Калі ўсякыя пытпіва́ньня слухыіць, ета ні чылавек.*

ПАДПЯВАННІК, ПАДПЯВАЛЬНІК *м.* Той, хто нагаворвае. *Пытпіва́ньнікыў увы ўсякыя ўремя хвытала. Пастылый пытпіва́льнік быў, усякія лухты мог ну любога нытрілюдзіць. Памяниш.* ПАДПЯВАННІЧАК, ПАДПЯВАЛЬНІЧАК. *Рана ты зьдзелыўся пытпіва́ньнічкым, падрос ба. Знаю, што Андреіхін пытпіва́льнічык пыстыряўся.* ПАДПЯВАННІЦА, ПАДПЯВАЛЬНІЦА *ж. Што вашый пытпіва́ньніцы нада, чаго іна чыпляіцца як смыла. А твыя пытпіва́льніца ніхай пріма́ўкывыіць зь ізыком, пакуля ні нылаілі.*

ПАДПЯКАННЕ *н.* 1 *перан.* Падпальванне. *Во яму пытпіка́ньня і пыджжарівыньня, за ўсё зразу пулучыў.* 2 *метаф.* Збіванне з панталыку. *Што ўжо дывала яму Гашка зы пытпіка́ньня.*

ПАДПЯКАЦЬ *незак.* 1 *перан.* Падпальваць. *Яго адзін раз пытпіка́лі, ета блыгыдыря Тырас міма ішоў, відзіць: пуд вуглом салома гаріць,— дык путушыў.* 2 *метаф.* Падводзіць знарок. *Бяссовісныя людзі, яны сваіх знакомых пытпіка́юць, а посьлі сьмяюцца.* ПАДПЕЧ *зак.* 1. Падпаліць. *І Кіріла ні хацеў зьвязывыцца, каб ні пытпяклі́, ат такея нячыстыя сілы усяго можна ждаць.* 2. Пад-

весці знарок. *Ты яму верь большы, ён пытпякець, што толька дзівіцца будзіш.* ПАДПЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* Падпалены. *Само там зыгарецца ні магло, було патпечына.*

ПАДПЯРАЗАЧКА *ж. памянш.* Падпяразка. *Ета я сваю пытпіря́зычку шукала, нейдзі рысьпірізáлыся і ніяк ні найду.*

ПАДРАБІЦЬ *зак.* Паскакаць з частым прытупваннем. *Ты б відзіў, як Люська умела пыдрабіць, ды ўсё с пріпівáньнім, с пріпівáньнім.*

ПАДРАДЖАННЕ *н.* Узяцце на сябе абавязку. *Ны пыдріджáньня у яго ахота быльшая, а брацца дзелыць — рукі атвалівыюцца.*

ПАДРАДЖАННІК *м.* Той, хто бярэ на сябе абавязак. *Ні знаіш, ці пад'едзіш, ці не, ня будзь еткім пыдріджáньнікым.* ПАДРАДЖАННІЦА *ж. Іна ўсігда тыкая пыдріджáньніца: ізыком лáхніць і ня зьдзелыіць.*

ПАДРАЖНЯННЕ *н.* Пацвельванне. *Мы ішчэ помнім, як Сярьгей гыняўся зу мульчуганымі с палкыю зы пыдрыжня́ньня.*

ПАДРАЖНЯННІК *м.* Той, хто пацвельваецца. *Будзіць пыдрыжня́ньнікым, як Цімох зловіць каторыга. Памянш.* ПАДРАЖНЯННІЧАК. *Січас дыганю етых пыдрыжня́ньнічкыў, яны ў мяне ныдражнюцца.* ПАДРАЖНЯННІЦА *ж. І ты ўжо стала пыдрыжня́ньніца, як малютычка.*

ПАДРАПЯРЦІЦЬ *зак. жарт.* Падрыхтаваць. *Вы ж і хлыпца пыдріпярцíця, ніхай пугуляіць ны нашый вічарінкі.* ПАДРАПЯРЦІЦЦА *зак.* Падрыхтавацца. *Знаіш, пуччупуріліся, пыдріпярцíліся, важных гасьцей дыжыдалі, а тэя ўзялі і ні пріехылі.* ПАДРАПЯРЧОНЫЙ *дзеепрым. Пы ўсяму відна, што пыдріпярчоныя, пывыгладжывыліся.* ПАДРАПЯРЦЁМШЫ *дзеепрысл. Нашы дзеўкі даўно пыдріпярцёмшы, толька гырманіста вядзіця.*

ПАДРОЎНІВАННЕ *н.* Раўнаванне. *Посьлі падроўнівыньня трошку луччы стала, ну бугаркі ішчэ асталіся.*

ПАДРУБА *ж.* Вянок ці некалькі вянкоў пад стары зруб. *Каб даў ладныю падрýбу, яго хата яшчэ доўга стыяла б.*

ПАДРЫНКАТАЦЬ, ПАДРЫНКАТАЦЦА *зак. перан.* 1. Паехаць з бразганнем. *Пыдрынкытáлі ны сваёй мыжаріні зы быльшак, тама ў іх лыза насечына. Кудашкіны сяньня тожа куды-то пыдрынкочуцца.* 2. Пайсці няўклюдна. *Пыдрынкытáў некуды твой сват у тэй бок. Ранінька пыдрынкытáлыся кума пыд Віхряны.*

ПАДРЫНКАЦЬ *зак.* 1. Пабразгаць. *Ны бярьвеньні падры́нкылі якімі-то бляшкымі.* 2 *перан.* Пайсці няўклюдна. *Некуды падры́нкыла Саўкіна стыра́я з вузялком.* ПАДРЫНКАЦЦА *зак.* Пайсці няўклюдна. *Ці ні падры́нкыліся яны к Нувумёнку.*

ПАДРЫНЧЭЦЬ *зак.* 1. Пабразгаць. *Айт, нечым дзіцям зыняцца, нейкімі жалезкымі пыдрынчэлі, цяперя каток кытаюць.* 2 *перан.* Энергічна пайсці. *Некуды зы аборкі пыдрынчэла Анісыва свыцьця.* 3 *перан.* Выскачыць, выбегчы. *Ты аттуліцька пыдрынчы́ш як сідырыва кыза.* ПАДРЫНЧЭЦЦА *зак.* 1. Пабразгаць. *Трошку пыдрынчэліся ны дваре ж жалезьзім ды пірісталі.* 2. Энергічна пайсці. *Толька пачуіць, што Іванёнычык пріехыў, пыдрынчы́цца, ня ўцерьпіць.*

ПАДРЫПСІЦЦА *зак.* Зрабіцца неахайным. *Мыладэя бабы апусьціліся, падрі́псіліся, як ім толька людзей ня стыдна.*

ПАДРЭНЧЫЦЬ *зак. эмац.* Пахваляваць. *Яго можыць і ніізьвесна чаго падрэнчыць, спакой к яму редка калі пріходзіць.* ПАДРЭНЧЫЦЦА *зак.* Пахвалявацца. *Як рыскызала Кулініна дычка пры яго прадзелкі, ох, падрэнчыўся, дужа яму ні пыныравілыся.*

ПАДСАБЛЯННЕ *н.* Дапамога. *Якоя ні пыцсыбляньня, алі ж трошку памог, хуць пыдзіржаў вярёўку, і то ладна.*

ПАДСАВЕТАЦЬ, ПАДСАВЕТАВАЦЬ *зак.* Параіць. *Ці ні Кырняёнык пыцсаветыў яму сваю пляменьніцу. Нехта найшоўся, ладныю цацу пыцсаветывыў, цяпніць зь ёю горя.* ПАДСАВЕТАНЫЙ, ПАДСАВЕТАВАНЫЙ *дзеепрым. Іна пыцсаветыныя кароўка, алі ніважныя, мылыка ён многа ні наесьць. Узяў пыцсаветывыныю дзеўку, уродзі надзёжныю, дык во ікая надзёжныя.*

ПАДСАДЖЫВАННЕ *н. метаф.* 1. Збіванне з панталыку. *Ня дужа яны быяцца нейкыга пыцса́джывыньня, яны нічога дренныга ня дзелылі.* 2. Няшчасце. *Хвытала ім усякыга пыцса́джывыньня.*

ПАДСАДЗІЦЬ *зак. метаф.* Давесці да цяжкага стану (пра гора, няшчасце). *Карова іх крепка пыцсадзі́ла, нада ж такому нішчасьцю случыцца.* ПАДСАДЗІЦЦА *зак.* Трапіць у цяжкае становішча. *Усё ж уходу ні було, ды во пыцсадзі́ўся с Пынасёнкым.* ПАДСОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Ахрямёнык пацсоджын, і крепка пацсоджын, няскора ачухыцца.*

ПАДСАЛАДЖЫВАННЕ, ПАДСАЛОДЖЫВАННЕ *н.*

Саладжэнне дадаткова. *Ты сы сваім пыцсыла́джывыньнім толька сахыр рыссыпаіш. Хваціць ужо, хваціць сь цябе пыцсалоджывыньня, і так многа насыпыў.*

ПАДСАЛАДЖЫВАЦЬ *незак.* Саладзіць дадаткова. *Ты ні сьцісьняйся, пыцсыла́джывый чай, усып яшчэ ложычку.*

ПАДСАЧЫЦЬ *зак. метаф.* Падчараваць. *Ну вот праўду табе кажу: ета пыцсачы́лі і ў цябе рызбалелыся гылыва.*

ПАДСВІНАЧАК *м. памянш.* Падсвінак. *Вот летыся мне пупаўся зыдашлівый пацьсьві́нычык: і еў, што ні дасі, і рос, як ны дрыжджах.*

ПАДСІНЬКА *ж.* Сінька. *Раншы у мяне ўсігда пацьсінька у зыпасі ліжала, а цяперя неік выйшла.*

ПАДСІТАЧАК *м. памянш.* Падсітак. *Такей жа лоўкінькій быў пацьсі́тычык, а во пырваўся.*

ПАДСКВАРЫВАННЕ *н. перан.* Моцнае награванне, перагрэў. *Ні пымыгаіць яму і пыцсква́рівыньня, грейся, грейся, а бухікыіць як у мех.*

ПАДСКВАРЫВАЦЬ *незак. перан.* Моцна награваць, загараючы. *Так ба ня стоіла цела пыцсква́рівыць, кожа мехым спусьціцца.* ПАДСКВАРЫВАЦЦА *незак.* Моцна награвацца, загараючы. *Цёткі паможч ні сыізволюць, тольки б за кусьцікымі пыцскварівыліся.* ПАДСКВАРЫЦЬ *зак.* Моцна нагрэць, загараючы. *Ну й пыцсква́рілі сябе, ідуць чорныя, як чэрця.* ПАДСКВАРЫЦЦА *зак.* Моцна нагрэцца, загараючы. *Пыглядзі-ка, як яны пыцсква́риліся, цела красныя, аж гаріць.* ПАДСКВАРАНЫЙ *дзеепрым. Ціряшчур пыцсква́ріныя, етык зыгыряць ня дужа здарова.*

ПАДСКОБЛІВАЦЬ *незак.* Абіраць дадаткова (бульбу). *Ці нада будзіць пацскоблівыць бульбы, ато б я карзінкі вынісла.* ПАДСКОБЛІВАЦЦА *незак.* Абірацца дадаткова (пра бульбу). *Так у цябе будзіць пуўдня пацскоблівыцца, сядзь хырашэнька ды дзелый.* ПАДСКАБЛІЦЦА *зак.* Абабрацца дадаткова (пра бульбу). *Кынчай, кылі нада будзіць, пару бульбін пацскобліцца.* ПАДСКОБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пацскобліныя бульбіны ў латычкі, памый і крышы.*

ПАДСКРАБАННЕ *н.* 1. Падчыстка скрабеннем. *Посьлі пыцскрібáньня пычысьцелі дарожкі.* 2. Падскрэбеныя рэшткі. *Усё пыцскрібáньня у кучкі нідалёка ат яблыны.*

ПАДСКРОБКІ *мн.* Падскрэбеныя рэшткі. *Пацскрёбкі*

*ні нада кідаць як пупала, усё прібяріця, каб чысьцінька було. Памянш.* ПАДСКРОБАЧКІ. *Укінь пацскрёбычкі ў пуню, тут іх куры разрыюць, і ўзноў пыччышчай.*

ПАДСЛЕПАВАТА *прысл.* Падслепавата. *Ён усігда пацьсьлёпывыта глядзіць, неік прішчурівыицца.*

ПАДСЛЕПАВАТАСЦЬ, ПАДСЛЕПІСТАСЦЬ *ж.* Слепаватасць. *Яго бацька дренна відзіў, можа і ў мальца пацьсьлёпывытысьць. Міціна пацьсьлёпістысьць хырашо заметна, ты толька прігледзься.*

ПАДСЛЕПАВАТЫЙ, ПАДСЛЕПІСТЫЙ *прым.* Слепаваты. *Нашто табе пацьсьлёпывытый жаніх, ці табе ні найдзіцца ладный хлопіц. Пітраковы ўсе дзеці пацьсьлёпістыя, яны пашлі ў яе род.*

ПАДСМАРГЫВАННЕ, ПАДСМОРГЫВАННЕ *н.* 1. Падцягванне. *Як табе рукі ні зыбыляць ат пыцсмáргывыньня. Кінь пацсморгывыньня, лі цябе сьміяцца будуць.* 2. Сморганне (носам). *Іван у сенцых топчыцца, яго пы пыцсмáргывыньню пызнаіш. Як ідзець, яго пацсморгывыньня усюдых будзіць чутна.*

ПАДСМАРГЫВАЦЬ, ПАДСМОРГЫВАЦЬ *незак.* 1. Падцягваць. *Ён ходзіць, усё сморьг, сморьг, пыцсмáргывыіць штаны. Так жа нікрасіва ну людзях пацсморгывыць, што ты дзелыіш.* 2. Сморгаць (носам). *Помніш, такей мальчышка у яе быў, усё пыцсмáргывыў носым. Чаго ты атвырачывыісься, ён жа красіва носым пацсморгывыіць.*

ПАДСМІХЫВАННЕ *н.,* ПАДСМІШКА *ж.* Падсмейванне. *Каму пацьсьміхывыньня нічога, а хто можыць і расьсердзіцца. Ныдаелі мне яго пацьсьмішкі, усігда пыткавыріста гаворіць. Памянш.* ПАДСМІШАЧКА. *Усё с пыткавыркымі, усё с пацьсьмішычкымі,— дужа бальшэй рузумок.*

ПАДСМЯХАЧ, ПАДСМІХЫВАЧ *м.* Ахвотнік высмейваць. *Ладна, ладна, пыцьсьміхáч, ідзі свайго дзядзю пацьсьмеівый. Якей зь яго пацьсьміхывыч, лыпатнець што ізыком — і над ім сьмяюцца.* ПАДСМЯХАЧКА *ж. Прося — ладныя пыцьсьміхáчка, к ёй толька пупадзіся ны язык.*

ПАДСОНЕШНІК *м.* Сланечнік. *Сёліта пацсонішнік вырыс бальшэй, кацелкі па решыту. Памянш.* ПАДСОНЕШНІЧАК. *Лузкаць пацсонішнічык усе любюць, толька яго мала сеюць.*

ПАДСОНЕШНІЦА, ПАДСОЛНЕШЫНА *ж.* Адна расліна сланечніку. *За ўвесь гарод красуіцца пацсоніш-*

*ніца, усю гряду адна зуглушыла. Паскруцюць тваe пацсолнішыны, во будзіць вічарінка, і ўсе паскручывыюць.*

ПАДСОНЕШНЫЙ *прым.* Сланечнікавы. *Мне ныравілыся пацсонішныя масла, раншы яго ну трудадні дывалі ў калхозі.*

ПАДСОС *м.* Жарабё, якое ссе. *У кабылы пацсос, на ёй далёка ні паедзіш.*

ПАДСТАРАЦЦА *зак. метаф.* Набыць, прыдбаць. *Айдзе-то ў сьвеці пыцстыря́лыся сабе хлыпца.*

ПАДСТРЫКЫВАННЕ *н.* Падбухторванне. *Сымыстыяцільный чылавек ні ны я́кыя пацстры́кывыньня ні пыддасца, ета ні вітрагон нейкій.*

ПАДСТРЫКЫВАЦЬ *незак.* Падбухторваць. *Ён любіць людзей пацстры́кывыць, а тады зьвядзець хахлы, глядзіць збоку і пысьміхаіцца.* ПАДСТРЫКНУЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Ета Стылярӧнык пыцстрыкну́ў хлопцыў, яй-богу, ён, большы ніхто.* ПАДСТРЫКНУТЫЙ *дзеепрым. Бегыіць пыцстрыкну́тый, штаны сморьгыіць, нос выціраіць: што вы сабе думыіця?*

ПАДСТРЭШШЫКА *н. памянш.* Падстрэшша. *Мала крышу нупусьцілі, пацстрешшыка нібальшэнькыя пулучылыся.*

ПАДСТУДЖЫВАННЕ *н.* Лёгкая прастуда. *Пацсту́джывыньня нікому так ні апходзіцца, ці раншы, ці пазьней пачуствыіш.*

ПАДСТУДЖЫВАЦЬ *незак.* Злёгку застуджваць. *Як з мыладых гадоў пацсту́джывыіш сябе, усё ета пыц старысьць атрыгаіцца.* ПАДСТУДЖЫВАЦЦА *незак.* Злёгку застуджвацца. *Глядзі, глядзі, ні пацсту́джывыйся, бірягіся, ато посьлі стрыданьні пычануцца.* ПАДСТУДЗІЦЬ *зак.* Злёгку застудзіць. *Ён тады пуцступдзіў ногі і цяперя мучыіцца.* ПАДСТУДЗІЦЦА *зак.* Злёгку застудзіцца. *Ні бярёгся, пуцстудзі́ўся, цяперіцька ляжыць пластом, ні пувурухнецца.* ПАДСТУДЖАНЫЙ *дзеепрым. З мыладых гадоў пацсту́джыный, і цяперя ногі быляць.* ПАДСТУДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пуцступдзёмшы сябе, намучыісься німала.*

ПАДСТЫЛАСЦЬ *ж.* Нязначная прастуджанасць. *Чуствыіцца пацсты́лысьць, дайжа гаворіць неік у нос.*

ПАДСУКОВЫВАННЕ *н.* Замаўленне словам «сук» пры гульні ў мяч. *Ні быяліся мы вашыга пуцсуковывыньня і ні баімся, мы ўсё ўремя нывярьху, а вы пыд нізом згніiцё.*

ПАДСУКОВЫВАЦЬ *незак.* Замаўляць словам «сук»

пры гульні ў мяч. *Пуцсуковывыйця, сколька хочыця, я ні разу ішчэ ня зьбійся.* ПАДСУКАВАЦЬ *зак.* Замовіць словам «сук» пры гульні ў мяч. *Ета дайжа сьмешна, што ты пуцсукýіш.* ПАДСУКАВАНЫЙ *дзеепрым. А можа вам і ныпраўду було пуцсукувáна, усе ж пызьбіваліся.*

ПАДСУКЫВАННЕ *н. перан.* Падбухторванне. *Яму, знаць, ныравіцца такоя пацсýкывыньня, дужа пастылый чылавек.*

ПАДСУКЫВАЦЬ *незак. перан.* Падбухторваць. *Ні разычку б ні падумыў, што Іхімёнык станіць пацсýкывыць чылавека ну дурноя.*

ПАДСУНУВАЦЬ *незак.* 1. Падсоўваць. *Пацсýнувый людзям тарелкі бліжы, ніхай сьцюдзінь ядуць.* 2 *перан.* Падводзіць. *Самі утвыряць якую дурату, а другога пацсýнувыюць.* ПАДСУНУВАЦЦА *незак.* Падсоўвацца. *Пацсýнувыйся к краю, мы січас пойдзім ат'етуля.*

ПАДСУПОНІВАННЕ *н. метаф.* Суніманне. *Ім яшчэ ні такоя пуцсупонівыньня нада, руспусьціліся ды пасьледніга.*

ПАДСУПОНІВАННІК *м. метаф.* Той, хто сунімае. *На етых балыўнікыў каб такей пуцсупонівыньнік, як Лявон.* ПАДСУПОНІВАННІЦА *ж. Дужа яны спужаюцца твае пуцсупонівыньніцы.*

ПАДСУПОНІВАЦЬ *незак. метаф.* Сунімаць. *Калі такога распусьніка ні пуцсупонівыць, зь яго ніізьвесна што палучыцца.* ПАДСУПОНІЦЬ *зак.* Суняць. *Бацька іх жыва пуцсупоніць, цішэй ціхыга лета статнуць.* ПАДСУПОНЕНЫЙ *дзеепрым. Мінулыся воля, цяперя будуць пуцсупоніны.*

ПАДСЫКНУЦЬ *зак.* Выдаць, намерана накіраваць увагу. *Глядзіця, етый нарошня пыцсыкнець, каб атамсьціць.* ПАДСЫКНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Падбухтораны. *Пыцсыкнýтый прібег: што ты пры маю сястру Пуўлючку гываріла?* 2. Выданы, намерана накіраваны (пра ўвагу). *З далёкыю цэльлю було пыцсыкнýта.*

ПАДСЯВАННЕ *н.* Ачышчэнне зерня рэшатам. *Пыдажджы трошку, пірідыхну мінутычку ат пыцьсівáньня, я дужа зымарілыся.*

ПАДСЯВАЦЬ *незак.* Прасяваць рэшатам. *Пыцьсівáць нялёхкыя работа, пастой-ка сагнутый пуўдня з решытым зірнят.* ПАДСЯВАЦЦА *незак.* Прасявацца рэшатам. *Як на мельніцу везьць, хлеб абізацільна пыцьсівáўся.* ПАДСЕЯЦЬ *зак.* Прасеяць рэшатам. *Што ты цяперіцька*

*пацьсеіш, ежылі ўжо забылі, калі на той мельніцы былі.* ПАДСЕЯЦЦА *зак.* Прасеяцца рэшатам. *У мяне нібыльшая клумка, у любоя ўремя пацьсеіцца.* ПАДСЯВАНЫЙ, ПАДСЕЯНЫЙ *дзеепрым. Не, січас у мяне пыцьсіва́ныга німа нічога, заўтря ранінька пацьсею. Што ў сенцых мяшкі стыяць, ета с пацьсеіным.*

ПАДСЯКАЦЬ *незак. перан.* Даводзіць да цяжкага стану (пра бяду, хваробу). *Ніякыя хвароба чылавека ні красіць, пыцьсіка́іць яго.* ПАДСЕЧ *зак.* Давесці да цяжкага стану (пра бяду, хваробу). *Горя яе крепка пацьсекла. Лёхкія яго пацьсеклі, ніяк ня выскрібіцца.*

ПАДТАПЛЯННЕ *н.* Падпальванне ў печы. *Вазьмі смылячок, ён зушуміць, а с такім пыттыпля́ньнім да беда правозісься.*

ПАДТАПТОРЫВАННЕ *н.* Пханне дадаткова. *Успакойся с пыттапторівыньнім, цёлычка настолька сыта, што глядзець на сена ня хочыць.*

ПАДТАПТОРЫВАЦЬ *незак.* Пхаць дадаткова. *Карова сыта ды гырла, а ён яшчэ у ясількі пыттапторівыіць.* ПАДТАПТОРЫВАЦЦА *незак.* Пхацца дадаткова. *Што, больши сюды ні пыттапторівыіцца?* ПАДТАПТОРЫЦЬ *зак.* Напхаць дадаткова. *Пыттапторіш — карова мордыю выкініць, рызваюіць, усё ў гной утопчыць, жалься божа, што клаў.* ПАДТАПТОРЫЦЦА *зак.* Напхацца дадаткова. *Як пыттапторіцца, так і ладна, хваціць, сколька ўлезла.* ПАДТАПТОРАНЫЙ *дзеепрым. Ну што, сюда ўзноў пыттапторіна бяс толку.*

ПАДТАРКЫВАННЕ, ПАДТОРКЫВАННЕ *н.* 1 *перан.* Прапаноўванне. *Ільля збоку стыяў і дзівійся ны Мітрыхваныва пытта́ркывыньня. Ну пыглядзі ны бызарі, можа замеціш якоя патторкывыньня са льном.* 2 *метаф.* Удаванне. *Ніякыга я пытта́ркывыньня ні баюся, хто мне што зьдзелыіць, кылі я ні ў чом ні вінуват. Ніхто дужа ні абрышчаў уніманія ны яго патторкывыньня.*

ПАДТАРКЫВАННІК, ПАДТОРКЫВАННІК *м. метаф.* Той, хто выдае, прадае. *Ён быў первый пытта́ркывыньнік, любога мог прыдаць. Яго швагорь ладный патторкывыньнік.* ПАДТАРКЫВАННІЦА, ПАДТОРКЫВАННІЦА *ж. Ізыком са ўсімі хырыша, луччы некуды, а пытта́ркывыньніца первый маркі. А за то нылаілі, што патторкывыньніца ўсюдых первыя.*

ПАДТАРКЫВАЦЬ, ПАДТОРКЫВАЦЬ *незак.* 1. Падсоўваць, падтыкаць. *Ні пытта́ркывый бумажык, нада дзірівянныю пыткладку зыцісаць. А во ды абеда стряху*

*г зіме патторкывый.* 2 *метаф.* Удаваць. *Любій людзей пыттáркывыць, ніхай яго семю узныку ня будзіць. Сколька раз мяне патторкывылі, ныхадзіліся дыбрадзеі.* ПАДТАРКЫВАЦЦА, ПАДТОРКЫВАЦЦА *незак.* 1. Падсоўвацца, падтыкацца. *Неік у цябе ніакуратна пыттáркывыіцца. Ну сунь палку, трошку патторкывыіцца.* 2 *перан.* Прапаноўваць. *Хадзіла пы бызару нейкыя баба, з вуцінятымі пыттáркывылыся. Ні патторкывыйся ты с квасольлю, ніхто яе браць ні станіць.*

ПАДТАСОВЫВАННЕ *н. перан.* Падладжванне. *Ні любіла я ні разу пыттасовывыньня, па-мойму, луччы пыдыйціць і пряма скызаць.*

ПАДТАСОВЫВАЦЦА *незак. перан.* Падладжвацца. *Ткычанок умеў к кажныму пыттасовывыцца, яго ні піріхітріш.* ПАДТАСАВАЦЦА *зак.* Падладзіцца. *Во так нізаметна, нізаметна путтусувáліся, сталі ў іх як свае.*

ПАДТАЎКЫВАННЕ *н. перан.* Падбухторванне. *Мы тожа знаім, што тама біз Мітрыхванькіныга пыттáўкывыньня ні абыйшлося.*

ПАДТАЎКЫВАЦЬ, ПАДТАЎКАЦЬ *незак. перан.* Падбухторваць. *Нарошня пыттáўкывыюць Ікімёнка, каб у іхныю кашу ўмішайся. Нечыга яго пыттыўкáць, ён сваёю гылавою умеіць думыць.* ПАДТАЎКНУЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Дужа уредный чылавек, пыттаўкнець каго-нібудзь, тады дужа даволін.* ПАДТАЎКНУТЫЙ *дзеепрым. Мы пынялі, што Сідарёнык пыттаўкнýтый, сам ба ён ні стаў улізаць у німяреч.*

ПАДТАЎХЫВАННЕ *н.* 1. Падштурхоўванне. *Кінь сваё дурачыньня с пыттáўхывыньнім.* 2 *перан.* Падбухторванне. *Ты сам знаіш, к чаму прівядзець яго пыттáўхывыньня.*

ПАДТАЎХЫВАЦЬ *незак.* 1. Падштурхоўваць. *Ты будзіш пыттáўхывыць, пакуля ён ныпраўду пыляціць у ямку.* 2 *перан.* Падбухторваць. *Даўно іх пыттáўхывыў Кіряёнык, хацеў хахлы зьвізаць.* ПАДТАЎХНУЦЬ *зак.* 1. Падштурхнуць. *Пыттаўхнýў мальца к самый пролыбкі.* 2. Падбухторыць. *Ну дурноя дзела пыттаўхнýць нядоўга.* ПАДТАЎХНУТЫЙ *дзеепрым.* Падбухтораны. *Яны пыттаўхнýты, сопсьцьвінна пыттаўхнýты.*

ПАДТАЧЫВАЦЦА *незак. метаф.* Тонка наладжваць адносіны. *Каторыя ўремя пыттáчывыіцца к Сямёнывыму, а тэй яму ня дужа веріць.* ПАДТАЧЫЦЦА *зак.* Тонка наладзіць адносіны. *Тыкая праныра к каму хочыш патточыцца, на ўсё спасобін.* ПАДТАЧОМШЫ *дзеепрысл.*

*Пыттачомшы к стыршыне, будуць тваріць, што захочуць.*

ПАДТОПТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Утаптаны. *Кылы яблынык паттоптыныя зімля, нада ўзяць лупатку і ўзвурушыць.* 2 *перан.* Зняважаны. *Пойдзіць у тую сям'ю і будзіць паттоптыныя, яны ўсе дужа нісызнацільныя.* 3 *перан.* Аслабелы, знясілены. *Ён чылавек паттоптыный, аткуля тоя здароўя будзіць.*

ПАДТРАІВАННЕ *н.* Аранне другі раз. *Такей год нізыдашный: сьпірва ліло, як с пырваныга меха, а тады зусушыла, ні пашло на пользу і пыттра́івыньня.*

ПАДТРАІВАЦЬ *незак.* Араць другі раз. *Я хацеў заўтря пыттра́івыць, а брігадзір зыказыіць гной вазіць.* ПАДТРАІЦЬ *зак.* Узараць другі раз. *Каб пыттраіў, хужы ні було б, зімля уход любіць.* ПАДТРОЕНЫЙ *дзеепрым. За Доўгім аборкым кусочык паттроін, мякка, ныга прыіжджаіць.*

ПАДТРАПЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Шанцаваць. *Яму ува ўсіх дзілах неік пыттра́плівыіць.* ПАДТРАПІЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Тэй год нам дужа пыттра́піла ету кароўку купіць, іна нам пышла рукою.*

ПАДТРАПЛІВАЦЬ *незак. перан.* Нагаворваць. *Не, ні Куліна, а етыя, суседкі твае, пыттря́плівыюць ны Ісачонка, ён ім дужа мулык.* ПАДТРАПЛІВАЦЦА *незак.* Зношвацца (пра здароўе). *Гады ідуць к старысьці, здароўя пыттря́плівыіцца.*

ПАДТРАСЫВАННЕ *н.* Лёгкае ператрасанне. *Як доўга пыттря́сыіш, і пыттря́сывыньня ныдыідаіць, дый рукі пычынаюць балець.*

ПАДТРАСЫВАЦЬ *незак.* Злёгку трэсці, ператрасаць. *Раншы, як цыпамі мылацілі, салому дзірівяннымі вілычкымі пыттря́сывылі.* ПАДТРАСЫВАЦЦА *незак.* Злёгку трэсціся, ператрасацца. *У Віцькі лаўчэй пыттря́сывыіцца, чым у цябе.*

ПАДТУЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць тужэй. *Каб адззаду путтужы́ць вярёўку, ныдзяжней ба дзіржалыся.* ПАДТУЖЫЦЦА *зак.* Зрабіцца тужэй. *С правыга боку ладна путтужы́лыся, а тута саўсім атвісаіць.* ПАДТУЖАНЫЙ *дзеепрым. Глядзі, каб кругом було паттýжына, каб ны адзін бок ні зыіжджала.* ПАДТУЖОМШЫ *дзеепрысл. Путтужомшы як нада, нікуды ні паверніцца.*

ПАДТУРАННЕ, ПАДТУРЫВАННЕ *н.* Энергічнае падганянне. *С такім путтуря́ньнім ціляты рызьбігацца, куды захочуць. Пыдгані сам, ато будзіць яго паттýрівыньня, што каровы ў ячмені ачынуцца.*

ПАДТУРКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Падганяць, актывізаваць. *Ну што, кылі будзіш яго паттўркывыць, ён як ня слухыў, так і ня слухыіць.*

ПАДТУРЫВАЦЬ *незак.* 1. Энергічна падганяць. *Паттўрівый Храсіньніну карову, іна ўсігда вылакецца адна.* 2 *перан. неадабр.* Прымушаць з'яўляцца. *Чорт іх паттўрівыіць усігда, як ні нада.* ПАДТУРЫЦЬ *зак.* 1. Энергічна падагнаць. *Скот паттўрім к вадзе і пысядзім.* 2. Прымусіць з'явіцца. *Толька сталі гной выкідаць, етых гасьцей путтуріла, сядзі, дуріся.* ПАДТУРАНЫЙ *дзеепрым.* Энергічна падагнаны. *Во, каровы паттўріны к самый дзяреўні, хочыш, пы ўсадзьбых ляснуць.* ПАДТУРОМШЫ *дзеепрысл.* Энергічна падагнаўшы. *Путтурёмшы к лажку, скот зойміцца, тама ладныя атава атрысла.*

ПАДТЫКЫВАЦЬ *незак. перан.* Выдаваць, прадаваць, *Не, Купрей нікога ні станіць паттыкывыць, ён чылавек і совісный, і сымыстыяцільный.* ПАДТЫКНУЦЦА *зак.* Прапанаваць не ў час, не да месца. *Тады іна с капустыю пыттыкнўлыся, аж нялоўка було.* ПАДТЫКНУТЫЙ *дзеепрым. Мы самі знаім, што пыттыкнўтыя за летышнію бульбу.*

ПАДТЫРКНУЦЬ *зак. перан.* Выдаць, прадаць. *Доўга ім пыттыркнўць каго хочыш, такім пулувумнікым.* ПАДТЫРКНУЦЦА *зак.* Прапанаваць не ў час, не да месца. *Пыттыркнўўся тады с кожкыю, а міліцанер за шкырку і павёў.* ПАДТЫРКНУТЫЙ *дзеепрым. Можа былі пыттыркнўты, а можа сь сільсавета самі пранюхылі.*

ПАДУБАСІЦЬ *зак. эмац.* Пабіць адчувальна. *Каб іх другей раз пудубáсіў, яны б скарей уняліся і аселіся.*

ПАДУБІЧЫЦЬ *зак. жарт.* Пайсці энергічна. *Кучыю пудубíчылі зы Ціляткыва, відна, прачулі вічарінку айдзе-то.*

ПАДУБЫРЫЦЦА *зак.* Наставіць хіб (пра ўсіх, многіх). *Сыбакі пудубы́ріліся адзін ны днаго, могуць кінуцца грызца.*

ПАДУВАЦЬ *незак.* Дзьмуць час ад часу. *Аттуля, адзь Дзедкывіч, халодный віцярок пудуваіць, як пыцягніць — ня выдзіржыць.*

ПАДУДЫРЫЦЬ *зак.* Адтапырыць. *Пудуды́рілі на сьпіных ірьмякі як гарбы.* ПАДУДЫРЫЦЦА *зак.* Адтапырыцца. *Няўмелый масьцір шыў етыя пулушубкі, пудуды́ріліся буграмі.* ПАДУДЫРАНЫЙ *дзеепрым. Ідуць у пудуды́ріных курткых.*

ПАДУКАВАЦЬ *зак.* 1. Крыху павучыць. *Як ты яго пудукýіш, калі ён і ў тэй бок ні глядзіць слухыць цябе.* 2. Павучыць усіх, многіх. *Цёткі пріехылі, дык пудукувáлі етых мальцыў.*

ПАДУЛОБ'Е *н.* Ніжняя частка лба. *Як гляніць неік коса іс пудулоб'я, уродзі ён гатоў цябе укусіць. Памянш.* ПАДУЛОБ'ІКА. *Як-то пудулоб'іка навішшы на вочы, ні саўсім красіва.*

ПАДУМЕЦЦА *зак.* Падрадзіцца. *Калі думыіш дзелыць, абішчай цьвёрда, а пудумецца і ня зьдзелыць — ета ні работа.*

ПАДУМКА *ж.* Меркаванне, магчымасць думкі. *Ты б сядзела у хаці, каб ны цябе ніякіх падýмык ні було. Памянш.* ПАДУМАЧКА. *Падýмычкі могуць пайціць бізь нічога ніякыга.*

ПАДУНУЦЬ *зак. метаф.* Ледзь пакрыць. *Доўга мучыўся с апёкымі, цяперя трошку стала зыжываць, кожыю чуць-чуць пудунýла.*

ПАДУПРАЎЛЯЦЦА *незак.* Спраўляцца. *Адна асталыся, трудна пудупруўля́цца с хызяйствым, скот прідзіцца збуваць.*

ПАДУРОСТКАВЫЙ *прым.* Падлеткавы. *Ты як будзіш у горыдзі, пыглядзі пы лаўкых пудуросткывыя адзежы.*

ПАДУРОСТКАЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да падлетка. *Асталіся пудуросткывы касьцюмчыкі, ны твайго мальца ня ўзойдуць.*

ПАДУШОНКА, ПАДУШАНКА, ПАДУШЧОНКА *ж., зніж.* Падушка. *Калі пудушонку возьміць, а калі так зываліцца і сьпіць. Ці знаіш, як мы пычыналі рыжжывацца, падýшынкі ні було, у мяшочык сена піхалі. Худзь ба пудушчонку якую думылі прідбаць, як ета ні пра што ня думыць. Памянш.* ПАДУШОНАЧКА, ПАДУШЧОНАЧКА. *Ай, ні гывари ты пра тую пасьцель, тама пудушонычка — узяцца німа за што. Етыя пудушчонычкі стыдна людзям класьць пад голывы.*

ПАДХАДЖЫВАЦЬ, ПАДХОДЖЫВАЦЬ *незак.* Падыходзіць (пра цеста). *Цеста хырашо пытхáджывыіць, смашный будзіць хлеб. Вун як патходжывыюць бліны, скора буду печ.*

ПАДХВАРСІЦЬ *зак.* Крыху пазадавацца. *Зыдывастыя дзеўкі, умеюць пытхварсíць, к ім ня дужа клінкі пыдаб'еш.*

ПАДХВАТ *м.* Спрыт. *Пытхвáту ў цябе ня дужа многа. Ны Мікілаіў пытхвáт ні рашшчытывый.*

ПАДХВАТНІК *м.* Рупатнік, стараннік. *Каб ты быў*

*такей пытхва́тнік, як Пайка, саўсем ба другей рызгавор с табою. Памянш.* ПАДХВАТНІЧАК. *Як ахота пытпадзець, тады зь яго ладный пытхва́тнічык.* ПАДХВАТНІЦА *ж. Варычкіны дзяўчонкі пытхва́тніцы, іх зыстыўляць ні нада.*

ПАДХВАТЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Раптоўна ўзнімаць, узнікаць. *Вясною пырысяты пытхва́тывыюць цэны. Сёліта каторый раз ету бурю пытхва́тывыіць.* 2. Красці. *Такея бяссовісныя людзі, пытхва́тывыюць усё, што ня ўвідзюць.* ПАДХВАЦІЦЬ *зак.* 1. Раптоўна ўзняць, узнікнуць. *Сёліта бульба была пытхваціла цану, дорга плаціlі. Як пытхваціла пульгу́, ня то што ў Сапрынывічы іціць, с хаты вылізьць нілізя.* 2. Украсці. *Ні кідай нічога пыць сьцяною, я пыставіла пуд вуглом лупатку, ураньні хваціlыся — німа, пытхваціlі.* ПАДХВАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Украдзены. *Ці ні пытхва́чыны і вожычкі, нешта я другей дзень ішчу і нійдзе ня віджу.* ПАДХВАЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Украўшы. *Ніаткуля ня пойдзіць, ні пытхвацёмшы чаго.*

ПАДХВАЦІСТА *прысл.* Паслужліва, старанна. *Рупытный мальчышка, усігда пытхва́ціста стыряіцца зьдзелыць.*

ПАДХВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Паслужлівасць, стараннасць. *Ад гультуя пытхва́цістысьці ні дажджэсься, яму пывярнуцца цяжола.*

ПАДХВАЦІСТЫЙ *прым.* Паслужлівы, старанны. *Я іс самыга малку была пытхва́цістыя, мяне ні нада було пыдгыняць.*

ПАДХВОСЦІЦА, ПАДХВОСНІЦА *ж.* Палавая шчыліна самкі жывёлы. *Ета мне дужа ў прімеці: ны бычка карова значыць вымім, а на цёлычку — патхвосьціцыю.*

ПАДХІТРАВАЦЬ *зак.* Схітрыць. *Ты і на етый раз пытхітрува́ў, абманіў дзеда і я з дураком астаўся.*

ПАДХОПЛІВАЦЦА *незак. перан.* Раптоўна ўзнімацца, узнікаць. *Цэны, буваіць, разым патхоплівыюцца, ета завісіць ат навозу. Узноў буря патхоплівыіцца.* ПАДХАПІЦЦА *зак.* Раптоўна ўзняцца, узнікнуць. *Цэны ны пырысят пытхапіліся, што пуцступіцца страшна. Як пытхапілыся боль, хуць гвалту крічы.*

ПАДХРАМЫВАННЕ *н.* Накульгванне. *Ні знаю, ці запорчына у яго ныга, я ніякыга пытхра́мывыньня ні замеціў.*

ПАДХРАМЫВАЦЬ *незак.* Накульгваць. *З вайны пытхра́мывыіць, раншы с кыстылём хадзіў, а цяперя луччы ступаіць.*

ПАДЦАРОЎНІК *м.* Служачы пры царскай уладзе. *І тады ўсякія дураты хвытала, былі царі і пыццарёўнікі, німала людзей душылі.*

ПАДЦЕРАБЛЯЦЬ *незак.* Церабіць дадаткова. *Тады ўсе узяліся пыцьціріблάць ляда, каб большы чаго пасеіць.* ПАДЦЕРАБЛЯЦЦА *незак.* Церабіцца дадаткова. *У Полькі медлінна пыцьціріблάлыся, мальцы мάлыя, сілы ні було, а самой некылі.*

ПАДЦЁЛАЧАК *м. памянш.* Падцёлак. *У Ліпяцёнка ладный пацьцёлычык, ці будзіць то ён прыдываць, можна б узяць.*

ПАДЦЁЛКАЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да падцёлка. *Хадзі-ка вынісім пацьцёлкыва поіла, бярі зы палычку.*

ПАДЦІБРЫЦЬ *зак. гумар.* Украсці. *Глядзі, ні кідай нічога ніпрібрάджыныга, раз-два пацьцíбрюць, кругом махырі — толька пыіскаць.* ПАДЦІБРАНЫЙ *дзеепрым.* *Ці ні пацьцíбріным ты ножычкым хваліського, па-мойму, я яго у каго-то відзіў.*

ПАДЦІНЯЦІЦЬ *зак.* Сэканоміць вельмі ашчадна. *Зімою як зьеў ня зьеў, а к рабоці нада скаромныга пыцьціняцíць.* ПАДЦІНЯЧОНЫЙ *дзеепрым.* *Што к лету пыцьцінячона, ета ні звыляіцца.* ПАДЦІНЯЦЁМШЫ *дзеепрысл.* *Пыцьціняцёмшы к цяжолый рабоці, мяса як найдзіш.*

ПАДЦУРГАЦЬ *зак.* Умяшаць. *Ніхто тама ні стыряўся, свае і паццýргылі.* ПАДЦУРГАЦЦА *зак.* Умяшацца, трапіць. *Глядзі, яны ў стыране астануцца, а ты паццýргыіського — будзіш кусаць сабе локці.* ПАДЦУРГАНЫЙ *дзеепрым.* *Із-зы свайго бізгалоўя паццýргын.*

ПАДЦЭЛІЦЦА *зак. метаф.* Выбраць зручны момант. *Нада б паццэліцца у горыд атвярнуцца, вобуву якога мάлым пыглядзець.*

ПАДЦЯГЫВАЦЬ *незак. перан.* Накульгваць. *Тады, як вярнуўся, гады два пыцьцягывыў нагу, а посьлі стаў роўна хадзіць.* ПАДЦЯГЫВАЦЦА *незак. метаф.* Падыходзіць (пра ўзрост). *У Лявона доўгій век, пыдзь дзівяноста пыцьцягывыіцца.* ПАДЦЯГНУЦЦА *зак.* Падысці (пра ўзрост). *Во пыцьцягніціся пыд мае гады, тады пызнаіця, як на сьвеці жыць.*

ПАДЦЯПЛІВАННЕ *н.* Слабое падаграванне. *Якоя пыцьцяплівыньня, кылі выда халодныя, усё дно як січас с калодзіжа выцігнута.*

ПАДЦЯПЛЯЦЬ, ПАДЦЯПЛІВАЦЬ *незак.* Рабіць

крыху цёплым. *Выда хулуднувáта, нада пыцьціпляць, нілізя садзіць дзіцёнка. Дывай пыцьцяплівый і ету ваду, ня лі зразу ў ночвы.* ПАДЦЯПЛІВАЦЦА *незак.* Рабіцца крыху цёплым. *Пыдажджы мінутычку, мылако пыцьцяплівыіцца.* ПАДЦЯПЛІЦЬ *зак.* Зрабіць крыху цёплым. *Пыцьцяплі мылыка і цялёнычка напой.* ПАДЦЯПЛІЦЦА *зак.* Зрабіцца крыху цёплым. *Глядзі ні прустудзі дзіцёнка, каб ні была выда халодна, ці пыцьцяплілыся іна.* ПАДЦЯПЛІВАНЫЙ, ПАДЦЕПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Пыцьцяплівыныя выда у большым чугуночыку. Во ета пацьцепліныя мылако, можна дываць мáлый.* ПАДЦЯПЛЁМШЫ *дзеепрысл.* *Як пыцьцяплёмшы выда, цёлычка ахатней п'ець.*

ПАДЦЯСЫВАННЕ *н.* Падчэсванне. *Якоя пыцьцясывыньня, кылі тыпаром некуды зымахнуцца.*

ПАДЦЯСЫВАЦЬ *незак.* Падчэсваць. *Большы тута ні нада пыцьцясывыць, бярно ляжыць на места.* ПАДЦЯСЫВАЦЦА *незак.* Падчэсвацца. *Ня дужа пыцьцясывыіцца, тута нялоўка с тыпаром рызьвярнуцца.* ПАДЦЯСАЦЦА *зак.* Падчасацца. *Каб во ета бугріна пыцьцісалыся, і ладна було б.* ПАДЦЯСЫВАНЫЙ *дзеепрым.* *Відна, што пыцьцясывына, толька мала, нада б яшчэ цісануць.*

ПАДЧАПІЦЬ *зак.* *метаф.* Украсці. *Што ня кініш, паччэпюць, хочыш, граблі, хочыш, касу, і ня будзіш знаць хто.* ПАДЧЭПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Трі капёшкі з лужка паччэпліна, ны машыні пыд'іжджана.* ПАДЧАПЁМШЫ *дзеепрысл.* *Ні пыччапёмшы хуць чаго-небудзь, з двыра ня пойдзіць.*

ПАДЧАПУРАННЕ, ПАДЧАПУРЫВАННЕ *н.* Прыбіранне, наданне святочнасці знешняму выгляду. *Куды ж ты пысылаіш яе пырасёнку несьць посьлі такога пуччупуряньня! Я ім дам пыччапўрівыньня, як мятлу вазьму, ці яны ня відзюць, што грядкі ў ноч астаюцца.*

ПАДЧАПУРАЦЬ, ПАДЧАПУРЫВАЦЬ *незак.* Прыбіраць, надаваць святочнасць знешняму выгляду. *Ты патроху пуччупуряй сваіх нявест, на іх ужо хлопцы пыглідаюць. Ну, ну, пыччапўрівый Сеньку, ато ён пасьледнія ўремя стаў апускаць вушы.* ПАДЧАПУРАЦЦА, ПАДЧАПУРЫВАЦЦА *незак.* Прыбірацца, надаваць святочнасць знешняму выгляду. *Сідзяць, думыюць, ці будзіць тэй гырманіст, ці не, ці пуччупуряцца ім, ці ні нада. Пычынайця пыччапўрівыцца, скора Санька зыіграіць.*

ПАДЧАРАВАНСТВА *н.* Чараўніцтва. *Пачулі яны пры такоя дзела, усхадзіліся, устопыліся: с пуччурувáнства ня будзім браць жонык.*

ПАДЧАРКІН *прым.* Такі, які належыць падчарцы або мае да яе адносіны. *Я па́ччыркіных пріборыў ня трогыю, іна сыма сабе скла́дыіць.*

ПАДЧАСЦІЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Угадзіў свайму свату, пыччасьціў, давольный ехыў двору.*

ПАДЧУДЖЫВАННЕ *н.* Жарты. *Другей раз такоя паччу́джывыньня можыць бокым вылізьць.*

ПАДЧУДЖЫВАЦЬ *незак.* Жартаваць. *Што ўжо ўмеў паччу́джывыць Сыхранёнык, дык і толку мала.* ПАДЧУДЗІЦЬ *зак.* Паджартаваць. *Хлопцы пуччудзілі, каб пыглядзець, што ён станіць дзелыць, а ён і ныпраўду пабег у Бялкова.* ПАДЧУДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Яны часьценька над ім пуччудзёмшы сьміяліся.*

ПАДЧУПКАВАЦЬ *зак.* Прыбраць, упрыгожыць. *Чаго ты ня хочыш яе пуччупкува́ць, іна ж ладныя дзяўчонка.* ПАДЧУПКАВАЦЦА *зак.* Прыбрацца, упрыгожыцца. *Сяньня ты пуччупкува́лыся усё дно як мылыдая.* ПАДЧУПКАВАНЫЙ *дзеепрым. Ну а як жа, ны вічарінку нада іціць пуччупкува́ныю.*

ПАДЧЫНГЕРЫВАННЕ, ПАДЧЫГРЭНІВАННЕ *н. жарт.* Прыбіранне, упрыгожванне. *А што мне іх пыччынгерівыньня, я ў сва́ты к ім ні зьбіраюся. Глянь-ка, як посьлі пыччыгренівыньня абоя хлюсты сталі ну людзей паходжы.*

ПАДЧЫНГЕРЫВАЦЬ, ПАДЧЫГРЭНІВАЦЬ *незак. жарт.* Прыбіраць, упрыгожваць. *Дзейкі ў Праскоўіных, сыбіраюцца нявесту пыччынгерівыць. Ці відзіў, як Зойка сваіх дачок пыччыгренівыіць.* ПАДЧЫНГЕРЫВАЦЦА, ПАДЧЫГРЭНІВАЦЦА *незак.* Прыбірацца, упрыгожвацца. *Яны і ў горыд пыччынгерівыюцца ня хужы як ны вічарінку. Пасьледнія ўремя Надзя стала пыччыгренівыцца як сьледыіць.* ПАДЧЫНГЕРЫЦЬ, ПАДЧЫГРЭНІЦЬ *зак.* Прыбраць, упрыгожыць. *А чаго ж вы Сярёжку ні пыччынгерілі, ён тожа хочыць красівым быць. Некыму цябе пыччыгреніць, і ходзіш ты як пасьледнія атряха.* ПАДЧЫНГЕРЫЦЦА, ПАДЧЫГРЭНІЦЦА *зак.* Прыбрацца, упрыгожыцца. *Ні мішай, дай ім пыччынгеріцца, яны ж луччыю падругу прывыжаюць. Відзіш, і Іўтушонык пыччыгреніўся, пірістаў хадзіць выхлаком.* ПАДЧЫНГЕРАНЫЙ, ПАДЧЫГРЭНЕНЫЙ *дзеепрым. Відзіш, Нюшка пыччынгеріна, як ныстыяшчыя дзейка. Такея пыччыгреніныя былі колтыўскія хлопцы, што куды там каму зь імі руўняцца.*

ПАДЧЫСЦІЦЬ *зак. метаф.* 1. Украсці. *Столька зло-*

*дзіїў рызьвялося, што хочыш ны дваре пачч́ысьцюць, усё хувай і хувай.* 2. Убраць. *А тады як пачч́ысьцілі зладзеіў, у акрузі пыцішэла.*

ПАДШАВЕЛІВАЦЦА *незак. перан.* 1. Паварушвацца. *Сена як пычшавелівыіцца, луччы сохніць.* 2. Варушыцца, дзейнічаць. *Каб яны шустрей пычшавелівыліся, дык у наша ўремя у дзярейні можна жыць.* ПАДШАВЕЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Падварушаны. *Ны абложкі трыва пычшавелівына, а ны бічывіку у пакосых ляжыць.*

ПАДШАКАЛАДЖЫВАННЕ *н. гумар.* Прыемнасць. *Кулунёнку пычшыкыла́джывыньня ныравіцца большы як каму.*

ПАДШАКАЛАДЖЫВАЦЬ *незак. гумар.* Рабіць прыемнае. *Ну што ж ты зьдзелыіш, нычальству нада пычшыкыла́джывыць.* ПАДШАКАЛАДЗІЦЬ *зак.* Зрабіць прыемнае. *Рыскажы пра Верычку, ікая іна ладныя, пычшыкыла́дзь, ён тады даволін.* ПАДШАКАЛАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Дужа яму пычшыкыла́джына було, ішоў і сіяў як месік.*

ПАДШАРУДЖЫВАННЕ *н. эмац.* Падварушванне, спроба надаць больш запалу. *Як свае рупыты німа, трудна надзеіцца ны пычшару́джывыньня збоку.*

ПАДШАРУДЖЫВАЦЬ *незак. эмац.* Падварушваць, надаваць больш запалу. *Яны такея, што ні пычшару́джывый, дык усё астанецца нядзелыным.* ПАДШАРУДЖЫВАЦЦА *незак.* Падварушвацца, набываць больш запалу. *Самім нада пычшару́джывыцца, зы вас ніхто нічога ня зьдзелыіць.* ПАДШАРУДЗІЦЬ *зак.* Падварушыць, надаць больш запалу. *Цётка пучшурудзіла, дык сена ны зіму сыбралі.* ПАДШАРУДЗІЦЦА *зак.* Падварушыцца, набыць больш запалу. *Хто іх знаіць, як яны пучшурудзя́цца.* ПАДШАРУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Як пычшару́джыныя, дык троху варушуцца.* ПАДШАРУДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пучшурудзёмшы сыбралі дроў, парезылі і прібралі.*

ПАДШПЫРЫВАЦЬ *незак. метаф.* Падганяць, падахвочваць. *Што іх пачшпы́рівыць, яны і так стыряюцца ны таку.* ПАДШПЫРЫЦЬ *зак.* Падагнаць, падахвоціць. *Пачшпы́рь кыня, вылакецца ныга ціріз нагу, засьнець у аглоблях.* ПАДШПЫРАНЫЙ *дзеепрым. Пачшпы́ріный бягіць, а так бежч ні разгоніцца, сколька ня нокый.*

ПАДШТАРЫВАННЕ, ПАДШТЫРЫВАННЕ *н. метаф.* Падганянне, актывізацыя. *Ня дужа лубак слухыіць тваё пычшта́рівыньня. Каб ні Манькіна пачшты́рівыньня, ён ба сь печы ні зьлізаў.*

ПАДШТАРЫВАННІК, ПАДШТЫРЫВАННІК *м. метаф.* Той, хто падганяе, актывізуе. *Ня слухыіць конь такога пычшта́рівыньніка. Хут ты пачшты́рівыньніка станоў лі етых кыпаньніц.* ПАДШТАРЫВАННІЦА, ПАДШТЫРЫВАННІЦА *ж. Пычшта́рівыньніца сыма зыгыварілыся і забыла пра ўсё. Січас я прішлю на іх пачшты́рівыньніц.*

ПАДШТАРЫВАЦЬ *незак. метаф.* Падганяць, актывізаваць. *Пычшта́рівый патроху, ато мы зыначуім на полі.* ПАДШТАРЫЦЬ, ПАДШТЫРЫЦЬ, ПАДШТЫРНУЦЬ *зак.* Падагнаць, актывізаваць. *Ня дужа лёхка яго к чаму-небудзь пычшта́ріць. Аддай вожкі Жэньку, ён скора пачшты́ріць. Сьціпанёнка нада пычштырну́ць, ато ён прівык пра ўсё зубуваць.* ПАДШТАРАНЫЙ, ПАДШТЫРАНЫЙ, ПАДШТЫРНУТЫЙ *дзеепрым. Пычшта́ріный трошку прыбягіць, а тады ўзноў ныга ціріз нагу пляцецца. Як ні пачшты́ріны, а трошку шавелюцца. Яны былі пычштырну́ты, ета ўсім ясна.*

ПАДШУЧЫВАННЕ *н. метаф.* Чараванне. *Ні клуміця вы гылавы с пачшу́чывыньнім, Прося — тыкая самыя чыраўніца, як мы з вамі.*

ПАДШУЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Чараваць. *Ці праўда, ці не, а кызалі, што Варычка ўмела пачшу́чывыць.* ПАДШУЦІЦЬ *зак.* Начараваць. *Ці ні пучшуціла яму Тымарка, што ён аттуля ні выходзіць.* ПАДШУЧАНЫЙ *дзеепрым. А можа й ныпраўду яму було пачшу́чына.* ПАДШУЦЁМШЫ *дзеепрысл. Можа було пучшуцёмшы, а можа яны самі ету лухту прідумылі.*

ПАДШЧОГЛАВАЦЕНЬКІЙ *прысл. памянш.* Хударлявы. *Нічога мальца прівізла Сашкіна дычка, сяредніга росту, пачшчоглывыцінькій.*

ПАДШЧОГЛІСТА *прысл.* Сухарлява. *Учора сустрейся мне Міхяёнык, нічога выглідаіць, пачшчогліста, айдзе яго жыр дзеўся.*

ПАДШЧОГЛІСТАСЦЬ *ж.* Сухарлявасць. *А яму пачшчоглістысьць ідзець, дайжа паходка пыкрысівела.*

ПАДШЧОГЛІСТЫЙ *прым.* Сухарлявы. *Хадзіў зь ёю пы бызару нейкій пачшчоглістый хлопіц гадоў пат тріццыць.*

ПАДШЧУПЫВАННЕ *н. метаф.* Выбіранне бульбы з-пад куста, не вырываючы яго. *Ну каб пупалі іх с пачшчу́пывыньнім, мала б ім ні було.*

ПАДШЧУПЫВАННІК *м. метаф.* Той, хто выбірае бульбу з-пад куста, не вырываючы яго. *За імі сьля-*

*дзілі, знaлі, што ходзюць у бульбу, і на месьці пачшчу́пывыньнікыў цап.* ПАДШЧУПЫВАННІЦА *ж. Каб ныдываў ладна пу руках адной пачшчу́пывыньніцы і другой, тады б яны знaлі, што можна дзелыць, а што не.*

ПАДШЧУПЫВАЦЬ *незак. метаф.* Выбіраць бульбу з-пад куста, не вырываючы яго. *Як голыд быў, дык рана пычыналі бульбу пачшчу́пывыць.* ПАДШЧУПАЦЬ *зак.* Выбраць бульбу з-пад куста, не вырываючы яго. *Нескылька кустоў пачшчу́пылі і іх злавілі.* ПАДШЧУПЫВАНЫЙ, ПАДШЧУПАНЫЙ *дзеепрым. Відзіш, нарыта зімля: бульба пачшчу́пывына. Айдзе бульба пачшчу́пына, зразу пызнаіш.*

ПАДШЧЫПЫВАЦЬ *незак.* Зрываць дадаткова. *Ці будзіш ты яблык пачшчы́пывыць, красьнінькіх можна б яшчэ укінуць у сумку.* ПАДШЧЫПАЦЬ *зак.* Сарваць дадаткова. *Пычшчыпі* антонывык, яны даўжэй пыліжаць. ПАДШЧЫПАНЫЙ *дзеепрым. Пачшчы́пыныя яблыкі у кашолкі стыяць. Пычшчыпа́ныя ігрушкі сып пряма ў мяшок.*

ПАДШЫБАННЕ *н. перан.* Выпадковы заробак. *Кончылыся яго пычшыба́ньня, прікрылі лавычку, ніхай-ка пады́скывыіць работу.*

ПАДШЫБАЦЬ *незак. перан.* Зарабляць выпадкова. *Многа ён нійдзе ні заробіць, а па мелычы патрошку пычшыба́іць.* ПАДШЫБІЦЬ *зак.* Зарабіць. *Нійдзе ні прымахнець, пычшыбі́ць капейчыну ўмеіць.*

ПАДЫГАЦЬ *зак.* Пайсці з выкрутасамі. *Пады́гылі Мыланкіны мальцы пуд Дубейкыва, відна, зыхацелі цётку атведыць.*

ПАДЫМЛЯЦЬ, ПАДЫМЛІВАЦЬ *незак.* 1. Паднімаць. *Ма́лый пыдымля́іць ігрушкі і ў рот, ні дывай так, мый. Ногі пады́млівыіць, ня можыць хадзіць.* 2 *перан.* Гадаваць, вырошчваць, А ці помніш, як Антоніха пыдымля́ла піцярых. *Гапка цяпнула горя, ці лёхка ёй було такую кучышчу дзяцей адной пады́млівыць.* ПАДЫМЛЯЦЦА, ПАДЫМЛІВАЦЦА *незак.* 1. Паднімацца. *Ня дужа іна пыдымля́іцца, ета калодзіна. Мыкарёнык другей год пластом ляжыць, ні пады́млівыіцца.* 2. Расці, гадавацца. *Яе мальцы пырядышныя ўжо, яны жыва пыдымля́юцца. Дзеці віда-віда пады́млівыюцца.*

ПАДЫСПАНЕЦ *м.* Падэспань (танец). *У нас многа танцыў ігралі, я дужа любіла «Пыдыспа́ніц» скыкаць. Памянш.* ПАДЫСПАНЧЫК. *«Пыдыспа́нчык» біс пріпіваньня скыкалі, ета пелі «Стрыданія», «Сямёныўну», троху «Польку».*

ПАДЫХАННЕ *м. груб.* Смерць, скананне. *Асталыся толька дыждацца пыдыха́ньня, ікая я жыцілка, што на печ ні ўскрябуся.*

ПАДЫХАННІК *м. груб.* Саслабелы, абыякавы да жыцця чалавек. *Ляжыць мой пыдыха́ньнік ны палу, раскрыўся і ныкрывацца ня хочыць.* ПАДЫХАННІЦА *ж. А таго пыдыха́ньніца, што здароўя саўсім усё.*

ПАДЫХАЦЬ *незак. груб.* Паміраць, канаць. *Ну ці ён жа будзіць пыдыха́ць із-зу буханкі хлеба, нейкій пыразіт дадумыўся ухваціць.*

ПАД'ЯБЕДНІЧАЦЬ *зак.* Наплявузгаць. *Знаім, якея яны людзі: пыд'я́біднічыюць — і тваё нійдзе ні бярёць.*

ПАД'ЯГОРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Падманваць. *Сколька разоў цябе пыд'ягорівылі, а ты етыга ня хочыш пынімаць.* ПАД'ЯГОРЫЦЬ *зак.* Падмануць. *Ні такей Жэнька прыстачок, каб яго пыд'ягорілі нейкія сыплякі.* ПАД'ЯГОРАНЫЙ *дзеепрым. Сьпірва ён ні рызыбраўся, што кругом пыд'ягоріный.*

ПАД'ЯДАЛКА *м.* і *ж.* Той, хто падкусвае. *Ні пасьледній пыд'іда́лка быў твой Кісялёнык. Воч чаго б ёй быць такою пыд'іда́лкыю.*

ПАД'ЯЛДЫКЫВАННІК *м.* Той, хто пад'ялдыквае. *Свой то свой, ну пыд'ялды́кывыньнік тожа ні пасьледній.* ПАД'ЯЛДЫКЫВАННІЦА *ж. А скажы ты, хто іхныю пыд'ялды́кывыньніцу ні знаіць.*

ПАД'ЯРЫЖЫВАННЕ *н. эмац.* Падвучванне, раздражненне. *Толька рыскажу ста́рыму, ён цябе атвучыць ат етыга пыд'ары́жывыньня.*

ПАД'ЯРЫЖЫВАЦЬ *незак. эмац.* Падвучваць, раздражняць. *Матка пыцсытыняіць, пыд'ары́жывыіць, а яны тады чуць са шкуры ні выскакывыюць.* ПАД'ЯРЫЖАНЫЙ *дзеепрым. Каб ня быў пыд'ары́жыный, ён ба так ня прыгыў, яму, чуствыіцца, ладна наплеціна.*

ПАД'ЯЎЛЯННЕ *н.* З'яўленне. *Глядзі, што ён так скора пыд'явіцца, пуўдня будзіш ждаць яго пыд'іўля́ньня.*

ПАЕЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пра шматлікія паездкі. *І па сьвету паежджына, і ўсякія жызьні паві́джына,— такоя наша ўремя.*

ПА-ЕЗУІЦКУ *прысл.* Вераломна, крывадушна. *Хто ж ба яшчэ прідумыў так пы-ізуіцку дзелыць.*

ПАЕСЦЬ *зак. перан.* Знішчыць (сонцам, туманам — пра снег). *Як толька туман, сьнег доўга ні пыляжыць, туман яго паесць.* ПАЕДЖАНЫЙ, ПАЕТЫЙ *дзеепрым.* 1. З'едзены. *Ні аднаго яблычка ні асталыся, усе па-*

*еджыны: сьвіньні кучыю уваліліся. Усё тама паета, што ты будзіш глядзець.* 2. Зьнішчаны сонцам, туманам (пра снег). *У кустах троху сьнег ляжыць, а на полі німа, увесь туманым паеджын. Уремя халодныя, а сьнягі паетыя.*

ПАЕТЫМ *прысл.* Таму. *Ждалі Піліпёнка, паетым яны столька сядзелі ў дваре.*

ПАЕХАЦЬ *зак. метаф.* 1. Пачаць рвацца. *Во сколька ты пынасіў ету рубашку і плечы паехылі.* 2. Пачаць жыць не па сродках. *Зырплату палучуць — шырока паедуць, а к канцу месіца прічы́гыюцца — німа нічога.* 3. Скурчыцца (ад болю). *Як шпільнець бізунчыкым цірісь сьпіну, дык ты паедзіш.* 4. Нястрымна рассмяяцца. *Як рыскызаў Сямён пры яго прадзелкі, усе паехылі ны лаўкых.* 5. Легчы (пра адказнасць). *Во пыглядзі́ш, яны выкруцюцца, а ны табе ўсё паедзіць.* ПАЕХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пра паездкі. *Будзіць у яго і пойдзіна, і паехына, — ён шагу ня хочыць ступіць лішніга.* 2. Пракладзены (пра след). *У нашым садку сьвежый сьлед ны калёсых: паехына, аб'ехына і ызад паехына.*

ПАЕЧКА *ж. памянш.* Участак. *У мяне асталыся нібальшэнькыя па́ічка, як-небудзь пріскыкым дыпалю.*

ПАЁРЗАЦЬ *зак. перан.* 1. Пабегаць, папрыгаць. *Ніхай прыгыюць, як паёрзыюць, яны луччы пыд'ядуць.* 2. Патаптаць, пабузаваць. *Яны так сена паёрзылі, пірімясілі, што карова і ні нюхнець.* ПАЁРЗАНЫЙ *дзеепрым.* Патаптаны, пабузаваны. *Зыйшла я ў хату,— што тама тваріцца: крываць паёрзыныя, падушкі ны масту выляюцца.*

ПАЁЧЫЦЦА *зак.* 1. Паскардзіцца. *Ці ты паёчысься, ці ні паёчысься, нічога яны табе ні памогуць.* 2. Памучыцца. *С аппечыныю рукою паёчысься, аппечыныя няскора зыжываіць.*

ПАЖАЛКАВАЦЦА *зак.* Паскардзіцца. *Ніскольки пользы ня будзіць, што пыжалкўісься, хто табе чым паможыць.*

ПАЖАРАБІЦЦА *зак. метаф. груб.* Абпіцца. *Глядзіця, пыжаребіціся ат вадзішчы, — ці можна рыспацейшы хвытаць такую халодныю.*

ПАЖАРНАЯ *ж.* Пажарнае дэпо. *Я нядоўга у пыжа́рный работыў, нешта з год. Пыжырна́я даўно закрыта, пустая стаіць і вокны пывыбіваны.*

ПАЖАЦЬ *зак.* Паціснуць. *Тваімі зубамі ўсё можна пыжа́ць, яны крепкія.* ПАЖАТЫЙ *дзеепрым.* *Я хва-*

*цілыся — усе гуркі пыжáтыя, ці на іх сядзелі, ці што йта.*

ПАЖМАЦЦА *зак.* Паціскацца. *Ліцяць ны вічарінкі, каб пыжмáцца. 2 перан.* Палезці ў вузкі праход. *Нада ж прідумыць пыжмáцца ў такую вузкую дзірьку.*

ПАЖМУРЫЦЬ *зак. эмац.* Выпіць усё. *Я думыў, ішчэ многа бярёзывіку, а хваціўся — нічога ні асталыся, усё пажмýрілі.* ПАЖМУРАНЫЙ *дзеепрым. Пажмýрін квас, пустэй бітончык стаіць.*

ПАЖУБРАВАЦЬ *зак.* Патурбавацца, паклапаціцца. *Прішлося ім крепка пужубрувáць, як Антона сь сеным зылавілі ну лугу, ладна пабегылі.*

ПАЖЫВАЦЬ *незак.* Загойвацца. *Ны табе ўсё пыжывáіць, як ны сыбаку.* ПАЖЫЦЬ *зак.* Загаіцца. *Аппечыныя няскора пыжывець, яно доўга мякніць.* ПАЖЫТЫЙ *дзеепрым. Да не, у яго рука пажы́тыя, ужо ўсё дзелыіць як нада.*

ПАЖЫДЧЭЦЬ *зак.* Зрабіцца больш вадкім. *Улі кружку вады, дык і крупеня пыжыччэіць.* ПАЖЫДЗЕЛЫЙ, ПАЖЫДЧЭЛЫЙ *дзеепрым. Кулеш нейкій пыжыдзелый, ці ён сам ацстоіўся, ці сюда вады дубуўлялі. Цеста ў лыханку пыжыччэлыя.*

ПАЖЫЛКІ *мн.* Жылы. *Ні пужай ужо большы, у яго і так пáжылкі трясуцца. Памянш.* ПАЖЫЛАЧКІ. *Гнітанецца зь бярёзкі, што пáжылычкі палопыюць.*

ПАЖЫНАЦЬ *незак.* Зжынаць. *Раншы столька зысівалі кругом і ўсё пыжынáлі рукамі, ніякіх машын ні зналі.*

ПА-ЖЭНСКУ *прысл.* З жаночым захворваннем. *Іна даўно мучыіцца па-жэнску, пасьледнія ўремя з бальніцы ні вылазіць.*

ПАЗАБАБУХЫВАЦЬ *зак. перан.* Глыбока закапаць, забіць. *Ня думыю, што яны пызыбабýхывыюць, зімля як камінь, а рыць ім ня дужа хочыцца.* ПАЗАБАБУХЫВАНЫЙ *дзеепрым. Кольля пызыбабýхывына дужа глубока, пранцыў пырысяты падрыюцца.*

ПАЗАБАВІЦЦА *зак.* Затрымацца (пра ўсіх, многіх). *Ай, пызыбáвіліся, брігадзіра доўга ждалі, усё ні пріхадзіў і ні пріхадзіў.*

ПАЗАБАЛДЗЕЦЬ, ПАЗАБАЛДЗЕЦЦА *зак.* Ачмурэць (пра ўсіх, многіх). *Ат пустых трілюд ні хыця пызыбалдзеіця. Ці вы тутыцька яшчэ ні пызыбалдзеліся, слухыўшы Ісая?* ПАЗАБАЛДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. Выйшлі аттуліцька пызыбалдзелыя, ажно ні рызьбярёмся, куды ііць.*

ПАЗАБАЛЕЦЬ *зак.* 1. Захварэць (пра многіх). *Кучыю жылі у школі, адзін аты днаго і пызыбалелі ціхым.* 2. Разбалецца. *Кажный дзень тыкая цяжолыя работа, і рукі пызыбыля́ць, і плечы, і што хочыш.*

ПАЗАБІДЖЫВАЦЬ, ПАЗАБІДЖАЦЬ, ПАЗАБІДЗЕЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць усіх. *Пызабі́джывылі дзяўчоных, атыбралі ягыды, тэя плакылі. Ня дужа такіх пызыбіджа́іш, яны самі с каго хочыш гылаву сарвуць. Ого, ты іх папробый пызабі́дзіць, яны табе вока ну кулак нясуць.* ПАЗАБІДЖЫВАНЫЙ, ПАЗАБІДЖАНЫЙ *дзеепрым.* *Ах, якея яны пызабі́джывыныя! Ня бойсь ты, ні такея Міхыліняты пызабі́джыныя, як ты гаворіш. Пры каго б тулкуваць, што пызыбіджа́ныя, толька ні пры тваіх дзівярёў.*

ПАЗАБІНТАВАЦЬ *зак.* Забінтаваць усё. *Айдзе ты пызыбінтўіш, калі на ём жывога места ні асталося.* ПАЗАБІНТАВАЦЦА, ПАЗАБІНТОВЫВАЦЦА *зак.* Забінтавацца (пра ўсё). *Раны бальшэя, ну чуць-нячуць пызыбінтува́ліся. Ногі ў іх троху пызыбінтовывыліся, а вывізьць було нечым.* ПАЗАБІНТАВАНЫЙ, ПАЗАБІНТОВАНЫЙ, ПАЗАБІНТОВЫВАНЫЙ *дзеепрым.* *Я нагледзілыся, як яны пызыбінтува́ныя стрыдалі. Прівязьлі тады ў наш горыд раніных, пызыбінтовыных, яны стогнуць, мучыюцца. Ногі крепка пызыбінтовывыны.*

ПАЗАБІЦЬ *зак.* 1. Забіць усіх. *Пызабіць такіх уреднікыў нада, што яны твыряць у дзярейні!* 2 *перан.* Затукаць усіх. *Неік пызабі́лі іх як туркыў.* 3 *перан.* Моцна занесці (снегам). *Як ты будзіш куды вуруша́цца, калі пызаб'ець сьнегым усё ўсюдых.* ПАЗАБІЦЦА *зак.* Пабіць адзін аднаго да смерці. *Ну й дурьё яе суседзі: зывяліся міссобкыю і дывай адзін другога лупіць, былі пызабі́ліся.* ПАЗАБІВАНЫЙ, ПАЗАБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Забіты (пра ўсіх). *Сколька мы нагледзіліся ны пызыбіва́ных людзей, ета вужыс. Я столька пызабі́тых сылдат відзіў, страх глядзець.* 2. Убіты моцна. *Крепка кольля пызыбіва́на, ні пышатнецца. Кляцы пызабі́ты, што ня вырьвіш.* 3. Затуканы (пра ўсіх). *Якея-то пызыбіва́ныя мульчуганы, глідзяць усё дно як вірібіняты. Нейкія дзяўчонкі пызабі́тыя, як глума́чкі.* 4. Моцна занесены (снегам). *Кусты пызыбіва́ны, тама пры́валісься і пы па́хі, луччы ня лезь. Дарогі дужа пызабі́ты сьнегым, мы дайжа ды Каліныўкі ні маглі дайціць.*

ПАЗАБРАЦЬ *зак.* Забраць усё, ва ўсіх. *Ны каго ты будзіш гывaріць, ні знаўшы, сена пызыбра́лі і прыпала.*

ПАЗАБРАДЖАНЫЙ, ПАЗАБРАТЫЙ *дзеепрым. Арешнік пызыбра́джын дайно, дайжа трыва пырысла, айдзе ліжаў. Пызыбра́ты палкі, ні аднае ні асталыся.*

ПАЗАБЫЦЬ *зак.* Забыць усё. *Я многа сьцішкоў знала, мы ўчылі ў школі, дык пызабы́ла.*

ПАЗАБЯГАЦЬ *зак. перан.* Пападлізнічаць. *Аднаго стыршыну ныызыбігаўся, ніхай цяперіцька другога пызыбіга́іць.*

ПАЗАБЯЛЯЦЬ, ПАЗАБЕЛІВАЦЬ, ПАЗАБЯЛІЦЬ *зак.* 1. Забяліць усё. *Аблупілыся печ, плямы ўсякія, пызыбіля́ць нада. Ты пызабелівыла полы ў пулушубку. Во трошку ўремя пысвыбаднеіць, і я пызыбялю́ пацёкі, ато глядзець нікрасіва.* 2. Заправіць малаком усё. *Як пызыбіля́ю крупені, мае ядуць, аж аблізывыюцца, дужа любюць зыбіляныя. Ну, мне нядоўга бульбу пызабелівыць, есьця. Я пызыбяліла і кашу, і бульбу,— зьядуць, а што дзелыць, кылі затыўкі німа.* ПАЗАБЕЛІВАЦЦА, ПАЗАБЯЛІЦЦА *зак.* Забяліцца (пра ўсё). *Пыдажджы, кончым з бульбыю, і ўсё ета пызабелівыіцца. Ну во, пызыбяліліся трешчыны і ладна.* ПАЗАБЕЛІВАНЫЙ, ПАЗАБЕЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Забелены (пра ўсё). *Нада атмуваць усё пызабелівыныя. Як пызабеліны плямы, дык і ў хаці пыкрысівела.* ПАЗАБЯЛЁМШЫ *дзеепрысл.* Забяліўшы ўсё. *Пызыбялёмшы аблезлыя вуглы, хуць у хату зайціць ня стыдна.*

ПАЗАВАЙСТРАЦЬ, ПАЗАЙСТРАЦЬ, ПАЗАВАЙСТРЫЦЬ *зак.* Завострыць усё. *Я пызывыйстря́ю кырындашы, а яны ў яго цірізь мінуту лумаюцца. Кылячкі нада хырашэнька пызыйстря́ць, ато зімля цьвёрдыя, іх ні загоніш. Кольля пызывайстрі́ў, асталыся пыўбіваць.* ПАЗАВАЙСТРАЦЦА, ПАЗАВАЙСТРЫЦЦА, ПАЗАВАЙСТРЫВАЦЦА, ПАЗАВОЙСТРЫВАЦЦА *зак.* Завострыцца (пра ўсё). *Пыд гарох пруцікыў многа пызывыйстря́лыся, толька торькый. Усе кырындашы пызывайстріліся, пішы. Калі ж у цябе етыя кылячкі пызыва́йстрівыюцца? Глянь-ка, як хырашо астатнія дроцікі пызавойстрівыліся.* ПАЗАВАЙСТРАНЫЙ, ПАЗАВОЙСТРАНЫЙ *дзеепрым. Пызывыйстря́ныя кольля я адзьдзельна склаў, кылы паплёту. Вот табе пызавойстріныя цьвятныя кырындашы, рісуй.* ПАЗАВАЙСТРОМШЫ *дзеепрысл. Пызывайстрёмшы уваб'еш, а тупоя кольля у зямлю ні палезіць.*

ПАЗАВАЛІЦЬ *зак.* Спілаваць усё. *Пы бырьшаку такея бярёзы былі, пызывалілі на дровы.* ПАЗАВАЛІЦЦА

*зак.* Заваліцца (пра ўсё, усіх). *Ціціва у бульбі вісокыя, пызывалі́лыся, прідзіцца абізацільна жжынаць, ні рыспашыш.* ПАЗАВАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Мы ішлі, дык відзілі пызывáлінья вербы.* ПАЗАВАЛЁМШЫ *дзеепрысл. Пызывалёмшы столька дзеріў, будуць сядзець зіму бяз горя.*

ПАЗАВЕШАЦЬ *зак.* Завешаць усё. *Куты пызавешылі набожнікымі і ў пяредній хаці, і ў задній, красіва зьдзелылі.* ПАЗАВЕШЫВАЦЦА *зак. перан.* Звесіцца (пра ўсё). *У нас гракі ці сарокі нат пунію пызавешывыліся, гнёздыў надзелылі і трёх ціплёнкыў схвацілі.* ПАЗАВЕШАНЫЙ *дзеепрым. Нейкія мяшкі пызавешыны ў сенцых, я ні разгледзіла, што ў іх тамыцька.*

ПАЗАВЫЦЬ *зак.* Заплакаць уголас (пра ўсіх). *Прібеглі сёстры, пызавы́лі, вый, сколька хочыш, мёртвыга ні падыміш.*

ПАЗАВЯЗАЦЬ *зак.* Завязаць моцна ўсё. *Мяшкі глядзі, каб крепка пызывізáць, дарога няблізкыя, могуць пырызьвя́зывыцца.* ПАЗАВЯЗАЦЦА *зак.* Завязацца моцна (пра ўсё). *Ні біспакойся, вузлы тожа крепка пызывя́жуцца.* ПАЗАВЯЗАНЫЙ *дзеепрым. Ідуць іхныя хлопцы, рукі пызывя́зыныя, што зь імі такоя? Пунькі пызывізáны вярёвычкымі.*

ПАЗАВЯРАЦЬ, ПАЗАВЕРЫВАЦЬ *зак.* Заверыць колькі трэба. *Чаго табе цягнуцца, Танька заўтря пойдзіць у сільсавет і пызывіря́іць бумажкі. Я доўга ні вазіўся, мне зы адзін дзень пызаверівылі.* ПАЗАВЯРАЦЦА, ПАЗАВЕРЫВАЦЦА *зак.* Заверыцца колькі трэба. *У Пітрачыхі бумагі пызывіря́ліся, усё гатова. Можа на той нядзелі пызаверівыюцца твае спраўкі.* ПАЗАВЯРАНЫЙ, ПАЗАВЕРЫВАНЫЙ *дзеепрым. Спраўкі пызывіря́ны, едзь, куды хочыш. Глядзіця ж, глядзіця, каб усе бумажкі былі пызаверівыны.*

ПАЗАГАВАРЫВАЦЬ *зак.* Палячыць замовамі неаднаразова. *Верьця ці ня верьця, а пызыгывáрівыла — і пычало прыхадзіць.* ПАЗАГАВАРЫЦЬ *зак.* 1. Пачаць шырока абгаворваць. *Доўга дурачыліся, пакуля ўжо людзі пызыгыварілі, тады іна пірістала туды бегыць.* 2. Палячыць замовамі неаднаразова. *Ці пызыгаворіць, ці кошка каўкніць — ета ўсё роўна.* ПАЗАГАВАРЫВАНЫЙ, ПАЗАГАВОРАНЫЙ *дзеепрым.* Палечаны замовамі неаднаразова. *Нешта і пызыгывáрівыныя шчокі былящь. А во пыглядзіш, што пызыгаворіныя пройдзіць скарей.*

ПАЗАГАДЗІЦЬ *зак.* Загадзіць, зрабіць непрыгодным

усё. *З грязныю вобуўю лазілі пы мішках, пызыга́дзілі.* ПАЗАГАДЖЫВАЦЦА, ПАЗАГАДЗІЦЦА *зак.* Загадзіцца, зрабіцца непрыгодным (пра ўсё). *Пызыга́джывыліся скамеічкі, нада з вадою абмыць і прусушыць. Ні кідай посыд нямытым, пызыга́дзіцца, што ні ўзяцца будзіць.* ПАЗАГАДЖЫВАНЫЙ, ПАЗАГАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Нейкія ў цябе рушнічкі пызыга́джывыныя. Пызыга́джыныя доскі кладзі адзьдзельна.*

ПАЗАГАІЦЬ *зак.* Загаіць поўнасцю. *Ныста́івыла гарелку ны травых і зылівала, так і пызыгаі́ла раны.* ПАЗАГАІВАЦЦА, ПАЗАГАІЦЦА *зак.* Загаіцца поўнасцю. *Як Ріпіну парезылі, такея былі раны страшныя, Буганькоў у бальніцы шшывaў, і быйстра пызыга́івыліся. На ём, як ны сыбаку, усё за нейкыю нядзелю пызыгаі́лыся.* ПАЗАГОЕНЫЙ *дзеепрым. Як яго парезы, ці пызагоіны?* ПАЗАГАЁМШЫ *дзеепрысл. У Пітрыка пасечыныя даўно пызыгаёмшы.*

ПАЗАГАНЯЦЬ *зак. перан.* Моцна ўбіць значную колькасць. *Дубовыя кольля пызыгыняў глубока ў зямлю, трясцу цяперя сьвіньні падрыюцца.* ПАЗАГАНЯНЫЙ, ПАЗАГАНЯТЫЙ *дзеепрым. Тута дліныя гвазды пызыгыня́ны. Крепкія штырі пызыгыня́ты, ня вырьвіш.*

ПАЗАГАРНЫВАЦЬ, ПАЗАГАРТЫВАЦЬ *зак.* Пазагортваць. *Нада пызыга́рнывыць плямы, што куры рыскыпалі ны ячменю. Як пызыга́ртывыюць етых дзяцей, дык яны чуць прадышуць.* ПАЗАГАРНЫВАЦЦА, ПАЗАГАРТЫВАЦЦА *зак.* Пазагортвацца. *Ямкі троху пызыга́рнывыліся, пыраўнела. Квасоля тожа пызыга́ртывыіцца, ня будзіць зьверьху ліжаць.* ПАЗАГАРНЫВАНЫЙ, ПАЗАГАРТЫВАНЫЙ *дзеепрым. Цьвяты тваe пызыга́рнывыны, ці будзіць зь іх што, ці не. Усё сімяно пызыга́ртывына у адзьдзельныя бумажкі.*

ПАЗАГВАЗДЫВАЦЬ, ПАЗАГВЭЗДЫВАЦЬ, ПАЗАГВЭЗДАЦЬ *зак.* Заквэцаць моцна. *Ну й нада ж прідумыць так пызыгва́здывыць усю адзёжу! Зьнізу штаны пызагвэздывыў, што іх хуць ацьсеч ды выкінуць. Пызагвэздыць і путную адзежыну нядоўга.* ПАЗАГВАЗДЫВАЦЦА, ПАЗАГВЭЗДЫВАЦЦА *зак.* Заквэцацца моцна. *Як ета у вас куртычкі пызыгва́здывыліся, што на іх жывой мясьціны ні асталыся. Во яны явіліся, пызагвэздывыліся і ду вушэй, і з вушамі.* ПАЗАГВАЗДЫВАНЫЙ, ПАЗАГВЭЗДЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ні нясіця хуць у хату пызыгва́здывыных тряпык. А нашто мне пызагвэздывыныя стульчыкі, сыма ацскрібай.*

ПАЗАГЛУШЫВАЦЬ, ПАЗАГЛУШАЦЬ, ПАЗАГЛУШЫЦЬ *зак.* Заглушыць усё, многае. *Твой мак пызаглўшывыў ны гародзі усё чыста. Быракоў тут ня будзіць, бульба пузуглуша́іць. Травішча пузуглушы́ла гарод, калі ні палоць, ні морквіны ня будзіць, ні бырыка.* ПАЗАГЛУШЫВАЦЦА, ПАЗАГЛУШАЦЦА, ПАЗАГЛУШЫЦЦА *зак.* Заглушыцца (пра ўсё, многае). *Густ гарод, адно другім пызаглўшывылыся. Тама кусты, а яшчэ лібіда ўзілася, пузуглуша́лыся ўсё, ні расьцець нічога. Любыя пасевы, кылі пызаглўшуцца, дык жалься божа, што сеілі.* ПАЗАГЛУШЫВАНЫЙ, ПАЗАГЛУШАНЫЙ, ПАЗАГЛУШОНЫЙ *дзеепрым. Гуркі чортым, макым пызаглўшывыны, пывырывай ды пывыкіда́й. Усё цень і цень, дзірівамі пызаглўшыны етыя быразёнкі. С пузуглуша́ных пасевыў нічога ні дажджэсься. Пузуглушоныя пасевы, паетыму нічога росьць ня хочыць.* ПАЗАГЛУШОМШЫ *дзеепрысл. Адзь дзядоўніку ўсё пузуглушомшы, пывысікаў ба ды выніс яго зы прясла, ато яшчэ тхорь будзіць хувацца.*

ПАЗАГНУЦЬ *зак.* Пазагінаць. *Нада крюкі пызагнўць, тырчаць, на іх узьбіцца можна.* ПАЗАГНУЦЦА *зак.* Пазагінацца. *Гвозьдзя пызагнецца, дык ня будзіш ныгамі чыпляцца.* ПАЗАГНУТЫЙ *дзеепрым. С аднаго боку ладна пызагнўта, а ат погріба ладныя мысы тырчаць.*

ПАЗАГНЯТАЦЬ, ПАЗАГНЕСЦЬ *зак. перан.* Пабіць, набіць моцна ўсіх. *Пызыгніта́ць ба стоіла зы такея дуры́. Толька падловіць у садку Паўлік, ён вас пызыгняцець.* ПАЗАГНЯТАЦЦА, ПАЗАГНЕСЦА *зак.* Пабіцца моцна (пра ўсіх). *Другей раз хвацюцца біцца, глядзі, пызыгніта́юцца. Усе троя такея злэя, гатовы пызагнесца.* ПАЗАГНЯТАНЫЙ, ПАЗАГНЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. Большый крепка іх лупіць, яны пішчаць пызыгніта́ныя. Іхныя мульчуганы пызагнеціны, Іванька ім ні даець праходу.*

ПАЗАГРАБАЦЬ, ПАЗАГРЭСЦЬ *зак.* Закончыць апрацоўку градаў. *Ці вы сваее гряды пызыгріба́лі, у мяне яшчэ нічагенічка ня сеіна. Вашы бабы, кызалі, пызыгряблі́ гряды, усё пысадзілі.*

ПАЗАГРАМАЗДАЦЬ *зак.* Загрувасціць усё. *С аднаго боку двор пызыгрымызда́ў, а з другога дзірькі, што сьвіньні праскочуць.* ПАЗАГРАМАЗДАЦЦА *зак.* Загрувасціцца (пра ўсё). *Двор пызыгрымызда́ўся, калёс ні ўскаціць.* ПАЗАГРАМАЗДАНЫЙ *дзеепрым. Усё ўсюдых пызыгрымызда́на, ніякыга толку ні ў сенцых, ні ў клеці.*

ПАЗАГРУЗІЦЬ *зак.* Закласці ўсё. *Цэлыя лета у кусь-*

*цікых сядзелі с тапорікымі, а тады пірівязьлі, пузугрузілі двары хворысьцім.* ПАЗАГРУЖАНЫЙ *дзеепрым. Дарогі пызагрýжыны пяском, ні праехыць, і калі яго пуруўняюць.* ПАЗАГРУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пуні пузугрузёмшы усякім бырахлом.*

ПАЗАДДЗІКА *н. памянш.* Пазаддзе. *Ні кідай пыд ныгамі пызáдзьдзіка, пызьмітай у кучку ды ў лубычку пыдгрябі.*

ПАЗАДЗЕРЖЫВАЦЬ, ПАЗАДЗЯРЖАЦЬ, ПАЗАДЗЕРЖАЦЬ *зак.* Затрымаць усё, усіх. *Зырплату усім пызадзержывылі, гаворюць, грошы німа ны шчату. Ні даюць грошы, пызыдзіржáлі чаго-то. Хто іх пызадзержыць, яны папрыгылі зь яблыны і толька былі.* ПАЗАДЗЕРЖЫВАЦЦА, ПАЗАДЗЯРЖАЦЦА, ПАЗАДЗЕРЖАЦЦА *зак.* Затрымацца (пра ўсё, усіх). *Доўга яны ні пызадзержывыюцца, раз-два вып'юць — і іх пратурюць. Вот неік жа пызыдзіржáліся, работыюць. Калі пызадзержуцца, ніхай сідзяць.* ПАЗАДЗЕРЖЫВАНЫЙ, ПАЗАДЗЯРЖАНЫЙ, ПАЗАДЗЕРЖАНЫЙ *дзеепрым. Гыварілі, што нейкія зладзеі пызадзержывыны зу Дубровыю. Пызыдзіржáныя грошы аддадуць на той нядзелі. Яны былі пызадзержыны, ета гываріць ня хочуць.*

ПАЗАДЗЯЎБЫВАЦЬ, ПАЗАДЗЕЎБЫВАЦЬ, ПАЗАДЗЯЎБАЦЬ *зак.* 1. Задзяўбці зусім. *Прыгыняй старых курей, яны пызыдзя́ўбывыюць пісклят. Куры як сілу пыімеюць, могуць пызадзёўбывыць слабейшых. Старый пятух пузудзюўбáў мыладзенькіх.* 2 *перан.* Затузаць усіх. *Пызыдзя́ўбывылі дзяўчонык, пряма зьдзіваюцца. Не, Кулініных мальцыў ім ні ўдасца пызадзёўбывыць. Ні на тых вы ныпалі, каб іх пузудзюўбáць.* ПАЗАДЗЯЎБЫВАЦЦА, ПАЗАДЗЕЎБЫВАЦЦА, ПАЗАДЗЯЎБАЦЦА *зак. перан.* Моцна пабіцца. *Як хвацюцца біцца, глядзі што пызыдзя́ўбывыюцца. Былі пызадзёўбывыліся Гашка с Полькыю, во сьмеху було. Як толька яны ні пузудзюўбáліся!* ПАЗАДЗЯЎБЫВАНЫЙ, ПАЗАДЗЕЎБЫВАНЫЙ, ПАЗАДЗЯЎБАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Задзяўбаны зусім. *Мáлінькія ціпляткі пызыдзя́ўбывыныя, чуць жывэя бегыюць. Етыя пітушкі пряма пызадзёўбывыны. Ты іх найдзіш калі саўсім пузудзюўбáных.* 2. Затузаны (пра ўсіх). *Нешта ходзюць етыя мальцы усё дно як пызыдзя́ўбывыныя. Яны змалку пызадзёўбывыны. З малых гадоў пузудзюўбáныя, дык і растуць як выранкі.*

ПАЗАДРАЦЬ *зак.* Задраць (пра ўсіх). *Голывы пызыдрáлі і стыяць як вароны, а мульчуганы с кашолык*

*цап-цап і пабеглі.* ПАЗАДРАЦЦА *зак.* Задрацца (пра ўсіх). *Пызыдра́ліся і стыяць, ай, як нікрасіва.* ПАЗАДРАНЫЙ *дзеепрым. Пад ногі ні глідзяць, галовы пызыдра́ны — ідуць.*

ПАЗАДРЫПСІЦЬ *зак.* Давесці да неахайства ўсіх. *Ну хто ж іх пызадрі́псіў,— самі зы сабою прігледзіць ня хочуць.* ПАЗАДРЫПСІЦЦА *зак.* Апусціцца (пра ўсіх). *Ніряхі, апушчэнкі, пызадрі́псіліся, а ішчэ мыладэя бабы.*

ПАЗАДУШЫЦЬ *зак.* Задушыць усіх. *Ніхай пупадзець Сярёжка ў саду, ён вас пызаду́шыць.* ПАЗАДУШЫВАЦЦА, ПАЗАДУШЫЦЦА *зак.* Задушыцца (пра ўсіх). *Лезуць жа ны ўсьпяцень, пызаду́шывыюцца, прутурі аттуля пруцінью. Тыкая вочырідзь была, пряма пы гылывах лезьлі, былі пузудушы́ліся.* ПАЗАДУШАНЫЙ *дзеепрым. Вас найдуць калі-небудзь пызаду́шыныммі.* ПАЗАДУШОМШЫ *дзеепрысл. Ні пузудушомшы вас, толку ня будзіць.*

ПАЗАЖЫЛІВАЦЬ, ПАЗАЖЫЛІЦЬ *зак. экспр.* Прысвоіць, затаіць (пра ўсіх). *Ладна, мы знаім, што вы чужэя ножычкі пызажы́лівылі. Етыя бутылычку табе ні пыставюць, яны пызажы́лілі палучку.* ПАЗАЖЫЛІВАНЫЙ, ПАЗАЖЫЛЕНЫЙ *дзеепрым. У каго капейкі пызажы́лівыны, а ў каго і нічога німа. Дывай-ка трясі свае пызажы́ліныя дзісяткі, іх хваціць на што хочыш.*

ПАЗАЖЫРЭЦЬ *зак.* Зрабіцца занадта тлустым (пра ўсіх). *Куры цэлымі днямі у ячмені сідзяць, пызыжырелі і несца ня хочуць.* ПАЗАЖЫРЭЛЫЙ *дзеепрым. Ны такіх пызыжырелых аж нікрасіва глядзець, ходзюць як пухлякі якея.*

ПАЗАЖЫЦЬ *зак.* 1. Загаіцца (пра ўсё). *У яго бальшэя былі цырапіны і ну руках, і ны ліцэ, цяперя пызыжылі́.* 2 *перан.* Прысвоіць шмат. *Сколька бралі ў яе грошы і ні аддáлі, пызыжылі́.*

ПАЗАЗВАЦЬ *зак.* Запрасіць шмат. *Дзімідзёнкі зьбіраюцца быгатыю свадзьбу спруўляць, хочуць пызызвáць многа людзей.*

ПАЗАЗІМАВАЦЬ *зак.* Застацца непрыбраным на зіму (пра шмат аб'ектаў). *Пызызіму́іць усё на полі, калі будуць ждаць неткуля помышчы, ці яны самі зломкі пыпрібірáць.*

ПАЗАЙЦІЦЬ *зак.* Выйсці замуж (пра ўсіх). *Яе дочкі удашна пызайшлі́ замуж, усім трём хызяйлівыя і спакойныя хлопцы пупаліся.*

ПАЗАКАЗАЦЬ *зак.* 1. Пазаказваць, зрабіць заказ.

*Ён, як зыказывыў печычку, пызыкызáў і трубы.* 2. Абвясціць усім. *Ніхай мульчуганы прыбігаць пы дзярэйні ды пызыкáжуць на сход.* ПАЗАКАЗАЦЦА *зак.* Пазаказвацца, зрабіцца (пра заказы). *Вокны пасьпеюць пызыкáжуцца, нада асаду ставіць.* ПАЗАКАЗАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пароблены (пра заказы). *Касьцюмы быгатыя пызыкáзыны, польты пыпашы́ты, пыдгатовіліся к свадзьбі.* 2. Абвешчаны ўсім. *На сход рана було пызыкáзына, а нешта ніхто ня йдзець. Коля гыварiў, што ўсім пызыкызáна воўрімя.*

ПАЗАКІСАЦЬ, ПАЗАКІСНУЦЬ *зак.* 1. Скіснуць (пра ўсё, многае). *Дужа жарка, калі ў халодныю ваду ні пыставіш, гырлачыкі к вечыру пызыкісáюць. Халодна, няскора мылако пызакíсьніць.* 2. Зрабіцца брудным ад пракісання (пра шмат аб'ектаў). *Пызыкісáлі міскі, што за іх ні ўзяцца. Нямытый посыд пызакíсьніць.* ПАЗАКІСЛЫЙ *дзеепрым.* Брудны ад пракісання (пра шмат аб'ектаў). *Кладзі пызакíслый посыд у шайку, буду мыць.*

ПАЗАКРЫЧАЦЬ *зак.* Закрычаць моцна (пра многіх). *Людзі набеглі, пызыкрічáлі, дык ваўкі ўцяклі, а то маглі пырваць мульчугана.* ПАЗАКРЫЧАЦЦА *зак.* Накрычацца моцна (пра многіх). *Кінула адных дзяцей у хаці, яны пызыкрічáцца тамыцька.*

ПАЗАКУПАЦЦА *зак. метаф.* Моцна намокнуць (у траве, кустах). *Куды вы пойдзіця у лес, такей дождж атліў, у кустах пузукупáіціся.*

ПАЗАКУТЫВАЦЬ *зак.* 1. Загарнуць, ахінуць празмерна. *Пызакýтывылі мáлых, што і вачэй ня відна.* 2. Зачыніць, закласці (коміны). *Як грыза находзіць, нада юшкі пызакýтывыць, каб гром ні ўдаріў у комін.* ПАЗАКУТЫВАЦЦА *зак.* 1. Загарнуцца, ахінуцца празмерна. *Пызакýтывыліся як кулі, так ні работыць, а толька у вазок садзіцца.* 2. Зачыніцца, закласціся (пра коміны). *Ці пызакýтывыліся у вас коміны?* ПАЗАКУТЫВАНЫЙ, ПАЗАКУТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Загорнуты, ахінуты празмерна. *Так пызакýтывыныя ні далжны прустудзіцца, дый сяньня ня дужа халодна. Вязьлі ны санычкых пызакýтыных дзяцей.* 2. Зачынены, закладзены (пра коміны). *Ці пызакýтывыны коміны, глядзіця, каб ні асталіся нізычынятымі. Ні забудзьця, каб коміны былі пызакýтыны.*

ПАЗАЛАІВАЦЬ, ПАЗАЛАЯЦЬ *зак.* Аблаяць моцна ўсіх. *Пызылáівыць іх нада, саўсім ні глідзяць курей, выпусьцюць — і тэя пашлі драць гароды. Толька прідзіць старік, ён вас пызылáіць, што вы скот саўсім ні глідзіцё.*

ПАЗАЛАІВАЦЦА, ПАЗАЛАЯЦЦА *зак.* Моцна палаяцца (пра ўсіх). *Бабы ўчора пызыла́івыліся ны ільне, дужа доўга бріхаліся. Як хваціліся свваріцца, былі пызыла́іліся, чаго толька ні дытвырялі адна ны адну.* ПАЗАЛАЯНЫЙ *дзеепрым. Увідзіця, што вы пойдзіця аттуліцька пызыла́іныя.*

ПАЗАЛІВАЦЦА *зак. метаф.* Пагаварыць пэўны час узнёсла. *Умеіць кыла дзевык пызыліва́цца, як сылавей рысьпіваіць, толька слухыйця.*

ПАЗАЛЛЕ *н.* Астаткі попелу пасля шчолаку. *Я б іх аццёрла ў па́зыльлі, етыя тряпкі, а тады вымыла. Памянш.* ПАЗАЛЛІКА *н.*, ПАЗАЛАЧКІ *мн. Стрясі па́зыльліка ны гарод, зыпашыцца. Куды с па́зылычкымі насіцца, ну бульбоўнік ссып і ўсё.*

ПАЗАЛЯГАЦЬ, ПАЗАЛЕЖЧ *зак.* Легчы надоўга (пра некалькіх асоб). *Як пызыліга́юць посьлі вічарінкі, ты іх с колым ні дабудзісься. Позна пріехылі, пызыляглі́, яны ду пуўдня прысьпяць, калі ня большы.*

ПАЗАЛЯПЫВАЦЬ, ПАЗАЛЁПЫВАЦЬ *зак.* Заквэцаць, заляпіць усё. *Ну хут троху дзірькі ў сьцінах пызыля́пывый, ато ж глядзець нілізя. Пызалёпывыў сваё штаны дзёхцім, як ты яго цяперя аччысьціш.* ПАЗАЛЯПЫВАЦЦА, ПАЗАЛЁПЫВАЦЦА *зак.* Заквэцацца, заляпіцца (пра ўсё, усіх). *Мазыўшы, канешня, гліныю пызыля́пывыісься. Худзь ба шчэрбы троху пызалёпывыліся, ато ў іх, хочыш, вецір засьвішчыць.* ПАЗАЛЯПЫВАНЫЙ, ПАЗАЛЁПЫВАНЫЙ *дзеепрым. Боты грязьзю пызыля́пывыны, нада абмыць, а тады чысьціць. Пріішлі пызалёпывыныя пы самыя вушы.*

ПАЗАЛЯСЕЦЬ, ПАЗАЛЯСЕЦЦА *зак.* Зарасці лесам (пра значныя прасторы). *У нас ня дужа многа, а ў другіх месныкыцьіх пызылясела кругом дзірявень. Два-трі гады ні пыпашыш, і тута пызылясі́цца.* ПАЗАЛЯСЕЛЫЙ *дзеепрым. Лешчынскія равы былі чысьцінькія, а цяперя усе пызыляселыя.*

ПАЗАМАРАЦЬ *зак.* Замазаць, запэцкаць (пра шмат аб'ектаў). *Глядзі-ка, як ты пызымырай рукаўкі ў куртычкі.* ПАЗАМАРАЦЦА *зак.* Замазацца, запэцкацца (пра шмат аб'ектаў). *Ці ў іх доўга што чыстым пабудзіць, зу пуўдня пызымыра́іцца.* ПАЗАМАРАНЫЙ *дзеепрым. Новінькій платочык, а так пызымыра́н!*

ПАЗАМАРАЧЫВАЦЬ, ПАЗАМАРОЧЫВАЦЬ, ПАЗАМАРОЧЫЦЬ *зак.* Затлуміць усіх. *Як прідуць етыя госьці, толька пызымыра́чывыюць вас. Яны пызымарочы-*

*вылі нас рызгаворымі сваімі. Ён адзін можыць усіх пызымарочыць.* ПАЗАМАРАЧЫВАЦЦА, ПАЗАМАРОЧЫВАЦЦА, ПАЗАМАРОЧЫЦЦА *зак.* Затлуміцца (пра ўсіх). *Пысядзіця тама, дык ні хыця пызымыра́чывыіціся. Ат аднаго іхныга тлуму пызымарочывыліся. Сходзіця паслухыйця — пызымарочыіціся.* ПАЗАМАРАЧЫВАНЫЙ, ПАЗАМАРОЧЫВАНЫЙ, ПАЗАМАРОЧАНЫЙ *дзеепрым. Выйшлі пызымыра́чывыныя, а ну іх, такея бяседы. Пызымарочывыныя ішчэ ня ў тэй бок пойдуць. Пызымарочыны ці ні пызымарочыны, алі ж іціць двору нада.*

ПАЗАМАРДОВЫВАЦЬ, ПАЗАМАРДАВАЦЬ *зак.* Замучыць усіх. *Якія ж яны гадкія, етыя мальцы, пызымардовывылі коні. Ён адзін вас пызымарду́іць, многа і сыбіраць ні нада.* ПАЗАМАРДОВЫВАЦЦА, ПАЗАМАРДАВАЦЦА *зак.* Замучыцца (пра ўсіх). *Пызымардовывыюцца яны, такою жарою атпа́хывыўшы. Пузумурдува́ліся ны казьбе, трыва нірізкая.* ПАЗАМАРДОВЫВАНЫЙ, ПАЗАМАРДАВАНЫЙ *дзеепрым. Пызымардовывыны усе на полівi, трыва прець — ніяк ня выбрыцца. Усё ў хумутах і ў хумутах, пызымардовыны коні, мінуты воддыху німа.*

ПАЗАМАСЛІВАЦЬ, ПАЗАМАСЛІЦЬ *зак.* 1. Заквэцаць усё моцна. *Так пызыма́сьлівылі куртычкі, што іх толька атмуваць. Пызыма́сьлілі скамеічкі, пріткнуцца нейдзі. 2 перан. іран.* Закупіць ўсіх. *Яны ўмеюць пызыма́сьлівыць нычальства. Каго яны там пызыма́сьлілі, я ні знаю, ну каму-то ладна пацсунулі.* ПАЗАМАСЛІВАЦЦА, ПАЗАМАСЛІЦЦА *зак.* 1. Заквэцацца моцна (пра ўсё). *Ня лезьця к посыду, у вас полы пызыма́сьлівыюцца. Пызыма́сьліцца нядоўга, а тады плацьця хуць выкідай.* 2. Закупіцца (пра ўсіх). *Мы самі знаім, што пызыма́сьлівыліся, іначы б так ні зышчычалі. Пыглядзіш, пызыма́сьлюцца і ўсё будзіць чыста й гладка.* ПАЗАМАСЛІВАНЫЙ, ПАЗАМАСЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Заквэцаны моцна (пра ўсё). *Рубашка пызыма́сьлівына кругом, мыць нада. Такей пызыма́сьліный посыд кіпятком абварівый.* 2. Закуплены (пра ўсіх). *Ну канешня пызыма́сьлівыны, паетыму і горла дзяруць зы яго. Пройдзіць нямнога ўремя, і етыя будуць пызыма́сьліны.*

ПАЗАМЕТЛЯВАЦЬ *зак.* Заметляваць усё. *Я пызымітлюва́ла крайкі, зыбірай скацірсьць.* ПАЗАМЕТЛЯВАЦЦА *зак.* Заметлявацца (пра ўсё). *Пыдажджы, пызымятлю́юцца біряжкі, тады нясі.* ПАЗАМЕТЛЯВАНЫЙ,

ПАЗАМЯТЛЁВАНЫЙ *дзеепрым. Так пызымітлювáна, што пасьці нічога нізаметна. Ну рубашкі былі нібальшэнькія дзірічкі, яны пызымятлёвыны.*

ПАЗАМКНУЦЬ *зак.* Замкнуць старанна. *Я ўсігда зáрыня пызамкнý пуні, а тады зычыняюся ў хаці і лажуся спаць.* ПАЗАМКНУТЫЙ *дзеепрым. Сам праверь, ці пызамкнуты усе дзьвері.*

ПАЗАМУСОЛІВАЦЬ, ПАЗАМУСОЛІЦЬ *зак.* Завэдзгаць, зацерці ўсё. *Куртычку сваю пузумусолівыў сьперіду, што цьвету яе ні пызнаіш. Пузумусоліць што хочыш нядойга, а тады папробый аччысьці.* ПАЗАМУСОЛІВАЦЦА, ПАЗАМУСОЛІЦЦА *зак.* Завэдзгацца, зацерціся (пра ўсё). *Твае спадніцы пузумусолівыліся, што іх толька пад ногі слаць. Кыла посыду як ты акуратна ня будзь, адзёжа пузумусоліцца скора.* ПАЗАМУСОЛІВАНЫЙ, ПАЗАМУСОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Кідай у шчолык пузумусолівыныя тряпкі, ніхай атмікаюць. Хвытаіць тута і пызымазыныга, і пузумусоліныга, ні спруўляісься мыць.*

ПАЗАМЫШЛЯЦЬ *зак.* Задумаць нядобрае (пра многіх). *Што яны тамыцька пызымышлялі, я ні знаю, ну дойга кучыю стыялі, дыгыварівыліся.*

ПАЗАНАШЫВАЦЬ *зак. перан.* Засыпаць усё навокал снегам. *Злая была зіма, усё пызынáшывыла сьнегым, нійдзе нілізя було пралезьць.*

ПАЗАНІМАЦЬ, ПАЗАНЯЦЬ *зак.* Заняць шмат. *Тады ў дзяреўні пызынімáлі хутары тэя, што ні хацелі пірістрáівыцца. Пызынялі сабе луччыя участкі, с травою, хвалюцца: во накосім іржышча!* ПАЗАНІМАНЫЙ, ПАЗАНІМАТЫЙ, ПАЗАНЯТЫЙ *дзеепрым. Як мы пыдыйшлі, усе палоскі былі пызынімáны. Дзеўкі пызынімáныя, некыга табе выбіраць. Усе карзінкі пызынімáтыя, німа куды пірясыпыць моркву. Як тады армія стыяла, усе двары былі пызыня́ты.*

ПАЗАНУРЫВАЦЬ, ПАЗАНУРАЦЬ, ПАЗАНУРЫЦЬ *зак.* Зрабіць заняпалымі ўсіх. *Іна тыкая, што можыць дзяцей пызанýрівыць, нікога ні жалеіць. Ні жальціся, бедніцькія, ніхто вас дужа ні пузунуряў. Сваіх і ні пузустудзіў, і ні пузунуріў, а ты сядзі ў Амшарі, калей голыя, босыя.* ПАЗАНУРЫВАЦЦА, ПАЗАНУРАЦЦА, ПАЗАНУРЫЦЦА *зак.* Заняпасці (пра ўсіх). *Адны пызанýрівыюцца, а другея будуць прыхлыждацца. Ат работы пузунуряліся, ну яе ґ богу. Ні так вы ўжо пузунуріліся, як плачыця.* ПАЗАНУРЫВАНЫЙ, ПАЗАНУРАНЫЙ, ПАЗАНУРОНЫЙ *дзеепрым. Нічога сабе пызанýрівыныя,*

*як сьлімяньнё ходзюць, каркі тэя аж бліщчаць. Бегылі пызанýрініыя, іна дзяцей саўсім ні глядзела. Пузунуряныя коні, ім ні мінуткі атхлыну німа, усё ў хумуце і ў хумуце. Каб ні такія пузунурёныя коні, можна було б зьезьдзіць.* ПАЗАНУРОМШЫ *дзеепрысл. Пызьба плыхая, трыва павыбіта, скот пузунурёмшы, і каровы мала даюць мылыка.*

ПАЗАПАГАНІВАЦЬ, ПАЗАПАГАНІЦЬ *зак.* Запаганіць (пра значную колькасць). *Пызыпыгáнівылі зямлю, на ёй росьць нічога ня хочыць. Нейкія краскі лінулі, пызыпыгáнілі ваду ў сажылкых.* ПАЗАПАГАНІВАЦЦА, ПАЗАПАГАНІЦЦА *зак.* Запаганіцца (пра значную колькасць). *Яны самі могуць пызыпыгáнівыцца, біз усякія помышчы. Пызыпыгáнілыся адзёжа стáрыя, хуць выкідай.* ПАЗАПАГАНІВАНЫЙ, ПАЗАПАГАНЕНЫЙ *дзеепрым. Столька зямлі прыпыдаіць пызыпыгáнівыныя, раншы еткія сінакосы былі. Дурáмі сваімі пызыпыгáніны, нашто яны каму такея.*

ПАЗАПАСКУДЖЫВАЦЬ, ПАЗАПАСКУДЗІЦЬ *зак.* Запаганіць (пра значную колькасць). *Пызыпаскýджывылі свае пінжачкі, што разу пірядзець ня будзіць чаго. Нечым пызыпаскýдзілі ваду ў шаічкых.* ПАЗАПАСКУДЖЫВАЦЦА, ПАЗАПАСКУДЗІЦЦА *зак.* Запаганіцца (пра значную колькасць). *Вы можыця так пызыпаскýджывыцца сь сеным, што самі сабе ні рады будзіця. Нада ж, штоб так пызыпаскýдзіліся етыя ручкі.* ПАЗАПАСКУДЖЫВАНЫЙ, ПАЗАПАСКУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Сыбярі пызыпаскýджывыныя тряп'ё ды ўкінь у шчолык. У што йта тваё рукі етык пызыпаскýджыны?*

ПАЗАПІКОВЫВАЦЬ, ПАЗАПІКАВАЦЬ *зак.* Заткнуць, закрыць усё моцна. *Крепка бутылкі пызыпіковывый, дарога далёкыя, каб ні рысьпікуваліся. Пызыпікувáлі банычык, уся паліца зыстаўліна.* ПАЗАПІКОВЫВАЦЦА, ПАЗАПІКАВАЦЦА *зак.* Заткнуцца, закрыцца моцна (пра ўсё). *Кылі ладна пызыпіковывыіцца, дык ні расплешчыцца, дывязеш. Ты праверь, як у яго пызыпікувáлыся.* ПАЗАПІКОВЫВАНЫЙ, ПАЗАПІКАВАНЫЙ *дзеепрым. Ці ўсё у цябе пызыпіковывына, каб ні ждаць, як падгонюць кыня. Я праверіў, усё крепка пызыпікувáна.*

ПАЗАПІРАЦЬ *зак. перан.* Занесці снегам усё навокал. *Пызыпірáла двары сьнегым, усё чысьці і чысьці.* ПАЗАПЕРЦЬ *зак.* 1. Заперці ўсё моцна. *Глядзі ж ні забудзь наныч дзьверí пызаперць.* 2. Занесці снегам усё навокал. *Як пызапрець вуліцу, к калодзіжу ні прабіцца,*

*пуўдня буйтуісься, аткáпыіш.* ПАЗАПІРАЦЦА, ПАЗАПЕРЦЦА *зак.* 1. Заперціся моцна (пра ўсё). *Як пызыпірáюцца, к ім ні дастукыцца. Яны ўжо дайно пызапёрліся, можа сьпяць.* 2. Занесціся снегам (пра ўсё навокал). *Мяцець і мяцець, узноў дарогі пызыпірáюцца, што ні праехыць. Як пызапрецца, рыскáпыіш, рыскáпыіш, духу дасіся.* ПАЗАПІРАНЫЙ, ПАЗАПЁРТЫЙ *дзеепрым.* 1. Запёрты моцна (пра ўсё). *Не, кажыцца, вароты пызыпірáны. Ну, калі дзьверí пызапёрты, быяцца нечыга, ніхто ня ўлезіць.* 2. Занесены снегам (пра ўсё навокал). *А у лесі ж пызыпірáна, нікуды ні ўваб'есься. Куды вупруўляцца у паездку, дарогі пызапёрты, зы дзярейнію кыня уваб'еш і ня выцігніш.*

ПАЗАПЛЫСЦЬ *зак.* 1. Заплысці далёка (пра многіх). *Яны хырашо плавыюць, пызыплывýць далёка, а тады варочыюцца.* 2 *перан.* Пакрыцца поўнасцю. *Пузуплулá бульба макріцыю, ат яе ні атыбраццa. Вочы грязьзю пузуплулі, худзь ба прамыў.*

ПАЗАПЛЮСКЫВАЦЬ *зак.* Заплюснуць (пра ўсіх). *Я думыла, яны дзеда слухыюць, а яны ўжо вочы пызаплю́скывылі.* ПАЗАПЛЮСКЫВАЦЦА *зак.* Заплюснуцца (ва ўсіх). *Пыляжыця ціхінька, січас у вас вочкі пызаплю́скывыюцца.* ПАЗАПЛЮСКЫВАНЫЙ *дзеепрым. Сьпяць ці не — ні знаю, ну ціха ліжаць, вочкі пызаплю́скывыны.*

ПАЗАПОРЧЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Папсаваны часткова (пра значную колькасць). *Усе гуркі ў начоўкых, ты рызглідай, пызапорчывыныя ні кладзі саліць, аткідывый.*

ПАЗАПРЭЖЧ *зак.* Запрэгчы ўсё, усіх. *Січас мыжары пызыпрягýць. Пызыпряглí коні і стыяць, ня едуць, некыга ждуць.* ПАЗАПРЭЖАНЫЙ *дзеепрым. Коні пызапрежыны, шаўлюгі-шаўлюгі, ні ны свадзьбу ехыць, а ношку хворысьця пріцягнуць.*

ПАЗАПУГАЦЬ, ПАЗАПУЖАЦЬ, ПАЗАПУГЫВАЦЬ, ПАЗАПУЖЫВАЦЬ *зак.* Запалохаць усіх. *Нычальства пынаехыла, пузупугáла іх, яны на ўсё гатовы. Міця ладна пузупужáў мáлых, большы у мідунічкі ні палезуць. Ня дужа лёхка такіх атлётыў пызапýгывыць, яны сьвет прайшлі. Пызапýжывыў дзяцей, што яны быяцца кылы яго хаты прайціць.* ПАЗАПУЖАЦЦА, ПАЗАПУЖЫВАЦЦА *зак.* Напалохацца (пра ўсіх). *Ня бойся ты, ня дужа еткія балыўнікі пузупужáюцца. Нáныч ні нада ўсякія трілюды рысказывыць, каб яны ні пызапýжывыліся.*

ПАЗАПУГАНЫЙ, ПАЗАПУЖАНЫЙ, ПАЗАПУЖАТЫЙ, ПАЗАПУГЫВАНЫЙ ПАЗАПУЖЫВАНЫЙ *дзеепрым. Я думыла, пузупуга́ныя сідзяць, а яны толька пысьміхаюцца. Пузупужа́ны мальцы, дайжа блізка сюда ні пыказывыюцца. Як ні пузупужа́ты, а троху пыцішэлі. У нас тожа многія былі пызапу́гывыны. Гывbooks: пызапу́жывыныя,— на іх шкура гаріць.*

ПАЗАПУСЦЕЦЬ *зак.* Зрабіцца пустым (пра шмат аб'ектаў). *Сколька поля пузупусьцела, хызяіна німа, усё хіньню ідзець.* ПАЗАПУСЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Стыяць пузупусьцелыя хаты, жыві — ні хачу.*

ПАЗАПУХНУЦЬ *зак.* Запухнуць моцна (пра ўсё). *Ац сну вочы пызапу́хлі, ета ж нада столька прыспаць.* ПАЗАПУХЛЫЙ, ПАЗАПУХШЫЙ *дзеепрым. Пашлі ўтраіх к Соńкі, вочы ува ўсіх пызапу́хлыя. Во цяперя бочычкі пызапу́хшыя, ні кануць.*

ПАЗАПХАЦЬ, ПАЗАПХНУЦЬ *зак.* Запхнуць усё. *Пызыпха́лі шапкі зы пазухі і йдуць як бальшэя. Іна ўжо ні прідумыіць, куды свае ўборы пызапхну́ць.* ПАЗАПХАЦЦА, ПАЗАПХНУЦЦА *зак.* Запхнуцца (пра ўсё). *У мяшкі трыва пызыпха́іцца і зынясецца атвечыра. Куды-небудзь і етыя тряпкі пызапхну́цца, ніхай тута пыліжаць.* ПАЗАПХАНЫЙ, ПАЗАПХНУТЫЙ *дзеепрым. У іх сеным усе вуглы пызыпха́ны. Длі чаго ета сыка сюда пызапхну́та, ні прідумыю.*

ПАЗАРАЖАЦЬ, ПАЗАРАЖЫВАЦЬ, ПАЗАРАЗІЦЬ *зак.* Заразіць усіх, многіх. *Хворыя здаровых ураз могуць пызырыжа́ць. Тады ён прівёз чахоткі сь Піцярбурга і сваіх пызыра́жывыў. Чым хочыш могуць пызыразі́ць.* ПАЗАРАЖАЦЦА, ПАЗАРАЖЫВАЦЦА, ПАЗАРАЗІЦЦА *зак.* Заразіцца (пра ўсіх, многіх). *У адной хаці жылі кучыю і пызырыжа́ліся адзін ад другога. Бірягі дзяцей, каб ціхым ні пызыра́жывыліся, ён дужа прістаець. Як у школі жылі кучыю, пызыразі́ліся ціхым, пірялежылі пасьці ўсе ў бальніцы.* ПАЗАРАЖАНЫЙ, ПАЗАРАЖОНЫЙ *дзеепрым. Адзін ад другога пызыра́жыныя балеюць. Етыю гарелішчыю пызыражоныя, ня могуць бізь яе.* ПАЗАРАЖОМШЫ, ПАЗАРАЗЁМШЫ *дзеепрысл. Тэй ат таго, тэй ат таго пызыражомшы, усе пірікычаліся. Яны аттуля пріехылі пызыразёмшы, зразу хыркылі.*

ПАЗАРАЗАЦЬ *зак. перан.* 1. Зарэзаць, зрабіць шмат надрэзаў. *Пымагі бацьку палкі пызырізáць, а тады пыбягіш у горыд.* 2. Моцна пакусаць (пра многіх). *Скутыйця карой куды-нібудзь к вадзе, ато іх вадні пызырізáюць.*

ПАЗАРАЗАЦЦА, ПАЗАРЭЗАЦЦА *зак.* Зарэзацца (пра шмат надрэзаў). *Астатнія бірнушкі пызырізаюцца посьлі, пойдзім заўтрікыць. Тэя палкі пызарежуцца посьлі абеда.* ПАЗАРАЗАНЫЙ, ПАЗАРЭЗАНЫЙ *дзеепрым.* Зарэзаны (пра шмат надрэзаў). *Ну вуглы бярьвеньня пызырізана, выбірайця чашкі. Глянь-ка, ці правільна у іх пызарезыны бірнушкі, каб ні папорцілі.*

ПАЗАРАШЧЫВАЦЬ, ПАЗАРОШЧЫВАЦЬ, ПАЗАРОСЦЬ, ПАЗАРАШЧЫВАЦЦА, ПАЗАРОШЧЫВАЦЦА *зак.* Зарасці моцна. *Аборкі лазою пызырашчывылі — ні пралезьць. Нейкыя дзікыя трыва пызарошчывыла, яе пывысікаць нада. Лугі былі чысьцінькія, касілі, а січас пызырасьлі, што ня ўбіцца. Мыладэя мушчыны, а пызырасьлі як старэя дзяды. Ты пыглядзеў ба, як пызырашчывыўся Кругліенькій аборычык. Гады трі ні пыпашы, і ўсё пызарошчывыіцца, што ні пралезіш.* ПАЗАРОСЛЫЙ *дзеепрым. Тама ўсе аборкі пызарослыя, разу нійдзе ні кышанеш.*

ПАЗАРЫВАЦЬ, ПАЗАРЫЦЬ *зак.* Закапаць усё. *Тады, як немцы ішлі, мы рылі бліндажы і хуваліся, а посьлі пызырывалі. Ладный ба ты маліц быў, каб пызарыў ямы ны дваре, сьвіньні ныкыпалі.* ПАЗАРЫВАЦЦА, ПАЗАРЫЦЦА *зак.* 1. Закапацца, укапацца (пра ўсё). *Ніяк кулдобіны ні пызырываюцца. Кынавы як пызарыліся, у аборкых доўга выда стаіць.* 2. Укапацца (пра ўсіх). *Сьвіньні глубока пызырываюцца у салому і ліжаць, ні вурухнуцца. Мы, бувала, у сена пызарыімся і сьпім, цёпла.* ПАЗАРЫВАНЫЙ, ПАЗАРЫТЫЙ *дзеепрым.* Закапаны, укапаны (пра ўсё). *Пызырываны сажылкі, ні аднае ні асталыся. Сохі крепка былі пызырываны, мы нубуйтуваліся, пакуля пывыкапывылі. Німа тама большы ямык, усё пызарыта.*

ПАЗАРЭЎЦЬ *зак. перан.* Гучна заплакаць (пра ўсіх). *Яны знаіш калі пызырявуць? — як бацька зы бізунок возьміцца.* ПАЗАРЭЎЦЦА *зак.* Моцна наплакацца ўголас (пра ўсіх). *Пызареўцца нада було ны такоя горя глядзець.*

ПАЗАСАЛІВАЦЬ, ПАЗАСАЛІЦЬ *зак.* Абрабіць тлушчам шмат прадметаў. *Малыя дужа сваe рубашкі пызысалівылі. Возісься зь ірундою, пызысаліў бочкі, паспробый іх дамыцца.* ПАЗАСАЛІВАЦЦА, ПАЗАСАЛІЦЦА *зак.* Абрабіцца тлушчам (пра шмат прадметаў). *Тряпкі як пызысалівыюцца, іх ні атмыць. Усё тута пызысалілыся, кідай у шчолык.* ПАЗАСАЛІВАНЫЙ, ПАЗА-

САЛЕНЫЙ *дзеепрым. Доўга вазіліся, пакуля рызыбралі, паетыму і адзёжа пызысáлівыныя. Чырянцы у ныжах пызысáліны, аж ні ўзяцца.*

ПАЗАСЕЧ *зак.* 1. Зрабіць насечкі ўсюды. *Што тута доўга думыць, яліны ўзялі, пызасеклі,— во вам і жэрдзя, увязывыйця вазы.* 2 *перан.* Адлупцаваць бязлітасна. *Толька прідзіць бацька, увідзіць ету яблынку, ён вас пызысякець ремнім.*

ПАЗАСКАРАДЖЫВАЦЬ, ПАЗАСКАРОДЖЫВАЦЬ, ПАЗАСКАРАДЗІЦЬ *зак.* Забаранаваць усё. *Бувала, хлопцы па восім каней зыпрігаюць у борыны, скора пызыскырáджывыюць. Ні прідумыць, калі ета ўсё пызыскароджывыюць,— столька многа работы. У нас бульбы пызыскырадзілі, паедуць паріціну скырадзіць, як кынчаюць пыхаць.* ПАЗАСКАРАДЖЫВАЦЦА, ПАЗАСКАРОДЖЫВАЦЦА, ПАЗАСКАРАДЗІЦЦА *зак.* Забаранавацца (пра ўсё). *Бульбу ня кініш, калі пызыскырáджывыіцца, ны яе нада сваё ўремя, а ўремя нілізя прупускаць. Ужо многа пызыскароджывылыся, скора кончуць. Пахыта пызыскародзіцца — і сей жыта.* ПАЗАСКАРАДЖЫВАНЫЙ, ПАЗАСКАРОДЖЫВАНЫЙ, ПАЗАСКАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Летышнія пахыта была пызыскырáджывына. Ны лядых пызыскароджывына, зы быльшаком кусочык астаўся. Ну раз Міждарожжа пызыскароджына, то можна і аддыхнуць.* ПАЗАСКАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пызыскырадзёмшы лі балоцца, піріiжджайся ў Лібісы.*

ПАЗАСМАРГЫВАЦЬ, ПАЗАСМОРГЫВАЦЬ, ПАЗАСМАРГНУЦЬ *зак.* Зацягнуць усё, усюды. *Пызысмáргывый вярёвычкі у пяцелькі, а тады вешый. Ты праверь, ці крепка ён пызасморгывыў зывязычкі. Каб і сюда сувайкі пызысмаргнýў, хужы ні було б.* ПАЗАСМАРГЫВАЦЦА, ПАЗАСМОРГЫВАЦЦА, ПАЗАСМАРГНУЦЦА *зак.* Зацягнуцца (пра ўсё, усюды). *Зынавесычкі пызысмáргывыюцца, і тады палі агонь. Усе шнурочыкі акуратна пызасморгывыліся. Кажыцца, нурмальна пызысмаргнýлыся, далжно дзіржацца.* ПАЗАСМАРГЫВАНЫЙ, ПАЗАСМОРГЫВАНЫЙ, ПАЗАСМАРГНУТЫЙ *дзеепрым. Ета длі украшэнія пызысмáргывыны такея шнурочыкі. Зывязкі пызасморгывыны, сам пыглядзі. Крепкія ніткі пызысмаргнýты, зынавескі на іх удзержуцца.*

ПАЗАСОХНУЦЬ *зак.* Засохнуць (пра ўсё). *Раны пызасохлі, дык большы ня трогый, скарей зыгыяцца.*

ПАЗАСТОЛІВАЦЬ, ПАЗАСТОЛІЦЬ *зак.* Паслаць

столь усюды. *Абея хаты пызастолівылі, і пяреднію, і заднію. Крепка, шчытна пызастолілі сенцы, нічога зьверьху ні прасы́пліцца.* ПАЗАСТОЛІВАЦЦА, ПАЗАСТОЛІЦЦА *зак.* Паслацца ўсюды (пра столь). *Во пызастолівыюцца хаты, будзім пічкура шукаць, каб печы скласьць зы адным заходым. Клеці як пызастолюцца, тады мушчыны к вам пацскочуць, памогуць.* ПАЗАСТОЛІВАНЫЙ, ПАЗАСТОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Што ім бідуваць, хаты пызастолівыны, печы кладзі і піріхадзі жыць. Хаты пызастоліны, ну нада зьверьху гліныю зымазывыць ды мякіны нысыпаць.*

ПАЗАСТУДЗІЦЬ *зак.* Застудзіць моцна. *У Максіма быў рыдзікуліт, пузустудзі́ў, дык кінулыся ў гылаву і ў вока.* ПАЗАСТУДЗІЦЦА, ПАЗАСТУДЖЫВАЦЦА *зак.* Застудзіцца моцна. *Мы яшчэ ў маленстві пузустудзі́ліся, дык і цяперя атрыгаіцца. Ні бірігіцёся, пызасту́джывыіціся, тады будзіця кычацца — то туды коліць, то сюды поріць.* ПАЗАСТУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Увесь пабітый, увесь пызасту́джыный, якея ты работы ат яго хочыш.* ПАЗАСТУДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пузустудзёмшы ногі, будзіця мучыцца, к старысьці усё ета акажыцца.*

ПАЗАСТУПАЦЦА *зак.* Заступіцца ў пэўнай ступені. *Зразу яны троху пузуступа́ліся зы Сашку, а тады пірісталі.* ПАЗАСТУПІЦЦА *зак.* Праявіць актыўнасць у абароне. *Ня дужа яны пызасту́пюцца, толька сябе глідзяць, другея ім ніважны.*

ПАЗАСТЫЦЬ *зак.* Застыць (пра ўсё). *У сенцых міскі пызасты́лі хыращо, а с хаты сьцюдзінь жудкуват.*

ПАЗАСУШЫЦЬ *зак.* Засушыць усё. *Даждж ой дайно ні було, зямлю пузусушы́ла, стала як камінныя.* ПАЗАСУШЫЦЦА, ПАЗАСУШЫВАЦЦА *зак.* Засохнуць (пра ўсё). *Хырашо твае травы пузусушы́ліся, будзіць лікарства пры зіму. Усё ны грідах пызасу́шывылыся, ні пыліваўшы прыпадзець.* ПАЗАСУШАНЫЙ, ПАЗАСУШОНЫЙ, ПАЗАСУШЫВАНЫЙ *дзеепрым. Як жа ня будзіць пызасу́шына, кылі тыкая жарішча стаіць. Скарінкі пузусушоны, ніхто іх есьць ні станіць. Твае сыры крепка пызасу́шывыны, сталі цьвёрдыя-цьвёрдыя.* ПАЗАСУШОМШЫ *дзеепрысл. Зімля лі балота пузусушомшы, як камінныя стала.*

ПАЗАСЦЁБЫВАЦЬ *зак.* 1. Зашпіліць старанна. *Пызасьцёбывый усе ґузікі, вецір дужа ёдкій, прыбіраіць наскрозь.* 2 *перан.* Нахвастаць моцна. *Толька зловіць Пайлюк у саду, ён вас пызасьцёбывыіць.* ПАЗАСЦЁБЫВАЦЦА *зак.* Зашпіліцца старанна. *Во як пызасьцёбывы-*

*ліся, дык цяплей будзіць.* ПАЗАСЦЁБЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Зашпілены старанна. *Глядзі, каб у ма́лыга усе пугывічкі былі пызасьцёбывыны.* 2. Нахвастаны моцна. *Беглі с сыдка пызасьцёбывыныя, крепка ім Якыў укаціў.*

ПАЗАСЦЯБЫВАЦЬ *зак.* 1. Зашыць у спешцы ўсюды. *Пызысьця́бывый ты іхныя рубашычкі, дзірька на дзірькі, усё на іх як гаріць.* 2 *перан.* Нахвастаць моцна. *Пупадзець Купчанок вас пыд яблынымі, дык пызысьця́бывыіць.* ПАЗАСЦЯБЫВАЦЦА *зак.* Зашыцца ў спешцы ўсюды. *Етыя мяшкі каб пызысьця́бывыліся, можна б бульбу прівезьць.*

ПАЗАСЫПАЦЬ, ПАЗАСЫПЫВАЦЬ *зак.* Засыпаць усё, усюды. *Чуць-нячуць сыбраліся кулдобіны пызасы́пыць, усё було некылі. Ніхто ні найдзіцца ямкі ны дарогі пызасы́пывыць.* ПАЗАСЫПАЦЦА, ПАЗАСЫПЫВАЦЦА *зак.* Засыпацца (пра ўсё, усюды). *Калі ў цябе етыя кынаўкі пызасы́пюцца? Ста́рыя калодзіжы пызасы́пывыліся і ні пызнаіш, айдзе яны былі.* ПАЗАСЫПАНЫЙ, ПАЗАСЫПЫВАНЫЙ *дзеепрым. Тама былі кыляіны, што каткі хуваліся, цяперя, зна́ць, пызасы́пыны. Пыгрябы на іхных усадзьбых пызасы́пывыны, усё зруўняна.*

ПАЗАСЫПАЦЬ, ПАЗАСНУЦЬ *зак.* Заснуць (пра ўсіх). *Ма́лыя доўга круціліся, і сьмяяліся, і рызгыварівылі, пакуля пызысыпа́лі. Брык, брык і пызасну́лі, я іх пылажыла на пол ны сяньнік, накрыла пасьцілкымі, яны ды раньня ні вурухнуліся.*

ПАЗАТАРКЫВАЦЬ, ПАЗАТОРКЫВАЦЬ, ПАЗАТОРКАЦЬ *зак.* Заткнуць усё. *Пат крышыю ў пуніх нада пызыта́ркывыць, ато сьнегу пынынясецьb. Абізацільна дзірічкі пызаторкывый, ува ўсе шчэлычкі напрець, што ні адбяресься аць сьнегу. Дзірькі ў пуні троху пызаторкыла, ні так будзіць дуць.* ПАЗАТАРКЫВАЦЦА, ПАЗАТОРКЫВАЦЦА, ПАЗАТОРКАЦЦА *зак.* Заткнуцца (пра ўсё). *Каб і ў пытпавецьці пызыта́ркывылыся, хужы ні було б. У цябе ж ні гаріць, заўтря пызаторкывыіцца. Худзь ба троху пызаторкылыся, і то б ні так нясло.* ПАЗАТАРКЫВАНЫЙ, ПАЗАТОРКЫВАНЫЙ, ПАЗАТОРКАНЫЙ *дзеепрым. У мяне ўсё було крепка пызыта́ркывына. Троху було пызаторкывына, а буря як усхадзілыся, усё пыпавы́біла, узноў нада лезьць. Са ўсіх тваіх пызаторкыных дзірічык веціp пывырывау салому.*

ПАЗАТАЧЫВАЦЬ *зак.* Завастрыць усё. *Пріхадзіў пляменьнік, хуць нажы пызыта́чывыў, ня резылі ні радзімца.* ПАЗАТАЧЫВАЦЦА, ПАЗАТОЧЫВАЦЦА *зак.* За-

вастрыцца (пра ўсё). *Ніізьвесна, калі інструмент пызытáчывыіцца, толька ўсё абішчаіш. Воць цяперя і я пынімаю, што ножычкі пызаточывыліся.* ПАЗАТАЧЫВАНЫЙ, ПАЗАТОЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ня дужа войстра стамескі пызытáчывыны. Бяріця пызаточывыныя різакі.*

ПАЗАТЫХАЦЦА, ПАЗАТХНУЦЦА *зак. груб.* Задыхнуцца (пра некалькіх асоб). *Гатовы пызытыхáцца чым хочыш, толька каб капейкі ні страціць, аткуля ў іх тыкая жаднысьць — ні прідумыіш. А што любюць ат вокырка салёныя, пызатхнýліся б у салёным.*

ПАЗАХВАРАЦЬ *зак.* Захварэць (пра значную колькасць асоб). *Нешта доўга мае ня пішуць, каб яны ні пызыхвырáлі тамыцька.*

ПАЗАХВАТЫВАЦЬ *зак.* Захапіць усё. *У каго была сіла, тэя пызыхвáтывылі луччыя участкі.*

ПАЗАХЛІПЫВАЦЦА *зак.* Захлынуцца плачам (пра ўсіх). *Пызахлíпывыліся плакыўшы, і ўсё ета, што ім меншыя канхвеціны пупалі.*

ПАЗАЦВІСЦЬ *зак. перан.* Моцна зарасці (пра ўсё). *Кругом пызыцьвіло бурьяным, калі ты сыбяресься ды пывысікаіш яго.*

ПАЗАЦЯГЫВАЦЬ, ПАЗАЦЯГНУЦЬ *зак. перан.* Зашыць у спешцы ўсе дзіркі. *Вазьмі іголку зь ніткыю ды пызыцягывый етыя дзірічкі. Калі малінькія дзірічкі, пызыцягні, дальшы ня будзіць сіціцца.* ПАЗАЦЯГЫВАЦЦА, ПАЗАЦЯГНУЦЦА *зак.* Зашыцца ў спешцы (пра ўсе дзіркі). *С аднаго боку ладна пызыцягывылыся, а з другога ня дужа. Ныўрад ці пызыцягніцца тута, нечыму дзіржацца, усё пырваныя.* ПАЗАЦЯГЫВАНЫЙ, ПАЗАЦЯГНУТЫЙ *дзеепрым. Мяхі трошку пызыцягывыны, пару разоў бульбы ўсыпіш. Ніткымі пызыцягнута хрест-нахріст.*

ПАЗАЦЯСЫВАЦЬ, ПАЗАЦЁСЫВАЦЬ, ПАЗАЦЯСАЦЬ *зак.* Зачасаць (пра значную колькасць). *Пызыцясывый кылячкі, каб усё було гатова, пакуля яны пріедуць. У козлы палкі пызацёсывыў, меріць нада, як яны ў дзірькі стануць. Няроўна ты пызыцісáў кылякі, кріва як-то.* ПАЗАЦЯСЫВАЦЦА, ПАЗАЦЁСЫВАЦЦА, ПАЗАЦЯСАЦЦА *зак.* Зачасацца (пра значную колькасць). *А пасьпеіць тваё колья, пызыцясывыіцца, урема церьпіць. Абы-як пызацёсывыліся палкі, хто ж так дзелыіць. Як усё пызацешыцца, тады і нычынай зыбівяць.* ПАЗАЦЯСЫВАНЫЙ, ПАЗАЦЁСЫВАНЫЙ, ПАЗАЦЯСАНЫЙ, ПАЗАЦЁСАНЫЙ *дзеепрым. Усё колья пызы-*

*цясывына, можна зыбіваць. Пірінашывый сюда пызацёсывыныя палкі. Ты сам праверь, як у яго пызыцісána. Воць цяперя і я віджу, што правільна пызацёсына.*

ПАЗАЧАРСТВЕЦЬ, ПАЗАЧАРСТВЕЦЦА *зак.* Счарствець моцна. *Зразу пріснакі ня зьелі, яны пызычарствелі, толька ў шайку укінуць. Як пызычарстveіцца хлеб, я тады ні ўкушу.* ПАЗАЧАРСТВЕЛЫЙ *дзеепрым. Як німа сьвежыга, рызмáчыю пызычарствелыя кыржакі ды ем.*

ПАЗАЧЫНІВАЦЬ *зак.* Зачыніць усё, усюды. *Ні забудзьця піряд вечырым пунькі крепінька пызачынівыць.* ПАЗАЧЫНІВАЦЦА *зак.* Зачыніцца (пра ўсё, усюды). *Пызачы́нівыліся вароццы, а цяперя нызад ні аччыніць.* ПАЗАЧЫНІВАТЫЙ *дзеепрым. Я пыдыйшла,— усе дзьверi пызачы́нівыты, пыстыяла ды пышла нызад.*

ПАЗАШЫЦЬ *зак.* 1. Зашыць усе дзіркі. *Нада пызашы́ць мяшкі, пакуля большы ні пырваліся.* 2. Забіць дошкамі ўсюды. *Крепка пызашы́ў хрантоны, ня выб'іць ветрым.* ПАЗАШЫЦЦА *зак.* 1. Зашыцца (пра ўсе дзіркі). *Сяньнік троху пызашы́іцца, і йдзі, піхай сена, ня вы́выліцца.* 2. Забіцца дошкамі ўсюды. *Хрантоны пызашы́юцца, і тады цігайця сена наверьх.* ПАЗАШЫТЫЙ *дзеепрым.* 1. Зашыты (пра ўсе дзіркі). *Бярі пызашы́тыя мяшкі, я на ўслончыку склала.* 2. Забіты дошкамі ўсюды. *Увярьху пызашы́та крепкімі шалёўкымі.*

ПАЗАЯДАНЫЙ, ПАЗАЕДЗЕНЫЙ, ПАЗАЕТЫЙ *дзеепрым.* Скусаны насякомымі. *Ня хочуць самі пры сябе рупіцца, ну й будуць хадзіць пызыідáныя. Ні станіця глядзець зы сабою, дык будзіця цігацца пызаедзіныя. Ай-я-яй, у іх жа дзеці пызаетыя.*

ПАЗАЯЗДЖАЦЬ *зак.* 1. Заехаць далёка (пра многіх). *Вун куды пызыіждж́алі, к ім цяперя ні дыбяресься.* 2. Утаптаць ездзячы. *Зы вясну пызыіжджáлі проця варот, зьдзелылі як ток.* 3 *перан.* Моцна стаміць. *Пызыіжджáлі коні, ім воддыху ні даюць.* ПАЗАЕЗДЗІЦЬ *зак.* 1. Утаптаць ездзячы. *Пызаезьдзілі тэя кусочыкі, што нада трактырым узвырáчывыць.* 2. Моцна стаміць. *Зы вясну як пызаезьдзюць коні, што яны чуць валочуцца.* ПАЗАЯЗДЖАНЫЙ, ПАЗАЕЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Утаптаны пры яздзе. *Тута зімнія дарога была, езьдзілі пы задворью, паетыму і пызыіжджáна так. Пызаежджыныя нада було хуць лупаткыю ускулупаць.* 2. Моцна стомлены. *Куды такіх пызыіжджáных коні зыпрігаць, яны да Цёмныга лесу ні дыцягнуцца. Пызаежджыны коні ды пасьледку, усё ў рабоці і ў рабоці бісь пірядыху.*

ПАЗБАЛАВАЦЬ *зак.* Дапусціць да распусніцтва ўсіх. *Пызбáлывылі кароў пы біріжках ды пы кынаўкых, у пустухе гылавы сагнуць ня хочуць.* ПАЗБАЛАВАЦЦА *зак.* Зрабіцца распусным (пра ўсіх). *Людзі пызбáлывыліся, глідзяць, каб ны ляхчэйшыю работу пайціць, на гной ня дужа выпрывіш.* ПАЗБАЛАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Айдзе ты ім есьць пыдбяреш, кылі пызбáлывыныя.*

ПАЗБЕЖЧ *зак.* 1. Збегчыся (пра ўсіх). *Пазьбеглі людзі, глідзяць, што тут такоя тваріцца.* 2 *перан.* Сцячы (пра ўсё). *Нечыга многа у печы пазьбегла, смурод пы хаці пашоў.* ПАЗБЕЖЦА *зак.* 1. Збегчыся (пра ўсіх). *Многа людзей пазьбеглыся, ну нічога паможч ні маглі.* 2. Зморшчыцца ад гарачыні. *Глядзі, пыставіш вобуў у гырячыя, і ён пызьбягіцца.*

ПАЗБРОДНІЧАЦЬ, ПАЗБРОДНІЧАЦЦА *зак. перан.* Павесці сябе распусна. *Сёліта ім ні ўдасца пазбродні-чыць, як летыся, хлопцы іх быйстра возьмуць у рукі. Дужа яму хацелыся пазброднічыцца, ды бацька ўмішаўся.*

ПАЗБУЗОВЫВАЦЬ, ПАЗБУЗАВАЦЬ *зак.* 1. Скамячыць, забрудзіць усё. *Якую адзёжыну на іх ні напрі, усё пузбузовывыюць. Нічога ні глідзяць зы сабою, пузбузувáлі пінжачкі, сталі як тряпкі.* 2 *перан.* Стаміць, затузаць усіх. *Ой, пузбузовывылі коні етым лесым, с хумутоў ні выпускаюць. Як пузбузýюць коні зы вясну, яны чуць чáпыюць.* ПАЗБУЗОВЫВАНЫЙ, ПАЗБУЗАВАНЫЙ, ПАЗБУЗОВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Скамячаны, збруджаны (пра ўсё). *Толька шчот, што бацінкі, пузбузовывыны чышчы некуды. Ці відзіш, якея пузбузувáныя касьцюмы. У такіх пузбузовыных пінжыках нікуды нілізя іціць.* 2. Стомлены, затузаны (пра ўсіх). *Пузбузовывыныя вярнуліся с Карнілыўкі. Як жа ня будуць пузбузувáны, калі толька работу і знаюць. У той брігадзі тожа коні пузбузовыны.*

ПАЗБУТУРЫВАЦЬ *зак.* Сагнаць у адно месца ўсіх. *Кароў у аборык пузбутýрівылі і самі храпуць пут кустом.* ПАЗБУТУРЫВАНЫЙ, ПАЗБУТУРАНЫЙ *дзеепрым.* *Пузбутýрівыныя ціляты троху пыстыялі ў кусьцікых. Скот пузбутурян, ты пыляжы трошку, а я пысяджу, пыгляджу.*

ПАЗБЫВАЦЬ *зак.* Збыць усё. *Яны тады пузбувáлі хызяйствы, ехыць, ехыць, да Ходыс даехылі, а тута выйна — і вярнуліся нызад.*

ПАЗВАЖЫВАЦЬ, ПАЗВАЖЫЦЬ *зак.* Узважыць усё. *Мы пызвáжывылі мяшочыкі: большы ста кілыграмыў. Пызвáжці-ка воўну, сколька яе ўсяе.* ПАЗВАЖЫВАЦ-

ЦА, ПАЗВАЖЫЦЦА *зак.* Узважыцца (пра ўсё). *Як пызвáжывыцца, дык мятней будзіць. Мяхі пызвáжуцца, тады будзіш спакоін.* ПАЗВАЖЫВАНЫЙ, ПАЗВАЖАНЫЙ *дзеепрым. Ці пызвáжывына тваё жыта? Пызвáжыныя клумкі стаў адзьдзельна.*

ПАЗВАЛІЦЬ *зак.* Дазволіць. *Хто вам пызвалíў так дзелыць, ці вы ні пынімаіця, што ета шкода.* ПАЗВОЛІЦЦА *зак.* Дазволіцца. *Ці пазволіцца вам другей раз пайціць туды.*

ПАЗВАЛОЧ *зак.* 1. Пазвалакаць усё. *Пні нада було б у кучу пызвалоч, каб луччы браць.* 2 *перан.* Прымусіць злезці ўсіх. *Чуць пызвылаклí іх сь печы, рызагреліся і ня лезуць.* ПАЗВАЛОЧЦА *зак.* 1. Пазвалакацца (пра ўсё). *Дзярноўя пызвылакецца, тады можна будзіць сеіць.* 2. Злезці (пра ўсіх). *Ім і сь печы пызвалоцца цяжола.* 3 *перан.* Сысці (пра ўсіх). *К Сыўчанку пызвылакýцца і сідзяць цэлый дзень.*

ПАЗВЯЗЫВАЦЦА, ПАЗВЯЗАЦЦА *зак.* 1. Звязацца (пра ўсё). *Калі твае венікі пызьвя́зывыюцца, ліжаць рысьпяўшы. Вузялкі пызьвя́жуцца і закінь іх на верхнію палічку.* 2. Уступіць у злачынныя адносіны (пра ўсіх). *Яны сь кім хочыш могуць пызьвя́зывыцца, ні ў чом ні рызьбіраюцца. Пызьвізáліся ш чырцямі, яны вас дывядуць ды дыбра.* ПАЗВЯЗЫВАНЫЙ, ПАЗВЯЗАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Звязаны (пра ўсё). *У Вольгі вісяць пызьвя́зывыныя пучкі ўсякіх траў. Ношкі пызьвя́зыны, бяріця і нясіця.* 2. Звязаны злачыннымі адносінамі (пра ўсіх). *Ну як жа ня будуць пызьвя́зывыны сынкі, калі бáцькі разым кралі. Яны даўно пызьвя́зыны, у іх ґішэхт ужо гадоў дзесіць.*

ПА-ЗВЯРЫНАМУ *прысл.* Злосна, люта. *Пыглядзеў пы-зьвярíныму, нічога ні скызаў. Нешта глядзіць ны Аўсяёнка пы-зьвярíныму.*

ПАЗДАРОВІЦЦА *зак.* Быць у наяўнасці (пра здароўе). *Я-то думыла схадзіць, ну пайду, як пыздаровіцца, нешта прастуда цісьніць.*

ПАЗДАЦЬ *зак.* Здаць усё. *Летыся мы нічога пыздáлі цілят, ладна нам зыплацілі.* ПАЗДАЦЦА *зак.* Здацца (пра ўсё). *Сьвіньні пыздадýцца, у мяне хуць рукі асвыбыдзяцца.*

ПАЗДЗІЎЛЯЦЬ, ПАЗДЗІЎЛІВАЦЬ, ПАЗДЗІВІЦЬ *зак.* Здзівіць усіх. *Яны акругу пызьдзіўлялі етыю жанідзьбыю. Увідзіця, што яшчэ ні раз пазьдзíўлівыюць. Тріхванёнкывы усіх пызьдзівілі, што так скора рыспры-*

*даліся.* ПАЗДЗІЎЛЯЦЦА, ПАЗДЗІЎЛІВАЦЦА, ПАЗДЗІВІЦЦА *зак.* Здзівіцца (пра ўсіх). *Мы пызьдзіўляліся, што тває сваты выiжджаюць. Тама ўсе пазьдзіўлівыліся, за голывы хвыталіся. Мы ўжо нічым ні пазьдзівімся, усяго наглядзіліся.* ПАЗДЗІЎЛЯНЫЙ, ПАЗДЗІЎЛІВАНЫЙ, ПАЗДЗІЎЛЕНЫЙ, ПАЗДЗІЎЛЁНЫЙ *дзеепрым. І вы былі б пызьдзіўляныя, такоя пачуўшы. Хлопцы патходзюць — яны стыяць пазьдзіўлівыныя, ні знаюць, што гыварыць. Чаго вы такея пазьдзіўліныя, ета іна з дваюрыдным братым ідзець. А таго пызьдзіўлёныя, што ня думылі іх тут увідзіць.* ПАЗДЗІВЁМШЫ *дзеепрысл. Яны тожа былі пызьдзівёмшы.*

ПАЗДЗЯВАЦЦА, ПАЗДЗЕЦЦА *зак.* 1. Распрануцца, раздзецца (пра ўсіх). *Прібеглі зыкалелыя, пызьдзіваліся і скарей на печ атыгріваццa. Яны скора пазьдзеліся.* 2. Зняцца (пра адзенне, абутак). *Боты як нымякнуць, дык з ног ні пызьдзіваюцца. Транты іхныя чуць пазьдзеліся.* ПАЗДЗЯВАНЫЙ, ПАЗДЗЕТЫЙ *дзеепрым.* Зняты (пра адзенне, абутак). *А вун пызьдзіваныя мыкрацьцё, на лесьвічкі вісіць. Ны лаўкі пыклаў пазьдзетыя рубашкі.*

ПАЗДЗЯКАЦЦА *зак.* 1. Паздзекавацца. *Пызьдзікаўся ён ныд Мыланкыю, хваціць зь яе.* 2. Пакапрызнічаць. *Ну, пызьдзікаўся, і еж як нада, ато ложкі па лбу схваціш.*

ПАЗДЗЯЎБУЛІВАЦЬ, ПАЗДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Пазбіваць, пассячы няўмела. *Ны палкых столька лёду намёрзла, пызьдзяўбулівый, тады будзім піліць. Ны карыці намёрзла цеста, нада пызьдзяўбуліць.* ПАЗДЗЯЎБУЛІВАЦЦА, ПАЗДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* Пазбівацца, пассячыся няўмела. *Ні знаю, ці можыць што такім тыпаром пызьдзяўбулівыцца. Цэмінт дужа крепка пріпыяўся, скарей кірьпічына тресьніць, чым ён пызьдзяўбуліцца.* ПАЗДЗЯЎБУЛІВАНЫЙ, ПАЗДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ны макушкых сучча троху пызьдзяўбулівына. Вуглы ны скамейкі пызьдзяўбуліны як нарошня.*

ПАЗ'ЕЗДЗІЦЦА *зак.* Пасціраццa за час язды. *Красі на восіх пазьезьдзіліся, чуць ліпяць, нада прібіваць новыя.*

ПАЗ'ЁРЗЫВАЦЦА, ПАЗ'ЁРЗАЦЦА *зак.* Пазбівацца ёрзаннем. *Ці відзіш ты, сколька саломы пазьёрзывылыся, і ня крікніш ны балыўнікыў. Пыглядзіш, сколька к вечыру сена пазьёрзыцца.*

ПАЗЖАЦЬ *зак.* Зжаць усё, усюды. *Пы мяжэ нада було траву пыжжаць ды рызыслаць, ніхай ба сохла.*

ПАЗЖАТЫЙ, ПАЗЖЫНАТЫЙ *дзеепрым. У лашчыні жыта вісока пыжжáта, травы многа, толька касі. Пыжжынáтыя калосься зыбрáджына, нехта с пуўмішка ўзяў.*

ПАЗЛЕЗЦЬ *зак.* 1. Злезці (пра ўсіх). *Са стога пазьлезьлі, троху пірідыхнулі, пукурілі і ўзноў палезьлі.* 2 *перан.* Злупіцца ў многіх месцах. *Аппаліліся голыя, дык шкура с плячэй пазьлезла.*

ПАЗЛІПЛЫЙ *прым.* Зліплы (пра ўсё). *Пыднасілыся зь нейкімі пазьліплымі ладкымі, мы ні сталі есьць.* ПАЗЛІПШЫ *дзеепрысл. Узноў твае бліны пазьліпшы, ні бліны, а нейкыя цеста.*

ПАЗЛІЦЬ *зак.* Зліць усё. *Сьмітану пысальлю́ у бальшую міску і стынаўлю у печ, калі масла б'ю, а калі і так дзеці пыядуць.*

ПАЗМАНІВАЦЬ, ПАЗМАНІЦЬ *зак.* Зманіць усіх (пра птушак). *Пызмáнівый ціплят, ніхай ідуць спаць, дос ім цігацца пы двару. Што ж ты пызманіў курей, а нічога ні даў, сыпні трошку ячменю.* ПАЗМАНІВАЦЦА, ПАЗМАНІЦЦА *зак.* Зманіцца (пра ўсіх птушак). *Ня дужа яны пызмáнівыюцца, волі пынабілі, зь ячменю ні вылазюць. Як пазмонюцца, тады можа ету рябінькыю зловіш.* ПАЗМАНІВАНЫЙ, ПАЗМОНЕНЫЙ *дзеепрым. Куры пызмáнівыны ў сяніцу. Ціпляты тута, яны пазмоніны.*

ПАЗМАТЫВАЦЬ, ПАЗМАТАЦЬ *зак.* Зматаць усё, *Чаго ж вы ні пызмáтывылі нітык, будуць выляцца, пуплутухáюцца. Пызмытáйця суваі акуратнінька, зьдзелыйця як клубочык.* ПАЗМАТЫВАЦЦА, ПАЗМАТАЦЦА *зак.* 1. Зматацца (пра ўсё). *Ніткі пызмáтывыюцца ны мытавіла ды ніхай сушуцца. Каб і астатнія віряцёны пызмытáліся, хужы ні було б.* 2 *перан. жарг.* Знікнуць (пра ўсіх). *Тоя ўремя многія пызмáтывыліся. Пылідзіцё, што яны вот-вот пызмытáюцца.* ПАЗМАТЫВАНЫЙ, ПАЗМАТАНЫЙ *дзеепрым. У цябе ўжо, я віджу, з мытавіла ніткі пызмáтывыны ну клубкі, скора снуваць будзіш. У мяне зь віряцёный усё пызмытáна.*

ПАЗМЕСЦЬ *зак.* 1. Змесці адусюль. *Кыласкі пызьмяці ў кучку адзьдзельна, курям на двор укінуцца.* 2 *перан.* Прагнаць усіх. *Каб яму далі волю, ён ба усіх пазьмёў, астаўся б сы сваёю планідыю.* ПАЗМЯТАНЫЙ, ПАЗМЕЦЕНЫЙ *дзеепрым.* Змецены адусюль. *Усё пызьмітáна, бярі на вілкі і нясі ў пуню. Як малоціш, кыласкі адбіваюцца, тады пазьмеціныя кыласкі узноў у пысад ссыпіш.*

ПАЗМЁТЫВАЦЬ *зак.* Змесці ўсё. *Ты быў ба ладный маліц, каб увесь мусыр пазьмётывай ды прібраў.* ПА-

ЗМЕТЫВАЦЦА *зак.* Змесціся (пра ўсё). *Відзіш, пазьмётывылыся, і двор стаў на двор паходж.* ПАЗМЕТЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ня дужа чыста пазьмётывына, пыляніліся мальцы.*

ПАЗМІРНЕЦЬ, ПАЗМІРНЕЦЦА *зак.* Пацішэць. *Як хлопцы с арміі пыпріхадзілі, дык етыя саплівыя атлёты пызьмірнелі. Знаіш, калі яны пызьмірнеюцца? — як палучуць ладныю лупку.* ПАЗМІРНЕЛЫЙ *дзеепрым. Ён і раншы пы гылывах хадзіў, і цяперя ня дужа пызьмірнелый.*

ПАЗМОРШЧЫВАЦЬ, ПАЗМОРШЧЫЦЬ *зак.* Зморшчыць усё, усіх. *Чаго вы насы пазморшчывылі, што вам ні ныравіцца? Старых ужо як пазморшчыць, нічога іх ні рызгладзіць.* ПАЗМОРШЧЫВАЦЦА, ПАЗМОРШЧЫЦЦА *зак.* Зморшчыцца (пра ўсё, усіх). *Як скызала я пры Віктарёнка, яны пазморшчывыліся,— ні пыныравілысь. Пазморшчылыся ета куртычка, яе тока выкінуць.* ПАЗМОРШЧАНЫЙ *дзеепрым. Сідзяць удзьвюх высыхлыя, пазморшчыныя, ім ні ды свадзьбы.*

ПАЗМЫВАЦЬ, ПАЗМЫЦЬ *зак. метаф.* Пахаваць, паўбіраць. *Што айдзе пытхва́цюць, пызмыва́юць, і сьлядоў ні найдзіш. Ні прыдывалі, усё пазмы́лі, зналі, што с краджыным у мінуту могуць замесьць.*

ПАЗНАЧЫЦЬ *зак.* Паказаць на цяжарнасць (пра самку жывёлы). *Доўга було нізаметна, ці цельна, трошку вымім пызначы́ла і цялілыся.*

ПАЗНІМАЦЬ, ПАЗНЯЦЬ *зак.* 1. Абшчыпаць усё. *Пызьніма́й і астатнія ігрушы, чаго ім буўтацца. Нада пызьня́ць яблыкі, ато бысытва ета ўсё можыць аптресьць.* 2. Сфатаграфаваць усё, усіх. *Нехта ж красіва іх пызьніма́ў. Сяньня нашых дзевык ны картычкі пызьня́лі.* ПАЗНІМАЦЦА, ПАЗНЯЦЦА *зак.* 1. Зняцца (пра ўсё). *Тэя жардзінкі з балік пызьніма́юцца, і хваціць ны прясла. Ну як-небудзь і пыцягі пазьні́муцца.* 2. Абшчыпацца (пра ўсё). *Ніхай антоныўкі пывісяць, пазьней пызьніма́юцца. Цітыўкі пазьні́муцца і зывязеш дзіцям.* 3. Сфатаграфавацца (пра ўсё, усіх). *Нашы дзеўкі пызьніма́ліся ны картычкі, ухажорым будуць даріць. Ета сылдаты пызьня́ліся, як служылі.* ПАЗНІМАНЫЙ, ПАЗНЯТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абшчыпаны (пра ўсё). *Пызьніма́ныя яблыкі зынясі ны хату і вы́клыдзь акуратнінька. У цябе ўжо і антоныўкі пызьня́ты, можа трошку рана.* 2. Сфатаграфаваны (пра ўсё, усіх). *Відзіш, якея крысаўцы хлопцы пызьніма́ны. Пыглядзі, яны пызьня́ты ны картычкі.*

ПАЗНІСТАЖАЦЬ, ПАЗНІСТОЖЫЦЬ, ПАЗНІШЧЫВАЦЬ *зак.* Знішчыць усё, усіх. *Такея лясы кругом былі, за сколька ўремя пызьністыжáлі. Ні прідумаю, як кратоў пызьністожыць, увесь сад пірікыпалі. Пы гароду топчуцца і топчуцца сыбакі, іх нада пазьнíшчывыць.* ПАЗНІСТАЖАЦЦА, ПАЗНІСТОЖЫЦЦА, ПАЗНІШЧЫВАЦЦА *зак.* Знішчыцца (пра ўсё, усіх). *Столька дзірявень пызьністыжáлыся і зы вайну, і посьлі вайны. Аборкі пызьністожыліся, травы німа і пасевы вымікаюць,— зьдзелылі пользу. Не, у нашый меснысьці лісіц ня чутна, пазьнíшчывыліся.* ПАЗНІСТАЖАНЫЙ, ПАЗНІСТОЖАНЫЙ, ПАЗНІШЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Многа чаго пызьністыжáна, усё неік рушыцца і рушыцца. Еткія сады былі ў многіх дзіріўнях, дык німа, пызьністожыны. Із-зу дурных галоў такея лужкі пазьнíшчывыны.*

ПАЗНЯКОМ *прысл.* Позна. *Яны пызьняком прішлі, мы ўжо сыбраліся спаць лажыцца.*

ПАЗНЯЧОЧАК *м.*, ПАЗНОТАЧКА *м.* і *ж. памянш.* Позна прыведзенае дзіця жывёлы. *Цёлычка пызьнячочык была, а тады пышла росьць, пышла росьць і пацьцёлкым ужо ладныя была. Пазнотычка была цёлычка, у траву цялілыся, а во ладныя кыравёнка выкычылыся. Такіх пазнотычык пырысятык я б ні купляла.*

ПАЗРАБАТЫВАЦЦА, ПАЗРАБОТАЦЦА *зак. перан.* Страціць сілу ў цяжкай працы. *Як жа ні пызрыбáтывыюцца, калі столька работылі. Што ж ты зьдзелыіш, канешня, пызработыліся зы сваю жысьць.* ПАЗРАБАТЫВАНЫЙ, ПАЗРАБОТАНЫЙ *дзеепрым. Стáрыя людзі пызрыбáтывыныя, ета ня то, што цяперішнія молыдзіж. І твае стырікі пызработыныя, што ты хочыш, столька піряжыўшы ды пірядзелыўшы.*

ПАЗРАСТАЦЦА *зак.* Зрасціся, пераплесціся. *Дзерівы кареньнім пызрыстáліся, тута нічога ні ўкыпаіш, усё пасплёўшы.*

ПАЗРУШЫВАЦЬ *зак.* Зрушыць шмат. *Так прыгыўшы, усё ў сярёдку пазрýшывыіця, тады будзіця мучыцца.* ПАЗРУШЫВАЦЦА *зак.* Зрушыцца (пра ўсё, усіх). *Пазрýшывыцца зь места лёхка, а тады нызад варочыцца цяжола.*

ПАЗРЫЦЬ *зак.* Раскапаць, нарабіць калдобін. *Раншы сьвіньней пасьвілі на выгыні, яны, бувала, усё пазрыюць, ступіць некуды.*

ПАЗРЭЗЫВАЦЬ *зак.* Спілаваць усё. *Красівыя дубы ў нас на хутырі стыялі, пазрезывылі большыю часьцю*

*на дровы.* ПАЗРЭЗЫВАЦЦА *зак.* Спілавацца (пра ўсё). *Во як пазрезывыюцца астатнія бярёзкі, саўсім апусьцеіць прыкавуліна.* ПАЗРЭЗЫВАНЫЙ *дзеепрым. Пазрезывыный асіньнік пасьці зразу пірівязьлі, доўга ён ні выляўся.*

ПАЗУБРЫЦЬ *зак. перан.* Павучыць. *Лук'яноўна крепка мальца пузубріла, толька ды яго ня ўсё даходзіць.*

ПАЗУДЗЕЦЬ *зак. неадабр.* Пабурчаць. *Луччы яе ні чыпаць, троху пузудзíць ды сьціхніць, а затроніш — на цэлый дзень зывядзецца.*

ПАЗУРОК, ПАЗУРОЧАК *м. памянш.* Ногаць, кіпцюр. *Войстрыя ў кошкі пузурькí, будзіш хвытаць, дык апцырапыіць. Кыцянёнык пузурёчыкымі скрабыіцца.*

ПАЗЫК *м.* Пазыка. *Даў яму пазы́к, гывару́ў: цірізь нядзелю аддам,— дык во другей год аддаець.*

ПАЗЫКАЦЬ *зак.* Пагізаваць. *Лета дужа было жаркыя, каровы ладна пазы́кылі.*

ПАЗЫЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Пазычаць. *А табе яшчэ раншы гыварілі, што ні нада каму зря пазы́чывыць.* 2 *перан. іран.* Красці. *Умеюць пазы́чывыць, чаго там гываріць.* ПАЗЫЧА́ЦЬ *незак. перан. іран.* Красці. *Зь ім будзь астарожын: первый атлёт, пызыча́ць умеіць.* ПАЗЫЧЫЦЬ *зак.* Украсці. *Такея людзі сталі: якую мелыч кінь ні прібраўшы — січас пазы́чуць.* ПАЗЫЧЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Пазычаны. *Ён і пазы́чывыныя грошы пусьціў на веціp.*

ПАЗЮЗЮКАЦЬ, ПАЗЮЗЮКАЦЦА *зак.* Пагутарыць ціха, паволі. *Ладна пузюзю́калі: печы вытыпілі і сталі, а січас абеды ны дваре, нада кароў даіць. Сколька ні пузюзю́кыюцца, а ўремя ляціць попусту.*

ПАЗЯБНУЦЬ *зак.* Азябнуць. *Кажыцца, ні халодна надзеўся, а так сяньня пызя́б, што зуб на зуб ні пыпыдаіць.*

ПАЗ'ЯЗДЖАЦЬ, ПАЗ'ЕХАЦЬ *зак. метаф.* Схуднець (пра многіх). *Я помню, якея лабрэты залетыся пріхадзілі, а во, глянь-ка, як пызыіжджа́лі. Ня век будуць такея морды, пазьедуць.*

ПАЗЯЗЮЛЕЦЬ, ПАЗЯЗЮЛЕЦЦА *зак. экспр.* Ачмурэць. *Столька чаду было ў бані, што мы пызязю́лілі, чуць жывзя пывыка́чывыліся. Ат аднаго віску можна пызязюліцца ў вас.*

ПАЗЯЎКІ *мн.* Пазяханне. *Во якея ны цябе пызяўкі ныпалі, відна, дужа спаць зыхацеў.*

ПА-ІЗДЗЯВАЦЕЛЬСКУ, ПА-ІЗДЗЯВАЦЕЛЬНАМУ, ПА-ІЗДЗЯВАЦЕЛЬСКАМУ *прысл.* Здзекліва. *Ці можна*

*яго ныззваць сыным, калі ён так пы-ізьдзівáцільску атносіцца к родный маткі. Што ж ён сы сваёю цёткыю пыізьдзівáцільныму апходзіцца. Яны столька пымыгалі Прыхарёнкывым, а тэя пы-ізьдзівáцільскыму дзелыюць.*

ПАІМШЫЦЬ *зак.* 1. Пакласці мох між бярвення. *Крепка баню пыімшыў, ні жалеў моху.* 2. Папрацаваць на імшэнні. *Пуўчыса пыімшы́ў, а тады кінуў і пабег.* ПАІМШЫЦЦА *зак.* Пакласціся між бярвення (пра мох). *Як хырашо хата пыімшы́цца, тады ні вятры, ні марозы ні прыбяруць.* ПАІМШОНЫЙ *дзеепрым.* З мохам, пакладзеным між бярвення. *Айдзе ты відзіў пыімшоныя гумно, гумны ніхто ня мшыць.* ПАІМШОМШЫ *дзеепрысл.* *Клець слабінька пыімшомшы, ці моху было мулувата, ці што.*

ПАІСТРЫЦЦА *зак. метаф.* Намерыцца. *Быў пыістрі́ўся ехыць у Рослыў, там яго нейкыя рыдня, а тады аціх.*

ПАЙМЕЦЬ, ПАМЕЦЬ *зак.* Атрымаць. *Убытак яны бальшый паймелі: карова зы нішто ляснула, сьвіньні глумым пашлі. Ні нада ны яго сваріцца, кылі памеў ахоту, ніхай сходзіць з мальчыкымі у грібы.*

ПАЙЦІЦЬ *зак. перан.* 1. З'явіцца. *Пы сьпіне нейкія красныя былячкі пашлí, нада було б чым-небудзь пымазыць.* 2. Растраціцца. *Ны пірястройку многа пашло грошы, тольк плотнікым шыснаццыць сот як адну капейку аддалі.* 3. Зрабіцца падобным. *Твае ўнукі пашлі пы Сямёнывый пріродзі, ны вас нісколька ні паходжы.* ПАЙЦІЦЦА *зак.* Пайсціся. *Само ня пойдзіцца, кылі думна атведывыць, нада зьбіраццa.*

ПАҚ *м.* Скрутак. *Пак маць-ма́чыхі прінёс пыт пахыю. Памянш.* ПАЧОҚ. *Пачок лібяды паткінь цёлычкі, іна зойміцца і ня будзіць крічаць.*

ПАҚАБЫРДЗІЦЬ *зак. іран.* Пазлаваць. *Сколька яго пыкабы́рдзіла за дреньнінькія вожычкі, яны добрыга слова ня стоюць.* ПАҚАБЫРДЗІЦЦА *зак.* Пазлавацца. *А ты ні абрышчай уніманія, пыкабы́рдзіцца, пячэньня яго нарьвець і ўспакоіцца.*

ПАҚАВЕРҚАЦЬ, ПАҚАВЕРЧЫЦЬ *зак.* Пагнуць, пакрывіць, пакруціць. *Рымацізма як уесца, ну яе, я пыглядзела, як пыкаверкыла стáрыю Матруну. Сьнегым асіньнік пыкаверчыла, цірізь яго ні прайціць.* ПАҚАВЕРЧЫЦЦА *зак.* Пагнуцца, пакрывіцца, пакруціцца. *Лыза пыкаверчылыся, па ёй ніякій чорт ні пралезіць.* ПАҚАВЕРЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Сушняку пыкаверчыныга троху сыбраў, на первыя ўремя пріпалíцца будзіць.*

ПАҚАВЯРАҚАЦЬ, ПАҚАВЯРАЧЫЦЬ *зак.* Ускапаць, узараць абы-як. *Тама ўбіта, плуг у зямлю ня лезіць, трошку пыкывіря́кыў і кінуў. Трыктарісты нічога ні глідзяць, каб аб'ехыць, пыкывіря́чылі ўсе аборкі.* ПАҚАВЯРАҚАЦЦА, ПАҚАВЯРАЧЫЦЦА *зак.* Ускапацца, узарацца абы-як. *Як пыкывіря́кыіцца, так і ладна. Толька што пыкывіря́чылыся, ета ні пахыта.* ПАҚАВЯРАҚАНЫЙ, ПАҚАВЯРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Пыкывіря́кыныя поля, што глядзець брыдка, нада піріпахывыць. Ні пахыта, а ні прідумыіш што, троху пыкывіря́чына і кінута.*

ПАҚАЗЛІЦЦА *зак. метаф. гумар.* Патанцаваць няўмела. *Учора яны нямнога пыказьлі́ліся, большых хлопцыў ні было, дык скора рызыйшліся.* ПАҚАЗЛЁМШЫ *дзеепрысл. Молыдзіжы дужа німа, етыя пудуросткі лі Сахоныввых пыказьлёмшы, рана расходзюцца.*

ПАҚАЗЫВАННЕ *н. перан.* Пакаранне, біццё. *Што ты ім пыкажыш, ня дужа яны твайго пыка́зывыньня спужаліся.*

ПАҚАЗЫВАННІҚ *м.* 1. Той, хто паказвае. *Вун тэй пыка́зывыньнік стаіць іс Сумусёнкым.* 2 *перан.* Той, хто пагражае пакараць, пабіць. *Етый пыка́зывыньнік толька ўсім грозіць.* ПАҚАЗЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што паказвае. *Твыя пыка́зывыньніца як ныпыка́зыіць, дык ня будзіш знаць, куды зойдзіш.* 2. Тая, што пагражае пакараць, пабіць. *Дужа яны спужаюцца Пырхвянёнкывых пыка́зывыньніц.*

ПАҚАЗЫВАЦЬ *незак. перан.* Қараць, біць. *Іш ты яго, ён мне пыка́зывыць будзіць, я табе пыкажу, што места ні найдзіш.*

ПАҚАЛГІҚАЦЬ *зак.* 1. Пакульгаць. *Як пыд машыну пупала, іна тады ладна пыкалгі́кыла.* 2. Пайсці кульгаючы. *Қуды я пыкалгі́кыю у Дубейкыва, калі мне хату піряйціць трудна.*

ПАҚАЛДЫБАСІЦЬ *зак. экспр.* Пайсці няўклюдна. *Глянь-ка, усё ліжала, пыдняцца ні мыгла, а ны свадзьбу пыкылдыба́сіла.*

ПАҚАЛДЫБҚАЦЬ, ПАҚАЛДЫБҚАЦЦА *зак.* Пайсці кульгаючы. *Не, большы німа змагі цярьпець, пыкалды́бкыю сяньня ґ доктыру, ніхай нешта дзелыіць зь естыю гылавою. Ці відзіш вун, як пыкалды́бкылыся старыя Праскоўя.*

ПАҚАЛДЫҚАЦЬ, ПАҚАЛДЫҚАЦЦА *зак.* 1. Пахадзіць нязграбна, кульгаючы. *Трошку пу кустах с краю пыкалды́кала, што, кылі я іціць ні магу. Қылы гряд пуў-*

*чыса пыкалды́кыюся ды ўзноў лажуся.* 2. Пайсці нязграбна, кульгаючы. *Не ўжо, нікуды я ні пыкалды́кыю, слава богу, хуць сь печы спуўзаю. Сяньня пыкалды́кыўся ў Віхряны, ці дашлэпкыіць туды, ці не.*

ПАКАЛОЦЬ *зак.* Прасвярдліць. *Хацеў пыкалоць дзірькі ў лесьвіцу, ды нійдзе сьвердла ні найду.* ПАКАЛОЦЦА *зак.* Прасвярдліцца. *Дзірькі ў брусках пыкалоліся, а бырану сыбраць усё ўремя ні хвытаіць.* ПАКОЛАНЫЙ *дзеепрым.* *Ну, раз дзірькі паколыны, то як-небудзь дывядзецца дзела ды кынца.*

ПАКАЛЫМКАЦЬ, ПАКАЛЫМКАЦЦА *зак.* 1. Пакульгаць. *Пы хаці пыкалы́мкыіць сь кійком ды ўзноў на печ лезіць. Ны дваре пыкалы́мкыюся, нічога ні пымыгаю, ну хуць ны сваіх ныгах пакуль што.* 2. Пайсці кульгаючы. *Сяньня аўтобус ня ходзіць, дык нашы іжджалыя пыкалы́мкылі ны быльшак, можа папутныя возьміць. Пыкалы́мкыўся Мітрыхваныў сват удвору, праведывыць пріхадзіў.*

ПАКАЛЭПАЦЬ, ПАКАЛЭПКАЦЬ, ПАКАЛЭПАЦЦА, ПАКАЛЭПКАЦЦА *зак.* Пайсці калываючыся. *Пыкалэпыла мыя старуха у горыд, хочыць Анюту атведыць. Куды я пыкалэпкыю, ці з маімі ныгамі вупруўляцца за сьвет. Узяў тапор, пыкалэпыўся ў лес, хочыць хуць з вазок арешніку насеч. Ганна с Полькыю пыкалэпкыліся ў кусты, думыюць грібоў троху найціць.*

ПАКАЛЯКАЦЬ *зак.* Пагаварыць ціха, павольна. *Ну хочыцца ж і ёй пыкыля́кыць, ныдыідаіць адной у хаці сядзець.*

ПАКАМІСАРЫЦЬ, ПАКАМІСАРНІЧАЦЬ, ПАКАМІСАРСТВАВАЦЬ *зак.* Папрацаваць камісарам, кіраўніком, начальнікам. *Ты ж тожа тады пыкымісáріў, чаго атказывыцца. Яму каб яшчэ айдзе пыкымісáрнічыць, рідавым ён ня хочыць. Думыў, што большы пыкымісáрствыіць, ды ні пулучылыся.*

ПАКАМІСЬ *прысл.* Пакуль што. *Пыкáмісь етыя палычкі дарежым. Пыкáмісь пыжыву у сястры, а там відна будзіць.*

ПАКАМКАЦЬ *зак. метаф.* Крыху памыць. *У ночвых троху пыкымкáла тряпкі ды ны прясьлі разьвешыла.* ПАКАМКАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пакамечаны. *Усё бяльлё пыкымкáныя, нада пыкычаць.* 2. Крыху памыты. *Толька што пыкымкáныя сарочка, ныўряд ці іна пычысьцела.*

ПАКАМСАЦЬ *зак.* Пакамячыць. *Вы і чыстыю адзежу пыкымсáлі, што глядзець нілізя.* ПАКАМСАЦЦА

*зак.* Пакамячыцца. *Твае рубашкі пыкымса́ліся большы некуды.* ПАКАМСАНЫЙ *дзеепрым. Пыкымса́ныю кохту нада пыгладзіць уцюгом.*

ПАКАМСІЦЬ *зак.* 1. Пакамячыць. *Як жа ты так новый касьцюмчык пыкамсі́ў.* 2 *перан.* Патузаць. *Яго, знаць, троху пыкамсілі у Сквіряце.* ПАКАМСІЦЦА *зак.* 1. Пакамячыцца. *Глядзі, каб пінжачок ні пыкамсі́ўся.* 3. Патузацца. *Гыварілі, што яны троху пыкамсіліся ны свадзьбі.* ПАКАМШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пакамячаны. *Нічога тут путныга німа, усё пыкамшо́ныя.* 2. Патузаны. *Қызалі, што яны ладна пыкамшоныя абоя былі.* ПАКАМСЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Пакамячыўшы. *Яны ўсігда кінуць пыкамсёмшы, а ты прібірай.* 2. Патузаўшы. *Пупала ні пупала, ну троху пыкамсёмшы пусьцілі.*

ПАКАНТАВАЦЦА *зак. перан. жарг.* Пагультаяваць. *Ладна пукунтува́ліся, месіцы два паліц ап паліц ні ўдарілі, вылежывыліся на сені.*

ПАКАНЦЫЛЯРЫЦЬ, ПАКАНЦЫЛЯРНІЧАЦЬ, ПАКАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЬ *зак.* Папрацаваць канцылярскім служачым. *Ён, знаць, нямнога пыкынцыля́ріў, года пуўтыра там прабыў. Ныўряд, каб яны доўга пыкынцыля́рнічылі. Во ета пыкынцыля́рствывыў, гадоў тріццыць прасedзіў ны адном месьці.*

ПАКАПАРЫЦЦА *зак.* Папоркацца. *Трошку ны гародзі пыкыпарю́ся ды ляжу, у гылаве нейкыя абмырачэнія дзелыіцца.*

ПАКАПЛІЦЬ *зак.* Пакапаць. *Ну худзь жа трошку дождж пыка́пліў, пыль прібіў, ато прыдыхнуць нілізя було.*

ПАКАПЫВАЦЬ 1 *незак.* Капаць не раз, шмат. *Знаіш, сколька пыка́пывылі мы бульбы, бувала, усю восінь карзінык з рук ні выпускаім.* 2 *зак.* Пакапаць пэўны час. *Прітна пыка́пывыіш бульбу, як станіць трудна, сьпіна рызбалііцца.*

ПАКАПЫЛІЦЦА *зак.* Падзьмуцца. *Дужа важнысьць быльшая, калі Хвідарёнкыва дычка пыкыпылі́цца.*

ПАКАПЫЦІЦЬ *зак.* Здратаваць капытамі. *С краю ат парініны коні пыкапы́цілі жыта, там нічога ня вырысьціць.* ПАКАПЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Кусок аўса ладна пыкапы́чын, спутыныя коні знаіш як труць.*

ПАКАРАГОДЗІЦЬ *зак. метаф.* Павычвараць. *Троху пыкырагодзілі падвыпіўшы, ну на іх мала хто ўніманія абрышчаў.*

ПАКАРАКАЦЬ *зак. экспр.* Папісаць няўмела. *Ён*

*столька пысядзеў — дзесіць мінут пыкырякыў і пабег на вуліцу.*

ПАҚАРАНІЦЬ *зак.* 1. Ачысціць ад кары. *Қрючча пыкырянiў, сохніць, а паплёту нада прівезьць.* 2. Ачысціць ствалы дрэў. *Яблынкі нада пыкыряніць і пыбяліць, яны дайно ніпрігліданыя.* 3 *перан.* Збэсціць. *Дыбяруцца яны ды цябе, пыкырянюць, грязьней грязныга зьдзелыюць.* ПАҚАРАНІЦЦА *зак.* 1. Ачысціцца ад кары. *Бірнушкі пыкырянюцца, тады вазьмуся за крючча.* 2. Ачысціцца (пра ствалы дрэў). *Пыдажджы, як-небудзь і йгрушкі пыкырянюцца.* 3. Збэсціцца. *У Лівынка любэй пыкыряніцца.* ПАҚАРАНЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Ачышчаны ад кары. *Лес у Прыкапёнычка ляжыць пыкыряніный.* 2. Ачышчаны (пра ствалы дрэў). *Лісяёнкыў сад пыкыряніный, пабеліный.* 3. Збэшчаны. *Стыдна людзям у вочы глядзець такім пыкыряніным, ну самі вінуваты кругом.*

ПАҚАРБАЦІЦЬ *зак.* Пакрывіць, пакарабаціць. *Таго пыкырбáціла досткі, што сырэя на сонцы кінуў, цяперя іх толька на столь парезыць.*

ПАҚАРМЛІВАЦЬ *зак.* Пакарміць пэўны час. *Стыршына прішоў: пыкáрмлівый ты каморніка нескылька дней, ён нядоўга тут пыстаіць.*

ПАҚАРОЖЫЦЬ *зак.* Пагнуць, пакруціць. *Во сьнегым асіньнік пыкарёжыла, тута ні пралезіш.* ПАҚАРОЖЫЦЦА *зак.* Пагнуцца, пакруціцца. *Ня йдзі туды, тама ікая-то провылка пыкарёжылыся іржайліныя.* ПАҚАРОЖАНЫЙ *дзеепрым. Намучыюцца бабы сёліта, увесь лён пыкарёжыный, ніізьвесна, зь якога боку прістуліцца к яму.*

ПАҚАРОЧАСТЫЙ *прым.* Пагнуты, пакрыўлены. *На том аборку ёсьць лыза, пыкарёчыстыя, ну можна насеч.*

ПАҚАРУЗІЦЬ, ПАҚАРОЗІЦЬ, ПАҚАРУЗІЦЦА, ПАҚАРОЗІЦЦА *зак.* Пакапрызіць, павычварацьь. *Абоя любілі пыкарюзіць, пы бацьку пашлі. Не, пірід Қыныстратывым сыным іна доўга ні пыкарёзіць. Ёй пыкарюзіцца нядоўга, адно слова ні так скажы — і надмецца. Нямнога пыкарёзіліся пірід віхрянскімі дзеўкымі ды ўняліся.*

ПАҚАРУЧЫЦЬ *зак.* Пагнуць, пакрывіць. *Лазу сьнегым пыкарючыла, ляжыць крівая. Балезьня рукі пыкарючыла, пальцымі ні ўладзеіць.* ПАҚАРУЧЫЦЦА *зак.* Пагнуцца, пакрывіцца. *Нешта вы пыкарючыліся як старэя, вам ішчэ за дзеўкымі нада бегыць.* ПАҚАРУЧАНЫЙ *дзеепрым. Такую пыкарючыныю палку луччы ні цісаць, іна ні апстругаіцца.*

ПАҚАРЦЕЦЬ *зак.* Захацецца вельмі. *Так ім пыкарцела зьбегыць ны Засожжа, а тута ніяк ні пулучалыся.*

ПАҚАРЫВАЦЬ 1 *незак.* Акорваць. *Я зá дзінь воз асіньніку-паплёту пыкарівыў.* 2 *зак.* Паакорваць пэўны час. *Пыкáрівый сколька ўремя, я ўжо ні сагнуцца, ні рызагнуцца ні магу.*

ПАҚАСНІЧАННЕ *н.* Паскудныя паводзіны. *Што ні любіла Адарка пáкысьнічыньня, усігда кліла сваю нявестку.*

ПАҚАСНІЧАННІҚ *м.* Паскуднік. *Қылі зыдаўся пáкысьнічыньнік, яго ніякыя халера ні пірядзелыіць.* ПАҚАСНІЧАННІЦА *ж.* *Ета пáкысьнічыньніца любіць гадысьць утваріць.*

ПАҚАСТРАВАЦЬ *зак.* Скласці (дровы). *Дровы нада пыкыстрывáць, ніхай сохнуць.* ПАҚАСТРАВАЦЦА *зак.* Скласціся (пра дровы). *Як пыкастрýюцца дровы, тута і праезд будзіць свабодный.* ПАҚАСТРАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Пыкыстрывáныя дровы скарей высыхнуць.*

ПАҚАЎЗАЦЬ *зак.* Павазіць коўзаючы. *Пукуўзáй ты яго трошку хуць лі двыра, пывадзі за рукі.* ПАҚАЎЗАЦЦА *зак.* Пакоўзацца. *Пукуўзáліся і хваціць, садзіціся урокі гатовіць.* ПАҚАЎЗАНЫЙ *дзеепрым.* *Даволін пукуўзáный, сьмяецца.*

ПАҚАЎЗНУЦЬ *зак.* Паслізнуцца. *Ня стой так, пыкаўзьнец ныга і ты, як мячык, паляціш зь лесьвічкі ўніз.*

ПАҚАЎҚАЦЬ *зак.* 1. Памяўкаць. *Қошка пыдзь дзьвірямі пыкáўкыла ды некуды пабегла.* 2 *перан.* Паплакаць. *Ня трогый мáлыга, ён пыкáўкыіць і засьнець.*

ПА-ҚАЦІНАМУ *прысл.* Як кот. *Я думыў, ета коцік тута схуваўся, ажно во хто пы-каціныму курняўкыіць.*

ПАҚАЦЯНІЦЬ *зак.* Прывесці кацянят. *Абея кошкі пыкыцянілі па чэцьвіра кыцінят.* ПАҚАЦЯНІЦЦА *зак.* 1. Прывесці кацянят. *Қошкі пыкыцяніліся за сеным ны хаці, адна ў адном вуглу, а другая ў другом.* 2. Нарадзіцца (пра кацянят). *Рана пыкыцяніліся, ужо бальшэя.*

ПАҚАЧАЦЬ *зак.* Згарнуць у кучкі скошаную грэчку, віку. *Айдзе цяперя тая грячыха, а раншы, бувала, пыкычáіш, ліжаць чурнуваціалькія бабычкі, ажно глядзець радысна.* ПАҚАЧАЦЦА *зак.* 1. Згарнуцца ў кучкі (пра скошаную грэчку, віку). *Не ўжо, ні пыкычáіцца грячыха, німа яе.* 2 *перан.* Пагадавацца. *Қыбан туды, пыт халодныя ўремя пыкычáіцца ды будзім біць.* ПАҚАЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Згорнуты ў кучкі (пра скошаную грэчку,

віку). *Каб пыкыча́ный быў вык, ён ба луччы сох.* 2. Пагадаваны. *Ну відна, што пыкыча́ный, шкуркі троху будуць.*

ПАКАШАРЫЦЬ *зак. экспр.* Паўшчуваць. *Цётка іх троху пыкыша́ріла, дык ці яны доўга ета помнюць.*

ПА-КАШАЧЧЫ, ПА-КАШЭЧЧЫ, ПА-КАШАЧЧАМУ, ПА-КАШЭЧЧАМУ *прысл.* Як каты. *Чаго ён тама пішчыць пы-кыша́ччы? Ні хыця зыкрічыш пы-кашэччы, як хвост дзьвірямі пріцісниць. Як зывядзець пы-кыша́ччыму, дык падумыіш, і ныпраўду кот. Пішчаць пы-кашэччыму, і пы-сыбаччыму пыбріхаць могуць.*

ПАКВАКТЫВАЦЬ *незак.* 1. Квахтаць час ад часу. *Адна куріца пыква́ктывыіць, кылі заквокчыць, пысаджу ны яйцы, ніхай выводзіць.* 2 *перан.* Стагнаць час ад часу. *Ну што ты, усё пыква́ктывыіш, ні праходзіць сьпіна?*

ПАКВОХАЦЬ *зак.* 1. Паквахтаць. *Адна куріца паквохыла, ды пірістала.* 2 *перан.* Пастагнаць. *Мой старэй ісь сярэдзінаю тожа паквохыў, баліць і баліць.*

ПАКЕЎКАЦЬ *зак.* 1. Памяўкаць. *Кошычка пакеўкыла у сенцых ды некуды пабегла.* 2 *перан.* Пажыць, адзывацца голасам. *Ні знаю, сколька я пакеўкыю, во здыхыта шукаіць, ды ніяк ні найдзіць.*

ПАКІДАЦЬ *зак. перан.* Павеяць уручную. *Ладныя куча ячменю астаецца, а ты мулувата пакі́дыў.*

ПАКІДЗІШЧА *н.* Пакінутая рэч. *І хаты — пакі́дзішча, і садкі — пакі́дзішча, усе дзярэўні кругом рыссыпаюцца.*

ПАКІМАРЫЦЬ *зак. жарг. жарт.* Падрамаць. *Мала ён пыкіма́ріў, усю ноч ні спаўшы, ну дзяржыцца.*

ПАКІСНУЦЬ *зак. метаф.* Саслабець (пра ўсіх). *Ну што, пакі́сьлі твае падругі, скора не сь кім будзіць прошлыя ўспомніць.*

ПАКЛАД *м.* Схоў. *У пыкла́д я лажыць нічога ні зьбіраюся, ны заўтрішній дзень ёсьць і ладна.*

ПАКЛАДЗІСТА *прысл.* Лагодна, даравальна. *Яны сы Льлянком пыкла́дзіста абыйшліся, маглі б здорыва пріпыяць.*

ПАКЛАДКА *ж.* Кладка. *Ціріс кынаву пірякінуты пыкла́дкі, сьмела йдзіця. Памянш.* ПАКЛАДАЧКА. *Затопа нівылазныя ны дваре, пыкла́дычкі паложыны.*

ПАКЛАДНЫЙ *прым.* Лагодны, згаворлівы. *Чаго там гывaріць, Ціт быў чылавек пыкла́дный, зь ім усігда дыгываріўыліся.*

ПАКЛАДОК, ПАКЛАДОЧАК *м. памянш.* Поклад. *Апстругай-ка ты пыкладок чмаріенькый курычкі, іна любіць несца зы карзінкымі. Яшка, бувала, як зьдзелыіць*

*пыкладочык, куры ні пызнаюць, што дзірівянныя яйцо, і нясуцца.*

ПАКЛАСЦЬ *зак. перан.* Прыгнуць да долу або зламаць. *Буря быльшая была, пыклáла жыта, к яму ні пуцступіцца.* ПАКЛАСЦА *зак.* 1. Дамовіцца. *С такім чылавекым пыкласца дужа трудна, ён як вецір.* 2. Поўнасцю даверыцца. *Хведзька — такей чылавек, што ны яго можна сьмела пыклáсца.* ПАКЛАДЖАНЫЙ, ПАКЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Пакладзены. *Пыклáджыныя снапкі ніхто ня трогыў, як ліжалі ўчора, так і ліжаць. Во табе і пыклáтыя пріметы: я хадзіў, хадзіў і нійдзе нічога ні найшоў.* 2. Прыгнуты да долу або зламаны. *Ветрым многа пасевыў пыклáджына. Во сіла бушувала: еткія вербы пыклáты.* 3 *перан.* Растрачаны (пра сілу, здароўе). *Сіла пыклáджына зы нішто зы ніякыя, а цяперя табе ніхто і ну руку ня ўсплюніць. Сколька здароўя було пыклáта ныт пастройкымі!* 4. Кастрыраваны. *Купіў ны бызарі двух пыклáджыных кыбанчыкыў, яны дыражэй былі. Мае быранчыкі пыклáтыя, тута нідаўна хадзіў кынывал.*

ПАКЛЕЙКА *ж.* Прыклеены матэрыял. *Мне прівёз маліц буркі ны паклейкі, у іх ныгам мякка і ня стынуць.*

ПАКЛЕЯ *ж.* Матэрыял для прыклейвання. *Паклея ў мяне ёсьць, нада клей рызвадзіць і пріляплівыць на сьцены.*

ПАКЛЫЧЫЦЬ *зак. перан. жарт.* Пабарукаць. *Гываріты, што маліжкій, ён ужо глядзіць, як дзеўку паклы́чыць.* ПАКЛЫЧЫЦЦА *зак.* Пабарукацца. *Зь дзеўкымі паклы́чыцца ўмеюць, на ета ўчыць ні нада.* ПАКЛЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Ну калі ўжо трошку і паклы́чыныя, ета яны так, журтувалі.*

ПАКЛЯЛЧЫЦЬ *зак.* Пакамячыць. *Каб куртычку ні пыкля́лчыў, можна було б надзець, а так іна ні к чому годна.* ПАКЛЯЛЧЫЦЦА *зак.* Пакамячыцца. *Ты сваекохтычкі ні бірягеш, іна саўсім пыкля́лчылыся.* ПАКЛЯЛЧАНЫЙ *дзеепрым. Сяньня я ўсё пыкля́лчыныя пірігладжу і штоб большы ні зубузовывылі.*

ПАКЛЯНАЦЬ *зак.* Паклясці. *Што яму ат етыга станіць, калі ты пыклінáіш, тыпырка як німа, дык німа.*

ПАКЛЯПАЦЬ *зак. перан.* Нагаварыць. *Тады, як увідзілі Міцю з Райкыю, пыклíпáлі на іх здорыва.*

ПАКОКАЦЬ *зак.* Падаць пэўныя гукі (пра пеўня). *Пятух як пакокыіць, куры бігаць, знаюць, што ўгасьціць чым-небудзь.*

ПАКОНЧАНЫЙ *дзеепрым.* Скончаны, завершаны.

*Ны час работы і дзела пакончына, нашто кідаць нызаўтріга, яшчэ раз цягнуцца сюда.*

ПАҚОСІҚ *м. памянш.* Пракос. *Ны абложкі нібальшэя пакосікі, тама нігустая трыва, редзінькыя.*

ПАҚРАПЧЭЦЬ *зак.* 1. Стаць мацнейшым. *Пыдрасьлі мульчуганы, пыкряпчэлі, скора с косымі пойдуць.* 2. Папавіцца пасля хваробы. *У бальніцы як пыліжаў, пыкряпчэў, ато быў дужа слаб стаў.* ПАҚРАПЧЭЦЦА *зак.* Паправіцца пасля хваробы. *Айдзе ты пыкряпчэісься, кылі старысьць цябе апыланіла.* ПАҚРАПЧЭЛЫЙ *дзеепрым. Устрецілі мы Прыхарёнка: нічога, пыкряпчэлый ішоў.*

ПАҚРЫВАЛ *м.*, ПАҚРЫВАЛА *н.* Пакрывала. *Быгатый пакры́вал купілі сваёй дачке, к свадзьбі гатовюцца. У Манькі дужа красівыя пакры́выла ны пасьцель.*

ПАҚРЫВІЦЦА *зак. перан.* Пакрыўдзіцца. *Троху пыкрівíўся, алі нічога ні скызаў, зывярнуўся і пашоў.* ПАҚРЫВІЎШЫЙ *дзеепрым.* Пакрыўлены. *Ета комнытка пыкрівíўшыя, сьценка зь левыга боку ат'іжджаіць.* ПАҚРЫВЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Пакрывіўшы, пакрывіўшыся. *Ладный быў кусок дроту, а цяперя пыкрівёмшы.* 2. Пакрыўдзіўшыся. *Яны пыкрівёмшы за Қоліну свадзьбу, што іх ні гукнулі.*

ПАҚРЫЎЛЯЦЬ *зак. метаф. гумар.* Шпарка пайсці (пра крываногага). *Пыкріўля́ў твой Пецямі ні ў Пірядніна ны вічарінку, бягі ўсьлед.*

ПАҚУҚАВАЦЬ, ПАҚУҚАВАЦЦА *зак. метаф.* Горка паплакаць. *Пукукува́ла пы свайму Сямёніха, большы некуды, як пукукува́ла. Пукукува́лыся, пукукува́лыся Марья, ды што ж ты зьдзелыіш, рук ні падложыш.*

ПАҚУЛДЫЧЫЦЬ *зак.* Пагаварыць неразборліва. *Ня трогый ма́лыга, нідаўна заснуў, пукулды́чыў троху, пукруціўся і сьпіць.*

ПАҚУЛЛІҚА *н. памянш.* Пакулле. *Па́кульліка у гной ні нада кідаць, яно на ногі скату накручывыіцца, яго луччы у печ.*

ПАҚУЛЬТУРНЕЦЬ *зак.* Зрабіцца больш культурным. *Ні тыкая Қіріёнкывыму сыну нада навука, каб пукультурнець.* ПАҚУЛЬТУРНЕЛЫЙ *дзеепрым. З дурука дурноя плувець, такей і ён пукультурнелый.*

ПАҚУМЕЧЫЦЬ *зак. жарт.* Падумаць. *Ці хырашо ж ты пукумечыў, можа, тая хаччына гнілая саўсім, рухніш — і йна пасыпліцца.*

ПАҚУМІЦЬ *зак.* Зрабіць кумамі. *Ныпрасна Хвядо-*

*нывы іх пукумілі, куму с кумою жаніцца нілізя, так усігда шчыталыся.*

ПАҚУМҚАЦЬ *зак.* Падаць гукі нейкі час (пра лягушак). *Трошку зь вясны пакýмкылі лягушкі ў аборку, алі ён скора высых.*

ПАҚУПЛЯЦЦА *зак.* Қупіцца (пра ўсё). *Сколька ім чаго пукуплялыся, асталыся толька рогі пычапіць.* ПАҚУПЛЯНЫЙ *дзеепрым. Қуды ім склыдаць пукупляныя нырады, у іх сундукі зываліны.*

ПАҚУРДЗЮҚАЦЬ *зак.* 1. Пахадзіць валюхаючыся. *Нікуды я ні хаджу, пукурдзюкыю лі гряд ды ўзноў лажуся.* 2. Пайсці валюхаючыся. *Ці ні ў грібы пукурдзюкыў старэй Ціт.*

ПАҚУРЧЫЦЬ *зак.* Выкарчаваць. *Бальшэй кусок пакýрчылі, каб у путнэя рукі, ладныя б поля було, а так узноў зырасло лазою.*

ПАҚУРЫЦЬ *зак. перан.* Спаліць у пограбе розныя рэчывы для атрымання куродыму. *Я сяньня посьлі абеда пукурю погріб.* ПАҚУРЫЦЦА *зак.* Спаліцца ў пограбе для атрымання куродыму (пра розныя рэчывы). *А пакýріцца твой погріб, да бульбы ішчэ далёка, ато новыя мышы налезуць.* ПАҚУРАНЫЙ *дзеепрым. Ну ніхай будзіць пакýріный, будзіш знаць, што погріб гатовый.* ПАҚУРОМШЫ *дзеепрысл. Аддыхнеш, пукурёмшы погріб, я цябе цэлый дзень ня буду трогыць.*

ПАҚУХАВАРЫЦЬ, ПАҚУХАВАРНІЧАЦЬ *зак.* Пакухарыць. *Ладна пукухувáрій: скывародку спалій, выкідаць нада. Бярісь-ка ты зы чыпялу, можа луччы пукухувáрнічыіш.*

ПАҚЫШҚАЦЬ *зак.* Пакрычаць «кыш» на курэй, каб іх прагнаць. *Зраньня старэй пысядзей лі гряд, пакы́шкый, а тады спаць зываліўся.*

ПАҚЭРХАЦЬ *зак.* Моцна пакашляць. *Прустудзёмшы, ўсігда пакэрхыіш, праструда так ні апходзіцца. Пакэрхый, пакэрхый дый пынясьлі зу Қузьмовіча.*

ПАЛАВІННІҚ *м.* Чалавек, удвая маладзейшы ад іншага. *Такея гады ты жывеш, мы ўжо у цябе пылавíньнікі. Памянш.* ПАЛАВІННІЧАҚ. *Ён твой пылавíньнічык.* ПАЛАВІННІЦА *ж. Нечыга Матруні богу гряшыць, іна мыя пылавíньніца, ёй жыць ды жыць.*

ПАЛАЗНЯ *ж.* След ад саней. *Як пылызьня́ праложына, ты йдзі і йдзі і выйдзіш пряма ны Бяліпічына.*

ПАЛАЗОҚ *м.* 1. Дэталь у плузе. *Як пычынаіш пыхаць, пылазок зразу вычысьціцца, бліщчыць.* 2 *перан. гумар.*

Курносы нос. *Айдотычкіна дычка умеіць гумурicта зыдзірaць пылазок. Памяні.* ПАЛАЗОЧАК. 1. Дэталь у плузе. *Пылазочык роўнінька ідзець пы быразьне.* 2. Курносы нос. *Усюдых свой пылазочык суніць, куды б і ні нада саўсім.*

ПАЛАМАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Паламаны. *Сані вылякоцца пулумáтыя, калі іх возьміцца хто чыніць.* 2 *перан.* Прабаранаваны адзін раз. *Пахыта толька пулумáта, прідзіцца яшчэ борыны пысылаць.*

ПАЛАМЕНЬКІЙ *прым.* Паламаны. *Калёсы пыламенькія, на іх і ношкі хворыста ні прівязеш, могуць ны дарогі рассыпыцца.*

ПАЛАМІЦЬ *зак.* Паламаць. *Карова вуювáлыся, пыламíла зáгырыдку, пырысяты вылізьлі — ды ў гарод.*

ПАЛАПІЦЦА *зак.* Залатацца. *Мяшок пылáпіцца, і можна будзіць што пірясыпыць, ён крепкій, ета адна дзірічка.*

ПАЛАСКАННЕ *н. метаф.* Вытоптванне. *Ну й ныдаела ета пылыскáньня ў ячменю, ціпляты ні вылазюць аттуля.*

ПАЛАСКАННІК *м.* Той, хто палошча. *Як бухніцца етый пылыскáньнік у сажылку, во будзіш лавіць.* ПАЛАСКАННІЦА *ж.* *У пáныўкі пылыскаць трудна, рукі заходзюцца у пылыскáньніцы.*

ПАЛАСКАНЫЙ, ПАЛАШЧАНЫЙ *дзеепрым.* Папешчаны. *Пылыскáныя кошка давольныя, ляжыць зь дзіцямі і мурлычыць, заплюснуўшы вочы. І сыбака ласку любіць, пылáшчыный папрыгыіць, а тады ляжыць і ляжыць ціха.*

ПАЛАСКАЦЬ *незак. метаф.* Таптаць, вытоптваць. *Палошчуць куры ячмень і ўраньні, і ўвечыры, ужо нівісь якей край атпылыскалі.* ПАЛАСКАЦЦА *незак.* Таптацца, вытоптвацца. *Аттуліцька, ат Лукашонка, ячмень палошчыцца, куры чуць ні начуюць, будзіць бяды, будзіць.*

ПАЛАХКАЦЬ *зак. асудж.* 1. Пабегаць, шукаючы спажывы. *Пылáхкыла, ды нешта бягіць с пустымі рукамі, нічога ня выбігыла.* 2. Пабалбатаць, папустасловіць. *Сыбіраюцца, каб пылáхкыць, ета іх любімыя зыняція.*

ПАЛАЦЕНЧЫКА *н. памянш.* Ручнік. *Ні забудзьця узяць у баню пылаценчыка, нечым будзіць апцерцца.*

ПАЛЕСІЦА *ж.* Лес. *Палесіца ў нас адна, во зы ўсядзьбу выйшыў — кусты, а дальшы пырядышный лес пашоў.*

ПАЛЁПАЦЬ *зак.* Папляскаць. *Ета тыкая баба, што і зыдрацца, і палёпыць ні пысьцісьняіцца, ат яе чаго хочыш дажджэсься.*

ПАЛІВАННЕ *н.* 1. Пакрыццё глінянага посуду палівай. *У нас гаршкоў ня дзелылі, із-зы Сыжа прівазілі і прастыя, і с пыліва́ньнім.* 2. Паліва. *Пыліва́ньня ў латычкі апсыпаіцца.*

ПАЛІЗАЦЦА *зак. перан. іран.* Пацалавацца. *Дзеўкі любюць пылізаццa, ты мне ні гывары нічога.*

ПАЛІЛА *н. жарт.* 1. Дровы. *Нада пры палі́ла думыць, сырэя бульбы ты ні захочыш грызьць.* 2. Святло. *Каторый дзень наша палі́ла ня сьвеціць.*

ПАЛІНЯЦЦА *зак. метаф.* Пахудзець. *Як самі стануць хызяйнічыць, пыліня́юцца, пра ўсё думыць прідзіцца.*

ПАЛНАМОЧАНЫЙ *м.* Упаўнаважаны. *Яго часта вупруўлялі пы кылгасых пылнамочыным, ён усяго нагледзіўся.*

ПАЛОПАЦЬ *зак. груб.* З'есці. *Пырядышный чугунок капусты варіла, дык палопылі, ні ложкі ні асталыся.* ПАЛОПАНЫЙ *дзеепрым.* *Я ны сталe ім сала ныкрышыла, зы заслонкыю бульба стыяла,— усё палопына.*

ПАЛОСІНА *ж.* Паласа. *Ат лесу пырядышныя палосіна усігда пустувала. Памянш.* ПАЛОСІНКА. *Во тута ладныя былі палосінкі, жыта хырашо радзіла.*

ПАЛОЦЦЕ *н.* Праполка. *А многа ў мяне палоцьця, па бульбі трыва гудзіць і гряды зырасьлі.*

ПАЛОЧАК *м. памянш.* Полка (у лазні). *Любілі вы ны палочыку пысядзець у цёплым духу́, пра жызінь пыгываріць.*

ПАЛТРЭТ *м. перан. гумар.* Поўнае падабенства. *Ні разу ня відзіўшы, пызнаіш, што Дзямідыў сын: поўный палтрет. Памянш.* ПАЛТРЭЦІК. *Канешня, Ільлёў палтрецік, і рост, і голыс, і паходка — усё яго.*

ПАЛУВУМНІК *м. асудж.* Дурань. *Што ты пулуву́мніку скажыш, ці ён цябе паслухыіць.* ПАЛУВУМНІЦА *ж.* *Адна пулуву́мніца тряпнець, другая пытхваціць і пашло пы дзярэўні: ла-ла-ла.*

ПАЛУДНАВАННЕ *н.* Полудзень. *Нешта вы сяньня спазьніліся с палу́днывыньнім, усігда раншы прібігалі.*

ПАЛУДНАВАННІК *м.* Той, хто палуднуе. *Палу́днывыньнікі рызмаріліся, ня хочуць і пыднімацца.* ПАЛУДНАВАННІЦА *ж.* *Прібірайці-ка вы, палу́днывыньніцы, стол, нада йіціць кончыкі дыжынаць.*

ПАЛУДУРАК *м. абразл.* Дурань. *Хочыш ты розыму у пулуду́рка найціць, ні ў жысьць ні найдзіш. Памянш.* ПАЛУДУРАЧАК. *Ці ён прітвыряіцца, ці ныпраўду такей пулудурычык.*

ПАЛУДУРКАВАТЫЙ *прым. абразл.* Дурнаваты. *Усё дно як нейкій пулудýркывытый, табе гаворіш адно купіць, а ты ніізьвесна што преш.*

ПАЛУКОПАК *м.* Невялікая капа. *Будзіш міма ехыць — уськінь пулукопык ны калёсы. Памянш.* ПАЛУКОПАЧАК. *Склаў пулукопычык лі дубовыга куста, ён відзін з дарогі.*

ПАЛУНОШНІЧАННЕ *н.* Позняя гульня. *Як пызыпіраю дзьвері і ні палезу аччыняць, то атучу ат пулуношнічыньня.*

ПАЛУПАЦЬ *зак.* Палыпаць. *І Сярьгеіва дычка тожа пыстыяла тутыцька, палýпыла, а тады пышла у тэй бок з Мархвыю.*

ПАЛУПІЦЬ *зак. перан.* Пабіць. *Ніхай толька зловіць вас Пытапёнык у садку, ён вас палýпіць.* ПАЛУПІЦЦА *зак.* Парвацца. *Штанёнкі пулупіліся, іх ні лапіць, а толька выкінуць.*

ПАЛУСАДНІК *м.* Палісаднік. *У іхный дзяреўні чуць ні кылы кажныя хаты пулусáднік. Памянш.* ПАЛУСАДНІЧАК. *Красівыя пулусáднічкі падзелылі, цьвяты харошыя пысадзілі.*

ПАЛУСІТАК *м.* Падсітак. *Як хлеб пяклі, дык пулусітык усігда пуд руку нада быў. Памянш.* ПАЛУСІТАЧАК. *Быў у мяне падрушный пулусітычык, як хлеб печ пірісталі, і пулусітычык зывыляўся.*

ПАЛУСЛОЖКА *ж.* Конная малатарня. *У нас у дзяреўні адна была пулусложка, тады цэлыю восінь мылаціlі. Памянш.* ПАЛУСЛОЖАЧКА. *Пулусложычка злумалыся, доўга зь ёю вазіліся, чыніlі.*

ПАЛУЧАННІК *м.* Той, хто атрымлівае. *Пулучáньнікі паехылі кучыю к амбару, прівязуць палучку. Памянш.* ПАЛУЧАННІЧАК. *Во якей ты пулучáньнічык шустрый, ужо справіўся.* ПАЛУЧАННІЦА *ж.* *Ідзець пулучáньніца с пустымі рукамі, відна, ні дывалі сяньня.*

ПАЛУЧЧЭЦЬ, ПАЛУЧЧЭЦЦА *зак.* Палепшыцца. *Посьлі прáўліньня пулуччэла кыляска, дайжа ні так скріпіць. Нада б рыспрасіць, ці пулуччэлыся у Просі здароўя.* ПАЛУЧЧЭЛЫЙ *дзеепрым.* *Глядзі, каб твыя пулуччэлыя лесьвічка узноў ні зыгрімела.*

ПАЛЫБІЦЦА *зак. іран.* Здзекліва паўсміхацца. *Пыстыялі тута, палы́біліся, а тады зукурілі і пыдаліся ѓ Галкывічым.*

ПАЛЫНДАЦЬ, ПАЛЫНДАЦЦА *зак.* Пашвэндацца. *Што, кылі ён паедзіць у Горкі, там палы́ндыіць зь месіц*

*і ўсё дно к маткі верніцца. Сьпірва адзін пальíндыўся зы бацькывыю сьпіною, цяперя другей зыявіўся.*

ПАЛЬТАВЭЙ *прым.* Палітовы. *Быў ніплахей пыльтавэй мыцірìял, нада б узяць мальцу ды занесьць партному.*

ПАЛЬЦЕЧКА *н.* Маленькае паліто. *Сяньня ў пальцечку ня будзіць жарка, віцярок халодный. Памянш.* ПАЛЬЦЕЧАЧКА. *Ныдзівай пальцечычка, халодна стала, мароз, ажно лужы пызымірзалі. Памянш.-зніж.* ПАЛЬЦІШКА, ПАЛЬЦІШАЧКА. *Пýтыўся лі іх нейкій шлэпырь, бацінычкі разьбітыя і пальцíшка гадзінькыя. Купіў малым пальцíшычкі, ніважный мыцірìял.*

ПАЛЮБОЎНІЧАЦЬ *зак.* Пазаймацца каханнем. *Не, трошку і ты пулюбоўнічыла с Антончыкым, ета толька прізныеацца ня хочыш.*

ПАЛЮДЗЕЦЬ, ПАЛЮДНЕЦЬ, ПАЛЮДЗЕЦЦА, ПАЛЮДНЕЦЦА *зак.* Зрабіцца больш чалавечным, выхаваным. *Ныўряд ці пулюдзеіць етый бысяк калі-нібудзь. А во між людзей пацёрся Шмыярёнкыў маліц, дык пулюдней. Калі зыдаўся вырыдык, айдзе ён пулюдзеіцца. Пыдажджыця троху, Піліпёнык тожа можыць пулюднецца.* ПАЛЮДЗЕЛЫЙ, ПАЛЮДНЕЛЫЙ *дзеепрым. Трудна аторьвіну пулюдзелым стаць. А во відзіш, вярнуліся ісь сьвету пулюднелыя.*

ПА-ЛЮДСКУ *прысл.* Па-чалавечы. *Ні пашло ў іх па-людзку сь первыга дня і во мучыюцца каторыя ўремя.*

ПАЛЮЖЫНА, ПАЛЮЖЫШЧА *ж.* Вялікая палка, бервяно. *Прівязьлі палю́жыну, што ні прідумыіш, як к ёй пріступіцца, зь якога боку резыць. Во кылы Клімінка палю́жышча, зь яе с аднае асады ны хату нарежыш. Памянш.* ПАЛЮЖЫНКА. *Ляжыць лі прясла кучка палю́жынык, ці ня ночвы прівязьлі.*

ПАЛЮКАЦЬ *зак.* Паўшчуваць. *Дужа ён прізнаець, калі ты ны яго палю́кыіш, зысьмяецца і пыбягіць.*

ПАЛЯВАЧКА *ж. памянш.* Дзічка (яблыня і плод). *Я сам пірікыпаў пыля́вычку с кынавы. Во етыя пыля́вычкі смашныя, як зымырінуіш.*

ПАЛЯДЗЕЦЬ *зак.* Паглядзець. *Нада було б пыля-дзець, ці можна там што кышануць, ці німа нічога.* ПАЛЯДЗЕЦЦА *зак.* Паглядзецца. *Ну пылядзíціся ў зеркыла, якея вы прігожыя сталі.*

ПАЛЯМЧЫЦЦА *зак.* Збіцца ў камяк. *Войну кідала як зря, дайжа пад голывы клала мяшок, іна пыля́мчылыся, што ні русскубеш.* ПАЛЯМЧАНЫЙ *дзеепрым. А ты зна-*

*іш, сколька яны летыся пыля́мчыныя войны выкінулі.*

ПАЛЯНУЦЬ *зак.* 1. Падпаліць. *Доўга якому дураку пыляну́ць,— пыднясець сьпічку, тады цалуйся зь ім.* 2 *перан.* Ударыць без жалю. *Каб пыляну́ў сымаго паленым ціряс плечы, тады б ён пувумнеў троху.*

ПАМАГАЛЬШЧЫК *м.*, ПАМАГАЛА *м.* і *ж.* Памочнік. *Заві пымыга́льшчыкыў, адны мы такоя бірьвяно ня ўскоцім. Такей пымыга́ла мне ні нада, тута прідзіцца работыць ды работыць.* ПАМАГАЛЬШЧЫЦА *ж. Ты іс сваімі пымыга́льшчыцымі як возьмісься, увесь лён к вечыру і пыклыдзіцё.*

ПАМАДЗЕЦЦА *зак.* Пажыць у цяжкіх умовах або са слабым здароўем. *Ныўряд, каб Навуміха доўга пымадзелыся, у ёй жыць нечыму.*

ПАМАЗДАЧЫЦЬ, ПАМАЗДАЧЫЦЦА *зак. неадабр.* Узараць абы-як. *Пымызда́чыў пы ўсядзьбі, кынаў пынадзелыў, хуць бярі лупатку ды зысыпай. Твой пахырь як пымызда́чыцца, дык будзіш на́нывa піріпахывыць.*ПАМАЗДАЧАНЫЙ *дзеепрым. Уперік рыўкамі пымызда́чына, зыскырaджывыць нада.*

ПАМАЗОЧАК *м. памянш.* Памазок. *Рассыпыўся мой пымазочык, ну доўга служыў, нада новый купляць, ды яны ці ёсьць.*

ПАМАКЫВАЦЬ *незак.* Выбіраць мачаючы. *Я сваім ныпяку бліноў, у ла́тычку сьмітаны нальлю — усё пыма́кывыюць, любюць так есьць.* ПАМАКНУЦЬ *зак.* Памачаць. *Адзін раз хлеб у сала пымакну́ў, укусіў і кытануў на вуліцу.*

ПАМАЛАЦІЦЬ *зак. перан.* Паразбіваць. *Прішоў выпіўшый, іна зубурчэла — ён і пымылаціў посыд.* ПАМАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым. Ставіла я ў клець ны палічку гырлачыкі, хвацілыся ўчора — вазьмі трясцы, пымалочыныя, ны масту выляюцца.* ПАМАЛАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Прыспаўся, пымылацёмшы посыд.*

ПАМАРАНЫЙ *дзеепрым.* Забруджаны. *Пымыра́нымі рукамі ні бярі чыстыю адзежыну.*

ПАМАРДАВАНЫЙ, ПАМАРДОВАНЫЙ *дзеепрым.* Памучаны, натузаны. *Ты яго пумурдува́ныга саўсім ні зыпрягеш. Пымардовыныя жарёбка нікомінічку ня зловіцца.*

ПАМАСОЛІЦЬ *зак.* Крыху пажаваць, пагрызці пры адсутнасці зубоў. *Зь яго такей ядун, скарінку возьміць, пымасоліць, пымасоліць і пыкладзець.* ПАМАСОЛІЦЦА *зак.* 1. Крыху пажаваць, пагрызці пры адсутнасці зубоў. *Ніхай пымасоліцца с косткыю, хуць ціха пысядзіць.* 2.

Пажавацца, пагрызціся пры адсутнасці зубоў. *У яго твой прісноk толька пымасоліцца.* ПАМАСОЛЕНЫЙ *дзееприм. Кідай ты пымасоліныя скарінкі у сьвінноя вядро.*

ПАМАСЦЯВАЦЬ *зак.* 1. Даць у масць (пры гульні ў карты). *Ах, як лоўка пумусьцювáў ты мне віновычку!* 2 *перан.* Дараваць. *Іна думыіць, пымасьцюоюць ёй, што ў яе плаціць нечым, не, баба, уласьць ні пымасьцюіць.*

ПА-МАСЦЯРСКОМУ *прысл.* Па-майстэрску. *Зьдзелына пы-мысьцярскому і ў рукі пріятна вешч узяць.*

ПАМАТЫЧЫЦЬ *зак.* 1. Абматычыць. *Я пыматы́чыла бульбу, з матычкыю усю прыйшла, асталыся абыгнаць.* 2. Папрацаваць матычачы пэўны час. *С пуўчыса пыматы́чу, а тады час аддыхаю.* ПАМАТЫЧЫЦЦА *зак.* Абматычыцца. *Калі ў цябе етыя кончыкі пыматы́чуцца, бульба пірірыстаіць.* ПАМАТЫЧАНЫЙ *дзеепрым.* Абматычаны. *Мае быракі пыматы́чыны, ніхай растуць.*

ПАМАХЛЯРЫЦЬ, ПАМАХЛЯРНІЧАЦЬ, ПАМАХЛЯРСТВАВАЦЬ *зак.* Пазаймацца ашуканствам. *Летыся, як пріїжджалі, пымыхля́рілі тута. Ён ужо спробывыў пымыхля́рнічыць, ды нічога ні пулучылыся. Ох, любіў Пынаська пымыхля́рствывыць, на ета быў первый масьцір.*

ПАМАЦЮКАЦЬ *зак.* Палаяць матам. *Я ня чула, за што ён пумуцюка́ў мальцыў.* ПАМАЦЮКАЦЦА *зак.* Палаяцца матам. *Етый найдзіць прічыну пумуцюка́цца, к чаму хочыш прідзярецца.* ПАМАЦЮКАНЫЙ *дзеепрым. Ну дык што, ежылі пумуцюка́ный, ці ты пыжалеіш.*

ПАМЕЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Змелены. *У мяне ячменю ні асталыся, увесь памелін, пырасёнку пыцсыпаю мукі.*

ПАМЕЛЬКАВАЦЬ *зак.* Памеркаваць. *Мы і так пымількувáлі, і етык, усё дренна пулучаіцца.* ПАМЕЛЬКАВАЦЦА *зак.* Памеркавацца. *Відна, вы дренна пымількувáліся, што ў вас нічога ні выходзіць.*

ПАМЕШКА *ж.* Перашкода. *Мы проста ня думылі, што ў Ігнацёнка тыкая памешка палучыцца.*

ПАМІДОРА *ж.* Памідор (расліна і плод). *І яшчэ во сюда пысадзі пымідору. Такую сьпелыю пымідору і зьесьць ахота. Памянш.* ПАМІДОРЫК, ПАМІДОРЧЫК *м.,* ПАМІДОРКА *ж. Бярі во етый, смашный будзіць пымідорік. Нескылька пымідорчыкыў тут можна пысадзіць, яны будуць росьць. Адзін пымідорчык зьела, а большы я ў рот ні ўганю. Айдзе зілінуваціныкыя пымідорка, ты ня трогый, выбірай сьпялейшыя. Павеліч.* ПАМІДОРЫШЧА *ж. Во пымідорішча вырысла, пытпірацьнада, ато зываліцца.*

ПАМІДОРЫНА *ж.* Памідор (расліна і плод) са знач.

адзінкавасці. *Уторнула нескылька пымідорін, яны нешта ня хочуць росьць. Зьеж пымідоріну, ета шчытаіцца лёхкыя пішча. Памяниш.* ПАМІДОРЫНКА. *Усё пыдыбралі за вечыр, адна пымідорінка ляжыць у газеці.*

ПАМІНАННІК, ПАМІНАЛЬНІК *м.* Той, хто памінае. *Ладна пымянулі Сьвірідывыга: пымінáньнікі чуць ні пабіліся. Позна пымінáльнікі пляліся ўчора, я іх чула пыц самыю поўныч.* ПАМІНАННІЦА, ПАМІНАЛЬНІЦА *ж. Многа сыбралыся пымінáньніц, посьлі стыла доўга сядзелі. Заседзіліся нашы пымінáльніцы, упоцімкых будуць іціць.*

ПАМІРАЦЦА *незак.* Надыходзіць (як пажаданне, пра смерць). *Каб жа і хацеў памерць, дык ні пымірáіцца, а жывэй у ямку ні палезіш.* ПАМЕРЦЦА *зак.* Надысці (як пажаданне, пра смерць). *Каб памёрлыся, дык худзь ба сьвет ні капціў бяс толку.*

ПАМІТУСІЦЦА *зак. перан.* Памутнець. *Сядзеў ны пасьцелі, а тады віджу: вочы пымітусíліся і ён брязь гылавою ны падушку.*

ПАМЛЕЛЫЙ *дзеепрым.* Самлелы. *Як мы ўскачылі ў хату, яны ліжалі памлелыя, дывай мы вады скарей дываць.*

ПАМНОГА *прысл.* У вялікай колькасці за раз. *Памнога ныклыдаіць у ношкі, пуды пы два, нясець — аж пыхціць.*

ПАМОЖАНЫЙ *дзеепрым.* Аказаны (пра дапамогу). *Ны такіх атрях толька пынадзейся, будзіць паможына.*

ПАМОР *м.* Мор. *Мы ня помнім, баба наша рысказывыла: памор найшоў, людзі мёрлі, як мухі, некыму було хуваць.*

ПАМПУШАЧКА *ж. памяниш.* Пампушка. *Ты ні сьцісьняйся, еж, я табе яшчэ пампýшычык пыткладу.*

ПАМУДРАНЕЦЬ, ПАМУДРАНЕЦЦА *зак.* Памудрэць. *К старысьці хто пумудрянеіць, а хто саўсім пудурнеіць. Я віджу, што ты крепка пумудрянеўся: брешыш і ні красьнеіш.* ПАМУДРАНЕЛЫЙ *дзеепрым. Ні вярзі ты, знаім мы, якей ён пумудрянелый.*

ПАМУДРЫЦЬ *зак. перан.* Падумаць, узважыць у думках. *Пумудрí, як тута луччы пуцступіцца к етым калодым.* ПАМУДРОМШЫ *дзеепрысл. Пумудрёмшы, можна і тута што-небудзь прідумыць.*

ПАМУЗДЫЧЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Паразмаўляць попусту. *Троху пумуздычылі у Лыўрінёнка пыд вакном ды рызыйшліся.* 2. Пабіць. *Вас і яшчэ калі-небудзь пуму-*

*здычуць.* ПАМУЗДЫЧЫЦЦА *зак.* 1. Паразмаўляць попусту. *Дзела німа ніякыга, ім абы пумуздычыцца, ўремя правесьць.* 2. Пабіцца. *Хто іх знаіць, відна ладна пумуздычыліся.*

ПАМУШТРАВАЦЦА *зак.* Прыкласці шмат намаганняў. *Коля пумуштрувáўся, пакуля хату пыставіў, ну цяперя ён надоўга спакоін.*

ПАМЫІШЧЫ *мн. павеліч.* Памыі. *Куды зря ільлюць памыішчы, пад ногі пряма ны дваре — ні прайціць, такея нікуратныя людзі.*

ПАМЫЙНІЦА *ж. метаф. груб.* Морда. *Наеў памыйніцу ны маткіным хлебі, а скасіць абложку — ёй суседа прасі. Памянш.* ПАМЫЙНІЧКА. 1. Невялікая памыйніца. *Памыйнічка рызваліваіцца, нада абруч ныцягнуць, а ён сьпіць сабе і ні пра што ня думыіць.* 2. Морда. *Ладныя памыйнічка і ў меншыга, ні хвыраў.*

ПАМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак.* Падавіць, парасціскаць. *Я пылажыла ны скамеічкў прімакі і накрыла, а ён прішоў, раз! — сеў і ўсё пымяжджўріў.* ПАМЯЖДЖУРЫЦЦА *зак.* Падавіцца, парасціскацца. *Нешта ў цябе пымяжджўрілыся ў решыці, што там було?* ПАМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым. Пымяжджўріныя бульба пыд ныгамі, во што ета.*

ПАМЯЗДРАЧЫЦЬ *зак.* 1. Падавіць, парасціскаць. *Астарожна с карзінкыю, яйцы ні пыміздряч, ато будзіць яешня.* 2 *перан.* Пабіць, натаўчы. *Ладна іх пыміздрячылі ў Колтыві, ніхай самі рыскажуць, што було.* ПАМЯЗДРАЧЫЦЦА *зак.* 1. Падавіцца, парасціскацца. *Што ў цябе ў платку пыміздрячылыся, нешта ўсё мокрыя.* 2. Пабіцца. *Доўга ім пыміздрячыцца, такея праціўныя людзі, нісымыстыяцільныя.* ПАМЯЗДРАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Падаўлены, парасціскаены. *Прівёз пыміздрячыныя бліны, хут ты іх нанывa піріпікай.*

ПАМЯКАНЫЙ *дзеепрым.* Неаднаразова павалены. *Ты, знаць, сяньня большы пымякыный, чым учора, усё цябе валюць і валюць.*

ПАМЯКЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць мяккім, мякчэйшым. *Я люблю, каб пымякчыць яблыка, пабіць кругом, яно сок пускаіць.* ПАМЯКЧОНЫЙ *дзеепрым. На табе пымякчоныю ігрушку.* ПАМЯКЧОМШЫ *дзеепрысл. Пымякчомшы, пріятній зьесьць.*

ПАМЯЛІШЧА 1 *н.* Дзяржанне ў памяле. *Я б яго піріцягнуў пымяліішчым цірісь сьпіну, тады б ён знаў, як лыпытаць.* 2 *н. павеліч.* Памяло. *Скруціла пымяліішча,*

*што ў печ ні ўпіхнуць.* 3 *м.* і *ж. павеліч. перан. груб.* Бесталковая асоба, дурань. *Ну й пымялішча ўрадзіўся, нічога ні ў чом ні сыбрыжаіць. Памянш.* ПАМЯЛІШЧЫКА *н.* Дзяржанне ў памяле. *Нада высіч пымялішчыка, можна бярёзывінькыя апчысьціць.*

ПАМЯЛЬКАЦЦА *зак.* Памільгаць. *Нехта пымількáўся за кусьцікымі, ну далёка, ні рызыбраць хто.*

ПАМЯМЛІЦЬ *зак.* Пагаварыць нясмела, нязвязна. *Нешта пымя́млілі, я троху рызыбрала, а троху не.* ПАМЯМЛІЦЦА *зак.* Выказацца нясмела, нязвязна. *Пакуля ні пымя́мліцца, ні скажыць, чаго прішоў.*

ПАМЯЦЕЛІЦЬ *зак. экспр.* Паганяць. *Як вып'іць, ён ні пысьцісьняіцца, пымяцеліць і жонку, і цёшчу.*

ПАМЯЦЕЛЬНІК м. Дзяржанне ў мятле. *Сыбака кінуўся — я его пымяцельнікым. Памянш.* ПАМЯЦЕЛЬНІЧАК. *Будзіш у лесі, ацьсякі нескылька пымяцельнічкыў.*

ПАМЯШАНЫЙ *дзеепрым.* Псіхічна хворы, здурнелы. *Што намучылыся іна с пымішáныю сястрою, адзін бог толька знаіць.*

ПАНАБАЛБАТАЦЬ, ПАНАБАЛМАТАЦЬ *зак.* Нагаварыць шмат пустога, лішняга. *Іх ня ўчы, яны знаюць, што пыныбылбытáць чышчы любога. Няўжэлі ты ўсёй етый лухце паверіш, што яны пыныбылмытáлі?*

ПАНАБІЦЬ *зак.* 1. Пабіць многіх. *Яны меншыя, а могуць пынабіць большых.* 2. Накалоць шмат. *Мальцы пад'едуць, пынаб'юць дроў, усё паччысьцюць.* 3. Напхаць шмат. *Цэлыя лета с кукурузы носюць, пынаб'юць мяшкі то травою, то шышкымі.* ПАНАБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Пабіты (у значнай колькасці). *Сьцікла пынабіта, што бысяком ні станіш, ногі папрыбіваіш.* 2. Наколаны (у значнай колькасці). *Кучы дроў пынабіты лі двароў.* ПАНАБІВАНЫЙ *дзеепрым.* Напханы значна. *У іх пуні сеным пыныбіваны, на трі гады зыпасыў.*

ПАНАБРАЦЬ *зак.* 1. Набраць шмат. *Такіх мыладзенькіх апенык пыныбрáлі дзеці.* 2. Накупляць шмат. *Харошыя мыныхвактуры многія нашы пыныбрáлі ў лаўкі.* ПАНАБРАЦЦА *зак.* 1. Набраць шмат. *Пыныбрáліся, пыныхвытáліся, што ні прідумыюць, куды дабро дзіваць.* 2. Напіцца моцна. *Луччы б іх ні пускаць у Каліныўку, ато ўзноў пыныбярýцца.* ПАНАБРАНЫЙ, ПАНАБРАДЖАНЫЙ, ПАНАБІРАНЫЙ *дзеепрым.* Набраны (у значнай колькасці). *У яе пыныбрáна мацеріі, што ўнучкым астаніцца. Ні зівалі, стыряліся, у іх многа чаго пыныбрáджына. Скольки ні пыныбірана, дык усё яе.*

ПАНАБУХЫВАЦЬ, ПАНАБУХАЦЬ *зак.* 1. Накласці шмат. *Пынабу́хывылі сена ўсюдых, куды яны зь ім дзівацца будуць. Пынабу́хыў дроў і паць сьценымі, і ў пунькых, зь яго на трі гады хваціць і ні пыпаліць.* 2. Нанесці (снегу). *Пынабу́хывыла сьнегу, што ні знаю, калі я зь ім упыря́ччуся. Зіма дужа страшна адной, сьнегу як пынабу́хыіць, ня вылізьць і ня выпыўзьць.* ПАНАБУХЫВАЦЦА, ПАНАБУХАЦЦА *зак.* Найсці ў значнай колькасці. *Столька пынабу́хывылыся людзей, што пальца ўшчаміць нейдзі було. Я ні пайду, узноў там пынабу́хыіцца народзішчу, гвалт, сквіл, луччы я ў хаці спакойна пысяджу.* ПАНАБУХЫВАНЫЙ, ПАНАБУХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Накладзены (у значнай колькасці). *У яе дыбра пынабу́хывына, што меры яму ні знаіць. Пынабу́хыныя сундукі ац сукныў ломюцца,* 2. Нанесены (пра снег). *Ужо столька пынабу́хывына сьнегу, што ў аборку каб прываліўся, із гылавою схуваўся б. І вуліцы зымяло, і між двароў пынабу́хына сьнегу, нікуды ні прайціць.*

ПАНАВАЗІЦЬ, ПАНАВЕЗЦЬ *зак.* Навезці шмат. *Бальшэя кучы пяску пынывазі́лі, усё дарогу чынюць. Сяньня як пынывязьлі́ пырысят ны бызар, дык купцоў ні ныхадзілыся.* ПАНАВАЗІЦЦА, ПАНАВЕЗЦА, ПАНАВАЖЫВАЦЦА, ПАНАВОЖЫВАЦЦА *зак.* Навезціся шмат. *За дзьве зімы ладна палык пынывазі́лыся ў Кіріёнка. Хворысту то аттуль, то аттуль пынавозіцца, нада б чаго буйнейшыга прівезьць. Ух, сколька ў іх лесу пынывá-жывылыся! Зы зіму дроў пынавожывыіцца, тады лета сядзіш бяз горя.* ПАНАВОЖАНЫЙ, ПАНАВЕЗЕНЫЙ, ПАНАВАЖЫВАНЫЙ, ПАНАВОЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* *Ты пыглядзеў ба, сколька ў іх чаго пынавожына. Учора многа сьвіньней було пынавезіна. Лазы пынывáжывына, кучышчы нугуртувалі. Усякыга бырыхла пынавожывына було, за дзесіць гадоў ні паносюць.*

ПАНАВАРАЧЫВАЦЬ, ПАНАВАРОЧАЦЬ *зак.* *перан.* Нагуртаваць. *Пынывырáчывылі горы кусьця, якей зь етыга толк. Ны балоці горы торху зь зямлёю пынываро-чылі, на поля думыюць вазіць.* ПАНАВАРАЧЫВАЦЦА, ПАНАВАРОЧАЦЦА *зак.* Нагуртавацца. *І пнёў, і паленьня пынывырáчывылыся нівісь сколька. Ікая польза, ежылі і тута такея кучы пыныварочыюцца.* ПАНАВАРАЧЫВАНЫЙ, ПАНАВАРОЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Ты пыглядзеў ба, што кылы Гырбацкыга логу пынывырáчывына. Гліны пыныварочына, куды яе будуць дзівацаь.*

ПАНАВАРЫЦЬ *зак.* Наварыць шмат. *Ціляціны*

*пыныварілі, було хуць заесься, ды прігатовіць умеюць!* ПАНАВАРЫВАЦЦА, ПАНАВАРЫЦЦА *зак.* Наварыцца шмат. *Кажный дзень пынывáрівыіцца, што ні пыідаюць, выліваюць скату. Каб знаў, што ў іх столька пынывáріцца, чаго ж ба я нёс сваё.* ПАНАВАРЫВАНЫЙ, ПАНАВАРАНЫЙ *дзеепрым. У іх ґ гысьцям було многа пынывáрівына, ныгатоўліна. Пынывáріна було многа, толька зьдзелына ня дужа акуратна.* ПАНАВАРОМШЫ *дзеепрысл. Як жа ні астаніцца, столька пыныварёмшы, нада було у пылавіну етыга гатовіць.*

ПАНАВАШНЫЙ *прым.* З палонкі (пра ваду). *Прінясі суды пáнывышныя вады, бульбу памыю і астаніцца чугункі пынылівацьь.*

ПАНАВІЦЬ *зак.* Панавіваць. *С пылавіны зімы дроў у яе німа, бацька ім калёсы пыправіць, вожык пынаўець.* ПАНАВІЦЦА *зак.* Панавівацца. *За зіму, бувала, многа пынаўецца, вярёўкі ўсюдых нада былі.* ПАНАВІТЫЙ *дзеепрым. У стáрыга пынавіта вярёвык у зыпас німала, ён зыпасьлівый чылавек.*

ПАНАВУЧАЦЬ *зак.* Навучыць усіх. *Калі дзяцей пускаць на сьвет, іх нада пунувучáць, каб якоя дзела у руках було.* ПАНАВУЧАЦЦА *зак.* Навучыцца (пра ўсіх). *К харошыму ня дужа, а ґ дурному скора пунувучáюцца.* ПАНАВУЧАНЫЙ, ПАНАВУЧОНЫЙ, ПАНАВУЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Яны былі пунувучáныя, ета зразу можна було пызнаць. Пунувучоны, яй-богу, пунувучоны, самі б ні дадумыліся да етыга. Змалку усякый дураце пынавýчывыныя, нікога ні прізнаюць.* ПАНАВУЧОМШЫ *дзеепрысл. Яны і біз дукуваньня ладна пунувучомшы.*

ПАНАВЫБІРАЦЬ *зак.* Выбраць шмат. *Вы сабе пынывыбірáйця луччых яблык, кылы бані харошыя ліжаць.* ПАНАВЫБІРАЦЦА *зак.* Выбрацца шмат. *Вазьміця кашолку, морквы пынывыбірáіцца, дык можна пылажыць у мяшок.* ПАНАВЫБІРАНЫЙ *дзеепрым. Што тама ў цябе пынывыбірáна,— мала, пыткладзі яшчэ.*

ПАНАВЫВАРАЧЫВАЦЬ *зак.* Вывернуць шмат. *Што пынывывырáчывыла дроў у лесі, буря была нямерныя.* ПАНАВЫВАРАЧЫВАЦЦА *зак.* Вывернуцца шмат. *Многа дзеріў пынывывырáчывылыся, пыд'іжджай, пілі і вязі.*

ПАНАВЫДЗІРАЦЬ *зак.* Выдзерці шмат. *Тряпык нейкіх пынывыдзірáлі, якея зь іх анучы.* ПАНАВЫДЗІРАЦЦА *зак.* Выдзерціся шмат. *Ого, сколька лістоў с кніжкі пынывыдзірáлыся.* ПАНАВЫДЗІРАНЫЙ *дзеепрым. Аткуль-то бумагі пынывыдзірáна і пынакíдывына.*

ПАНАВЫРЫВАЦЬ *зак.* Вырваць шмат. *Нейкіх цьвятоў пынывырывáлі с кареньнім і нясуць у хату.* ПАНАВЫРЫВАНЫЙ *дзеепрым. Морквы пынывырывáна і выляіцца, есьць ня хочуць.*

ПАНАВЯЗАЦЬ *зак.* 1. Звязаць шмат. *Пархвен, бывала, пынывя́жыць венікыў і вязець прыдываць.* 2. Парабіць вязаннем шмат. *Пынывізáлі і чулкоў, і вязёнык, ніізьвесна калі паносюць.* 3. Прывязаць для пасьбы. *Коні пынывізáлі ну лужку, тама мылыдая атава ацскачыла.* ПАНАВЯЗАЦЦА *зак.* 1. Звязацца шмат. *Пынывізáліся вузлы, як яны дапруць такея.* 2. Парабіцца вязаннем шмат. *Дзелыць дужа нечыга, пынывя́жыцца у іх усяго зá зіму.* 3. Прывязацца для пасьбы. *Коні пынывя́жуцца, і тады йдзіця, куды хочыця.* ПАНАВЯЗАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Звязаны (пра значную колькасць). *Вузьлю́гі пынывізáны як панесьць.* 2. Пароблены вязаннем (пра значную колькасць). *Многа чулкоў пынывя́зына, ды цёплыя.* 3. Прывязаны для пасьбы. *Коні пынывя́зыны зразу зы ўсадзьбымі. Пынывізáныя бычкі ірвуцца, ня хочуць ны вярёўкых.*

ПАНАГАДЖЫВАЦЬ, ПАНАГАДЗІЦЬ *зак.* Набрудзіць, напсаваць шмат. *Хто ета пыныгáджывыў ны стале як пырасёнык? Іна дужа шкадлівыя кошка, хуць ня будзіць есьць, пыныгáдзіць, пунуплюгáвіць.* ПАНАГАДЖЫВАЦЦА, ПАНАГАДЗІЦЦА *зак.* Набрудзіцца, напсавацца шмат. *Уродзі, ніхто дужа ні грязьніў, а патроху, патроху і пыныгáджывылыся. Пыныгáдзіцца — яно ніззаметна пыныгáдзіцца.* ПАНАГАДЖЫВАНЫЙ, ПАНАГАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Дужа на полі пыныгáджывына, усё дно як трыктаріст пыхаць ня ўмеіць. Пу кустах сьперіду пыныгáджына, саломы пыныкідáна кучымі.*

ПАНАГАРАДЖЫВАЦЬ, ПАНАГАРАДЗІЦЬ *зак.* Нагарадзіць, нагрувасціць шмат. *Усякыга ражэньня пыныгырáджывыў, што ні прайціць к пунькым. Сучча пыныгырадзілі ны самый дарожкі.* ПАНАГАРАДЖЫВАЦЦА, ПАНАГАРАДЗІЦЦА *зак.* Нагарадзіцца, нагрувасціцца шмат. *Бяс толку пыныгырáджывылыся ны таку ўсякыга хламу. Сяньня прібяреш, а зы нядзелю яшчэ пыныгародзіцца.* ПАНАГАРАДЖЫВАНЫЙ, ПАНАГАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Што ета ў іх пыныгырáджывына кылы бані? Глядзіця, тута, па-мойму, нінадзёжна пыныгароджына, каб ні пыляцець.* ПАНАГАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пыныгырадзёмшы кінулі, цяпер прібірай за іх.*

ПАНАГРУЖЫВАЦЬ, ПАНАГРУЗІЦЬ *зак.* Накласці шмат. *Мой, бувала, пынагру́жывыіць пнёў за лета, тады зіму бяз горя сядзіш, паліш. Пунугрузілі сабе сена сёліта, ён даў: касіця, сколька хочыця.* ПАНАГРУЖЫВАЦЦА, ПАНАГРУЗІЦЦА *зак.* Накласціся шмат, нагрузіць на сябе. *Із горыда едуць, пынагру́жывыюцца ношкымі, торбымі. Пунугрузілыся усякыга бырыхла ны дваре. Пунугрузіліся, як яны даедуць, многа узялі с сабою.* ПАНАГРУЖЫВАНЫЙ, ПАНАГРУЖАНЫЙ *дзеепрым. І дроў пынагру́жывына, і сена, крепкія зыпасы зьдзелыны. Пынагру́жыныя машыны стыялі кылы лаўкі, нешта прівязьлі.* ПАНАГРУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пунугрузёмшы такея мяхі, трудна будзіць дыбірацца.*

ПАНАГУРТОВЫВАЦЬ *зак.* Накласці шмат або абы-як. *Тэй год усе пунугуртовывылі сена, а тады зіму прыдывалі.* ПАНАГУРТОВЫВАЦЦА, ПАНАГУРТАВАЦЦА *зак.* Накласціся шмат або абы-як. *Кучы зямлі пунугуртовывыліся, ці яе будуць рызгарнывыць, ці так астаніцца. Пыглідзіцё, сколька к восіні торху пунугурту́іцца.* ПАНАГУРТОВЫВАНЫЙ, ПАНАГУРТОВАНЫЙ *дзеепрым. Пунугуртовывына хворысьця біз усякыга пырядку, можыць разьехыцца. У лесі пунугуртовына арешніку, сякуць увесь пыдряд.*

ПАНАДАБЛІВАЦЦА *незак.* Рабіцца патрэбным. *Буваіць, што-небудзь уродзі ні нада і ні нада, а тады пына́дыблівыіцца.*

ПАНАДАЎЛІВАЦЬ, ПАНАДАВІЦЬ *зак.* Выціснуць шмат. *Наста ўмеіць пыныда́ўлівыць соку, тады ўсе п'юць, сколька хочуць. Яны сабе пырядышна соку пыныдавілі, ны сталe баньк дзесіць стаіць і ў погріб спускалі па восіні.*

ПАНАДЗЕЛЫВАЦЬ, ПАНАДЗЕЛАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць шмат. *Усякіх пріспысабленьніў пынадзелывыў сабе пыт павецьцю. Красівінькіх асінывых карыццыў пынадзелылі пыд бярёзывік.* 2. Нарабіць (сораму). *Стыда пынадзелывылі, што на людзі нялоўка выйціць. Доўга ім, умеючы, сырыма́ пынадзелыць.* 3. Набрудзіць моцна. *Куры ў сенцых як пынадзелывыюць, дык я б іх, кажыцца, пабіла. Гані пырысят, яны так пынадзелыюць, што аць сянец атрякесься.* ПАНАДЗЕЛЫВАЦЦА, ПАНАДЗЕЛАЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца шмат. *У вас красівыя кохтычкі пынадзелывыліся. Наскоў пынадзелылыся, на трі зімы хваціць.* 2. Набрудзіцца моцна. *Другей раз і ня хочыш, глядзіш, а яно пынадзелывыіцца нізаметна. Бульбу насілі, сыпылі ў ямку, дык і пынадзелылыся.* ПАНАДЗЕ-

ЛЫВАНЫЙ, ПАНАДЗЕЛАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Зроблены (пра значную колькасць). *Ты б відзіла, сколька ў яе шырсьцяных кохтычык пынадзелывына. Многа рям пынадзелына, верна, зыказывылі яму.* 2. Нароблены (пра сорам). *Толька стыда на ўсю акругу пынадзелывына. Пынадзелына рызгаворыў, усе будуць пальцымі тыкыць.* 3. Набруджаны (моцна). *У пярэдній хаці пынадзелывына, што туды ні пыкызацца. Ны дваре пынадзелына, што ні ступіць,— прібраць ня могуць.*

ПАНАДЗЕЦЬ *зак.* Адзець, апрануць усіх. *Пынадзеньця málых цяплей, сяньня віцярок ёдкій.* ПАНАДЗЯВАЦЦА, ПАНАДЗЕЦЦА *зак.* Адзецца, апрануцца (пра ўсіх). *Пыныдзівáліся як кулі, ня дровы рэзыць, а ў задку рыскатывыцца. Бығата пыныдзеліся, зразу відна, што з зыработкыў пріехылі.* ПАНАДЗЯВАНЫЙ, ПАНАДЗЕТЫЙ *дзеепрым. На іх цёплыя курткі пыныдзівáны, вецір ня пройміць, ды сяньня ні так халодна. Многа ны дзіцях пынадзета адзёжы, ні прастудзюцца.*

ПАНАДЗЯЎБАЦЦА, ПАНАДЗЁЎБЦЦА *зак.* Наклявацца (пра ўсіх). *Яны самі ні знаюць, чаго хочуць, твае куры: пунудзюўбáліся, ажно волі пыкрівіліся, і ўсё лезуць. Нечыга усьлед бегыць, можна пынадзёўбцца, ны дарогі сколька зірнят.*

ПАНАДЗЯЧЫЦЬ *зак.* Шмат нагаварыць пустога. *Толька пыкажыся туды, пыныдзя́чуць такога, чаго і на сьвеці ні було.* ПАНАДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Ім ні прідумыць сколька було пыныдзя́чына.*

ПАНАДЫБУРЫВАЦЬ, ПАНАДЫБУРЫЦЬ *зак.* Натапырыць (пра ўсіх). *Як пыныдыбýрівыюць шэрсьць, дык яны і ныпраўду страшныя. Вун як яны пыныдыбýрілі загріўкі.* ПАНАДЫБУРЫВАЦЦА, ПАНАДЫБУРЫЦЦА *зак.* 1. Натапырыцца (пра ўсіх). *Кыціняты як пыныдыбýрівыюцца, думыюць, спужаюць шчынка. Ну чаго вы пыныдыбýріліся, каго вы пужаіця?* 2 *перан.* Прыняць непрыступны выгляд (пра ўсіх). *Нечыга ж ны падлузькіх хлопцыў пыныдыбýрівыліся. Яны як пыныдыбýрюцца, к ім поцступу німа.* ПАНАДЫБУРЫВАНЫЙ, ПАНАДЫБУРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Натапыраны (пра ўсіх). *Сідзяць каты пыныдыбýрівыныя, аж страшныя. Нечыга сыбакі пыныдыбýріны, каго-то чуюць.* 2. З непрыступным выглядам (пра ўсіх). *Нешта яны сяньня якея-то пыныдыбýрівыныя. Відна, пысваріліся, пыныдыбýріныя сідзяць.*

ПАНАЕСЦЬ *зак. эмац.* Раз'есціся (пра ўсіх). *Пына-*

*елі пузы луччы ні нада, чаго там.* ПАНАЕДЗЕНЫЙ, ПАНАЕДЖАНЫЙ *дзеепрым. Во такея брюшычы пынаедзіныя, ім хадзіць цяжола. Морды пынаеджыныя як у кормных вапрёў.*

ПАНАЖАДАВАЦЬ *зак. асудж.* Здаволіць (усіх). *Усё б хвыталі, пёрлі, нясьлі, калі іх пячэньня пыныжа́дыіць!* ПАНАЖАДАВАЦЦА *зак.* Здаволіцца (пра ўсіх). *Ніяк ня могуць пыныжа́дывыцца, каб прімелі, сьвет ба зыгряблі.*

ПАНАЖЫРАЦЬ, ПАНАЖРАЦЬ *зак.* 1 *груб.* Наесці (пра многіх). *Што ім атходзіць, пузы пыныжыра́лі і кычаюцца як быбакі. Вулькіны госьці пыныжра́лі брюхі, ідуць — чуць спышуцца.* 2. Сабрацца пад снегам у значнай колькасці (пра ваду ў час адлігі). *Дарога січас апасныя, доўга цёпла було, у многіх местых пыныжыра́ла. Стала дужа цёпла, пынажрець ны дарогых — ні праедзіш.* ПАНАЖЫРАЦЦА, ПАНАЖРАЦЦА *зак.* Наесціся (пра многіх). *Як ён пасець, каровы ўсігда пыныжыра́юцца, галодных ні прігоніць. Пыныжра́ліся, дык вылазьця з-зы стыла, нечыга расьседжывыцца.* ПАНАЖЫРАНЫЙ, ПАНАЖРАНЫЙ, ПАНАЖРАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Сыты (пра многіх). *У цілят брюхі пыныжыра́ны, ніхай пыліжаць. Пыныжра́ныя каровы нікуды ні пыбігаць. Доўга сядзелі зы стыламі пыныжра́тыя.* 2. Сабраны пад снегам у значнай колькасці (пра ваду ў час адлігі). *Ува ўсіх лашчынкых пыныжыра́на. Глядзіця, будзьця астарожнымі, дарога плыхая, пы нізінкых пыныжра́на. Паць сьнегым пыныжра́та, можыш па поіс шабоўкнуць.*

ПАНАЗАПАСІЦЬ *зак.* Назапасіць шмат. *Яны дроў сабе пыназыпа́сілі, будуць зіму сядзець бяз горя.* ПАНАЗАПАСІЦЦА *зак.* 1. Назапасіць шмат. *Етыя пынызыпа́сюцца, бясь сена ні астануцца.* 2. Назапасіцца шмат. *У Вольгі усякіх тряпык пынызыпа́сілыся на дзесіць гадоў.* ПАНАЗАПАШАНЫЙ *дзеепрым. Ета прівыклі плакыць, а дыбра пынызыпа́шына, што ўнукым астаніцца.*

ПАНАЗБІРАЦЦА *зак.* 1. Сабрацца ў значнай колькасці. *Кажный вечыр пынызьбіра́іцца поўныя хата, да поўнычы дурюцца.* 2 *перан.* Пад'есці пакрысе (пра многіх). *Травы то дужа пакуля німа, ну воўцы пынызьбіра́юцца патрошку.*

ПАНАЗНАЧЫВАЦЬ *зак.* Прызначыць многіх. *Ны праўленьні пынызна́чывылі новых брігадзірыў.* ПАНАЗНАЧЫВАЦЦА *зак.* Прызначыцца (пра многіх). *Скора пынызна́чывыіцца новыя ны чальства.* ПАНАЗНАЧЫ-

ВАНЫЙ *дзеепрым. Гываріл і, што нейкія упылнамочыныя сюда пыназна́чывыны.*

ПАНАЙЦІЦЬ *зак.* Знайсці шмат. *У ма́лых мячыкі нейкія новыя, гаворюць, пынайшлі́ айдзе-то.*

ПАНАКАРМЛІВАЦЬ, ПАНАКОРМЛІВАЦЬ, ПАНАКАРМІЦЬ *зак.* Накарміць усіх. *Пыныка́рмлівыла сваю псярьму, можна мінутычку пысядзець. А ці лёхка такей тубунюгу сьвіньней пынакормлівыць. Пакуля пыныпаріш, скот пынакорміш, сонца нівісь айдзе.* ПАНАКАРМЛІВАЦЦА, ПАНАКОРМЛІВАЦЦА *зак.* Накарміцца (пра ўсіх). *Січас паможыш шайкі вынісьць, пыныка́рмлівыіцца скот, тады бягі. Адны пынакормлівыліся, другея пішчаць-вішчаць, цэлый дзень дурюся.* ПАНАКАРМЛІВАНЫЙ, ПАНАКОРМЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Ну вы ж пыныка́рмлівыны, чаго вас яшчэ у сенцы шчэміць. Пынакормлівыныя сьвіньні пыліжаць троху.*

ПАНАКАСІЦЬ *зак.* Накасіць шмат. *Сёліта дажджы ішлі, травы-травы усюдых, пыныкасі́лі, хто ні ляніўся, харошыя зыпасы зьдзелылі.* ПАНАКОШАНЫЙ *дзеепрым. Ла́дныга ў людзей пынакошына, бяз горя будуць зіму сядзець.*

ПАНАКЛАСЦЬ *зак.* Накласці шмат. *У етым гаду усе пыныкла́лі сена, було касі, сколька хочыш, ніхто ні зыпрішчаў.* ПАНАКЛАДАЦЦА, ПАНАКЛАСЦА *зак.* Накласціся шмат. *Во тут пыныклыда́іцца дроў, хваціць места, абы було што класьць. Як пынықладзецца саломы, тады і на пуньку ляхчэй залезьць.* ПАНАКЛАДЗЕНЫЙ, ПАНАКЛАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Вісокія стагі пыныкла́дзіны, у іх пы стыгах Цімашонык масьцір. Якіх толька жылізяк у етыя кырманы ні пыныкла́джына!*

ПАНАКЛЁВЫВАЦЬ, ПАНАКЛЯВАЦЬ *зак.* Расклява́ць крыху (пра некалькі аб'ектаў). *Глядзі, толька уварвуцца куры, січас тваю пышанічку пынаклёвывыюць. Куры пунуклюва́лі клумкі, ці ім доўга ета зьдзелыць.* ПАНАКЛЯВАЦЦА *зак.* Накляваца (пра ўсіх). *Кыш сь сянец, пунуклюва́ліся, як ня лопніця.* ПАНАКЛЯВАНЫЙ *дзеепрым. Астарожна бяріця пунуклюва́ныя мяшкі.*

ПАНАКРУЧЫВАЦЬ *зак.* Накруціць шмат. *Пынакру́чывылі нейкыга хлоп'я ны палкі, пытпалілі і бегыюць.* ПАНАКРУЦІЦЬ *зак.* 1. Накруціць шмат. *Пынакру́ціць на ногі тряпык, ідзець — як стуўбамі ступаіць.* 2 *перан.* Намахлярыць. *Зы такімі шчытаньнікымі глядзі ды глядзі, могуць пунукруці́ць як захочуць.* ПАНАКРУЧЫВАЦЦА, ПАНАКРУЦІЦЦА *зак.* 1. Накруціцца шмат. *Пруцьця*

*пынакру́чывылыся у каткі. Як пынакру́ціцца салома, нада вырываць с круга.* 2. Накруціць валасы (пра многіх). *Вун як нашы дзеўкі пынакру́чывыліся. Пунукруці́цца яны ўмеюць луччы ні прідумыць.* ПАНАКРУЧЫВАНЫЙ, ПАНАКРУЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Накручаны (у значнай колькасці). *Пынакру́чывына на етыга дзіцёнка ніізьвесна сколька і чаго. Што тута пынакру́чына, ні рызыбрацца.* 2. З накручанымі валасамі (пра многіх). *Як пынакру́чывыныя, дык яны нічога дзеўкі. Ты на іх сяньня ны пынакру́чыных пулюбуйся.* ПАНАКРУЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Накруціўшы шмат. *Столька пунукруцёмшы ны сябе, можна і ў ізвоз вупруўляцца.* 2. Накруціўшы валасы (пра многіх). *Во як мыладухі пунукруцёмшы, пыныравюцца мужукам.* 3. Намахлярыўшы. *Німала пунукруцёмшы, а глідзяць, як нявінныя авечкі.*

ПАНАКРЫЦЬ *зак.* Накрыць усё, усіх. *Пынакры́й посыд, так ні кідай. Дзяцей мы цёпла пынакры́лі.* ПАНАКРЫЦЦА *зак.* Накрыцца (пра ўсё, усіх). *Цёпла пынакры́йціся, зыкалеіця к раньню: дужа веціp узбушуваўся.* ПАНАКРЫТЫЙ *дзеепрым. У яе і чашкі пынакры́ты, і гаршчонычкі, іна пырядык любіць.*

ПАНАКРЫШЫВАЦЬ, ПАНАКРЫШЫЦЬ *зак.* Накрышыць шмат. *Дзеці пынакры́шывылі курям батона, хто ж яшчэ. Ма́лыя як ядуць, усігда пынакры́шуць кругом сябе.* ПАНАКРЫШЫВАЦЦА, ПАНАКРЫШЫЦЦА *зак.* Накрышыцца шмат. *У вас ужо як пынакрышывыіцца, хуць зь вядром хадзі ды прібірай. С сухея вербы пыныкрышы́лыся сучча, нада яе сьпіліць калі.* ПАНАКРЫШЫВАНЫЙ, ПАНАКРЫШАНЫЙ *дзеепрым. Прісныка ны пасьцелі пынакры́шывына. Яблык усюдых пынакры́шына, ня столька ядуць, сколька балыюцца.* ПАНАКРЫШОМШЫ *дзеепрысл. Кінуць усё, пыныкрышомшы хлеба, толька мухі рызва́джывыюцца.*

ПАНАКУПЛІВАЦЦА, ПАНАКУПЛЯЦЦА *зак.* Накупіцца ў значнай колькасці. *Длі чаго ў іх столька шпалерыў пынаку́плівылыся? У яго адзёжы пунукупля́лыся, што і сынам астаніцца.* ПАНАКУПЛІВАНЫЙ, ПАНАКУПЛЯНЫЙ *дзеепрым. Пынаку́плівына цацык, што дзівацца некуды. Многа кніжык пунукупля́на, калі вы іх прычытаіця.*

ПАНАЛАМАЦЬ, ПАНАЛАМІЦЬ *зак.* Наламаць шмат. *Ня столька ігрушык нытрясьлі, сколька суччa пунулума́лі. Дзеці нейкія дудкі зь лесу пріняcьлі, сьпірва гулялі, а посьлі пыныламі́лі і накідылі.* ПАНАЛАМАЦ-

ЦА, ПАНАЛАМІЦЦА *зак.* Наламацца шмат. *Чаго ў вас столька вецьця пунулума́лыся? Зь вербы сухіх сучкоў пыныламі́лыся многа, як вецір — усё сыплюцца і сыплюцца.* ПАНАЛАМАНЫЙ, ПАНАЛОМАНЫЙ, ПАНАЛОМЛЕНЫЙ *дзеепрым. Палык пунулума́на, як зря пынакі́дына, глядзі, узаб'есься. Лучынык пыналомына на печы, пызьмітай венікым. Кыла пуні пыналомліна паплёту, прівізык, пызьбірaць нада ўместа.*

ПАНАЛІЦЬ *зак.* Паналіваць. *Ікая вам вічарінка сяньня, ці думыіця вы, што дождж пына́ліў — ні прайціць.* ПАНАЛІЦЦА *зак.* Паналівацца. *Крыша як решыта, пыныліло́ся ўсюдых.* ПАНАЛІВАНЫЙ, ПАНАЛІТЫЙ *дзеепрым. Чугункі стыяць пынылі́ва́ныя, можна ставіць у печ. Сажылкі пыналі́тыя як вока, во ўжо вады сёліта дык вады.*

ПАНАЛЯЗАЦЬ, ПАНАЛЕЗЦЬ *зак.* Налезці ў значнай колькасці. *Ны Слыбадзе То́лік прістынавіў машыну, баб пынылізáла, стыяком стыялі. Людзей пыналезла ў мыгазіні, ні к чому прістуліцца нілізя.*

ПАНАЛЯПЛІВАЦЬ, ПАНАЛЯПІЦЬ *зак.* 1. Наквэцаць, напэцкаць шмат. *Як ні акуратна ма́лыя ядуць, а ўсюдых пыныля́плівыюць. Гліны пыныляпілі, а наверьх рыстыпталі.* 2. Прыклеіць шмат абы-як. *Усякіх карцінык ны сьцяну пыныля́плівыў. Пыныляпілі бумажык ны газеты, думыюць, што ета красіва.* ПАНАЛЯПЛІВАЦЦА, ПАНАЛЯПІЦЦА *зак.* Наквэцацца, напэцкацца шмат. *Ці тута клею нейкыга пыныля́плівылыся, ці што тут такоя. Бульбы на стульчыку пыныляпі́лыся, іна прікарела.* ПАНАЛЯПЛІВАНЫЙ, ПАНАЛЕПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Наквэцаны, напэцканы шмат. *Ны сталe пыныля́плівына ці цеста, ці куляшу. Рыстыптаныя бульбы пыналепліна ўсюдых.* 2. Прыклееяны шмат абы-як. *Нейкіх бумажык кыла зеркыла пыныля́плівына. Каб усё ета пыналепліныя сырваў, луччы було б.*

ПАНАМАЧЫВАЦЬ, ПАНАМАЧЫЦЬ *зак.* Намачыць усё, усіх. *Я ўсігда посьлі бані бяльлё пыныма́чывыю, ноч пымікаіць, а нызаўтріга мыю. Столька сена пасьці сухога дождж пынымачы́ў.* ПАНАМАЧЫВАЦЦА, ПАНАМАЧЫЦЦА *зак.* Намачыцца (пра ўсё, усіх). *Пойдуць у лес, пыныма́чывыюцца, кусьця мокрыя, ні шылахнуцца. Як жа яны ні пынамочуцца, калі з луж ні вылізаюць.* ПАНАМАЧЫВАНЫЙ, ПАНАМОЧЫВАНЫЙ, ПАНАМОЧАНЫЙ *дзеепрым. Пыныма́чывыныя тряпкі уськінь ны паплецінку. Выцягывый у таз пынамочывыныя пласьцінкі.*

*Пынамочыныя курткі разьвесьця на жордычкых.* ПАНАМАЧОМШЫ *дзеепрысл. Пыныма́чомшы адзёжу, можна прустудзіцца.*

ПАНАМЕСЦЬ *зак.* Намесці шмат. *Глядзі, каб ні пынамесьць аторі на чыстыю пышаніцу.* ПАНАМЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. У адну кучу пынамеціна усяго пыдряд.*

ПАНАМЫЦЬ *зак.* Памыць шмат. *Бульбы мы пынамы́лі, толька скабліця.* ПАНАМЫЦЦА *зак.* Памыцца (пра значную колькасць). *Пасьпеіця, усяго пынамы́іцца, сонца ішчэ вісока.* ПАНАМЫТЫЙ *дзеепрым. Кучы більля пынамы́ты, зьбіралыся разьвешывыць.*

ПАНАНАШЫВАЦЬ, ПАНАНАСІЦЬ *зак.* Нанесці шмат. *Сьціляні́ хуць тряпку лі парога, ніхай ногі выціраюць, ато грязі пынына́шывыюць. Яны пынынасі́лі сакі с аборкый, на ўсю зіму хваціць слаць.* ПАНАНАШЫВАЦЦА, ПАНАНОШЫВАЦЦА, ПАНАНАСІЦЦА *зак.* Нанесціся шмат. *У ету пуню усякыга бырыхла пыныпа́шывылыся, нада мінутку вырвыць ды пірібраць. За лета то аттуля, то аттуля травы пынаношывылыся, ны казу хваціць. Зы ныгамі грязі пынынасі́лыся, ні спруўляісься пыцьціраць.* ПАНАНАШЫВАНЫЙ, ПАНАНОШЫВАНЫЙ *дзеепрым. Я ні знаю, длі чаго ета пруцьця пыныпа́шывына. Сколька ні пынаношывына, дык усё яе, сваім гарбом набыта.* ПАНАНАСЁМШЫ *дзеепрысл. Пынынасёмшы вады, можна лезьць на печ.*

ПАНАНЕСЦЬ *зак.* 1. Нанесці шмат. *Табе мальцы пынынясьлі́ вады, што ны нядзелю хваціць.* 2 *пер.* Належаць, набэсціць. *Ні за што пынынясу́ць ны чылавека чаго зря.* ПАНАНЕСЦА *зак.* Нанесціся шмат. *Вадою пяску пынынаслося, ну лугу трыва ні расьцець.* ПАНАНЕСЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Нанесены (у значнай колькасці). *Пыпалі ты хуць пынанесіныя дровы, у цябе с паўвоза ляжыць.* 2. Налаяны, набэшчаны. *Столька на іх усякія трілюды пынанесіна, што ні прідумыць.*

ПАНАПАВЕДЗІЦЬ *зак.* Нагаварыць. *Ета знаіш хто пыныпаведзіў? — пріхадзіла ґ Дзёму нейкыя рыдня іс-пад Белі, ета яе работа.*

ПАНАПАІВАЦЬ *зак.* Напаіць усіх. *Тады дзялілі зямлю, Хвядос пыныпа́івыў каморнікыў, яму большы адбілі.* ПАНАПАІВАЦЦА *зак.* Напаіцца (пра ўсіх). *Ну ці ты ж пыныпа́івыісься іх кажный дзень.*

ПАНАПАЛІВАЦЬ, ПАНАПАЛІЦЬ *зак.* 1. Напаліць шмат. *Пыныпа́лівылі бумаг ны стале, гарелыга насыпына. Лучынык пыныпалі́лі, вугальля пыд ныгамі выля-*

іцца. 2. Нагрэць усё, усюды. *Як пыныпáлівыюць грубычкі, у хатых цёпла. Пыныпалілі печы, ліжаць нывярьху ды пасьмеівыюцца.* ПАНАПАЛІВАЦЦА, ПАНАПАЛІЦЦА *зак.* Нагрэцца (пра ўсё, усюды). *Як пыныпáлівыюцца грубкі, тады можна дыхыць. Канешня, будзіць цёпла, пыныпалíлыся крепка.* ПАНАПАЛІВАНЫЙ, ПАНАПАЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Напалены (у значнай колькасці). *Водж жа відна: тряпык пыныпáлівына і накідына. Якогато хворысту пыныпáліна.* 2. Нагрэты (пра ўсё, усюды). *Аткуля ты знаіш, што ў іх печычкі пыныпáлівыны, ты ж тама ня быў. Печы пыныпáліны, жыра хуць зыдыхніся.*

ПАНАПАРЫВАЦЬ, ПАНАПАРЫЦЬ *зак.* Напарыць шмат. *Пакуля пыныпáрівыіш, заморісься, аж духі зыймаіць. Ну, сьвіньням я пыныпáріла, карміця тут бізь мяне.* ПАНАПАРЫВАЦЦА, ПАНАПАРЫЦЦА *зак.* Напарыцца шмат. *А як жа, скыта многа, паетыму столька пыныпáрівылыся. Як пыныпáріцца, пытаўчэцца, тады насі, кармі.* ПАНАПАРЫВАНЫЙ, ПАНАПАРАНЫЙ *дзеепрым. У іх усігда многа пыныпáрівыныга, галодный скот ня кініш. Пыныпáріна і бульбы, і бруквы, на трі дні хваціць карміць.*

ПАНАПЕЦЬ *зак. перан.* Нагаварыць, наплявузгаць шмат. *Толька пріедзіць Сярьгей, ґ дзяреўні ні пасьпеіць пыдыйціць, яму пыныпяюць усяго.* ПАНАПЕТЫЙ *дзеепрым. Я знаю, што і на етый раз будзіць пынапета ня меншы.*

ПАНАПІСАЦЬ *зак.* Напісаць шмат. *Нада сістрам пыныпісáць пісьмы, усё ніяк ні сыбяруся.* ПАНАПІСАЦЦА, ПАНАПІСЫВАЦЦА *зак.* Напісацца (пра значную колькасць). *А пынапíшуцца пісьмы, пра што ім дужа пісаць. Як пыныпíсывыюцца зыявы, тады пойдзім.* ПАНАПІСАНЫЙ, ПАНАПІСЫВАНЫЙ *дзеепрым. Пынапíсыныя пісьмы заклеівый. У нас усё пынапíсывына, гатова, ета вы поріціся.*

ПАНАПІХНУЦЬ *зак.* Напхнуць шмат. *Што вы пыныпіхнýлі у етыя мяшкі, нешта мяккыя, ну цяжолыя.* ПАНАПІХАНЫЙ, ПАНАПІХАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Напханы (пра значную колькасць). *Зыбірайця, мяшкі пыныпіхáны. Пынясьлі пыныпіхатыя карзінкі, відна, кукурузы нулумалі.* 2 *перан.* Сыты (пра ўсіх). *Што вам яшчэ хочыцца, вы пыныпіхáны ды гырлá. Пыныпіхáтым можна пысядзець на печы.* ПАНАПІХНУТЫЙ *дзеепрым.* Напханы (пра значную колькасць). *Усякыга бырыхла пыныпіхнýта, кырманкí ірвуцца.*

ПАНАПІЦЦА *зак.* Напіцца моцна (пра ўсіх). *Каб толька пынапіцца,— длі чаго ім другога тая свадзьба.*

ПАНАПЛЕСЦЬ *зак.* 1. Наплесці шмат. *Пынаплёў карзінык, што ніізьвесна на сколька хваціць.* 2 *перан. неадабр.* Нагаварыць, наплявузгаць. *Ізыкі нізыбáрсывыныя, пыныплятýць чаго хочыш.* ПАНАПЛЕСЦА *зак.* 1. Наплесціся шмат. *Красівых кашолычык пыныплялося у Маўріных мальцыў.* 2. Нагаварыцца пустога. *Тáма тожа усяго можыць пынаплесца.* ПАНАПЛЕЦЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Наплецены (пра значную колькасць). *У яго ўсякіх карзінычык пынаплеціна.* 2. Нагавораны, наплявузганы. *Тóлька пыд'явіцца тая вёхра, усяго будзіць пынаплеціна.*

ПАНАПЛЫВАЦЬ, ПАНАПЛЫСЦЬ *зак.* Нацячы, наплысці шмат. *Пунуплувáла грязі, што ні піряйціць. Прыкыпай ручаёк кыла сьценкі, ато ў пуню можыць пынаплы́сьць.*

ПАНАПЛЮГАВІЦЬ *зак.* Набрудзіць, напсаваць шмат, усюды. *Ты мне толька лі гаршкоў ні пунуплюгáў іс сваім апчышчывыньнім.* ПАНАПЛЮГАВІЦЦА *зак.* Набрудзіцца, напсавацца шмат, усюды. *Ні мала пунуплюгáвілыся із вашым бяленьнім, будзіш мыць ды мыць.* ПАНАПЛЮГАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. У пуні пунуплюгáўліна, што ні пыкызацца, чаго там толька ні пынадзелывына зы нядзелю!*

ПАНАПУХНУЦЬ *зак.* Напухнуць моцна (пра ўсё). *У яго ногі пынапýхлі, стаць ня можыць, быляць, трошку паріньня пымыгаіць.*

ПАНАРАБОТАЦЦА *зак.* Напрацавацца моцна (пра ўсіх). *Пыныработыліся мы зы сваю жысьць, і ў калхоз бягі, і ў дваре зьдзелыць нада.*

ПАНАРАВІЦЬ *зак.* Упадабаць. *Краўцову дзяўчонку пынырáвіў: ураз буду на ёй жаніцца і большы ні на ком.*

ПАНАРВАЦЬ *зак.* 1. Нарваць шмат. *Во якіх вы красівых цьвятоў пынырвáлі, дайця і мне цьвецік.* 2. Сабрацца (пра гной у нарыве). *Рукі пыпрыкáлывыў, пальцы вун як пынырвáлі.* ПАНАРВАЦЦА *зак.* Нарвацца (пра значную колькасць). *Морквы пынарьвецца, а тады іна выляіцца.* ПАНАРВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Нарваны (пра значную колькасць). *Нет каб ачшчыпнуць стручкоў сколька нада, а то пынырвáна гароху с кареньнім.* 2. Сабраны (пра гной у нарыве). *Раны бальшыя, гныяцца, пынырвана у нескылькіх местых.*

ПАНАРОВАЧКА *ж. памянш. іран.* Звычка. *Яго пынаровычка ўсім ізьвесна: хахлы зьвесьць.*

ПАНАРЫВАЦЬ, ПАНАРЫЦЬ *зак.* Накідаць (вазы гною). *Вазы пынырываім і аддыхнём троху. Яны як возьмуцца мігым вазы пынарыюць.* ПАНАРЫВАЦЦА, ПАНАРЫЦЦА *зак.* Накідацца (пра вазы гною). *Такея здаровыя хлопцы, у іх етыя вазы пынырываюцца зу пуўчыса. Во тута яшчэ пырядышна пынарыіцца.* ПАНАРЫВАНЫЙ, ПАНАРЫТЫЙ *дзеепрым. Пынырываныя вазы чуць ні да беда стыялі. Вазы пынарыты, а вожчыкі як прытанулі айдзе-то.*

ПАНАСАБАЧЫЦЦА *зак. іран.* Набрацца дрэнных звычак (пра ўсіх). *Па сьвету пышыталіся, пынысыбачыліся, такімі прайдохымі сталі.*

ПАНАСАДЗІЦЬ *зак.* 1. Насадзіць шмат. *Пынасодзіць дзяцей ны калёсы і возіць, яны сьмяюцца.* 2. Пасадзіць шмат (пра дрэвы). *Многа бярёзык пынысадзіў кылы дарогі, ны сабе насіў.* 3. Пасадзіць шмат (пра квактух). *Пынысадзіла квакух, ці ні чытырёх, нашто іх столька, куды зь імі дзівацца.* 4 *перан.* Напхнуць шмат. *Мяшкі кукурузы пынасодзюць, а наверьх траву і нясуць двору.* ПАНАСАДЗІЦЦА, ПАНАСАДЖЫВАЦЦА *зак.* 1. Насесці шмат. *Сколька хочыш пынасодзіцца, толька вязі. Глядзі, сколька ны сані пынысаджывылыся.* 2. Пасадзіцца шмат (пра дрэвы). *Лі аборкый у яго многа вербый пынысадзілыся. Дзеріў пынысаджывылыся, што ажно цёмна.* 3 *перан.* Панаядацца. *Ну й пынысадзіліся госьці, усё дно як з галодныга краю прішлі. Вуткі пынысаджывыліся ў ячмені, чуць ідуць.* ПАНАСОДЖАНЫЙ, ПАНАСАДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Насаджаны (пра значную колькасць). *Многа було пынасоджына молыдзіжы, хырашо, што мы ні пашлі. Тама столька гасьцей пынысаджывына, што ня ўбіцца.* 2. Пасаджаны ў значнай колькасці (пра дрэвы). *А во тут ужо лішня пынасоджына. У многіх былі ладныя садкі пынасаджывыны.* 3. Пасаджаны ў значнай колькасці (пра квактух). *Многа квакух пынасоджына, будзіць нявестык сныбжаць. Нашто іх, столька ціплят пынысаджывына.* 4. Напханы (пра значную колькасць). *Вун якея торбы пынасоджыны. Мяхі нечым пынысаджывыны, пёрлі — ды зямлі гнуліся.* 5. Панаяданы. *Волі ў курей пынасоджыны, нічога ім ня сып. Твае гусі пынысаджывыны, што ў іх з горла прецьь.* ПАНАСАДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Насадзіўшы шмат. *Дзяцей кытаюць, пынысадзёмшы ў машыну.* 2. Пасадзіўшы шмат (пра дрэвы). *А што вы будзіця імець, пынысадзёмшы сады?* 3. Пасадзіўшы шмат (пра квактух). *Ціпляты азелюць, пыны-*

*садзёмшы квакух, ім прігляд крепкій нада.* 4. Панаядаўшыся. *Выгріваюцца на сонцы, пынысадзёмшы волі ў калхозный пышанічкі.*

ПАНАСАЎСКІЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да Панасся (гл.). *Заўтря пына́сыўскій чацьверьг, у мяне ікраз мальчык радзіўся.*

ПАНАСЕСЦЬ *зак.* Сесці ў вялікай колькасці. *Пынасела ны сані нівісь сколька, як толька тая кыбылёнка пыцягнула.*

ПАНАСЕЯЦЬ *зак.* Пасеяць шмат усюды. *Пынасеілі гуркоў, а яны хырашо зырадзілі, дык яны пряма азяліліся.* ПАНАСЕЯЦЦА *зак.* Пасеяцца шмат усюды. *Клевіру неік пынасеілыся і во расьцець.* ПАНАСЕЯНЫЙ *дзеепрым. Многа жыта пынасеіна, уся плошчыдзь зы быльшаком зынята.*

ПАНАСКУСЦЬ *зак.* Наскубці шмат. *Хадоска многа перья пынаску́бла, усё падушкі дычкам гатовіць, замуж ріпярціць.* ПАНАСКУБЕНЫЙ *дзеепрым. Пынаску́біна сена сы стыжка с таго боку, ат поля.*

ПАНАСЛАЦЬ *зак.* 1. Заслаць шмат. *Я сваім гысьцям пынысла́ла пасьцелі на сені.* 2. Прыслаць шмат. *Ну-у, цяперя вы зыжывіцё, хлопцы пынашлю́ць вам грошы.* ПАНАСЛАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Засланы (пра значную колькасць). *Пынысла́ны ім мяккія пасьцелі, можна лажыцца.* 2. Прысланы (пра значную колькасць, суму). *Усяго ўсякыга ёй пынысла́на, ніхай ні плачыць.*

ПАНАСПРАЎЛЯЦЬ, ПАНАСПРАЎЛІВАЦЬ, ПАНАСПРАВІЦЬ *зак.* Справіць шмат. *Ганьніны дочкі многа сабе пріборыў пунуспруўля́лі. Ты столька ні пыныспра́ўлівыіш, заробіць ты падленівыісься. Во табе й Арінін сын, быў нейкій як ніізьвесна якей, а глядзі-ка, столька ён чаго пыныспра́віў сабе.* ПАНАСПРАЎЛЯНЫЙ, ПАНАСПРАЎЛІВАНЫЙ, ПАНАСПРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні клыпаціся, у іх пунуспруўля́на — на дзесіць гадоў хваціць. Што ў іх дужа пыныспра́ўлівына? — нічога харошыга. Ні знаю, калі іна паносіць сваё пыныспра́ўліныя транты.*

ПАНАССЕ *н.* Рэлігійнае свята 18 студзеня ст. ст. *Ны Пынасься, як я прімеціў, редка калі буваіць ладныя пагода.*

ПАНАСТАНАЎЛІВАЦЬ, ПАНАСТАНОЎЛІВАЦЬ, ПАНАСТАНАЎЛЯЦЬ, ПАНАСТАНАВІЦЬ, ПАНАСТАВІЦЬ *зак.* Наставіць вялікую колькасць. *Чаго толька ні пыныстына́ўлівылі у той хаці, ражэньня аднаго ні хвыта-*

*іць. Трошку прібрала, дык яны дні зы два узноў усяго ўсякыга пыныстаноўлівыюць. Посыду пыд ныгамі пыныстыныйўляла, хто будзіць іціць, зачэпіць і паб'ецць увесь. А тут, бувала, коні як пыныстановюць, айдзе Хрумкін жыў. Пыныстáвілі ўсякыга бырыхла пад ногі, ні прайціць.* ПАНАСТАНАЎЛІВАЦЦА, ПАНАСТАНОЎЛІВАЦЦА, ПАНАСТАНАЎЛЯЦЦА, ПАНАСТАЎЛЯЦЦА, ПАНАСТАНАВІЦЦА, ПАНАСТАВІЦЦА *зак.* Настаўіцца ў вялікай колькасці. *Ні само ж яно пыныстынáўлівылыся, нехта прінасіў і ставіў. Калі другей раз пыныстаноўлівыіцца, пыт пляцень пывыкідаю. Гырлачоў як пыныстыныўляіцца, некуды з мылаком дзіваццa, зыліваіць карова. А яно неік нізаметна пыныстыўлялыся, то тоя пыставіш, то тоя. У цябе як нарошня громызду разныга пыныстынавíлыся пад ногі. Ета ні зы адзін дзень пыныстáвілыся.* ПАНАСТАНАЎЛІВАНЫЙ, ПАНАСТАНОЎЛІВАНЫЙ, ПАНАСТАНАЎЛЯНЫЙ, ПАНАСТАЎЛЯНЫЙ, ПАНАСТАНОЎЛЕНЫЙ, ПАНАСТАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пыныстынáўлівына яшчыкыў, ні пывярнуцца нійдзе. Разных бутылычык було пыныстаноўлівына ня меншы як за дзесіць гадоў, і ўсе стыялі. Бутылык у вуглу пыныстыныўляна, верна, у два мяхі ні зыбяреш. Чаго там толька ні пыныстыўляна, у тых сенцых. Што ў вас тута пыныстаноўліна, я ніяк ні рызьбяру. Я ўсё ета пыныстáўліныя выкіну ў пуню.*

ПАНАСТРАІВАЦЬ *зак.* Пабудаваць шмат. *Цяперя яны рызбыгацелі, многа сабе ўсяго пыныстрáівылі.*

ПАНАСТРУГАЦЬ *зак. перан. іран.* Прывесці шмат (дзяцей). *Што дзелыць ці будуць, а дзяцей пунустругáюць, на ета вума многа ні нада.*

ПАНАСУПІЦЬ *зак.* Насупіць (пра ўсіх). *Нешта ім ні пыныравілыся у Пітрыка, ішлі — пынасýпілі насы.* ПАНАСУПІЦЦА *зак.* Насупіцца (пра ўсіх). *Пынасýпіліся і стыялі муўчаком кыла Полькіных.* ПАНАСУПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Нейкій быў ніпріятный рызгавор, ішлі пынасýпліныя.*

ПАНАСЫПАЦЬ, ПАНАСЫПЫВАЦЬ *зак.* Насыпаць шмат. *Пышаніцы пад ногі пынасы́пылі, уся ўтопчыцца. Пынасы́пывыюць курям ячменю, што яны ні пыідаюць.* ПАНАСЫПАЦЦА, ПАНАСЫПЫВАЦЦА *зак.* Насыпацца шмат. *Многа жулудоў пынасы́пылыся, сьвіньні іх любюць. Іс столі пынасы́пывылыся сýрья, ныкрываць нада ўсё.* ПАНАСЫПАНЫЙ, ПАНАСЫПЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ува ўсе вуглы яблык пынасы́пына. Просы пынасы́пывына, ціпляты пад'елі і ня хочуць дзюўбаць.*

ПАНАСЯЛІЦЦА *зак.* Пасяліцца (пра многіх). *Пынысялілыся людзей сы ўсяго сьвету, пірікаці-поля, такея нійдзе ні задзержывыюцца.*

ПАНАТАПЫРЫЦЬ *зак.* Пагрозліва ўзняць поўсць на хібу, пер'е (пра ўсіх). *Сьвіньні як пыныталы́рюць шэрсьць, тады іх луччы ня трогыць.* ПАНАТАПЫРЫЦЦА *зак.* 1. Пагрозліва ўзняць поўсць на хібу, пер'е (пра ўсіх). *Сыбакі пыныталы́рыліся адзін ны днаго.* 2 *перан. гумар.* Прыняць непрыступны выгляд (пра ўсіх). *Яны ніплахея мальцы, а вы етык пыныталы́рыліся.* ПАНАТАПЫРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. З пагрозліва ўзнятай поўсцю, пер'ем (пра многіх). *Сыбакі бегыюць лі кустоў пыныталы́рыныя.* 2. З непрыступным выглядам (пра многіх). *Кучыю стыялі пыныталы́рыныя, ні знаю чаго.*

ПАНАТРАПАЦЬ, ПАНАТРАПЫВАЦЬ, ПАНАТРАПЛІВАЦЬ *зак.* 1. Натрапаць шмат. *Раншы, бувала, пынатрепім лёну і прядзём ды пыўзімы. Што яны пынытря́пывыюць, каб хто спрасіў. Ага, пынытря́плівыюць,— яны тряпышкі ў руках ні дзіржалі.* 2 *перан. неадабр.* Наплявузгаць шмат. *Доўга пынытріпа́ць умеючы, ізыкі ж нізыба́рсывыныя. Яны могуць чаго хочыш пынытря́пывыць. Пойдуць туды, пынытря́плівыюць, прідумывыць наўчыліся ладна.* ПАНАТРАПАЦЦА, ПАНАТРАПЫВАЦЦА, ПАНАТРАПЛІВАЦЦА *зак.* Наплявузгацца шмат. *Пынытріпа́ліся, пыра б і рысхадзіцца. Ні прідумыць, ці будзіць такоя ўремя, што яны пынытря́пывыюцца. Хваціць жа, пынытря́плівыліся, дык рысстряцца ня могуць.* ПАНАТРАПАНЫЙ, ПАНАТРОПАНЫЙ, ПАНАТРАПЫВАНЫЙ, ПАНАТРАПЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Натрапаны (пра значную колькасць). *Лёну пынытріпа́на, толька спруўляйціся прясьць. Сколька ні пынатрёпына, зь іх хваціць. Ого, сколька лёну ў іх було пынытря́пывына. Раншы к такому ўремю лёну-лёну пынытря́плівына.* 2. Наплявузганы (у вялікай меры). *Во ніхай толька увідзюць што на нохыць, заўтря будзіць пынытріпа́на. Я пыніла, што ім німала пынатрёпына. Ці ты ўсё піряслухыіш, што тама будзіць пынытря́пывына. С цэльлю пынытря́плівына, каб іх як-небудзь пысваріць.*

ПАНАЎ *прым.* Такі, які належыць пану. *Пу Лугуватку была па́ныва зімля, ён дзяліўся з мужыкамі, кынавы кыпаў і ны граніцых ямкі.*

ПАНАЎЧЫЦЬ, ПАНАЎЧЫВАЦЬ *зак.* Навучыць усіх. *Знаіш, к чаму могуць пынаўчы́ць?— ґ дураце к разный. А чаму ён харошыму пына́ўчывыіць мальцыў?* ПАНАЎЧЫ-

ВАЦЦА *зак.* Навучыцца (пра ўсіх). *Пынáўчывыліся гароды выціраць, што харошыя у іхныя голывы ні пріходзіць.* ПАНАЎЧОНЫЙ, ПАНАЎЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Цяперя яны пынаўчоны, каму зря ні аччынюць. Яно й відна, што пынáўчывыныя, гаворюць у адно слова.*

ПАНАХАДЖЫВАЦЬ, ПАНАХОДЖЫВАЦЬ, ПАНАХАДЗІЦЬ, ПАНАЙЦІЦЬ *зак.* Знайсці ўсё. *Як старуха памёрла, у разных местых пыныхáджывылі грошы, пяцёркі, дзісяткі хувала. Хітрыя куры, нясуцца, а айдзе — трудна яйцы пынаходжывыць. Калі возьмуцца шукаць, дык пынаходзюць, як ты ні хувай. Лісьнікі ўраньні прібеглі, глянулі лі двáроў, а тады матнулі зы дзярейню і пынайшлі палкі ў аборкых.*

ПАНАХРАПАТАЦЦА *зак.* Наесціся з хрумстаннем (пра ўсіх). *Сьцюдзінь варілі, дык сыбакі пыныхрыпытáліся касьцей, давольныя.*

ПАНАЦЕРЦЬ *зак.* 1. Нацерці моцна, шмат. *Як зыпрігаіця, усігда праверьця, каб гріва пыт хамут ні пупала, ато пынатрýць коні плечы. Сена пыднімалі ны хату, пынацёрлі.* 2. Зрабіць моцнае расціранне. *Як пынатрý ногі, тады, кажыцца, трошку ляхчэй становіцца.* ПАНАЦІРАЦЦА, ПАНАЦЕРЦЦА *зак.* 1. Нацерціся моцна, шмат. *Просу пірінасілі, пыныцірáлыся усюдых, куры пыдбяруць. Усякія патрухі пынацёрлыся, падмесьць нада.* 2. Зрабіць сабе моцнае расціранне. *Пыныцірáюцца ўсякімі мáзімі, а тады лезуць на печ выгріваца. Як пынацёрліся ладна, дык нябось ты, пыляхчэла, а то ж саўсім дыханьня пиріхватывыла.* ПАНАЦЁРТЫЙ *дзеепрым.* Нацёрты (моцна, шмат). *Віджу, што пынацёрты цьвецікі, ета мáлыя гулялі тут.*

ПАНАЧАЛЬНІЧАЦЬ *зак.* Паначальстваваць. *Троху пынычáльнічыў, дык і яшчэ яму хочыцца, пачуў смак у лёхкім хлебі.*

ПАНАЧЫЦЬ *зак.* Паначаваць. *Цялёнык трі ночы пыначы́ў лі капёшкі зы дварам, дык ужо у пуньку ня хочыць іціць.*

ПАНАШАТЫРЫВАЦЬ, ПАНАШАТЫРЫЦЬ *зак.* Пагрозліва ўзняць поўсць на хібу, пер'е (пра ўсіх). *Сыбакі шэрсьць пыныштáты́рівылі адзін пірід другім і стыяць. Кыціняты і тэя пыныштáты́рілі сьпіны, сыбаку хочуць спужаць.* ПАНАШАТЫРЫВАЦЦА, ПАНАШАТЫРЫЦЦА *зак.* 1. Пагрозліва ўзняць поўсць на хібу, пер'е (пра ўсіх). *Сыбакі адзін ны днаго пыныштаты́рівыліся. Каты пыныштаты́рюцца і шыпяць, пішчаць.* 2 *перан. гумар.*

Прыняць непрыступны выгляд (пра ўсіх). *Пыньішатырівыліся — ні прайціць кыла іх, а ня то што слова пачуіш. Пыньішатырюцца — слова ні скажы.* ПАНАШАТЫРЫВАНЫЙ, ПАНАШАТЫРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. З пагрозліва ўзнятай поўсцю, пер'ем (пра ўсіх). *Кошкі сідзяць ны прясьлі пыньішатырівыныя. Вун пыньішатыріныя кыцянкі, любуйся.* 2. З непрыступным выглядам (пра ўсіх). *Дужа яны мне важны, кылі пыньішатырівыныя. Ходзюць нечыга пыньішатыріныя, відна, пра Пнёва што-то тріпанута.*

ПАНАЯДАНЫЙ *дзеепрым.* Распаўнелы (пра ўсіх). *Морды пыньідáны красьненныя, жруць ды брюзнуць.*

ПАНЕПАКОІЦЬ *зак.* Патурбаваць пэўны час. *Тоя сянцо іх трошку пынілакоіла, ну Кірей дужа ні быяўся.* ПАНЕПАКОЕНЫЙ *дзеепрым. Каровы нешта пынілакоіныя, усё ну кусты аглідаюцца.*

ПАНЕПУСКАЦЬ *зак.* Не адпускаць пэўны час. *Ну як ты пынілускáіш, калі ёй двору нада, нічога ў хызяйстві ня дзелына.*

ПАНЕРВІЧАЦЬ, ПАНЕРВІЧАЦЦА *зак.* Панервавацца. *Я як панерьвічыю, тады пычынаіць большы гылыва балець. Учора панерьвічыўся, дык сяньня ляжыць, пыдняцца ня можыць.*

ПАНЕСЦЬ *зак.* Зняць (пры гульні ў карты). *Січас ты ўзноў пынясеш, ты віновык ня любіш, а ў мяне іх хвытаіць.* ПАНЕСЦА *зак. метаф.* 1. Пачаць перабудоўвацца. *Тады ж пріказ быў усім пірістраівыцца, усе пынясьлíся с хутароў.* 2. Заганарыцца. *Ныпрасна ён панёсься етык пірід людзямі, нечым тама хваліцца.*

ПАНЕЦЬ, ПАНЕЦЦА *незак.* Прывыкаць жыць па-панску. *Дужа твой Мікіта панець стаў, што, ён ня можыць карзінку скывірзáць? Тут каб і хацеў, некылі панецца, зы цябе ніхто ня зьдзелыіць.*

ПАНІЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць ніжэй. *Зь естыга боку балькі нада паніжыць, яно на вока відна, што тута вышы.* ПАНІЖЫЦЦА *зак.* Зрабіцца ніжэй. *Вугыл падгніў, сьціна асела, і крыша паніжылыся.*

ПАНІМАКА *м.* і *ж. гумар.* Той, хто разумее. *Такей пынімáка рызьбярецца табе, прінясець заместа граблей матыку сена гресьць.*

ПАНІЦІЦЬ *зак.* Зніціць. *Тута работы нямнога, мыгла і сыма паніціць.* ПАНІЦІЦЦА *зак.* Зніціцца. *Калі сыма рук ні прікладзеш, ні паніціцца.* ПАНІЧАНЫЙ *дзеепрым. Ого, як крута панічына!*

ПАНІЧКА *ж.* Панская дачка. *Мы ішчэ помнім, як па́нічкі любілі пы саду гуляць, прыхаджывыліся.*

ПАНОКАЦЬ *зак.* Пападганяць каня воклічам «но!» *Нехта панокыў трошку увечырі, уродзі Сярьгеіў голыс, ну хырашо ні пызнала.*

ПАНОШАНЫЙ *дзеепрым. метаф.* Аслабелы. *Андряёнык чылавек паношыный, ён у разных пірядзелкых пубуваў.*

ПАНТАЛЫК *м.* Сэнс. *У каго ты надумыўся пынталы́к іскаць. А йдзі ты знаіш куды іс сваім пынталы́кым.*

ПАНУКАЦЬ *зак.* Пазаахвочваць воклічам «ну!» *І Высілёнык пыдыйшоў, пану́кыў, ён любіць усюдых іс сваім ізыком уторнуцца.*

ПАНЮХАЦЦА *зак. метаф. іран.* Зблізіцца, паразумецца. *Відна, што паню́хыліся, такея гэрчыкі адзін аднаго скора находзюць.*

ПАНЯХАІЦЬ *зак.* Прынізіць, зрабіць нікуды няварТЫМ. *Мутруноўна, кажыцца, баба нічога, а яны так яе пыніха́ілі.* ПАНЯХАЕНЫЙ *дзеепрым. Ну дык што, калі пыніха́іный, што яму ат етыга стала.*

ПАНЯЦЦА *зак. перан.* Усхадзіцца. *Буря як пыніла́ся, цэлыю нядзелю ні сьціхала, усё гудзіць і гудзіць.*

ПАНЯЦЬ *зак. перан.* Пакрыць. *Макріца усё пыніла́, ні даець нічому росьць.* ПАНЯТЫЙ *дзеепрым. Травою пыня́та бульба, уся заглушына, нічога зь яе ня будзіць.*

ПАПА *м. дзіц.* Хлеб. *Можа ты па́пы зьясі, я табе ськібычку атрежу. Памянш.* ПАПКА. *Ці даць мальчыку па́пкі, смашнінькій, сьвежынькій.*

ПАПАБІЦЦА *зак.* Абабіцца. *Пыпаб'юцца снапы і ні аткладывый, зразу трясі кулі, нада крыць сенцы.* ПАПАБІТЫЙ *дзеепрым. Пыпабі́тый лён вязуць на Шыіну і рысьсьцілаюць.*

ПАПАВАЛІЦЬ *зак.* Заваліць усё, многае. *Веціp пыпывалі́ў ціціву, а іна вісокыя, цяперя ні падніміцца.* ПАПАВАЛІЦЦА *зак.* Заваліцца (пра ўсё, многае). *Боб ні патпёрлі жордычкымі, пыпывалі́ўся ну гуркі.* ПАПАВАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Тоўстыя бярёзы пыпыва́ліны, быльшая шкода зьдзелына ў лесі.*

ПАПАВАРЗЁКАЦЬ *зак.* Паквэцаць. *Яны ні галодны, пыпыварзёкылі тваe ладкі, ацставілі і пабеглі.*

ПАПАВЕЗЦЬ *зак.* 1. Павезці шмат. *Пыпывязьлі́ ад бацькі і мяшкоў, і клумык поўныю машыну.* 2 *перан.* Пашанцаваць пэўны час. *У тоя ўремя ім ладна пыпывязло, а тады як сырвалыся, дык і сырвалыся.*

ПАПАВЕСІЦЬ *зак.* Павесіць шмат. *Пыдажджы, тряхольля ны віцярок пыпавешу і пойдзім.* ПАПАВЕСІЦЦА *зак.* Павесіцца (пра значную колькасць). *Калі тваe венікі пыпавесюцца, мішаюць пыд ныгамі.* ПАПАВЕШАНЫЙ *дзеепрым.* *Глядзі, каб адзёжа была пыпавешына ў шкап.*

ПАПАВЫБІВАЦЬ, ПАПАВЫБІЦЬ *зак.* 1. Выбіць усё. *Прыгані ат'етуля, хочыш, вокны ражэньнім пыпывыбіва́юць. Я ўжо зытыкала дзесіць разоў, а веціp як шуганець, пыпавы́б'іць, пыпавы́б'іць. Каты пыпавы́білі тваe заткылы, яны цэлыю ноч лазіюць.* 2. Вытрасці ўсё. *Пыпывыбіва́й свой вобуў, ны анучых пыліщчы, пыліщчы. Прінёс, кучыю кінуў пыльныю адзёжу, я пыпавы́біла.* ПАПАВЫБІВАЦЦА, ПАПАВЫБІЦЦА *зак.* 1. Выбіцца (пра ўсё). *Во каб пыпывыбіва́ліся клінкі, тут ба пустругаць можна було. Айдзе яно пыпавы́б'іцца, такоя гвозьдзя.* 2. Вытрасціся (пра ўсё). *Як пыпывыбіва́іцца адзёжа, меншы пылі будзіць, бруду ўсякыга. Ну пыдажджы, пыпавы́б'юцца і сіньнікі як-небудзь.* ПАПАВЫБІВАНЫЙ, ПАПАВЫБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выбіты (пра ўсё). *С-пыц стряхі ат поля усе кулёчыкі пыпывыбіва́ны. У пуніх былі нібальшэя вакенцы, дык усе сьцякельцы пыпавы́біты.* 2. Вытрасены (пра ўсё). *Ці ладна ж твой вобуў пыпывыбіва́н? Віджу, што пасьцелі у вас хырашо пыпавы́біты.*

ПАПАВЫБІРАЦЬ, ПАПАВЫБРАЦЬ *зак.* 1. Выбраць усё. *Луччынькія быракі пыпывыбіра́й, у погріб складуцца, а дрыбіза пыпаріцца сьвіньням. Пыпавы́брылі дзевык у Каўшові, адна заліж асталыся.* 2. Выбраць многіх (на пасады). *У іхным калхозі самі пыпывыбіра́лі брігадзірыў, стыршына дайжа ня ўмешывыўся. Ці пыпавы́брылі вы сабе ныча́льства?* ПАПАВЫБІРАЦЦА, ПАПАВЫБРАЦЦА *зак.* 1. Выбрацца (пра ўсё). *Луччыя морквіны пыпывыбіра́юцца, а дрыбіза ніхай астаецца. Глядзі, каб скырасьпелка уся пыпавы́брылыся, умесьці з дубэрыю ня сып.* 2 *перан.* Пайсці, паехаць (пра ўсіх). *Пасьці ўсе аттуля пыпывыбіра́ліся хто куды. Пыпавы́брыліся кудрічані, пырызыіжджаліся, пустая асталыся дзярейня.* ПАПАВЫБІРАНЫЙ, ПАПАВЫБРАНЫЙ *дзеепрым.* Выбраны (пра ўсё). *Харошыя яблыкі пыпывыбіра́ны, мелыч асталыся. Зьверьху кычаны пыпавы́брыны, а ўнізу яшчэ ладныя ёсьць.*

ПАПАВЫВАЗІЦЬ, ПАПАВЫВЕЗЦЬ *зак.* Вывезці ўсё. *Сена з лугоў пыпывывазі́лі харошыю пагодыю.*

*Усё чыста пыпасеілі і гнаі пыпавы́візьлі, ладна справіліся.* ПАПАВЫВАЗІЦЦА, ПАПАВЫВЕЗЦА *зак.* Вывезціся (пра ўсё). *Што ат'етуля пыпывывозіцца, калі астаўся адзін мылыдняк, німа ўжо тых лясоў, якея раншы былі. Зы зіму знаіш сколька лазы тут пыпавы́візіцца, ны карён пысякуць, а тады іна атрыстаіць.* ПАПАВЫВОЖАНЫЙ, ПАПАВЫВЕЗЕНЫЙ *дзеепрым. Пыпывывожыныя бярьвеньня кінулі і выляіцца. Такея лясы кругом былі, а цяперя німа нічога, пыдряд пыпавысічына, пыпавы́візіна.*

ПАПАВЫВАЛАКЫВАЦЬ, ПАПАВЫВАЛАЧ *зак.* Выцягнуць шмат. *Мы столька гнятоў пыпывывыла́кывылі с сажылык. Трудна було бярьвеньня с тых нетрыў пыпавы́вылыч.* ПАПАВЫВАЛАКЫВАЦЦА, ПАПАВЫВАЛАЧЦА *зак.* 1. Выцягнуцца (пра значную колькасць). *Калі ж тваё бырахло ат'етуля пыпывывыла́кывыіцца? Як пыпавы́вылыкуцца кулі, пыкладзём сюда дровы.* 2 *перан.* Выйсці з цяжкасцю (пра многіх). *Зь іхным здароўім і с хаты пыпывывыла́кывыцца нялёхка. Зы дзівяноста гадоў абаім, чуць пыпавы́вылыкліся на вуліцу.* ПАПАВЫВАЛАКЫВАНЫЙ *дзеепрым. З балота ўся сыка пыпывывыла́кывына.*

ПАПАВЫВАРАЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫВЕРНУЦЬ *зак.* Вывернуць шмат. *Такея пні былі здаровыя, а трактырым пыпывывыра́чывылі. Пыпавы́вірнулі аборкі, і ні пасеіш нічога — вымікніць, і ні кышанеш.* ПАПАВЫВАРАЧЫВАЦЦА, ПАПАВЫВЕРНУЦЦА *зак.* Вывернуцца (пра значную колькасць). *Мы тама кыпалі акопы, дык каменьня пыпывывыра́чывылыся бальшоя, што ны кані ні пывязеш. Буря была дужа страшныя, крепкія дзерівы пыпавы́вірнуліся.* ПАПАВЫВАРАЧЫВАНЫЙ, ПАПАВЫВЕРНУТЫЙ *дзеепрым. С пыпывывыра́чывыных бярёз пы вазу нарезылі і пывязьлі. Цеста пыпавы́вірнута ны зямлю, — во як тваё хваліныя ядуць.*

ПАПАВЫГАНЯЦЬ, ПАПАВЫГНАЦЬ *зак.* 1. Выгнаць усіх. *Ужо скот пыпывыгыня́лі, як яны зь вічарінкі беглі. Пыпавы́гынь ціплят зь ячменю, яны аттуля ні вылазюць.* 2 *перан.* Хутка ўзвесці. *Скора іструбы пыпывыгыня́лі, крышы пычалі прыізвадзіць. Сьцены нядоўга пыпавы́гныць, с крышыю большы правозісься.* ПАПАВЫГАНЯЦЦА, ПАПАВЫГНАЦЦА *зак.* 1. Выгнацца (пра ўсіх). *Толька каровы пыпывыгыня́ліся, і яны пабеглі ў ягыды. Ніхай пыстыяць у пуні, пазьней пыпавы́гынюцца, жарка.* 2. Хутка ўзвесціся. *Сьцены пыпывыгыня́юцца*

*за нескылька дней. У етых плотнікыў іструбчыкі скора пыпавы́гынюцца.* ПАПАВЫГАНЯНЫЙ, ПАПАВЫГАНЯТЫЙ, ПАПАВЫГНАНЫЙ, ПАПАВЫГНАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выгнаны (пра ўсіх). *Сколька людзей пыпывыгыня́на, пыгналі і як у ваду канулі. Ці пыпывыгыня́ты куры з гарода, яны ўсё пыкладуць, нічому ні дадуць росьць. Глядзі, калі ні пыпавы́гныны пырысяты, зразу гані. Мікіціха прібегла, ішчэ скот ня быў пыпавы́гныт.* 2. Хутка ўзведзены. *Сьцены ў іх пыпывыгыня́ны. Пыпывыгыня́тыя сьценкі будзіш стыряцца накрыць. Ты б відзіў, якея іструбы пыпавы́гныны. Тады ў іх красівыя асеці былі пыпавы́гныты.*

ПАПАВЫГАРНУЦЬ *зак.* Выгарнуць усё, адусюль. *Пыт палкымі мусыр астаўся, нада пыпавы́гырнуць.* ПАПАВЫГАРНУЦЦА *зак.* Выгарнуцца (пра ўсё, адусюль). *Пыдажджы мінуту, прібярём ставы і аттуля бумага пыпавы́гырніцца.* ПАПАВЫГАРНУТЫЙ *дзеепрым. Усыпай пыпавы́гырнутыя сьмяцьцё у карзіну, у гной зынясецца.*

ПАПАВЫГРАБАЦЬ, ПАПАВЫГРАСЦЬ *зак.* 1. Выграбці ўсё, адусюль. *Аторю нада пыпывыгрібáць і падмесьць у пуні чысьцінька. Лісьця пыпавы́грібі і зынясі ны гарод, тама спаліцца.* 2 *перан.* Украсці ўсё, адусюль. *Цяперішнія ўремя што хочыш утворюць, могуць бульбу с пыгрябоў пыпывыгрібáць. А к нам жа раз крышу прыдралі, у клець улезьлі і пыпавы́гріблі, што було.* ПАПАВЫГРАБАЦЦА, ПАПАВЫГРАСЦА *зак.* Выграбціся (пра ўсё, адусюль). *Пыцярьпіця мінутку, скора і тута пыпывыгрібáіцца. Калі ў цябе сь сяніцы мусыр пыпавы́грібіцца, зайціць туды нільзя.* ПАПАВЫГРАБАНЫЙ, ПАПАВЫГРАБЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выграбены (пра ўсё, адусюль). *С кустоў сена пыпывыгрібáна, а ны абложкі трошку асталыся. Я гляджу, як чысьцінька тама пыпавы́грібіна.* 2. Украдзены (пра ўсё, адусюль). *Пыдыйшлі к погрібу — рашчынін, улезьлі — бульба пыпывыгрібáна. Стыялі клеткі пыпавы́грібіныя.*

ПАПАВЫДВАРАЦЬ, ПАПАВЫДВАРЫЦЬ *зак.* Выселіць усіх, адусюль. *Посьлі рівалюцыі пасьці зразу паноў пыпывыдвыря́лі, доўга пысядзець ні дывалі. Такіх гадысьціў нада було ізь дзяреўні пыпавы́двырiць, як яны ні дывалі нікому жыць.*

ПАПАВЫДУВАЦЬ, ПАПАВЫДУЦЬ *зак.* Выдзьмуць усё, адусюль. *Старінькыя хата, як ціха ды натопіш, можна сядзець, а вецір усходзіцца — усё пыпывыдувáіць,*

*халодна. Кругом пыпавы́дуў вецір мох, дзіркі наскрозь сьвецюцца ў клеці.*

ПАПАВЫКАЛАЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫКАЛАЦІЦЬ *зак.* Вытрасці ўсё. *Пыпывыкыла́чывый сваё тряп'ё, у ём пылішчы — ні атыбраца. Пыпавы́кылыціў мяшкі і павесь на гвозьдзік. Ніхай іх пыпавы́кылыціць, такіх блізкіх!* (праклён).

ПАПАВЫКАТАЦЬ *зак.* Спагнаць усё, з усіх. *Што яны пыпавы́кытыюць, калі ў людзей нічога ні асталыся.* ПАПАВЫКАТАНЫЙ *дзеепрым. Хваліўся, што ў яго налогі пыпавы́кытыны.*

ПАПАВЫКАТЫВАЦЬ *зак.* 1. Павыкочваць. *Каткі с-пыт паветкі пыпывыка́тывылі, ныдзіваць будуць на восі.* 2 *перан.* Спагнаць усё, з усіх. *Бувала, як зыявюцца цэлыю брігадыю, налогі ды капейкі пыпывыка́тывыюць.* ПАПАВЫКАТЫВАЦЦА *зак.* Павыкочвацца. *Калі ў цябе калодзьдзя сь сянічкі пыпывыка́тывыіцца?* ПАПАВЫКАТЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Павыкочваны. *Ла́дныя круглякі пыпывыка́тывыны ў Цімоха, ліжаць кылы плітня.* 2. Спагнаны (пра ўсё з усіх). *З нашыя дзяреўні налогі пыпывыка́тывыны, пыстыряліся пылнамочыныя.*

ПАПАВЫКАЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫКАЦІЦЬ *зак.* Павыкочваць. *Пыпывыка́чывылі калёсы, у луг зьбіраюцца ехыць. Каткі с пытпавецьця пыпавы́кыцілі, многа тама було.* ПАПАВЫКАЧЫВАЦЦА, ПАПАВЫКАЦІЦЦА *зак.* Павыкочвацца. *Яблыкі пыпывыка́чывыліся с-пыт крываці, кыцянкі гуляюць. Каб цільпухі пыпавы́кыціліся, тут ба многа свыбадней стала.* ПАПАВЫКАЧЫВАНЫЙ, ПАПАВЫКАЧАНЫЙ *дзеепрым. Бірнушкі пыпывыка́чывыны, усклыдайця ны мыжару. Жар калі пыпавы́кычын, зразу сыпця ў вядро, каб куды жаріна ні зывалілыся.*

ПАПАВЫКАШЫВАЦЬ, ПАПАВЫКАСІЦЬ *зак.* Выкасіць усё, усюды. *Буваіць, восінь пройдзіць, аднаго дыжджа ня ўвідзіш, пыпывыка́шывыюць і абложкі, і кусьцікі, усё пыўправюцца зьдзелыць. Етый ні прымаргнець, і кусьцікі, і лашчынкі пыпавы́кысіць.* ПАПАВЫКАШЫВАЦЦА, ПАПАВЫКАСІЦЦА *зак.* Выкасіцца (пра ўсё, усюды). *Кругом пыпывыка́шывылыся, нійдзе былычкі ня кінута. Пыдажджы, ішчэ пыпавы́кысюцца і кынаўкі, і аборычкі.* ПАПАВЫКАШЫВАНЫЙ, ПАПАВЫКАШАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ты нійдзе ні найдзіш, і ў зыдах пыпывыка́шывына, нада було раншы біспакоіцца. Што гнаць ны пыпавы́кышыныя, тама нечыга разу скубнуць.*

ПАПАВЫКІДЫВАЦЬ, ПАПАВЫКІДАЦЬ, ПАПА-

ВЫКІНУЦЬ *зак.* 1. Выкінуць усё, адусюль. *Многа ўсякыга бырыхла сыбралыся ў клеці, я пыпывыкідывый. Харошый ба ты быў чылавек, каб ета шмоцьця пыпавыкідыў с хаты. Не, большы я цярьпець ня буду, хлам твой пыпывыкідаю. Чым большы пыпавыкініш, большы пырядку станіць.* 2 *перан. груб.* Пазвальняць з працы. *Ня дужа яны рысхызяйнічыліся, іх скора пыпывыкідывылі атаўсюля. Пыпавыкідылі іх с кымісарства, нямнога яны пукрусуваліся. Знаіш, як тады було: пыпывыкідалі с кылгаса і дзенься айдзе хочыш. Нісмашна стала, як пыпавыкінулі с канторы.* ПАПАВЫКІДЫВАЦЦА, ПАПАВЫКІДАЦЦА, ПАПАВЫКІНУЦЦА *зак.* Выкінуцца (пра ўсё, адусюль). *Пыпывыкідывыіцца як-небудзь і гной, летывыць ні астаніцца. Як пыпавыкідыіцца салома, то пырыскашнеіць у пуні. Айт, кросны ні нада, дык і посыд красённый пыпывыкідаўся. Во пыпавыкінуцца кусты, бульбы пасодзім.* ПАПАВЫКІДЫВАНЫЙ, ПАПАВЫКІДАНЫЙ, ПАПАВЫКІНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выкінуты (пра ўсё, адусюль). *Пыпывыкідывыныя дзеріўцы пысякі ў печ. Пыпавыкідыныя цітрадкі нада було прібраць к месту. Гнільлё пыпывыкідана, паччышчына акуратна. Вун сколька вобуву пыпавыкінута.* 2. Пазвальняны з працы. *Ах, як яны крівіліся пыпывыкідывыныя, як ім нісмашна стала. Пыпавыкідыным нісмашна зы работу брацца. Ну й правільна, што пыпывыкіданы, сколька такіх пыразітыў цярьпець. Уся іхныя хеўра пыпавыкінута с праўленьня.*

ПАПАВЫКІПЕЦЬ *зак.* Выкіпець (пра ўсё). *Пыпавыкіпіла хырча, у печы дужа жарка, я дубовых палычык зыкідала.*

ПАПАВЫЛАМЫВАЦЬ, ПАПАВЫЛАМАЦЬ *зак.* Выламаць шмат. *Вокны пыпывыламывылі, асаду вырвылі, адны сьцены асталіся. Тама доўга пастройчына ні пыстаіць, дзьвері пыпавылымыюць ураз.* ПАПАВЫЛАМЫВАЦЦА *зак.* 1. Выламацца (пра многае). *Пыглядзіш, сколька тута зы нядзелю пыпывыламывыіцца.* 2 *перан.* Пакапрызіць (пра многіх). *Доўга яны ні пыпывыламывыюцца, скора асядуцца.* ПАПАВЫЛАМАЦЦА *зак.* Выламацца (пра многае). *Ета кольля як пыпавылымыіцца, можна будзіць праехыць.* ПАПАВЫЛАМЫВАНЫЙ, ПАПАВЫЛАМАНЫЙ *дзеепрым.* *Айдзе ты будзіш шукаць пыпывыламывыныя вароты. Тама так пыпавылымына, што і глядзець ненышта.*

ПАПАВЫЛІЗЫВАЦЬ, ПАПАВЫЛІЗАЦЬ *зак.* Вы-

лізаць усё, многае. *Пірівярні карыццы, ато сыбакі пыпрібігаць, пыпывылізывыюць. Сучка стала лізаць рану, а жарёбка ёй нагу ацставіць, усю дрянь пыпавылізыла.* ПАПАВЫЛІЗЫВАНЫЙ, ПАПАВЫЛІЗАНЫЙ *дзеепрым. Гаршчонычкі пыпывылізывыныя, кошка хырашо пыхызяйнічыла. Ты мылыка ціплятым ставіла, пыпавылізыны тарелычкі, кыціняты пупалі тваё мылако.*

ПАПАВЫЛІНЯЦЬ, ПАПАВЫЛІНЯЦЦА *зак.* 1. Выліняць (пра ўсё, усіх). *Пінжачкі на сонцы пыпавылінілі. Вясною скот пыпавылініiць. Куры пыпавыліниліся, пасьці голыя бегыюць.* 2 *перан. гумар.* Зблажэць (пра ўсіх). *Былі як сьлімяні пыразьеліся, а тута пыпавылінілі. Калі троху пыпавылініюцца, ім на пользу.* ПАПАВЫЛІНЯЛЫЙ *дзеепрым.* 1. Выліняля (пра ўсё, усіх). *Пыпавылінілыя рубашкі. Пыпавылінілый скот пычысьцеў.* 2. Зблажэлы (пра ўсіх). *Нешта яны пыпавылінілыя пріехылі.*

ПАПАВЫЛЯЗАЦЬ, ПАПАВЫЛЕЗЦЬ *зак.* 1. Вылезці (пра ўсіх, адусюль). *Ня ўдзержыш ты курей у такой пуні, яны у дзірькі пыц стряхою пыпывылізаюць. Пырысяткі пыпавылізьлі і бегыюць кругом двыра.* 2 *перан.* Аблезці (пра ўсё). *Пыпывылізалі шубы, іх ужо некуды ныдзіваць. Шапкі пыпавылізьлі, тольки на пужылы вешыць.*

ПАПАВЫМАЛЯВАЦЬ *зак.* Размаляваць шмат. *Яны так пыпавымылиюць, што зы гылаву схвацісься.* ПАПАВЫМАЛЯВАНЫЙ *дзеепрым. Ці яны куплялі такоя, ці самі мазылі, пыпавымылівына, ні рызыбраць што.*

ПАПАВЫМАНДЗЫРЫЦЬ *зак.* Забраць ашуканствам усё. *Праціўный маліц, у малых пыпавымындзырiць канхветкі, а тэя тады пішчаць.* ПАПАВЫМАНДЗЫРАНЫЙ *дзеепрым. Куды ж ты дзеніш пыпавымындзыріныя цацкі?*

ПАПАВЫМАТЫЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫМАТЫЧЫЦЬ *зак.* Абматычыць старанна ўсё. *Чыста пыпывыматычывыла гряды, худзь ба травінку замеціў. Анька с Томкыю пыпавымытычылі бульбу, нійдзе травінкі ні асталося.* ПАПАВЫМАТЫЧЫВАЦЦА, ПАПАВЫМАТЫЧЫЦЦА *зак.* Абматычыцца старанна (пра ўсё). *Калі пыпывыматычывыюцца як нада, дык будуць быракі. Каб у цябе так пыпавымытычылыся, як у Мырьянкі.* ПАПАВЫМАТЫЧЫВАНЫЙ, ПАПАВЫМАТЫЧАНЫЙ *дзеепрым. У яе скырасьпелка пыпывыматычывына, нійдзе лішнія травіны ня ўвідзіш. Быракі пыпавымытычыны акуратна, пы-хызяйску зьдзелына.*

ПАПАВЫМЫВАЦЬ, ПАПАВЫМЫЦЬ *зак.* Вымыць

усё, усіх. *Цэлый дзень вазілыся, пакуля грязь пупувумувáла тута. Што ж ты зьдзелыіш, нада атаўсюль пыпавы́мыць. Баню прытаплю, дзяцей пыпавы́мыю і сымаму ахота пыпаріцца.* ПАПАВЫМЫВАЦЦА, ПАПАВЫМЫЦЦА *зак.* Вымыцца (пра ўсё, усіх). *Як пупувумувáіцца, пріятній будзіць у сенцы зайціць. Пыпавы́мыліся посьлі мыладзьбы, пысьвяжэлі.* ПАПАВЫМЫВАНЫЙ, ПАПАВЫМЫТЫЙ *дзеепрым. Вы пупувумувáныя, яму ня чорт бяды. У цябе чысьцінька пыпавы́мыта, пряма як у комныты заходзіш.*

ПАПАВЫНАСІЦЬ, ПАПАВЫНЕСЦЬ *зак.* Вынесці шмат. *Пагода харошыя, дык я пыпывынасíла пасьцелі, ніхай праветрііць усё. Гломызд ісь сянец нада пыпавы́нісьць у пуню.* ПАПАВЫНАСІЦЦА, ПАПАВЫНЕСЦА *зак.* Вынесціся (пра значную колькасць). *Як пыпывыносюцца яшчыкі, тута места хваціць на ўсё. Гырасёнкывы дзеўкі пыпавы́нісьліся, пыразьвешывылі сваё быгаства, любуйціся, жыніхі.* ПАПАВЫНЕСЕНЫЙ *дзеепрым. Я ні знаю, длі чаго етыя палкі пыпавы́нісіны, яны былі к месту пріпучоны.*

ПАПАВЫНІМАЦЬ, ПАПАВЫНЯЦЬ *зак.* Выняць усё. *Пыпывынімáй у мальца с кырманыў цацкі ды ўськінь пінжачок на шост. У мяшку былі мукруватыя тряпкі, іх нада пыпавы́ніць.* ПАПАВЫНІМАЦЦА, ПАПАВЫНЯЦЦА *зак.* Выняцца (пра ўсё). *Кірьпічыны пыпывынімáюцца, а тады пыткладывый курчыжкі. Гаршкі ні пыпавы́ніліся, а ты хворыст преш.* ПАПАВЫНІМАНЫЙ, ПАПАВЫНЯТЫЙ *дзеепрым. Пыпывынімáныя цільпухі аткатывый к калодкі, рызаб'юцца. Во яно тваё шырабурья пыпавы́нітыя.*

ПАПАВЫПАРЫВАЦЬ, ПАПАВЫПАРЫЦЬ *зак.* Добра напарыць. *Мáлых разьдзеніць, пыпывыпáрівыіць, пувумувáіць — дзяцей дужа хырашо глядзіць. Я сыма, бувала, пыпавы́пырю малых, вымыю, яны ў мяне ўсігда прігледжыны.* ПАПАВЫПАРЫВАЦЦА, ПАПАВЫПАРЫЦЦА *зак.* Добра напарыцца. *Учора мы пыпывыпáрівыліся, спалі як забітыя. Як пыпавы́пырімся у бані, усякыя праструда праходзіць.* ПАПАВЫПАРЫВАНЫЙ, ПАПАВЫПАРАНЫЙ *дзеепрым. Сідзяць ны лавычкі ў прымыльніку, пыпывыпáрівыныя, красьнінькія. Прібеглі пыпавы́пыріныя, сьвежыя, на іх пыглядзець люба.*

ПАПАВЫПАЎЗАЦЬ *зак. перан.* Абшукаць старанна, усюды. *Кругом пыпавы́пыўзыла, знаю, што клала, і нійдзе ні найду, ня ўспомню, куды клала замочык.*

ПАПАВЫПАЎЗАЦЬ, ПАПАВЫПАЎЗЦЬ *зак.* 1. Выпаўзці (пра ўсіх, адусюль). *Зразу стала дужа цёпла, пыпывыпуўзалі ўсякія жучкі, мошкі. Зьмеі пыпавыпыўзьлі і греюцца на сонцы.* 2 *перан.* Выйсці з цяжкасцю (пра ўсіх). *Ну што, падругі, сонца прігрела, пыпывыпуўзалі с хат, греіціся? Мыльгва ета грязныя пыпавыпыўзіць с травы, дык іх ні пызнаць, чый каторый.*

ПАПАВЫПЕТАВАЦЬ *зак. перан.* Пажаданне скону (у праклёнах). *Каб іх пыпавыпітывыла с такімі рызгаворымі, ці яны путноя што скажуць.*

ПАПАВЫПЕТРЫВАЦЬ, ПАПАВЫПЕТРЫЦЬ, ПАПАВЫПЕТРЫВАЦЦА, ПАПАВЫПЕТРЫЦЦА *зак.* 1. Моцна высахнуць (пра ўсё). *Зьнімі ды прібяры, пыпывыпетрівыла тваё пляхоцьця. Пыпавысыхлі снапкі і пыпавыпітрілі, зынясі ў пуньку. Вун у Кырняёнка досткі пыпывыпетрівыліся за лета. Хворысьця пыпавыпітрілыся, сьпічку пыднясі — і пойдзіць шугаць агонь.* 2 *перан.* Моцна схуднець (пра ўсіх). *Пыпывыпетрівылі, толька вочы блішчаць, пад'есьць ні загоніш. Некытырыя русплуваюцца, а етыя старухі пыпавыпітрілі, адны косьці. Нада ж дзіцям етык пыпывыпетрівыцца! Циляткі пыпавыпітріліся, чуць ны ныгах стыяць.* ПАПАВЫПЕТРЫВАНЫЙ, ПАПАВЫПЕТРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Моцна высахлы (пра ўсё). *Пызьнімай пыпывыпетрівыныя тряпкі. Ня то што высыхлі, а пыпавыпітріны шчэпкі, як порых пыхнуць.* 2. Моцна схуднелы (пра ўсіх). *Ні прідумыць, ач чаго яны такея пыпывыпетрівыныя. Ні глядзі, што пыпавыпітріныя, сіла ў іх ёсьць.*

ПАПАВЫПУЖЫВАЦЬ, ПАПАВЫПУЖАЦЬ, ПАПАВЫПУГЫВАЦЬ, ПАПАВЫПУГАЦЬ *зак.* Перапалохаць, выгнаць, палохаючы, усіх. *Скажы малым, каб ні хадзілі туды: сыбака дужа злэй, можыць іх пыпывыпўжывыць. Нейкія мальчышкі пыпавыпужылі дзяўчонык у кустах. Етый дурак дзяцей пыпывыпўгывыіць. У лясу ўсякыя можыць быць, якея брыдзягі пыпавыпугыюць.* ПАПАВЫПУЖЫВАЦЦА, ПАПАВЫПУЖАЦЦА, ПАПАВЫПУГЫВАЦЦА, ПАПАВЫПУГАЦЦА *зак.* Перапалохацца (пра ўсіх). *Мы так пыпывыпўжывыліся, самі ні зналі, як ляцець аттуля. Як пыпавыпужыюцца, усё можыць прікінуцца. Ня йдзіця туды адны, пыпывыпўгывыіціся, завіця с сабою Шурку. Каб ты толька знала, як мы тэй раз пыпавыпугыліся.* ПАПАВЫПУЖЫВАНЫЙ, ПАПАВЫПУЖАНЫЙ, ПАПАВЫПУГЫВАНЫЙ, ПАПАВЫПУГАНЫЙ *дзеепрым. Па-мойму, етыя дзеці*

*пыпывыпу́жывыныя. Так во яны і сядзелі пыпаву́пужыныя ў кустах. Я віджу, што дзяўчонкі пыпывыпу́гывыныя, яны уздрыгыюцца ад громкыга голысу. Яны былі пыпаву́пугыны, як Хлыпянкоў сыбака на іх кінуўся.*

ПАПАВЫПУСКАЦЬ, ПАПАВЫПУСЦІЦЬ *зак.* Выпусціць усіх. *Бувала, посьлі пыкрыва скот пыпывупускáюць, ідзіця, куды хочыцця. Як пыпаву́пусьцюць гусей, вутык, сьвіньней — пу лугу ні прайціць.* ПАПАВЫПУСКАЦЦА, ПАПАВЫПУСЦІЦЦА *зак.* Выпусціцца (пра ўсіх). *Як скот ны траву пыпывупускáіцца, тады абляхчэнія, ні баліць гылыва пры карміну. Глядзі, куры пыпаву́пусьцюцца, за імі гряды ні ўпасеш.* ПАПАВЫПУСКАНЫЙ, ПАПАВЫПУШЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Калі сьвіньні пыпывупускáны, іх бірягі ды бірягі, айдзе хочыш ачынуцца. Рады пыпаву́пушчыныя цілятki, ня могуць набегыцца.*

ПАПАВЫРАЗАЦЬ, ПАПАВЫРЭЗЫВАЦЬ *зак.* 1. Выразаць шмат. *Ужо ны нашым вяку сколька лясоў пыпаву́різылі. Зы вайну і посьлі вайны многа чаго пыпывырізáлі. Кругом нас лясы пыпывырезывылі, што дзеріўца ня ўвідзіш.* 2. Вырабіць разьбой шмат. *Ета ж нада умець так пыпаву́різыць. Красівыя узоры пыпывырізáлі. Налішнікі над вокнымі пыпывырезывылі, толька пыглядзець.* ПАПАВЫРАЗАНЫЙ, ПАПАВЫРЭЗЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выразаны (пра значную колькасць). *Зы Сажом тожа многа лесу пыпаву́різына. Столька лясоў було, а пыпывырізáны, нічога ні асталыся. Быў гонкій сысьняк узяўся, у крюк, айдзе і ў пыцяжыну,— дык пыпывырезывын.* 2. Выраблены разьбою (пра значную колькасць). *З достычык пыпаву́різына, акуратнінька зьдзелына. Во тута адзьдзельна складжыны пыпывырізáныя хванеркі. Ты пыглядзеў ба, як у Пітрыка пыпывырезывына, во ета майсьцір!*

ПАПАВЫРАСТАЦЬ, ПАПАВЫРАСЦЬ *зак.* Вырасці (пра ўсё, усіх). *Я гадоў дзесіць ня быў тута, дзерівы пыпывырыстáлі, што ні пызнаць. Дзеці пыпаву́рысьлі, унукі ўжо зьбіраюцца жаніцца,— якея ж мы з вамі мыладэя.*

ПАПАВЫРЫВАЦЬ, ПАПАВЫРВАЦЬ *зак.* Вырваць усё. *Пыпывырывáй палын, ніхай ні рыспрыстрыняіцца. Лібяду пыпаву́рьві ды ўкінь пырысятым. Ці вам пыпавырвыла, куды вы пріцёся!* ПАПАВЫРЫВАЦЦА, ПАПАВЫРВАЦЦА *зак.* 1. Вырвацца (пра ўсё). *Ну ніхай брылёўнік пыпывырывáіцца, троху пычысьцеіць. Ня дужа*

*пальініны пыпавы́рвуцца, яны крепка сідзяць.* 2 *перан.* Выбавіцца (пра ўсіх). *Пыпывырываліся ат'етуля, дык хуць людзямі сталі. А думыіш, яе дзяўчонкым лёхка було пыпавы́рвыцца с калхозу.* ПАПАВЫРЫВАНЫЙ, ПАПАВЫРВАНЫЙ *дзеепрым. Дзеріўцы нарошня пыпывырываны. Нада ж неік прідумыць ушыць пыпавы́рвыныя гузікі.*

ПАПАВЫСКАКЫВАЦЬ, ПАПАВЫСКАЧЫЦЬ *зак.* 1. Выскачыць (пра ўсіх). *Чуім нейкій крік на вуліцы, людзі пыпывыска́кывылі с хат, глідзяць: што йта айдзе. Як зыгарелыся хата, яны чуць жывэя пыпавы́скычылі, яны ўсігда вокны зычынялі на́ ныч.* 2 *перан.* Узнікнуць (пра значную колькасць балячак). *Ці раз болькі як пыпывыска́кывыюць пы ліцу, па целу. Красьнінькія пузурёчыкі пыпавы́скычылі у ма́лыга.*

ПАПАВЫСТРАІВАЦЬ, ПАПАВЫСТРАІЦЬ, ПАПАВЫСТРАІВАЦЦА, ПАПАВЫСТРАІЦЦА *зак.* Пабудаваць шмат, адметна. *Сярьгеівы сыны пыпывыстра́івылі сабе быгатыя хаты. Што яны пыпавы́стрыюць, у іх капейкі зу душою німа. Так крепка пыпывыстра́івыліся пірід вайною, а неміц проклітый усё дымым пусьціў. Цяперя многія і пірянінцы пыпавы́стрыіліся ладна.* ПАПАВЫСТРАІВАНЫЙ, ПАПАВЫСТРАЕНЫЙ *дзеепрым. Ета толька пулюбувацца, якея ў іх дамы пыпывыстра́івыны. Во каб вам такея хаты, якея ў гырыччань пыпавы́стрыіны.*

ПАПАВЫСЫХАЦЬ, ПАПАВЫСАХНУЦЬ *зак.* 1. Высахнуць (пра ўсё). *Прібірай сваe тряпкі, яны пыпывысыха́лі луччы некуды. Лыза пыпавы́сыхла, гаріць, як лучына.* 2 *перан.* Схуднець, змізарнець (пра ўсіх). *Яны ці ня хворыя чым-небудзь, пыпывысыха́лі, аж костычкі сьвіцяцца. Пыпавы́сыхлі, пыпавы́пітрілі, зу гульнёю пад'есьць некылі.*

ПАПАВЫСЯКАЦЬ, ПАПАВЫСЕЧ *зак.* Высячы ўсё, усюды. *Лясы, лясы кругом былі, а во пыпывысіка́лі, нічога ні асталыся. Аборкі зы быльшаком былі як пыпавы́сіклі, пруціка голыга ні буўталыся.* ПАПАВЫСЯКАЦЦА, ПАПАВЫСЕЧЦА *зак.* Высячыся (пра ўсё, усюды). *Скора пыпывысіка́юцца лясы, дзеріва ня будзіць. У Сапрыныйскім лесі тады було пыпавы́сіклыся да пруціка, а, глядзі, узноў расьцець.* ПАПАВЫСЯКАНЫЙ, ПАПАВЫСЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Ны нашый паміці многа лясоў пыпывысіка́на. Я хадзіў па тых аборкых: нічога німа, пыпавы́січына, ні лазінкі нійдзе.*

ПАПАВЫТКАЦЬ *зак.* Выткаць шмат. *Калі-то ткалі, а цяперя хто пыпавы́ткіць, і прясьць ня ўмеюць, і к стывáм ні знаюць, як ступіць.*

ПАПАВЫТРАСАЦЬ, ПАПАВЫТРАСЦЬ *зак.* Вытрасці ўсё. *Ня хужы було б, каб пыпывытрісáў сваё тряхольля. Можа сяньня сыбяруся ды пыпавы́трісу іхныя пасьцелі.* ПАПАВЫТРАСАЦЦА, ПАПАВЫТРАСЦА *зак.* 1. Вытрасціся (пра ўсё). *Тряпкі як пыпывытрісáюцца, паўськідый ны жардзіны наверьх. Ладна мяшкі пыпавы́трісьліся, ужо ня пылюцца.* 2 *перан. гумар.* Прагаладацца (пра ўсіх). *Ніхай набегыюцца, пыпывытрісáюцца, дык луччы пыядуць. Ім нада пыпавы́трісца, ніхай гуляюць.* ПАПАВЫТРАСАНЫЙ, ПАПАВЫТРАСЕНЫЙ *дзеепрым. Пасьцілкі пыпывытрісáны, зысьцілай крываці. Пыпавы́трісіныя мяшкі на шосьціку ў сенцых.*

ПАПАВЫТРЭШЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫТРАШЧЫЦЬ *зак.* Шырока раскрыць вочы (пра ўсіх). *Яны ўсігда пыпывытрешчывыюць вочы, як глумакі якея. Пыпавы́тріщчылі вочы на етых людзей, а тэя едуць спакойна.* ПАПАВЫТРЭШЧЫВАЦЦА, ПАПАВЫТРАШЧЫЦЦА *зак.* 1. Шырока раскрыць вочы (пра ўсіх). Чаго вы *пыпывытрешчывыліся, мы ж бяз рог. Пыпавы́тріщчуцца і стыяць кылы дарогі.* 2 *метаф.* Ярка заблішчаць (пра зоркі). *Як красіва зорічкі пыпывытрешчывыліся! Зорькі пыпавы́тріщчыліся, па небу чыста, січас ніпаходжа на дождж, а к раньню, хто яго знаіць, што будзіць.*

ПАПАВЫХАДЖЫВАЦЬ, ПАПАВЫХАДЗІЦЬ *зак.* Шмат выхадзіць, абысці многія мясціны. *Яны пыпывыхáджывылі і Дуброву, і Стахоўшчыну, айдзе іх толька ні пірібуло. Бувала, як выпрывімся у грібы кучыю, сколька мы пыпавы́хыдзім, каб толька хто знаў.*

ПАПАВЫХВАРАЦЬ *зак.* Пахварэць шмат. *Усё гряблі, хвыталі, ніяк ні маглі ныжáдыцца, дык во цяперіцька пыпавы́хвырыюць.*

ПАПАВЫХВАТЫВАЦЬ, ПАПАВЫХВАЦІЦЬ *зак.* Выхапіць адразу многае. *Пойдзіш ны бызар, дык ні рызівонь, тама могуць з рук пыпывыхвáтывыць. Такоя нішчасьця людзям: ад гразы зыгарелыся, а хаты блізка адна ат аднае, чуць дзяцей пыпавы́хвыцілі.*

ПАПАВЫЧЫШЧЫВАЦЬ, ПАПАВЫЧЫШЧАЦЬ, ПАПАВЫЧЫСЦІЦЬ *зак.* Вычысціць шмат. *Пуні пыпывычы́шчывыў, погріб астаўся. К празьніку нада усё пыпывычышчáць. Нада у клеці пыпавы́чысьціць, сколька гадоў тама ня чысьцілыся.* ПАПАВЫЧЫШЧЫВАЦЦА,

ПАПАВЫЧЫШЧАЦЦА, ПАПАВЫЧЫСЦІЦЦА *зак.* Вычысціцца (пра значную колькасць). *Бувала, гумны к новыму урыжаю абізацільна пыпывычы́шчывыюцца. Многа сьміцьця ны дваре, ні знаю, калі пыпывычышча́іцца. Ні прідумыць, калі ат'етуля пыпаві́чысьціцца.* ПАПАВЫЧЫШЧЫВАНЫЙ, ПАПАВЫЧЫШЧАНЫЙ *дзеепрым. Коля адзёжу абы-як ні разу ня кініць, усё ў яго будзіць пыпывычы́шчывына. Цяперя усё пыпывычышча́на, і штоб большы мне ні насілі сьміцьця. Тута многа було сажылык, раншы к восіні ўсе пыпаві́чышчыныя — пяньку мачыць.*

ПАПАГАРЭЦЬ *зак.* Згарэць шмат. *Сколька дзірявень тады пыпыгарела, пірідзь зімою людзі асталіся ні ш чым.*

ПАПАДАВАДЗІЦЬ, ПАПАДАВЕСЦЬ *зак.* Давесці да ладу, да нормы (пра ўсё, многае). *Пакуля мы пыпыдывадзі́лі да толку двары, вымытыліся, як авеччый хвост. Ні так ета проста дзелыіцца, як ты думыіш, пыпыдавесьць лугі — нада ўремя ды ўремя.* ПАПАДАВОДЖАНЫЙ, ПАПАДАВЕДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Я пріказывыў, каб усё було пыпыдаводжына як сьледыіць, ні знаю, што яны зьдзелылі. У яго пыпріпучывына, пыпыдаведзіна ладна, ніплахей хызяін Мікіцёнычык бярецца.*

ПАПАДА́ЦЬ *незак.* 1. Трапляцца. *Ні пупыда́ла мне харошых шаічык, я б купіў, каб ладныя была.* 2. Лавіць, захопліваць. *Піліп сколька разоў іх ны яблынкых пупыдаў.*

ПАПАДДЗЯЎБУЛІВАЦЬ, ПАПАДДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Падбіць знізу шматразовымі ўдарамі многае. *Як пыпыдзьдзяўбу́лівылі с абоіх бакоў, бёрны лёхка ўзьвярнуліся. Ац самых камлёў пыпыдзьдзяўбу́льця, ня можыць быць, каб бярьвеньня ня выбілыся.*

ПАПАДДУРЫВАЦЬ, ПАПАДДУРАЦЬ, ПАПАДДУРЫЦЬ *зак.* Паабманваць. *Вас пыпаддў́рівылі як маліңькіх, каму вы паверілі. Іх лёхка пупуддуря́ць, яны ўсяму верюць. Вы глядзіця, тама у мінуту могуць пупуддуріць, атлёты ні абы-якея.* ПАПАДДУРЫВАНЫЙ, ПАПАДДУРАНЫЙ *дзеепрым. Ні былі вы яшчэ пыпаддў́рівыныя, канхветы — ета ні пуддуря́ньня. Ну што яны, дзеці яшчэ, вярнуліся пыпаддў́ріныя. Вы ўсігда пупуддуря́ныя буваіця.* ПАПАДДУРОМШЫ *дзеепрысл. Нечыга радывыцца, пупуддурёмшы маліңькіх, ета дайжа стыдна.*

ПАПАДПІСАЦЬ *зак.* Падпісаць многае. *Набегыліся*

*мы, пакуля пыпытпісáлі усе бумажкі.* ПАПАДПІСАЦЦА *зак.* Падпісацца (пра многіх). *Тады ў дзярэўні пыпытпісáліся, што Сыхранёнык ні ў чом ні вінуват.* ПАПАДПІСЫВАНЫЙ, ПАПАДПІСÁНЫЙ *дзеепрым. Згрёб пыпатпісывыныя лісты ў партхвель і зышыгаў. Як бумагі будуць пыпатпíсыны, тады і ўздыхнецца ляхчэй. Кылі дукументы пыпытпісáны, чаго яму клыпаціць.*

ПАПАДПУСКАЦЬ, ПАПАДПУСЦІЦЬ *зак.* Зрабіць падсочку (мноству дрэў). *Пы Зяціцкій дарогі была Мільлянывa рошча, ён пупутпускáіць бярёзы, бочку нальлець, а Алюта квасу надзелыіць. Пупутпусьціў свае бярёзы, ныквасіў многа квасу.* ПАПАДПУСКАНЫЙ, ПАПАДПУШЧÁНЫЙ *дзеепрым. У лесі с краю бярёзы пупутпусканы, нехта зьбіраіць бярёзывік. Многа бярёз лі быльшыка було пыпатпýшчына.*

ПАПАЕЗДЗІЦЬ *зак.* Шмат паездзіць. *Усюдых ён пыпаезьдзіў, айдзе толька яго ні пубувала, і ўсюдых нісмашна.* ПАПАЕЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выкарыстаны на паездкі (пра значны час). *Сколька ні пыпаежджына, дык усё за ім, нызад нічога ня верніць.* 2 *перан.* Патаптаны ў выніку частых паездак. *Кыла лесу пыпаежджын кусок жыта.*

ПАПАЕХАЦЬ *зак.* Паехаць (пра ўсіх). *Пыпаехылі Мікіціхіны госьці, ладна тут адгусьцюваліся зы нядзелю.*

ПАПАЖАНІЦЦА *зак.* Ажаніцца (пра многіх). *Адаркіны сыны рана пыпыжаніліся, адзін за дным вялі нявестык.*

ПАПАЖАТЫЙ *дзеепрым.* Пажаты (пра ўсё). *Ранныя ячмені пыпыжáты, а пышаніца зілінкава яшчэ.*

ПАПАЗАМЯКНУЦЬ *зак.* Замокнуць (пра ўсё). *Бальшэй дождж ноччы атліў, пыпызымя́клі снапы ніпрібраджыныя.* ПАПАЗАМЯКЛЫЙ *дзеепрым. Пыпызымя́клыя ныкрываньня нада вынісьць на вуліцу і разьвесіць ны прясьлі к ветру.*

ПАПАЗАЎТРАКАЦЬ *зак.* Паснедаць (пра ўсіх). *Січас хлопцы пыпызáўтрікыюць і пойдуць за конімі, пысядзіця.*

ПАПАЗЖЫВАЦЬ, ПАПАЗЖЫЦЬ *зак.* Зжыць усё. *Пыпыжжывáлі, што було, і паехылі ны Дынбас, думыюць, ну вас к чорту з вашым калхозым. Такоя було хызяйства, еткія пастройкі,— пыпыжжылí, ат усяго аткызаліся.* ПАПАЗЖЫВАЦЦА, ПАПАЗЖЫЦЦА *зак.* Зжыцца (пра ўсё, усіх). *Ладныя былі хызяйствы, а пыпыжжывáліся, нічога ні асталыся. Яно ўжо к таму*

*ідзець, што пыпыжжывўцца людзі.* ПАПАЗЖЫВАНЫЙ, ПАПАЗЖЫТЫЙ *дзеепрым. Стыльмашонкывых дайно німа, пастройка пыпыжжывáна, толька бугарок ат печышча астаўся. Ці мала чаго пыпажжыта, прыпала, як нічога і ні було.*

ПАПАЗМЯКНУЦЬ *зак.* Змокнуць моцна (пра ўсё, усіх). *Ці яны пынімаюць, етыя дзеці, ліж ба куды сыйціць с хаты, пыпызьмя́кнуць ду рубчыны.* ПАПАЗМЯКЛЫЙ *дзеепрым. Вярнуліся пыпызьмя́клыя, зайшлі ў сенцы, дык зь іх цякець і плувець.*

ПАПАЗНЕЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць празмерна далікатнымі (пра многіх). *Пыпазьнежуць дзяцей, яны тады ні за што ўзяцца ня хочуць.* ПАПАЗНЕЖЫЦЦА *зак.* Зрабіцца празмерна далікатнымі (пра многіх). *Пыпазьнежылісь цяперь, глідзяць, каб бацька з маткыю усё дзелылі, а яны вылежывыцца будуць.* ПАПАЗНЕЖАНЫЙ *дзеепрым. Пыпазьнежыныя сталі, куды ім палоць іціць.*

ПАПАЗОРЫЦЬ *зак.* Зганьбіць многіх. *Распутныя дзеўкі бацік і матык пыпазорюць.* ПАПАЗОРЫЦЦА *зак.* Зганьбіць сябе (пра многіх). *Ну што яны надзелылі? — пыпазоріліся пірід людзямі, самім стыдна.* ПАПАЗОРАНЫЙ *дзеепрым. Дужа яны глідзяць, што пыпазоріныя, ім ета дайжа ні брыдзіць.*

ПАПАЗ'ЯЗДЖАЦЬ, ПАПАЗ'ЕХАЦЬ *зак.* З'ехаць (пра мноства). *Сколька людзей пыпызыіжджáла, ехылі хто куды. Молыдзіж зь дзірявень пыпазьехыла, адны стырікі асталіся.* ПАПАЗ'ЯЗДЖАЦЦА, ПАПАЗ'ЕХАЦЦА *зак.* З'ехацца, прыехаць (пра мноства). *Пыпызьіжджáліся Аксюціны сыны ў госьці, с унукымі пріехылі. Столька народу пыпазьехылыся ны бызар, усё дно як у стáрыя гады.*

ПАПАЙЦІЦЬ *зак.* 1. Пайсці (пра многіх). *Пыпашлі мы, пыздалі агзаміны, каб бацька быў жывэй, ён ба абізацільна мяне дальшы ўчыў.* 2 *перан.* Пачаць расці (у мностве). *Цыбуля пыпыйшлá у стрелкі, відна, падмёрзлыя была.*

ПАПАЛАСКАЦЦА *зак. метаф.* Вытаптаць. *Куры ладна пыпылыскáліся у пышаніцы, пылажылі кусок дык пылажылі.*

ПАПАЛЕЖЧ *зак.* 1. Легчы (пра многіх). *Ныгрябліся, ныгрябліся к вечыру, пыпыляглі зу кустом і, кажыцца б, ні пыдніmaліся.* 2 *перан.* Загінуць (пра многіх). *Столька молыдзіжы було ў нашый дзяреўні ды вайны і во пыпыляглі на хроньці.*

ПАПАЛЫВАЦЬ 1 *незак.* Шмат займацца прапол-кай. *Лёну нызнычáлі многа і строга требывылі, мы бальшэя участкі пыпáлывылі.* 2 *зак.* Папалоць пэўны час. *А ты ні бярі цірясь сілу, пуўчыса пыпáлывый, а тады ляж пыляжы, усяе работы ні пірядзелыіш.*

ПАПАМЕРЦЬ *зак.* Паўміраць (пра многіх). *Пыпамёрлі яны, бог знаіць калі пыпамёрлі, я чуць-чуць помню іх як ува сьне.*

ПАПАНАЕХАЦЬ *зак.* Наехаць у вялікай колькасці. *Ні прідумыць, аткуля яны бяруцца, як пыпынаехылі — кажыцца, увесь горыд вывізуць.* ПАПАНАЕХАНЫЙ *дзеепрым. Посьлі вайны тута многа пыпынаехыных, ужо мала каго і знаіш.*

ПАПАНАЛАЗІЦЬ *зак.* Налезці ў вялікай колькасці. *Пыдзь зіму ізноў мышэй пыпынылáзіць у пуні, аткуль яны толька бяруцца.*

ПАПАНАПІЧКАЦЬ *зак.* Накласці, напхаць шмат. *Як выiжджаюць, іна ім пыпынапíчкыіць у сумкі, у торбы ўсяго.* ПАПАНАПІЧКАЦЦА *зак.* Накласціся, напхацца шмат. *Пыпынапíчкылыся ў етых сенцых усякыга быры-хла, ні спруўляісься прібіраць.* ПАПАНАПІЧКАНЫЙ *дзеепрым. У яго дроў пыпынапíчкына, кругом пацстреш-шы зыкладжыны, ны пяць гадоў хваціць.*

ПАПАПОРЦІЦЬ *зак.* Папсаваць шмат. *Трактыры езьдзілі с плугамі, плугоў ні пыднімалі, лашчынкі пыпапорцілі, цяперя ні кышанеш.* ПАПАПОРЦІЦЦА *зак.* Папсавацца (пра значную колькасць). *Глядзіця ж, каб вашы прадукты ны дарогу ні пыпапорціліся.* ПАПАПОР-ЧАНЫЙ *дзеепрым. Многа сёліта пыпапорчыныя бульбы ў погрібі.*

ПАПАРАДЧЫЦЬ *зак.* Дасягнуць парадку. *Ны дваре нада пыпырáччыць, ато тама ні прышчаміцца ніiдзе.* ПАПАРАДЧЫЦЦА *зак.* 1. Дасягнуць парадку. *Ні знаю, калі я с клецьцю пыпырáччуся.* 2. Упарадкавацца. *Як пыпырáччыцца у задній хаці, тама кросны пыставім.* ПАПАРАДЧАНЫЙ *дзеепрым. Ну можа калі-небудзь і тута пыпырáччына будзіць.*

ПАПАРАСІЦЦА *зак.* Апарасіцца (пра ўсіх). *У Вулькіных сьвіньні пыпырасíліся, можна будзіць узяць пару вупрючкоў.*

ПАПАРАСКІДЫВАЦЬ, ПАПАРАСКІДАЦЬ *зак.* Раскідаць усё, усюды. *Хто б ета пыпыраськíдывыў мае клубочыкі, рукі у некыга чысаліся. Дзеці балывыліся, дровы пыпырыськівáлі, ну зыстаўлю ныз́ад склыдаць.* ПАПА-

РАСКІДЫВАНЫЙ, ПАПАРАСКІДАНЫЙ *дзеепрым. Твой інструмент пыпыраськідывын, долыцца ажно за суднію найшлі. Тряпкі былі як нада складжыны, а прішлі мы — пыпыраськідыныя выляліся. Сыбірай цяперя пыпырыськіда́ныя шмоцьця, раз ты ім такую волю даў.*

ПАПАРВАЦЬ *зак.* Парваць усё. *Цэлый жа дзень пы дзірівах лазюць, пыпырва́лі і рубашычкі, і штанёнкі.* ПАПАРВАЦЦА *зак.* Парвацца (пра ўсё). *Пінжачкі мае пыпырва́ліся, нада глядзець што новыя купіць на плечы.* ПАПАРВАНЫЙ, ПАПАРВАТЫЙ *дзеепрым. Выкінь ты пыпырва́ныя тріхамудзьдзя, сколька зь ім насіцца. Так пыпырва́ты мяшкі, што ні прідумыіш, зь якога боку брацца зышываць.*

ПАПАРОТЫЙ, ПАПОРАТЫЙ *дзеепрым.* Распораны. *Адна капёшка стаіць цэлыя, а другая пыпаротыя са ўсіх бакоў. Пры якей ты пінжачок трілюдзіш, ён ляжыць папорытый.*

ПАПАРЫЦЬ *зак.* Пакапаць шмат у розных месцах. *Сьвіньні бульбу ад дарогі пыпары́лі, Дырашонык пызылаіць вас, як хва́ціцца.* ПАПАРЫЦЦА *зак.* Пакапацца шмат у розных месцах. *Зілінуватыя кусты ніхай астаюцца, пазьней пыпары́юцца.* ПАПАРЫТЫЙ *дзеепрым. Морква ат логу пыпары́та, сьвіньні часта ускакывылі.*

ПАПАСАДЗІЦЬ *зак.* Пасадзіць значную колькасць. *Ён кылы двыра пыпысадзі́ў ліпкі, клянкі, бярёзы, усё засоджына ды кынавы.* ПАПАСАДЖАНЫЙ, ПАПАСОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Пасьці ўсе пыпыса́джыныя дзеріўцы пыссыхалі, у іх кыряньсі каротка пыацьсеклі. Красівыя ліпкі пыпасоджыны, і хырашо прінялiся.* ПАПАСАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пыпысадзёмшы паречык, дзеці б сырвалі ягыду летым.*

ПАПАСВІЦЦА, ПАПАСЦІВІЦЦА *зак. перан. гумар.* Падгледзець (у картах). *Хувай карты, ато яны абоя могуць зразу пыпа́сьвіцца. Што ты, ні пасьпеў яшчэ у маіх картых пыпа́сьцівіцца?*

ПАПАСЕСЦЬ *зак.* 1. Сесці (пра ўсіх). *Пыглядзі, каб куры пыпаселі ну курусадню, ато чмаріськыя да цёмныга цігаіцца. Як пыпыся́дуць, хут ты іх вагою вярні, ні пываруишцца.* 2 *перан.* Асесці (пра значную колькасць аб'ектаў). *Дзьверi пыпаселі і ў сенцых, і ў клеці, ні прічыняюцца, нада пупруўляць.*

ПАПАСЕЧ *зак.* Пасячы шмат. *К пакрову капусты пыпасеклі, гряды убралі, усё пыўправілі,— пускаюць скот.* ПАПАСЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Думылі сыбраць*

*пару вазкой хворысту, пашой у аборкі, а там пыпасечына.*

ПАПАСЕЯЦЬ *зак.* Пасеяць шмат усяго. *У етым гаду пыпасеілі дужа рана, і ўсходы ніплахея.* ПАПАСЕЯНЫЙ *дзеепрым. Ацьсеіліся,— ужо і ячмені, і пышаніцы пыпасеіны.*

ПАПАСОХНУЦЬ *зак.* Пассыхаць. *Столька дзеріўцыў нысадзіў — і ныпрасна, пыпасохлі.* ПАПАСОХЛЫЙ *дзеепрым. Пыпасохлыя вербы на дровы пойдуць, летым многа духу ні нада.*

ПАПАССОХНУЦЦА, ПАПАССЫХАЦЦА *зак.* Ссохнуцца, скруціцца (пра значную колькасць). *Тута пыпассохлыся, што я ні рускулуплю. Лісьця було мокрыя, а цяперя пыпыссыха́лыся, што ні рызьняць.* ПАПАССОХЛЫЙ *дзеепрым. Пывырывай пыпассохлыя дзеріўцы ды пысякі, нашто яны будуць тарчэць.*

ПАПАСЫВАЦЬ *зак.* Крыху папасвіць. *Ты ладный ба маліц быў, каб сяньня кароў пыпа́сывыў посьлібедзьдзя.*

ПАПАТРЭСКАЦЬ, ПАПАТРЭСКАЦЦА *зак.* Патрэскаць (пра ўсё). *Канцы ны бярьвеньні зразу ня чысьці, ато пыпатрескыюць глубока. Пакуля бульбу вырыіш, рукі пыпатрескыюцца.* ПАПАТРЭСКАНЫЙ *дзеепрым. Пыпатрескыныя пальцы быляць, ні датронуцца.*

ПАПАЎМІРАЦЬ *зак.* Паўміраць (пра многіх). *Як падумыіш, сколька ны маём вяку людзей пыпыўміра́ла — ні сышчытаць.*

ПАПАЎЦЯКАЦЬ, ПАПАЎЦЕЧ *зак.* Уцячы (пра многіх). *Што яны, дзеці, зьдзелыюць, каровы разьбегліся, пыпыўціка́лі, а тэя плачуць. Мы ат Пынаса, бувала, пыпыўцякём у разныя бакі.*

ПАПАХАНЫЙ *дзеепрым.* Узараны. *Ны пыпа́хыных лужках ні пасевыў, ні травы, згадзілі зямлю і большы нічога. Аблożкі ў лясу былі, дужа ядомыя трыва рысла, дык пыпыха́ны.*

ПАПЕРАБІЦЬ *зак.* Перабіць шмат. *Пупаду у гурках — я вам ногі пыпіряб'ю.* ПАПЕРАБІЦЦА *зак.* Перабіцца (пра значную колькасць). *Камлыгі як пыпіряб'юцца, з быраною луччы будзіць праехыць.* ПАПЕРАБІТЫЙ *дзеепрым. Кычаюцца куры с пыпірябітымі ныгамі.*

ПАПЕРАБОРЫЦЬ *зак.* Перабарукаць кожнага з многіх. *Ну я знаю, што ты крепык, усіх тута пыпірябορіў.* ПАПЕРАБОРЫЦЦА *зак.* Перабарукацца з кожным з

многіх. *Са ўсімі пыпіряборіўся, ну некытырыя яго клалі.* ПАПЕРАБОРАНЫЙ *дзеепрым. Ай, ні хваліціся, вы тожа пыпіряборіныя.*

ПАПЕРАВАЛОЧ *зак.* Перацягнуць многае. *Нада схадзіць і пыпірівалоч паплёт г дарогі, туды ны калёсых ні пад'едзіш.* ПАПЕРАВАЛОЧЦА *зак.* Перацягнуцца (пра многае). *Каб пыпірівылаклося хворысьця к аднаму месту, ні зыгрымáжджывыла б праходу.* ПАПЕРАВАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым. Сколька травы було пыпірівалочына, усё лета Сумусёнкі тама сядзелі.*

ПАПЕРАВЕЗЦЬ *зак.* Перавезці шмат. *У пагоду пасьпелі сена з лугоў пыпірявезьць.* ПАПЕРАВАЗІЦЦА, ПАПЕРАВЕЗЦА *зак.* Перавезціся (пра значную колькасць). *Сухей арешнік пыпірівазíўся, хырашо будзіць гарець. С такімі пастройкымі ня дужа лёхка пыпірявезца.* ПАПЕРАВЕЗЕНЫЙ *дзеепрым. Калі сена пыпірявезіна ды пыскладжына, тады душа спакойна.*

ПАПЕРАГРУЖЫВАЦЬ, ПАПЕРАГРУЗІЦЬ *зак.* Перагрузіць шмат. *Пакуля пыпірягрýжывылі быряхло с клеці, сь сілы выбіліся. Ну яго, можа заўтря астатнія пыпірягрýзім, я дужа зымаріўся.* ПАПЕРАГРУЖЫВАЦЦА, ПАПЕРАГРУЗІЦЦА *зак.* Перагрузіцца (пра значную колькасць). *Я тожа ні знаю, ці пыпірягрýжывыіцца етый торх на места. Дровы з машыны пыпірягрýзюцца, і мальцы паедуць.* ПАПЕРАГРУЖЫВАНЫЙ, ПАПЕРАГРУЖАНЫЙ *дзеепрым. З воза на воз пыпірягрýжывыны мяхі. Дровы былі пыпірягрýжыны яшчэ ўраньні, чаго ты бурчыш.* ПАПЕРАГРУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Канешня, заморісься, столька ўсяго пыпірігрузёмшы.*

ПАПЕРАГРЫЗЦЬ *зак.* Перагрызці шмат. *Ну й наўчыліся коні: путы пыпірягрызьлі і цяперя ня ловюцца распутыныя.* ПАПЕРАГРЫЗЦА *зак. перан. асудж.* Пасварыцца (пра многіх). *Пыпірягрызьліся паміс сабою, ні глідзяць адна на дну.* ПАПЕРАГРЫЗЕНЫЙ *дзеепрым. Як мы прібеглі, у жырібят ужо былі пыпірягрызіны горлы.*

ПАПЕРАДЗЕЛЫВАЦЬ, ПАПЕРАДЗЕЛАЦЬ *зак.* Перарабіць многае. *Зьбіраўся пунькі пыпірядзелывыць, ды ўсё ўремя німа. Пыпірядзелылі свае пулусадніві, новыю леску пыставілі.* ПАПЕРАДЗЕЛЫВАЦЦА, ПАПЕРАДЗЕЛАЦЦА *зак.* Перарабіцца (пра многае). *Скора такея двары ні пыпірядзелывыюцца. А ты думыў, і яшчычкі так пыпірядзелыюцца?* ПАПЕРАДЗЕЛЫВАНЫЙ, ПАПЕРАДЗЕЛАНЫЙ *дзеепрым. Я Нувумёнка*

*знаю: у яго будзіць пыпірядзелывына акуратна. Ты б відзіў, якея ў іх красівыя пыпірядзелыныя хаты.*

ПАПЕРАДЗЯВАЦЦА, ПАПЕРАДЗЕЦЦА *зак.* Пераапрануцца (пра ўсіх). *Ні хадзіця мокрымі, пыпірідзівайціся, вун сухая адзежа. Раншы, бувала, з бані прідзім, і то пыпірядзенімся.*

ПАПЕРАКАРМЛІВАЦЬ, ПАПЕРАКОРМЛІВАЦЬ *зак.* Перакарміць усіх. *Так пёршы, пыпірікármлівыіш пырысятык, яй-богу, пыпірікármлівыіш. Вы пыпірякормлівылі мáлых, яны жывоцікымі жалюцца.* ПАПЕРАКАРМЛІВАЦЦА, ПАПЕРАКОРМЛІВАЦЦА *зак.* Перакарміцца (пра ўсіх). *Дзеці як пыпірікármлівыюцца, ім тады плоха дзелыіцца. Глядзі, каб ні пыпірякормлівыліся пацьсьвінкі.* ПАПЕРАКАРМЛІВАНЫЙ, ПАПЕРАКОРМЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Яно ж відна, што цілятькі пыпірікármлівыны. Пыпірякормлівыных дзяцей зразу пызнаіш.*

ПАПЕРАКІНУЦЬ *зак.* Перакінуць усё. *Вазьміціся ды пыпірякíньця паплеціны ціріс прясла, там цалей будуць.* ПАПЕРАКІНУТЫЙ *дзеепрым. Хвырасьціны пыпірякінуты к вербым, каб ні мішалі.*

ПАПЕРАКЛАСЦЬ *зак.* Перакласці ўсё. *Ці думыіш ты крючча к месту пыпіріклáсьць?* ПАПЕРАКЛАСЦА *зак.* Перакласціся (пра ўсё). *Ніхай ба і кірьпіч пыпіріклáўся пат крышу, ні мяк.* ПАПЕРАКЛАДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Накінь плашчыкі ны пыпіріклáдзіныя снапкі.*

ПАПЕРАКУСІЦЬ *зак.* Перакусіць усё. *Яны провылку пірігрызуць, а ня то ніткі ні пыпірякýсюць.* ПАПЕРАКУШАНЫЙ *дзеепрым. Ціпляткі выляюцца, у іх ножкі пыпірякýшыныя.* ПАПЕРАКУСЁМШЫ *дзеепрысл. Айдзе ж войцы будуць жыць, калі горлы пыпірікусёмшы.*

ПАПЕРАЛЯЦЕЦЬ *зак.* Пераляцець (пра ўсіх). *Ну, думыю, запру курей у сяніцы, зычыніла, дык яны пыпіріляцелі ў кароўнік і ны гарод.*

ПАПЕРАМЫВАЦЬ, ПАПЕРАМЫЦЬ *зак.* Перамыць многае. *Столька тріп'я сыбралыся, нада пыпірімувáць, дык усё ўремя ня выбіру. Нада пыпірямы́ць трахольля, якоя ёсьць.* ПАПЕРАМЫВАЦЦА, ПАПЕРАМЫЦЦА *зак.* Перамыцца (пра многае). *Ну пыдажджы, пысвыбаднеіць урем*я*, пыпірімувáюцца і астатнія транты. Посыд пыпірямы́іцца, і сыстынаўлівый у шкапчык.* ПАПЕРАМЫВАНЫЙ, ПАПЕРАМЫТЫЙ *дзеепрым. У яе ўсё будзіць пыпірімувáна, грязныга нічога ня кініць. Пыпірямы́тыя тарелкі на ўслончыку.*

ПАПЕРАПАХЫВАЦЬ, ПАПЕРАПАХАЦЬ *зак.* Пераараць значную плошчу. *Пакуля ўремя яшчэ ёсьць, пыпіріпа́хывыюць участкі. У нас усе пыпіріпыха́лі бульбоўнікі, коні пасьледнія ўремя былі ў руках.* ПАПЕРАПАХЫВАЦЦА, ПАПЕРАПАХАЦЦА *зак.* Пераарацца (пра значную плошчу). *Увосінь чыстыя бульбоўнікі як пыпіріпа́шуцца, тады скародзюцца.* ПАПЕРАПАХЫВАНЫЙ, ПАПЕРАПАХАНЫЙ *дзеепрым. Нябось ты, у етых усігда будзіць пыпіріпа́хывына. У мідзькыўцыў пыпіріпа́хыны і гароды, і ячыньні. Сяньня яны скародзюць пыпіріпыха́ныя бульбянішчы.*

ПАПЕРАПІСАЦЬ *зак.* Перапісаць усё. *Бумагі твае зымазыліся, пацёрліся, прідзіцца пыпіріпісаць.* ПАПЕРАПІСАЦЦА *зак.* Перапісацца (пра ўсё). *Што пыпіряпішыцца, а што й так пойдзіць.* ПАПЕРАПІСАНЫЙ *дзеепрым. Глядзі, каб акуратнінька було пыпіряпі́сына. Цяперя пыпіріпіса́на чысьцей.*

ПАПЕРАПРЫГЫВАЦЬ, ПАПЕРАПРЫГНУЦЬ *зак.* Пераскочыць (пра многіх). *Не-а, цяперя кынава шурокыя і вы ні пыпіряпры́гывыіця. Што ім тута пыпіряпры́гнуць, разгонюцца — і на том баку.*

ПАПЕРАПУЖАЦЬ *зак.* Перапалохаць моцна ўсіх. *Ты пыглідай, сыбака выскычыць зналопу, можыць дзяцей пыпіріпужа́ць.* ПАПЕРАПУЖАЦЦА *зак.* Перапалохацца моцна (пра ўсіх). *У кустах як зугурчыць, мы пыпіріпужа́ліся, думылі, тама ніізьвесна што.* ПАПЕРАПУЖАНЫЙ *дзеепрым. Прібеглі пыпіряпу́жыныя, ажно іхныя ручонкі кылаціліся. Я віджу, што дзеці пыпіріпужа́ныя.*

ПАПЕРАСОХНУЦЬ *зак.* Высахнуць, перасохнуць (пра ўсё, усюды). *Айдзе ж выда будзіць такою жарішчыю дзіржацца, кынавы пыпірясохлі.* ПАПЕРАСОХЛЫЙ *дзеепрым. Відзілі мы тэя аборычкі пыпірясохлыя, толька у ямычкых выда дзяржыцца.*

ПАПЕРАСПРАШЫВАЦЬ *зак.* Перапытаць шмат разоў. *Яны дзесіць раз пыпіріспра́шывыюць, пакуля толку ні даб'юцца.*

ПАПЕРАТРАСЫВАЦЬ *зак.* Ператрэсці ўсё. *Пыпірітря́сывый-ка ты сваё шырабурья у сенцых, ато ў ём мышы зывядуцца.* ПАПЕРАТРАСЫВАЦЦА, ПАПЕРАТРАСАЦЦА, ПАПЕРАТРЭСЦА *зак.* Ператрэсціся (пра ўсё). *Ды ня хужы було б, каб етыя кучы пыпірітря́сывыліся. Ні знаю, калі ў цябе рукі дойдуць, калі етый хлам пыпірітріса́іцца. Пыдажджы нямнога, і астатнія тряпкі пыпірітрясу́цца.* ПАПЕРАТРАСЫВАНЫЙ *дзеепрым.*

*С таго боку ня трогый, тая салома пыпірітрясывына.*

ПАПЕРАЦЮҚЫВАЦЦА, ПАПЕРАЦЮҚАЦЦА *зак.* Перасячыся лёгкімі ўдарамі сякеры (пра ўсё). *Қаб пыпіряцюкывыліся етыя цапкі, спаліліся б, яны ні нада. Нясі сюды танейшыя сучкі, пыпіряцюкыюцца і ўкінуцца ў печ.* ПАПЕРАЦЮҚЫВАНЫЙ, ПАПЕРАЦЮҚАНЫЙ *дзеепрым. Німа ўжо тваіх кылячкоў, яны пыпіряцюкывыны. Аткінь у бок пыпіряцюкыныя лазіны.*

ПАПЕРАШЫЦЬ *зак.* Перашыць значную колькасць. *Як ня будзіць чаго на плечы уськінуць, дык і старьё пыпіряшыіш.* ПАПЕРАШЫВАЦЦА, ПАПЕРАШЫЦЦА *зак.* Перашыцца (пра значную колькасць). *Думыла, нічога ня будзіць, а во пыпірішывалыся і ў дзела пашло. Што пыпіряшыіцца, а што й так паносіцца, ніхай пыляжыць.* ПАПЕРАШЫВАНЫЙ, ПАПЕРАШЫТЫЙ *дзеепрым. Яны ладныя дзяўчонкі, такім пыпірішываныя няўдобна ныдзіваць. Якея яшчэ ўборы нада, ніхай носюць пыпіряшытыя.*

ПАПЕРЦЬ *зак. перан.* 1. Паваліць густа з ветрам (пра снег). *Пуўдня було чыста, сонца сьвяціла, а тады як папёрла пульга, сьвету белыга ні стала відна.* 2 *груб.* Паесці. *Ты ім толька пытклыдаць спруўляйся, яны і ня столька папруць,— пряма якея-то нінасытныя.*

ПАПІҚІШЧА *н.* Папрок. *Што ж мне яе папікішча, я ні вінуват, што ў іх так пулучылыся.*

ПАПІПІҚАЦЬ *зак.* Падаць сігнал клаксанам. *Саша ехыў, прістынавіўся лі Мырчынка, трошку пыпіпікыў, тады ў хату забег.*

ПАПІРАЦЦА *незак.* 1. Абапірацца, дапамагаючы ў хадзе. *Відзіш, ікая зь мяне хадуньня: палычкыю пыпіраюся, тады ногі трошку пірідзьвігаю.* 2 *перан.* Грунтавацца. *Ны каго ж дзіцям па-первысьці пыпірацца, як ні ны бацьку з маткыю.*

ПАПІХАЙЛІҚ *м. іран.* Папіхач. *Што ён, усю жызьню пыпіхайлікым быў, ны яго сюрьёзна ніхто ні глядзеў.*

ПАПЛАСТАЦЬ *зак.* Парэзаць на кавалкі (звыч. сала). *Ён сьпец па етыму дзелу, у мінуту сала пыплыстаіць.* ПАПЛАСТАЦЦА *зак.* Парэзацца на кавалкі (звыч. пра сала). *Лянь-ка, як у цябе красіва пыплысталыся, у мяне б так ня выйшла.* ПАПЛАСТАНЫЙ *дзеепрым. Пакуля Трахімчык пыдыйшоў, і сала ліжала пыплыстаныя, і рёбры былі пасечыны.*

ПАПЛАЧЫВАЦЬ *незак.* Аплочваць. *Што ж ты зьдзелыіш: бацька з маткыю, і пыплачывылі яго даўгі.*

ПАПЛЕСНЕВАТАСЦЬ *ж.* Наяўнасць плесені. *Па сьценых паплесьнівытысьць пышла, усё ацсырела, воздух пракіслый.*

ПАПЛЕСНЕВЕЦЬ, ПАПЛЕСНЕЦЬ, ПАПЛЕСНЕВЕЦЦА *зак.* Пакрыцца плесенню. *Сухарькі ськібычкымі віселі, ні пацёрліся, ні паплесьнівылі. У сырысьці што хочыш можыць паплесьніць, усё нада прыціраць і пірясушывыць. Ны скамейку як паложыш хлеб, ён за трі дні можыць паплесьнівіцца.* ПАПЛЕСНЕВЕЛЫЙ, ПАПЛЕСНЕВАТЫЙ, ПАПЛЕСНЕВЕЎШЫЙ *дзеепрым. Ці ты будзіш есьць паплесьнівілыя пряснушкі, ці табе большы есьць нечыга,— укінь у шайку. Реж паплесьнівытыя ў вядро, што там апчышчаць будзіш. Паплесьнівіўшыя скарінкі выляюцца пыт тряпкыю, нашто іх бярежч.*

ПАПЛЕЦІНКА, ПАПЛЕЦІНАЧКА *ж. памянш.* Паплеціна. *Штук пяць паплецінык ні хваціла дыряшэціць пуньку. Етыя паплеціночкі толька на прівізкі апцісаць, ны ряшэчыньня яны тонкі.*

ПАПЛЁХАЦЬ, ПАПЛЁХКАЦЬ *зак.* Паплёскаць. *Речкі у нас німа, бувала, у сажылкых паплёхыім, паплёхыім — нукупаімся. Трошку паплёхкылі ды вылізьлі: выда хулуднуватыя.* ПАПЛЁХАЦЦА, ПАПЛЁХКАЦЦА *зак.* Паплёскацца. *Я знаю, што вам дужа паплёхыцца хочыцца, ну бягіця, ды ні пытапіціся. Уволю паплёхкыліся, я ўжо ні выгыняла іх з вады.*

ПАПЛЁЦЦЕ *н. зб.* Паплёт. *Бырадзёнык нывылачыў сабе паплёцьця, трі хаты зыряшэціш. Памянш.* ПАПЛЁЦЦІКА, ПАПЛЕЦЦІКА *н.,* ПАПЛЁЦІК *м. Ні знаю, пымойму, етыга паплёцьціка ні хваціць на дзьве хаты і пуню. Мне яшчэ вазок паплецьціка нада прівезьць, етым я ні абыйдуся. А мой паплёцік някоріный ляжыць, горька нада чысьціць.*

ПАПЛУТАЦЬ *зак.* Паблытаць. *Вярёўкі паплу́тыў, што ні прідумыіш, зь якога боку распутывыць. Кыцянок ніткі пуплута́іць, прагонь.* ПАПЛУТАЦЦА *зак.* Паблытацца. *Нічыньніца паплу́тылыся, паспробый зь ёю рызыбрацца.* ПАПЛУТАНЫЙ *дзеепрым. С паплу́тынымі ніткымі нічога ня зьдзелыіш. Во якея пуплута́ныя сувайкі.*

ПАПЛЫСЦЬ *зак. метаф.* Пайсці па глыбокім снезе. *Сьнегу многа насыпыла, ды мяккій, убок з дарогі саступіш і паплыу́.*

ПАПЛЯТАЦЬ 1 *незак.* Выкарыстоўваць пры пляценні. *Ці помніш, сколька мы лазы пыпліта́лі, як кароў пасьвілі.* 2 *зак.* Паплесці пэўны час. *Бацьку некылі, ён асну-*

*вау, а ты пыплітай карзінку, ета ніцяжолыя работа.*

ПАПОЛЬЗАВАЦЬ *зак.* Атрымаць карысць. *Што ён папользыіць із гнілушкі, яму дзьве сотні зы яе ці дадуць.*

ПАПОЎЗЦЬ *зак. перан.* Палезці. *Ці відзіш, твой кырапуз узной папоўз на йгрушыну, сарьвецца, гнітанецца, што ні ўстаніць.*

ПАПРАБІЦЬ *зак.* Пракалоць моцна, глыбока. *Ня бегыйця абосымі, пыпрыб'іцё ногі, тады саўсім у хаці сядзець будзіця.* ПАПРАБІЦЦА *зак.* 1. Пракалоцца (пра ўсё, усіх). *Борыны кідаюць як зря, коні могуць пыпрабіцца.* 2 *перан.* Дасягнуць у выніку намаганняў (пра ўсіх). *Во і Пынкратывы дзеці пыпрабіліся у навуку.* ПАПРАБІТЫЙ *дзеепрым. Дзірькі пыпрабіты, кылячкі зыцясывый і дзелый лесьвіцу.*

ПАПРАВА *ж.* Прыправа. *Прыдывалі нейкыю пыправу, я купіла, пасыпыла у крупеню — дужа смашна.*

ПАПРАВАДЗІЦЬ, ПАПРАВЕСЦЬ *зак.* 1. Правесці ўсіх. *Мірёнывы пыпрывадзілі сваіх гасьцей, ціха ны дваре стала. Пыпрывялі дзевык і ызад ішлі, резылі ны гармоніх.* 2. Зрабіць праводку ўсюды. *Пыпрывадзілі лектра і ў сенцых, і ў клетку, і ў пуніх. Як ваду пыпрывялі ў хаты, удобна стала.*

ПАПРАГЛЫТЫВАЦЬ, ПАПРАГЛЫЦІЦЬ *зак.* Праглынуць шмат. *Пыглядзі, каб дзеці ні пыпраглытывылі шарікі, ато будзіць бяды, луччы пыадбірай. Каб вы ета пыпраглытывылі!* (праклён). *Яны дужа ні пірібіраюць, і с костычкымі вішні пыпраглоцюць.*

ПАПРАГРЫЗЦЬ *зак.* Праграызці ў розных месцах шмат. *Мышы пыпрагрызьлі у шкапчыку сьценкі і лазіюць, айдзе хочуць.* ПАПРАГРЫЗЕНЫЙ *дзеепрым. Вун лі лаўкі шпалеры пыпрагрызіны,— што зь іх толька тваріцца, зь естых мышэй!*

ПАПРАДАЦЦА *незак.* Шмат прасціся. *Як успомніш, сколька чаго зы зіму пыпрідалыся — і лёну, і пысканьней, і воўны, і хлоп'я.*

ПАПРАДАЦЬ *зак.* Прадаць усё. *Што ёй тута адной сядзець, ріснула, пыпрыдыла, пыпрыдыла, што було, і паехыла г дачке.*

ПАПРАЕСЦЬ *зак.* 1. Праесці, прагрызці ўсё, усюды. *Ета ж так моль пыпраела тряпкі, наскрозь дзірічкі.* 2 *перан.* Зжыць усё. *Бацькывы грошыкі нядоўга пыпраесьць.* ПАПРАЕСЦА *зак.* 1. Зжыць усё. *Скора пыпраеліся, зы два месіцы нічога ні асталыся.* 2. Зжыцца (пра ўсё). *Відзіш, як яно пыпраелыся, зы паўгода німа нічога.*

ПАПРАЕХАЦЬ *зак.* 1. Пракласці след у розных месцах. *Крайкі пу другому разу нада пыпраехыць быраною. 2 перан.* Праваліцца ў многіх месцах. *Ні аптоўчына, дык зімля кыла шулый пыпраехыла ўніз, ямкымі стала.* ПАПРАЕХАНЫЙ *дзеепрым.* Пракладзены ў розных месцах (пра след). *Відзіш, як акуратнінька быразёнкі пыпраехыны.*

ПАПРАКАРМЛІВАЦЬ, ПАПРАКОРМЛІВАЦЬ *зак.* Пракарміць значную колькасць. *Многа скыта у калхозі, папробый-ка пыпрыка́рмлівыць такея тубуны. Трудна столька скыта пыпракормлівыць, нада і сена, і зірна, і мукі нівісь сколька.* ПАПРАКАРМЛІВАНЫЙ, ПАПРАКОРМЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Ета хырашо, што пацьцёлкі пыпрыка́рмлівыны, вясною узьвядуць ны бызар, дык ладныя капейчына будзіць. У іх у многіх пыпракормлівына пы пацьцёлку.*

ПАПРАКЛЁВЫВАЦЬ, ПАПРАКЛЯВАЦЬ *зак.* Пракляваць усё, усюды. *Куры быйстра пыпраклёвывыюць твае мяшочыкі, толька увалюцца ў сенцы. Кінулі мяшкі ні накрыўшы, куры пупруклюва́лі.* ПАПРАКЛЯВАНЫЙ, ПАПРАКЛЁВАНЫЙ *дзеепрым. Твае сіміньнікі пупруклюва́ныя ліжаць, пыстыряліся чмаркі. Торбычкі ны ганкых кінуў, ужо пыпраклёвыны.*

ПАПРАКЛЯНАЦЬ, ПАПРАКЛЯСЦЬ *зак.* Праклясці многіх. *Яны пыпрыклінаюць вас зы сваіх дачок. Ета пыпрыкліла́ вас Куліноўна, што ў гарод к ёй лазілі.*

ПАПРАКСЦІЦЬ *зак.* Раздаць на шэрагу хрэсьбінаў. *Мяне кумою часта звалі, я многа чаго пыпраксьціла, матка ажно бурчэла.* ПАПРАКСЦІЦЦА *зак.* Раздацца на шэрагу хрэсьбінаў. *Тряпык тады пырядышна пыпраксьцілыся, ідзеш і нясеш, ідзеш і нясеш.*

ПАПРАКЦІКАВАЦЬ, ПАПРАКЦІКАВАЦЦА *зак.* Пацікавіцца. *Пыпрыкцікуй-ка ты ны бызарі кылы пырысят, пачом яны цяперя. Чаго ж ты ні пыпрыкцікува́йся лі карой, сколька сяньня прасілі.*

ПАПРАМЕЦЬ *зак.* Зрабіцца прамым. *Не-а, ніскалька ні пыпрямеў твой штырь, кріў здорыва.*

ПАПРАМЯКАЦЬ, ПАПРАМЯКНУЦЬ *зак.* Прамокнуць (пра многае). *Пыпрымікалі нашы ныпряткі, ну што ты хочыш, еткій дождж ліў. Лівінь заліў усё, копы могуць пыпрымя́кнуць.* ПАПРАМЯКЛЫЙ *дзеепрым. Пыпрымя́клыю салому зразу ны віцярку рыстрісай.*

ПАПРАННІЧАК *м. памянш.* Пернік. *На-ка табе пыпря́ньнічык, ты даўно такога ня еў, смашный.*

ПАПРАПІЦЬ *зак.* Прапіць шмат. *Што йта тваріцца ш чылавекым: сколька айдзе зарьвець — усё пыпрап'ець.* ПАПРАПІВАЦЦА, ПАПРАПІЦЦА *зак.* Прапіцца (пра многае, многіх). *У іх што хочыш пыпрыпіва́іцца, нічога ні задзержыцца. Так пыпрап'ю́цца, што, хочыш, біс сарочык пріцягнуцца.* ПАПРАПІВАНЫЙ, ПАПРАПІТЫЙ *дзеепрым. Сколька ў іх чаго пыпрыпіва́на! Пыдзікуйся на іх пыпрапі́тыя морды.*

ПАПРАСОХНУЦЬ *зак.* Падсохнуць (пра многае). *Пызьнімай накры́вылы с копык, ніхай пыпрасохнуць троху.*

ПА-ПРАСТОМУ, ПА-ПРАСЦЯЦКУ *прысл.* Проста, звыкла. *Што мне прітвыряцца, пы-прастому гываръю. Хто іх знаіць, як тама сваты рызгыварівылі, а етый рубануў пы-прысьця́цку.*

ПАПРАСТУДЗІЦЬ *зак.* Прастудзіць многіх. *Аччыняіш дзьвері, холыду находзіць, пыпрасту́дзіш дзяцей.* ПАПРАСТУДЗІЦЦА *зак.* Прастудзіцца (пра многіх). *Калі так будзіш і дальшы глядзець, яны ў цябе і на печы пыпрасту́дзюцца.* ПАПРАСТУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Халодна дужа було, яны вярнуліся пыпрасту́джыныя, доўга хы́рлілі.*

ПАПРАЎЛЯННЕ *н.* Рамонт. *Посьлі пупруўля́ньня трошку луччы сталі калёсікі, хуць ношку травы можна падвезьць.*

ПАПРАЎЛЯННІК *м.* Той, хто папраўляе, рамантуе. *Узяўся пупруўля́ньнік зы работу, калі саўсім ні дулумаіць кылясёнкі. Памянш.* ПАПРАЎЛЯННІЧАК. *Во і ў цябе падрос пупруўля́ньнічык.* ПАПРАЎЛЯННІЦА *ж. Ікая ні пупруўля́ньніца, пывыма́зывыла печ і з бакоў і ў сярёдык злазіла — ныдзяжней стала.*

ПАПРОБАЦЬ *зак.* Паспрабаваць; пакаштаваць. *Папробця етыя бліны, яны далжны вам пыныравіцца, я ны масьлі пікла.*

ПАПРОСТУ *прысл. метаф.* Пахабна. *Нісла ны яго папросту, што на́ рыт лезла, слухыць — вушы вялі.*

ПАПРОШАНЫЙ *дзеепрым.* Такі, які дзейнічае ў выніку просьбы. *Усе знаюць, што дайно було папрошына, інача б такой заступы ні було.*

ПАПРЫБЕЖЧ *зак.* Прыбегчы (пра ўсіх, многіх). *Кошка толька каўкніць, кыціняты кумільгым пыпрібіга́ць.*

ПАПРЫБІТЫЙ, ПАПРЫБІВАТЫЙ *дзеепрым.* Прыбіты (пра шмат аб'ектаў). *Пыпрібі́тыя крюкі буўтаюцца,*

*іх нада неік скручывыць. Паплеціны пыпрібіваты бальшым гвозьдзім, трудна будзіць узарвывыць.*

ПАПРЫБРАЦЦА *зак.* 1. Прыбрацца (пра ўсё, з розных месц). *Нада, каб салома ат'етуля пыпрібрáлыся, пад'ехыць мішаіць.* 2. Апрануцца па-святочнаму (пра многіх). *Ты б відзіла, як падлузькія хлопцы пыпрібрáліся, луччы як ны свадзьбу.* ПАПРЫБІРАНЫЙ, ПАПРЫБІРАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Прыбраны (пра ўсё, з розных месц). *Глядзі, каб посыд быў пыпрібірáный, каб нічога грязныга ні астывалыся. У яе пасьцелі ўсігда пыпрібірáтыя, як зря іна ня кініць.* 2. Апрануты па-святочнаму (пра многіх). *Яны пыпрібірáныя пашлі ў горыд. Сідзяць ны скамейкі пыд вакном пыпрібірáтыя і пра жызьню талкуюць.*

ПАПРЫВАЗІЦЬ, ПАПРЫВЕЗЦЬ *зак.* Прывезці ўсё. *Ужо многія хворыст пыпрівазíлі. Некытырыя тады зь Гірманіі многа ўсякыга бырыхла пыпрівязьлí, асобінна каторыя ехылі кымпаніімі.* ПАПРЫВАЗІЦЦА, ПАПРЫВЕЗЦА *зак.* Прывезціся (пра ўсё). *Ні знаю, калі маё хворысьця пыпрівозіцца. Каб пыпрівізлáся сыка, на месьці б як упыряччыў.* ПАПРЫВЕЗЕНЫЙ *дзеепрым. Вот учора мебілі пыпрівезіна, мы відзілі: згружалі і сталы, і шкапы, і крываці.*

ПАПРЫГАДЫВАЦЬ, ПАПРЫГАДАЦЬ *зак.* 1. Успомніць многае. *Сядзелі позна, чуць ні ды пітухоў, сваю жызьню пыпрігáдывылі. Ета ж толька пыпрігыдáць, сколька мы чаго піріжылі.* 2. Прыдумаць. *Яны ўмеюць пыпрігáдывыць, такога рыскажуць, што ў сьвеці ні було. Ета Сьціпыняты пыпрігыдáлі, яны прідумывыць умеюць.* ПАПРЫГАДЫВАЦЦА, ПАПРЫГАДАЦЦА *зак.* Успомніцца (пра многае). *Калі дык вун сколька пыпрігáдывыіцца, а калі неік усё з гылавы вылітаіць. За вечыр пыпрігыдáлыся многа чаго.*

ПАПРЫГАРАДЖЫВАЦЬ, ПАПРЫГАРОДЖЫВАЦЬ *зак.* Устанавіць шмат, але ненадзейна. *Палычык пыныставіла, пыпрігырáджывыла снапкі, каб скарей сохлі. Глядзі ні таўкні посыд, я пыпрігароджывыла, каб апсох.* ПАПРЫГАРАДЖЫВАЦЦА, ПАПРЫГАРОДЖЫВАЦЦА *зак.* 1. Устанавіць шмат, але ненадзейна. *Вот відзіш, і яе хлопцы трошку пыпрігырáджывыліся. Ні бядуй, як-небудзь пыпрігароджывыімся і рыскладзёмся.* 2. Устанавіцца шмат, але ненадзейна. *Пыпрігырáджывылыся ў клеці усякыга бырыхла. Ніхай хуць як-небудзь пыпрігароджывыіцца, худзь ба дзень пыстыяла на ветрі.*

ПАПРЫГАРАДЖЫВАНЫЙ, ПАПРЫГАРОДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым. Відзіш, як у яго пыпрігыраджывына, чуць ліпіць. Усё ета пыпрігароджывыныя січас пыляціць.*

ПАПРЫГЛЯДАЦЬ *зак.* Правесці прygляд пэўны час. *Яны гароды абы-як ня кінуць, пыпріглідаюць.* ПАПРЫГЛЕДЗЕЦЬ *зак.* Прыгледзець усё, усіх. *Пакуля дзяцей пыпрігледзіш, пакуля скот пынакормліiш,— ікая пыра ны дваре!* ПАПРЫГЛЯДАНЫЙ, ПАПРЫГЛЕДЖАНЫЙ *дзеепрым. Яе дзеці пыпріглідáныя, Анька за імі глядзіць. Ён так нічога ня кініць, у яго ўсё будзіць пыпрігледжына.*

ПАПРЫГНАЦЬ *зак.* Прыгнаць усё, усіх. *Ураньні пыпрігонюць рыскаты. Ужо скот пыпрігнáлі, саўсім цямнела, тады яны пыткацілі.* ПАПРЫГНАЦЦА *зак.* Прыгнацца (пра ўсё, усіх). *Падводы рана пыпрігнáліся, нямнога ждалі, пакуля дырыскрывалі сенцы.* ПАПРЫГНАНЫЙ *дзеепрым. Тады мы езьдзілі ў Крічыў зы пыпрігнáнымі коні́мі.*

ПАПРЫЕХАЦЬ *зак.* Прыехаць (пра ўсіх). *Скора мае госьці пыпріедуць з мáлымі, тады зыку тута ні адбяресься.*

ПАПРЫЖЫМАЦЬ, ПАПРЫЖАЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць усё, прытуліць усіх. *Камушкымі творг пыпріжымáй, скарей аcьцісьніцца. Во пыпріжымáлі сваіх дырагенькіх: цэлыю ж нядзелю ня відзіліся. Каб цяжолымі палкымі пыпріжáць хворыст, ён ба зьлежывыўся.* 2 *перан.* Прад'явіць жорсткія патрабаванні. *Іх калі ні пыпріжымáць, саўсім распусьцюцца. Аўхімёнык цацкыцца ня будзіць доўга, скора пыпріжмець.* ПАПРЫЖЫМАЦЦА, ПАПРЫЖАЦЦА *зак.* Прыціснуцца (пра ўсё), прытуліцца (пра ўсіх). *Такімі кымянюгымі што хочыш пыпріжымáіцца. Пыпріжымáліся у вугалку, сядзелі як мышы, пікнуць быяліся. С аднаго боку сыка пыпріжáлыся, а з другога веціp пуддумаіць.* ПАПРЫЖЫМАНЫЙ, ПАПРЫЖЫМАТЫЙ, ПАПРЫЖАТЫЙ *дзеепрым.* Прыціснуты (пра ўсё). *Нечым пыпріжымáны канцы і ні выцягывыюцца. Кольля бярьвеньнім пыпріжымáта, скачывый паціхіньку пы адном. Жардзіны с сучкамі і пыпріжáты, паетыму ні цягнуцца.*

ПАПРЫКАРЭЦЬ, ПАПРЫКАРЭЦЦА *зак.* Моцна прысохнуць (у розных мéсцах). *Нейкыя цеста пыпрікарела, нажом нада ацскрябывыць. Грязь як пыпрікареіцца, яе ні ататреш, ні аччысьціш.* ПАПРЫКАРЭЛЫЙ *дзеепрым. Грузі ўсё тряп'ё ў шайку, можа ета пыпрікарелыя грязь атапреіць.*

ПАПРЫКЛАСЦЬ *зак.* 1. Прыкласці (у розных мес-

цах). *Салому нада пыпріклáсьць, каб вецір ні разьнёс.* 2 *перан.* Прыраўнаваць многіх. *Мне ўжо мазылыўцыў пыпріклáлі, што я пыстыяла зь імі.* ПАПРЫКЛАСЦА *зак.* Прыкласціся (у розных месцах). *Як крепка пыпрікладзецца, дык і скот ні пырысьцігаіць.* ПАПРЫКЛАДЗЕНЫЙ, ПАПРЫКЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Прыкладзены (у розных месцах). *Пыпріклáдзіныя копы цэлы, а зь ніпріклáджыных вецір вярьхі паськідывыў. Пыпріклáтый хворыст і ні вурухнуўся.* 2. Прыраўнаваны (пра многіх). *Мае пыпріклáдзіныя жыніхі даўно пыжаніліся. Вун сколька ў яго пыпріклáтых нявест.*

ПАПРЫЛІПНУЦЬ *зак.* 1. Прыліпнуць (у розных месцах). *Ета ўсё як пыпріліпніць, дык хут ты яго ножыкым ацскрібай.* 2 *перан.* Моцна прывязацца, прыстаць (пра многіх). *Чаго яны пыпріліплі к тым дзяўчонкым смалою!*

ПАПРЫЛЬНУЦЬ *зак. перан.* 1. Старанна ўзяцца (пра ўсіх). *Як пыпрільнýлі, быракі зу пуўдня выбрылі, цяперя абрізаць асталыся.* 2. Паўстаць на абарону (пра ўсіх). *Такіх ня дужа возьміш, яны адзін зу другога гарою; як пыпрільнýлі зы Цімоха.*

ПАПРЫМАЗЫВАЦЬ, ПАПРЫМАЗАЦЬ *зак. перан.* Далучыць многіх. *Яны Мыланкіных мальцыў нарошня пыпрімáзывылі к сабе. Во увідзіця, што і етых вырынят пыпрімáжуць і на іх усё ляжыць.* ПАПРЫМАЗАЦЦА *зак.* Далучыцца (пра многіх). *Вот неік жа ім удалося пыпрімáзыцца к Мікілаівый хеўрі.* ПАПРЫМАЗЫВАНЫЙ, ПАПРЫМАЗАНЫЙ *дзеепрым. Яны так, тoлька шчот, што пыпрімáзывыны, усюрьёз іх ні шчытаюць. Пыпрімáзыны ці ні пыпрімáзыны, а ўсюдых разым цігаюцца.*

ПАПРЫМЫЛЬНІЧАЦЬ, ПАПРЫМЫЛЬНІЧАЦЦА *зак. жарт.* Пасядзець у прылазніку. *Ну што, можа, трошку пыпрымы́льнічыім с табою, ветру німа, зацішна. Цябе ірдзіць пыпрымы́льнічыцца, што ў Хведзі тыбачок дужа харошый, а ты газеціну дыстаў нейдзі.*

ПАПРЫМЯКАЦЬ *зак.* Прымераць спехам. *Пыпрімікáй сваe плацьцікі к етым, гатовым, каб яны вузкі ні былі.*

ПАПРЫНЕСЦЬ *зак.* Прынесці ўсё. *Пыпрінясíця жардзіны бліжы г дарожкі, каб ні шукаць пріцімкым.* ПАПРЫНЕСЕНЫЙ *дзеепрым. Глядзіця ж, глядзіця, каб усё було пыпрінесіна ац сажылык.*

ПАПРЫСЛАЦЬ *зак.* Прыслаць (пра мноства). *К празьніку яны пыпріслáлі пісьмы, прыздраўленьні, а Наста пасылку склала.*

ПАПРЫСОХНУЦЬ *зак.* 1. Прысохнуць (у розных месцах). *Цеста якоя-то пыпрісохла, ні ацскрібаіцца нійдзе.* 2 *перан.* Моцна прывязацца, прыстаць (пра многіх). *К вашым дзеўкым пряма пыпрісохлі юшкыўскія хлопцы.*

ПАПРЫСПАСАБЛІВАЦЬ, ПАПРЫСПАСОБІЦЬ *зак.* Прыстасаваць усё. *Нічога вы тута ні пыпріспысáблівыіця, тута німа на чом дзіржацца. Ён лоўка пыпріспасобіў сушыць бульбоўнік ны зіму.* ПАПРЫСПАСАБЛІВАЦЦА, ПАПРЫСПАСОБІЦЦА *зак.* Прыстасавацца (пра ўсё, усіх). *Як будзіць ня будзіць, ну неік жа пыпріспысáбліваюцца, піріжывуць ета ўремя. У Кітайца луччы пыпріспасобілыся, дайжа крысівей выйшла. На новым месьці пыпріспасобюцца і будуць жыць.* ПАПРЫСПАСАБЛІВАНЫЙ, ПАПРЫСПАСОБЛЕНЫЙ *дзеепрым. У яго тамыцька ні прідумыць як пыпріспысáблівына сушыцца. Раз гылавою думыіць, дык будзіць пыпріспасобліна як сьледыіць.*

ПАПРЫСТРАІВАЦЬ, ПАПРЫСТРОІВАЦЬ, ПАПРЫСТРОІЦЬ *зак.* 1. Прыбудаваць шмат. *Мыкыріняты вун сколька пыпрістрáівылі сабе, пунік усякіх надзелылі. К піцісьценкі пыпрістроівылі с абоіх бакоў па трі комнаты. Думыў многа пыпрістроіць, ды нічога у яго ні пулучылыся.* 2 *перан.* Уладкаваць усіх. *Ні знаю, ці удасца яму куды етых сірыт пыпрістрáівыць. Кажный жа глядзіць, каб сваіх луччы пыпрістроівыць. Стыльмашонык ладна сваіх пыпрістроіў.* ПАПРЫСТРАІВАЦЦА, ПАПРЫСТРОІВАЦЦА, ПАПРЫСТРОІЦЦА *зак.* 1. Прыбудавацца шмат. *Ніплахея прідзелкі пыпрістрáівыліся. Як пыпрістроівыюцца сенцы, клець, быгатыя будзіць пастройка. Відзіш, што ў іх пыпрістроілыся, ні так, як у вас.* 2. Уладкавацца (пра ўсіх). *А то там, то там Мітрыхвыняты пыпрістрáівыліся. Былі уремінна пыпрістроівыліся, а тады асталіся нысаўсіў. Усе глідзяць, каб айдзе луччы пыпрістроіцца.* ПАПРЫСТРАІВАНЫЙ, ПАПРЫСТРОІВАНЫЙ, ПАПРЫСТРОЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Прыбудаваны (пра значную колькасць). *Такея двары харошыя у іх пыпрістрáівыны! Етыя пуні посьлі пыпрістроівыны. Тама толька глянуць, чаго пыпрістроіна.* 2. Уладкаваны (пра ўсіх). *Калі дзеці пыпрістрáівыны, чаго табе тушнуваць. Як жа там Кыпылёнкывы дзеўкі пыпрістроівыны? Яго мальцы пыпрістроіны, ні пра што гылыва ні баліць.*

ПАПРЫСЯКАЦЬ, ПАПРЫСЕЧ *зак. перан.* Суняць рашуча (пра ўсіх). *Бацька пыпрісікáў ба, а так хто іх уніміць. Некыму пыпрісеч яе балыўнікыў, чаго зь іх толька*

*ні вытвыряіцца.* ПАПРЫСЯКАНЫЙ, ПАПРЫСЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Пыпрісіка́ныя будуць сядзець як мышы за печчу. Во цяперя відна, што пыпрісечыны.*

ПАПРЫТУЛЯЦЦА, ПАПРЫТУЛІЦЦА *зак.* Прыхінуцца часова (пра ўсіх). *Яны тады самі ні зналі, айдзе пыпрітуля́цца. Посьлі пыжару пыпрітулі́ліся айдзе хто мог, рыспаўзьліся пы дзіріўнях.*

ПАПРЫЎЧАЦЬ, ПАПРЫВУЧАЦЬ, ПАПРЫЎЧЫЦЬ, ПАПРЫВУЧЫЦЬ *зак.* Прывучыць усіх. *Ма́лых нада с самыга дзецтва к пырядку пыпріўча́ць. Як пыпрівуча́ла піць сырадой, дык толька пыдаю карову, яны ш чашкымі ліцяць. Пыпріўчы́лі ціплят к рукам, кормюць, дык яны пряма ны гылаву ліцяць. Пыпрівучы́лі курей у калхозный ячмень, яны аттуля ні вылазіюць.* ПАПРЫЎЧАЦЦА, ПАПРЫВУЧАЦЦА, ПАПРЫЎЧЫЦЦА, ПАПРЫВУЧЫЦЦА, ПАПРЫВУЧЫВАЦЦА *зак.* Прывучыцца (пра ўсіх). *Мае пыпріўча́ліся у адно ўремя лажыцца, ужо самі глідзяць. К чаму харошыму ні так, а г дурному дзелу скора пыпрівуча́юцца. Папрі́ўчуцца пырысяты у сенцы лезьць, палкыю ні атаб'есься, січас ні пускай. Як пыпрівучы́ліся пы сыдках лазіць, адбою ат іх ні було. У айцы прыпала мылако, дык у мяне ігняткі пыпріву́чывыліся с соскі ссаць.* ПАПРЫЎЧАНЫЙ, ПАПРЫЎЧОНЫЙ, ПАПРЫВУЧАНЫЙ, ПАПРЫВУЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Кыціняты папрі́ўчыны лазіць пы лаўкых. Яе дзеці пыпріўча́ны к пырядку. Змалку пыпріўчоныя рана ўстываць. Мае дайно пыпріву́чыныя к пырядку, усігда зы сабою прібіраюць. Каровы пыпрівуча́ны, што ў дваре пыткармліюць, дык і скусьць ня хочуць. Глядзець сябе ні пыпріву́чывыны, кідаюць усё айдзе зря.* ПАПРЫЎЧОМШЫ, ПАПРЫВУЧОМШЫ *дзеепрысл. Каровы пыпріўчомшы у клевір бежч, спасу німа. Я знаю, к чаму яны пыпрівучомшы.*

ПАПРЫЦАНЯЦЦА, ПАПРЫЦЭНІВАЦЦА *зак.* Прыцаніцца злёгку. *Як пойдзіш у горыд, пыпріцыня́йсь-ка к пырысятым, пачом яны сталі цяперя, ці пыдзішавелі. Я пыпріцэнівыўся: доргі каровы, зы німудрушку просюць восім сот.*

ПАПРЫЦІЦЬ *зак.* Прыйсці (пра ўсіх, многіх). *Нада ж іс такея далі пыпріці́ць ім, ні пыбыяліся пульгі, можна зублудзіцца уноччы.*

ПАПРЫЧЫТЫВАЦЬ *зак.* Паплакаць з прыгаворваннем. *Што ж ты зьдзелыіш, с таго сьвету ні падніміш, пыпрічы́тывылі ды рызыйшліся.*

ПАПРЫШПАНДОРЫВАЦЬ, ПАПРЫШПАНДО-

РЫЦЬ *зак.* Прыбіць моцна (пра ўсё). *Планкі ён ладна пыпрішпандорівыў, ні пытрываюцца. І етыя брусочыкі пыпрішпандорь!* ПАПРЫШПАНДОРЫВАЦЦА, ПАПРЫШПАНДОРЫЦЦА *зак.* Прыбіцца моцна (пра ўсё). *А во пыглядзі сам, як крепка ў яго пыпрішпандорівылыся. Як пыпрішпандоріцца доўгім гвозьдзім, будзіць дзіржацца.* ПАПРЫШПАНДОРЫВАНЫЙ, ПАПРЫШПАНДОРАНЫЙ *дзеепрым. Я віджу, што ў цябе тута нічога пыпрішпандорівына. Як ні пыпрішпандоріна, а дзяржыцца, ні атва́ліiцца.*

ПАПРЫШЧАМЛІВАЦЬ, ПАПРЫШЧЭМЛІВАЦЬ, ПАПРЫШЧАМЛЯЦЬ *зак.* 1. Прышчаміць многае. *Як пыпрішча́млівыіця рукі, я ня буду рітуваць, ні лазьця тама. Бёрны ускацілі на хворыст, пыпрішчэмлівылі, што ня выцігнуць. Ім нядоўга і пальцы пыпрішчымля́ць.* 2 *перан.* Абмежаваць многіх. *Іх і нада було пыпрішча́млівыць, каб хуць нямнога уняліся. Бацька толька пріедзіць, так пыпрішчэмлівыіць, што ня пікнуць. Раншы яны ухадору ні знал*і, ды новый стыршына троху пыпрішчымля́ў.* ПАПРЫШЧАМЛІВАЦЦА, ПАПРЫШЧЭМЛІВАЦЦА, ПАПРЫШЧАМЛЯЦЦА, ПАПРЫШЧАМІЦЦА *зак.* Прышчаміцца (пра многае). *Глядзі, вярёўкі пыпрішча́млівыюцца, будзіш ірвацца. Нічога тута ні пыпрішчэмлівылыся, ты пыцягні кряпчэй. Канцы ў паплеціных пыпрішчымля́ліся, што ня выцігнуць. Бярьвеньня узгрузілі, і зыкладкі пыпрішчамі́ліся.* ПАПРЫШЧАМЛІВАНЫЙ, ПАПРЫШЧЭМЛІВАНЫЙ, ПАПРЫШЧАМЛЯНЫЙ *дзеепрым.* 1. Прышчэмлены (пра многае). *Ні выцягывыюцца достычкі, пыпрішча́млівыны. Айдзе ты етыя зыкладкі выцігніш, яны крепка пыпрішчэмлівыны. Воць цяперя вазіся, пыпрішчымля́ныя пальцы будуць доўга балець.* 2. Абмежаваны (пра многіх). *А таго пыпрішча́млівыны, што ні знал*і, пы якому сьвету ходзюць. Зукруцілі нысамі пыпрішчэмлівыныя, ні пыныравілыся дзісьцыплінка. Пыпрішчымля́ным, ім ня дужа пу душэ новыя нычальства.*

ПАПРЫШЧЫЦЦА *зак.* Прыкінуцца. *Папрі́шчыліся бальнымі, ці іхных хітрікыў ні знаіця: ета каб у лес ня ехыць.*

ПАПРЫШЫЦЬ *зак.* Прышыць усё. *Ды во ніяк ні сыбяруся гузікі пыпрішы́ць у цілагрейку.* ПАПРЫШЫВАЦЦА, ПАПРЫШЫЦЦА *зак.* Прышыцца (пра ўсё). *Ну пыдажджыця, можа сяньня лентычкі пыпрішыва́юцца. Калі ў цябе етыя лапікі пыпрішы́юцца, ходзіш, як ста-*

*ріц галеіўскій.* ПАПРЫШЫВАНЫЙ, ПАПРЫШЫТЫЙ *дзеепрым. Пыпрішываныя рукаўкі прідзіцца атпарывыць, кріва пулучылыся. Ну, тут гузікі крепка пыпрішыты, толька зь мясым можна вырвыць.*

ПАПУГАЙ *м.* Пудзіла. *Пыставіла ў ячмені два пупугаі, дык іх куры ня дужа быяцца.*

ПАПУЖАНЫЙ, ПАПУЖАТЫЙ *дзеепрым.* Папалоханы. *Крічаць пупужаныя куры, выскыч-ка глянь, каб ня тхорь іх гыняў. Нешта яны здрыгывыюцца абоя, усё дно як пупужатыя.*

ПАПУСЦІЦЕЛЬНІК *м.* Неахайнік. *Каб ты ня быў такей пупусьціцільнік, і к табе б як к чылавеку атнасіліся.*

ПАПУТКА *ж.* Спадарожная машына. *Думыў, прідзіцца пяшком дыбірацца, а тута папутка дыгнала — узялі, пыдвязьлі.*

ПАПУТНЕЦЬ, ПАПУТНЕЦЦА *зак.* Зрабіцца лепшым. *Не ўжо, ён, відна, ні разу ні пупутнеіць. Можа, пыдрастуць — пупутнеюцца, січас пряма паверьх дзяреўні ходзюць.*

ПАПУТНІК *м.* Спадарожнік. *Ні знаю, ці пупадзецца якей папутнік, удваіх ба луччы було ехыць.* ПАПУТНІЦА *ж. Во табе і папутніца, ды самыя Воршы разым ехыць.*

ПАПУХНУЦЬ *зак. перан. груб.* Паспаць працяглы час. *Ну што, нядзелі дзьве папух у цёткі, гываріліі, палку дроў ляніўся пірябіць.*

ПАПЫРХАЦЬ *зак.* 1. Пабегчы або пайсці скачкамі. *Вун ці відзіш, коні папырьхылі у вык.* 2 *перан.* Праявіць актыўнасць. *Што ён будзіць у суд пыдываць, папырьхыіць ды асядзіцца, сам вінуват кругом.*

ПАПЯКАННЕ *н.* Папрок. *Ну што мне яе пыпіканьня, я ні словічка ні пры каго ні гываріла.*

ПАПЯЛЕТАЦЬ, ПАПЯЛЕТАВАЦЬ *зак.* З'есці шмат. *Столька крупені було ныварІна, калі яны пасьпелі пыпялетыць. Тыкая кынпанія сыбралыся, чаго ні пыпялетывыюць.* ПАПЯЛЕТАНЫЙ, ПАПЯЛЕТАВАНЫЙ *дзеепрым. Капуста пыпялетына у абеды. Пустэя гаршкі стыялі, усё пычыстую пыпялетывына.*

ПАПЯЛУШКІ *мн.* Дробныя яблыкі, дзічкі. *Як ён есьць етыя пыпялушкі, іх жа ў рот нільзя ўзяць. Памянш.* ПАПЯЛУШАЧКІ. *Сыбярі пыпялушычкі адзьдзельна ў карзіну, сьвіньням спарюцца.*

ПАПЯРОЧАЧКА *ж. памянш.* Папярочка. *Пыпярёчыч-*

*кі атреж, толька прімякні, каб роўнінька, ды прібіваць пычанём.*

ПАРАГАТАЦЬ *зак.* Паіржаць (пра каня). *Жарёбка адна пырігытáла, іна прівыкла ўсігда с конімі і с конімі.*

ПАРАДЗІЦЬ *незак.* Наводзіць парадак. *Як узяліся кучыю двор пырáдзіць, усё рызьвярнулі, кінулі і пашлі,— во пыряччыкі.*

ПАРАДЗІЦЬ *зак.* Нарадзіць шмат. *Што каб етым дзеўкым ды тэя хлопцы, пы пяціра б пырадзíлі. Пырадзíць умеюць, во гудуваць — каб матка з бацькыю гудувалі.*

ПАРАДЧЫК *м.* Той, хто наводзіць парадак. *Узяўся за двор пырáччык, мяцець, паленьня пірікладывыіць.*

ПАРАЖНЁМ *прысл.* Паражняком. *Каціілі пыражнём сь песьнімі, відна, пы чаркі ў горыдзі піріпала.*

ПАРАЖНІ *мн.* Парожнія сродкі транспарту. *А вун кыла Голысывых стыяць пыражні, зыпрягі і прівязеш капёшку.*

ПАРАЖНІЦЬ *незак.* Спаражняць. *Што ты ні прідумыіш, куды вядро пыражнíць, вылівай у чугун.* ПАРАЖНІЦЦА *нéзак.* Спаражняцца. *Нынасілі вады, што пыражнíцца некуды.*

ПАРАЗАДРАЦЬ *зак.* 1. Парваць шмат. *Пырызыдрáў ны сабе рубашкі, зь дзеріў ні злазíць, зышываць ні спруўляюся. 2 перан.* Разбаранаваць з цяжкасцю. *Тута толька цяжолыю быраною пырызьдзяреш каўрігі.*

ПАРАЗАРАНЫЙ, ПАРАЗАРАТЫЙ *дзеепрым.* Разбураны (пра ўсё). *Німа там нічога, пунькі пырызырáныя відны. Асталіся на полі пырызырáтыя гнязьдзечкі, етых балыўнікыў работа.*

ПАРАЗАСПАЦЦА *зак.* Разаспацца моцна. *Пырызыспáліся мае вочкі малінькія і пыднімацца ня хочыцца.*

ПАРАЗБАНДУРЫВАЦЬ, ПАРАЗБАНДУРЫЦЬ *зак.* Разбурыць, развярнуць усё. *Пырызбандўрівыць лёхка, а сыбіраць дужа трудна. Аборкі пырыспыхалі, пырызбандўрілі, балота рыскывірялі, пустуіць. Гумны тады пырызбандўрілі, думылі бальшоя строіць, сьцены выгнулі, а верьх ня зьдзелылі.* ПАРАЗБАНДУРЫВАЦЦА, ПАРАЗБАНДУРЫЦЦА *зак.* Разбурыцца, развярнуцца (пра ўсё). *Многа чаго ны нашый паміці пырызбандўрівылыся. Буваіць, і ня думыіш, яно само пырызбандўріцца.* ПАРАЗБАНДУРЫВАНЫЙ, ПАРАЗБАНДУРАНЫЙ *дзеепрым. Нічога аць Сьвірідзёнкыў ні асталыся, двары іх пырызбандўрівыны. Тэя гумны ішчэ ды нашый паміці пырызбандўріны.*

ПАРАЗБАЎТЫВАЦЬ, ПАРАЗБОЎТЫВАЦЬ, ПАРАЗБАЎТАЦЬ *зак. перан.* Разбалбатаць усюды. *Зу зубамі нічога дзіржаць ня ўмеюць, усё пырызбáўтывыюць. Ці доўга такім тряплівым пыразбоўтывыць. Ня столька нарошня пурузбуўтáлі, ета натура тыкая.* ПАРАЗБАЎТЫВАЦЦА, ПАРАЗБОЎТЫВАЦЦА, ПАРАЗБАЎТАЦЦА *зак.* Разбалбатацца ўсюды. *У іх што хочыш пырызбáўтывыіцца. Сколька такім ні пріказывый, каб муўчалі, пыразбоўтывыіцца к вечыру. Як жа ні пурузбуўтáіцца, кылі яны ўцерьпіць ня могуць.* ПАРАЗБАЎТЫВАНЫЙ, ПАРАЗБОЎТЫВАНЫЙ, ПАРАЗБАЎТАНЫЙ *дзеепрым. У скрысеньня було пырызбáўтывына, Сахвеіна дычка пріхадзіла. Я тожа знаю, калі ета пыразбоўтывына. А ці мы ні пынімаім, длі чаго пры Пынасывых пурузбуўтáна.*

ПАРАЗБЕЖЦА *зак.* Разбегчыся (пра ўсіх). *Каровы пыразьбегліся, мульчуганы ня могуць справіцца, ні прідумыюць, зы якою бежч.*

ПАРАЗБІЦЬ *зак.* Разбіць усё. *Каб глутырья пыразьбіў, скырадзілыся б луччы.* ПАРАЗБІЦЦА *зак.* Разбіцца (пра ўсё). *Прібярі прілепліныя кушункі, пырызаб'юцца.* ПАРАЗБІТЫЙ *дзеепрым. Тама шклянкі ат пыразьбітых бутылык, падмесьць нада.*

ПАРАЗБУРЫЦЬ *зак.* Разбурыць усё. *Глядзі, каб каровы к копым ні пыцскачылі, січас пыдряд пыразбýрюць.* ПАРАЗБУРАНЫЙ *дзеепрым. Праедзь во пу любой дзяреўні: хаты кінутыя, пуні пыразбýрiныя,— нічога нікому ні нада.* ПАРАЗБУРОМШЫ *дзеепрысл. Кучкі твайго хворысьця пурузбурёмшы, мы ішлі міма.*

ПАРАЗБУШАВАЦЦА *зак.* 1. Пачаць моцна бушаваць. *Бурі як пурузбушýюцца, могуць дзерівы пывывырáчывыць.* 2 *перан.* Пачаць буяніць (пра многіх). *Выпілі на ксьціных, пурузбушувáліся, што чуць унялі.*

ПАРАЗВАЛІЦЬ *зак.* Разваліць усё. *Хворыст быў акуратнінька складжын у трі кучкі, а дзеці тулуваліся, пырызвалілі.* ПАРАЗВАЛІВАЦЦА, ПАРАЗВАЛІЦЦА *зак.* 1 *перан.* Разлегчыся (пра ўсіх). *Пырызвáлівыюцца, ды абедый ні пыдняць. Пырызваліліся на сьвежым сені, вылежывыюцца.* 2 *метаф.* Вырасці празмерна вялікім (звыч. пра гародніну). *Быракі ажно пырызвáлівыліся на пунішчы, два бярі і хваціць несьць. Зімля харошыя, гною многа укладжына, дык кычаньня прями пырызвалілыся.* ПАРАЗВАЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пасьці ўсе бабкі пырызвáліны, ці ні пабегылі тама ціляты.*

ПАРАЗВАРАЧЫВАЦЬ, ПАРАЗВЯРНУЦЬ *зак.* 1.

Разгарнуць усё. *Што тама у іх у газетых, пырызвыра́чывый. Пырызьвярну́лі сваe вузялкі, глядзіця.* 2 *перан.* Разбурыць усё. *Ма́лыя адурюва́лі, парызвыра́чывылі прясла. Ета мальцы ў жмуркі гулялі, хуваліся, пырызьвярнулі салому, што ні пыдыйціць.* ПАРАЗВАРАЧЫВАЦЦА, ПАРАЗВЯРНУЦЦА *зак.* 1. Разгарнуцца (пра ўсё). *Ніхай пыляжыць завёрнутыя, пырызвыра́чывыіцца посьлі.* 2. Разбурыцца (пра ўсё). *Пунькі пырызвыра́чывыліся, зь іх і дроў путных ня будзіць. Бярьвеньня пырызьвярну́лыся, дзірькі, што сыбакі ўлезуць.* ПАРАЗВАРАЧЫВАНЫЙ, ПАРАЗВАРОЧЫВАНЫЙ, ПАРАЗВЕРНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Разгорнуты (пра ўсё). *Твае кулькі ужо пырызвыра́чывыны. Бумага пырызварочывына, нічога ў ёй аньціресныга німа. Глядзі, што яны прінясьлі, на ўслоні ляжыць пыразьвернутыя.* 2. Разбураны (пра ўсё). *Баі дужа цяжолыя былі, стыялі двары пырызвыра́чывыныя. Стахоўшчына пырызварочывына, ажно страшна глядзець. У сенцых так пыразьвернута, як тама выйна была.*

ПАРАЗВАРЗЁКЫВАЦЬ, ПАРАЗВАРЗЁКАЦЬ *зак.* Размазаць, расквэцаць усё, усюды. *Ня столька наелі, сколька пырызварзёкывылі яешню пы скыўрадзе. Пырызварзёкыў пу тубурецiку кулеш наш ядун.* ПАРАЗВАРЗЁКЫВАЦЦА, ПАРАЗВАРЗЁКАЦЦА *зак.* Размазацца, расквэцацца (пра ўсё, усюды). *Бульба пыд нытамі пырызварзёкывылыся, во што ета. Пыдмяці ўсе крошычкі, ато патопчуцца і пырызварзёкыюцца.* ПАРАЗВАРЗЁКЫВАНЫЙ, ПАРАЗВАРЗЁКАНЫЙ *дзеепрым. Сьмітана пырызварзёкывына пы скацірсьці, яны рызьлілі ці што. Глядзі, тама сала пырызварзёкына, січас рукавы увапреш.*

ПАРАЗВАРЫЦЬ *зак.* Разварыць моцна. *Мяса пырызварілі, нада було раншы дыстываць сь печы.* ПАРАЗВАРЫЦЦА *зак.* Разварыцца моцна. *Бульба як пырызва́ріцца, іна ну кулеш зьдзелыіцца.* ПАРАЗВАРАНЫЙ *дзеепрым. Я люблю пырызва́рінью квасолю, іграз пы маіх зубах.* ПАРАЗВАРОМШЫ *дзеепрысл. І сяньня ў цябе галычкі пырызварёмшы.*

ПАРАЗВЕШЫВАНЫЙ, ПАРАЗВЕШАНЫЙ *дзеепрым.* Развешаны (пра значную колькасць). *Вы ня відзілі, сколька чаго у Зьмітракоўны пыразьвешывына. Аногды пычанець сыбіраца дождж, пыразьвешыныя бяльлё зьнімі.*

ПАРАЗВІНЧЫВАЦЬ, ПАРАЗВІНЦІЦЬ *зак.* Развін-

ціць усё. *Якея былі віньцікі, пыразьві́нчывый. Ці ты можыш пырызьвіньціць, што тута завінчына?* ПАРАЗВІНЧЫВАЦЦА, ПАРАЗВІНЦІЦЦА *зак.* 1. Развінціцца (пра ўсё). *Шуріку толька ўзяцца, у яго мігым пыразьві́нчывыіцца. Машынкі яго пырызьвіньці́ліся, а цяперя ні сыбярець.* 2 *метаф.* Зрабіцца свавольнікамі (пра ўсіх). *Не, мае мальчыкі, вы настолька пыразьві́нчывыліся, што ны вас вярёўка нада. За лета пырызьвіньці́ліся, як некыму було ў руках дзіржаць.* ПАРАЗВІНЧЫВАНЫЙ, ПАРАЗВІНЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Развінчаны (пра ўсё). *Вінты пыразьві́нчывыны, цяперя папробый-ка гайкі пыдыбраць к кажныму. Абея кыляскі пыразьві́нчыны, сыбіраць нада.* 2. Такія, якія зрабіліся свавольнікамі. *Ба́лыўныя мальцы, пыразьві́нчывыныя. Яе большыя хлопцы пыразьві́нчыныя.* ПАРАЗВІНЦЁМШЫ *дзеепрысл. Усё пырызьвіньцёмшы, ці сыбяреш ты ныҙад.*

ПАРАЗВЯЗАЦЬ *зак.* Развязаць многае. *Пырызьвяжы́ ты яму шнурочыкі, ён зацісную́, хліпкыіць.* ПАРАЗВЯЗАЦЦА *зак.* Развязацца (пра многае). *Дарогыю пыглідай ны мяшкі, каб ні пырызьвіза́ліся.* ПАРАЗВЯЗАНЫЙ *дзеепрым. Твае вузлы пырызьвя́зыны, раськідыюцца абрезычкі. Ну, вузялкі пырызьвіза́ны, бярі вожкі.*

ПАРАЗГАДАВАЦЬ *зак.* Разгадаваць моцна. *Што ім атходзіць, крысьнілям еткім, пурузгудува́лі сабе морды і ўсё.*

ПАРАЗГАНЯЦЬ, ПАРАЗАГНАЦЬ *зак. перан.* Разараць пры капанні (пра бульбу). *Пакуля прішлі кыпальшчыцы, ён пасьпеў пырызгыня́ць барозны. Стыряйся раншы пырызыгна́ць бульбу, ато зы канём пріскочуць, гвалту надзелыюць.* ПАРАЗГАНЯЦЦА, ПАРАЗАГНАЦЦА *зак.* Разарацца пры капанні (пра бульбу). *Ніхай астаюцца етыя быразёнкі, посьлі беда пырызгыня́юцца. Ці пыразгоніцца ж бульба, каб кыпальніцы ні стыялі.* ПАРАЗГАНЯТЫЙ, ПАРАЗАГНАТЫЙ *дзеепрым. Бульба пырызгыня́та, толька спраўціся выбіраць. Пырызыгна́тыя борызны нада абізацільна схваціць, нілізя наныч кідаць.*

ПАРАЗГНЯЎЛЁНЫЙ *дзеепрым. іран.* Моцна пакрыўджаны (пра многіх). *Ні знаю, чаго яны пырызгняўлёныя, старэй нічога ім ні кызаў.*

ПАРАЗГРЭСЦЬ *зак.* Разгрэбці ўсё, у розных месцах. *Гнільлё нада пыразгресьць, ніхай пацсохніць, тады спаліцца, каб ні вылялыся.* ПАРАЗГРАБАЦЦА, ПАРАЗГРЭСЦА *зак.* Разгрэбціся (пра ўсё, у розных месцах).

*Калі ў цябе етыя зывалы пырызгрібáюцца? Во тута пырызгрябецца, пацсохніць ды нада будзіць палкі пыскладывыць.* ПАРАЗГРЭБЕНЫЙ *дзеепрым. Грядкі пыразгребіны, куры цалюхтынькій дзень кыпалі.*

ПАРАЗГУКЫВАЦЬ, ПАРАЗГУКАЦЬ *зак. метаф.* Растраціць шмат. *Ці ім доўга умеючы пыразгýкывыць пасьледнія капейкі, што на хлеб ні астаніцца. Бяс толку пыразгýкылі грошы, маглі пастройчыну якую купіць.* ПАРАЗГУКЫВАНЫЙ, ПАРАЗГУКАНЫЙ *дзеепрым. Ежылі пыразгýкывына, то позна жалець, нада було жалець да етыга. Сколька чаго ў іх пыразгýкына, ета ні сышчытаць.*

ПАРАЗГУЛІВАЦЦА, ПАРАЗГУЛЯЦЦА *зак.* 1. Разгуляцца (пра многіх). *Пыразгýлівыліся ціляты ну лугу, брыкыюць. Ох, мылышы пурузгулялíся, піхнуць адзін аднаго і рягочуць.* 2 *метаф.* Звыкнуць. *Дзяржы цяперь у руках, пыразгýлівыюцца — тады ні ўспакоіш. Былі як пурузгулялíся пы сыдках лазіць, уніму ні знали. Тоя ўремя так пурузгулялíся красьць, такоя зладзейства пашло, што дыхыць було нечым.*

ПАРАЗДАВАЦЦА, ПАРАЗДАЦЦА *зак.* Раздацца па частках (пра ўсё). *Былі ў яе бутылычкі, а так, бяс толку пырыздывáліся. Пырыздáцца — ета нядоўга, нада глядзець, сабе ці астаніцца.* ПАРАЗДАНЫЙ, ПАРАЗДАДЗЕНЫЙ, ПАРАЗДАДЖАНЫЙ, ПАРАЗДАТЫЙ *дзеепрым. Ты ўжо даўно зьбіраісься сыйскывыць пырыздáныя стамескі. Ходзіць пы дзяреўні, сыбіраіць пырыздáдзіный інструмент. Німа ў Мары ніякія квасолі, уся пырыздáджына. Трудна цяперя пырыздáтыя грошы спрашывыць.*

ПАРАЗДЗЕЦЬ *зак.* Раздзець многіх. *Мáлых пыразьдзень ды кладзі спаць, яны набегыліся, хваціць.* ПАРАЗДЗЕЦЦА *зак.* Раздзецца (пра многіх). *Так зымарíліся за дзень, што чуць пыразьдзеліся, каб ны сяньнік зываліцца.* ПАРАЗДЗЕТЫЙ *дзеепрым. Куды вы пыразьдзетыя выскакывыіця, тыкая хыладзіна ны дваре.*

ПАРАЗДРУІВАЦЬ *зак.* Зрабіць расквашаным, перамешаным з вадой усюды (у адлігу). *Так пыраздрýівыла, шагу ступіць нілізя.* ПАРАЗДРУЕЦЬ *зак.* 1. Зрабіцца расквашаным, перамешаным з вадой усюды (у адлігу). *Скора можыць пуруздруець, дарогі ні станіць, да горыда ні дыбяресься, схадзі сяньня абізацільна.* 2 *перан.* Распаўнець (пра многіх). *Усё абіджаюцца, дренна ім, а самі пуруздруелі, што ўчыцьвярых рукамі ні апхваціш.* ПА-

РАЗДРУІВАЦЦА *зак.* Зрабіцца расквашаным, перамешаным з вадой усюды (у адлігу). *Зімля вадою ныпіталыся, пыраздру́івылыся, як станіш, так і топісься.*

ПАРАЗ'ЕСЦА *зак.* Раз'есціся (пра многіх). *Пыразьеліся зы два месіцы, як кыбаны сталі, хуць сала зь іх крой.* ПАРАЗ'ЕДЖАНЫЙ, ПАРАЗ'ЕТЫЙ *дзеепрым.* Раз'-едзены (пра многае). *Адз залы́ такея пыразьеджыныя рукі, нада вызіліным пымазыць. Такея былі пыразьетыя раны, ажно страх глянуць.*

ПАРАЗЗЯПЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Расчынены (пра ўсё). *Дзьвері пырызьзя́плівыны, я пугукала — ніхто ні адззываіцца.*

ПАРАЗІЦІНА *узмацн.,* ПАРАЗІЦІШЧА *павеліч. м.* і *ж.* Паразіт, нягоднік. *Вы пакуль што ні знаіця, што ён зы пыразі́ціна. Тыкая пыразі́ціна была, што на сьвецi ні сыйскаць большыя. Во яшчэ пыразі́цішча чылавек, як яго толька зімля носіць.*

ПАРАЗЛАМАТЫЙ *дзеепрым.* Разламаны (пра множства). *Пряслы такея пурузлума́тыя, што ў іх нечыга чыніць, нада новыя ставіць.*

ПАРАЗЛЕЖЦА *зак.* Разлегчыся (пра многіх). *Як паны пырызьляглі́ся, ты ім есьць гатуй, а яны будуць вылынґацца.*

ПАРАЗЛІЦЬ *зак.* Разліць шмат. *Ма́лыя ваду пырызьлілі́, ажно пыд мяшкі пыцякло.* ПАРАЗЛІЦЦА *зак.* Разліцца (пра значную колькасць). *Шагу нійдзе нільзя ступіць, усюдых пырызьлілося.* ПАРАЗЛІТЫЙ *дзеепрым.* *Усё пыразьлі́тыя нада сухою тряпкыю пацьцерць.*

ПАРАЗЛЯЦЕЦЦА *зак.* Разляцецца (ва ўсе бакі ў мностве). *Нейкій махмуд узьвёз курей ны бызар у яшчыку, аччыніў: глядзіця,— а яны пырызьляцеліся ды днае.* ПАРАЗМАТЫЧЫВАЦЬ, ПАРАЗМАТЫЧЫЦЬ *зак.* Узматычыць усё, усюды. *Сколька лясоў було кругом — пывысі́калі, тады пырызматы́чывылі. Бальшыя ляды былі там, пырызматы́чылі.* ПАРАЗМАТЫЧЫВАЦЦА, ПАРАЗМАТЫЧЫЦЦА *зак.* Узматычыцца (пра ўсё, усюды). *І астатнія клінкі скора пырызматы́чывыюцца, нічога ні астанецца. Ну Вуглах такея сосны былі, а посьлі вайны і тама пырызматы́чылыся.* ПАРАЗМАТЫЧЫВАНЫЙ, ПАРАЗМАТЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Мы думылі, у Лібісых усё цэла, ажно і тама пырызматы́чывына. Харошыя аблоҗыны былі, а цяперя пырызматы́чыныя пустуюць.*

ПАРАЗМАХАЦЬ, ПАРАЗМАХЫВАЦЬ *зак.* 1. Расшпурляць (пра мноства). *Нашто вы моркву пырызмы-*

*хáлі, а ну-ка сыбірайця нызад. Ды карзінкі дыбраўся і пырызмáхывыў бульбу.* 2 *перан.* Растраціць, растранжырыць па частках. *Іс сваім рыспырядзіўся і цёшчын двор пырызмыхáіць, у яго ні зацэлііць. Папомніш маё слова, што і хаты пыпрыдадуць, пырызмáхывыюць.* ПАРАЗМАХАЦЦА, ПАРАЗМАХЫВАЦЦА *зак.* 1. Расшпурляцца (пра мноства). *Чаго йта у вас быракі пырызмыхáліся? У нашых балыўнікыў што хочыш пырызмáхывыіцца.* 2. Растраціцца, растранжырыцца па частках. *Раз гылыва бяздумныя, у такога пырызмыхáіцца быйстра, нічога ні задзержыцца. Троху і грошы було, а так на веціp пырызмáхывыліся.* ПАРАЗМАХАНЫЙ, ПАРАЗМАХЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Расшпурляны (пра мноства). *А чаго бульба апяць пырызмáхына? Ужо ўзноў тваe катушкі пырызмыхáныя выляюцца. Учора склаў палычкі пыц стряху, а сяньня пырызмáхывыны.* 2. Растрачаны, растранжыраны па частках. *Што ты, можа пы пырызмáхыных капейкых бядуіш? Як жа ня будзіць пырызмыхáна, ежылі у гылаве веціp сьвішчыць. Многа чаго пырызмáхывына за жысьць.*

ПАРАЗМЫКАЦЬ *зак.* Адамкнуць усё. *Пырызмыкáй пуні, будзім скот карміць.* ПАРАЗМЫКАЦЦА *зак.* Адамкнуцца (пра ўсё). *Пастой мінутку, пырызмыкáюцца дзьвері, тады пойдзім.* ПАРАЗМЫКАНЫЙ *дзеепрым. Чаго ты бурчыш, вароты дайно пырызмыкáны, ідзі, куды хочыш.*

ПАРАЗМЫКЫВАЦЬ, ПАРАЗМЫКАЦЬ *зак.* Растраціць, параздаваць па дробязях. *Трошку було сіміна, дык пыразмыкывыла то тому, то другому. Аднаму-другому пыразмыкыла ніткі, цяперя самой німа.* ПАРАЗМЫКЫВАЦЦА, ПАРАЗМЫКАЦЦА *зак.* Растраціцца, параздавацца па дробязях. *Неік нізаметна пыразмыкывылыся цыбуля. Яно пыразмыкылыся нізаметна і самой ні хвытаіць.* ПАРАЗМЫКАНЫЙ *дзеепрым. У цябе і пасьледнія будзіць пыразмыкына, нічога ні пріблюдзеш.*

ПАРАЗНЮХЫВАЦЬ, ПАРАЗНЮХАЦЬ *зак. перан.* Выведаць таемна ўсё. *Тэй лідыгышчаніц прыспалітный мушчына, што хочыш пыразьнюхывыіць. Пойдзіць як глумачок с аброцімі, уродзі коні ішчыць, пры пырцізан пыразьнюхыіць і немцым дыкладзець.* ПАРАЗНЮХЫВАЦЦА, ПАРАЗНЮХАЦЦА *зак.* Выведацца таемна (пра ўсё). *А што ў іх пыразьнюхывыіцца, зь імі ніхто дайжа гываріць ні станіць. Ну да, ета ні абы-якей сыйшчык, у яго так проста пыразьнюхыіцца.* ПАРАЗНЮХЫ-

ВАНЫЙ, ПАРАЗНЮХАНЫЙ *дзеепрым. Ні знаю, што ў іх пыразьнюхывына, па-моййму, толька дзелыюць від, што знаюць. Тута Дзімідзёнык быў на прошлый нядзелі, во калі ета пыразьнюхына.*

ПАРАЗРАБАТЫВАЦЬ, ПАРАЗРАБОТЫВАЦЬ, ПАРАЗРАБОТАЦЬ *зак.* Распрацаваць, апрацаваць многае. *Тута якей лес быў, а во пырызрыбáтывылі зямлю, каторый год сеюць. Ляда нада пырызработывыць, на ім ладна лён расьцець. Лажкі пырызработылі, тады кінулі, яны ўзноў зырасьлі.* ПАРАЗРАБАТЫВАЦЦА, ПАРАЗРАБОТЫВАЦЦА, ПАРАЗРАБОТАЦЦА *зак.* Распрацавацца, апрацавацца (пра многае). *Зразу посьлі рівалюцыі многа зямлі пырызрыбáтывылыся. Ныўряд ці пырызработывыюцца калі етыя кускі. Так ні астануцца, пырызработыюцца налета і лашчынкі.* ПАРАЗРАБАТЫВАНЫЙ, ПАРАЗРАБОТЫВАНЫЙ, ПАРАЗРАБОТАНЫЙ *дзеепрым. Раншы тама ні разу ні пыхалыся, а цяперя ладна пырызрыбáтывына. Ны Кіреівым нямнога пырызработывына. Равы пірід вайною былі пырызработыны, як у нас атрезылі.*

ПАРАЗРОСЦА *зак.* Разрасціся (пра ўсё, усюды). *Лазе нядоўга пыразросца, і аткуль іна толька бярецца.*

ПА-РАЗУМНАМУ *прысл.* Прадумана, мэтазгодна. *Тута можна було пы-разýмныму зьдзелыць, біс суда абыйціцца.*

ПАРАЗУМНІЦЬ *зак.* Зрабіць разумным, навучыць думаць, разважаць. *Я яго пурузумню́, калі ён такей нісмышлёнуш.*

ПАРАЗУРАТНІЧАЦЬ, ПАРАЗУРАТНІЧАЦЦА *зак.* Пазаймацца распустай. *Тута яму доўга пурузурáтнічыць ні дадуць, ніхай ні надзеіцца. Пынаехылі чорт знаіць аткуліцька, пурузурáтнічыліся лета.*

ПАРАЗЫЙСКЫВАЦЬ, ПАРАЗЫЙСКАЦЬ *зак.* Знайсці многае, многіх. *Самі пыразы́йскывыйця мячыкі. Яе дычка доўга пісала усюдых, пакуля пыразы́йскывыла дзяцей. У горыдзі нейкіх сваіх родзічыў пырызыйскáлі.* ПАРАЗЫЙСКЫВАЦЦА, ПАРАЗЫЙСКАЦЦА *зак.* Знайсціся (пра многае, многіх). *Во і ў Міркулёнка стáрыя друзья пыразы́йскывыліся. А пыразы́йшчуцца тваё патпілкі. Як у цябе што-небудзь зывядзецца, тады знакомцы пыразы́йшчуцца ны гатовінькыя.* ПАРАЗЫЙСКЫВАНЫЙ, ПАРАЗЫЙСКАНЫЙ *дзеепрым. Ты знаіш, айдзе яны пыразы́йскывыны? — айдзе-то далёка-далёка ў Сібірі. Штоб інструмент быў пырызыйскáн, іш, узялі прівычку рызвылáкывыць усё ніізьвесна куды.*

ПАРАЗ'ЯЗДЖАЦЦА *зак. перан.* Разваліцца, рассунуцца ў розныя бакі. *Нығырадзілі як зря, салома пырызьіжджалыся, пірікладывый наныва.* ПАРАЗ'ЕХАЦЦА *зак.* 1. Раз'ехацца (пра многіх). *А ты думыіш, у нас меншы людзей пыразьехылыся, молыдзіжы саўсім ні асталыся.* 2. Разваліцца, рассунуцца ў розныя бакі. *Клалі, клалі, хворысьця пыразьехылыся,— нікуратна дзелылі.* ПАРАЗ'ЕХАНЫЙ *дзеепрым.* Развалены, рассунуты ў розныя бакі. *Во строілі дык строілі: сьценкі пыразьехыны, іш шульля вываліюцца.* ПАРАЗ'ЕХАЎШЫ *дзеепрысл.* 1. Раз'ехаўшыся. *Дывялі дык дывялі: цэлыя дзяреўні пыразьехыўшы.* 2. Разваліўшыся, рассунуўшыся ў розныя бакі. *Тваё бярьвеньня пыразьехыўшы, нада акуратней лажыць.*

ПАРАНАЧКІ, ПАРОНАЧКІ *мн. памянш.* Паранка. *Дыставай-ка парінычкі, яны далжны быць гатовы, доўга кіпелі. Скот нада карміць, парёнычкі кажный дзень стынаўлю.*

ПАРАНІВАЦЬ *незак.* Раніць, наносіць раны. *Я сам ні прідумыю, сколька разоў пыранівыў ету руку: і нажом, і тыпаром, і долытым.* ПАРАНІВАЦЦА *незак.* Наносіцца (пра рану). *Глядзі ж, каб большы ні пыранівыцца ніййдзе.*

ПАРАНІЦЦА *зак.* Устаць рана. *Сяньня мы ні пыраніліся, позна ўсталі, посьлі бані ладна спалыся.*

ПАРАННІК *м.* Той, хто парыцца. *Рызахоціліся парірьнікі, што с пылка ня згоніш. Памянш.* ПАРАННІЧАК. *Ці відзіш, як тваё парірьнічкі стыряюцца адзін пііріда дным.* ПАРАННІЦА *ж. Дренныя зь яе парірьніца, ня хочыць лезьць ны палок.*

ПАРАПЯРЦІЦЬ *зак.* Падрыхтаваць, сабраць. *Калі пырipярціш, яны скарей выбіруцца.* ПАРАПЯРЦІЦЦА *зак.* Падрыхтавацца, сабрацца. *Вам тожа нада пырiпярціцца, нечыга заседжывыцца.* ПАРАПЯРЧОНЫЙ *дзеепрым. Яны і пырiпярчоныя ня дужа пытхвацюцца.* ПАРАПЯРЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ня трогый — дык будуць вылынгацца ды абеда, а пырiпярцёмшы, скарей пыцягнуцца.*

ПАРАСІЦЦА *зак.* 1. Апарасіцца. *У Матруніных нідаўна сьвіньня пырасілыся, як будуць прыдывацъ, я вазьму парычку: у іх усігда харошыя свіньні.* 2. Нарадзіцца (пра парасят). *Етыя пырысяткі відна, што рана пырасіліся, ладнінькія ўжо.*

ПАРАСІЦЬ *зак.* Крыху намачыць, нібы расой. *Ён і дождж такей, алі ж сена пырасіў, ня будзіш гресьць.*

ПАРАСКАВЯРАЧЫВАЦЬ, ПАРАСКАВЯРАЧЫЦЬ *зак.* Раскапаць, разбурыць усё. *Пырыскывіря́чывылі салому, дождж нальлецъ, іна на гной возьміцца. Прясла пырыскывіря́чыў, куры узноў будуць ны гарод лазіць.* ПАРАСКАВЯРАЧЫВАЦЦА, ПАРАСКАВЯРАЧЫЦЦА *зак.* Раскапацца, разбурыцца (пра ўсё). *Хворысьця тваё пырыскывіря́чывылыся, што ні пуцступіцца. Увесь двор валіцца, сьценкі ў сьвіннарнічку пырыскывіря́чыліся, што зайціць страшна.* ПАРАСКАВЯРАЧЫВАНЫЙ, ПАРАСКАВЯРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Копы стыяць пырыскывіря́чывыныя, усё дно як нарошня хто дзелыў. Тама ні рыскыпана, а пырыскывіря́чына абложка.*

ПАРАСКАЗЫВАЦЬ, ПАРАСКАЗАЦЬ *зак.* Расказаць (пра ўсё). *Пятрок ні патоіць, пырыска́зывыіць пра іхныя прадзелкі. Каб пырыскыза́ць, што зь іх тваріпыся, дык вы зы гылаву схваціціся.* ПАРАСКАЗЫВАНЫЙ *дзеепрым. Казык табе многа пырыска́зывына, большы я ні знаю.*

ПАРАСКАПУСЦІЦЬ *зак. жарт.* Выклікаць паўнату (у многіх). *Во пырыскапу́сьціла Аўгеіхіных дачок, як пампушкі сталі.* ПАРАСКАПУСЦІЦЦА *зак.* 1. Распаўнець (пра многіх). *Скора і етыя пырыскапу́сьцюцца.* 2. Рассесціся шырока (пра многіх). *Тваe падругі пырыскапу́сьціліся кыла Шэнды ны скамеічкі.* ПАРАСКАПУШЧАНЫЙ *дзеепрым. Ідуць пырыскапу́шчыныя, чуць сунуцца.*

ПАРАСКАЧЫВАЦЬ *зак.* Раскаціць усё. *Пакуля коні пыдыгналі, хаты ўжо пырыска́чывылі, толька грузі ны рыскаты.* ПАРАСКАЧЫВАЦЦА *зак.* Раскаціцца (пра ўсё). *Склыдалі абы-як, бярьвеньня пырыска́чывылыся, цяперя узноў ірьвіся над ім.* ПАРАСКАЧЫВАНЫЙ, ПАРАСКОЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Вот некыму ж чысаліся рукі, палкі пырыска́чывыны пы ўсяму двару. Ну што, пыраскочывыныя нада ныззад скачывыць.*

ПАРАСКАШНЕЦЦА *зак.* Стаць больш раскошным. *Прібраў громызд, дык пырыскашнелыся і ў пуні, хуць зайціць можна.* ПАРАСКАШНЕЛЫЙ *дзеепрым. Ета як прібралі ўсё, і сенцы здаюцца пырыскашнелымі.*

ПАРАСКІДЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Раскіданы (пра ўсё, усюды). *Ого, сколька ў цябе цацык, відна, дзед нукупляў, ды нешта пыраські́дывыны.*

ПАРАСКРАСАВАЦЦА *зак.* Пажыць прывольна пэўны час. *Ну ніхай пыжывуць, пыглядзім, як яны тута пырыскрасу́юцца.*

ПАРАСКРАСЦЬ *зак.* Раскрасці шмат. *А сколька жыта пырыскра́лі, як мылацілі!* ПАРАСКРАСЦА *зак.* Раскрасціся (пра значную колькасць). *Яно ж так у кылікційным хызяйстві: што прібяруць, а што пырыскра́дзіцца.* ПАРАСКРАДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Як жа ня будзіць пырыскра́дзіна, калі ніхто ні за чым ні глядзіць.*

ПАРАСКРЫЦЬ *зак.* Раскрыць усё, усіх. *Разу нечыга було скату даць, крышы пыраскры́лі ды резь резылі. Ма́лым було жарка, я пыраскры́ла.* ПАРАСКРЫЦЦА *зак.* Раскрыцца (пра ўсё, усіх). *Дзеці пыраскры́ліся і сьпяць голінькія.* ПАРАСКРЫТЫЙ *дзеепрым. Хаты стыяць пыраскры́тыя, пустыя.*

ПАРАСКУЛАЧЫВАНЫЙ, ПАРАСКУЛАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Раскулачаны (пра многіх). *С пурускула́чывыными доўга ні цацкыліся: ны калёсы і ў Крічыў, а тама на поізд і ў белый сьвет. І ціріз нашу дзяреўню вязьлі пурускула́чыных, бабы глядзелі, плакылі.*

ПАРАСКУРОЧЫВАЦЬ, ПАРАСКУРОЧЫЦЬ *зак.* Развярнуць, раскапаць усё, усюды. *Вы ж двор пурускурочывылі, ну вас с такім шуканьнім! У лесі бальшэя кускі пурускурочылі, ныпрасна, ніхай ба лес рос.* ПАРАСКУРОЧЫВАЦЦА, ПАРАСКУРОЧЫЦЦА *зак.* Развярнуцца, раскапацца (пра ўсё, усюды). *Многа чаго пурускурочывылыся, цяперя пройдзіш і ні пызнаіш нічога. Скора і астатнія двары пурускурочуцца.* ПАРАСКУРОЧЫВАНЫЙ, ПАРАСКУРОЧАНЫЙ *дзеепрым. Былі харошыя аборычкі, дык пурускурочывыны, нійдзе ні кышанеш. Прайдзі па Кудрічых, як яны пурускурочыны,— ета ўласьць так пырядык наводзіць.*

ПАРАСКУСІЦЬ *зак.* Раскусіць усё. *Арехі дужа цьвёрдыя, ні пыраску́сіш, мылаточыкым бі.* ПАРАСКУСІЦЦА *зак.* Раскусіцца (пра ўсё). *У яго зубы войстрыя, што хочыш пыраску́сіцца.* ПАРАСКУШАНЫЙ *дзеепрым. Ма́лыму дывай пыраску́шыныя арехі.* ПАРАСКУСЁМШЫ *дзеепрысл. І сьліўкі, і яблыкі пакідылі пурускусёмшы.*

ПАРАСПАРАДЧЫЦЬ *зак.* Упарадкаваць. *Пыдажджыця, пад'едзіць Сахвея, іна быйстра тут пырыспыря́ччыць.* ПАРАСПАРАДЧЫЦЦА *зак.* Распарадзіцца. *Большый як пріедзіць, скора пырыспыря́ччыцца, доўга ждаць ні станіць.* ПАРАСПАРАДЧАНЫЙ *дзеепрым. Табе ні біда, у тваёй жызьні усё пырыспыря́ччына.*

ПАРАСПАСАДЖЫВАЦЦА, ПАРАСПАСАДЗІЦЦА *зак.* Растраціцца шмат, па частках. *Трошку було бырыхла, дык яно пырыспыса́джывылыся неік нізаметна. Сьпірва*

*вяліся капейчыны, а тады быйстра пырыспысáдзіліся.* ПАРАСПАСАДЖЫВАНЫЙ, ПАРАСПАСАДЖАНЫЙ, *дзеепрым. У бацькі було і грошы, і ўсяго, а цяперя пырыспысáджывына, нічога ні асталыся. Во, надумылыся ты спрашывыць, у яго дайно ды зяренца пырыспысáджына.*

ПАРАСПАСУДЖЫВАЦЬ, ПАРАСПАСУДЗІЦЬ *зак. жарт.* Растраціць спіртное ў бутэльках. *Ён умеіць пырыспасýджывыць дужа скора. Ты ж нідайна нескылька бутылычык з горыда прінёс, няўжэлі ўсё пырыспасýдзіў?* ПАРАСПАСУДЖЫВАЦЦА, ПАРАСПАСУДЗІЦЦА *зак.* Растраціцца (пра бутэлькі са спіртным). *Калі ні прібірягеш, дык пырыспасýджывыіцца быйстра. Нізаметна пырыспасýдзілыся, нічога ні асталыся.* ПАРАСПАСУДЖЫВАНЫЙ, ПАРАСПАСУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Што ўспымінаць, ежылі ў яго ды пасьледнія шклянкі пырыспасýджывына. А я думыў, у цябе яшчэ ня ўсё пырыспасýджына.*

ПАРАСПАСЦІРАЦЬ, ПАРАСПАСЦЕРЦЬ *зак.* Распасцерці (пра мноства). *Схадзі пырыспысьцірáй сьвірепку пы абложкі, сяньня сушка харошыя зь віцярком. Вун сколька палотныў пырыспасьцёрлі бяліцца.* ПАРАСПАСЦІРАЦЦА, ПАРАСПАСЦЕРЦЦА *зак.* 1. Распасцерціся (пра мноства). *Сыка пырыспысьцірáіцца і высыхніць, яе там нямнога. Айдзе ты пырыспастресься іс хворыстым, тута места німа.* 2 *перан.* Захапіць значную прастору (пра многіх). *Пырыспысьцірáліся ны паньській зямле, думылі, будуць век вікуваць. Пырыспасьцёрліся ны чатыры усядзьбы.* 3 *перан.* Падняць крык (пра многіх). *Сылдацёнкывы нявесткі пырыспысьцірáліся, кріку хваціла. Як пырыспастрýцца, ат іх пачуіш ніізьвесна чаго.* ПАРАСПАСЦІРАНЫЙ, ПАРАСПАСЦЁРТЫЙ *дзеепрым. Пырыспысьцірáныя рубашкі жыва прасохлі, сонца ды зь віцярком — суш харошыя. Што ў іх тамыцька пырыспасьцёрта на лужы, ніяк ні рызьбяру.*

ПАРАСПАЎЗАЦЦА, ПАРАСПОЎЗЦЦА *зак. перан.* 1. Разысціся павольна ў розныя бакі (часц. пра жывёлу). *Атвырачывый скот, ато пырыспаўзýцца каровы, што ні сыбяреш. Пырыспаўзьлíся ціляты пы ўсяму полю.* 2. Падзіравіцца ў розных месцах (пра адзенне). *Пакуля маліпькія дзірічкі, зуцурýй, ато пуруспуўзáіцца рубашка. Пуруспуўзлáся кохта кулу рубцоў і ны сьпіне.*

ПАРАСПАХАЦЬ, ПАРАСПАХЫВАЦЬ *зак.* Разараць усё, усюды. *Многа кустоў пырыспыхáлі, толька ці*

*засеюць яны. Могуць пырыспáхывыць і кінуць бяс толку, нічога ні пріпуцёмшы.* ПАРАСПАХАЦЦА, ПАРАСПАХЫВАЦЦА *зак.* Разарацца (пра ўсё, усюды). *Скора і пуд усядзьбымі абложкі пырыспáшуцца, мінецца вільгота. Многа лясоў пырыспáхывылыся.* ПАРАСПАХАНЫЙ, ПАРАСПАХЫВАНЫЙ *дзеепрым. Аборкі пырыспыхáны, пыгáджыны, ні засіву, ні травы. Пырыспáхывыныя кускі ліжаць бяс пользы, ныпрасна трудзіліся.*

ПАРАСПЕТАВАЦЬ, ПАРАСПЕТАЦЬ *зак.* Раскалоць з цяжкасцю шмат. *Усё калодзьдзя зу пуўдня пырасьпетывыў, ыработыўся. Пырасьпетыць такоя курчыжжа — нада прікласьць ды прікласьць сілу.* ПАРАСПЕТАВАЦЦА, ПАРАСПЕТАЦЦА *зак.* Раскалоцца з цяжкасцю (пра значную колькасць). *Кылі захочыш, усё ета пырасьпетывыіцца, толька зыхацець нада. Ні прідумыіш, ці пырысьпетыюцца такея зросткі.* ПАРАСПЕТАВАНЫЙ, ПАРАСПЕТАНЫЙ *дзеепрым. Пырасьпетывыныя курчыгі высыхнуць, ім толька ряд нада було даць. Ох, якоя пызакрýчывыныя кареньня пырасьпетына!*

ПАРАСПІВАЦЦА, ПАРАСПІЦЦА *зак.* Прывыкнуць да п'янства (пра многіх). *Пырысьпівáліся мушчыны, яны б чэмірі хвацілі, а ня толька сымагонкі. Калі ў руках ні дзіржаць, ня туркыць, пырызап'юцца, што нічога ня зьдзелыіш.*

ПАРАСПІНАЦЦА *зак. неадабр.* 1. Пакрычаць пэўны час. *Троху пырысьпінáўся і пашоў, відзіць, што ён нікому і ні брыдзіць.* 2. Раскрычацца (пра многіх). *Як пырысьпінáліся, як пынадзелылі гвалту, якога ты пырядку тама хацеў.*

ПАРАСПІХЫВАЦЬ, ПАРАСПІХАЦЬ, ПАРАСПІХНУЦЬ *зак.* Расштурхаць многіх. *Доўга такіх глумакоў пырасьпíхывыць. Ён вас адною рукою пырысьпіхáіць. Што яны кружка стануць, Яшка іх пырысьпіхнець і пойдзіць, куды яму нада.* 2 *перан.* Уладкаваць многіх. *Кулажонык пырасьпíхывыў дзяцей, асталіся удваіх — іс сваёю Мыланычкыю. Етый найдзіць дзірькі, пырысьпіхáіць мальцыў. Пырысьпіхнýла дзевык куды каторыю, адна асталыся.* 3 *перан.* Раздаць усё на частках. *То тому, то тому пырасьпíхывыла крошкі. Што ж ты воўну пырысьпіхáла, што сабе пасьці ні асталыся. Тады хадзілі з вобыйскымі, Пракоп ні стаў ждаць, пакуля пріедуць і выгрузюць, пырысьпіхнýў пы сваіх.*

ПАРАСПЛАДЖЫВАЦЬ, ПАРАСПЛОДЖЫВАЦЬ, ПАРАСПЛАДЗІЦЬ *зак.* Распладзіць шмат. *Іна табе*

*адна сучычка пырыспла́джывыiць сыбак на ўсю дзярэўню. Усякый гадысьцi як пырасплоджывыiць, во ат мух адбiцца нiлiзя. Аткулiцька iх пырыспладзiла, етых крыс?* ПАРАСПЛАДЖЫВАЦЦА, ПАРАСПЛОДЖЫВАЦЦА, ПАРАСПЛАДЗIЦЦА *зак.* Распладзiцца шмат. *Доўга кытам пырыспла́джывыцца? У вайну столька ваўкоў пырасплоджывылыся, кызалi, нейкiя сьцяпныя сюда пiрябеглi, скот резылi. Столька галык пырыспладзiлыся, вясною пряма спакою нi даюць, пруцьця у комiн носюць i носюць.* ПАРАСПЛОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Iхныга роду многа пырасплоджына, ува ўсiх дзiрiўнях кругом свае.*

ПАРАСПЛАЧЫВАЦЬ, ПАРАСПЛОЧЫВАЦЬ, ПАРАСПЛАЦIЦЬ *зак.* Расплацiць усiх. *Дзянiс, кылi нынiмаў жаць, усiгда стыряўся зразу пырыспла́чывыць дзевык. Зы работу нада ўсiгда воўрiмя пырасплочывыць. Табе людзi прiслужылiся, дык нi цягнi, пырысплацí.* ПАРАСПЛАЧЫВАЦЦА, ПАРАСПЛОЧЫВАЦЦА, ПАРАСПЛАЦIЦЦА *зак.* Расплацiцца з усiмi. *Яны многа грошы ныпызычалi, ну ўскорысьцi пырыспла́чывылiся. Ты ж пырасплочывыйся зь людзямi, нiкрасiва, каб зы табою бегылi, сыйскывылi. Мы, калi далжны, глядзiм, каб зразу пырысплацíцца.* ПАРАСПЛАЦЁМШЫ *дзеепрым. Як пырысплацёмшы, тады ты спакоiн, нiчога цябе нi бадзець.*

ПАРАСПЛУТУХАЦЬ *зак.* Разблытаць усё. *Нада пурусплутуха́ць вярёўкi.* ПАРАСПЛУТУХАЦЦА *зак.* Разблытацца (пра ўсё). *Ня дужа суваi пурусплутуха́юцца, як зацiснуцца.* ПАРАСПЛУТУХАНЫЙ *дзеепрым. Зразу мытай пурусплутуха́ныя нiткi ну клубок.*

ПАРАСПРАЦЬ *зак. перан.* Разбiць (пра мноства). *Як пырысьпяру́ць айдзе голывы, тады вы дылазiцiся.*

ПАРАСПУТЫВАЦЬ *зак.* Распутаць многiх. *Што ты iх пысылаiш, яны цi ўмеюць конi пыраспу́тывыць.* ПАРАСПУТЫВАЦЦА *зак.* Распутацца (пра многiх). *Памойму, самi яны пыраспу́тывыцца нi маглi, нехта нарошня распутывыў.* ПАРАСПУТЫВАНЫЙ *дзеепрым. Глядзiм: жырiбяты пыраспу́тывыныя бегыюць.*

ПАРАССЕЧ *зак.* Рассячы шмат. *Такея курчыгi пырасьсеч сiлухна ды сiлухна нада.* ПАРАССЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Пырасьсечыныя зросткi складзi пат крышу, нiхай сохнуць.*

ПАРАССКАРАДЖЫВАЦЬ, ПАРАССКАРОДЖЫВАЦЬ, ПАРАССКАРАДЗIЦЬ *зак.* Разбаранаваць усё, усюды. *Такоя камлыжжа ня дужа пырысскыра́джывыiш, нада цяжолыя бырына. Паўлюк як паедзiць, ён пырыс-*

*скароджывыіць мякка. Як пыстыряісься, дык пырысскародзіш.* ПАРАССКАРАДЖЫВАЦЦА, ПАРАССКАРОДЖЫВАЦЦА, ПАРАССКАРАДЗІЦЦА *зак.* Разбаранавацца (пра ўсё, усюды). *Нада, каб абложыны хырашо пырысскыра́джывыліся, ато на іх нічога ня вырысьціць. Разоў пы пяць як праехыў, дык і цьвёрдыя камлыгі пырысскароджывыліся. Што пырысскырадзілыся, а што г боку сьцягнулыся ў кучу.* ПАРАССКАРАДЖЫВАНЫЙ, ПАРАССКАРОДЖЫВАНЫЙ, ПАРАССКАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Я пыглядзеў — не, і абложкі хырашо пырысскыра́джывыны. Ня дужа ладна пырысскароджывына, нада було б яшчэ праехыць.Ніважна пырысскароджына, мальцы як зря кінулі.* ПАРАССКАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Пырысскырадзёмшы глыжы, можна будзіць сеіць, зімля тут удобріныя.*

ПАРАССТОЛІВАЦЬ, ПАРАССТОЛІЦЬ *зак.* Зняць столь усюды. *Як пірістраівыліся, сьпірва крышы пырыскрывалі, верьх зьнялі, столі пырасстолівылі — многа работы. Вы неік скора справіліся, пырасстолілі усю пастройку.* ПАРАССТОЛІВАЦЦА, ПАРАССТОЛІЦЦА *зак.* Зняцца ўсюды (пра столь). *Пакуля ў цябе пырасстолівыіцца, уремя пройдзіць. Сколька вам нада ўремя пырасстоліцца?* ПАРАССТОЛІВАНЫЙ, ПАРАССТОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Іструбы стыяць бізь вярьхоў, пырасстолівыныя, відна, сяньня-заўтря будуць рыскатывыць. Нашы хаты тожа пырасстоліны.*

ПАРАССУПОНІВАЦЬ, ПАРАССУПОНІЦЬ *зак.* 1. Рассупоніць многае, многіх. *Пуруссупонівыйця хумуты, ніхай коні троху скубнуць. Ні рыспрігалі коні, тольки пуруссупонілі і пусьцілі ны траву.* 2 *перан.* Давесці да свавольства (пра многіх). *Ты іх сыма пуруссупонівыла, цяперя не ны кыга абіджацца. Глядзі, пуруссупоніш, тады трудна будзіць у рукі брать.* 3 *перан.* Давесці да крыку (пра многіх). *Чаго іх тама пуруссупонівыла, што сьцены трішчаць. Етых другей раз як пуруссупоніць, кылы хаты ні прайціць.* ПАРАССУПОНІВАЦЦА, ПАРАССУПОНІЦЦА *зак.* 1. Рассупоніцца (пра многае, многіх). *Ну ні самі ж коні пуруссупонівыліся, нечыя рукі дужа чысаліся. Будуць церцца ап прясла, пакуля пуруссупонюцца.* 2. Рассваволіцца (пра многіх). *Пуруссупонівыліся вы, хлопцы, нада ны вас ладный ремінь. Ніхто за імі ні глядзіць, паетыму і пуруссупоніліся.* 3. Раскрычацца (пра многіх). *Ты б тольки чуў, як ны яго бабы пуруссупонівыліся, чуць ні пабілі. Узноў у Сірьгяёнкывых пурус-*

*супоніліся, цэлый гвалт ны дваре.* ПАРАССУПОНІВАНЫЙ, ПАРАССУПОНЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Рассупонены (пра многае, многіх). *Відзіў я, што коні пуруссупонівыныя скублі. Пыглядзі, каб хумуты на коніх былі пуруссупоніны.* 2. Свавольны (пра многіх). *Як жа ім ня быць пуруссупонівыным, калі ні ныгляду, ні прігляду німа. Таго пуруссупоніны, што ніхто імі ні зынімаіцца.*

ПАРАССЫЦЕЦЬ, ПАРАССЫЦЕЦЦА *зак.* Распаўнець (пра ўсіх, многіх). *За лета пырыссыцелі гульма гуляючы. А чаго ні пырыссыцецца, кылі ёсьць за кім вылежывыцца.* ПАРАССЫЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Яе дзеўкі пырыссыцелыя, як сьлімяньнё.*

ПАРАСТАЎСЦЕЦЬ, ПАРАСТАЎСЦЕЦЦА *зак.* Распаўнець моцна (пра ўсіх, многіх). *А што ім атходзіць, сідзяць, ізыкамі брязкыюць, пырыстаўсьцелі як кадушкі. Пырыстаўсьцеліся — ходзюць, чуць ногі пы зямле пірістыўляюць.*

ПАРАСТРАПЛІВАЦЬ *зак. перан.* Разбалбатаць усё, усюды. *Што ні пачуюць, січас пырыстря́плівыюць, во каб ізыкі ім троху пыўрізáць.*

ПАРАСТРУШЫВАЦЬ *зак.* Растрэсці невялікімі часткамі. *Троху мякіны пырастрýшывыў, як насіў, ну нічога, пыдмяцецца.* ПАРАСТРУШЫВАЦЦА *зак.* Растрэсціся невялікімі часткамі. *Што пырастрýшывыіцца, прібярецца, нада скарей насіць.* ПАРАСТРУШЫВАНЫЙ *дзеепрым. Сыка пы біряжку пырастрýшывына, заўтря іна будзіць сухая.*

ПАРАСТРЫБУШЫВАЦЬ, ПАРАСТРЫБУШЫЦЬ *зак. эмац.* Растрэсці, разбурыць шмат. *Такея хызяйствы былі крепкія, тады пырыстрібýшывылі. Ён табе, кылі хочыш, і падушкі пырыстрібýшыць.* ПАРАСТРЫБУШЫВАЦЦА, ПАРАСТРЫБУШЫЦЦА *зак.* Растрэсціся, разбурыцца (пра значную колькасць). *Мяшочыкі с тряхольлім пырыстрібýшывыліся, во што ета. Вузялкі твае пырыстрібушы́ліся, нейкія лускуткі сыплюцца.* ПАРАСТРЫБУШЫВАНЫЙ, ПАРАСТРЫБУШАНЫЙ, ПАРАСТРЫБУШОНЫЙ *дзеепрым. Тыкая буря страшныя, сколька стрех пырыстрібушывына було. Посыд пыраськідын, пасьцелі пырыстрібýшыны, хто йта вуюваўся етык. Я прібрала пырыстрібушоныя снапкі, коні іх білі.* ПАРАСТРЫБУШОМШЫ *дзеепрысл. Ідзём мы — што йтá такоя: учора копы стыялі цэлінькія, а сяньня ад дарогі пыдряд пырыстрібушомшы.*

ПАРАСТУЛМАЧЫВАЦЬ *зак.* Растлумачыць усё,

усім. *Ты ім пурустулма́чывый як нада, ато ўзноў ніізьвесна куды запруцца.*

ПАРАСТЫНЕЦЬ, ПАРАСТЫНЕЦЦА *зак. перан.* Растлусцець (пра многіх). *Пряма пырыстынелі адна і другая, як бочкі сталі. Ні так ужо яны пырыстынеліся, як ты гаворіш.*

ПАРАСЦЕРАБІЦЬ *зак.* Расцерабіць усё, усюды. *Я ішчэ помню, як зы быльшаком лес быў, а тады нашы купілі, пырысьцірябілі, поля зьдзелылі.* ПАРАСЦЯРАБЛІВАЦЦА, ПАРАСЦЯРЭБЛІВАЦЦА *зак.* Расцерабіцца (пра ўсё, усюды). *Скора і астатнія кусочыкі пырысьціря́блівыюцца, ат лесу знаку ні астаніцца. У нас многа лясоў пырысьцяреблівылыся, айдзе к толку, айдзе й бяс толку.*

ПАРАСЧЫНІВАНЫЙ *дзеепрым.* Расчынены (пра ўсё, усюды). *Чаго йта у вас вароты кругом пырашчынівыны?*

ПАРАСЧЫШЧЫВАЦЬ *зак.* Расчысціць усюды. *Старэй Кабека, бувала, дарожкі ны магільніку пырашчы́шчывыіць і пясочыкым пасыпіць.* ПАРАСЧЫШЧЫВАЦЦА, ПАРАСЧЫШЧАЦЦА *зак.* Расчысціцца ўсюды. *Як пырашчы́шчывыіцца, можа двор троху на двор будзіць пахож. Ніхай ба ў яго хуць ды скрысеньня пырышчышча́лыся троху.* ПАРАСЧЫШЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. У яго ўсігда ны дваре пырашчы́шчывына, сьнег далёка аткінут.*

ПАРАСШАВАЛІЦЬ, ПАРАСШАВЯЛІЦЬ *зак. перан.* Зрабіць больш актыўнымі (пра многіх). *Ты іх пырышшывалі, ато яны да беда прысьпяць. Падойдзіць Прося, іна етых гультаёў пырышшавеліць.* ПАРАСШАВАЛІЦЦА, ПАРАСШАВЯЛІЦЦА *зак.* Зрабіцца больш актыўнымі (пра многіх). *Глянь-ка ты, як Матруніны хлопцы пырышшывалíліся, стыряюцца адзін пііда дным. Ныўряд, каб такея атряхі пырышшывялíліся.* ПАРАСШАВОЛЕНЫЙ, ПАРАСШАВЕЛЕНЫЙ *дзеепрым. Можа й пырышшаволіны, хто ж іх знаіць. Ні тряпліціся, яны даўно пырышшавеліны, толька ні ўстаюць.* ПАРАСШАВАЛЁМШЫ, ПАРАСШАВЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Пырышшавалёмшы, троху папорюцца кыла пуні. Яны даўно пырышшывялёмшы, ня ждуць, каб хто пыдгыняў.*

ПАРАСШАМАТАЦЬ *зак.* 1. Расхістаць усё. *Пырышшымыта́лі яны кыляскі, глядзі, пырызва́лівыюцца.* 2 *перан.* Растачыць усё. *Чэрьві пырышшымыта́лі рямы, яны чуць ліпяць.* ПАРАСШАМАТАЦЦА *зак.* Расхістацца (пра ўсё). *Красённый посыд пырышшымыта́ўся, нада чыніць.*

ПАРАСШАМАТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Расхістаны (пра ўсё). *Пырышшымытáныя каткі могуць ны дарогі рызваліцца.* 2. Расточаны (пра ўсё). *Ета ж нада, пыразітычэрьві ды іконык дыбраліся: хвацілыся я — рямкі пырышшымытáны саўсім.*

ПАРАСШМЫКЫВАЦЬ, ПАРАСШМЫКАЦЬ *зак.* Выдаткаваць бязмэтна (дробнымі часткамі). *Троху було грошы, дык іна пырашшмы́кывыла то туды, то сюды. Сыбраць трудней, а пырашшмы́кыць нядоўга, на ета навукі ні нада.* ПАРАСШМЫКЫВАЦЦА, ПАРАСШМЫКАЦЦА *зак.* Выдаткавацца бязмэтна (дробнымі часткамі). *Якея былі тряпкі, яны пырашшмы́кывыліся за год. Калі ні бірягеш, яно пырашшмы́кыіцца ні пагледзіш як.* ПАРАСШМЫКЫВАНЫЙ, ПАРАСШМЫКАНЫЙ *дзеепрым. Я табе гываріла, што грошы у іх пырашшмы́кывыны, так яно і ёсьць. Було троху сіміна, дык яно пырашшмы́кына, ці Аксютка убірягець.*

ПАРАСШМЫЛЬГАЦЬ *зак.* Раздаць, распусціць усё. *Пырядышна тріп'я ат Праскоўі асталыся, дык яны пырышшмыльгáлі.* ПАРАСШМЫЛЬГАЦЦА *зак.* Раздацца, распусціцца (пра ўсё). *Нічога ні задзержыцца у такіх хызяіныў, зы паўгода пырышшмыльгаіцца.* ПАРАСШМЫЛЬГАНЫЙ *дзеепрым. Думыіш, у іх нешта асталыся? — даўно адзёжа пырышшмыльгáна.*

ПАРАСШУРЫВАЦЬ *зак.* Паразганяць. *Нечый сыбака прібег і пырашшýрівыў авец.* ПАРАСШУРЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ціляты пырашшýрівыны, бягі цяперя, сыбірай.*

ПАРАСЯНІЦЬ *зак.* Намачыць (пра расу, дождж). *Дождж пырысяніў бульбу, ня стоіць у яе лезьць. Новыя тухлі пырысяніш пы траве, луччы пысядзі ў хаці.* ПАРАСЯНІЦЦА *зак.* Намачыцца (расой, дажджом). *Не, я нісколька ні пырысяніўся, я выбіраў, айдзе біс травы. Сена було сухоя і пырысянілыся, гресьць ня будзіш.* ПАРАСЯНЕНЫЙ *дзеепрым. У пырысяніныя кусты ні нада лезьць, ніхай апсохнуць. Пырысяніныя сена далжно абветріць, тады у капу складзеш.*

ПАРАСЯТКА *м.* Парасё. *Пырысятку зымішаю і пыбягім у лес, толька гукнём у том канцы Галю. Памянш.* ПАРАСЯТАЧКА. *Купілі пырысятычку, ды адзін скучаіць, рюхыіць, шукаіць другіх.*

ПАРАЎНЕ *прысл.* Пароўну. *Не, вы ня думыйця, пыраўне тут ні палучыцца. Зямлю тады пыдзялілі пыраўне.*

ПАРАЎНЯНЫЙ *дзеепрым.* Разраўнаваны. *Ны пырыўняным таку і мылаціць многа луччы.*

ПАРАШАЦЬ *незак.* 1. Вырашаць. *Тута табе ніхто ні пыткажчык, пырішáй сыма, ці йціць к яму, ці не.* 2 *пе-ран. часта жарт.* Забіваць, знішчаць. *Мы ўжо думылі, ці пырішáць цябе на месьці, ці пыдыждаць ды заўтріга.* ПАРАШЫЦЬ *зак.* Забіць, знішчыць. *Ён такей, што можыць зразу цябе пыряшыць.* ПАРАШОНЫЙ *дзеепрым.* *Два дзіцёнкі пыряшоныя ліжалі, млелі над імі маткі, млелі і млець большы некуды.* ПАРАШОМШЫ *дзеепрысл.* *Ні пыряшомшы цябе, толку ні дажджэш.*

ПАРАШЭНІЦЬ *зак.* Рашыць. *Можа, чутна було, што яны пыряшэнілі с каровыю.* ПАРАШЭНІЦЦА *зак.* Рашыцца. *Ныўряд ці пыряшэніцца Полька хату збуваць, як яно там ў сястры палучыцца.*

ПАРАШЭННІЦА *ж.* Свіння, якая нядаўна апарасілася. *Нада глянуць, як тама наша пырашэньніца, каб пырысят ні пацёрла.*

ПАРАШЭЦІЦЬ *зак.* Прымацаваць паплёт. *Сенцы во чуць-нячуць пыряшэціў, нада крыць, каб дождж ні зыліваў.* ПАРАШЭЦІЦЦА *зак.* 1. Прымацавацца (пра паплёт). *Хата пыряшэціцца, тады будзім за пуні брацца, а ўсяго зразу ні схваціш.* 2 *перан.* Зрабіцца дзіравым. *Чарьвей ны капусьці многа, лісьця пыряшэцілыся, усё роўна як пыпрабіта.* ПАРАШЭЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. З прымацаваным паплётам. *Пуня пыряшэчына, прідзіцца накрыць клычынкыю, раз німа пряміцы.* 2. Дзіравы. *Пыряшэчыныя лісьця можна абламывыць, пользы зь яго німа ніякія.*

ПАРВЫВАЦЬ *зак.* Парваць пэўны час. *Ідзі-ка ты лібяду с краю пáрвывый, іна росьць нічому ні даець.* ПАРВЫВАЦЦА *незак. метаф.* Надрывацца ў працы. *Ні хачу я ні на кога пáрвывыцца, мне худзь ба сабе што зьдзелыць.* ПАРВАЦЦА *зак.* Надарвацца ў працы. *Дужа яны многа нырàботылі, дужа пырвáліся.*

ПАРНЕЎ *прым.* Такі, які належыць хлопцу. *Пыстаў пáрніў мяшочык у вугалок, яго ніхто ня троніць.*

ПАРНЁВІКІ *мн.* Двайняты. *Парнёвікыў трудна гудуваць, с адным нівісь сколька намучыісься, а двоя — амягніш.*

ПАРНІСЦІЧКІ *мн. памянш.* Спарышы. *Ні ў кога парнíсьцічкыў ні найдзіш, у каго пыразьбіліся, а хто выкінуў.*

ПАРНУЦЦА *зак. экспр.* Папарыцца. *Дзёмка, бувала, ідзець з бані красный, давольный: вот, гурю, парнýўся дык парнýўся.*

ПАРНЯ *ж.* Лазня. *Ну й ытапіў жа ты грубычку, у цябе ні хата, а ныстыяшчыя пáрня. С полыдня як лягу, укручуся ў сірень, толька мяне сірень і вылічыла, ляжу у парне, а то хадзіць ні мыгла.*

ПАРНЯГА *м. эмац.* Хлопец. *Ваш Васіль што пырняга быў, сколька мы зь ім пы вічарінкых шыталіся. Памянш.* ПАРНЯЖКА, ПАРНЯЖАЧКА. *У іхный дзярейні ёсьць ладныя пырняжкі. Ах, якей ладнінькій пырняжычка ходзіць с Томкыю.*

ПАРОЦЬ *незак. перан.* Лавіць. *Кошка мышэй поріць і поріць, у дзень па дзьве, па трі кыцінятым пріносіць.*

ПАРТАЧАННЕ *н.* Псаванне. *Нашто ты пызвыляіш яму такоя пыртáчыньня, ета нікуды ні гадзіцца.*

ПАРТАЧАННІК *м.* Той, хто псуе, дрэнна робіць. *Ні пускай пыртáчыньніка ў гарод, ён ня столька пыдапрець гарох, сколька папорціць.* ПАРТАЧАННІЦА *ж. І твыя сістра ня меншыя пыртáчыньніца, выткыла пылатно ны мяшкі, а ні ны рубашкі.*

ПАРТНЭЙ *прым.* З порту (матэрыя). *Раншы адзёжу ні куплялі, усё сваё, партнэя штаны шылі на лета, а нá зіму — суконьнікі.*

ПАРТНЯК *м.* Порт (матэрыя). *Бувала, касіць ідуць — штаны-пыртняк і рубаха-пыртняк белыя. Памянш.* ПАРТНЯЧОК. *Худзь ба ты яму пыртнячок якей купіў, каб ён атвізаўся ат мяне і пашоў ны кірмаш.*

ПАРТЭС *м.* Сэнс; развага. *Якей табе партэс у мылахольніка што-небудзь купляць. Ні зьбівай чылавека с партэсу.*

ПАРУМЗАЦЦА *зак. неадабр.* Паплакаць. *Табе, відна, і сяньня карціць парюмзыцца.*

ПАРУПАЦІЦЦА *зак.* Паруппіцца. *Калі сам ні парýпыцісься, хто пры цябе будзіць клыпаціцца, сымаму нада пра ўсё думыць.*

ПАРУШЫЦЦА *незак.* Запарушвацца. *Часта гылыва дужа баліць, дык парýшуцца вочы, я ні прідумыю, чым ету гылаву вылічыць можна.*

ПАРХАЎКА 1 *ж.* Порхаўка. *Пырхáвык многа пынырасло кылы бані, як насеіна. Памянш.* ПАРХАВАЧКА. *Кіньця с пырхáвычкымі вазіцца, толька пызымáжыціся.* 2 *м* і *ж. перан.* Састарэлая асоба. *Чуць ногі пірістыўляіць Аўчыньнікыва пырхáўка.*

ПАРЫВАЦЬ *незак.* Выкопваць. *Ужо каторый год лупаткыю пырывáіць усю бульбу, ня жджэць кыня.*

ПАРЫСКНУЦЬ *зак.* Рашыцца, рызыкнуць. *Зьмітрок*

*ныпісаў: збувай усё і пріїжджай, іна была пыріскнýла ехыць, а тут выйна.*

ПАРЫШ *м.* Парык. *Яй-богу, іна носіць парыш, у яе зроду такога густога валосься ні було.*

ПАРЭЎЦЬ *зак.* 1. Параўці. *Няпоіныя каровы пыряўлí, із-зы свадзьбы некыму було ныпаіць. 2 перан.* Паплакаць гучна. *Учора парёў — відна, мала, сяньня яшчэ палучыш.*

ПАСААБШЧАЦЬ, ПАСААБШЧЫЦЬ *зак.* Паведаміць (пра ўсё, усім, у розныя месцы). *Калі ж ба я выбрыў урем́я пысыабшчáць, дыхнуць було некылі. Чуць пасьпелі дзіцям пысыабшчыць, каб скарей пріїжджалі.* ПАСААБШЧАЦЦА, ПАСААБШЧЫЦЦА *зак.* Паведаміцца (пра ўсё, усім, у розныя месцы). *Воўрімя пысыабшчáлыся, дык пасьпелі пыпріїжджаць. Ня можыць быць, штоб ні пысыабшчылыся брытам.* ПАСААБШЧАНЫЙ, ПАСААБШЧОНЫЙ *дзеепрым. Загыдзя було пысыабшчáна, паетыму і пасьпелі сыбрацца. Як пысыабшчона ка ўремю, ета многа луччы.* ПАСААБШЧОМШЫ *дзеепрысл. Ні знаю, што ім тама було пысыабшчомшы.*

ПА-САБАЧЧЫ, ПА-САБАЧЧАМУ *прысл.* Як сабака. *Брешыць пы-сыбáччы, ні стыда, ні сырымá у чылавека. Запомні раз і ныўсігда: пы-сыбáччыму са мною ты рызгыварівыць ня будзіш.*

ПАСАБЕЧЫЦЬ *зак.* Памеркаваць. *Сыма сабе пысабечыла дый думыю, чаго мне выбірацца ніізьвесна куды іс свае хаткі.* ПАСАБЕЧЫЦЦА *зак.* Памеркавацца. *Міссобкыю пысабечыліся, запряглі коні і мытанулі за Сож нáныч.*

ПАСАБІРАЦЬ, ПАСАБРАЦЬ *зак.* Сабраць усё, усіх. *Нада бульбу пысыбірáць пы скароджыныму, пакуля дыжджа німа. Цяперя ня дужа лёхка пысыбрáць людзей, усе работыюць, сабе хвытаюць.* ПАСАБІРАЦЦА, ПАСАБРАЦЦА *зак.* Сабрацца (пра ўсё, усіх). *Ну пыдажджы, дай пірідыхнуць, бульба пысыбірáіцца. Як зыбалела матка, дзеці пысыбірáліся, глядзелі яе хырашо. Аскрёткі пысыбярýцца, тады пыдмяцеш. У Ткычынка многа радні, атаўсюля пысыбрáліся.* ПАСАБІРАНЫЙ, ПАСАБРАНЫЙ, ПАСАБРАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Зынясі пысыбірáныя шчэпкі пыдз загнет, заўтря у печы спалюцца. Пыглядзіш, каб яблыкі былі чыста пысыбрáны. Многа гасьцей було пысыбрáна. Пысыбрáджыныя ігрушкі у карзіні лі ґаньк.*

ПАСАВЕТАЦЬ *зак.* Параіць. *Знаіш, што я табе магу*

*пысаветыць: сядзі ты ў дваре і ня думый нікуды выбірацца.* ПАСАВЕТАЦЦА *зак.* Параіцца. *Так то яно так, ну пысаветыцца зь людзямі нада.* ПАСАВЕТАНЫЙ *дзеепрым. Не, я купляў пысаветыныю карову, нічога ны мылако.*

ПАСАГІНАЦЦА, ПАСАГНУЦЦА *зак.* Сагнуцца (пра ўсё, усіх). *Ячмень пысыгінáўся у крюк, чуць прітронься — і колыс ляціць, пірястоіў. Сукі ат яблык пысагнýліся, нада абізацільна патпоркі ставіць. Пысагнýліся стырікі, чуць тэпыюць.*

ПАСАГНАЦЬ *зак.* Сагнаць многіх. *Пазгонь авец ж жыта, ато увідзюць і зыбрязкочуць.* ПАЗГАНЯЦЦА *зак.* Сагнацца (пра многіх). *Куры толька пызгыня́юцца, атойдзіш, глядзіш — узноў ны бырыках.* ПАСАГНАТЫЙ, ПАЗГАНЯНЫЙ *дзеепрым. Многія пысыгнáтыя пагінулі, іх зімою выкідывылі у стальгý. Як мы пыдыйшлі, ціляты былі пызгыня́ны с атавы.*

ПАСАДА *ж.* Абсада. *У яго красівыя пысáда пулучылыся, насіў ны сабе бярёзкі зь зямлёю зь Зяціцкія рошчы.*

ПАСАДЗІК, ПАСАДЧЫК *м. памянш.* Рад снапоў для малацьбы цэпам. *Як былі свае гумны, ранінька ўстанім, вымім пысáдзік с асеці і саб'ём ды заўтріка. Тады мы дужа ні сьпяшылі, пысáччык змалоцім, пысядзім, аддыхнём.*

ПАСАДЗІЦЬ *зак. метаф.* Моцна падвесці. *Я ж ны Стыляровыга надзеіўся як на бога, а ён мяне так пысадзíў ісь сеным.*

ПАСАЖОНКІ *мн.* Мясцовы від плавання махам. *Якея ў цябе пысажонкі, б'еш рукамі, як лягушка лапымі. Памянш.* ПАСАЖОНАЧКІ. *Вучыся плавыць, як я, ны пысажонычкі.*

ПАСАЖЫРЫК *м.*, ПАСАЖЫРКА *ж.* Пасажырскі аўтобус. *Мае паехылі ны вячэрнім пысажы́ріку. Мне каб згледзіць, як пысажы́рка пойдзіць у тэй бок, тады іна ціріш час нызад ідзець. Памянш.* ПАСАЖЫРАЧКА. *Мне астывалыся якіх дваццыць шагоў і пысажы́рычка пышла, ні пасьпела я.*

ПАСАЛАДЗЕЦЬ, ПАСАЛАДЗЕЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца больш салодкім. *Сыпні яшчэ ложычку, каб чай ладна пысыладзеў. Нямножка пысыладзелыся, ну ладна, я вып'ю.* 2 *перан. гумар., іран.* Зрабіцца прыемней. *Ці табе пысыладзела, што яго аштрухувалі. Калі яны пысварюцца, дык Сахвеі пысыладзеіцца.* ПАСАЛАДЗЕЛЫЙ *дзеепрым.* Больш салодкі. *У мяне і зываркі ні асталыся, во пысыладзелыя вады глыну разы два.*

ПАСАМКА, ПАСМАЧКА *ж.* Невялікая пасма. *Пáсымка нітык зьехыла с клубка, зуплутухаліся — ні рысьцягнуць. Нібальшэнькыя пáсмычка была, уся змыталыся.*

ПАСАРВЫВАЦЬ, ПАСАРВАЦЬ *зак.* Сарваць усё. *Зь іх каб пысáрвывыў ныряды ды сь сірпамі, с косымі пыслаў. Саўсім пыціряў совісьць: зь мёртвыга пысырвáў адзёжу і прапіў.* ПАСАРВЫВАНЫЙ, ПАСАРВАНЫЙ *дзеепрым. Нечыга туды іціць, німа там ні аднае ігрушы, даўно пысáрвывыны. Пыдбярі пысырвáныя яблыкі, хуць пырасёнку спарюцца.*

ПАСАСКРАБАЦЬ *зак. перан.* Пахапаць, паарыштоўваць. *Пыліцэйскія ныляцелі, пысыскрібáлі етых хлупчуганыў, пывязьлі і сяньня німа.* ПАСАСКРЭСЦЬ *зак.* 1. Згрэбці ўсё. *Шчэпычкі пысыскрябí, ніхай трыва расьцецепь.* 2. Пахапаць, паарыштоўваць. *Як зыгареліся Шумянічы, мы пысыскряблí дзяцей ды ў кынавы хувацца. Яны тута былі пудурелі с крыдзяжом, пакуля іх пысыскряблí ды пысыгналі.* ПАСАСКРАБАЦЦА, ПАСАСКРЭСЦА *зак.* 1. Згрэбціся (пра ўсё). *Пыдажджы, і ны дваре пысыскрібáіцца, роілым ліжаць ня будзіць. Як пысыскрябецца хлам, і тута пысвыбаднеіць.* 2. Пазлазіць з цяжкасцю. *Залезуць на ліпы і сідзяць, бойся, пакуль яны пысыскрібáюцца, каб ні ляснуўся каторый. Такім і сь печы пысаскресца трудна.* ПАСАСКРЭБЕНЫЙ *дзеепрым.* Згрэбены (пра ўсё). *Пысаскребіна, ды ніважна, сена пыстывалыся.*

ПАСАСКРАБЫВАЦЬ, ПАСАСКРАБАЦЬ *зак.* 1. Здрапаць усюды. *Болькі пысыскрáбывыіш, яны большы балець будуць. Було засохла, дык ён пысыскрáбыў.* 2 *перан.* Згрэбці злёгку ў розных месцах. *Трошку ж я пысыскрáбывыў мусыр, чысьцей стала. Пысыскрáбый лі дзьвярей, ніхай траўка прыбіваіцца.* ПАСАСКРАБЫВАЦЦА, ПАСАСКРАБАЦЦА *зак.* 1. Здрапацца ўсюды. *Усё будзіш дзелыць, шывяліцца, дык яно пысыскрáбывыіцца. Былячкі пысыскрáбыюцца і ўзноў рызбыляцца.* 2. Згрэбціся злёгку ў розных месцах. *Ну нічога, пысыскрáбывыіцца сьмяцьцё, луччы станіць. Як ні пысыскрáбылыся, дык меншы мусыру.* ПАСАСКРАБЫВАНЫЙ, ПАСАСКРАБАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Здрапаны ўсюды. *Пысыскрáбывыны ногі, нарыўчыкі могуць пыўскакывыць. Я гываріла ня трогыць болік, а ў цябе узноў пысыскрáбыны.* 2. Згрэбены злёгку ў розных месцах. *Ай, дзецкыя работа, троху пысыскрáбывына, а айдзе клыкамі сена асталыся. Іржышча пысыскрáбына, а сыка ў аборку ляжыць.*

ПАСАСЛАБЕЦЬ, ПАСАСЛАБНУЦЬ *зак.* Аслабець моцна (пра многіх). *Як пысыслабеіця, тады нічога ня міла і ня люба станіць. Зы пасьледній год яны пысысла́блі, а то дзіржаліся троху.*

ПАСАСТАВІЦЬ *зак.* Саставіць многае. *Нада скарей пысыста́віць снапы ў бабкі і пыныкрываць: дождж пряма вісіць.* ПАСАСТАВІЦЦА *зак.* Саставіцца (пра многае). *Во пысыста́вюцца яшчыкі к месту і пырыскашнеіць у клеці.* ПАСАСТАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *У іх уся пастройка ґ зіме пысыста́ўліна і пынакрыта.*

ПАСАСТАНАЎЛІВАЦЬ, ПАСАСТАНОЎЛІВАЦЬ *зак.* 1. Саставіць многае. *Нашы мушчыны скора хаты пысыстына́ўлівылі. Многа ішчэ нада пысыстаноўлівыць, а тута восінь, уборка, работа.* 2. Пасастаўляць пэўны час. *Троху пысыстына́ўлівылі, а тады гаворюць, ікая нам польза на чорта лысыга ірвацца. Ніхай хуць ды абедыў пысыстаноўлівыюць, і то помышч.* ПАСАСТАНАЎЛІВАЦЦА, ПАСАСТАНОЎЛІВАЦЦА *зак.* Саставіцца (пра многае). *Як пысыстына́ўлівыюцца круглячкі, тута многа свыбадней станіць. У іх яшчэ нічога ні пысыстаноўлівылыся.* ПАСАСТАНАЎЛІВАНЫЙ, ПАСАСТАНОЎЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Састаўлены (пра многае). *Гырлачы пысыстына́ўлівыны ў сенцых ны палічкі зь левыга боку. Буду січас мыць пысыстаноўлівыный посыд.*

ПАСАСТРУГАЦЬ *зак.* Састругаць усё. *Пусустругáў цапкі, яны ні к чаму ні патходзюць.* ПАСАСТРУГЫВАЦЦА, ПАСАСТРУГАЦЦА *зак.* Састругацца (пра ўсё). *Нада, каб усё ціса́ныя пысастру́гывылыся. Сучкі пусустругáюцца, будзіць гладзінькыя цавейца.* ПАСАСТРУГЫВАНЫЙ, ПАСАСТРУГАНЫЙ *дзеепрым.* *Кырындашы пысастру́гывыны ніізьвесна длі чаго. Пысастру́гыныя ручкі дужа тонінькі. Пусустругáныя палычкі выкідывый, яны ні падойдуць у чаўнок.*

ПАСАШЧАМЛІВАНЫЙ, ПАСАШЧЭМЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Сашчэмлены моцна. *Зубы пысышча́млівыны, чуць ні скрыгочуць, кажыцца, паесьць гатовы етых мульчуганыў. Быльшая важнысьць, калі ў іх зубы пысашчэмліны.* ПАСАШЧАМЁМШЫ *дзеепрысл.* *Пашлі, пысышчамёмшы зубы, нічога ні скызалі Лукерыіным.*

ПАСВАБАДНЕЦЬ, ПАСВАБАДНЕЦЦА *зак.* Зрабіцца свабадней, раскошней. *Бочкі нада пывыкачывыць с клеці, тады пысвыбаднеіць. Як нывядзеш ны дваре пырядык, то пысвыбаднеіцца, гломызд нада прібраць.*

ПА-СВІННАЦКУ *прысл.* Па-свінску. *Ты ўсігда пы-*

*сьвіннацку дзелыіш, нет, каб прібраць зы сабою, кінуў, рінуў і пашоў.*

ПАСВІЦЦА, ПАСЦІВІЦЦА *незак. перан. гумар.* Падглядваць (пры гульні ў карты). *Хырашо зыкрывай карты, яны пасўцца с абоіх бакоў. Любіў ба ты пáсьцівіцца ў маіх картых, не, большы ні падгледзіш.*

ПАСВЯЖЭЦЦА *зак. перан.* Прыняць свежы выгляд. *У дзярэўні пабыў лета, дык глянь-ка, як пысьвяжэўся, ато быў саўсім высых.*

ПАСВЯЦАЦЬ *незак.* Праводзіць пасвячэнне ў царкве. *Наш дзед усігда вазіў ны спаса яблыкі пысьвіцáць.* ПАСВЯЦАНЫЙ *дзеепрым. Раншы ды спаса яблык нілізя було у рот браць, толька пысьвіцáныя елі.*

ПАСЕВЕРЫЦЬ *зак.* Абветрыць. *К вясьне у Нюшкі дужа пасевіріла ліцо.* ПАСЕВЁРЫЦЦА *зак.* Абветрыцца. *З мокрымі рукамі пымінутна выскáкывыіш, яны кругом пасевіріліся.* ПАСЕВЕРАНЫЙ *дзеепрым. Ох, якоя ў цябе ліцо пасевіріныя.*

ПАСЁДЫВАЦЬ *зак.* Сесці. *У іх даўнія прівычка: пасёдывыюць ны скамеічкі і руссусолівыюць.*

ПАСІЛІВАЦЬ *незак. метаф.* 1. Спраўляцца. *Хызяйства бальшоя, іна адна ні пасíлівыіць цягнуць.* 2. Апаноўваць. *Макріца пасíлівыіць бульбу, ні прідумыіш, як яе вывісьць.* ПАСІЛЕЦЬ *зак.* Адолець. *Не-а, ты яго ні пасíліш, ён кряпчэй зы цябе.* ПАСІЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ён і пасíліный ні здаецца.*

ПАСІНІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Пафарбаваны ў сіні колер. *У цябе красіва пасíніта кохтычка.* 2 *перан.* Збіты да сінякоў. *Прішоў увесь пасíнітый, нос разбрюжшый.*

ПАСКА *ж.* Вялікдзень. *Ці помніш, летыся ны пáску Ігнацёнык зыіжджаў к нам з Ганныю.*

ПАСКАБЛІЦЬ *незак. перан.* Пагаліць. *Табе тожа нада шчокі пыскаблíць, зарос, ажно глядзець ніпріятна.* ПАСКАБЛІЦЦА *зак.* 1. Абабрацца (пра бульбу). *А паскоблюцца твае бульбіны, ні гаріць.* 2. Ачысціцца ад кары. *Во крючкі паскоблюцца ды ніхай сохнуць.* 3. Пагаліцца. *Як пыскаблíўся, дык ну мушчыну стаў паходж, ато хадзіў пы дзярэўні атряхыю.* ПАСКОБЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абабраны (пра бульбу). *Паскобліныя бульба ляжыць у латычкі.* 2. Ачышчаны ад кары. *Ну во, ўсе палкі паскобліны, можна й аддыхнуць.* 3. Паголены. *Сяньня і Кірілёнык ходзіць паскобліный.*

ПАСКАВАЦЬ *зак.* Скаваць шмат разам. *Шыны палопылі, думыў пускувáць, ды ўсё ні сыбяруся зьезьдзіць*

*у кузьню.* ПАСКАВАНЫЙ *дзеепрым. Тута крепка пускувáна, ні разойдзіцца.*

ПАСКАЛЫВАЦЬ *зак.* Скалоць шмат. *Ны дарожкі дужа намёрзла, нада пыскáлывыць лёд.* ПАСКАЛЫВАЦЦА *зак.* Скалоцца (пра значную колькасць). *Усё намёрзлыя пыскáлывылыся, можна сьмела хадзіць.* ПАСКАЛЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ськíдый пыскáлывыныя кускі дальшы аць сьцёжкі.*

ПАСКАННІНКА *ж. памянш.* Тканы выраб з маніц. *І пысканьнíнкі, бувала, як выткіш, ні звыляіцца, стырíку штаны пашыіш.*

ПАСКАННЭЙ, ПАСКАННЫЙ *прым.* З маніц. *Я сваім мушчыным раншы на лета усігда пысканнэя штаны шыла. Не, рубашкі пысканны́я ні насілі. Памянш.* ПАСКАННЕНЬКІЙ. *Во каб раншы, я б табе пысканьненькія штонікі атрезыла б.*

ПАСКАРАДЗЬБІЦЬ *зак.* Пабаранаваць. *Думый, як бульбоўнік пыскырадзьбíць, каб луччы піріпахывыць було.* ПАСКАРАДЗЬБІЦЦА *зак.* Пабаранавацца. *Ні зыхвачу кыня сяньня, заўтря пыскырадзьбíцца, надворья церьпіць.* ПАСКАРАДЗЬБЁМШЫ *дзеепрысл. Пыскырадзьбёмшы, лаўчэй піріпáхывыць.*

ПАСКАСОВЫВАЦЬ, ПАСКАСАВАЦЬ *зак.* Ліквідаваць шмат. *Столька дарожык було удобных, пыскасовывылі. Тады ж прішоў пріказ пускусувáць межы.* ПАСКАСОВЫВАНЫЙ, ПАСКАСАВАНЫЙ *дзеепрым. Хутары зы адно лета былі пыскасовывыны. Ёсьць ужо і дзярейні пыскасовыныя. Многа чаго пускусувáна, узойдзіш — дык с трудом пызнаіш, што ета тая зімля.*

ПАСКАЦІНЕЦЬ, ПАСКАЦІНЕЦЦА *зак.* Зрабіцца жорсткім, бессардэчным (пра многіх). *Ці яны пыскацíнілі, ці што, каб еткыю дурь тваріць. Дурукам нядоўга пыскацíніцца, ат іх чаго хочыш дажджэсься.*

ПАСКАШЫВАЦЬ, ПАСКАСІЦЬ *зак.* Скасіць шмат. *Нада пыскáшывыць лубуду кылы плітня, ато і глядзець нікрасіва. Кынаўкі пыскасíў, апкасіў біряжкі, усё у яго упыряччына.* ПАСКАШЫВАЦЦА, ПАСКАСІЦЦА *зак.* Скасіцца (пра значную колькасць). *Пы мяжэ трыва пыскáшывыіцца, тады сыбярі, вынісь і руструсі ны абложкі. Калі ж у цябе паскосюцца етыя крайкі?* ПАСКАШЫВАНЫЙ, ПАСКОШАНЫЙ *дзеепрым. За жытым пырнік ладный быў, ды німа: пыскáшывын і зыбраджын. С таго боку, ат лесу, ладныя былі лашчынкі, дык паскошыны.*

ПАСКІДАЦЬ, ПАСКІДЫВАЦЬ *зак. метаф.* 1. Скласці

ў зруб (пра некалькі аб'ектаў). *Пыськідáлі ў сьцены, у іструбі ні так бярьвеньня гніець. На той нядзелі сьценкі паськíдыюць. Нада выбрыць урэмя, паськíдывыць хаты, пакуля цёпла.* 2. Пазнімаць (з пасады). *Новый стыршына усіх брігадзірыў пыськідáў. Іх ба даўно нада було паськíдывыць, ато дужа бальшымі нычальнікымі сябе чуствыюць.* ПАСКІДАЦЦА, ПАСКІДЫВАЦЦА *зак.* Скласціся ў зруб (пра некалькі аб'ектаў). *Ну як-небудзь жа пыськідáюцца і твыя лазьня, і яго, ня будуць ліжаць рыскычáныя. Ні знаю, калі ета пастройчына паськíдыыіцца ў сьценкі.* ПАСКІДАНЫЙ, ПАСКІДЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Складзены ў зруб (пра некалькі аб'ектаў). *Раз пыськідáны іструбы, троху ляхчэй глядзець. Ряшэцюць паськíдыныя сьцены. Сьцены паськíдывыны, ну с крышымі тожа многа работы.*

ПАСКЛАСЦЬ *зак.* Скласці ўсё. *Ікраз ды дыжджа пасьпелі сена пысклáсьць.* ПАСКЛАСЦА *зак.* Скласціся (пра ўсё). *Дровы пыскладýцца пыт паветку, тама для іх хваціць места.* ПАСКЛАДЖАНЫЙ, ПАСКЛАТЫЙ *дзеепрым. Пысклáджыныя снапкі ні нымяклі, а што ліжалі адзьдзельна, мокрыя. Такей лівінь і хырашо пысклáтыя капёшкі прыбярець.*

ПАСКРАБАЦЬ *зак.* 1. Падрапаць. *У кустах пыскрáбыў ногі, тама усякыя лымачча сухоя.* 2 *перан.* Злёгку пабаранаваць. *Нада б пыскрáбыць бульбоўнік, каб було трошку раўней.* ПАСКРАБАЦЦА *зак.* 1. Падрапацца. *Будзіш лазіць лі суччa і пыскрáбыісься.* 2. Злёгку пабаранавацца. *Ніхай ба нямножка пыскрáбылыся пахыта.* ПАСКРАБАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Падрапаны. *Узноў прішоў с пыскрáбыным носым, цырапыўся зь дзіцямі.* 2. Злёгку пабаранаваны. *Бугаркі пыскрáбыны, а ны лашчынкі і ні ўзыіжджалі нійдзе.*

ПАСКРЫГАЦЬ *зак.* Паскрыгатаць. *І сяньня пыдражніўся, дзьвірямі паскрыгыў,— ну балыўнік, ну хочыць лупкі.*

ПАСКРЭСЦЬ *зак. перан.* Пагаліць. *Адну шчаку троху паскрёб, брытва ня хочыць брацьь.* ПАСКРЭСЦА *зак.* Пагаліцца. *Пыдажджы, яму нада паскресца, такім жа зарослым ны свадзьбу ня пойдзіш.* ПАСКРЭБЕНЫЙ *дзеепрым. Ну хут троху паскребіный, ато зарос, што вачэй ня відна.*

ПАСКУДНІЧАЦЦА *незак.* Паскудзіцца. *Я б ні стала паскýднічыцца с такімі людзямі, ат іх палы атреж і ацступіся.*

ПАСКУЛЕЦЬ *зак. неадабр.* Пахныкаць, папрасіць надакучліва. *Пускулей: есьць хачу,— я дыла кусочык булычкі, схваціў і пабег.*

ПАСКУСЦЬ *зак.* 1. Паскубці. *Карова трошку паску́бла ны абложкі і мыкыіць: глядзіць, каб карзінку яблык прігатовіў.* 2 *перан.* Папрасці. *Некылі зы прясьліцу садзіцца, мінутку пускубеш, а малыя пішчаць.*

ПАСЛАБАДНЕЦЬ, ПАСЛАБАДНЕЦЦА *зак.* Аслабнуць (пра нацягнутую вяроўку). *Рызьвязывый, вярёўка пыслыбаднела, ды скарей, ато ўзноў ныцягніцца. Нісколька тваe вузлы ні пыслыбаднеліся, хуць рызрізай.*

ПАСЛАБЧЭЦЬ *зак.* 1. Зрабіцца слабейшым. *Міхальчоньк пыслабчэў зы зіму, чуць варушыцца, а то ж усё гогылім хадзіў.* 2. Аслабнуць (пра нацягнутую вяроўку). *Задоўка пыслабчэла, палка можыць сыма паехыць.*

ПАСЛЕДАК *м.* 1. Астаткі, рэшткі. *Я табе ды пасьледку аддаю ўсё, што ёсьць.* 2. Заканчэнне, завяршэнне. *Ны пасьледык ён ішчэ быраку ўзяў, стыяла пыць сьцяною старінькыя дзірівяньнінькыя.*

ПАСЛЕДНІЙ *прым.* Такі, які валодае ніжэйшай ступенню якасці, уласцівасці. *Якея работы хацець, ён пасьледній гультай. Пасьледнія тряпло ў дзярэўні,— во хто іна тыкая.*

ПАСЛЕДЫШ *м. перан.* Апошняя жывёліна ў гаспадарцы. *Ета ў мяне кыбанчык пасьледыш, большы я ня ўздолію дзіржаць скыта.*

ПАСЛІЗНУЦЬ *зак.* Аслізнуць. *Бліны пасьлізьлі, іх нілізя есьць, кідай у сьвінноя цеста.*

ПАСЛІЗНУЦЬ *зак.* Пакаўзнуцца. *Пысьлізну́ла ныга і пыць сябе, устаў, а нуступіць ні магу, чуць даклыпыў ды хаты.*

ПАСЛЯДЗІЦЬ *зак.* Пакінуць сляды. *Хто б ета так пысьлядзі́ў кылы бані, што яму нада було.*

ПАСЛЯЗАЎТРАГА *прысл.* Паслязаўтра. *Гывapiў Міхалка, што падойдуць посьлізáўтріга с сыным, памогуць ськíдыць сьцены.*

ПАСМАКТАНЫЙ *дзеепрым.* Выхлябтаны. *У кошкіный місычкі нічога німа, усё пысмыктáна.*

ПАСМАРГАЦЬ, ПАСМОРГАЦЬ *зак.* Вырваць смаргаючы. *Табе ўремя нада трі часы каноплі пысмыргáць. Пасморгый лібядзіны, каб ні рысьсіваліся.* ПАСМАРГАЦЦА, ПАСМОРГАЦЦА *зак.* Вырвацца сморганнем. *Іх тута нямнога пысканьнін, пысмыргаюцца. Каб пасморгыліся лішнія пацсоніцы, яны ціряшчур густы.* ПАСМАР-

ГАНЫЙ, ПАСМОРГАНЫЙ *дзеепрым. Вун пысмыргáныя пучкі, адзьдзельна ліжаць. Кыласкі трошку пасморгыны, нямнога.*

ПАСМАШНІЦЬ *зак.* Зрабіць больш смачным. *Харошыя ты была б баба, каб пысмашніла ету крупеню.* ПАСМАШНІЦЦА *зак.* Зрабіцца больш смачным. *Як пысмашніцца, дык чаго ж, і Пятрок будзіць есьць.* ПАСМАШНЕНЫЙ *дзеепрым. А тыкі чуствыіцца, што капуста пысмáшніныя.*

ПАСМІХА *м.* і *ж.* Той, з каго смяюцца. *Айт, гаворіця вы: хлопіц — так, пасьміха. Іна ўсігда была пасьміхыю, а цяперь зывяршыла.*

ПАСМІХАВІШЧА *н.* Здзеклівы смех. *Ці ты ўсігда будзіш служыць длі пасьміхывішча, ці калі-небудзь возьмісься за розум?*

ПАСМІХАННІК, ПАСМІХЫВАННІК *м.* Той, хто пасміхаецца. *Кыпітоніха ладна прыздравіла пысьміхáньнікыў. Што-то лыбюцца вашы пасьміхывыньнікі, нешта сьмешныя зьелі.* ПАСМІХАННІЦА, ПАСМІХЫВАННІЦА *ж. Чаго вы, пысьміхáньніцы, зубы лупіця, ны сябе пыглядзіця. Муўчала б ты, пасьміхывыньніца, зубы сьцяўшы.*

ПАСМІХЫВАННЕ *н.* Пасмейванне. *Ідзі ты знаіш куды іс сваім пасьміхывыньнім, яно нікому ні аньціресна.*

ПАСМУЦІЦЬ *зак.* Зрабіць засмучаным. *Ты ныпрасна Алёшку пусмуціла, ета золыта, я ня хлопіц, айдзе ты найдзіш такога.* ПАСМУЧАНЫЙ, ПАСМУЧОНЫЙ *дзеепрым. Пашоў Сярёжка ат Андреівых пасмýчыный, відна, нічога у яго ні пулучаіцца іс сватыньнім. Нешта ходзіць твой будушчый зяць пусмучоный, знаць, ні выпалівыіць у яго з работыю.* ПАСМУЦЁМШЫ *дзеепрысл. Паехыў Шурік у горыд пусмуцёмшы.*

ПАСМЫРКАТАЦЬ, ПАСМЫРКАТАЦЦА *зак.* Пабурчаць злосна. *Што зы баба акыянныя, як пысмыркочыць, у яе, кажыцца, ну душэ пыляхчэіць. Пысмыркытáлыся, дык ажно глядзіць вісялей.*

ПАСОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пасаджаны, пасеяны. *Хадзіў у каробчынскій сад і выкапывыў пасоджыныя яблынкі, во айдзе браў. Бульба ў іх пасоджына.* 2. Зняволены. *Етыя былі пасоджыны, а красьць узноў кралі, тады зы Сыўчынка узяліся.*

ПАСПАГАДЫВАЦЬ *зак.* Паспачуваць. *Некыму було дзіцям пыспыгáдывыць, сьцёрлыся сім'я, адзін маліц нейдзі зы Сажом жывець.*

ПАСПАЖЫВАЦЬ, ПАСПАЖЫЦЬ *зак.* Спажыць значную колькасць. *Ну што яны чужоя пыспыжывáлі, нашто вы еткыя прідумывыіця. Ці мала пыспыжылí дыбра людзкога, сколька людзей ат іх крывавымі сьлізамі зылівалыся.* ПАСПАЖЫВАЦЦА, ПАСПАЖЫЦЦА *зак.* Спажыцца (пра значную колькасць). *Чужоя ні ў век ні пыспыжывáіцца, дабром ня пойдзіць. Сколька пыспыжылося, нызад ня верніш.* ПАСПАЖЫВАНЫЙ, ПАСПАЖЫТЫЙ *дзеепрым. Ты прістaвіць сабе ня можыш, сколька ў іх чужога дыбра пыспыжывáна. Ніхай іх пырызарьвець ат пыспажы́тыга.*

ПАСПАСІБКАЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Табе нада пыспасíбкыць, што пасьледнія стручкі ні абырвалі.* ПАСПАСІБКАНЫЙ *дзеепрым. Дажджэсься ат такога сарвілыўца, будзіць пыспасíбкына.*

ПАСПЕЧ *зак. перан.* Папаліць, спаліць. *Многа двароў тады пысьпяклí, адзін другога палілі.*

ПАСПІЛІВАЦЬ, ПАСПІЛІЦЬ *зак.* Спілаваць шмат. *Сохі ну гумне мы пасьпíлівылі, ні хацелі мурдувацца, выкапывыць. Ны магільніку бярёзы пысьпілілі ны калодзіж, кылы старыга бальшэй выкыпылі, а выда была жоўтыя.* ПАСПІЛІВАЦЦА, ПАСПІЛІЦЦА *зак.* Спілавацца (пра значную колькасць). *Як дзерівы пасьпíлівыюцца, у хаці пысьвятлеіць, ато ўсігда цёмна і цёмна. Ніхай сухастоіны пыстыяць, пасьпíлюцца пазьней.* ПАСПІЛІВАНЫЙ, ПАСПІЛЕНЫЙ *дзеепрым. Пасьпíлівыный лес нада каріць, у лета пыт карою ні разу ні кідай. Харошыя алешыны лі Заліўкіныга аборка стыялі, на лесьвіцу можна було выбрыць, дык пасьпіліны.*

ПАСПІНАЦЦА *зак.* Моцна паўпарціцца. *Ну што кылі ён пысьпінáўся, толку зь естыга ня выйшла ніякыга.*

ПАСПІРАЦЦА *зак.* Паўпарціцца. *Ціряшчур ты любіш пысьпірáцца, во што скызалі, то й дзелый, і ні рузмундыкывый многа.*

ПАСПІСАЦЬ *зак.* Апісаць усё дэталёва. *Пысьпішы́, што тута у нас дзелыіцца, ім дужа аньціресна, яны ж нічога ні знаюць.*

ПАСПЛЫСЦЬ *зак.* 1. Сплысці шмат. *Жарка натопліна, жарка, гаршчонычкі у печы пысплылí.* 2 *перан.* Знікнуць шмат. *Сколька за ету жысьць чаго пусплуло, як успомніш, што піряжыта, дык ай-я-яй.*

ПАСПРАВІЦЬ *зак.* Справіць шмат. *Ты ўжо ні прідумыіш, што сваім крысавіцым пыспрáвіць.*

ПАСП'ЯНЧЫЦЦА *зак.* Сніцца (пра многіх). *Вот*

*увідзіш, яны скора пысп'янчуцца, ня будзіць зь іх ніякыга толку.*

ПА-СРЭДНЯМУ *прысл.* Так сабе, сярэдне. *Нілізя скызаць, што ладна, так, жывуць па-средніму, крошка хлеба пакуль што ёсьць.*

ПАССЕЧ *зак.* Ссячы ўсё. *Калі ты думыіш капусту пасьсеч, вот-вот можыць сьнег вылянуць.* ПАССЕЧЦА *зак.* Ссячыся (пра ўсё). *Вун сколька ліпык пасьсеклыся.* ПАССЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Тых бярёзык ужо німа, пасьсечыны і зыбраны, толька сьлед ац саней астаўся.*

ПАССЁРБЫВАЦЬ *зак.* Ссярбаць усё. *Ні прідумыю, што з балыўнікымі зьдзелыць: с трёх гырлачоў пасьсёрбывылі вярьхі.* ПАССЁРБЫВАЦЦА *зак.* Ссярбацца (пра ўсё). *Нічога тута ні пасьсёрбывыіцца, ні дурі ты мне гылавы.* ПАССЁРБЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ну як жа не, калі пасьсёрбывына, во дайжа губы відны чые-то.*

ПАССІНІЦЬ *зак. перан.* Пабіць да сінякоў многіх. *Прішоў п'яный, а ён жа п'яный дурнэй, пысьсініў абеіх.* ПАССІНЕНЫЙ, ПАССІНЕТЫЙ *дзеепрым. Датреплюцца, што і адна, і другая пыбігаць пасьсініныя. Ну што, зь нядзелю хадзілі пасьсінітыя.* ПАССІНЁМШЫ *дзеепрысл. Глядзі, пысьсінёмшы, знаіш сам, куды можыш пупасьць.*

ПАССЫПАЦЬ *зак.* Ссыпаць усё. *Жыта нада пассыпыць зь мяшкоў у бочкі, а мяшкі спыражніць.* ПАССЫПАЦЦА *зак.* Ссыпацца (пра ўсё). *Зірняты пассыплюцца разым дый зьмелюцца пырасёнку.* ПАССЫПАНЫЙ *дзеепрым. Уся пышаніца пассыпына ў мяшкі, кладзіця ны калёсы.*

ПАССЫХАЦЬ, ПАССОХНУЦЬ *зак.* Ссохнуць (пра многае). *Садзіў, садзіў ліпкі пы абложкі, а яны пыссыхалі. Воч чаго б ета вербы пассохлі па ўсёй дзяреўні, нешта ім уліяць.* ПАССОХНУЦЦА *зак.* Ссохнуцца (пра многае). *Таршыны пассохліся мокрыя, хут ты іх узноў різаком реж.* ПАССОХЛЫЙ *дзеепрым. Пассохлыя дзеріўцы нада павырвыць ды піряцюкнуць на дровы.*

ПАСТАГНЫВАННЕ *н.* Лёгкі стогн. *Злазь-ка ты сь печы, хваціць пыстагнывыньня, ато ты сяньня с хаты ці вупуўзаў.*

ПАСТАГНЫВАЦЬ *незак.* Стагнаць час ад часу. *Табе ішчэ пы вічарінкых бегыць, а ты пыстагнывыіш.*

ПАСТАНОЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Пастаўлены, прызначаны. *Ты ныд брігадыю пыстаноўлін і далжон весьць пырядык, як сьледыіць.*

ПАСТАПТАЦЬ, ПАСТАПТЫВАЦЬ *зак.* Стаптаць усё. *Блізка ґ дарогі ці сей, ці ня сей, пастопчуць. Ладныя канцы пыста́птывылі ат нізу, жалься божа што сеілыся.* ПАСТАПТАЦЦА, ПАСТАПТЫВАЦЦА *зак.* Стаптацца (пра ўсё). *Пыглядзіш, тута зы нядзелю пастопчыцца. Харошыя расьлі кусьцікі, дык пыста́птывыліся.* ПАСТАПТАНЫЙ, ПАСТАПТЫВАНЫЙ *дзеепрым. Пыстыпта́ныя плоха пыдымаць, нічога зь яго ні палучыцца. Пасьці ўсе твае цьвяты пыста́птывыны.*

ПАСТАРАСТВАВАЦЬ *зак.* Пабыць старастам. *Нямнога ён пыста́рыствывыў, бургомістру нешта ні пыныравіўся.*

ПАСТАРШЫНІЦЬ *зак.* Пабыць старшынёй. *Ён дужа хацеў, пряма пряг на ету должнысьць, ды ні ўдалося пыстаршы́ніць.*

ПА-СТАРЫКОЎСКУ *прысл.* Як стары. *Пы-стырікоўску жыўшы, дужа ні пырыскашуісься, кусок хлеба ёсьць і слава богу.*

ПА-СТАРЫННАМУ *прысл.* Як даўней. *Ён любіць, каб усё дзелылі пы-старі́нныму, як раншы вялося.*

ПАСТРАГАВАЦЦА *зак.* Пасцерагчыся. *Посьлі апірацыі нада пустругува́цца, абы-чаго на резыный жалудык ня ўспусьціш.*

ПАСТРУГЫВАЦЬ *незак. метаф.* Даваць праборку. *Троху яму піріпыдаіць, жонка сь цёшчыю пастру́гывыюць кажный дзень.* ПАСТРУГАЦЬ *зак.* Даць праборку. *Вот прідзіць цётка, тая ні пысьцісьняіцца, хырашо цябе пустругa̍іць.* ПАСТРУГАНЫЙ *дзеепрым. Калі троху і пустругa̍ный будзіць, можа, яму на пользу пойдзіць. Лёнік узноў пастру́гыный.*

ПАСТРЫЖЦА *зак. метаф.* Абсыпацца (пра асцюкі на калоссі). *Ячмень-ячмень удаўся, калосься аж пастры́глыся, а куры кладуць пыдряд.*

ПАСТУБЫХАЦЬ *зак.* Пайсці, цяжка ступаючы. *Некуды пустубыха́ў Сіўчыкыў старэй, знаць, пашоў атведывыць унукыў.*

ПАСТУКАТАЦЬ *зак.* 1. Пагрукаць. *Кажыцца, нехта пустукута́ў у дзьвері, выйшла, пыглядзела — німа нікога.* 2 *метаф.* Паваяваць. *Хочыш — усхваціцца дурута, узноў пустукочуць.*

ПАСТУШНАЕ *н.* Плата пастуху натурай. *Лета пасём, мучыімся, а тады ўжо едзім сыбіраць пасту́шныя, як атпасём.*

ПАСТУШНІК *м.* Памяшканне для пастухоў у пан-

скім маёнтку. *Пастýшнік зводдыля стыяў, піцісьценка сь сенцымі, там і варілі. Памянш.* ПАСТУШНІЧАК. *Тады ны хату пастýшнічык зыбралі, пірівязьлі сюда.*

ПАСТЫЛІХА *ж.* Сварлівая жанчына. *Нійдзе пастылíхі спакою ні буваіць, пакуля ні пыгрызецца сь кім — ня жыва.*

ПАСТЫЛЛЁ, ПАСТЫЛЛЕ 1 *м.* і *ж.* Непрыемная, прыкрая асоба. *Ну й пыстыльлё чылавек, як зь ім Марья ладзіць. Пасты́льля баба, я пры яе дайжа гыварíць ні хачу.* 2 *н. зб.* Непрыемныя, прыкрыя асобы. *Сыбярецца пыстыльлё, ізыкамі лапочуць. Хвытаіць і тама пасты́льля, пызычаць ні нада.*

ПАСТЫЛЬНІК *м. асудж.* Надакучлівы, сварлівы чалавек. *Пасты́льнік чылавек, усюдых суніць нос, куды ні нада. Ня меншый пасты́льнік і Цімох быў, сь кім ён толька ні пагрызься.* ПАСТЫЛЬНІЦА *ж. Такея пасты́льніцы, кажыцца, большы на сьвеці німа. Хуць адным словым пасты́льніцу затронь, іна ваду-зямлю атопіць.*

ПАСТЫЛЯСТВА *н.* Сварка. *Я сыма пыстыля́ства ні люблю і дужа ні люблю тых, хто да етыга даводзіць.*

ПАСТЫРНІК *м.* Пустазелле, падобнае да пырніку. *Пасты́рнік як увядзецца, яго трудна вывісьць. Памянш.* ПАСТЫРНІЧАК. *Ета ж во відзіш, пасты́рнічык прыбіваіцца.*

ПАСУВАЦЦА *зак.* Пападаць, паваліцца. *Так зымаріліся, што шагу ступіць ні маглі, пусувáліся пряма ў саломі і спалі.*

ПАСУДАШНЫЙ *прым.* Прызначаны для посуду. *У мяне ёсьць адзьдзельна пасýдышный шкапчык, я туды усё пірямытыя стаўлю.*

ПА-СУМАШЭЧЧЫ, ПА-СУМАШЭЧЧАМУ *прысл.* Надзвычайна, бязмежна. *Рыскрічаўся пу-сумашэччы, аж нялоўка слухыць було. Работылі яны як зьвяры, ну і пілі пу-сумашэччыму.*

ПАСУПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Надзьмуты. *Нечыга пасýпліный ходзіць мыладэй, відна, ні пыладзіў сь цёшчыю.*

ПАСУПЯРЭЧЫЦЬ, ПАСУПЯРЭЧЫЦЦА *зак.* Запярэчыць. *Што ты яму пусупяречыш, што захочыць, то й зьдзелыіць. Гыўрілёнык такей, што зь ім доўга ні пусупяречысься.*

ПАСУСТОІВАЦЦА *зак.* Адстаяцца (пра ўсё, усюды). *Выда ў вёдрых пусустоівылыся, чыстыя, можна нылíваць гаршкі.*

ПАСЦЕЛЬНІК *м. іран.* Каханак. *Каго ні найдзіць,*

*а пасьцельніка сабе пыдбярець.* ПАСЦЕЛЬНІЦА *ж. Пасьцельніца ты, ці мы ні знаім, як бегыла к Сызанёнкывыму сыну.*

ПАСЦІЛЧОНАЧКА, ПАСЦІЛЧЭНАЧКА *ж. памянш.-зніж.* Посцілка. *Адна пысьцілчонычка, затрёпыныя-затрёпыныя, ны палу засьцеліна пы сіньніку. Як жа так дыжывацца, што пысьцілчэнычкі ны дзяцей німа.*

ПАСЦІТКА *ж.* Фіранка. *Ны вокных у яе красівыя пасьціткі вісяць. Памянш.* ПАСЦІТАЧКА. *Луччы було б, каб пасьцітычку павесілі.*

ПАСЦЯРЭЖЦА *зак.* Паберагчыся. *Я сыма знаю, што нада пысьцярежца, а як ты пысьцірягесься, кылі ўся работа ў адны рукі.*

ПАСЦЯСНЯЦЬ *зак.* Зрабіць цеснымі ўмовы жыцця. *Канешня, тады нашы дзірявенцы пысьцісьня́лі многіх, ну пыгарельцыў пускалі.*

ПАСЧАХАЦЬ *зак.* Папакутаваць ад голаду. *Ніхай ні сыдзяцца, як пышчыха́юць да беда, тады будуць хвытацца за ложкі.* ПАСЧАХНУЦЬ *зак.* Схуднець моцна (пра многіх). *Коні пышча́хлі, карміць саўсім нечым, а столька травы зызімувала.*

ПАСЫНКАЎ *прым.* Такі, які мае адносіны ды пасынка. *Дыглідала сыныву сям'ю, цяперя і с па́сынкывыю прідзіцца вылаводзіцца.*

ПАСЯВАЦЬ *зак.* Правесці пэўны час у сяўбе. *Сілы саўсім німа, мінутычку пысіва́ла ны гародзі і ўся, ляжы і ні пыдымайся.*

ПАСЯЖЭННЕ *н.* Сход, нарада. *Я ні цігалыся, ета мой старэй дужа любіў пы пысяжэньніх хадзіць. Памянш.* ПАСЯЖЭННІКА. *Чым жа у вас кончылыся пысяжэньніка, ці будуць сена ны кыряню міркуваць?*

ПАСЯЖЭННІК, ПАСЕЖАННІК *м.* Той, хто наведвае пасяджэнні. *Позна прішлі пысяжэньнікі, ні знаю, што яны тама рішалі. Што, твайго пасежыньніка ішчэ німа? — Кісялёнык пашоў ужо двору.* ПАСЯЖЭННІЦА, ПАСЕЖАННІЦА *ж. Во тыкі нашы пысяжэньніцы цягнуцца ўдвору, усё пырішалі. Скора пасежыньніца прідзіць, рыскажыць, што тама було.*

ПАСЯЛЯНІН *м., часц. мн.* ПАСЯЛЯНЕ. Перасяленец. *Тама цэлый пасёлык быў, неткуля яны піряехылі ці іх пірівязьлі, зваліся пысіля́ні.* ПАСЯЛЯНКА *ж. Ня слухый пысіля́нку, пыдманіць. Ляксеіву жонку звалі Ганна-пысіля́нка.*

ПАСЯРНЯ *ж., часц. мн.* ПАСЯРНІ. Дзетвара. *Пайду*

*пасірніў тваіх пыгляджу, яны ўжо, відна, ладна пыдрасьлі.*

ПАТАІЦЬ *зак.* Затаіць. *Ён ні патоіць, што знаіць, то й скажыць, а іна дужа хітрамудрыя, нічога ня выкыжыць.*

ПАТАЛАЛАҚАЦЬ, ПАТАЛАЛЫҚАЦЬ, ПАТАЛАЛАҚАЦЦА, ПАТАЛАЛЫҚАЦЦА *зак.* Пагаварыць попусту, пабалбатаць. *Схадзі пытылылáкый зь Міцьвяёнкым, можа ён табе што рыскажыць. Хочыцца ёй пытылалыкыць с падругымі. Мінутку я пытылылáкыўся у Шэндзіных ды пашоў. Ніхай пысідзяць, пытылалыкыюцца, сьпешныя работы німа.*

ПАТАЛДОНІЦЬ *зак.* Настойліва павучыць, паўтараючы адно і тое. *Піліпіха любіць пыталдоніць, каго хочыш наўчыць і чаму хочыш.* ПАТАЛДОНІЦЦА *зак.* Пабалбатаць, паўтараючы адно і тое. *Сыбіраюцца пыталдоніцца, чаго ж яшчэ, адна другую павучуць.*

ПАТАЛМУЗІЦЦА *зак.* Памітусіцца. *Ны бызарі нешта пыталмýзілыся яе сьвякрова і скора пабегла.*

ПАТАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* Патоўчаны. *Пыталочыныя проса у меншынькім кыцялку, мый і варі кашу.*

ПАТАЛОШНІЦА *ж.* Дошка для столі. *Досткі троху пыкырбаціліся, на мост ні паложыш, ну пыталошніцы зь іх будуць харошыя.*

ПАТАНІЦЬ *зак.* Зрабіць больш тонкім. *Ету жэрдку нада пытаніць, іна дужа тоўста.* ПАТАНІЦЦА *зак.* Зрабіцца больш тонкім. *Можыць пытаніцца, а можыць пірілумацца, тады новыю пычынай цісаць.*

ПАТАПТОРЫЦЬ *зак.* Патаптаць. *Пытапторіў, дык яшчэ троху мякіны у мех улезла.* ПАТАПТОРЫЦЦА *зак.* Патаптацца. *Яны ладна пытапторіліся на сені, пызьбівалі ўніз, пыцскрібай кругом.* ПАТАПТОРАНЫЙ *дзеепрым.* *Тута пырядышна пытапторіна, большы ня хочыць месьціцца.*

ПАТАРАБАНІЦЦА *зак. перан.* Пабалбатаць. *Сяньня яны меншы пытырыбáніліся, усяго часы два.*

ПАТАРАНІЦЬ *зак.* Панесці. *Пытыраніў твой маліц бабі пірыга, што матка дыла.* ПАТАРАНІЦЦА *зак.* Пайсці, пабегчы. *Вун яны пытыраніліся ў лес, можа і найдуць якую горсьць лісічык.* ПАТАРАНЕНЫЙ *дзеепрым.* *Німа тваіх пряснушык, пытыраніны к Лісавеці.*

ПАТАРАНЦЕЦЬ, ПАТАРАНЦЕЦЦА *зак. перан.* 1. Паехаць з бразгатам. *Ранінька с пырысятымі пытыраньцелі ны бызар. Пріцімна було, як яны пытырань-*

*целіся туды, пад Рожыва.* 2 *неадабр.* Пабалбатаць. *Нешта вы мулувата сяньня пытыраньцелі. Як сойдуцца, яны уволю пытырыньця́цца.*

ПАТАРАХЦЕЦЬ *зак. перан.* 1. Паехаць з грукатам. *Ета мальцы пытырахцелі пыд быльшак, снапы зва́жыюць.* 2 *неадабр.* Пабалбатаць. *То́лька што пытырыхця́ць, ізыкамі пыбрязкыюць, толку зь етыга ня будзіць ніякыга.*

ПАТАРАЧАНЫЙ *дзеепрым. жарт.* Панесены. *Пытыра́чыны ўжо твае кніжычкі, німа.*

ПАТА́РЧЭЦЬ, ПАТАРЧЭЦЦА *зак. метаф.* Папрысутнічаць без патрэбы, карысці. *Яны пытарчэлі ш час ды пыцягнуліся, ніхто іх ні прівічаў. І етым дужа хочыцца пытарчэцца на той вічарінкі.*

ПАТАЎТОРЫЦЬ *зак.* Пагаварыць пры ўзаемным непаразуменні. *Пакуля яны пытаўторюць, дык нысьмяесься, жывая указэя іх слухыць.*

ПАТАХКАЦЬ *зак.* Пагрукаць. *Ма́лыя ны дваре гуляюць, я толька што чуў: нечым пыта́хкылі кулу гумна.*

ПАТЛАСТЫЙ *прым.* Патлаты. *Рызьвялося пытла́стых сколька хочыш, ны кажным вуглу увідзіш. Памянш.* ПАТЛАСЦЕНЬКІЙ. *Пынаехыла пытла́сьцінькіх, аткуля іх столька ныбралыся.*

ПАТЛЕЦЬ *зак. перан.* Пажыць пры слабым здароўі. *У Матруны ні асталыся здаро́ўя нісколічка, мoжа, зь якей год патлеіць, ні большы.*

ПАТРАБЛЯННЕ *н.* Спажыванне. *Два засічкі бульбы ў погрібі, а пат пол ны пытрібля́ньня насыпылі.*

ПАТРАБЛЯННІК *м.* Спажывец. *Мы такея пытрібля́ньнікі: булку хлеба возьмім і ядзім чуць ні нядзелю.* ПАТРАБЛЯННІЦА *ж. І іда хырыша, і пытрібля́ньніца яшчэ луччы, адно ды аднаго пыдыбралыся.*

ПАТРАВЕЦЬ, ПАТРАВЕЦЦА *зак.* Зарасці травой. *Участык ад дарогі дужа пытравеў, а туды, к сірядзіні, чысьцей. Гряды пытравеліся, нада палоць і матычыць усё.*

ПАТРАПЯТАЦЬ, ПАТРАПЯТАЦЦА *зак. перан.* Пажыць (пра слабога). *Ні знаю, сколька здаро́ўя пытряпечыць. Яшчэ патрошку валочыцца, ну доўга ён ні пытряпечыцца, слаб.*

ПАТРАШЧЭЦЬ *зак. метаф.* Пабалбатаць рэзка, пранізліва. *Сяньня яны меншы пытряшчэлі, мінут дваццыць, Кулажонык іх прутуріў.*

ПАТРУХЛЕЛЫЙ *прым.* Гнілы, струхлелы. *То́лька на дровы піріпіліць путрухлелыя палкі, як цёпла, спалюцца.*

ПАТРЫНОЖЫЦЬ *зак.* Прывязаць повад аброці да нагі спутанага каня (пра многіх). *Пытріножця коні, яны дужа халерныя, і спутыныя куды хочыш запрыгыюць.* ПАТРЫНОЖАНЫЙ *дзеепрым. Як пытріножыны коні, спыкайней: кругом шкоды многа.*

ПАТРЭНДАЦЬ, ПАТРЭНДАЦЦА *зак. экспр.* Пабадзяцца. *Работыць яны ня хочуць, патрэндыюць пы дзярэўні, ныядуцца і сьпяць. Айдзе-то патрэндыўся зь месіц, цяперя узноў у маткі сядзіць.*

ПАТУКАЦЬ *зак.* Паўшчуваць. *Ці ты патýкыіш ны яго, ці палюкыіш, ён як ня слухыў, так і ня будзіць слухыць.*

ПАТУРАННІК *м.* Той, хто патурае. *Знаіць, што ты путурáньнік, усё просьціш, і пользыіцца етым. Памяниш.* ПАТУРАННІЧАК. *Каб ня быў путурáньнічык, дык ба і маліц так ні руспусьціўся.* ПАТУРАННІЦА *ж. Ты і сыма ня меншыя путурáньніца, яны ў цябе пы гылывах пойдуць.*

ПАТУРЫЦЬ *зак. перан.* 1. Пачаць сеяць. *Бальшэй пляц зынялі аўсом, путурілі шурокыю пыласу пряма к рову.* 2. Пачаць лаяць, бэсціць. *Міхальчоньк нічога ні знаў, а йна ўстрецiла і путуріла ны яго ўсякія трілюды.*

ПАТЫКАННЕ *н.* З'яўленне. *Нійдзе ён ні нада, такога патурюць усюдых зь яго пытыкáньнім.*

ПАТЫКАННІЦА *ж.* Тая, што патыкае. *Учора пытыкáньніца заседзілыся, пасьледнія цэўкі дыканчывыла.*

ПАТЫРКАЦЬ *зак.* Выгукнуць некалькі разоў «тр-р», каб супыніць каня. *Я чула, як Аўхім патыркыў кылы калодзіжа.*

ПАЎБЛАГАСЛАЎЛЯЦЬ *зак. іран.* Падагаджаць. *Сыма ні прідумыіць, як пыўблыгыслыўляць сваю куму.*

ПАЎГАЖДАЦЬ, ПАЎГАДЖАЦЬ *зак.* Падагаджаць. *Мыланка ім усім пыўгыждáла, дык во пулучыла блыгыдарнысьць. Трошку пыўгыджáла ім, а тады відзіць — ня тэя ета людзі.*

ПАЎГАРЭЦЬ *зак.* Угарэць (пра многіх). *Я трошку помню, як мы пыўгарелі, баба Хадоска нас вадою атпаівыла.* ПАЎГАРЭЛЫЙ *дзеепрым. Зайшлі мы ў хату, што, думыім, нікога ня чутна, а яны ліжаць пыўгарелыя.*

ПАЎЗРЫТЫЙ *дзеепрым.* Ускапаны (пра ўсё, усюды). *Аборкі паўзрыты, пірігаджыны, ні кышанеш,— трыктарісты нічога ні глідзяць.*

ПАЎЗЫЙГРАЦЬ, ПАЎЗЫЙГРАЦЦА, ПАЎЗЫЙГРЫВАЦЦА *зак. перан.* Выразіць неадольнае жаданне

(пра многіх). *Яны былі ды арміі пыўзыйгрáлі жаніцца. Пыўзыйгрáліся іціць ны свадзьбу, ні адгываріць було. Як паўзыйгрывыюцца ехыць, ты іх ня ўдзержыш.*

ПАЎҚАЛУПНУЦЬ *зак.* Ҡалупнуць усюды. *Зімля пірясохла, стала як камінь, нійдзе ні пуўкулупнýць.* ПАЎҚАЛУПНУТЫЙ *дзеепрым. Во зь естыга боку відна, што пуўкулупнýта.*

ПАЎҚОПАҚ *м.* Невялікая капа. *Падгрёбкі лі стыга склалі ў паўкопык. Памянш.* ПАЎҚОПАЧАҚ. *Як будзіця ехыць, уськіньця паўкопычык ны калёсы.*

ПАЎҚРАСЦЬ *зак.* Украсці ўсё. *Ҡідаіш кілбасы ны сталe, кошкі січас пыўкрáдуць, яны на ета сьпіцыялісткі луччы некуды.*

ПАЎЛЯЗАЦЬ, ПАЎЛЕЗЦЬ *зак. перан.* Уладкавацца (пра многіх). *Увы ўласьць пыўлізáлі і вірядýюць, як самі хочуць. Ім абы у нычальства паўлезьць, ны работу яны ня дужа.*

ПАЎМАҚЫВАЦЬ, ПАЎМАҚНУЦЬ *зак. перан.* Умяшаць многіх. *Ніхто там дужа нічога ні гываріў, іх сваты пыўмáкывылі. С Пынысятымі асобінна ґішэхт ні зывадзіця, яны могуць у што хочыш пыўмакнýць, як піць даць.* ПАЎМАҚЫВАЦЦА *зак.* Умяшацца (пра многіх). *Што галоў ны плічах німа, паетыму пыўмáкывыліся.* ПАЎМАҚЫВАНЫЙ *дзеепрым. Мы тады ні зналі, што яны пыўмáкывыны ў ету кашу.*

ПАЎМЕРЦЬ *зак.* Памерці (пра ўсіх). *Ты іх ні пужай міліцанерым, ато яны могуць паўмерць і сымагонку ні дагонюць.*

ПАЎМЕШЫВАЦЬ *зак.* Умяшаць многіх. *Ні прідумыць, длі чаго яны паўмешывылі Алёніных хлапцоў у ета дзела.* ПАЎМЕШЫВАЦЦА *зак.* Умяшацца (пра многіх). *Пылядзіш, яны паўмешывыюцца яшчэ раз, ня ўцерьпюць.*

ПАЎМІЦЬ *зак.* Падумаць. *Сыбака ну бульбоўнік узьлез і хвастом у вакно ляп-ляп-ляп, а я ны зладзеіў паўміла: думыю, аббяруць.*

ПА-УНІЯЦКУ *прысл.* Вераломна, крывадушна. *Ён дайжа глядзіць ні пы-чылавечыску, а неік пу-уніяцку.*

ПАЎСАВЕТЫВАЦЬ *зак.* Нараіць многім. *Нашчот тых хатык нешта ім пыўсаветывылі Сызанёнкі.*

ПАЎСҚАҚЫВАЦЬ, ПАЎСҚАЧЫЦЬ *зак. перан.* Высыпаць раптоўна (пра балячкі). *Ат прастуды болькі пыўскáкывылі, ты нісколька ня хочыш бярежца. У мáлыга пыўскачылі пы ўсяму целу красьнінькія прышчычкі.*

ПАЎСОХНУЦЬ *зак.* Ссохнуць (пра значную коль-

касць). *Вот нейкыя ж ёсьць прічына: многа пы дзярейні верб пайсохла, ны вычах гінуць.*

ПАЎСТАЦЬ *зак.* Устаць (пра ўсіх, многіх). *Мы рана ехылі ціряз Восьлінку, ну ўжо ў іх пыўста́лі, печы тапіліся.*

ПАЎСУСЕД *м. жарт.* Каханак. *Сусед як сусед, а пуўсусед ні раз вічарком зыбігаў.* ПАЎСУСЕДКА *ж. Памойму, у цябе ці ні другая пуўсуседка пыявілыся. Памянш.* ПАЎСУСЕДАЧКА. *Бягі ўжо, бягі к сваёй пуўсуседычкі.*

ПАЎСУСЕДАЎ *прым. жарт.* Такі, які мае адносіны да каханка. *Ты, кажыцца, лучча знаіш пуўсуседыву хату.*

ПАЎСУСЕДКІН *прым. жарт.* Такі, які мае адносіны да каханкі. *Дыстывай, дыстывай пуўсуседкін платочык.*

ПАЎСХАДЖЫВАЦЦА, ПАЎСХОДЖЫВАЦЦА, ПАЎСХАДЗІЦЦА *зак. перан.* Прыйсці ва ўзбуджаны стан. *Ого, як пыўсха́джывыліся Цімышыняты: што іна пра іх радню дренна гаворіць. Быльшая біда, калі яны ды пайсходжывыліся. Пыўсхадзіліся самі ні знаюць чаго, на сходзі іх ніхто і ні пымінаў.*

ПА-ЎСЯКАМУ *прысл.* Усяляк. *Пы-ўся́кыму спробывылі к ёй пыткачывыцца. Што сварілыся ны яе Удодзіха, пы-ўся́кыму пёрла.*

ПАЎТАРАНЫ *мн.* Чацвёрты дзень вяселля. *Цяперя ніхто ні знаіць, а раншы у быгатых абізацільна былі пыўтыря́ны.*

ПАЎХАДЖЫВАЦЬ, ПАЎХОДЖЫВАЦЬ *зак.* 1. Пазаляцацца. *Зы Анькыю трошку пыўха́джывыў, а тады неік рызыйшліся. За кім толька ён ні пайходжывыў.* 2. Падаглядаць. *А ці помніш, сколька іна пыўха́джывыла зы сваім стырікoм. Прідзіцца пайходжывыць і за сьвёкырым.* ПАЎХАДЖЫВАЦЦА, ПАЎХОДЖЫВАЦЦА *зак.* Уходацца (па гаспадарцы). *Пакуля мы пыўха́джывыімся, вун ікая пыра, пасьці абеды ны дваре. Учора мы раншы пайходжывыліся.*

ПАЎЯДАЦЦА, ПАЎЕСЦА *зак. перан.* Надакучыць (пра многіх). *Так яны пыўіда́ліся з гылыгаленьнім, што палкыю путуріла ад двыра. А таго пайеліся, што слухыць ня хочуць ні кыпіліныцкі.*

ПА-ХАДАВОМУ *прысл.* Для дарогі (апранацца). *Мы іх нісколька ні ждалі, як пыдыйшлі, яны ўжо былі надзеты пы-хыдавому.*

ПАХАДЖЫВАННЕ *н.* Прагулка. *Пыха́джывыньня ім дужа ныравіцца, а пыстыяць крюкым з матыкыю, ох, ня хочыцца.*

ПАХАДЗІЦЬ *зак. метаф.* Пабіць, адлупцаваць. *Кылы яго каб пыхадзі́ў с харошым рімушком, тады б ён паслухыў.*

ПАХАЛАСЦЯКАВАЦЬ, ПАХАЛАСЦЯКАВАЦЦА, *зак.* Пажыць халасцяком. *Пыхылысьцякýіш, як паедзіць твыя ніныглядныя к маткі. Ён пырядышна пыхылысьцікувáўся, года пуўтыра адзін жыў.*

ПАХАНУЦЬ *зак.* Узараць крыху. *Пыхаў летыся, што б тута крутнуцца, пыханýць ны кані.* ПАХАНУЦЦА *зак.* Узарацца крыху. *Лі кустоў пыханецца, і можна будзіць нескылька быразёнык бульбы ўкінуць.* ПАХАНУТЫЙ *дзеепрым. То́лька што няўмекыва работа: айдзе пыханýта, айдзе так праехына, цырапнута плугым.*

ПАХАРКА *ж.* Жанчына-араты. *А што, і мы былі пáхырькымі, як некыму було за плугым хадзіць.*

ПАХАРОНЕТЫЙ *дзеепрым.* Пахаваны. *У Зяціцы лёччык ны магільніку пыхароніт, а пленныя пряма ны быльшаку.*

ПАХАРЧЫЦЬ *зак.* Патрымаць на стале. *Каморніка я троху пыхарчы́ла, нядзелі дзьве у мяне жыў.* ПАХАРЧЫЦЦА *зак.* Пакарміцца пэўны час. *Каб пыхарчы́цца, нада пытхыдзяшчыю хызяйку найціць і каб чыстыя была.* ПАХАРЧОМШЫ *дзеепрысл. Троху пыхарчомшы, аткызала ац стыла.*

ПАХАЎРУСАВАЦЬ, ПАХАЎРУСНІЧАЦЬ *зак.* Пабыць у хаўрусе. *Як пыхаўрусывыіць із зладзеімі, то яны дывядуць ды дыбра. С такімі людзямі луччы ні ў якія дзялы ні ўхадзіць, пыхаўрýсьнічыіш — а тады будзіш каіцца.*

ПАХВАТЫВАЦЬ *незак.* 1. Быць крыху падобным. *Меншый — увесь бацька, копія яго, а бо́льшый ны матку пыхвáтывыіць.* 2. Даводзіцца сваяком. *Не, ні па Веркі, а пы Навуму яны пыхвáтывыюць яму раднёю.*

ПА-ХЛАПЕЦКУ *прысл.* Як хлопец. *Табе ні патходзіць пы-хлапецку ныпрятывыцца, надзень старейшый пулушубык,— зыкалеіш.*

ПАХЛЕБАРОБНІЧАЦЬ, ПАХЛЕБАРОБНІЧАЦЦА *зак.* Пазаймацца сельскай гаспадаркай. *Андрюшчыхін сын гыварíў, што і яму хацелыся б пыхлібаробнічыць. Не ўжо, пажыўшы у горыдзі, ныўряд ці захочыцца каму пыхлібаробнічыцца.*

ПАХЛЕПЯСТАЦЬ *зак.* Пахлябтаць. *Дзьвері так кідаіш, ні прічыняіш, сыбакі ўскачылі і ўсё пыхліпістáлі.*

ПАХЛЮПАЦЬ *зак. перан.* 1. Патупаць па макрэчы.

*Кыла пунь троху пахлю́пыю, далёка я нікуды ня йду.* 2. Пайсці па макрэчы. *Пахлю́пылі пыд быльшак, як яны дыбяруцца, ці будзіць ікая папу́тка.*

ПАХЛЯБТАНЫЙ *дзеепрым.* Выхлябтаны. *Крупеню пыставіла ў сенцых пустудзіць, цірізь мінуту глянула — пыхліпта́на, пустая міска.*

ПАХЛЯСТАЦЦА *зак. перан.* Пабіцца. *Ета ж яны зы жыніхоў пыхліста́ліся, во дзіва дык дзіва!*

ПАХМЯЛЯННЕ, ПАХМЕЛЬСТВА *н.* Пахмелле. *Учора была выпіўка, а сяньня нада пыхміля́ньня. Што табе, можа чарычку наліць ны пахмельства?*

ПАХОДНА *прысл.* Спорна, зладжана. *Харошый быў аргынізатыр, і работа паходна йшла, а ўчора дзень прудуріліся і нічога ня зьдзелылі.*

ПАХОХАЦЬ, ПАХОХКАЦЬ *зак.* Паўздыхаць. *Што, кылі іна пахохыла, яе хохыньня ні паможыць. Праскоўя пыдыйшла, пахохкыла, рыскызала пры сваю нявестку.*

ПАХОХЛІЦЬ *зак.* Папесціць. *А ці ты ні знаіш, як Трахіміха пахохліла сваю дачку.* ПАХОХЛІЦЦА *зак.* Папесціцца. *Зы маткыю ды зы бацькыю пахохлюцца.* ПАХОХЛЕНЫЙ *дзеепрым. Канешня, троху пахохліныя, ну яны рыбыцяшчыя дзяўчонкі.*

ПАХРОПСЦЬ *зак.* Пахрапці. *Яму каб толька пахропсьць, дайжа абедым ні кармі, а дай пыспаць.*

ПАХРЫСТАЦЬ *зак. перан.* Зашыць у спешцы абы-як. *Лі парога ліжаць мяшкі, у двух былі дзірічкі, я троху пыхріста́ла.* ПАХРЫСТАНЫЙ *дзеепрым. Як ні пыхрісута́на, а бульба ня высыпліцца, можна сыпыць.*

ПАХРЫСЦІЦЬ *зак. перан.* Адлупцаваць. *Увідзіць такую работу Хвіччанок, ён вас палкыю пахрі́сьціць.*

ПАХУДАЦЬ *зак.* Пахудзець. *Проця таго, якей летыся быў, ён здорыва пухуда́ў.*

ПАХУЧКА *ж. абразл.* Жанчына, ад якой ідзе смурод. *Я тваю паху́чку к хаці ні путпушчу, ніхай і на вочы большы ні пыказывыіцца.*

ПАХУЧЭЙ *прысл.* Больш пахуча. *Жоўцінькыя мыла пухучэй, і мне большы етый запых ныравіцца.*

ПАХУЧЭЙШЫЙ *прым.* Больш пахучы. *Ну-у, мне выбірай якей-небудзь пухучэйшый дзікалонік.*

ПАХЫКАЦЬ *зак. экспр.* Стоена злосна пабурчаць. *Ён за тэя быракі пахы́кыў: думыў зыбраць, а Мікіціха паццэлілыся і зыгрібла.*

ПАХЫРКАЦЬ *зак. перан.* Пабурчаць. *Ні абрышчай ты на яго уніманія, пахы́ркыіць і пріціхніць.*

ПАХЫРЧЭЦЬ *зак.* 1. Пахрыпець. *Ну што ён, кылі за восімдзісят, нядзелю пыхырчэў дый кыпыты аткінуў.* 2 *перан.* Пабурчаць. *Зы ўсякыю мелыч пыхырчы́ць ны яго.*

ПАЦАЛПОНІЦЬ, ПАЦАЛПОНІЦЦА *зак.* Зрабіць абы-як. *Нада сьлядзіць зы кыпцамі, ато етыя хлюсты пыцалпонюць і бульба памерзьніць. Ну як зьдзелылі — пыцалпоніліся, а нызаўтріга сьценка вывірнулыся.* ПАЦАЛПОНЕНЫЙ *дзеепрым. Толька пыцалпоніна — пуруўнувана, нада піріскырадджывыць.*

ПАЦАНЁНАК *м.* Хлапчук. *Прібігаў Анікыныў пыцанёнык: ці ня відзілі майго бацькі? Памянш.* ПАЦАНЁНАЧАК. *У яго ці ні два пыцанёнычкі, старшыя-то, я знаю, дычка.* ПАЦАННЁ *н. зб. Ой, сколька тута пыцыньня́, скора пыдрастуць вам памошнікі ў борыны.*

ПАЦІБРЫЦЬ *зак. гумар.* Пакрасці. *Ці ня вы паціб-рілі мае быранькі, у кашолычкі рызьвязыныя ліжалі.* ПАЦІБРАНЫЙ *дзеепрым. Я сыма замеціла, што канхветкі паці́бріны.*

ПАЦІЛІКАЦЬ, ПАЦІЛІЛІКАЦЬ *зак.* Пашчабятаць. *Мала птушычкі пыцілі́кылі, некуды пыляцелі ат нас у другоя места. Нейкія птушкі пыцілілі́кылі учора ў цяремухі, а большы ня чутна.*

ПАЦІПКАЦЦА *зак.* Пайсці з цяжкасцю. *У Рыжыкоўны у Дунькі свадзьба, кума паці́пкылыся туды.*

ПАЦІРА *ж.* Пацяруха, труха. *Паці́ру пыдмяці і ўкінь пырысятым, яны зоймуцца, пароцца будуць. Памянш.* ПАЦІРКА. *Дужа нічога ні кладзеш у пуні, а паці́рка то ат таго, то ад другога сыбіраіцца.*

ПАЦІХНУЦЬ *зак. перан.* Перастаць ісці, зменшыцца (пра ападкі). *Каб дажджы паці́хлі, можна б схадзіць у ягыды, яны пасьпелі.*

ПАЦІШЭЛЫЙ *дзеепрым.* Больш спакойны, стрыманы. *Падрос, дык стаў пыцішэлый, а то ж ны гылаве хадзіў.*

ПАЦМЫГАЦЬ *зак. неадабр.* Горка пашкадаваць. *Пацмы́гый цяперя як хочыш, ці можна було с такою мальгвою збуваць кыравёнку.*

ПАЦЬМАКОМ *прысл.* Цёменню. *Як ты палезіш пыцьмаком, ішчэ ны якую прытырчаку узаб'есься, ураньні злазіш за чобытымі.*

ПАЦЮКАВАЦЬ *зак.* Скончыць цюкаванне. *У нашым кылгасі усю салому пуцюкува́лі, некуды пывязуць.* ПАЦЮКАВАНЫЙ *дзеепрым. Пуцюкува́ныя сена кінулі ні прібраўшы, цюкі мякнуць пыд дажджом.*

ПАЦЯГАНКА *ж.* Пахатуха. *У пыцігáнкі адно зынязія: вылачыцца с хаты ў хату. Памянш.* ПАЦЯГАНАЧКА. *І дзяўчонка будзіць тыкая самыя пыцігáнычка, як мамуля.*

ПАЦЯГНУЦЬ *зак. перан.* Зняць (пры гульні ў карты). *Цяперя ты ат мяне ні атаб'есься, пыцягніш трецьцій раз.* ПАЦЯГНУЦЦА *зак.* Пакрыцца матэрыялам, фарбай. *Як пыцягніцца шуба сукном, во будзіць цёплыя ныпрятка.*

ПАЦЯГУШКІ *мн.* Пацягванне. *Во якея ў цябе красівінькія пыцягýшкі.*

ПАЦЯЖЫНКА *ж.* Тоўстая жэрдка, якая кладзецца паверх шулаў або на падсошкі, а таксама на козлы пад вільчак. *Сьцены закінуў, ні хвытаіць пыцяжыньк і кыня ня вырьвіш прівезьць.*

ПАЦЯМІЦЦА *зак. перан.* Пацікавіцца. *Паўлуша прібягіць, у вакно к Мільляну пыцяміцца, к нам зайдзіць і кучыю ідзём ны вічарінку.*

ПАЦЯПНІЧАК *м. памянш.* Хмызняк. *Пáціпнічку унесьць ны растопку нядренна, сухей, ён хырашо рызгáрііцца.*

ПАЦЯРАЦЦА *зак. перан.* Звар'яцець. *Яе нявестка ад горя пыцірялыся, ні мыгла піряжыць Зьмітрыка.*

ПАЦЯЎКАЦЬ *зак.* Пабрахаць. *Што ён, шчаночык, трошку пыцяўкыіць ды ў будку хуваіцца.* ПАЦЯЎКАНЫЙ *дзеепрым. Даждэсься ты, што будзіць пыцяўкына,— ён з будкі вылізьць ляніцца.*

ПА-ЧАЛАВЕЧАСКУ, ПА-ЧАЛАВЕЧАСКІ *прысл.* Спагадліва, па-чалавечы. *Нада са ўсімі абрышчацца пы-чылавечыску, ня рейць як зьверь. Каб ён скызаў пычылавечыскі, як ба ета ні паслухыць.*

ПАЧАПАЦЦА *зак.* Пайсці павольна. *Хваціць-ка мне расьседжывыцца, руссусолівыць, пычáпыюся паціху двору.*

ПАЧАРВЯНІЦЬ, ПАЧАРВЯНІЦЦА, ПАЧАРВІВЕЦЦА *зак.* Пачарвівець. *Пагода жаркыя, грібы дужа пычырьвянілі, ня выбіріш пыкрышыць. Настолька яблыкі пычырьвяніліся, ні аднаго ні пупадзеш цэлыга. Грібы як прінёс, зразу пірібірай і сыляні троху, іначы пычарьвівіюцца.* ПАЧАРВЯНЕНЫЙ, ПАЧАРВІЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Гарох пычырьвяніный, аддай ты яго курям. На від бырывічкі нічога, а різанеш — пычарьвіўліныя.*

ПАЧАРСТВЕЦЬ *зак. метаф.* Падсохнуць. *Ну, дыждаліся ўремя, і восінь пычарствела, куды хочыш можна прайціць.*

ПАЧАРЭПАЦЬ *зак.* Зачэрпнуць. *Ніхай пычарепыіць*

*зьнізу, гушча смашнінькыя.* ПАЧАРЭПАЦЦА *зак.* Зачэрпнуцца. *На дне яшчэ ня ўсё пычарепылыся.* ПАЧАРЭПАНЫЙ *дзеепрым. У гаршчонычку нічога ні асталыся, усё пычарепына.*

ПАЧАСЫВАННЕ, ПАЧЭСЫВАННЕ *н. перан.* Турботы. *Во відзіш, цяперя ў яго пычáсывыньня. Пыглядзім, як яму пачэсывыньня паможыць.*

ПАЧАСЫВАЦЬ *незак.* Злёгку чухаць час ад часу. *Што ты пычáсывыіш сьпіну, ці ні сыбіраісься баню тапіць.* ПАЧАСЫВАЦЦА *незак.* Злёгку чухацца час ад часу. *Ні хыця будзіш пычáсывыцца, столька ў бані ня быўшы.*

ПАЧАЎРЫЦЬ *зак.* 1. Моцна высахнуць. *Тваё бяльлё ня толька высыхла, яно пычáўріла вісеўшы.* 2 *перан.* Змарнець. *Такоя горя у людзей, канешня, пычáўріюць, нягож ні пычáўріюць.*

ПАЧВЕРТАВАЦЬ *зак.* Парэзаць абы-як. *Усю булку пычвіртувáлі, хуць ну сухарі складывый.* ПАЧВЕРТАВАЦЦА *зак.* Парэзацца абы-як. *Бяс толку пычвіртувáлыся мацерія.* ПАЧВЕРТАВАНЫЙ *дзеепрым. Як я ўскачыла ў хату, платочык ужо ліжаў пычвіртувáный.*

ПАЧВЯЛІЦЬ *зак.* Пажаваць (пры адсутнасці зубоў). *Знаіш, як біз зубоў жыць, трошку пычвя́лію пряснушку дый глытаю.* ПАЧВЯЛЕНЫЙ *дзеепрым. Выкінь пычвя́ліныя кусочыкі ў сьвінную шаічку.*

ПАЧКАВЭЙ *прым.* Пачкавы, упакаваны ў пачак. *Прінёс нейкія пычкавэя мыкароны, зварю: ці смашныя.*

ПАЧКАННІК *м.* Той, хто набруджвае. *Ах, якея вы пáчкыньнікі, усё зы вамі прібірай і прібірай.* ПАЧКАННІЦА *ж. Відна, што зы работу ўзілася пáчкыньніца, кругом бульбы ныляпына, ні стаць.*

ПАЧУПКАВАЦЬ *зак. экспр.* Прыбраць, надаць святочны выгляд. *Пучупкýй сваіх нявест: сяньня многа хлопцыў будзіць ны вічарінкі.* ПАЧУПКАВАЦЦА *зак.* Прыбрацца, надаць сабе святочны выгляд. *Вы ж пучупкýйціся, чужыя людзі прідуць.* ПАЧУПКАВАНЫЙ *дзеепрым. Вун яны ат Якывіных пучупкувáныя выходзюць.*

ПАЧУЦЦА *зак.* Стаць вядомым, стаць чуткай. *Можа айдзе-небудзь хата пачýіцца, ты мне абізацільна пірікажы.*

ПАЧЫНАТЫЙ *дзеепрым.* Пачаты. *Ні бярі цэлыю, ны сталe пычынáтыя булка ляжыць, реж.*

ПАЧЫНІЦЬ *зак.* Парабіць (каўбасы). *Учора я дужа позна вазілыся, ну ўсе кілбасы пычыніла, упыряччылыся.* ПАЧЫНІЦЦА *зак.* Парабіцца (пра каўбасы). *Кілбасы пачы́нюцца, тады я пыдбягу к табе, пымагу трошку.* ПА-

ЧЫНЕНЫЙ *дзеепрым. Во-о, ў цябе поўный пырадык, і кілбасы пачыніны.*

ПАЧЫСЦЕЦЦА *зак.* Зрабіцца больш чыстым. *Як двор прібралі, троху пычысьцелыся.* ПАЧЫСЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Нешта ня веріцца, каб ета хата калі-небудзь пычысьцелыю стала.*

ПАЧЫСЦІЦЬ *зак. метаф.* 1. Адлупцаваць адчувальна, налаяць. *Яны цябе зловюць і другей раз пачысьцюць.* 2. Ачысціць ад наяўнасці, арыштаваць. *А як пачысьцілі злодзіiў, куды цішэй стала, а то ж було рызьвялося да пропысьці.*

ПАЧЭГАЦЬ *зак.* 1. Пабегаць, пашныраць. *Пы хатых пачэгыіць, што-небудзь выбігыіць.* 2. Папакутаваць ад нястачы. *Столька пачэгылі, а нічому ні наўчыліся, узноў, атваліўшы зад, вылежывыюцца.*

ПАЧЭГЛЫЙ *дзеепрым.* Схуднелы. *Як жа дзеці ня будуць пачэглыя, кылі іна дайжа ня думыіць ныкарміць іх як матка.*

ПАШАБУЦІЦЬ *зак.* Пашумець, пабуяніць. *Нядоўга ён тута пушубуціў, Анютка прібегла, пыччапіла і пывылыкла двору.*

ПАШАЛУДЗЕЦЬ *зак.* Пакрыцца брудам. *У яе дзеці пушулудзелі, нічагенічка ня хочыць глядзець, толька пры гарелку думыіць.* ПАШАЛУДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. Будзіця сядзець пушулудзелыя ў хаці, калі вам баню прыкласьць лень.*

ПАШАМАТАЦЬ *зак.* Пашамацець. *Нешта пышымытáла у вуглу, я ні глядзеў.* ПАШАМАТАЦЦА *зак.* Пашамацецца. *Буваіць, мыш пышамочыцца, хто тама яшчэ будзіць.*

ПАШАНІШНІК *м. жарт.* Аматар пшанічнага печыва. *Ждуць мае пышанíшнікі, калі булкі сьпякуцца. Памянш.* ПАШАНІШНІЧАК. *Пыдажджы, січас дыстану сваім пышанíшнічкым пряснушкі.* ПАШАНІШНІЦА *ж. Ждэжэць ладык пышанíшніца, дужа за імі гыняіцца.*

ПАШАНІШНЫЙ *прым.* Пшанічны. *Пышанíшныя мука ні разу ні звыляіцца: і быранік дзіцям скруціш, і піряпечку уськініш на под. Памянш.* ПАШАНІШНЕНЬКІЙ. *Січас пышанíшніькіх ладычык сьпяку.*

ПАШАПКАВАЦЦА *зак.* Павітацца, здымаючы шапку. *Яны як устрічаюцца, усігда культурна пышапкýюцца, так у іх заведзіна пы-старінныму.*

ПАШАРАХЫВАЦЦА *незак. перан.* Дзейнічаць, паводзіць сябе ўладна. *Тэй у Цiляткыві пышырáхывыіцца як ныстыяшчый хызяін.*

ПАШАТАНЫЙ *дзеепрым.* Пахістаны. *Ну дык што, кылі шула пышытáна, у яго сукі ў зямле крепкія, нада аткапывыць.*

ПАШАТКАВАЦЦА *зак.* Пасячыся на шаткоўні. *Пыдажджыця трошку, капуста пышаткýіцца і тады возьміця карыта.*

ПАШВІГІКАЦЬ *зак.* 1. Пакідаць шпурляючы. *Увайшоў у хату, усё пышвігíкый, пышвігíкый с крюкоў — шукай аброць.* 2. Заняцца кіданнем. *Пышвігікый-ка ўверьх снапы, рукі зыбыляць.* ПАШВІГІКАНЫЙ *дзеепрым. Не, я зы табою пышвігíкыныя сыбіраць ня буду, сам зьбірай.*

ПАШКІ *мн.* Падпашша. *У цябе пáшкі пырваліся, нада ўзяць іголку зь ніткыю ды зуцуруваць.*

ПАШКУМАДЗІЦЬ *зак.* Пашкуматаць. *Яны трецьція штанёнкі пушкумáдзілі за лета, ны мáлых усё як гаріць.* ПАШКУМАДЗІЦЦА *зак.* Пашкуматацца. *Цілагрейка пушкумáдзілыся саўсім, ні ныдзівай ты яе большы.* ПАШКУМАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Пыглядзі у том пушкумáджыным тряп'е, можа і выбіріш лапічык.*

ПАШМЫГЫКАЦЬ *зак.* Пашукаць, агледзець таемна. *Ці ты яе ні знаіш: як зайдзіць, па ўсіх куточыкых пышмыгы́кыіць.*

ПАШУРУХАЦЬ *зак.* Пашмуляць. *Дай мякушка, я ніткі пушурýхыю, ня будуць рыстряплівыцца.*

ПАШЧАНКА *ж.* Сківіца. *Ух, усердзіўся, зубы сьцісхывыіць, толька пáшчынкі скріпяць.*

ПАШЧУПЫВАЦЬ *незак.* Мацаць час ад часу. *Кычанкі пашчýпывый, ці тужэюць яны хут трошку.*

ПАШЧЫКАТАЦЬ *зак. перан.* Шпарка пабегчы. *Мальчыкі у лес пышчыкытáлі, арехі ужо сьпелыя.*

ПАЮРЫЦЬ *зак.* Пазаігрываць, пазаляцацца. *Ну што, трошку пуюрíў, а тады жаніўся, пріцішыўся.*

ПАЮШЫЦЦА *зак.* Павесці сябе неспакойна. *Ты іх луччы ня трогый, ніхай троху паю́шуцца, яны скора уціхамірюцца.*

ПАЯДАЦЬ *зак.* Пахарчавацца. *Зуб быў сікрітарём, шлець к нам Пушковыга: ніхай ён нядзелю пыідáіць, пакуля кварціру найдзіць.*

ПАЯЗД *м.* Павозка, карэта. *Паны ў пыя́зды садзіліся, а мы толька глядзелі: во каб і нам у таком праехыць.*

ПАЯКАТАЦЬ, ПАЯКАТАЦЦА *зак.* Паенчыць. *Ох, пыікытáў Пятрок, папёкшы ногі, ну тыкі аппечыныя дужа больныя. Ня столька тамыцька болі, сколька ён пыікытáўся.*

ПАЯЎ *м.* З'яўленне. *Каторый год пыяву іх тут німа, дужа даўно ні пріїжджалі.*

ПЕКАННЕ *н.* Лёгкі ўдар. *Вот табе будзіць січас пекыньня, што ты балыісься і ня слухыіш бабу.*

ПЕКАЦЬ *незак.* 1. Ударацъ злёгку. *Ета суседзкія дзеці нешта пекыюць ны дрыватоньні.* 2 *перан.* Разумець. *Мала чаго ён пекыіць у жызьні, толька другіх слухыіць.*

ПЕКЛАВАННЕ *н.* Цяжкая, пакутлівая праца. *Нашто мне такоя піклувáньня, хваціць зь мяне аднаго сьвіньнёнка.*

ПЕЛЯСКАННЕ *н.* Плёсканне. *Кынчайцця пілісќáньня, нада скарей яду складывыць, с таго кынца ужо паехылі ў луг.*

ПЕЛЯСКАННІК *м.* Той, хто плёскаецца. *Намочуцца пілісќáньнікі, што ўзноў пірідзівацъ нада будзіць. Памянш.* ПЕЛЯСКАННІЧАК. *Твой пілісќáньнічык, хочыш, усю ваду ны сябе выльліць.* ПЕЛЯСКАННІЦА *ж. Падолы мокрыя у пілісќáньніц, ну троху выпылыскылі скацірсьці.*

ПЕЛЯСКАЦЦА *незак.* Плёскацца. *А што дзітваре дзелыць, речка пад бокым, дык цэлымі днямі пялешчуцца.*

ПЕНАЛІК, ПЕНАЛЬЧЫК *м. памянш.* Пенал. *Ён у нас акураціст: урокі падзелыіць, кніжычкі у сумычку складзець, кырындашы у пінáлік паложыць. Мы як учыліся, самі дзелылі пінáльчыкі, бувала, доўга возісься зь ім.*

ПЕНДРЫЦЬ *незак.* Цяміць, кеміць, разумець. *Што ты рысказыіш, калі яны ў тваём дзелі нічога ня пендрюць.*

ПЕНІЯ *ж.* Пеня. *Налог нада воўрімя плаціць, тады пенія росьць ня будзіць.*

ПЕПІНКА *ж.* Яблыня і плод пепін. *Я сабе чатырі пепінкі пысадзіў, я іх сам люблю і дзеці любюць. Памянш.* ПЕПІНАЧКА. *Пыдажджы мінутку, я січас прінясу пепінычык, яны дужа смашныя.*

ПЕРААБЛОЖЫВАЦЬ, ПЕРААБЛОЖЫВАЦЦА *незак.* Ляжаць аблогай. *У іх бальшэй кусок поля піріабложывыіць. Ці ня трецьцій год у вас тэй клін піріабложывыіцца.* ПЕРААБЛОЖЫЦЬ, ПЕРААБЛОЖЫЦЦА *зак.* Паляжаць аблогай. *За возірым поля піріабложыла, жыта увосінь пасеюць. Што піріабложыцца, ета нічога, толька надоўга зупускаць ні нада.*

ПЕРАБАРШЧОНЫЙ *дзеепрым.* Дадзены звыш меры. *Солі сюда пірібаршчона, ці ня трі разы сыпыла.*

ПЕРАБАЎЛІВАННЕ, ПЕРАБАЎЛЯННЕ *н.* 1. Дадаванне звыш патрэбы. *Узноў тваё пірібáўлівыньня іс сахырым. Ня сып, каб пірібуўля́ньня пулучылыся.* 2. Пера-

праўлянне з аднаго месца на другое. *Ні люблю я етыга пірібáўлівыньня, цігайся туды-нызад. Айт, якоя там було пірібуўля́ньня: зывязьлі мяшок жыта ды бульбы троху.*

ПЕРАБАЎЛІВАЦЬ *незак.* 1. Дадаваць звыш патрэбы. *Ты толька солі ні пірібáўлівый, ато Лупудзёнык есьць ня будзіць.* 2. Перапраўляць з аднаго месца на другое. *Нада пірібáўлівыць сваё тряхольля у Шыркі.* ПЕРАБАЎЛІВАЦЦА *незак.* 1. Дадавацца звыш патрэбы. *У цябе ўсігда што-небудзь ды пірібáўлівыіцца.* 2. Перабірацца, перасяляцца. *Нінка пірібáўлівыіцца к сваім дычкам.*

ПЕРАБАЎТЫВАЦЬ *незак.* 1. Узбоўтваць. *Еж як нада, ні пірібáўтывый крупеню.* 2 *перан.* Абгаворваць, паўтараць у размовах. *Сыбяруцца кучыю, усякія трілюды пірібáўтывыюць, ні люблю іх за ета.*

ПЕРАБІРАННЕ *н. перан.* 1. Пераборлівасць. *Дужа я ні люблю пірібіраньня, сеў есьць — дык еж, а ня хочыш — вылазь із-зы стыла.* 2. Папраўлянне пасля акучвання. *Ныдаела пірібірáньня, сьпіна баліць, пастой-ка столька ўремя сагнутый.*

ПЕРАБІРАСТАСЦЬ, ПЕРАБІРЛІВАТАСЦЬ *ж.* Пераборлівасць. *Я з вамі доўга ні пыцырімонюся, мігым вығыню пірябíрістысьць. А ты меншы глядзі ны пірябíрлівытысьць, ныварíла і стынаві на стол.*

ПЕРАБІРАТЫЙ *дзеепрым.* Перабраны. *Пірібірáтыя квасоля у аббіціку, я ўсыпыла, а што ў решыці, пірібіраць нада.*

ПЕРАБІРЛІВАТА *прысл.* Пераборліва. *Дужа ты стаў пірябíрлівыта глядзець, еж, што даюць.*

ПЕРАБІРЛІВАТЫЙ *прым.* Пераборлівы. *Ны мылако нічога кароўка, ну пірябíрлівытыя, ні па ёй сена — усё мордыю вывірнíць.*

ПЕРАБЛУКАНЯЦЬ *зак.* Праблукаць. *Тады пірі-блукуня́лі троху кылы Дубровы, у Ціта нескылька ўремя прівіваліся.*

ПЕРАБЛУТУНЯЦЦА *зак.* Праблукаць. *Кылы Дзім'-яноўны піріблутуня́ўся лета, а тады некуды зьехыў.*

ПЕРАБОРА *м.* і *ж.* Пераборлівая асоба, жывёла. *Пірябора абы-чаго есьць ні станіць, пыдывай яму усё смашныя.*

ПЕРАБОРЫВАННЕ *н.* Перамога ў баруканні. *Ета ні пірябoрівыньня, што ты нагу пыцставіў, я цябе вазьму пaць сілу і пылажу зразу.*

ПЕРАБРАЖЫВАННЕ *н.* Скісанне пры дражджах. *Тута ні пірібрáжывыньня, а ніізьвесна што пулучылыся, выліваць нада.*

ПЕРАБРАЦЬ *зак. метаф.* Пазабіраць у турму. *Былі руспусьціліся, клеці чысьцілі, усё грыблі, а тады іх па дном пірібра́лі.*

ПЕРАБРЫНДАЦЬ, ПЕРАБРЫНДАЦЦА *зак.* Праблукаць пэўны час. *А што яму, у Сяльцэ пірябры́ндыў сколька ўремя, цяперя тута цётка корміць. Найдзіць места, айдзе-небудзь пірябры́ндыіцца.*

ПЕРАБУЗОВЫВАННЕ *н. метаф.* Канчатковае псаванне. *А хто ж ба цярьпеў такоя пірібузовывыньня, канешня, будзіць лаіцца.*

ПЕРАБУКАЦЦА *зак.* Пабіцца (пра бараноў). *Пірябу́кыліся быраны, скусьць пабеглі, яны тожа есьць хочуць.*

ПЕРАБУНТОВЫВАЦЬ *незак.* 1. Пераблытваць. *Нілізя пірібунтовывыць ніткі, як іх тады русплутухаць.* 2. Перашкаджаць. *Етый сеў пісаць, а тэй пірібунтовывыіць, етый шлёп, а тэй у плак.*

ПЕРАБУХТОРЫВАННЕ *н.* Пераліванне без патрэбы. *Ну і што табе дасьць пірібухторівыньня, у сырэя бочычкі нічога ня ўсыпліш.*

ПЕРАБУШМАЧЫВАННЕ *н.* Пусты пераказ. *Няўжэлі табе ні ныдаела слухыць яго пірібушма́чывыньня,— кажный дзень адно і тоя.*

ПЕРАВАДЗІЦЦА *незак. метаф.* Худнець, мізарнець. *Пряма ны вычах піряводзіцца баба, так іна і ды вясны ні дыцягніць.* ПЕРАВЕСЦА *зак.* Схуднець, змізарнець. *Пірівіла́сь — хут ты ў напёрстык удзень ету карову; во ні вязець чылавеку сы скаціныю дык ні вязець.*

ПЕРАВАЖЫВАЦЬ *незак.* Узважваць яшчэ раз. *Па-мойму, правільна зва́жына, ня стоіць піріва́жывыць.* ПЕРАВАЖЫВАЦЦА *незак.* Узважвацца яшчэ раз. *Етыя мяшкі стаўця адзьдзельна, яны будуць піріва́жывыцца.* ПЕРАВАЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* *Ны два замкі замкнута і нічога ні піріва́жывына.*

ПЕРАВАЛАКЫВАННЕ *н. перан.* Перабудова. *Далося нам пірівыла́кывыньня, намучыліся за лета большы некуды.*

ПЕРАВАЛІЦЦА *зак. метаф.* Перайсці праз пэўную мяжу. *Бувала, пірівáлісься зы быльшак, ягыд-ягыд, ся́дзіш і кругом сябе міску ныбяреш.* ПЕРАВАЛЁМШЫ *дзеепрысл.* *Мы іх увідзілі разым, пірівалёмшы за тэй узгорык.*

ПЕРАВАЛХВІЦЦА *зак.* Празмерна напялегавацца. *Ня дужа зь ім пірівалхвіліся, старшый брат гыняў яго як сідырыву казу.*

ПЕРАВЕЗЦА *зак. перан.* Перанесці будынак на новае месца. *І Пітраковы хочуць пірявезца сюда іс сваёю гнілушкыю.*

ПЕРАВІДЗЕЦЬ *зак.* Шмат пабачыць. *Усяго іна ў сваёй жызьні пірявíдзіла. Што пірявíдзіла я ўва сьне сваю матку!*

ПЕРАВЫШЫВАЦЬ *незак.* 1. Быць вышэй за іншага. *Во расьцець Мархвін меншый, ужо большыга пірявы́шывыіць.* 2 *перан.* Пераўзыходзіць. *У бальшэя нычальнікі выйшыў, сымаго Данілу пірявы́шывыіць.* ПЕРАВЫШЫВАЦЦА *незак.* Пераўзыходзіць. *Пірявы́шывыюцца Хведзькіны дні, ён тыкі дужа крепка работыіць.*

ПЕРАГАДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Папсаваны. *Нашто каму пірігáджывыныя зірняты, правільна, што ўсе аткызаліся.*

ПЕРАГАЛОССЕ *н.* Адгалосак, водгалас. *Калі йта було, як яны сваріліся, а во пірігалосься усё ні сьціхаіць.*

ПЕРАГАРЫВАЦЬ *незак. метаф.* Слабець пры свячэнні. *Мы доўга стыялі, глядзелі, зыря пірігáрівыла.*

ПЕРАГАСАЦЬ *зак.* Патаптаць. *Гані іх сь сена, пірігáсыюць, што будзіць толька у гной пусьціць.* ПЕРАГАСАЦЦА *зак.* Патаптацца. *Салома дужа пірігáсылыся, ны патруху ўзілася.* ПЕРАГАСАНЫЙ *дзеепрым. Ты каб толька відзіла, што с клеўрым зьдзелылі: увесь пірігáсын.*

ПЕРАГАТОВІЦЬ *зак.* Шмат пагатаваць. *Іна, як у паньсьскім дваре служыла, многа пірігатовіла, яе тамыцька цанілі.*

ПЕРАГАЎКАЦЬ *зак. перан. груб.* Абгаварыць. *Што пачуюць, у пяць разоў пірігáўкыюць, аць сябе прібавюць нівісь сколька.* ПЕРАГАЎКАНЫЙ *дзеепрым. Усё пірігáўкына ў іх ні разу ня будзіць.*

ПЕРАГЛУЗДЗЯЧЫВАННЕ *н. неадабр.* Пустыя размовы. *Мне іхныя піріглузьдзя́чывыньня ажно ну вушах вісіць.*

ПЕРАГНАІЦЦА *зак.* Згнісці, зрабіцца гноем. *Лісьця пыд яблынкымі кажный год пірігнаíцца і трыва па ём расьцець.*

ПЕРАГРАЗІЦЬ *зак.* Моцна прыгразіць. *Каму ён толька ні пірігразíў, нехта яго дужа баіцца.* ПЕРАГРОЖАНЫЙ *дзеепрым. У цябе ўжо усім пірягрожына, asталыся сымаму сабе пыгразіць.*

ПЕРАГРОХАЦЬ *зак. метаф.* Перакласці з грукатам. *Пакуля пірягрохылі жалезьзя з машыны ў машыну, ажно зымаріліся.*

ПЕРАГЫНДЗІЦЬ *зак.* Папсаваць. *Можна було б выбрыць, пылажыць, каб лежыліся ігрушкі, дык пірягы́ньдзілі.* ПЕРАГЫНДЗІЦЦА *зак.* Папсавацца. *Сколька туды ня прі, тама ўсё пірягы́ньдзіцца, яны нічога ні бірягуць.*

ПЕРАГЫРКАЦЬ *зак. перан. эмац.* Пераадолець у сварцы. *Луччы ні чыпайся с такою, іна цябе пірягы́ркыіць у два шчоты.* ПЕРАГЫРКАЦЦА *зак.* Абмяняцца лаянкай. *Дружылі, дружылі і на табе, пірягы́ркыліся зь нічога зь ніякыга.*

ПЕРАДАВІЦА, ПЕРАДАВІЧКА *ж.* Перадавая работніца. *Пірідаві́цы сыбіраюцца ў горыд, у іх нейкыя сывішчаньня ці што. Абея зло работылі, ну праўда, усігда шчыталіся пірідаві́чкымі.*

ПЕРАДЗЕЛАЦЦА *зак.* Напрацавацца. *Ні біспакойся ты зы свайго брата, ня дужа ён пірядзелыіцца айдзе.*

ПЕРАДЗЕРЖАЦЦА *зак.* Пратрымацца, прагадавацца. *Калі пірядзержыцца цялёнык, вясною ладныя грошы будуць.* ПЕРАДЗЕРЖАНЫЙ *дзеепрым. У Мікілая сёлітнію зіму чатырі аўцы пірядзержына.*

ПЕРАДЗЯВАННІК *м.* Той, хто пераапранаецца. *У етых пірідзіва́ньнікыў многа ўремя ідзець ны пріборы.* ПЕРАДЗЯВАННІЦА *ж. Пірідзіва́ньніцы у той хаці порюцца, січас яны выйдуць.*

ПЕРАДНЯК *м.* Пярэдняе кола ў возе. *Піріднякі нічога, а заднія каткі слубуваты. Памянш.* ПЕРАДНЯЧОК. *Правый піріднячок нада пыміняць, ён нінадзёжный, можыць рассыпыцца.*

ПЕРАДОЕЧКА *ж. памянш.* Ялаўка. *Карова ў іх пірядоічка, кружку мылыка цырканець — ні прідумыіць, як дзяліць на ўсіх.*

ПЕРАДОЙ *м.* Удой. *Нада рузузнаць, як ны пірядой Мархвычкіна кароўка.*

ПЕРАДОЧАК *м. памянш.* Перадок. *У етых калёсых пірядочык слабінькій, цяжолый воз можыць ня выдзіржыць.*

ПЕРАДРОГШЫЙ *дзеепрым.* Перастылы да дрыжыкаў. *Пріехылі пірядрёгшыя, чуць жывэя с калёс скаціліся,— холыд бальшэй пытхваціўся.*

ПЕРАДУКОВЫВАННЕ *н.* Перавучванне. *Як уцягнуўся ў гарелішчу, яму ніякыя пірідуковывыньня ні паможыць.*

ПЕРАДЫХАЦЬ *зак. перан.* Перажыць. *Каб толька*

*хвіўраль пірядыхый, а тады воздух цяплейшым дзелыіцца.*
ПЕРАДЫХАНЫЙ *дзеепрым. Етыя дзьве пірядыхыныя нядзелі доўга ён будзіць помніць.*

ПЕРАЕЗДЖЫЙ *прым.* Такі, які пераехаў з іншага месца. *Мы піряежджыя, дык я ні знаю, што ў етый дзярэйні раншы було.*

ПЕРАЕЗДЗІЦЬ, ПЕРАЕЗДЗІЦЦА *зак.* Праехаць, паездзіць шмат. *Калі яны піряезьдзіюць, етыя машыны, і днём, і ўноччы гудуць і гудуць. Ну скажы ты, куды я дужа піряезьдзіўся за ета ўремя.*

ПЕРАЕСЦА *зак.* З'есці звыш меры. *Яны ні піріядуцца, лізь-мызь і пабеглі, корку хлеба толька ў рукі схвацюць.*

ПЕРАЕХАНЫЙ, ПЕРАЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пракладзены (след). *Во тута міжа піряехына, хырашо відна, а дальшы ці ні пывярнулі к тым кусьцікым. Цiріс кынаўку лі самыга аборычка піріїжджана, і сьлед замецін тама.*

ПЕРАЕЧЫЦЦА *зак.* Напакутавацца. *Сколька ён піряёчыўся іс сваімі раными, нычамі ні спаў.*

ПЕРАЖАБЛІВАННЕ *н.* Перагінанне. *Посьлі піріжаблівыньня абруча ні палучыцца, у карзінку ні ўставіш, гні новый.*

ПЕРАЖАРЫВАННЕ *н. перан.* Моцнае прайграванне. *Піріжарівыньня, канешня, хырашо, ну і ў грязь зупускаць адзёжу ні нада.*

ПЕРАЖЫВА *ж.* Перажыванне. *Адаркі тыкая піряжыва была, як яе маліц упутыўся ў тоя сена.*

ПЕРАЖЫВАЦЕЛЬНА *прысл.* Пакутліва. *Первыя ўремя будзіць піріжывацільна, а троху-патроху забудзіцца.*

ПЕРАЖЫВАЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.* Пакутлівасць. *Сямёнывым було піріжывацільнысьці тоя ўремя, ці лёхка такога хлопца схуваць.*

ПЕРАЖЫВАЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Пакутлівы. *Цяперя для ўсіх піріжывацільныя ўремя, ні купіць, ні дыстаць нічога, хуць аб зямлю ўдарься.*

ПЕРАЖЫВАЦЦА *незак.* Перажываць. *Я так піріжывалыся, што ў іх ніякыга толку ні пулучаіцца.*

ПЕРАЖЫДЗЕЦЬ, ПЕРАЖЫДЗЕЦЦА *зак.* Зрабіцца вельмі вадкім. *Неік ты ніправільна зубуўтала кулеш, ён у цябе піріжыдзеў. Як піріжыдзеіцца цеста, ты яго ну лупату ні ўхваціш.*

ПЕРАЖЫТАШНА *прысл.* З перажываннем. *А каму ж ні було піряжытышна, такоя трясушчыя ўремя стыяла.*

ПЕРАЖЫТАШНАСЦЬ, ПЕРАЖЫЎНАСЦЬ *ж.* Пе-

ражыванне. *Столька Ціціха піряжы́тышнысьці хваціла, нікому столька ні було. Як успомніш, што тварілыся на сьвеці, ікая піряжы́ўнысьць была, айдзе прішлося пабыць.*

ПЕРАЖЫТАШНЫЙ, ПЕРАЖЫЎНЫЙ *прым.* Такі, які выклікае перажыванне. *Піряжы́тышный год быў ім: хата згарела, сына схувалі,— хваціла. А ў нас, думыіш, меншы було піряжы́ўныга,— пыспыталі ўсяго ны вяку.*

ПЕРАЖЫТКІ *мн.* Умовы жыцця. *Усякія былі піряжы́ткі, нам у жызьні усяго прішлося піряпробывыць.*

ПЕРАЖЫЎШЧЫК *м.* Той, хто перажывае. *Найшлі вы піряжы́ўшчыка іс Кузьмовыга сына, ён і пры матку ні падумыў.* ПЕРАЖЫЎШЧЫЦА *ж. Не, брат, ты ні гыварі, Матруна піряжы́ўшчыца, іна сірыт жалеіць.*

ПЕРАЗВАНІЦЬ *зак. метаф.* Абгаварыць. *Узіла ны язык Шуріных дачок, цяперя пірязвоніць, на месіц хваціць абгаворыў.*

ПЕРАЗВАЦЬ *зак.* Запрасіць да сябе ў адказ. *Відна, тожа будуць гулюшку дзелыць, гыварілі, нада Кывалёнкывых пірізва́ць.*

ПЕРАЗІМАВІК *м.* Перазімавалы маладняк свойскай жывёлы (звыч. свіней). *У Клімчынка нічога пацьсьвінкі пірязі́мывікі, каб ны бызар вывіз, ладна б узяў. Памянш.* ПЕРАЗІМАВІЧАК. *Кычаіцца пірязі́мывічык, пірідзяржу восінь, к кылядым будзіць крошка сала.*

ПЕРАЗМЕНАК *м.*, ПЕРАЗМЕНА *ж.* Змена. *У дыярык тожа буваіць пірязьменык, яны тама міняюцца. Пастой троху лі кароў, скора твыя пірязьмена прідзіць.*

ПЕРАЗНУЦЬ *зак. метаф.* Выцяць, лупянуць. *Як пірязну́ ремнім, ты на месьці саўесься, во будуць табе ду́ры.* ПЕРАЗНУЦЦА *зак.* Моцна выцяцца. *Та́к пірязну́ўся аб вугыл у пацёмкых, чуць устаў.* ПЕРАЗНУТЫЙ *дзеепрым. Пірязну́тый скора асядзіцца.*

ПЕРАЙМА *прысл.* Наперарэз. *Схваціў вузёл і шах, пабег к кустам, а тута хлопцы кінуліся пірійма і апутылі.*

ПЕРАЙШОЧЧЫ *дзеепрысл.* Перайшоўшы. *Піряйшоччы лашчынку, сьцёжычку увідзіш, па ёй ідзі і йдзі пряма.*

ПЕРАКАВЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Папярочны. *Атрежця тама дзьве пірікавенькія пыткладычкі пут крюкі.*

ПЕРАКАВІЦА *ж.* Папярочная перакладзіна. *Дайжа ні прідумыю, ш чаго сюда пірікаві́цу атрезыць. Памянш.* ПЕРАКАВІЧКА, ПЕРАКАВІЧАЧКА. *С сасновыга кругліка ладныя палучыцца пірікаві́чка. Не, тыкая пірікаві́чычка дзіржаць ня будзіць, тута цяжыль большая.*

ПЕРАҚАЗАЦЦА *зак.* Перадацца на словах. *У вас можа б і заціхла, а тама ня ўмоўчуць, што хочыш пірі-ка́жыцца.*

ПЕРАҚАЛАМСОЛІВАННЕ *н.* Перамешванне. *Ах, ныдаела ваша пірікыламсолівыньня, чысьціць зы вамі ныдаела.*

ПЕРАҚАЛАМСОЛІВАЦЬ *незак.* Перамешваць. *Ахота вам яшчэ раз усю грязь пірікыламсолівыць.* ПЕРАҚА-ЛАМСОЛІЦЬ *зак.* Перамясіць. *Ці вы тута яшчэ ня ўсё пірікыламсолілі, што ўзноў лезіця.* ПЕРАҚАЛАМСО-ЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *І другей раз настолька пірікылам-соліна, што ні рызыбраць.*

ПЕРАҚАЛАЦІЦЬ *зак.* Патрэсці моцна. *Як пріехылі Стыхвана браць, яго тожа пірікылаці́ла, быяўся, каб ні зыгряблі разым.*

ПЕРАҚАЛГІҚАЦЬ *зак. эмац.* 1. Перайсці кульгаючы. *Пакуля я луг пірікалгі́кыла, сонца пычало зыхадзіць.* 2. Пражыць кульгаючы. *Нікуды я ні паеду, пірікалгі́кыю зіму тута.* ПЕРАҚАЛГІҚАЦЦА *зак.* Пражыць кульгаю-чы. *Трудна ёй адной будзіць пірікалгі́кыцца.*

ПЕРАҚАЛЕЛАСЦЬ *ж.*, ПЕРАҚАЛЕННЕ *н.* Ахала-джэнне звыш меры. *Пірікалелысьць бокым вылазіць, усё ета пазьней ны здароўі атрыжаіцца. А ці помніш, сколька пахы́рліў Қлімыў маліц посьлі пірікаленьня.*

ПЕРАҚАМҚАНЫЙ *дзеепрым.* Пакамячаны моцна. *Рызьбярі пірікымка́ныя тряхольля; што сырейшыя, ны прясла уськінь.*

ПЕРАҚАНДРЫЧЫЦЬ *зак. эмац.* Пазнішчаць. *Та́ды ў нас пыліцэйскіх пірікандры́чылі, дык другея пыцішэлі, ня кідыліся с прікладымі.*

ПЕРАҚАПЫВАННЕ *н.* Перасаджванне на другое месца дрэў, кустоў. *Тоўстыя яблыны ны пірікá́пывыньня ні гыдзяцца, яны ссыхаюць.*

ПЕРАҚАРМІЦЦА *зак.* Пракарміць пэўны час. *Қалі пірякорміцца с пацьцёлкым, ні прыгыдаіць, капейчыну возьміць вясною.*

ПЕРАҚАРСТВАВАЦЬ *зак.* Адмучыцца, адпакута-ваць. *Ні знаю, ці пірікá́рствыіць Дзім'яніха зіму, дужа слабыя, дайжа від нікрасівый.*

ПЕРАҚАЯЦЦА *зак.* Моцна пакаяцца. *Пірікá́іцца ня можыць, чаго ні паехыў разым с усімі.*

ПЕРАҚІДАННЕ *н. перан.* Змена (адзення). *Ачча-піся ты сь пірікідá́ньнім, мыя адзежа ні сырая.* ПЕРАҚІ-ДЫВАННЕ *н.* Қароткі адпачынак лежачы. *Што йта за*

*воддых пірякідывыньня, калі лажыцца, дык ужо каб часы трі пыспаць.*

ПЕРАКЛАДЖАНЫЙ, ПЕРАКЛАТЫЙ *дзеепрым.* Перакладзены. *Сьпірва бяріця пірікла́джыныя дровы, а тады ўжо с-пыт паветкі. Пірікла́тый кірьпіч нада якою шлюзою прікрыць.*

ПЕРАКЛАДКА *ж.* Перакладзіна. *Мяшкі пыт паветкыю ны пірікла́дкі вісяць, зыбярі. Памянш.* ПЕРАКЛАДАЧКА. *Раншы тута удобныя пірікла́дычка была, а тады яе злумалі.*

ПЕРАКЛЫПАЦЦА *зак. экспр.* Прахадзіць з цяжкасцю, пеpажыць. *Дужа слаб Кіріла, ніхай ба зіму піряклы́пыўся, к вясьне пыцьцягнуў.*

ПЕРАКЛЫЧЫВАННЕ *н.* 1. Пераціранне (саломы, ільну і інш.). *Вільшніка палучыш зы піряклы́чывыньня.* 2. Перацёртая салома, лён і інш. *Вазьмі на вілкі піряклы́чывыньня ды пірякінь ціріс прясла.*

ПЕРАКРАДАННЕ, ПЕРАКРАДЫВАННЕ *н.* Крадзеж украдзенага. *Пупаўся ны пірікрыда́ньні, тады с тэя кынпаніі яго і ўхадзілі. Ён думыў, што пірікра́дывыньня будзіць з рук схадзіць.*

ПЕРАКСЦІЦЬ *зак. метаф.* Даць, унесці, укласць вельмі мала. *Ат плітня гной клаў, ай, піряксьціў зямлю, ні було чым укласьць.*

ПЕРАКУДЛАЧЫВАННЕ *н.* Кудлачанне ўсяго. *Будзіць табе пірікудла́чывыньня, як злаўлю: штонікі спушчу ды пруцікым, пруцікым.*

ПЕРАКУПІЦЬ *зак. перан.* Умоўна купіць жывёліну, каб пазбавіцца нагавора, чараўніцтва. *Пірікупля́юць во як. Адзін спрашыіць: — Ці прыдаеш? — Тэй атвічаіць: — Прыдаю.— А я купляю. І тады плоціць дзесіць ці дваццыць капеік ціріcь сьпіну каровы ці там цёлкі. Шчытаіцца, пірікупіў.*

ПЕРАКУРНУЦЬ *зак.* Перакурыць. *Толька мы селі пірікурну́ць, коціць стыршына, крічыць: чаго расьселіся, усіх аштраху́ю.*

ПЕРАЛАЗІК, ПЕРАЛАЗЧЫК *м. памянш.* Пералаз. *Тама ня дужа удобный пірíла́зік, ну ідзі, як-небудзь піріпаўзеш. Быў ціріс пляцень нібальшэй пірíла́жчык, нізінькій, посьлі пы аўсяньню хадзілі.*

ПЕРАЛАМАЦЬ *зак. перан.* Апрацаваць бараной адзін раз. *Што ж ён пы разу праехыў, толька пірілума́ў пахыту.* ПЕРАЛАМАНЫЙ *дзеепрым. На Высічкых пірілума́на, мы ехылі, дык відзілі.*

ПЕРАЛЕТАЧАК *м. памянш.* Пералетак. *Бычок у яго пірялетычык, толька пызьнячок, дык ішчэ ня дужа увыбраўся ў цела.*

ПЕРАЛЁСКАЦЬ *зак.* 1. Перамагчы ў ляcканні кнутом. *Паўлік цябе пірялёскыіць, у яго луччы пулучаіцца.* 2 *перан.* Перабіць. *Ціплят пірялёскылі,— во што яны сытварілі, ціхінькія етыя.*

ПЕРАЛІВАЦЬ *незак. перан. неадабр.* Балбатаць. *Ны скамеічкі пад ліпымі греюцца і піріліваюць цэлымі днямі.*

ПЕРАЛІЎ *м.*, ПЕРАЛІВАННЕ *н. перан. неадабр.* Балбатня. *А чаго мне було сядзець, пірялíў слухыць пустэй. У іх піріліва́ньня як пычанецца посьлі заўтріка, то можыць к вечыру ня кончыцца.*

ПЕРАЛОМА *ж. экспр.* Рэзкая змена, перялом. *Зяць у хату — ета ўжо усё па-новыму, пірялома жызьні.*

ПЕРАМАДЗЕЦЦА *зак.* Пераэкыць пэўны час (у цяжкіх умовах або са слабым здароўем). *Трудна ёй будзіць пірімадзецца зіму, помышчы ніякінькія німа.*

ПЕРАМАЛАДЗІЦЦА *зак. жарт.* Перарабіцца ў маладога. *Ай, ікая мылыдая стала, пірімыладзíлыся, цяперя яе хлопцы ні пызнаюць.*

ПЕРАМАЛАЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Разбіваць усё. *Разы трі пірімыла́чывыў посыд у хаці, ён, як нап'ецца, сябе ня помніць.*

ПЕРАМАСОЛІВАННЕ *н.* Перажоўванне, абсліньванне. *Воч чаго зроду ні любіла — такога пірімасолівыньня.*

ПЕРАМАСЦІЦЦА *зак.* Перасланцца (пра падлогу). *Ні знаю, калі етый мост пірямосьціцца, кругом дзялоў па вушы.*

ПЕРАМЕНЧЫВАТА *прысл.* Зменліва. *Ён усігда пірямянчывыта к ёй атнасіўся, дайжа біць пробывыў.*

ПЕРАМЁТЫВАЦЬ *незак.* 1. Месці нанава. *А пірістань ты, нечыга тута пірямётывыць, і так чыста.* 2. Утвараць палосы снегу праз вуліцу, дарогу. *Як аттуля веціp, кажный год вуліцу пірямётывыіць.*

ПЕРАМОЎЧАЦЬ *зак.* Прамаўчаць, успрыняць моўчкі. *Ёй ба луччы було пірямоўчыць, дык Верка тая самыя, што пірямоўчыць некыму.*

ПЕРАМУРЗАЧЫВАННЕ *н.* Моцнае вымазванне, замазванне. *Глянь-ка на іхныя пірімурза́чывыньня, вымызыліся, што вачэй ня відна.*

ПЕРАМЯКАЦЬ *зак. жарт. эмац.* Перабарукаць. *Ты як возьмісься, дык адзін іх пірімя́кыіш.* ПЕРАМЯКА-

НЫЙ *дзеепрым. Во яны і ліжаць пірімя́кыныя, у цябе, знаць, сілы дужа многа.*

ПЕРАНУРАННЕ, ПЕРАНУРЫВАННЕ *н.* Стомленасць звыш меры. *Посьлі такога пірінуря́ньня і ні хацеўшы зьляжыш. Піряну́рівыньня нікога ды дыбра ні дывадзіла, тады і хваробы прікідаюцца і ўсякія трясцы.*

ПЕРАПАЛОНКА *ж.* Перакладзіна. *Ныд варотымі нада кряпчэйшыю пиріпалонку пылажыць. Памянш.* ПЕРАПАЛОНАЧКА. *Трі піріпалонычкі прівёз зь лесу, посьлі беда апкарю.*

ПЕРАПАЛУЧКА *ж.* Атрыманне звыш належнага. *Гываріў булгакцір, што ў том месіцы была піріпалу́чка, дык у етым ачшчыталі.*

ПЕРАПАСКУДЖЫВАННЕ *н.* Моцнае псаванне. *Ну палучыш ты ў мяне зы такоя піріпаску́джывыньня, я ґіморы сь цябе выгыню.*

ПЕРАПАХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Перааараны. *Раншы піріпа́хыныя бульбоўнікі абізацільна скырадзілі. Адзін кусочык піріпыха́н, а лі кынавы астаўся.* 2. Атрыманы ў выніку пераворвання. *Піріпа́хыныя бульба умесьці са усёю ня сыпліцца, іна буваіць бітыя, а то і падмержшыя. Піріпыха́ныю бульбу нясі ў сенцы, буду паріць сьвіньням.*

ПЕРАПАХЫВАННІК *м.* Той, хто пераворвае. *Піріпа́хывыньнікі ужо атпряглі коні, многа ныработылі.* ПЕРАПАХЫВАННІЦА *ж. Зымарілыся піріпа́хывыньніца, за плугым цігацца — ні бабскыя дзела.*

ПЕРАПАЦЕЦЦА *зак.* Моцна прапацець. *Як выпырісься, піріпацеісься хырашэнька, і праступа твыя айдзе дзеніцца.*

ПЕРАПЕЦЦА *зак.* Наспявацца звыш меры. *Піріпяюцца дзеўкі на Нюркіный свадзьбі, луччыю падругу аддаюць замуж.*

ПЕРАПІХНУЦЬ *зак. перан.* Абысціся пры недахопе. *Пуўдня прісныкамі піріпіхнём, а пад вечыр ацскачу ў горыд хлеба ўзяць.*

ПЕРАПЛАКАЦЦА *зак.* Наплакацца звыш меры. *Ні так твыя Гапычка піріпла́кылыся, як ты трілюдзіш, іна мужука нызаўтріга забыла.*

ПЕРАПЛАЎЛІВАННЕ, ПЕРАПЛАЎЛЯННЕ *н.* Перапраўленне таемна. *Пра Косьцікыва піріпла́ўлівыньня ніхто ні знаў, усё уціхыря дзелылыся. Калі-небудзь яны палучуць сваё зы піріплуўля́ньня.*

ПЕРАПЛЁЦІК, ПЕРАПЛЁТЧЫК *м. памянш.* Пераплёт. *Пыстаў скыйраду ны піряплёцік, стол ня будзіць*

*пыдгарівыць. Піряплёччык удобін, пач што хочыш пыткладзеш.*

ПЕРАПОІВАННЕ *н.* Паенне звыш меры. *Ныпаі гырячыга кыня — во табе і піряпоівыньня.*

ПЕРАПРАВАДЖЫВАННЕ, ПЕРАПРАВОДЖЫВАННЕ *н.* Перапраўленне таемна. *Нічога ім ні дало пірiпрыва́джывыньня: і там на пользу ні пашло. Ныцігаліся сь піріправоджывыньнім, хваціла зь іх.*

ПЕРАПРАШЫВАННЕ *н.*, ПЕРАПРОСЫ *мн.* Просьба аб прабачэнні. *Пірiпра́шывыньня тады хырашо, калі адзін другога пынімаюць. Як зыдасца нячыстыя сіла, ны яго ніякія піряпросы ня дзействыюць.*

ПЕРАПРАШЫВАЦЬ *незак.* Прасіць прабачэння. *Ніхто ня пойдзіць іх пірiпра́шывыць, яны большы ўсіх самі вінуваты у етый сваркі.*

ПЕРАПУЛЯЦЬ *зак.* Перашпурляць. *Сколька ты сяньня бульбы пірiпуля́ў у свайго друга.* ПЕРАПУЛЯНЫЙ *дзеепрым. Ну што, сьнежык большы німа, усе пірiпуля́ны?*

ПЕРАПЫХНУЦЬ *зак. метаф.* Перадыхнуць. *Ой, пысядзім мінутычку, пірiпыхнём, пряма духі зыхватывыіць.*

ПЕРАПЯКАЦЬ *незак.* Пячы нанава. *Ня будзіш жа ты хлеб пірiпіка́ць, еж, якей пулучыўся.*

ПЕРАРАЎНЯЦЦА *зак.* Параўнацца, стаць нароўні. *С тымі хлыпца́мі табе ні пірiруўня́цца, яны ўсюдых кучыю, а ты адзін.*

ПЕРАРВАЦЦА *зак. перан.* Напрацавацца звыш сілы. *Ня дужа пірiрва́ўся твой Пахомчык, ён дзесіць мінут пыработыіць, а пуўдня куріць.*

ПЕРАРУБІЦЬ *зак.* Зрубіць шмат. *Што ён пірiрубі́ў хат за свой век, дужа быў сьпецный масьцір.*

ПЕРАСАДЖЫВАЦЬ, ПЕРАСОДЖЫВАЦЬ *незак. перан.* Пераводзіць. *Мяне ўсігда пірiса́джывылі, ні разу ну другей год ні кідалі. Хто такога гультуя будзіць пірясоджывыць.* ПЕРАСАДЗІЦЬ *зак.* Перавесці. *Во ня будзіш учыцца, дык ныстаўніца ні пірясодзіць у другей клас.*

ПЕРАСАЛАДЖЫВАННЕ, ПЕРАСАЛОДЖЫВАННЕ *н.* Празмернае насалоджванне. *Я ні люблю пірісыла́джывыньня, мне ўсып адну ложычку. У цябе узноў пулучылыся пірісалоджывыньня.*

ПЕРАСВЯЧЫВАННЕ *н. перан.* Біццё. *Ніхто яго пірiсьвя́чывыньня ні баіцца, яму сымаму каб ні пупала большы.*

ПЕРАСВЯЧЫВАЦЬ *незак.* Свяціць паўторна. *Што тама пірісьвя́чывыць, усё відна було.* ПЕРАСВЯЦІЦЬ *зак.* Пасвяціць паўторна. *Ну пірісьвяці́ яму, можа ні замеціў мяшочыкый збоку.*

ПЕРАСЕДУХА *ж.* Пажылая дзяўчына. *Хлопцыў ні було, з вайны ні пыпріхадзілі, асталыся піряседухыю, адна усю жысьць прыжыла.*

ПЕРАСЕРДЗІЦЬ *зак.* Пасварыць. *Сколька ён сваіх суседзіў пірясердзіў, носіцца зь ізыком, як баба дурная.*

ПЕРАСІГНУЦЬ *зак.* Пераступіць. *Пірісігну́ў і ня трож, ня ты пыклаў, ні табе браць, возьмуць, каму нада.*

ПЕРАСКАРОДЖЫВАННЕ *н.* Перабараноўванне. *Канешня, будзіць пііскароджывыньня, тут жа толька пулумана быраною.*

ПЕРАСКРЫПЕЦЬ *зак. метаф.* Перажыць са слабым здароўем. *Работы ат яго ня жджы, можа зіму піріскріпі́ць як-небудзь, дужа слаб.*

ПЕРАСМАГНУЦЬ *зак.* Перасохнуць ад смагі. *Так вы́біліся з духу, у році пірісма́гла.* ПЕРАСМАГЛЫЙ *дзеепрым. Забыла вады ўзяць с сабою, губы пірісма́глыя і язык ні варочыіцца.*

ПЕРАСМІХЫВАННЕ *н.* Абмен усмешкамі. *Дужа мне важна іхныя пірясьмі́хывыньня, ніхай сколька хочуць сьмяюцца.*

ПЕРАСПЕЛІВАЦЦА *незак.* Рабіцца пераспелым. *Твае яблыкі пірясьпелівыюцца, іх нада зьнімаць.*

ПЕРАСТАРЭЦЬ *зак.* Стаць вельмі старым. *Мы самі пірістарелі, гады нашы пірістарелі, у такім возрысьці плыхая жызьня.*

ПЕРАСТАЎЛЕННЕ, ПЕРАСТАЎЛЕНІЕ *н. перан.* Канец, заканчэнне. *А, знаць, ідзець пірістаўленьня сьвету, людзі с ума сходзюць. Што зь естыю пагодыю тваріцца, нейкыя пірістаўленія пычалося.*

ПЕРАСТОЕНЫЙ *дзеепрым.* Такі, які прастаяў вельмі доўга. *Ячмень пірястоіный, у крючкі пагнуўся, яго нада було даўно жжаць.*

ПЕРАСТОЛІВАННЕ *н.* Насціланне столі нанава. *У Мыкырінят пірястолівыньня многа ўремя ня зойміць, яны пытхвацістыя хлопцы.*

ПЕРАСТРОЙШЧЫК *м.* Той, хто перабудоўваецца. *Помню, як мы былі пірястройшчыкымі, дыхнуць було некылі, спалі па трі часы.* ПЕРАСТРОЙШЧЫЦА *ж. Што етый пірястройшчыцы дужа атхадзіла, калхоз мушчын прислаў і пііцягнулі хату.*

ПЕРАСТЫЛАСЦЬ *ж.* Пранізванне халадэчай звыш меры. *Пірястылысьць усігда ны здароўі атрыгаіцца, тады і хваробы, і ўсякыя дурута.*

ПЕРАСУДЗІЦЬ *зак.* Асудзіць многіх. *Што іх пірісудзілі тады за лес, нядзеля ня пройдзіць і вызываюць у суд.* ПЕРАСУДЖАНЫЙ, ПЕРАСУДЖОНЫЙ *дзеепрым. Столька пірясуджыныга народухну! Пырядышна було пірісуджоных, ну ўсе пываро чыліся.*

ПЕРАСУШЫВАЦЦА *незак. метаф.* Знаходзіцца, быць. *Доўга яму пірясушывыцца там ня прідзіцца, дзеньдва пакормюць, а тады скажуць: едзь-ка ты двору.* ПЕРАСУШЫЦЦА *зак.* Пабыць. *Сколька ён у гысьцях пірісушыўся, ужо коціць нызад.*

ПЕРАСЦІЛАННЕ *н.* Матэрыял для засцілання нанава. *Мой пірісьцілáньня многа ныгатовіў, толька зы работу брацца некылі.*

ПЕРАСЦЯРЭЖЧ *зак.* Пасцерагчы ўсё, што выпадала. *А я, думыіш, мала чаго пірісьцярёг — і стагі, і копы, і пуні, і поля, і лес.*

ПЕРАСЫП *м. жарт.* Звышпрацяглы сон. *Не, нідасыпу ў цябе ныўряд каб було, ці ня большы пірясыпу кажныя судкі.*

ПЕРАСЯВАННЕ *н.* Перасеянае поле. *Ня дужа хырашо і ны пірісівáньні усходзіць.*

ПЕРАСЯДКА *ж.* Перасадка. *Нам у Воршы была пірісядка, доўга прішлося ждаць поізда, чуць ня судкі.*

ПЕРАТАКЕЙ *займ.* Такі. *А калі ён пірітакей, чаго ты зы яго ішла, вы ж усе яго знали як аблупліныга.*

ПЕРАТЛЕЦЬ *зак. метаф.* Перажыць. *Мне каб зіму пірятлець, дужа ні хачу лажыцца у мёрзлыю зямлю, халодна, каб ды вясны дыцягнуць.*

ПЕРАТОК *м.*, ПЕРАТОКА, ПЕРАТОЧКА *ж.* Пратока. *Раншы ат возіра быў нібальшэй піряток, а цяперя пірясох, німа. Пірятока ня дужа глубокыя, у брод піріїжджаюць. З возіра у Сож ладныя піряточка, мы яе піріхадзілі. Памянш.* ПЕРАТОЧАЧКА. *Там нібальшэнькыя піряточычка, яе пірішагнеш.*

ПЕРАТОЎЧ *зак.* 1. Стаўчы нанава. *Ня стоўчын ячмень, нада усыпыць у ступу ды пірятоўч.* 2 *перан. неадабр.* Абгаварыць. *Дужа вам хочыцца узноў пустоя пірятоўч.*

ПЕРАТРАСКА *ж.* Калатнеча. *Ужо якую мы пірітряску піріжылі, ніхай бог замілыіць і закрыіць. Памянш.* ПЕРАТРАСАЧКА. *Пызнаў ён німала чаго, як-небудзь і ета пірітрясычка абойдзіцца.*

ПЕРАТРУСКА *ж. метаф.* Значныя змены. *Пыспыталі мы ўсякія пірятрўскі, урімінамі і няплоха жылі, а пріхадзілыся дужа туга.*

ПЕРАТУЛМАЧЫВАННЕ *н.* Паўторнае тлумачэнне. *Жывая указэя была Каціна пірітулмáчывыньня: іна гаворіць, а тэя а, а, куды йщіць?*

ПЕРАТЫКАНАЧКА *ж. памянш.* Саматканая посцілка. *Дзьве пірітыкáнычкі ёсьць, адною зысьцілаю пасьцель, а другая нічыпаныя ляжыць.*

ПЕРАТЫХКАЦЬ *зак.* Патахкаць моцна. *А скажы, пірятыхкыла серца, як увідзіў ваўкоў блізка аць сябе.*

ПЕРАХАЛОПЛІВАЦЬ, ПЕРАХАЛОПЫВАЦЬ *незак.* Перабіраць меру. *Што ні пыпрасі яго зьдзелыць, ён усюдых піріхалоплівыіць. Сяньня ты піріхалопывыіш с цаною, за луччых пырысят меншы плоцюць.*

ПЕРАХВАТАМІ *прысл.* Рыўкамі. *Вы зыхадзіця ат кустоў, а мы піріхвáтымі із-зу бугурка, і іх на месьці зловім.*

ПЕРАХІТРАЦЬ *незак.* Перахітроўваць. *Узяўся пиріхітрáць Іхімінят, а тэя у дзесіць разоў хітрей зы яго.* ПЕРАХІТРОМШЫ *дзеепрысл. Толька піріхітрёмшы Ціхона, ты паедзіш зь імі за Сож.*

ПЕРАХЛЯБІСТАСЦЬ *ж.* Патанчэнне (звыч. у таліі). *Яму піріхлябістысьць ні патходзіць, яму каб трошку таўсьцей нада.*

ПЕРАХОД *м.* Час пасля прынятага. *Памінкі можна спруўляць раншы, а нільзя, каб быў піряход, пазьней.*

ПЕРАХОЎ *м.* Перахоўванне. *Посьлі піряхову пашлі ні пряма, а тым бокым рова, ціріс сасоньнічык і двору.*

ПЕРАХРАМАЦЬ *зак.* Прахадзіць пэўны час кульгаючы. *Што мне ў бальніцу класца, як-небудзь пірíхрымáю у дваре.*

ПЕРАХРОСНЫЙ *прым.* Перакрыжаваны. *Калі пыднасілі паткíдывыньня, то нясьлі ны піряхрёсныю дарогу і палілі ету дурату.*

ПЕРАХРОСТАК *м.* Скрыжаванне. *Стырікі гыварілі, што паднос нада ны піряхрёстку спаліць.* *Памянш.* ПЕРАХРОСТАЧАК. *Ны піряхрёстычык як узойдзіш, бярі лявей і йдзі пряма і пряма.*

ПЕРАЦАЛПОНІВАННЕ *н. неадабр.* Абгаворванне. *Ныдаела іхныя піріцалпонівыньня, кажный вечыр адно й тоя вярзуць і вярзуць.*

ПЕРАЦАЛПОНІВАННІК *м. неадабр.* Той, хто абгаворвае. *І яны сталі піріцалпонівыньнікі як баба.* ПЕРА-

ЦАЛПОНІВАННІЦА *ж. Цягнуцца піріцалпонівыньніцы с таго кынца, усё апсудзілі і абміркувалі.*

ПЕРАЦЬМЕЦЬ *зак.* 1. Перагарэць без агню. *У печы ўсё піряцьмела, нада зымітаць ды на́ дзінь ставіць.* 2 *перан.* Пражыць ціха. *Я тута зіму піряцьмею, ня хочыцца ехыць дзіцям ныдыідаць.*

ПЕРАЦЮКАЦЬ *зак.* Перасячы лёгкім ударам сякеры. *Німа ўжо тых цапочыкыў, бацька піряцю́кыў у печ.*

ПЕРАЧУМАЧЫВАННЕ *н.* Атлумліванне. *Як сыбяруцца кучыю, і пычынаіцца пірічума́чывыньня, чаго толька ні нынясуць там.*

ПЕРАЧЫНІЦЬ *зак.* Нарабіць (пра каўбасы). *Я зы сваю жызьню пірічыні́ла кілбас, ні прідумыць сколька, а цяперя і ні панюхыіш.*

ПЕРАЧЫШЧАННЕ, ПЕРАЧЫШЧЫВАННЕ *н.* Ачышчэнне, ачыстка. *Посьлі пірічышча́ньня вымыцца нада хырашэнька, там ат пылі ні атыбрацца. Пірячышчывыньня ні тыкая цяжолыя работа, ну дужа нудныя і пыльныя.*

ПЕРАЧЫШЧЫВАЦЬ *незак.* Перачышчаць. *Учора да позныга пірячы́шчывылі ячмень у анбарі, а сяньня ні знаю, куды пашлець брігадзір.* ПЕРАЧЫШЧЫВАЦЦА *незак.* Перачышчацца. *У аўсе сьміцьця усякыга многа, і ён ня дужа хочыць пірячы́шчывыцца.*

ПЕРАШАПТАЦЦА *зак.* 1. Пашаптацца. *Пірішыпта́ліся утраіх і некуды мытанулі.* 2. Пагадзіцца пашаптаць замовы. *Пыдыйдзі к Мархві, пышапчы ёй, ты ня дужа пірішыпта́лыся каму.*

ПЕРАШАРШЧАЦЬ *незак. гумар.* Знішчаць. *Абычаго ня дужа зыставіш зьесьць, а канхветы скора пірішыршча́юць.* ПЕРАШАРСЦІЦЬ *зак.* Растраціць. *Ты яму тысічы дывай, дык ён зы нядзелю пірішарсьці́ць.* ПЕРАШАРШЧОНЫЙ *дзеепрым. Раншы былі капейчыны, можна б абжыцца, дык усё пірішаршчона.* ПЕРАШАРСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пірішарсьцёмшы маткіны рублікі, цмы́гыіць.*

ПЕРАШАТАЦЦА *зак. метаф.* Правесці пэўны час у блуканні. *Яны тоя ўремя ці ні ў Сапрыныўскім лесі пірішыта́ліся, уродзі іх відзілі.*

ПЕРАШЛЫНДАЦЬ, ПЕРАШЛЫНДАЦЦА *зак.* Прабадзяцца. *Яму толька етый месіц піряшлы́ндыць, тады махнець у Крыматорыйку. Думыў тута вясну піряшлы́ндыцца, ды Наста ні зыхацела карміць гультуя.*

ПЕРАШМУЛЯВАНЫЙ *дзеепрым.* Перацёрты шмуляннем, перапілаваны тупой пілой. *Пірішмулюва́ныя палычкі рыскалі ды пылажы пат крышу.*

ПЕРАШНЫПАРЫЦЬ *зак.* Перашнарыць. *Толька зайдзіць, усё усюдых піряшны́пырiць, мы яго знаім.* ПЕРАШНЫПАРАНЫЙ *дзеепрым. Тама ды вас було ўсюдых піряшны́пырiна.*

ПЕРАШНЫХАРЫЦЬ *зак.* Абшукаць хутка і старанна. *Зайдзіць на двор, іна табе усе куточыкі піряшны́хырiць.*

ПЕРАШУКЫВАЦЦА *незак.* Доўга шукаць. *Я ўсігда піряшу́кывыюся то таго, то другога, нічога на месьці ні ляжыць.* ПЕРАШУКАНЫЙ *дзеепрым. Усюдых пірішука́на, я ні прідумыю, айдзе тэя нажнічкі.*

ПЕРАШУРОВЫВАННЕ *н.* 1. Старраннае пераціранне. *Каб іна іс сваім пірішуровывыньнім посыд ні пабіла, ато с тарелкымі туга.* 2 *перан.* Перапраўлянне. *Сам ні ш чым астаніцца зь еткім пірішуровывыньнім.*

ПЕРАШУРОВЫВАЦЬ *незак.* 1. Старанна пераціраць. *Нашто табе яшчэ раз пірішуровывыць скамейкі.* 2 *перан.* Перапраўляць. *Усю восінь пірішуровывылі туды яблыкі, а посьлі бульбу.*

ПЕРАШЧЫПНУЦЬ *зак.* Перашчыкнуць. *Тыкая таню́сінічкыя яе дзяўчонка, што, кажыцца, пірішчыпнуць можна.* ПЕРАШЧЫПНУЦЦА *зак.* Перашчыкнуцца. *Тута пірішчыпнецца шчыпцямі, калі жыманеш ладна.*

ПЕРАШЧЫЎЛЯЦЬ *зак.* Перашчыкнуць. *Ішла зь імі нейкыя дзяўчонка як стрікыза, яе пірішчыўля́ць можна двумя пальцымі.*

ПЕРВАСЦЬ *ж.* Самы пачатак. *Ета ў цябе была первысьць, глядзі, каб стала пасьледнім разым пу чужых сыдках лазіць.*

ПЕРЛАМУТРЫК *м. памянш.* Перламутравы выраб. *Табе хочыцца, каб пірламу́тріку купіў, абыкнавенных ґузікыў ня хочыш.*

ПЕРЦЦА *незак. перан.* Выходзіць масай, напорам (пра дым, пару). *Ідзём мы — глянь: дым са ўсіх вокын прецца у Лявона.*

ПЕСЕЛЬНІК *м.* Ахвотнік пасняваць. *Ого, твой сьвёкыр якей быў пісільнік, мы яго хырашо помнім.* ПЕСЕЛЬНІЦА *ж. У нас було многа пісільніц, бувала, дзярейня зьвініць ат песін.*

ПЕТРАННЕ *н. экспр.* Разуменне. *Якога ты хочыш петріньня, кылі ён як глумачок, ні ў чом ні рызьбіраіцца.*

ПЕТУХОЎ *прым.* Пеўневы. *Ета ж пітухова перья выляіцца, яго шкумаціў нехта, ці ні пупаў яго тхорь.*

ПЕТУШКІ *мн.* Касачы (кветкі). *У мяне сідзяць два кусьцікі пітушкоў, кылі хочыш, вырый сабе адзін.*

ПЕТУШЫШЧА *м.* Вялікі певень. *Во ў Мыкара адзін год быў пітушышча, з мушчынымі біўся.*

ПЕЧ *незак. перан.* Выдаваць, прадаваць. *Сумашэччыя було ўремя, людзей пяклі ні за што, ні пра што.*

ПЕЧАНЫЙ *прым.* Абпечаны. *Сядзіць ны пасьцелі сь печынымі ныгамі, на мост ня можыць споўзьць.*

ПЕЧАЧКА *ж.* Грубка. *Зімою ў маёй хаці бясь печычкі нілізя, саўсім зыкалеіш.* ПЕЧЫШЧА *ж. павеліч.* Печ. *У Лукашонка была печышча, што на ёй було хуць скач.*

ПЕШАДРАЛА, ПЕШАДРАЛАМ *прысл.* Пехатой. *Глядзіця, прызіваіця аўтобусік, будзіця пішыдра́ла перць. Яны пішыдра́лым кацілі, а ета ж вёрст высімнаццыць.*

ПЕШЧАВАТЫЙ *прым.* Пясчаны. *Ны пішчува́тый зямле тожа можна харошыя урыджаі пулучаць.*

ПІЖАВАННЕ *н.* Размяранне. *Мікіпыр ляжыць вун на сені посьлі піжува́ньня, пуўдня рызьбівалі участкі.*

ПІЖАВАННІК *м.* Той, хто размярае. *Дужа многа тває піжува́ньнікі намерілі: пуўдня зу кустамі прукурілі.* ПІЖАВАННІЦА, ПІЖАВАЛКА *ж. Антоніхіна піжува́ньніца шчытаць рызьбіраіцца. Спрасі-ка у піжува́лык, ці кончылі яны лён рызьбіваць.*

ПІКАННЕ *н.* Падаванне голасу. *Ім нада зумурувацца і муўчаць, якоя ім яшчэ пікыньня.*

ПІКАЦЬ *незак.* Падаваць голас. *Ні хацелыся мне пікыць, ато б я усё ім выскызыла, пымянула б і бычкоў, і цёлычык.*

ПІЛЬНАВАННЕ *н.* Падсцераганне. *Нічога мне ні дало пільнува́ньня, ня зглела, як Мішка прайшоў.*

ПІНЖАЧОНАК, ПІНЖАЧОНКА *м. памянш.-зневаж.* Пінжак. *Якей-то старінькій пінжачонык ныпрянуў, цяплей будзіць на полі. Лі двыра усьцягну рванінькій пінжачонка і топкыюся пымалу.*

ПІПІКАННЕ *н.* Падача сігналаў клаксанам. *Якоя-то піпікыньня я чула, ну ні выхадзіла, ні глядзела, хто тама і што тама.*

ПІПІЦА *ж. жарт.* Нос. *Як зыдзярець піпіцу, к ёй бяс хвігі і ні пуцступайся.*

ПІПКАЮ *прысл. жарт.* Задзірыста (пра нос). *Ну, ета крысавіца первый сорт: нос піпкыю і губкі баньцікым. Памянш.* ПІПАЧКАЙ. *Носік піпычкыю зыдраўся,— во і ўвесь чылавек зь яго.*

ПІСАЛЦІР *м.* Псалтыр. *Мне старыста царькоўный дывай чытаць пісалці́рь і каб я абізацільна вярнула.*

ПІСАЦЦА *незак.* Перапісвацца. *Первыя гады, як*

*паехылі, часта пісáліся, а тады неік закінулі і закінулі.*

ПІСКАЦЬ *незак.* Пішчаць раз-пораз. *Я то чуў разы трі, як піскыла пат хворысьцім, ну ні падумыў, што тута тхорь пыявіцца.*

ПІСКЛЯ *м.* 1. Кураня. *Астанецца піскля адзін, заблудзіцца, тады пішчыць у бульбі.* 2 *перан.* Дзіця. *Во піскля у Кіреівыя дачкі, ні спускай яго з рук, вылачы цэлый дзень.*

ПІСЦЮЛЬГА *ж. экспр.* Крыкуха. *Зывілася пісьцюльгá з раньня, цяперя увесь дзень будзіш яе слухыць.*

ПІТНІК *м.* Той, хто п'е. *Твой пітнік большы зы каўнерь нальлець, чым выпіць. Памянш.* ПІТНІЧОК. *Стыряіцца пітнічок маліonькій, аж захлёбывыіцца.* ПІТНІЦА *ж. Сь цябе б тожа ніплыхая пітніца была.*

ПІЦЬ *незак. перан.* Кляваць з мяцёлкі (проса). *Вун пыглядзі-ка, як віряб'і наўчыліся піць просу.*

ПІЦЬКІ, ПІЦЕЧКІ, ПІЦЕНЬКІ *незак. дзіц.* Піць. *Січас я прінясу табе піцькі, нап'есься. Даю, даю піцічкі майму мáлінькыму. Во-о, ты піцінькі зыхацеў, січас пыдагреіцца.*

ПІШЧ *ж.* Ежа. *Мой жалудык грýбую пішч саўсім ні прініmaіць, аб адном мылаку цягну.*

ПЛАВАЦЬ *незак. перан.* Хадзіць па глыбокім снезе. *Ці стоіць січас ехыць у лес, будзіця плáвыць у сьнягу па поіс.*

ПЛАКАННЕ *н.* Плач. *Ну пыплач, пыплач, можа плáкыньня табе паможыць піряжыць горя.*

ПЛАНЕТА *ж.* Лёс. *На ўсё планета, нырыждаіцца чылавек іс судзьбою. Відна, яго планета тыкая.*

ПЛАНЕТНІК *м.* Кніга прадказанняў. *Я Марыі пы планетніку вы́чытыла: ізь любові умярець,— так і пулучылыся, па дурысьці памёрла.*

ПЛАСТАННЕ *н.* Разразанне на кавалкі (звыч. пра сала). *Як рука набіта, дык што йта плыстáньня, разрезыў, разрезыў і ўсё.*

ПЛАТАВЫЙ *прым.* Вышэйшай якасці. *Сыпагі плáтывыя у яго былі, доўга у іх хварсіў.*

ПЛАХА *ж.* Плошча, абсяг. *Пасеіна тыкая плáха жыта, біз машын зукукуіська, ні ўбяреш. Павеліч.* ПЛАШЫШЧА. *Во айдзе плáшышча лубіну!*

ПЛАХАВАТА *прысл.* У пэўнай меры дрэнна. *На етый раз ты плухувáта зьдзелыў, ні падумыў, што палучыцца.*

ПЛАХАВАТЫЙ *прым.* У пэўнай меры дрэнны. *Халод-*

*ныя вісна і ўсходы плухуватыя усюдых. Памянш.* ПЛАХАВАЦЕНЬКІЙ. *Плухуваціенькія пунькі, ныпрасна ён бярець.*

ПЛАХАВАЦІСТА *прысл.* Няважна. *Плухуваціста яны жывуць с Аксютыю, ня дужа ладзюць, кажный неік сабе.*

ПЛАХАВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Няважнае жыццё. *Памойму, у іх плухуваціетысьць пышла посьлі пыжара.*

ПЛАХАВАЦІСТЫЙ *прым.* Няважны. *Плухуваціетый зь яго касец, сілы ня дужа многа і ні прілаўчыўся як нада.*

ПЛАШАЧКА *ж. памянш.* Плаха. *Дзьве сьценкі ў пуні закінуў плашычкымі, бірнушкоў ні хваціла.*

ПЛАШЧЭЙ *прысл.* Больш пахіла, плоска. *Дзелыйця крышу трошку плашчэй, ато ны яе ня ўзьлезіш.*

ПЛАШЭЙ *прысл.* Горш. *І раншы було ня мёд, а цяперя ўсе сталі жыць плашэй.*

ПЛЕВУЦІНА *ж. перан.* Лёгкае адзенне. *Што йта зы адзежына, плівуціна, іна ці ёсьць ны табе, ці німа. Памянш.* ПЛЕВУЦІНКА, ПЛЕВУЦІНАЧКА. *Плівуцінкі пынадзенуць, думыюць, дужа красіва. Ідзець, на ёй плівуцінычкі, наскрызь сьвецюцца.*

ПЛЕЙТУХ *м.* 1. Тупіца, разявака. *Айдзе ты с плейтухым зговорісься, ён цябе зыайкыіць. 2 звыч. мн.* Валасы, кавалкі. *Ён цябе каб хваціў, ударіў аб мост, сь цябе б плейтухі пыляцелі.*

ПЛЕН *м.* Пленум, пасяджэнне. *Раншы і ў калхозі плен прывадзілі. Гыварілі, што на плен паедуць.*

ПЛЕСКАТАННЕ *н.*, ПЛЕСКАТНЯ *ж. перан.* Балбатня. *Ці мала мы наслухыліся ўсякыга пліскытаньня пры яго. Во пыглядзіш, што Пітрачыха узноў пліскатню пычанець.*

ПЛЕСКАТАЦЬ *незак.* 1. Плёскаць. *Бальшэй павыдык, ну лугу рызьлілося, чуць ні пад вокны выда пляскочыць.* 2 *перан. неадабр.* Балбатаць. *Як сойдуцца, як возьмуцца пліскытаць, паспробый піряслухыць.*

ПЛЕСКАТУН *м. неадабр.* Балбатун. *Ні разу б ні падумыла, што Мікілаіў — такей пліскатун, як баба дурная.* ПЛЕСКАТУХА *ж. Ну што ты скажыш, кылі пліскатуха і большы ніхто. Памянш.* ПЛЕСКАТУШКА. *Расьцець пліскатушка, уся як мама будзіць.*

ПЛЕСНЕВІСТЫЙ *прым.* Плесневы. *Не, плесьнівістый хлеб я есьць ні стану, у мяне сьвежый ёсьць.*

ПЛЕХУЦІНКА *ж.* Старая адзежына. *Астарожна пліхуцінку ныдзівай, іна можыць ны плічах разьехыцца. Памянш.* ПЛЕХУЦІНАЧКА. *Я і сам віджу, што ета пліхуцінычка.*

ПЛЕЦЕНКА, ПЛЯЦЯНКА *ж.* 1. Акуратна сплецены кошык. *Плецінкі, бувала, схвацім і пабеглі ны бызар. Нашчыпіць бальшую пліця́нку шчаўлю і пынісла ў горыд, глядзіш, на хлеб у яе ўжо ёсьць.* 2. Аплеценая бутэлька. *У мяне была быльшая плецінка на восім літрыў, я ў яе красін браў. Пабілыся мыя пліця́нка, жалка. Памянш.* ПЛЕЦЕНАЧКА, ПЛЯЦЯНАЧКА. Акуратна сплецены кошык. *Раншы ны бызары былі красівыя плецінычкі, зысыжанцы плялі. Із-зы Сыжа прівазілі пліця́нычкі к нам ны бызар, дужа акуратна сплеціныя.*

ПЛЕЦЦЮ *прысл.* Густа, як бы сплёўшыся. *Вішні плецьцю, ды буйныя, салодкія. Гуркі пряма плецьцю ліжаць ны грідах.*

ПЛЕЧАЧКІ *мн. памянш.* Плечы. *Худзю́сінькій, танюсінькій, плечычкі тэя, што рук ні пыкладзеш. Павеліч.* ПЛЕЧЫШЧЫ. *Лукерын мужык — здаровый мушчынішча, морда красныя, плечышчы хуць сажнім мерій.*

ПЛЕШАЧКА *ж. памянш.* Плешка. *Ладныя б гвозьдзікі, ды ўсе бяс плешычык, усё дно як нарошня пыцьсіка́ны.*

ПЛЁТАЧКА *ж. памянш.* Нагайка, плётка. *Тады ён пріiжджаў за сеным і кажный раз новыю плётычку прівазіў.*

ПЛЁХАННЕ, ПЛЁХКАННЕ *н.* Плюханне. *Кажныя посьлібедзьдзя у іх плёхыньня пычынаіцца, ну выда цёплыя. Я пы біряжку ішла, дык чула плёхкыньня, а хто тама быў, я ні глядзела.*

ПЛЁХКАЦЬ *незак.* Плюхаць. *Доўга плёхкылі посьлі абеда, нукупа́ліся уволю.* ПЛЁХКАЦЦА *незак.* Плюхацца. *Як пычануць плёхкыцца, і пры казьбу забудуць, і пра ўсё на сьвеці.*

ПЛІСКАННЕ *н.* Бліск. *Во раншы було пліскыньня: мылыдня як різанець, різанець і зразу гром, ажно аглушыць.*

ПЛІСКАЦЬ *незак.* Паблісквацъ. *Зь вечыра у том баку, ат Рыдзівоныўкі пліскыла, алі гразы ні сыбралыся.* ПЛІСНУЦЬ *зак.* Блісңуць. *У том баку два разы дужа сільна плісңула.*

ПЛІХНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Як пліхніць яму квакуха у самыя ліцо, мыгла вочы выдзіўбыць.*

ПЛОЙМІШЧА *ж.* 1. Вялікая колькасць. *Плоймішчу скыта дзяржыць, ніяк ні нысытаіцца.* 2 *перан. іран.* Сваякі. *Іх тыкая плоймішча, азялілі дзярэўню.*

ПЛОТНІЦТВА *н.* Праца плотніка. *Змалку пашоў і па-*

*шоў па плотніству, з бацькыю нядренна прілаўчыўся.*

ПЛОТНІЧАСКІЙ *прым.* Плотніцкі. *У Лубуза быў харошый плотнічыскій інструмент, у Мархвы астаўся.*

ПЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* Заплочаны. *Ну як жа ня плочына, я сыма насіла, плаціла, во і квіток мне дывалі, пыглядзі.*

ПЛУЖЖА *н. зб.* Плугі. *Плу́жжа пыт паветкыю склалі, тама б можна выбрыць лёгінькій плужок.*

ПЛЫСЦЬ *незак. перан.* Ісці тонучы (у снезе, гразі). *Сьнягі бувалі ня вылізьць, чуць з дарогі зьвярнуў — сам топісься і конь плувець.*

ПЛЭЙТУХ *м.* Неахайны чалавек. *Нейкій плэйтух цігаўся к ёй, а цяперя і таго ня відна, верна, пыняў, што йна зы цаца.*

ПЛЮГАВЕННЕ, ПЛЮГАЎЛЕННЕ *н.* Зневажэнне, прыніжэнне. *А воць цярьпіць плюга́віньня, як яго серца выдзержывыіць. Хруза крепка нылаіла зу плюга́ўліньня, можа трошку прішчэміць язык.*

ПЛЮГАВЕЦ *м.* Нікчэмны чалавек, нягоднік. *Нашто табе с плюга́ўцым чыпацца, ці ат яго што чылавечыскыя пачуіш.* ПЛЮГАЎКА *ж. Плюга́ўка зысыжанскыя трепліць разныю дурату, чым-то ёй ні дыгадзілі.*

ПЛЮГАВІЦЦА *незак.* Рабіцца нікчэмным, псавацца. *Раз кідаіш адзёжу як пупала, як жа іна ня будзіць плюга́віцца.*

ПЛЮГАЎСТВА *н.* Нікчэмнасць. *Ні хачу я с плюга́ўствым ніякіх дзялоў весьць.*

ПЛЮНДРЫНА *ж. узмацн.* Нязграбная, неахайная жанчына. *Ні гываріця вы пра ету плю́ндріну, яе ніхто зы чылавека ні вядзець.*

ПЛЮШКА *ж. перан.* Удар. *Ладныю плю́шку пулучыў, тады асеўся, стаў хуць ды раны пріклыдай. Памянш.* ПЛЮШАЧКА. *Чаго атказывыцца, плю́шычка харошыя была і табе, знаць, пыныравілыся.*

ПЛЮШЧАННЕ *н.* Заплюшчванне. *Якоя ж тваё плюшчыньня, калі ты шчэлку кідаіш і пыдглідаіш, куды мы хуваімся.*

ПЛЮШЧЭННЕ *н.* Моцнае плюханне. *Спысала я, спысала погріб — плюшчэньня і ўсё, і равок прысікала, і гліну сыпыла.*

ПЛЯВУШАННЕ *н.* Біццё ў вуха. *Дам плявýшыньня, рыспплявушыўся дужа, табе сымаму скора рогі аблумаюць.*

ПЛЯВУШАННІК *м.* Той, хто пагражае ўдарыць у вуха. *Каб сымаму ні пупала большы як нада таму пля-*

*вӯшыньніку*. ПЛЯВУШАННІЦА *ж. Ух, рызыйшлася плявӯшыньніца, рысплявушылыся дужа.*

ПЛЯМКА, ПЛЯМАЧКА *ж. памянш.* Пляма. *Чысьціла іна хырашо, ну пля́мкі кой-айдзе заметны. Я так вымыла рубашкі, нійдзе пля́мычкі ні найдзіш.*

ПЛЯСКАННЕ *н. перан. неадабр.* Балбатня. *Можа каму і пля́скыньня ныравіцца слухыць, а ў мяне ат яго вушы вянуць.*

ПЛЯСКАННІК *м. перан. неадабр.* Балбатун. *Пля́скыньнік дайжа пынімаць ня хочыць, што над ім кругом сьмяюцца.* ПЛЯСКАННІЦА *ж. Вод ба нылаіць етых пля́скыньніц, каб хут троху ізыкі унімалі.*

ПЛЯХОТНІК *м.* Абадранец. *Ходзіць пляхотнік, рубашка шмацьцім буўтаіцца.* ПЛЯХОТНІЦА *ж. Як ёй ня стыдна пляхотніцыю такою цігацца.*

ПЛЯХОЦІНКА *ж. памянш.* Зношаная адзежына. *Посьлі бані якую пляхоцінку пірядзень і ла́дна, усё дно нада сушыць.* ПЛЯХОЦЦІКА *н. памянш. зб.* Рвань, старызна. *Некуды ета пляхоцьціка бярежч, во тряпышнік будзіць ехыць, дык здам.*

ПЛЯЦЁНАЧКА *ж. памянш.* Пляцёнка. *Було пырядышныга цубулі, а зы зіму рызыйшлася, пляцёнычка на семя вісіць.*

ПНІ *мн. перан.* Зачаткі пер'я. *Як скубеш куріцу увосінь, дык па ёй пні, пні, іх тожа нада пывырываць.*

ПОВАД *м.* Навод. *Мы толька цяперя дызналіся, чый тады повыд быў, як у нашу клець лазілі.*

ПОВАРАТ *м.* Паваротка. *За повырыт зайдзіця і с правыга боку ягыд сколька душэ ўгодна. Памянш.* ПАВАРОЦІК. *Зу кустамі зразу увідзіця пывароцік на поля і едзьця туды.*

ПОВЕРХ 1 *прысл.* Паверх. *Трыва як повірьх пойдзіць, то пасевы прыпалі.* 2 *прыназ.* Паверх. *Выда пышла повірьх травы, як разьліў.*

ПОГАЎЕ *н.* Невялікая жэрдка. *Высік погыўій ны крайку, ніхай сохнуць. Памянш.* ПОГАЎІКА. *Пыдай мне вун тоя погыўіка, што збоку.*

ПОДРАСТАК *м.* Падростак. *Ладный подрыстык бярецца, скора пойдзіць работыць, як бацька, помышч табе будзіць.*

ПОІЛЬЦА *н. памянш.* Пойла. *Я поільца рызьвяду, а ў абеды вынісіш цялёнычку, ніхай нап'ецца.*

ПОЙДЖАНЫЙ, ПОЙДЗЕНЫЙ *дзеепрым.* Адпраўлены ў дарогу. *Так ён і пашоў, твой Шурка,— будзіць*

*пойджына, ён і слухыць ня хочыць цябе. Будзіць у іх і пойдзіна, і паехына,— зывалюцца ны кынаві і прысьпяць дзень.*

ПОК *выкл.* 1. Пра паданне. *Драўся, драўся па ўглу, а тады пок — ляжыць.* 2. Пра выстралы. *Нехта пок, пок лі балота, вутык б'юць.*

ПОЛІВАЧКА *ж. памянш.* Поліўка. *С ахоткі і полівычкі сірбанеш, асобінна калі ладна зваріна.*

ПОЛІК, ПОЛІЧАК *м. памянш.* Нары. *Якея тама крываці! — полік ны палкых прігырадзілі і спалі, хырашо, хуць сяньнік быў. Полічык вузінькій-вузінькій, пряма як ліжанка ікая.*

ПОЛЬЗАВАЦЬ *незак.* 1. Мець карысць. *Ня думыю, каб ён дужа пользывыў што-небудзь ат Пынасывых.* 2. Лячыць. *Твыя баба ўсіх пользывыла малінывым атварым, первыя лікарства яе було.*

ПОМАЧ *м.* Дапамога. *У тваім помычы яны ні нуждаюцца. Ідзі ты знаіш куды іс сваім помычым.*

ПОМІН *м.* Упамінанне. *Якей табе помін, хто цяперіцька даўнія помніць.*

ПОПІСТА *прысл.* Няўклюдна. *Неік попіста сядзіць ны табе куртка.*

ПОПІСТАСЦЬ *ж.* Няўклюднасць. *Ат яго каб трошку попістысьці атняў, ён ба быў нічога маліц.*

ПОПІСТЫЙ *прым.* 1. Няўклюдны. *Зьдзелылыся ікаято попістыя, ні баба, а нейкыя чучыла.* 2 *жарт.* Тоўстазады. *Попістыю прівёз сабе мыладуху, памнуць Хрісьцінкіны сіньнічкі.*

ПОРАСЦЬ *ж.* Малады зараснік. *Летыся лазу пывысікалі, дык цяперя тыкая порысьць пышла па ўсіх аборкых.*

ПОРВІШЧА *ж. павеліч.* Цяжар. *Куды я такую порвішчу буду цягнуць, тута ня меншы трёх пудоў будзіць.*

ПОРШЫ *мн.* Перхаць. *Буваіць, ад горя ныпадуць поршы. Гаворюць так, што поршы, а якея тэя поршы, хто іх знаіць.*

ПОСТАВАННЕ *н. перан.* Нястачы. *Яму, відна, постывыньня аднаму здорыва ныдаела.*

ПОЎЗАЦЬ *незак. перан.* Лазіць. *Пу кустах поўзылі, тама троху апенкі прыкідаюцца ў лазе.*

ПОХ *выкл.* Пра боўтанне. *Харошыя кыравіца у Зыхарёнка, бягіць с поля ўдвору, толька вымя пох-пох.*

ПОХАННЕ, ПОХКАННЕ *н.* Глухія адрывістыя гукі. *А ні прідумывый, якоя ты похыньня пачуў. У Сьціпаніды хырашо похкыньня чутна у бочкі.*

ПОХЛЕБКА *ж.* Вадкая страва. *Ня дужа ім хочыцца тваю похлібку есьць. Памянш.* ПОХЛЕБАЧКА. *Толька што похлібычка, кой-айдзе капусьціна плавыіць.*

ПОШЛІН *ж.* Пошліна. *Гыварілі, цяперя дырыгая пошлін стала, многа плаціць нада.*

ПОШЛІНЬ *ж.* Пошасць. *Нейкыя пошлінь ходзіць: гылыва баліць і кашыль душыць, дык я лупатку ў рукі, зубы сатнў і кыпаю.*

ПРААБЛОЖЫЦЬ *зак.* Праляжаць аблогай. *Тэй кусок трі гады прыаблoжыў, тады жыта пасеілі, дык було як трысьнік.*

ПРАБАГАВАЦЬ, ПРАБАГАВАЦЦА *зак.* Пражыць вельмі добра. *А што ім атхадзіла, зы маткыю прубугувáлі, тая білыся як рыба аб лёд. Ныўрад, каб яны прубугувáліся, як Аўхіміняты, ня ў тэя рукі пупалі.*

ПРАБАРАХЛЕЦЬ, ПРАБАРАХЛЕЦЦА *зак. неадабр.* Прабалбатаць. Што яны дзелылі, прыбырахлелі пуўдня *кылы Хвядосіхі. Пры якую работу яны думыюць, глідзяць, айдзе прыбырахлецца дзень.*

ПРАБАЎДЗЮЛІВАННЕ *н.* Няўмелае прабіванне. *Ты відзіш, якоя ў яго прыбаўдзюлівыньня: адну дзірьку два часы дзяўбець.*

ПРАБІРАЦЬ *незак. перан.* Прамочваць (пра дождж). *Як ніважна складжына кыпа, дажджом наскрозь прыбірáіць.* ПРАБРАЦЬ *зак.* Прамачыць (пра дождж). *Прыбрáў маю капёшку дождж, ну што ты хочыш, такей атліў.* ПРАБРАНЫЙ *дзеепрым. Прыбрáны кучкі ды зямлі, рыстрісай, ніхай сохнуць.*

ПРАБІЮШЧЫЙ *прым.* Прабіўны. *У райком нада іціць прыбіюшчыму чылавеку, рытызява туды нечыга пысылаць.*

ПРАБЛУТУНЯЦЬ, ПРАБЛУТУНЯЦЦА *зак.* Прашвэндацца. *Пасьці цэлыя лета прублутуняў як ніпрікаінный. Работы ат іх дужа ні дажджэсься, глідзяць, каб нядзелю прублутуняцца.*

ПРАБЛЫКАЦЬ *зак. эмац.* Прашвэндацца. *Дзень праблыкыла, нічога ня зьдзелыла і зымарілыся, худзь ба пысядзець.*

ПРАБОЙНІЧАК *м. памянш.* Прабойнік. *Такей лоўкінькій прабойнічык, што хочыш праб'ець, ты мне яго ні пыціряй.*

ПРАБОЙЧЫК *м. памянш.* Прабой. *Калі прабойчык з насечкымі, яго ня вырьвіш, асобінна сь цьвёрдыга дзеріва.*

ПРАБРЫНКАЦЬ, ПРАБРЫНКАЦЦА *зак. неадабр.* Прашвэндацца. *Столька работы ў дваре, а яны прабры́нкылі дзень, ні за што ні ўзяліся. Думыюць, айдзе прабры́нкыцца, паліц ап паліц ня хочуць ударіць.*

ПРАБУБНЕЦЬ *зак. перан.* Сказаць невыразна. *Я спрасіла, айдзе мяшкі пыклаў, нешта прубубнеў пад нос і пашоў.*

ПРАБУЙТАВАЦЦА *зак.* Папрацаваць пэўны час да знясілення. *Прубуйтува́ўся чуць ня дзень нат пнём і ня вырыў — так крепка сядзіць.*

ПРАВАДЖЫВАННЕ, ПРАВОДЖЫВАННЕ *н.* Праваджанне. *Ныдаелі ёй госьці, сустрюканьня, прыва́джывыньня цэлыя лета. Прывялі іх к аўтобусу, а посьлі праводжывыньня доўга яшчэ сядзелі.*

ПРАВАЛАВОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Змарнаваны. *Такоя дырагоя уремя у вас прывылаводжына бяс толку, маглі б іструб пыставіць.*

ПРАВАЛХВІЦЬ *зак.* Папялегаваць. *Бальшэй толк с таго, што іна сваіх дачок прывалхві́ла.* ПРАВАЛХВІЦЦА *зак.* Папялегавацца. *Зы маткінью сьпіною прывалхві́ліся, а замужым нада самім думыць пра ўсё.*

ПРАВАЛЫНІЦЬ *зак.* Зацягнуць вырашэнне. *Луччы схадзі і сам рузузнай толкым, ато яны ўремя прывалы́нюць і ты астанісься ны быбах, біз усякіх бумажык.* ПРАВАЛЫНІЦЦА *зак.* Зацягнуцца пры вырашэнні. *Мы тожа прывалы́ніліся, нада було раншы думыць пра ўсе бумажкі.* ПРАВАЛЫНЕНЫЙ *дзеепрым. Такоя дырагоя ўремя прывалы́ніна, можна було усё сена прібраць.*

ПРАВЕДЗІНЫ *мн.* Наведванне, адведкі. *Нешта вам устываць ня хочыцца посьлі праведзін.*

ПРАВЕКАВАЦЬ *зак.* Пражыць свой век. *Куды ж нам зрывацца, тута прывікува́лі, тута і пымірацъ будзім.*

ПРАВЕРЗЦЬ *зак. неадабр.* Прагаварыць попусту. *Прывярзьлі ноч усякыю трілюду, толька спаць ні далі друзья етыя.*

ПРАВІЛЬНЕЙ *прысл.* Больш правільна. *Ты ні мішай пуд рукамі, Піліпёнык прывільней нывядзець.*

ПРАВІЛЬНЕЙШЫЙ *прым.* 1. Больш правільны. *У Сярёжкі прывільнейшый атвет.* 2 *перан.* Больш справядлівы. *Міхяёнык — прывільнейшый чылавек, ета ты як веціp. Памянш.* ПРАВІЛЬНЕЙШАНЬКІЙ. 1. Больш правільны. *Законы пішуць прывільнейшынькія, ды ні выпыўняюць.* 2. Больш справядлівы. *І ён такей прывільнейшынькій, як Максімчык быў.*

ПРАВІННІК *м.* Той, хто правініўся. *Нада твайго правіньніка крепка ў рукі брацъ. Памянш.* ПРАВІННІЧАК. *Як жа ета ты зьдзелыўся правіньнічкым?* ПРАВІННІЦА *ж. Ну што, раз правіньніца, нада каіцца, нічога ні папішыш.*

ПРАВІСНУЦЬ *зак. перан.* Пасядзець сагнуўшыся. *Чаго вы правісьлі ныц сталом, кынчайця заўтрікыць ды бягіця за коніми.*

ПРАВІЦЕЛКА *ж. іран.* Правіцельніца. *Ты ж відзіш, новыя правіцілка бярецца, ыправіць брігаду.*

ПРАВОДДЗЕ *н. зб.* Правады. *Праводзьдзя нукруціліся, глядзі, ні ўвядзі ў яго карову.*

ПРАВОДЖЫВАННІК *м.* Той, хто праводзіць. *Нешта нашы праводжывыньнікі зыстрялі, каб хуць ні зублудзіліся. Памянш.* ПРАВОДЖЫВАННІЧАК. *Айдзе йта дзеліся праводжывыньнічкі, нешта доўга німа.* ПРАВОДЖЫВАННІЦА *ж. Пашлі разым с праводжывыньніцымі кучыю пыд быльшак.*

ПРАВОДНІЦА *ж.* Праводная нядзеля (рэлігійнае свята). *Во ўжо скора праводніца патходзіць, а ў нас столька ня дзелына нічога.*

ПРАВОЖЫВАЦЬ *незак.* Правозіць. *Тута дужа цесна, трудна будзіць саку правожывыць.*

ПРАВУЛАЧАК *м. памянш.* Завулак. *Яго хата стыяла ні кылы дарогі, а збоку, у праўлычку, заціиныя места.*

ПРАВЯКАЦЬ *зак.* Падаць голас, сказаць невыразна. *Ішла Сьвірідзёнчыха, нешта прывякыла, я ні рызыбрала.*

ПРАГАВАРЫЦЬ *зак. перан.* Сурочыць. *Што ты лухту меліш: прыгыварілі, прыгыварілі,— дужа тваe зубы некыму нада.* ПРАГАВОРАНЫЙ *дзеепрым. Ну аткуль жа я знаю, ці прыгаворіна, ці не.* ПРАГАВАРОМШЫ *дзеепрысл. Каб ня быў етый дзіцёнык прыгыварёмшы.*

ПРАГАГАКАЦЬ *зак.* 1. Падаць голас. *Нехта прыгыгáкыў у том баку. 2 перан.* Прагультаяваць. *Дзень прыгыгáкылі, нічога ня зьдзелылі, за вілкі дайжа ня думылі ўзяцца.* ПРАГАГАКАНЫЙ *дзеепрым.* Прагультаяваны. *Такоя дырагоя ўремя у іх прыгыгáкына.*

ПРАГАДАВАЦЬ *зак.* Пагадаваць пэўны час. *Сёліта я зьбіраюся цёлычку пругудувáць, тады зы яе будзіць капейка.* ПРАГАДАВАЦЦА *зак.* Пагадавацца пэўны час. *Як прыгадўіцца лішнія скаціна, ні разу ні прыйграіш, прыйграіш, як у пуніх веціp гуляіць.* ПРАГАДАВАНЫЙ *дзеепрым. Столька ўремя пругудувáн скот, а толку ні пулучылыся.*

ПРАГАЛАГАЛЕЦЬ *зак. асудж.* Пакрычаць. *Раньня прыгылыгалелі, дык і цэлый дзень думыіця ат'ідаць серца?*

ПРАГАЛДАМАЧЫЦЦА *зак.* 1. Змарнатравіць, прамантачыць, пратранжырыць. *Ну што, прыгылдымáчыўся, ні капейкі ні асталыся, цяперя г бацьку іўляісься?* 2. Змарнатравіцца, прамантачыцца, пратранжырыцца. *Сколька чаго Косьціку ад братоў асталыся і ўсё прыгылдымáчылыся, пашло прахым.*

ПРАГАЛЬЧЫНА *ж.* Прагал. *Доўга мы хадзілі, пакуля на нейкыю прыгáльчыну узьбіліся. Памянш.* ПРАГАЛІК, ПРАГАЛЬЧЫК *м.*, ПРАГАЛЬЧЫНКА *ж. Адзь дзярейні кінулі нібальшэнькій прыгáлік, ён вузкувацінік. Нада, каб у лес прыгáльчык усігда астываўся. Раншы там была нібыльшая прыгáльчынка.*

ПРАГАНДЛЯЧЫЦЬ *зак. гумар.* Змарнатравіць гандлюючы. *Троху було бырыхла, дык скора рыспырядзіўся — прыгындлячыў.* ПРАГАНДЛЯЧЫЦЦА *зак.* 1. Змарнатравіць гандлюючы. *Ну што, прыгындлячыўся, большы нечым тургуваць?* 2. Змарнатравіцца пры гандлі. *У путнога чылавека нічога ні прыгындлячыцца, а ў вітрагона нічога ні зацэлііць.* ПРАГАНДЛЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Прыгындлячыныя позна варочыць, нада було раншы мызкамі шывяліць.*

ПРАГАРАВАНЫЙ *дзеепрым.* Пражыты ў горы. *Пругурювáна яе жызьня: ісь первым мужуком ні пулучылыся, із другім толька дзяцей ныжыла.*

ПРАГАРЧЭЦЬ, ПРАГАРЧЭЦЦА *зак.* Прагоркнуць. *Залетышнія каноплі прыгарчэлі, дайжа куры ня хочуць клюваць. Масла дужа доўга ні бірягі, яно пірястоіць і прыгарчыцца.* ПРАГАРЧЭЛЫЙ *дзеепрым. Нешта прыгарчэлыя стаіць у тваёй банычкі, нашто ты бірягеш.*

ПРАГЛУЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. неадабр.* Прагаварыць попусту. *Пруглузьдзячыў раньня, дайжа касы ні пыклiпаў.* ПРАГЛУЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Прагаварыць попусту (пра некалькіх асоб). *Ай, нічога мы ня зьдзелылі, пруглузьдзячыліся с Антаноўныю.* ПРАГЛУЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Вечыр пруглузьдзячын бяс толку, мог ба бацінык падбіць.*

ПРАГЛУПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Дапушчаны (пра глупства, недарэчнасць). *Канешня, праглýпліна, нілізя яго було пысылаць с Андряёнкым.* ПРАГЛУПЁМШЫ *дзеепрысл. Ну, пруглупёмшы ні пруглупёмшы, а толку мала.*

ПРАГЛЯНУЦЦА *зак.* Убачыць наскрозь. *Во якея сьпелыя яблыкі, хуць прыгляніся.*

ПРАГНАЦЬ *зак. перан.* Убраць. *Длінныя грядкі, пы адной прагонім, а тады аддыхнём.* ПРАГНАЦЦА *зак.* 1. Прайсці (са статкам). *Тама дужа вузёсінькыя палоска, трудна с тубуном прыгна́цца.* 2. Прааравацца. *Каб прыгна́ліся яшчэ па той лашчынкі дзьве быразёнкі, і хваціла б.* 3. Убрацца. *Доўгія борызны як прагонюцца, будзіць пылавіна скопына.* ПРАГНАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Прагнаны. *Цёлычка і прыгна́тыя можыць ціріш час у дваре ачынуцца.* 2. Прааараны. *Глубокыя бырызна прыгна́та лі мяжы, к мяжэ пріваліна.* 3. Убраны. *У тэй бок аж зу кусты пакосы прыгна́ты.*

ПРАГНЕСЦЬ *зак.* Вымусіць пралезці. *Яго прыгняцець куды хочыш, можыць вун пат крышу прышчаміцца.* ПРАГНЕСЦА *зак.* Пралезці. *Як яму ўдалося прагнесца у такую вузінькыю шчэліну, тута рука ні прылазіць.*

ПРАГНІВАЦЦА *незак.* Прагніваць. *Мост у бані прыгніва́іцца, кыла печкі достку нада пірімяніць абізацільна.*

ПРАГРАШЫЦЬ, ПРАГРАШЫЦЦА *зак. жарт.* Правініцца. *Прыгряшы́ў ты пірід Манічкыю, цяперя табе ні апрыўдацца. Раз прыгряшы́ўся, ідзі апраўдывыйся, можа просьціць.* ПРАГРЭШАНЫЙ *дзеепрым. Ты іс сваёю Марускыю дайно прагрешыный.* ПРАГРАШОМШЫ *дзеепрысл. Другую сабе ухажорку найшоў, з Ганныю прыгряшомшы.*

ПРАГУЛЬТАЯВАЦЬ *зак.* Правесці час у гультайстве. *Сколька яны пругультуюва́лі за ета лета — ні прідумыць.* ПРАГУЛЬТАЯВАНЫЙ *дзеепрым. Такоя зылатоя ўремя пругультуюва́на!*

ПРАГУТАТОРАНЫЙ *дзеепрым.* Страчаны ў няспешных размовах (пра час). *Сколька ні пругутаторіна, дык нызад урем́я ня верніш.*

ПРАДАГАЦЬ *зак. эмац.* Прабегаць. *Ці іна сям'ю пычылавечыску глядзела, век прыда́гыла пу-пустому.*

ПРАДАЎНО *прысл.* Надзвычай даўно. *Мы дайнo-прыдайно знаім, што праўды аць цябе ні на нохыць ні пачуіш.*

ПРАДАЎЧЫХА *ж.* Прадаўшчыца. *Прыдайчы́ха табе ў любоя ўремя бутылку дасьць, у яе ў дваре стаіць усігда.*

ПРАДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Прабіванне. *Нешта тваё прыдзяўбу́лівыньня дужа доўгыя, калі ты ету лесьвіцу кончыш.*

ПРАДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* Прабіваць. *Лесьвіцу нада зьдзелыць, палку прыдзяўбу́лівый і руку разьбій.*

ПРАДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* Прабівацца. *Дзяўбець, дык патроху прыдзяўбу́лівыюцца дзірькі.* ПРАДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Прабіць. *Як узяўся мызкытаць, чуць ні наскрозь дзірькі прыдзяўбу́лію.* ПРАДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* Прабіцца. *Ня можыць быць, што ні прыдзяўбу́ліцца, дзяўбі сьмялей.* ПРАДЗЯЎБУЛІВАНЫЙ, ПРАДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні прідумыю, длі чаго тут прыдзяўбу́лівына. У крюках дзірькі прыдзяўбу́ліны, кылячкі зыбівай ды вешый.*

ПРАДМЕТ *м.*, ПРАДМЕТА *ж.* Прыкмета. *На ўсё ёсьць свой прідмет, так у пріродзі заведзіна. Як матка сьніцца, жджы нішчасьця,— ета ў мяне первыя прідмета.*

ПРАДРОГАЦЬ, ПРАДРОГКАЦЬ, ПРАДРАГАЦЬ, ПРАДРАГКАЦЬ *зак.* Пратрэсці. *Мяне прадрёгыла ны машыні, аж гылыва рызбалелыся. Ну, цябе сяньня прадрёгкыюць хлопцы, яны шыбка любюць езьдзіць. Мыжара ладна прыдря́гыіць, ета табе ні лісоркі. Як прыдря́гкылі мяне, я была як пабітыя.* ПРАДРОГАЦЦА, ПРАДРОГКАЦЦА, ПРАДРАГАЦЦА, ПРАДРАГКАЦЦА *зак.* Пратрэсціся. *Ну як ты тута, ці крепка прадрёгыйся, вылазь ужо. Ды зьезьдзі, зьезьдзі, хуць прадрёгкыісься, карона сь цябе ні спадзець. Нада ж етык прыдря́гыцца, аж ногі гудуць. Учора прыдря́гкылыся і кума твыя, зьезьдзіла ў горыд с хлопцымі.* ПРАДРОГАНЫЙ, ПРАДРОГКАНЫЙ, ПРАДРАГАНЫЙ, ПРАДРАГКАНЫЙ *дзеепрым. Такей прадрёгыный ны ка́мінкі, што зубы ляскочуць. А я тожа прадрёгкыный, ну яе, с такою яздою. Я ня меншы цябе прыдря́гыный. Ну калі прыдря́гкын, зьлезь ды прайдзі троху.*

ПРАДРЫГНУЦЬ *зак.* Прастыць да дрыжыкаў. *Як прадры́гнуць на ветру, тады і пры ныпряткі успомнюць.* ПРАДРЫГЛЫЙ *дзеепрым. Як жа ня будзіць прадры́глый, кылі тыкая хыладзіна, а ён у старёнушку.*

ПРАДУМАЦЬ *незак.* Прадзьмухваць. *Блізка лі выкна ні садзісь, тама прудума́іць, нада шчэлкі пызытыкаць.*

ПРАДУРЫЦЬ *зак.* Надакучыць пустымі размовамі. *Цэлый вечыр сядзеў, прудуріў нас басьнімі сваімі.* ПРАДУРЫЦЦА *зак.* Правесці час у безвыніковых размовах, у тлуме. *У кынцыляріі раньня прудуріліся і ніякыга толку.* ПРАДУРОМШЫ *дзеепрысл. Што ж ты войкыіш, прудурёмшы столька ўремя.*

ПРАДЫМЛІВАЦЬ, ПРАДЫМЫВАЦЬ, ПРАДЫМЛІВАЦЦА, ПРАДЫМЫВАЦЦА *незак.* Прапускаць дым. *Трошку прады́млівыіць кыла столі, нада абгледзіць ды*

*хырашэнька абмазыць. Таго прадымывыіць, што дзьве печы топюцца. Калі прадымлівыіцца, ета зымажыш, іна каб саўсім ня рухнула. Прадымывыіцца мыя грубка, патрескыла ўся.*

ПРАДЫХНУЦЦА *зак.* Атрымаць магчымасць дыхнуць. *Зыняло дыханьня, я брязь на пол, мне як слова прыдыхнулыся, а то ж была памёрла.*

ПРАЕЗДЖЫЙ *прым.* Праязны (дакумент). *Ты глядзі ні пыціряй праежджый білет, ато праверюць ды аштрапуюць, ім нядоўга.*

ПРАЕТКІЙ *займ.* Такі ж. *Ці ён будзіць еткій, ці праеткій, мне зь ім ня жыць і шчынят ні хрясьціць.*

ПРАЕХАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Прамінуты пры яздзе. *Каб ні была праехына наша дарожка.* 2. Пракладзены пры яздзе (пра след). *Тута зь нечым цяжолым праехына, відзіш, як каткі урізаліся.* 3 *метаф.* Развалены. *Праехыныю крышу рызьбіраць нада, чым ты яе пыдапреш і як.* ПРАЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пракладзены пры яздзе (пра след). *Тама нідаўна прыіжджана, пыглядзі, сьлед саўсім сьвежый.* ПРАЕХАЧЧЫ *дзеепрысл.* 1. Праехаўшы. *Праехыччы Дзедкывічы, пывырачывый убок ныправа і кытай пряміньку.* 2. Разваліўшыся. *Увесь бок у погрібі ат пуні праехыччы ўніз.*

ПРАЁЧЫЦЦА *зак.* Прапакутаваць. *Па дурысьці аппёк ногі і цэлыя лета праёчыўся, нуступіць ня мог.*

ПРАЖАРЫВАНЫЙ, ПРАЖАРАНЫЙ, ПРАЖАРАТЫЙ *дзеепрым. перан.* Моцна прагрэты. *Калі бяльлё прыжарівына, яно ўсігда будзіць чысьціnькыя. Я мушчыным крепка пріказывыла, каб пірідзівалі усё прыжаріныя. У цябе сьпіна крепка прыжаріта, яе ніякыя прастуда ня возьміць.*

ПРАЖАРЫСТЫЙ *прым.* Добра падсмажаны. *Мае мушчыны любюць прыжарістыю бульбу, я ім так і дзелыю.*

ПРАЖДАЦЦА *зак.* Зачакацца. *Пыбягім скарей, яны нас даўно прыждаліся, верна, лаюцца.*

ПРАЖЫНАННЕ *н.* Пражатая паласа. *Паедзіш пы прыжынаньню, а лі кынаўкі паверніш налева і ўвідзіш хворыст.*

ПРАЗВЯГАЦЬ *зак. перан.* Пабурчаць. *А сколька яны прызьвягылі за тэя лашчынкі: чаго ім ні аддалі касіць.*

ПРАЗНАВАННЕ *н.* Выведванне. *Нічога яму ні дало прызнываньня, кызалі, што нашы пленныя тама ні прыхадзілі.*

ПРАЗНАЦЬ *зак.* Даведацца. *Хлупчуганы згываріліся*

*г Данілу у сад злазіць, а ён прызнаў і с пугыю сеў зу кустом.*

ПРАЗОРЫНА *ж.* Паласа (у полі, лесе). *Ад дарогі пыхаў Сярьгей, а адж жыта Купреіў маліц, пысярёд празоріна асталыся. Памянш.* ПРАЗОРЫНКА. *Прыжалі празорінку кыла поля, машыны сталі езьдзіць.*

ПРАЗУКАВАННЕ *н.* 1. Абяцанне. *Ня верь ты яго прузукува́ньню, ці раз ён мяне пыдвадзіў іс сваім ізыком.* 2. Ганьбенне. *А што мне яго прузукува́ньня, ніхай балбочыць, калі ахоту маіць.*

ПРАЗУКАВАТА, ПРАЗУКАВАЦІСТА *прысл.* Пранырліва. *Так прузукува́та падойдзіць, што ты задзівісься. Зразу пычаў прузукува́ціста рызгавор зывадзіць.*

ПРАЗУКАВАТАСЦЬ, ПРАЗУКАВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Пранырлівасць. *Прузукува́тысьці яму хуць адбуўляй, толька сы здароўім ніважна. Прузукува́цістысьці ў яго хвытаіць, ды вума ні так многа.*

ПРАЗУКАВАЦІСТЫЙ *прым.* Пранырлівы. *Ён быў дужа прузукува́цістый, вы яго мала знаіця.*

ПРАЗУКАВАЦЬ *незак.* 1. Абяцаць. *Ён мне прузукува́ў паможч трошку з рімонтым.* 2. Ганьбіць. *Ны кажным шагу прузуку́іць нявестку, дужа яе ня любіць.*

ПРАЗЮКАЦЬ, ПРАЗЮЗЮКАЦЬ, ПРАЗЮЗЮКАЦЦА *зак.* Прагаварыць (паціху, па сакрэту). *Кажыцца, мінутку пысядзелі, а часы трі празю́кылі, мне було аньціресна пра ўсё рыспрасіць. Ну калі адзін дзень прузюзю́кылі, дык што, у бога дней многа. Ці знаіш, сколька ўремя вы прузюзю́кыліся лі Каці.*

ПРАІЗНАСІЦЬ *незак. метаф.* Рабіць, тварыць. *Такую шкоду каты прыізносюць кажный раз, я іх калі пызыбіваю.* ПРАІЗНЕСЦЬ *зак.* Зрабіць. *Ныстыяшчыю бяду ён мне прыізьнёс з выпіўкыю.*

ПРАІМШЫЦЬ *зак.* Пракласці мохам. *Пастройку як прыімшы́ш крепка, то увы ўсякый цяплей.* ПРАІМШЫЦЦА *зак.* Пракласціся мохам. *У Лупудзёнка ладна прыімшы́лыся хата, ні жалеў моху.* ПРАІМШОНЫЙ *дзеепрым. У прыімшоный бані і дух іначы дзяржыцца.* ПРАІМШОМШЫ *дзеепрысл. І сенцы, і клець нічога прыімшомшы.*

ПРАЙДЗІСВЕТНІК *м.* Прайдзісвет. *Ці мала па сьвету усякіх прыйдзісьветнікыў.* ПРАЙДЗІСВЕТНІЦА *ж. Некуды зьехыла Кісялёнкыва прыйдзісьветніца, трецьцій год ня чутна. Памянш.* ПРАЙДЗІСВЕТАЧКА. *І зь естыя можыць пулучыцца прыйдзісьветычка, як з большыя.*

ПРАЙДЗІСВЕТНЫЙ *прым.* Пранырлівы, хітры. *Ні завідый ты прыйдзісьветный жызьні, сяньня ён едзіць, а ызайтріга пыгаріць.*

ПРАЙДЗІСВЕЦТВА *н.* Пранырлівасць, хітрасць. *Ці мала мы відзілі прыйдзісьвецтва, ета толька ў кніжкі апісаць.*

ПРАЙДОШЛІВА *прысл.* Вельмі пранырліва. *Так прайдошліва зьдзелыюць, што ніякія прукуроры ні распутыюць.*

ПРАЙДОШЛІВАСЦЬ *ж.* Вялікая пранырлівасць. *Чаго — чаго, а прайдошлівысьці у іх столька, што ні прідумыць.*

ПРАЙДОШЫНА *м.* і *ж. узмацн.* Прайдзісвет. *Тыкая прайдошына баба, што сьвет ня відзіў, іна табе што хочыш сатворіць.*

ПРАЙМАЦЬ, ПРАНІМАЦЬ *незак. перан.* Працягваць (нітку, вяроўку). *Во тута ніткыю прыймáй, разы трі прыцягні туды і нызад, будзіць дзіржацца. Відзіш, як Наста прынімáіць, і ты так дзелый, кряпчэй палучыцца.* ПРАНЯЦЬ *зак.* Працягнуць (нітку, вяроўку). *Зь етыга боку нада було б яшчэ раз прыня́ць аборінкыю.* ПРАНЯТЫЙ *дзеепрым. Што крепкім сувайком прыня́та, паетыму і дзяржыцца.*

ПРАКАВУЛІНКА, ПРАКАВУЛІНАЧКА *ж. памянш.* Завулак. *Ты ня йдзі па вуліцы, прыкаву́лінкыю вун прыбягі і выскычыш к сажылкі. Во зь естыга боку у іх была прыкаву́лінычка.*

ПРАКАЛГІКАЦЬ, ПРАКАЛГІКАЦЦА *зак.* Прахадзіць кульгаючы. *Зіму прыкалгі́кыла, вясною трошку ляхчэй будзіць, а можа будзіць, як тэй старіц, што піряжыў маріц. Позна выбірацъ, айдзе луччы, айдзе хужы, ёй ба айдзе-айдзе прыкалгі́кыцца.*

ПРАКАЛДЫБКАЦЬ *зак.* Прахадзіць кульгаючы. *Мне каб восінь прыкалды́бкыць, усё паможч нада, а зіму буду сядзець на печы.*

ПРАКАЛІНА *ж.* Паркаль наогул. *Во ёсьць прыка́ліна, кохтычка ладныя будзіць. Памянш.* ПРАКАЛІНКА. *Нада б якея прыка́лінкі ўзяць к лету ны ляхчэйшыю рубашку.*

ПРАКАЛЬЖЭЦЬ, ПРАКАЛЬЖЭЦЦА *зак. эмац.* Памерзнуць пэўны час. *Ні ўзялі ныпрятык, прыкальжэлі ны такой хыладзіні. Пыглідзіцё, што прыкальжэіціся, ныдзівайціся цяплей.*

ПРАКАМІСАРЫЦЬ, ПРАКАМІСАРНІЧАЦЬ, ПРА-

ҚАМІСАРСТВАВАЦЬ *зак.* Пабыць камісарам, начальнікам. *А што ты думыіш, і Мылашонык прыкымісáрій цэлыю восінь. Доўга ім ні далі прыкымісáрнічыць, скора уласьць атыбралі. Як ні прыкымісáрствывыў, а ны яго людзі ні абіджаліся.*

ПРАҚАНІЦЕЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Змарнаваны цяганінай. *Уремя прыкыніцеліна і нічога ня зьдзелына, а маглі дроў нывазіць.*

ПРАҚАПАШЫЦЦА *зак.* Напоркацца. *У хаці прыкыпашы́лыся, ны гарод ні глянула, а куры вуюваліся, як самі хацелі.* ПРАҚАПАШОМШЫ *дзеепрым. Столька прыкыпашомшы попусту, што ты зьдзелыць пасьпеіш.*

ПРАҚАПЛІЦЬ *зак.* Працячы кроплямі. *Ны рагу прыкáпліла на столь, я пачула, лазіла, пыцставіла чугунчык.*

ПРАҚАРХАЦЬ, ПРАҚЭРХАЦЬ *зак.* Пражыць пэўны час кашляючы. *Памошнік зь яго дренный, нядзелю праседзіў, прыкáрхыў. Самі увідзіця, што пракэрхыіць ён тута, а работы ні дыжджыцёся.* ПРАҚАРХАЦЦА, ПРАҚЭРХАЦЦА *зак.* Адкашляцца. *Здароўя ўсё, пыляжыць, тады ўстаніць, чуць прыкáрхыіцца. Лёхкія ўсе, пракэрхыцца ня можыць.*

ПРАҚАРЧЭЦЬ, ПРАҚАРЧЭЦЦА *зак. эмац.* 1. Памерзнуць пэўны час. *Пашлі ў плівуціньні і прыкарчэлі пасьці цэлый дзень. Біз ныпрятык прыкарчэюцца уволю.* 2. Пражыць у неспрыяльных умовах. *Ікая яе жызьня будзіць с тою уредзіныю, як іна зіму прыкарчэіць. Паўгода лі Қыныстраціхі прыкарчэлыся.*

ПРАҚАТ *м.* Праезд, паездка. *Учора ў мяне було пяць прыкáтыў, а сяньня толька чатырі разы справіўся.*

ПРАҚАЦІЦЬ *зак. перан.* Прабегчы. *Толька што прыкацілі зу Кузьмову хату, утраіх нясьліся.* ПРАҚАЦІЦЦА *зак.* Знікнуць, прапасці. *Ніхай ён пракоціцца зь яго помышчу, мне ён тут саўсім ні нада.*

ПРАҚЕЎҚАЦЬ *зак. перан.* Прагаварыць з цяжкасцю, невыразна. *Нешта пракеўкыў на печы, я дайжа ні рызыбрала.* ПРАҚЕЎҚАЦЦА *зак.* Прагаварыцца з цяжкасцю, невыразна. *Што ў яго пракеўкыіцца, кылі ён ізыком ні варочыіць.*

ПРАҚЛАСЦА *зак. перан.* Выпаліцца (пра печ). *Каб трошку печычка прыклáлысь, цяплей було б спаць.* ПРАҚЛАДЖАНЫЙ, ПРАҚЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Пракладзены. *У лес торныя сьцёжка прыклáджына пряма ціріз авёс. Прыклáтыя дарогі пы ўсяму полю, куды хочыш едзь.* 2. Выпалены (пра печ). *Грубычка як пры-*

*кла́джына, дык душок чуствыіцца у хаці. Калі печ прыкла́та, ціплыта скора пойдзіць.*

ПРАКЛЯЦТВА *н. метаф.* 1. Гора, пакуты, нягоды. *Ну ні гывары ты, пряма якоя-то прыкля́цтва сыпліцца на іх с усіх бакоў.* 2 *зб.* Нягоднікі. *Ого, якоя прыклящтва яны былі, думылі, галоў ні пазносюць.*

ПРАКЛЯЦЦЁ *н. метаф.* Гора, пакуты, нягоды. *Прыкляцьцё нейкыя нывалілыся на ету сям'ю, ні адно, дык другоя.*

ПРАКРУЦІЦЬ *зак. перан.* Пратрымаць. *Грішка пракру́ціць скот на бублых цэлый дзень, каровы прідуць галодныя.*

ПРАКСЦІЦЦА *зак.* Раздацца кумой у якасці падарункаў пры хрэсьбінах. *Сколька чаго ў мяне праксьцілыся ў дзейкых, я табе скызаць ні магу, мяне дужа часта звалі кумою.*

ПРАКУДЗІСТАСЦЬ *ж.* Гарэзлівасць. *Праку́дзістысьці у тых хлюстоў хвытала, було хуць пызычай каму.*

ПРАКУДНІК *м.* Штукар. *Глядзіця праку́дніка, ён ныпракудзіць, што дзівіцца будзіця.* ПРАКУДНІЦА *ж. Ета вы ні знаіця, якея праку́дніцы былі Пархвеныве пляменьніцы.*

ПРАКУДЫВАЦЦА *незак.* Штукарыць, гарэзаваць. *Ого, як яны праку́дывыліся тута кажныя лета, як пызьіжджаюцца.*

ПРАКУРЫЦЦА *зак. перан.* 1. Прапаліць (печ). *Пычынайця бізь мяне, я прукурюся сь печчу і пыдбягу.* 2. Прапаліцца (пра печ). *Як печ праку́ріцца, тады ўремя свыбаднеіць.* ПРАКУРАНЫЙ *дзеепрым. Печ праку́ріна, а пра што табе яшчэ біспакоіцца.* ПРАКУРОМШЫ *дзеепрысл. Прукурёмшы печы, пашлі, сонца ўжо ны ладныя гоні ўскачыла.*

ПРАКЦІКАВАЦЬ, ПРАКЦІКАВАЦЦА *незак.* Цікавіцца. *Нешта і Купряёўнін зяць прыкцікува́ў у горыдзі, пры хаты спрашывыў, ці прыдаюцца. Ліванёнык прыкцікува́йся каровымі, ці ня думыіць купляць зяцю.*

ПРАЛАЖЫВАЦЬ *незак.* Пралязаць. *Гылавёнку неік прасунуў, а плечы ні прыла́жывыюць, зышчаміўся і ні туды, ні ныззад.*

ПРАЛАЛАКАЦЬ, ПРАЛАЛЫКАЦЬ, ПРАЛАЛАКАЦЦА, ПРАЛАЛЫКАЦЦА *зак.* Правесці час у пустых размовах. *Ім каб дзень прылыла́кыць, большы нічога ні нада. Многа ныпірібіралі,— зы капцом прылалы́кылі дзень. Любюць прылыла́кыцца, на ета зыстыўляць ні*

*нада. Думылі, прылалы́кыюцца, а тута брігадзір зыставіў палоць як нада.* ПРАЛАЛАКАНЫЙ, ПРАЛАЛЫКАНЫЙ *дзеепрым. Пасьлібедзьдзя прылыла́кына, некылі зы сярпы брацца. Айдзе ты верніш прылалы́кыныя ўремя.*

ПРАЛАМАНЫЙ, ПРАЛОМЛЕНЫЙ *дзеепрым. перан.* Пракладзены груба (пра след). *Ціріс пышаніцу усьцяж такей сьлед прулума́н! Па жыту многа сьлядоў праломліна, нічога ні глідзяць пустухі.*

ПРАЛАПАВУШЫЦЬ, ПРАЛАПАВУШЫЦЦА *зак.* Дапусціць пралік, памылку. *Пусьцілі коні ны Кызіно, прылыпаву́шылі, яны уваліліся ў ячмень, столька шкоды надзелылі. Паверіў чорту і прылыпаву́шыўся, ні падумыў, што ён можыць падвесьць.* ПРАЛАПАВУШАНЫЙ *дзеепрым. Відзіш, як у яго с каровыю прылыпаву́шына.*

ПРАЛІПЕЦЬ *зак. перан.* Пражыць ненадзейна. *Зіму прыліпела у пляменьніцы, а на лета у сваю халупіну пыцягнулыся.*

ПРАЛКА *ж.* Прасніца. *Пря́лку мала хто купляў, яе зьдзелыць проста: дзьве досткі адну у вадну увыгнаць. Памянш.* ПРАЛАЧКА. *Ці знайдзіця вы ў каго пря́лычку, пыпалілі, наверна, усе.*

ПРАЛЯЗАЦЬ, ПРАЛАЗІЦЬ *незак. метаф.* Узыходзіць, паказвацца (пра сонца, месяц). *Я думыю, што йта сьвеціцца, а ета месік прылíза́іць. Сяньня як усталі, сонца прыла́зіла, дужа доўга спалі.* ПРАЛЕЗЦЬ *зак.* Узысці, паказацца (пра сонца, месяц). *Во і месік пралез, а то ўсё тучы і тучы, ня відна було.*

ПРАМАРДАВАНЫЙ *дзеепрым.* Памучаны. *Ідзець скот прумурдува́ный, бакі ўпаўшы, етыя пустухі із'ьвесна як накормюць.*

ПРАМАРУДЗІЦЦА *зак.* Зацягнуць вырашэнне. *Ні заві Кірілёнка, толька прымару́дзісься, ён нічога ні паможыць.*

ПРАМАРЦАВАЦЬ, ПРАМАРЦАВАЦЦА *зак.* Павесці сябе гулліва. *Якея работы Пракопіха ат іх відзіла, прумурцува́лі лета і нызад укацілі. Паможч як паможч, а прумурцува́цца сумеюць.*

ПРАМАХЛЯРЫЦЬ, ПРАМАХЛЯРНІЧАЦЬ, ПРАМАХЛЯРСТВАВАЦЬ *зак. асудж.* Пражыць падманам, крутнёй. *Ён усю жысьць прымыхля́ріў, паліц ап паліц ні ўдаріў. Каб прымыхля́рнічыць, тожа нада гылаву ны плічах імець. І ты, знаць, зьбірайся прымыхля́рствывыць, як Прыкапёнычык.*

ПРАМАХНУЦЬ *зак. метаф.* Злавіць, затрымаць. *Як нашы прішлі, яго зразу прымахнýлі, у пуні хуваўся.*

ПРАМЕНЬКА *прысл. памянш.* Прама. *Тута ні заблудзісься, каб і хацеў: пря́мінька ідзі па сьцёжычкі і выйдзіш к Різанцым.*

ПРАМІНАННЕ *н.* Мінанне, пропуск. *Як прымінáньня, ета нікрасіва глядзець; каб ні прымінаў кусьцікыў.*

ПРАМІНУТЫЙ *дзеепрым.* Мінуты, прапушчаны. *Тута у вас цэлыя грядка прымінýта, зывярніціся, праедзьця.*

ПРАМІТНУЦЬ, ПРАМІТНУЦЦА *зак.* Прамільгнуць. *Ён прымітнýў як мітульга, я ні пасьпеў слова скызаць. Нешта прымітнýлыся лі выкна, я ні пагледзіў, што ета.*

ПРАМОІНКА *ж. памянш.* Прамыіна. *Пайду засыплю прамоінку, ато іна будзіць шырачэць.*

ПРАМЫЎКА *ж.* Лякарства для прамывання. *У каровы на шыі быльшая рана, доктыр прііжджаў і дываў прамы́йку.*

ПРАМЯСІЦЬ *зак. перан.* Пракласці грубы след. *Такей сьлед прымясíў конь па бульбі, аж глядзець страшна.* ПРАМЯСІЦЦА *зак.* Пракласціся (пра грубы след). *Глядзі, кабыла вырьвіцца і пойдзіць гуляць с плугым, кынава прамесіцца ціріз усадзьбу.* ПРАМЕШАНЫЙ *дзеепрым. Глубокій сьлед прамешын пы ячменю.*

ПРАНЗІЎНЫЙ *прым.* Пранізлівы. *Такей пранзíўный веціp аттуля, кажыцца, наскрозь цябе прыхватывыіць.*

ПРАННІЦА *ж.* Жанчына, якая перыць. *Як самі ткалі, тады былі праньнíцы: зьбіралыся нескылька баб і пралі кросны.*

ПРАНЦАВАТА *прысл.* З пашкоджаннямі. *Нешта іна прунцувáта глядзіцца, ета морква, ці стоіць яе брацъ.*

ПРАНЦАВАТЫЙ *прым. перан.* Няўдалы, капрызны. *Такей прунцувáтый упоріна, нікуды пы ласкі ні дашлесься.*

ПРАНЫРНА, ПРАНЫРЫСТА *прысл.* Пранырліва. *У каго ён зыдаўся — ні прідумыць, так пранырна паткоціцца, што задзівісься. Цітанок умеў праны́ріста пыдыйціць, яму паліц у зубы ні кладзі.*

ПРАНЫРНАСЦЬ, ПРАНЫРЫСТАСЦЬ *ж.* Пранырлівасць. *Ні прідумыіць, куды сваю праны́рнысьць дзівацъ. Аткуля ў яго столька праны́рістысьці, Кіріла такей ня быў.*

ПРАНЫРНІК *м.* Праныра. *Зяць яе такей праны́рнік, што пыіськаць ды пыіскаць такогá. Памянш.* ПРАНЫР-

НІЧАК. *Ужо цяперя еткій праньірнічык, а што зь яго будзіць, як пыдрасьцець.* ПРАНЫРНІЦА *ж. Пыраскіна нявестка была праньірніца чышчы чым Ныталычка.*

ПРАНЫРЫСТЫЙ *прым.* Пранырлівы. *Пы ўсяму відна, што ета мужык праньірістый, на ём кожа хыдаром ходзіць.*

ПРАПАЛАСНУЦЦА *зак.* Папаласкацца. *Яшчэ раз бяльлё прыпыласьнецца і хваціць.* ПРАПАЛАСНУТЫЙ *дзеепрым. Вун у тазу прыпыласнўтыя плацьця, можна несьць вешыць.*

ПРАПАЛЫВАЦЬ *незак. метаф.* Выкрадаць з агарода. *Умеюць гароды прыпáлывыць, на ета скора наўчыліся.* ПРАПАЛОЦЬ *зак.* Выкрасці з агарода. *Пыглядзіш, што етыя жэўжыкі праполюць твае гурочыкі.* ПРАПОЛАНЫЙ, ПРАПОЛАТЫЙ *дзеепрым. Выйшыў і дзівіцца, што гарод прапольн. Моркыўка праполыта, нечыга глядзець.*

ПРАПАСВЕНЫЙ *дзеепрым.* Адпасвены. *У мяне ўжо чатырі вочырідзі прыпáсьвіна, сяньня ты зы мяне сходзіш сы скатом.*

ПРАПЁРТЫЙ *дзеепрым. метаф.* Пасланы з цяжкасцю. *Ён і прапёртый можыць ні зайціць, сядзіць з мушчыными і праседзіць дзень.*

ПРАПІХНУЦЬ *зак. метаф.* Правесці (час). *У прошлым гаду тут лета прыпіхнўў, троху пымыгаў Пашкі сыбіраць корм.*

ПРАПОЛІНА *ж.* Праполатая мясціна. *Ны праполіні лён хырашо бярецца, нада скарей увесь палоць. Памяниш.* ПРАПОЛІНКА. *Якея тама праполінкі, ладныя баба сесьць ні памесьціцца.*

ПРАПОСТАВАЦЬ *зак. метаф.* Пражыць у абмежаваных умовах. *Пришлося прапостывыць біс каровы. Анька зьедзіць, дык прапостывыіш.*

ПРАПОЎЗЦЬ *зак. перан.* Прайсці з цяжкасцю. *З маімі ныгамі пыўвярсты прапоўзьць і то многа, саўсім ня хочуць іціць.*

ПРАРАДЖЫВАННЕ *н.* Прарэджванне. *Посьлі прыряджывыньня морква пышла брацца ў рост, іна была дужа густа.*

ПРАРАДЖЫВАЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Нада прыряджывыць гуркі, с такіх гўстых нічога ня будзіць.* ПРАРАДЖЫВАЦЦА *незак.* Прарэджвацца. *Ірьві большы, ні жалей, у цябе пасьці ні прыряджывыіцца.*

ПРАРВЫВАЦЦА *незак.* Прарэджвацца вырываннем. *Медлінна у цябе прáрвывыюцца быракі, так і к скрысеньню ня кончыш.*

ПРАРЭЗІК *м.*, ПРАРЭЗАЧКА *ж.* Прарэз. *Калі прарезік ні абмятлюіш, ён лыхмаціцца, дальшы рызыiжджаіцца. Апшый прарезычку, інaчы будзіць рыстряпывыцца, ніткі пывыіжджаюць.*

ПРАСАДЗІЦЦА *зак. метаф.* Растраціцца поўнасцю. *Грошы зывяліся — шурока паехылі, а тады прасодзюцца — цмыгыюць дзісятку пазычыць.*

ПРАСАСАЦЬ, ПРАСАСАЦЦА *незак. метаф.* Працякаць. *Ат таго боку, аць сьцяны прысысáіць выда ў погріб, сьценка мокрыя і мокрыя. Я і сам віджу, што прысысáіцца, верна, мышы айдзе-то прытачылі.* ПРАССАНЫЙ *дзеепрым. У погріб адз заднія сьцяны прыссáна, вугыл зымяк.*

ПРАСВАТАЦЦА *зак.* Выйсці замуж. *Твыя залоўка тады ці ні ў Дубейкыва прысвáтылыся.*

ПРАСЕДЗЕЦЬ *зак. метаф.* Абысціся. *Месіц праседзілі яшныю саломыю, а цяперя хуць у репку пей.*

ПРАСКАРАДЖЫВАЦЬ *незак.* Прабараноўваць. *За гумнымі Зьмітракоў маліц прыскырáджывыў.* ПРАСКАРАДЖЫВАЦЦА *незак.* Прабараноўвацца. *Посьлі дыжджа хырашо прыскырáджывыіцца.* ПРАСКАРАДЗІЦЬ *зак.* 1. Прабаранаваць добра. *Лёнік дужа ладна прыскырадзіў, зімля як пух стала.* 2. Пракласці след бараной. *Ты хырашо прыскырадзі сьлед, яны будуць знаць, дакуля сеіць.* 3. Пабаранаваць пэўны час. *Яны цэлыю нядзелю прыскырадзілі, пряма ні выхадзілі з борын.* 4 *жарт.* Страціць з-за баранавання. *Эх, такоя чуда ты прыскырадзіў, што мы відзілі — пряма ні рыскызаць.* ПРАСКАРАДЗІЦЦА *зак.* Прабаранавацца. *Во тут прыскародзіцца пылыса і ладна будзіць, тады едзь зы балота.* ПРАСКАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Нядзелю прыскырадзёмшы, і аддыхнуць нада, ніхай другея паходзюць у борыных.*

ПРАСКВАРЫВАННЕ *н. перан.* Моцнае праграванне (посуду, адзення). *Ні паможыць тута ні прыжарівыньня, ні прысквáрівыньня, выкідай усё.*

ПРАСКОВАЧКА *ж. памянш.* Вяроўка для прывязвання бараны да валька. *Шукаю якей-небудзь канец ны прасковычку, нада бульбу скырадзіць.*

ПРАСКРЫПЕЦЬ *зак. перан.* Пражыць у цяжкіх умовах або са слабым здароўем. *Усё жалілыся: баліць, а прыскріпела дзівяноста гадоў.*

ПРАСЛА *н.* Агароджа з жардзін. *Усю ўсядзьбу пряслым абнёс. Памянш.* ПРАСЕЛЬЦА, ПРАСЕЛКА, ПРА-

СЛЕЧКА. *Худзь ба якоя прясільца тріпяць, усё б ні так скот лез ны гарод. Думыю прясілка ставіць, ац скыта адбою німа, ужо жардзей троху пріпас. Наша прясьлічка чуць ліпіць, пысярёд нада крепкыя кольля пызыбіваць.*

ПРАСМАРГЫВАННЕ, ПРАСМОРГЫВАННЕ *н.* Працягванне са сморганнем. *Такоя прысмáргывыньня ні паможыць, крепінька пыцягні. Відзіця, што с прасморгывыньня пулучылыся.*

ПРАСМАРГЫВАННІК, ПРАСМОРГЫВАННІК *м.* Той, хто працягвае сморгаючы. *Твой прысмáргывыньнік ні знаіць, зы якей канец пыцягнуць. Аднаго прасморгывыньніка пыслаў, шлі ўсьлед другога.* ПРАСМАРГЫВАННІЦА, ПРАСМОРГЫВАННІЦА *ж. Твыя прысмаргывыньніца і воз рызваліць. Вот ета ныстыяшчыя прасморгывыньніца, пыцягнула як нада.*

ПРАСМЕГАВАЦЦА *зак.* Пражыць у нястачы. *Як зыбалела карова, чаркі мылыка ні було, прысьмігувáліся лета.*

ПРАСМЕХ, ПРАСМІХ *м.* Абсмейванне. *Нылаю, нылаю, во й будзіць яму прасьмех, прысьміхаціль найшоўся. Нічыйго іна прасьміху ні баіцца, ніхай зубы палупюць і ўспакоюцца.*

ПРАСМЯХАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто абсмейвае. *Паехыў прысьміхáцільнік, хуць аддуха Танькі будзіць.* ПРАСМЯХАЦЕЛЬНІЦА, ПРАСМЯХАЦЕЛЬКА *ж. Каб нылаіў ладна прысьміхáцільніцу тую, іна б унілася. А што мне прысьміхáцілька, глыданець іна мяне ці што.*

ПРАСНУШАЧКА *ж. памянш.* Прэсны праснак. *А во ўськіну прясню́шычку ны скыўраду, дык з мылаком зьясьцё.*

ПРАСОЛІК, ПРАСОЛЬЧЫК *м. памянш.* Расол. *Пакушый-ка, якей пріятный прасолік сёліта пулучыўся. Нешта ты дужа рана ўзяўся прасольчык хвытаць.*

ПРАСОПСЦЬ *зак.* Прадыхнуць з сапеннем. *Другей раз як зойміць дыханія, я прасопсьць ні магу.*

ПРАСТАМАЛОТ *м.* Абмалот цэпам. *Ну кулі нада аббіваць, а прыстымалот ідзець у клычынку.*

ПРАСТАМАЛОТНЫЙ *прым.* Абмалочаны цэпам. *Прыстымалотныя салома ідзець ны пацьсьцілку, ну раз у калхозі і канюшню крылі.*

ПРАСТРЫГНУЦЬ *зак. метаф.* Даведацца. *Прыстрыгню́лі у тэй лясок, што там казлы растуць, кажныя раньня бегыюць.* ПРАСТРЫГНУТЫЙ *дзеепрым. У іх даўно дарожка у Пынасыў сад прыстрыгню́та.*

ПРАСУШЫВАЦЦА, ПРАСЫХАЦЬ *незак. перан. іран.* Абыходзіцца без гарэлкі. *Яму некылі прасу́шывыцца, адуріла гарелка. Ні прысыха́юць, кажный дзень п'янёхтынькія.* ПРАСУШЫЦЦА, ПРАСОХНУЦЬ *зак.* Абысціся без гарэлкі. *Німа ўремя прусушы́цца, госьці зы гысьцямі, адурілі саўсім. Ні знаю, калі яны прасохнуць, п'юць як ні ў сябе.* ПРАСУШОМШЫ *дзеепрысл. Прусушомшы яны ні разу ні буваюць.*

ПРАСУШЭЦЬ *зак.* Прасохнуць, стаць сушэйшым. *Мокрыя дарога, нілізя вупруўляцца, як троху прусушэіць, тады схаджу.*

ПРАСЦЯК *м.* Жывёла простай пароды. *Етый бык ні пародзістый, прысьця́к. Памянш.* ПРАСЦЯЧОК, ПРАСЦЯЧОЧАК. *Прысьцячкі пырысяткі, а ядуць хырашо і вес ныбіраюць скора. Яно й відна, с прысьцячочычкый пырысяткі.* ПРАСЦЯЧКА *ж. Прысьця́чка была карова, ну мылыка дывала нічога.*

ПРАСЭНДЗІЦЬ, ПРАСЭНДЗІЦЦА *зак. эмац.* Прабалбатаць. *Столька яны ныработыюць, прасэндзюць кучыю лі кыпца. Дзень прасэндзіліся, пуўтыра вызка рызыслалі.*

ПРАСЯВАЦЬ *незак.* Засяваць. *Во ету палоску нада прысіва́ць ды кынца, каб ні астывалыся пустою.* ПРАСЕЯЦЬ *зак.* Засеяць. *Два крайнія шыра́мчыкі я прасеіла, ня трогый іх.* ПРАСЕЯНЫЙ *дзеепрым. Во тут во, што намечына, дык ета прасеіна.*

ПРАСЯНКА *ж.* Салома ад проса. *Прыся́нка толька ны пацьсьцілку, большы нікуды ня годна. Памянш.* ПРАСЯНАЧКА. *Прыся́нычка адзьдзельна складжына, туды, пат погріб.*

ПРАТАБАШНІК *м.*, ПРАТАБАШНІЦА *ж.* Табакерка. *Пыглядзі-ка, прытыба́шнікі ужо носюць як бальшэя. У маёй прытыба́шніцы крышычка атлумалыся, ня возьміш с сабою.*

ПРАТАЛДОНІЦЬ, ПРАТАЛДОНІЦЦА *зак. эмац.* Прабалбатаць. *Дыпляці ты луччы карзінку, тама прыталдоніш попусту. Чаго яны у Якывіных прыталдоніліся столька, каб хто спрасіў.*

ПРАТАЛДЫЧЫЦЬ, ПРАТАЛДЫЧЫЦЦА *зак.* Праплявузгаць. *Вечыр прыталды́чылі, што тама путнія скызалі. Калі ахота прыталды́чыцца, ніхай цягніцца.* ПРАТАЛДЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Пасьці дабедзьдзя прыталды́чына, некылі за сеным ехыць.*

ПРАТАЛМУЗІЦЬ, ПРАТАЛМУЗІЦЦА *зак.* Патра-

ціць час у мітусне. *Нічога ня зьдзелылі, а вун сколька ўремя прыталмўзілі. Яны і сяньня бяс толку прыталмўзюцца, розвылкі у гылаве ніякія німа.*

ПРАТАНУЦЬ *зак. перан.* Знікнуць, прапасці. *Ці яны прытанўлі, етыя мушчыны, столька ўремя німа й німа.*

ПРАТАРАБАНІЦЬ *зак.* 1 *жарт.* Пранесці. *Як ён, такей шкет, еткій мяшок прытырыба́ніць ат Ходыс.* 2 *перан. неадабр.* Прабалбатаць. *Пайду і прытырыба́ню паўвечыра, мне ныдаела і печ ета, і лежня, і жызьня біз здароўя.* ПРАТАРАБАНІЦЦА *зак.* Прабалбатаць. *Што яны дужа дзелылі, прытырыба́ніліся зу вуглом кыла пуні.*

ПРАТАРАБЕНІЦЬ, ПРАТАРАБЕНІЦЦА *зак. экспр.* Прабалбатаць. *Пуўдня кыла бульбы прытырабенілі, троя ручык нысыпылі. Яны і сяньня прытырабенюцца, столька са́ма зьдзелыюць.* ПРАТАРАБЕНІНЫЙ *дзеепрым. Раньня прытырабеніна упустую, худзь ба палку піряреэылі на дровы.*

ПРАТАРАНІЦЬ *зак. жарт.* Пранесці. *Паспробый-ка прытыра́нь такей мяшок, будзіш знаць, як хлеб дыстаецца.*

ПРАТАРАНЦЕЦЬ *зак.* 1. Праехаць з бразгатам. *Нехта ны калёсых прытыраньцеў, пахожа ны жалезным ходу.* 2 *перан. неадабр.* Прабалбатаць. *Прытырыньця́ць дзень,— во і ўся іхныя работа будзіць.*

ПРАТАРАЧЫЦЬ *зак.* Пранесці. *Цяжолый мяшок, а ён ні аддыхаючы ад быльшыка прытыра́чыў.*

ПРАТАРЧЭЦЬ, ПРАТАРЧЭЦЦА *зак. перан.* Папрысутнічаць бескарысна. *Каб хто спрасіў, чаго я на том сходзі прытарчэў, слухыў пустоя. І сяньня пойдзіш, прытарчы́сься бяс толку, луччы б у дваре што зьдзелыў.*

ПРАТАЎХЫВАННЕ, ПРАТОЎХЫВАННЕ *н.* Дапамога ў прасоўванні па службе. *Троху сьцёва прыта́ўхывыньня пымагло, сам ба ён зыстряў. Біс пратоўхывыньня яны б нікуды ня выбіліся.*

ПРАТОН *м.* Памяць, успамін. *Каторый год німа пра іх пратону, матка нічагенічка ні знаіць.*

ПРАТОР *м.* Іголка без вушка. *Глядзі, якей пратор выляіцца, што каб у нагу каму ўехыў.*

ПРАТРУБІЦЬ *зак. перан.* Прабалбатаць. *Работы дужа німа, дык яны сыбяруцца то ў аднаго, то ў другога, пратрўбюць вечыр.*

ПРАТРУДЗІЦЦА *зак.* 1. Пазаймацца працай. *Підзьдзісят гадоў прутрудзі́ліся, а што яны ймелі за ета.* 2

*перан.* Прамучыцца. *Што прутрудзіўся старік пасьледнія ўремя, дужа мучыўся.*

ПРАТРУНІЦЬ, ПРАТРУНІЦЦА *зак.* 1. Насмяяцца. *Во сыбяруцца кучыю, ныд Антоным пратрýнюць. Пыстыялі, прутруніліся кылы Мікіты ды рызыйшліся.* 2 *перан.* Змарнаваць час. *Столька ўремя прутрунíць, ды такога дырагога ўремя, зылаіць вас нада. Ды абеда прутрунíліся кучыю кылы Стыхвана, нічога ня зьдзелылі.* ПРАТРУНЁМШЫ *дзеепрысл.* Змарнаваўшы час. *Прутрунёмшы пуўдня, вы й абеда ні зуслужылі.*

ПРАТРУСІЦЦА *зак. перан.* Прагаладацца ў руху. *Ніхай дзеці пабегыюць, пратрýсюцца, тады хуць пыд'ядуць ахатней.*

ПРАТРЭНДАЦЬ, ПРАТРЭНДАЦЦА *зак. экспр.* Пабадзяцца. *Ну скажы сам, што ты зьдзелыў, пратрэндыў дзень біз усякыга толку. У лес пашлі, тут пыцігаліся,— пратрэндыліся, уремя попусту пыцірялі.*

ПРАТУРАННЕ, ПРАТУРЫВАННЕ *н.* Праганянне з рашучасцю. *Ніхай падумыіць, што прутуря́ньня ны яго сымаго можыць пайціць. Ён і посьлі пратýрівыньня ні пысьцісьняіцца пріціць,— бясстыжый чылавек.*

ПРАТУРАННІК, ПРАТУРЫВАННІК *м.* Той, хто рашуча праганяе. *Вот рызыйшоўся прутуря́ньнік, ты луччы нявестку прутуряй. Ніхто етых пратýрівыньнікыў ні спужайся і ні спужаіцца.* ПРАТУРАННІЦА, ПРАТУРЫВАННІЦА *ж. Сядзела б твыя прутуря́ньніца цішэй ціхыга лета. Ніхай глядзіць пратýрівыньніца, каб самой ні зыдрынчэць аттуля.*

ПРАТУРАЦЬ, ПРАТУРЫВАЦЬ *незак.* Праганяць рашуча. *Што, калі ты яго прутуря́іш, айдзе ён дзеніцца. Яго ні пратýрівыць нада, а выстрыміць як сыбаку.* ПРАТУРАЦЦА, ПРАТУРЫВАЦЦА *незак.* Праганяцца. *Трудна там іс скатом прутуря́цца. Сколька разоў ён пратýрівыўся.* ПРАТУРЫЦЬ *зак. перан.* Прачытаць шпарка, без разумення. *Яму некылі чытаць, прутурíў за дзесіць мінут і ні знаіць пра што.* ПРАТУРАНЫЙ *дзеепрым.* Паганяны. *Прутуря́ный скот галодзін, яны ні дывалі каровым гылавы сагнуць, усё турялі.* ПРАТУРОМШЫ *дзеепрысл.* Прагнаўшы. *Зь ім ня мёд і прутурёмшы ня ўскресьніць.*

ПРАТУХЛЕЦЬ *зак.* Прасмярдзець. *Ні прібіраіць нічога, дык і хата прутухлела, што ні зайціць.* ПРАТУХЛІЦЬ *зак.* Зрабіць смярдзючым. *Прутухліла мыкрацьцём сенцы, ны прясьлі ж можна було разьвесіць.* ПРА-

ТУХЛЕЛЫЙ *дзеепрым. Якея-то прутухлелыя пасьцілкі ліжаць у вугле.*

ПРАТУШАННЕ, ПРАТУШЫВАННЕ *н.* Давядзенне да пратухласці. *Ні дупускай прутушáньня ў хаці, глядзі, каб чысьцінька було. Ну як ета дывадзіць ды пратýшывыньня, ці ў вас галоў німа, ці што.*

ПРАЎДЗІВЫЙ *прым. метаф.* Старанны, сумленны. *У Пайла харошыя была жарёбка, быйстрыя, праўдзівыя, ён на ёй ня езьдзіў, а літаў.*

ПРАЎЛЕННЕ *н.* Папраўленне, рамонт. *Ніякыя прáўліньня етым сыням ні паможыць, іх асталыся на дровы пасеч.*

ПРАХАДЗІЦЬ *незак. перан.* Абыходзіць пры доглядзе, уборцы. *Ты прыхадзі быразну ат краю, а я пысярёд бульбу выбіру.* ПРАЙЦІЦЬ *зак.* Абысці. *Усе гуркі прайшоў, зь дзісятык выбрыў ны дарогу.* ПРОЙДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пройдзены. *Айдзе мы толька ні пубувалі, як успомніш, сколька пройджына.* 2. Папраўлены. *Лі мяжы грядкі пройджыны, асталіся толька ат кынайкі.* 3. Вывучаны. *Ужо ўсе прідметы пройджыны, пухтыряім.* ПРАЙШОЧЧЫ *дзеепрысл.* Прайшоўшы, абышоўшы. *Што ж ты хваціўся, калі ўремя прайшоччы. Ня хочучы заморісься, столька прайшоччы за дзень.*

ПРАХАРЧЫЦЬ *зак.* Пакарміць пэўны час. *Дзьве нядзелі плотнікыў прыхарчыла, пакуля стынавілі хату.* ПРАХАРЧОМШЫ *дзеепрысл. Прыхарчомшы адну ласку выслужыш, а ні прыхарчомшы — другую.*

ПРАХІНДЗЕЙ *м.* Прайдоха. *Такей прыхіньдзей, што зь ім ня дужа толку найдзіш. Памянш.* ПРАХІНДЗЕЙЧЫК. *Пыдрасьцецъ — будзіць прыхіньдзейчык, як тата. Узмацн.* ПРАХІНДЗЕІНА. *Зьмітрок быў прыхіньдзеіна, ты мала яго знаў. Павеліч.* ПРАХІНДЗЕІШЧА. *Такога прыхіньдзеішчу пушукаць толька ды пушукаць.* ПРАХІНДЗЕЙКА *ж. С прыхіньдзейкыю зьвяжыся, дык дураком астанісься на векі вешныя. Памянш.* ПРАХІНДЗЕІЧКА. *Вырысьціць прыхіньдзеічка атпетыя, на ёй вока гаріць.*

ПРАХЛЕХАТАЦЬ *зак. перан.* Пазлавацца. *Прыхліхытáў двоя судык, пакуля Анікын ні паехыў нызад.*

ПРАХЛЫН *м. эмац.* Вольны час. *Айдзе табе ў дзярэйні прахлы́н будзіць, тута і скот, і топліва, і пылявэя работы.*

ПРАХОД *м.* Адлегласць, якую трэба прайсці. *Далёка весьць, пырядышный праход, туды так-сяк, а аттуля чуць прівылакуся.*

ПРАХОХЛІЦЬ *зак. экспр.* Прапесціць. *Ты трі гады унукый прахохліла, ніхай цяперя яны цябе глідзяць.* ПРАХОХЛІЦЦА *зак.* Прапесціцца. *Нечыга скызаць, прахохліўся лета ў бабы.*

ПРАХУКЫВАННЕ *н.* Адтайванне дыханнем замерзлага шкла ў акне. *Ты астыражней с прахўкывыньнім, балонкі ня высыдзі, ато будзіць тады.*

ПРАХУРКАЦЬ *зак.* Пабурчаць. *Пуўдня з-зы ірунды прахўркый, якей ён пастылый стаў зы пасьледнія ўремя.*

ПРАЦАЛЮБ *м.* Працалюбівы чалавек. *Ні рыскызаць, якей прыцалюб быў Хведзька, пы гіктару ну лугу скошывый.* ПРАЦАЛЮБКА *ж. Сьвірідыва нявестка тыкая была прыцалюбка, калі іна спала, калі ліжала.*

ПРАЦЕРПЛІВАЦЬ *незак.* Цярпець пэўны час. *А ці Ріпіна у сваёй жызьні мала працерьплівыла, сколька чаго пірінісла.* ПРАЦЕРПЕЦЦА *зак.* 1. Перацярпець. *Дайжа паверіць трудна, сколька яны тоя ўремя працерьпіліся.* 2 *перан.* Пратрымацца. *Большы месіца працерьпіліся.*

ПРАЦЕРЦЬ *зак. перан.* 1. Пратрымаць. *Сянішнія пустухі абычайныя: пратрўць кароў ну бублах і прігонюць галодных.* 2. Змарнаваць. *Дзень працёрлі, ета ж сколька можна було хвырастку пацьсеч.* ПРАЦЕРЦЦА *зак.* Прабыць. *Па-мойму, яны ў Крічыві ета ўремя працёрліся.* ПРАЦЁРТЫЙ *дзеепрым.* Змарнаваны. *Такоя дырагоя ўремя працёрта!*

ПРАЦІНЦІЦЬ, ПРАЦІНЦІЦЦА *зак.* Прабалакаць. *Сыбраліся, кажыцца, нямнога ўремя прайшло, а вечыр праціньцілі. Яны і сяньня праціньцюцца, як учора, дзень жа прі дні нічога ня дзелыюць.*

ПРАЦУРГЫВАННЕ *н.* Транжыранне. *Працўргывыньня ды дыбра ні дывядзець, скарей да торбы.*

ПРАЦЯЖНЭЙ, ПРАЦЯЖНЫЙ *прым.* Працяглы. *Прыцяжнэя дажджы як зыкладуць, дык і нажнеш, і накосіш. Тэй год бальшэя зыдачы зь вясны ні було, і сёліта прыціжная.*

ПРАЧАБУРДЭХАЦЬ, ПРАЧАБУРДЭХАЦЦА *зак.* Правесці пэўны час бултыхаючыся. *Большы часу пручубурдэхылі етыя купаньнікі. Ня столька ныгрябуць, сколька ў Вяхре пручубурдэхыюцца, ты за імі пыглідай.*

ПРАЧАЕЎНІЧАЦЬ *зак.* Правесці час за чаем. *Во прычаёўнічылі, часы трі, калі ня большы, скора посьлі беда селі і да вечыра.*

ПРАЧАПАЦЬ *зак.* 1. Прайсці з цяжкасцю. *Кузьма дужа-дужа слаб, чуць прычапый па сенцых.* 2 *перан.*

Пражыць у стане аслабеласці. *Куліна саўсім слабыя, можа ету восінь прычáпыіць, а большы іна ні жылец.* ПРАЧАПАЦЦА *зак.* Пражыць у стане аслабеласці. *Ну, кылі зіму прычапыўся, дык цяперя дзяржыся.*

ПРАЧАРНЕЦЬ *зак. метаф.* Прагараваць. *Жысьць яе была дужа цяжолыя, гадочык прычарнела, ні мыгла пірянесьць горя.*

ПРАЧАЎРЫВАННЕ *н.* Прасыханне злёгку. *Якоя прычáўрівыньня будзіць, кылі ні днаго дня біз дыжджа ні апходзіцца.*

ПРАЧАЎРЫВАЦЬ, ПРАЧАЎРЫВАЦЦА *незак.* Прасыхаць злёгку. *Ціплыта ударіла, дык зімля віда-віда прычáўрівыіць. Усё тряп'ё я рызыслала на погрібі, ніхай прычáўрівыіцца.*

ПРАЧАХЛЫЙ *дзеепрым.* 1. Прасохлы. *Прычáхлыя тряпкі сыбярі ды паткінь пыт паветку, каб узноў ні нымяклі.* 2. Астуджаны, ачахлы. *Мы стынавілі пяньку у прычáхлыю лазьню.*

ПРАЧХАЦЬ *зак. метаф.* Працверазець. *Прычхáіць — тады узноў глядзіць, каб хто бутылку на стол пыставіў.*

ПРАЧЭГАЦЬ *зак.* Прабегаць. *Нічагенічка у дваре ня хочыць зьдзелыць, прачэгыіць дзень туды-ызад і ўсё.*

ПРАШАБУЛДЭХАЦЬ, ПРАШАБУЛДЭХАЦЦА *зак.* Правесці пэўны час бултыхаючыся. *Ладна вы прушубулдэхылі, мушчыны даўно пывязьлі вазы. Хочыш, прушубулдэхыюцца, а тады спаць зывалюцца, во ікая кызьба будзіць.*

ПРАШМЫЛЬГАЦЬ *зак. эмац.* Растраціць. *За месіц прышмыльгáлі кароўку,— во табе і пацьцёлычык, і бычок.*

ПРАШТРАПЛЕНЫЙ, ПРАШТРОПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Пратэрмінаваны. *У яго бальшэй доўг і прыштрáплiный, ніізьвесна, калі рышичытаіцца. Не, мы ні знаім, ці ў іх праштропліна, ці не.*

ПРАШЧУПЫВАННЕ *н. перан.* Выведванне. *Нічога ні палучыцца зь іхныга прашчýпывыньня, Нувумёнык абвядзець іх кругом пальца.*

ПРАШЧУР *м.* Прапрадзед. *У нас во як гываpілі: дзед, прáдзід, прáшчур. Прáшчур — ета прадзідыў бацька.*

ПРАШЧУРАЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да прапрадзеда. *Я прáшчурыву хатку трошку помню: у ёй с-пыд выкна сьціна выкыцілыся.*

ПРАШЧЭНЕЦ *м.* Той, каму даравана. *Як чылавека*

*памілыюць, тады яго завуць пращчэніц.* ПРАШЧЭНКА *ж. Яе дачку хацелі судзіць, а куды дзяцей дзівацъ, дык ні пысадзілі, паетыму іна прашчэнка.*

ПРАШЫБ, ПРОШЫБ *м.* Пралік. *Ты глядзі, хуць яшчэ прашыбу ні дупускай. Ета быў прошыб, ну большы ў мяне такога ні палучыцца.*

ПРАШЫБЦЦА, ПРАШЫБНУЦЦА *зак.* Пралічыцца. *Ён то глядзеў, каб ні прашыбцца, ды яно ж ні ўсігда пулучаіцца, як хочыш. У таком дзелі нілізя прышыбнуцца, біс хаты можыш астацца.*

ПРАШЫНАННЕ *н.* Прабуджэнне. *Яго такоя прышынаньня: растуркый — устаю; атыйшоў — узноў сьпіць.*

ПРОВАД *м.* Праводзіны. *Дужа жалысный быў провыд: ці лёхка хыраніць мушчыну у тріццыць гадоў.*

ПРОРВІШЧА *ж. метаф.* Вялікая колькасць. *У іх кажный год прорьвішча дроў, ну яны тыкі і палюць пудурёныму.*

Даведачнае выданне

**Юрчанка Георгій Фёдаравіч**

**СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА:**

**З ГАВОРКІ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ Н — П**

Рэдактар *Н. А. Дашкевіч.* Мастак *С. А. Гарнакоў.* Мастацкі рэдактар *Л. М. Гоманаў.* Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен.* Карэктар *З. Я. Губашына.*

Здадзена ў набор 22.01.96. Падпісана ў друк 14.08.96. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 15,96. Ум. фарб. адб. 15.96. Ул.-выд. арк. 17,10. Тыраж 400 экз. Зак. 688.

Выдавецтва «Беларуская навука» Акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 1294.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.